# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 23 Сшыткі 1–2 (44–45) Снежань 2016

## ЗМЕСТ

### Артыкулы



### Палеміка



### Архівалії



### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

# Унійныя тэндэнцыі ў праваслаўнай царкве ВКЛ у канцы XV – пачатку XVI ст.

**Анджэй Гіль**

Этнічна-канфесійная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім да другой паловы XVI ст. характарызавалася своеасаблівай раўнавагай сіл паміж насельніцтвам балцкага паходжання, якое ў асноўным захоўвала традыцыйныя, дахрысціянскія вераванні, і праваслаўнымі русінамі, якія – па меры пашырэння межаў дзяржавы на ўсход – пачыналі складаць пераважную большасць яе насельніцтва. Працэс адаптацыі славянскага насельніцтва княства да новай грамадска-палітычнай сітуацыі не выклікаў з яго боку нейкага сур'ёзнага супраціўлення. Гэта і не дзіўна, бо кіраўнічая літоўская эліта, хоць фармальна і язычніцкая, не толькі не навязвала сваім усходнеславянскім падданым уласнай рэлігіі, але нярэдка наадварот прымала праваслаўе разам з новай культурнай, а часам і этнічнай ідэнтычнасцю. З канфесійнага пункту гледжання ўсё гэта вяло да безумоўнага дамінавання ў ВКЛ праваслаўя, хоць на заходніх рубяжах княства адзначаўся і ўплыў каталіцызму, які прыходзіў сюды як з прыбалтыйскіх германскіх дзяржаў, так і з Польшчы ды Мазовіі[1].

[1] Abraham W. Polska a chrzest Litwy // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa – Lublin – Łódź – Kraków, 1914. S. 3–18; Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года / пер. Г. И. Ефремова. Москва, 2005. С. 190–192; Baronas D. Christians in Late Pagan, and Pagans in Early Christians Lithuania: the Fourteenth and Fifteenth Centuries // Lithuanian Historical Studies. 2014. № 19. P. 51–65; Krawcewicz A. Stosunki religijne w Wielkim Księstwie Litewskim w XIII wieku i początkach XIV stulecia //

Такое досыць мірнае суіснаванне розных рэлігій у дзяржаве Гедымінавічаў было парушана пасля прыняцця хрышчэння ў лацінскім абрадзе (1387 г.; Жамойць пасля 1413 г.) і пачатку каталіцкай хрысціянізацыі яго да нядаўняга часу яшчэ язычніцкага (этнічна балцкага) палітычнага цэнтра. Гэтая падзея фармальна паставіла літоўскае праваслаўе ў неспрыяльнае становішча[2]. Крокам да яго афіцыйнага юрыдычнага паніжэння ў статусе былі пастановы Гарадзельскай уніі (1413). Згодна з імі паўната палітычнай улады ад той пары належала прадстаўнікам дзяржаўнай эліты каталіцкага веравызнання, а яе ўсходнеславянскія (пераважна праваслаўныя) прадстаўнікі адсоўваліся на перыферыю грамадска-палітычнага жыцця[3]. Фармальна яны больш не маглі займаць дзяржаўныя пасады вялікакняскага і земскага ўзроўню, а таксама быць членамі Рады ВКЛ. Праўда, складанасць палітычнага становішча ВКЛ нівелявала многія абмежаванні, і праваслаўныя русіны прысутнічалі – і нярэдка досыць прадстаўніча – сярод яго найвышэйшай эліты[4].

Істотную ролю ў працэсе фактычнай эмансіпацыі ўсходнеславянскага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім

Między Rusią a Polską. Litwa. Od Wielkiego Księstwa Litewskiego do Republiki Litewskiej / red. J. Grzybowski, J. Kozłowska. Warszawa, 2014. S. 41–48; ён жа. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага 1248–1377 г. Кн. 2: Дуумвірат Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў (1341–1377 г.). Гародня – Уроцлаў, 2015. С. 278–282.

[2] Śliwa T., ks. Kościół prawosławny w państwie litewskim w XIII–XIV wieku // Chrzest Litwy. Geneza, przebieg, konsekwencje / red. ks. M. T. Zahajkiewicz. Lublin, 1990. S. 15–32.

[3] Akta unii Polski z Litwą / wyd. S. Kutrzeba, W. Semkowicz. Kraków, 1932. № 51. S. 61–72. Гл. таксама: Любавский М. К вопросу об ограничении политическихъ прав православных князей, панов и шляхты в великом княжестве Литовском до Люблинской унии // Сборник статей, посвященных Василию Осиповичу Ключевскому. Москва, 1909. С. 1–17; Łowmiański H. Polityka Jagiellonów / do druku przygotował K. Pietkiewicz. Poznań, 2006. S. 79–80; Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich. T. 2: Od Krewa do Lublina. Poznań, 2007. S. 393.

[4] Korczak L. Litewska Rada Wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998. S. 49–50; яна ж. Monarcha i poddani. System władzy w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie wczesnojagiellońskim. Kraków, 2008. S. 57–102.

выканаў у 1430-я гады князь Свідрыгайла Альгердавіч. Яго барацьба за велікакняскі трон і канкурэнцыя з Жыгімонтам Кейстутавічам, у час якой ён згуртаваў вакол сябе значныя палітычныя сілы, што складаліся ў вялікай ступені з праваслаўных, прывяла ў выніку да зацвярджэння досыць ліберальнай мадэлі прысутнасці ўсходнеславянскага элемента ў грамадска-палітычнай структуры Вялікага Княства Літоўскага і заклала асновы для пазнейшых досыць карэктных узаемаадносінаў праваслаўных з каталікамі[5].

У самой праваслаўнай царкве на тэрыторыі дзяржавы Ягелонаў адбываўся працэс адаптацыі да новых грамадска-палітычных умоў, якія характарызаваліся не толькі зменамі ў самім Вялікім Княстве Літоўскім, але і ростам уплыву ва Усходняй Еўропе Вялікага Княства Маскоўскага. Абмежаванні, няхай сабе і палавіністыя, не маглі не падрываць унутранай прыхільнасці праваслаўных русінаў ВКЛ да дзяржавы, у якой яны займалі такое значнае месца. Яны бачылі, як хутка расла палітычная і рэлігійная вага Масквы – апірышча праваслаўя і рэзідэнцыі мітрапаліта. Палітыка маскоўскіх князёў была накіравана на пашырэнне свайго ўплыву ўсюды, дзе магчыма, прычым пры дапамозе ўсіх даступных сродкаў. Гэта прынесла свой плён у другой палове XV ст., калі былі падпарадкаваны ўсе (апрача ягелонаўскай манархіі) незалежныя цэнтры ўлады на Русі – у прыватнасці, Пскоў, Вялікі Ноўгарад і Цвер. Дзяржава маскоўскіх Рурыкавічаў пры Іване III дасягнула апагею свайго развіцця, а адзіным яе канкурэнтам за панаванне над усёй Руссю заставалася Вялікае Княства Літоўскае[6].

[5] Lewicki A. Powstanie Świdrygiełły. Ustęp z dziejów unii Litwy z Koroną. Kraków, 1892. S. 78–80; Czermak W. Sprawa równouprawnienia schizmatyków i katolików na Litwie (1432–1563). Kraków, 1903. S. 27–48; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 413–424; Воронин В. А. К проблеме взаимоотношений православных и католиков в Великом княжестве Литовском в конце XIV – середине XVI в. // Историческій вестникъ. Т. 7 [154]: Литва, Русь и Польша XIII–XVI вв. Москва, 2014. С. 136–158.

[6] Черепнин Л. В. Образование русского централизованного государства в XIV–XV веках. Москва, 1960. С. 813–896.

Масква ў канцы XV – пачатку XVI ст. пачала аказваць на русінаў ВКЛ моцны ціск, у якім вызначальную ролю выконваў канфесійны фактар. З аднаго боку, рэлігійная прапаганда, а з другога – шэраг палітычных і ваенных крокаў паставілі праваслаўнае насельніцтва Вялікага Княства перад сапраўдным выпрабаваннем на лаяльнасць у дачыненні да манарха, які сядзеў у Вільні, і сістэмы, якую ён увасабляў. Згодніцкая палітыка Казіміра Ягелончыка не толькі паклала канец існаванню залежных ад ВКЛ дзяржаўных утварэнняў, але і падштурхнула многіх пагранічных князёў – пераважна спадкаемцаў чарнігаўскіх Рурыкавічаў – выбраць бок Масквы. Падставай для змены заступніка і пераходу пад крыло старой дынастыі, што сядзела на крамлёўскім троне, сталі ваенныя паразы, зведаныя ў той перыяд Вялікім Княствам Літоўскім, якія прывялі да страты ім вялікіх тэрыторый на ўсходзе, у тым ліку Бранска, Ноўгарада-Северскага, Пуціўля і Смаленска[7].

Паслядоўная палітыка Івана III прынесла падужэлай Маскоўскай дзяржаве не толькі шэраг ваенных і палітычных перамог практычна па ўсёй яе перыферыі, але і прызнанне еўрапейскіх двароў. Шлюб маскоўскага манарха з візантыйскай царэўнай Соф'яй Палеалог прымусіў папу Сікста IV лічыцца з ім не толькі ў стараннях дабіцца уніі праваслаўнай царквы з Рымам, але і ў спробах

[7] Хорошкевич А. Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV – начала XVI в. Москва, 1980. С. 78–131; Алексеев Ю. Г. Походы русских войск при Иване III. С.-Петербург, 2009. С. 317–334; Кром М. М. Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV – первой трети XVI в. Москва, 2010. С. 43–153; Шеков А. В. Верховские княжества. Середина XIII – середина XVI в. Москва, 2012 (асабліва раздзел другі: "Общий очерк истории Верховских княжеств"); Темушев В. Н. Первая Московско-литовская война 1486–1494. Москва, 2013. С. 96–220; Русина Е. К проблеме "обустройства" Руси в треугольнике Литва – Москва – Орда // Трэці міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі. Працоўныя матэрыялы. Т. 3. Каўнас, 2014. С. 199–201.

утварэння шырокай антыасманскай кааліцыі[8]. Дзякуючы прадуманым палітычным крокам Іван III не толькі нівеляваў намаганні папы пашырыць уплыў каталіцызму ў Вялікім Княстве Маскоўскім, але і здолеў захаваць добрыя ўзаемаадносіны з Асманскай імперыяй, у тым ліку з яе васалам Крымскім ханствам.

Прэтэнзіі Івана III, роўна як і яго наступніка Васіля III, пашыраліся і на Кіеў – "маці гарадоў рускіх". Гэты горад, колішняя сталіца Русі, у другой палове XV ст. зрабіўся цэнтрам антыягелонаўскай апазіцыі, якая мела ў тым ліку і рэлігійную падаплёку. Пераносу рэзідэнцыі кіеўскага мітрапаліта ў Навагрудак і Вільню, абумоўленаму палітычнымі планамі літоўскіх князёў пачынаючы з Альгерда, спадарожнічала страта колішнім цэнтрам мітраполіі сваёй сакральнай ролі. Падпарадкаванне царквы меркаванням палітычнай мэтазгоднасці, выкарыстанне яе ў якасці зручнага інструмента для рэалізацыі ўсходняй палітыкі літоўскіх князёў пазбаўлялі Кіеў сакральнага німба і рабілі з яго проста адзін з многіх пунктаў на карце Русі, за якія вялася барацьба паміж Вільняй і Масквой.

Вось чаму спроба адрадзіць рэлігійнае значэнне Кіева як фактычнай сталіцы мітраполіі – рэзідэнцыі кіраўніка рускай царквы – павінна была разглядацца не толькі ў катэгорыях рэалізацыі пэўнай высокай ідэі, але і як палітычны фактар, за якім стаяла жаданне праваслаўнай эліты Вялікага Княства дабіцца вырашэння чыста "зямных" праблем – адрадзіць саюз паміж дзяржавай і царквой. Кіеўскае княства на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў было своеасаблівым анклавам унутры літоўскай дзяржавы, у межах якога праваслаўе яўна дамінавала над мінімальным

[8] Бычкова М. Е. Формирование русской государственной идеи в XVI–XVII веках // Государственность, дипломатия, культура в Центральной и Восточной Европе XI–XVIII веков / ред. Т. М. Исламов, Н. М. Рогожин, О. В. Хаванова. Москва, 2005 [= "Центрально-европейские исследования". Вып. 3]. С. 59–61; Chojnicka K. Narodziny rosyjskiej doktryny państwowej. Zoe Paleolog – między Bizancjum, Rzymem a Moskwą. Kraków, 2008. S. 107–155; Bojko K. Stosunki dyplomatyczne Moskwy z Europą w czasach Iwana III. Kraków, 2010. S. 37–60.

тут каталіцызмам і выконвала ролю паноўнай канфесіі. Кіравалі ім нашчадкі Гедыміна па лініі Уладзіміра Альгердавіча – Алелька і яго сын Сямён (Сімяон)[9].

Старажытная сталіца Русі, другі Ерусалім, значна занялала пасля татарскіх набегаў, перажытых у XIII ст. Пра слаўную мінуўшчыну горада нагадвала толькі царкоўная традыцыя, увасобленая ў мітрапаліцкай рэзідэнцыі (нават калі мітрапаліт на самай справе ў ёй адсутнічаў). Абодва князі спрабавалі вярнуць Кіеву колішні прэстыж – адраджалі не толькі памяць пра мінулае, але і знішчаныя цэрквы ды манастыры[10]. Удзельнае княства Алелькавічаў зрабілася цэнтрам праваслаўнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, а іх двор разглядаўся многімі як рэальная альтэрнатыва велікакняскай уладзе ў Вільні. Князь Сямён Алелькавіч вёў нават нейкую сваю замежную палітыку – падтрымліваў кантакты з Масквой, Цвер'ю і малдаўскай Сучавай[11].

Пасля смерці Сямёна Алелькавіча ў 1470 г. літоўскі гаспадар вырашыў ператварыць Кіеўскае княства ў ваяводства, кіраванае прысланым з Вільні наместнікам, якім стаў ліцвін і каталік Марцін Гаштольд. Такую рэформу ўспрыняў у штыкі брат памерлага – Міхаіл Алелькавіч, які на той час быў наместнікам у Вялікім Ноўгарадзе, а перад гэтым, магчыма, нейкі час разам з братам кіраваў Кіеўскім княст-

[9] Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań – Wrocław, 1999. S. 86–90; Яковенко Н. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII століття. Волинь і Центральна Україна. Київ, 2008. С. 331; Русина О. Історія київського князівства XIV–XV ст. у світлі нових даних // Україна крізь віки. Збірник наукових праць на пошану академіка НАН України, професора В. Смолія / ред. О. Онищенко. Київ, 2010. С. 199–200.

[10] Перыяд панавання абодвух князёў часам называюць "рэнесансам Алелькавічаў". Гл.: Паславський І. "Олельковицький ренесанс" – малодосліджені сторінки культурного життя Києва XV ст. // Другий Міжнародний конгрес україністів. Львів, 22–28 серпня 1993 р. Доповіді та повідомлення. Філософія. Львів, 1994. С. 69–74. Пра Кіеў і Кіеўскае княства ў часы Алелькавічаў гл.: Ивакин Г. Ю. Киев в XIII–XV веках. Киев, 1982. С. 45–49; ён жа. Історичний розвиток Києва XIII – середини XVI ст. Київ, 1996. С. 94–101.

[11] Bogucka M. Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Kraków, 2009. S. 125–126.

вам[12]. Патрацiўшы амаль дзесяць гадоў на падрыхтоўку, ён разам са сваім стрыечным братам Фёдарам Бельскім, а таксама Іванам Гальшанскім арганізаваў змову, якая павінна была пакласці канец дынастыі Ягелонаў. Змову своечасова выкрылі, а двух змоўшчыкаў (Бельскі ўцёк у Маскву) 30 жніўня 1481 г. пакаралі смерцю[13]. У канцы XV – пачатку XVI ст. колішняе княства паспяхова ўбудавалася ў адміністрацыйную сістэму Вялікага Княства Літоўскага, у сувязі з чым страціла ранейшыя атрыбуты сваёй аўтаноміі[14].

Сам Кіеў неўзабаве пасля гэтага (1 верасня 1482 г.) перажыў разбуральны набег крымскіх татараў на чале з ханам Менглі-Гірэем, які знішчыў дасягненні алелькавіцкай эпохі. Гэты набег быў ажыццёўлены пры падтрымцы вялікага князя маскоўскага Івана III, для якога адраджэнне старажытнай рускай сталіцы несла вялікую пагрозу – нават большую, чым для літоўскага гаспадара. У ардынскі палон трапіў тагачасны кіеўскі ваявода Іван Хадкевіч, а татары разрабавалі, сярод іншага, кіеўскі Сафійскі сабор і Кіева-Пячэрскую лаўру, паз-

12 Русина О. Історія київського князівства. С. 200.

13 Papée F. Polska i Litwa na przełomie wieków średnich. T. 1: Ostatnie dwunastolecie Kazimierza Jagiellończyka. Kraków, 1904. S. 66–82; Уляновський В. Митрополит київський Спиридон. Образ крізь епоху, епоха крізь образэ. Київ, 2004. С. 78–112; Клепатский П. Г. Очерки по истории Киевской Земли. Біла Церква, 2007. С. 78–82.

14 Ващук Д. “Абихмо деръжали ихъ пωдлѣ права ихъ земъли”. Населення Київщини та Волині і великокнязівська влада в XV–XVI ст. Київ, 2009. С. 45–80. Варта, аднак, адзначыць, што як Марцін Гаштольд, які займаў пасаду ваяводы кіеўскага ў 1471–1480 г., так і яго наступнік Іван Хадкевіч (на гэтай пасадзе ў 1480–1482 г.) былі звязаны або шлюбнымі, або сваяцкімі сувязямі з Алелькавічамі і іх папярэднікамі ў Кіеве Гальшанскімі, што выдатна дапамагала ім наладзіць цесныя ўзаемаадносіны з мясцовымі элітамі. Šedvydis L. Dukes of Holshany in Kiev from Early 14th Century to Year 1430 // Князівства галицької і волинської земель в міжнародних відносинах XI–XIV століть. Матеріали II Міжнародної наукової конференції. Івано-Франківськ, 20—22 жовтня 2011 р. / ред. В. Нагірний. Краків, 2012 [= “Colloquia Russica”. Seria I. T. 2]. С. 156–163; Петраускас Р. Между Вильнюсом и Киевом: литовские вельможи во главе киевского воеводства в XV – начале XVI в. // Ukraina Lithuanica: студії з історії Великого князівства Литовського. Т. 2 / ред. М. Котляр та ін. Київ, 2013. С. 50–52.

ней перадаўшы захопленыя царкоўныя каштоўнасці Маскве[15]. Для кампенсацыі страт, нанесеных татарскім нападам, гораду было нададзена (у 1494–1499 г.) магдэбургскае права, але гэта не прывяло да паляпшэння сітуацыі. Кіеў заняпаў надоўга, што адбілася і на яго значэнні як рэлігійнага цэнтра русінаў ВКЛ[16]. Так пацярпела крах другая (пасля паўстання Свідрыгайлы) спроба вярнуць хоць бы частковую гармонію ва ўзаемаадносінах паміж свецкай і царкоўнай уладай на літоўска-польскіх землях колішняй Кіеўскай Русі.

Разам з ліквідацыяй Кіеўскага княства праваслаўе ў манархіі Ягелонаў страціла заступніка, які хоць бы ў нечым захоўваў фармальную незалежнасць ад цэнтральнай дзяржаўнай улады. З гэтага моманту яно магло абапірацца толькі на патэнцыял сваіх вернікаў, але не на заканадаўча замацаваныя прывілеі і палітычную сілу. Пасля таго як давялося адмовіцца ад ідэі вяртання мітрапаліта ў Кіеў (гэта здзейсніў толькі ў канцы XVI ст. – ужо ў зусім іншых гістарычных умовах – Міхаіл Рагоза, кіраўнік Кіеўскай праваслаўнай, а потым і ўніяцкай мітраполіі), вырасла значэнне Вільні як рэлігійнага цэнтра Кіеўскай мітраполіі. У XV–XVI ст. у горадзе працавалі некалькі цэркваў, у тым ліку Успенскі (Прачысценскі) сабор, які насіў статус кафедральнага і меў пры сабе мітрапаліцкую рэзідэнцыю, а крыху пазней і юрыдыку. Другім рэлігійным цэнтрам, які паволі траціў сваё значэнне, быў Наваградак, дзе знаходзіўся кафедральны Барысаглебскі сабор[17].

[15] Наконт матываў нападу хана Менглі-Гірэя на Кіеў у 1482 г. і сапраўдных страт горада ў выніку гэтай атакі ў навуковай літаратуры існуе шэраг рознагалоссяў, якія тлумачацца найперш недахопам дакументальных сведчанняў. Аднак абодва факты – удзел маскоўскага боку ў прыняцці рашэння аб набегу на Кіеў у верасні 1482 г. і яго зруйнаванне ў выніку гэтага нападу – не падлягаюць сумненню, хоць і па-рознаму асвятляюцца. Гл.: Ульяновський В. І. Київський воєвода в Криму: “змова князів” і трагедія Києва 1482 р. // Сугдейский сборник. Вып. 2. Киев – Судак, 2005. С. 357–370; Гулевич В. П. “Київська трагедія” 1482 р.: міфи й факти // Український історичний журнал. 2013. № 5. С. 88–99.

[16] Білоус Н. Київ наприкінці XV – у першій половині XVI століття. Міська влада і самоврядування. Київ, 2008. С. 41–44.

[17] Крачковский Ю. Старая Вильна до конца столетия. Виль-

Пасля падзелу ў 1458 г. Кіеўскай мітраполіі яе польска-літоўская частка фармальна заставалася ў уніі з Рымам, заснаванай на пастановах Фларэнцыйскага сабору 1439 г., а яе кіраўнік, мітрапаліт Грыгорый Балгарын, атрымаў свой духоўны сан згодна з булай папы Пія ІІ. Аднак ідэя уніі, з аднаго боку, не знайшла шырокай падтрымкі сярод праваслаўных вернікаў ВКЛ, а з другога – яе негатыўна ўспрыняло і каталіцкае духавенства дзяржавы Ягелонаў, якое было актыўным удзельнікам тагачаснай барацьбы ўнутры каталіцкай царквы. Унія "грэкаў з рымлянамі" час ад часу ператваралася ў інструмент, якім зыходзячы з кан'юнктуры карысталіся розныя групоўкі і фракцыі як сярод праваслаўных, так і сярод каталікоў. Тым не менш, тэма уніі прысутнічала ў другой палове XV ст. у рэлігійным дыскурсе польска-літоўскай дзяржавы як мінімум на ўзроўні ідэі, і для многіх русінаў яна здавалася прывабным выйсцем, якое дазваляла з эклезіяльнага пункту гледжання аднавіць адзінства ў рамках хрысціянскай супольнасці, а ў культурным сэнсе – дабіцца пэўнай аўтаноміі ў рамках больш шырокай усходнеславянскай супольнасці. Аналагічная сітуацыя, як заўважыў расійскі даследчык Вадзім Лур'е, назіралася, зрэшты, і ў Вялікім Княстве Цвярскім пры князі Барысе Аляксандравічы, калі тамтэйшая царква пайшла на прынянцце палажэнняў Фларэнцыйскай уніі, каб паставіць заслону маскоўскім уплывам[18].

У літоўскай частцы мітраполіі тэндэнцыі да заключэння трывалай уніі з Рымам, якія падтрымліваліся вялікакняскім дваром, рэалізоўваліся поруч з імкненнем да

на, 1893. С. 26–27; Chomik P. Życie monastyczne w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI wieku. Kraków, 2013. S. 139–147.

[18] Лурье В. М. Русское православие между Киевом и Москвой. Очерк истории русской православной традиции между XV и XX веками. Москва, 2009. С. 24–101; Gil A., Skoczylas I. Kościoły wschodnie w państwie polsko-litewskim w procesie przemian i adaptacji: metropolia kijowska w latach 1458–1795. Lublin – Lwów, 2014. S. 83–84; Шевченко І. Відродження руської віри // ён жа. Україна між сходом і заходом. Нариси з історії культури до початку 18 століття / авториз. пер. з англ. М. Габлевич, наук. ред. А. Ясіновський. Львів, 2014. С. 160–161.

ліквідацыі кіеўскага асяродка. Іх вынікам стала палітыка прызначэння на пасаду кіраўніка Кіеўскай мітраполіі асоб, якія пазітыўна ставіліся да ідэі адзінства з каталіцкай царквой. У 1474 г. чарговым мітрапалітам быў абраны епіскап смаленскі Місаіл Пестручэй[19]. Праз два гады ён стаў суаўтарам знакамітага паслання да папы Сікста IV, у якім, апрача традыцыйных (і абгрунтаваных) нараканняў на каталіцкае духавенства, утрымлівалася прызнанне Фларэнцыйскага сабору восьмым усяленскім, а таксама асноўных догматаў каталіцызму, што адназначна сведчыць пра ўнійныя перакананні аўтараў гэтага дакумента. Апрача Місаіла, свае подпісы пад ім паставілі два архімандрыты – кіева-пячэрскі Іаан і віленскі святатроіцкі Макарый, а таксама свецкія ўраднікі, у тым ліку Міхаіл Алелькавіч, Фёдар Бельскі, Дзмітрый Вяземскі, Іван Хадкевіч, а таксама Іван і Аляксандр Солтаны.

Гэтае пасланне, якое да нядаўняга часу было вядома толькі па копіі, апублікаванай у 1605 г. другім уніяцкім мітрапалітам Іпаціем Пацеем[20], і доўга лічылася як мінімум падазроным, калі не цалкам сфальсіфікаваным[21], зрабілася апошнім часам прадметам актыўных даследаванняў дзякуючы адкрыццю дзвюх адносна блізкіх да часу апісаных падзей копій (датаваных першай паловай XVI ст.), якія зберагаліся ў Маскве (у Дзяржаўным гістарычным музеі)

[19] Пра свайго роду "вайну прызначэнняў" у барацьбе за пасаду кіеўскага мітрапаліта пасля паралельнага абрання Місаіла і Спірыдона гл.: Уляновський В. Митрополит. С. 75–78.

[20] Польская версія: [Pociej H.] Poselstwo Do Papieża Rzymskiego Sixta IIII od Duchowieństwa y od Książąt y Panow Ruskich w Roku 1476. Wilno, 1605. Версія на старабеларускай мове была апублікавана Сцяпанам Голубевым на аснове двух захаваных рарытэтных экзэмпляраў: Грамота киевскаго митрополита Мисаила к папе Сиксту IV, 1476 г. // Памятники литературной полемики православных южно-руссцев с латино-униятами (= Архив Юго-Западной России, издаваемый Коммиссиею для разбора древнихъ актов. Ч. 1. Т. 7). Киев, 1887. С. 193–231.

[21] Бучинський Б. "Грамота Місаіла" і "грамота Нїфонта" // Записки історичної і фільольоґічної секції Українського Наукового Товариства в Київі. Кн. XIII. Київ, 1914. С. 5–39.

і Смаленску (у Смаленскім абласным краязнаўчым музеі)[22]. Аўтэнтычнасць паслання цяпер не падлягае ніякім сумненням[23], а сам факт яго напісання і аналіз зместу[24] сведчаць пра тое, што ў асяроддзі праваслаўнай эліты Вялікага Княства Літоўскага – як духавенства, так і свецкіх феадалаў – у 1470-я гады існавалі групоўкі, арыентаваныя (па розных, зрэшты, прычынах) на збліжэнне з Рымам у духу Фларэнцыйскай уніі. Тым самым яны апелявалі да дзейнасці мітрапаліта Ісідора (якая адбывалася тры дзесяцігоддзі таму) і яго

[22] Маскоўскі варыянт: Русина О. Мисаїлове послання Сиксту IV за Синодальним списком // Український археографічний щорічник. Нова серія. Вип. 7. Київ – Нью-Йорк, 2002. С. 291–296. Смаленскі варыянт: Семенченко Г. В. Неопубликованные грамоты сборника СОКМ 9907 // Русский феодальный архив XIV – первой трети XVI века. Ч. 3 / текст подгот. А. И. Плигузовым, Г. В. Семенченко, Л. Ф. Кузьминой, ред. В. И. Буганов. Москва, 1987. С. 626–630; Заторський О. Н. Послання Мисаїла за Смоленським списком // Український археографічний щорічник. Нова серія. Вип. 18. Київ, 2013. С. 410–427.

[23] Lulewicz H. Problem identyfikacji postaci na Rusi litewskiej w drugiej połowie XV wieku // Świat pogranicza / red. M. Nagielski, A. Rachuba, S. Górzyński. Warszawa, 2003. S. 97–115.

[24] Пелешенко Ю. "Посольство київського митрополита Мисаїла до папи Римського Сикста IV" отця Іоана як пам'ятка української та білоруської літератур // Феномен паграніччa: польская, украінская і беларуская літаратура – уплывы і ўзаемаўзбагачэнне / пад рэд. С. Кавалёва і І. Набытовіча. Мінск, 2008. С. 9–32; Русина О. В. Послання папі римському Сиксту IV і проблема інтерреляції літературних пам'яток XV ст. // Український історичний журнал. 2008. № 2. S. 16–34; яна ж. Послание папе Сиксту IV (1476 г.): новые аспекты исследования // Православие Украины и Московской Руси в XV–XVII веках: общее и различное / под ред. М. В. Дмитриева. Москва, 2012. С. 70–81; яна ж. Литературные памятники XV–XVI вв.: наблюдения и заметки // Studia Historica Europae Orientalis / Исследования по истории Восточной Европы: научн. сб. Вып. 7. Мінск, 2014. С. 186–200. Варта дадаць, што пасланне Місаіла не толькі адлюстроўвала традыцыю такога роду пісьменства на старажытнай Русі, але і зрабілася літаратурным узорам, які выкарыстоўваўся ў тым ліку ў культурнай прасторы Маскоўскай Русі. Гл.: Заторський Н. Ревізія московської версії походження "Послання Місаїла" // Наукові записки УКУ. 2015. Ч. 5: Богослов'я. Вип. 2. С. 294–311.

наступніка Грыгорыя Балгарына (пакуль той у 1467 г. зноў не перайшоў пад юрысдыкцыю Канстанцінопаля)[25].

Праўнійная плынь прысутнічала ў літоўскай частцы Кіеўскай мітраполіі і пазней, у канцы XV – пачатку XVI ст. Відаць, акурат праявай гэтых ідэй было заснаванне Супрасльскага манастыра сынам Івана Хадкевіча Аляксандрам[26]. Ідэю уніі падтрымліваў Іван Сямёнавіч Сапега, блізкі паплечнік трох літоўскіх манархаў – Казіміра Ягелончыка, Аляксандра і Жыгімонта I Старога. Па ініцыятыве Сапегі (які сам далучыўся да Фларэнційскай уніі) мітрапалітам у 1497 г. стаў пароднены з ім чарговы смалянчук, раней тамтэйшы епіскап, Іосіф Балгарыновіч. Кантакты віленскага двара з папам Аляксандрам VI ва ўмовах непрыхільнай пазіцыі віленскага біскупа Войцеха Табара і агрэсіўнай маскоўскай палітыкі не прынеслі плёну ў выглядзе фармальнага аднаўлення уніі паміж Кіеўскай мітраполіяй і каталіцкай царквой. У 1501 г. у Рым прыбыла пасольская місія з ВКЛ, у склад якой уваходзіў і Іван Сапега. Але абставіны ўжо змяніліся, і місія скончылася адмовай ад ідэі уніі і пагаршэннем стаўлення да праваслаўных ВКЛ з боку папства. Смерць у тым самым годзе мітрапаліта Іосіфа Балгарыновіча палажыла канец намаганням часткі праваслаўнай эліты Вялікага Княства адрадзіць сваю царкву праз заключэнне саюзу з каталіцкай царквой[27].

[25] Лурье В. М. Русское православие. С. 83. Семянчук А. А. Распаўсюджанне ідэй Фларэнцкай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім ў канцы XV – пачатку XVI ст. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 1 / рэд. С. В. Марозава і інш. Гродна, 2009. С. 158–166.

[26] Гл. процілеглыя меркаванні наконт уніяцкасці / вернасці праваслаўю пры заснаванні Супрасльскага манастыра ў публікацыях апошніх гадоў: Mironowicz A. O początkach monasteru supraskiego i jego fundatorach. Supraśl, 2013; Maroszek J. Monografia miasta i gminy Supraśl. Supraśl, 2013. S. 23–88. Найбольш узважанае меркаванне выкладзена ў працы: Siemaszko A. Pierwsze stulecie historii klasztoru w Supraślu: daty, fakty, interpretacje // Dzieje opactwa supraskiego / red. R. Dobrowolski, M. Zemło. Rzym – Lublin – Mińsk, 2015. S. 43–73.

[27] Halecki O. Od unii florenckiej do unii brzeskiej / przeł. A. Niklewicz OSU. T. 1. Lublin, 1997. S. 137–168; Флоря Б. Н. Попытка осуществления церковной унии в Великом княжестве Литовском

Чарговы мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі Іосіф Солтан распачаў захады, накіраваныя на паляпшэнне яе становішча, абапіраючыся на класічныя праваслаўныя ўзоры. Ён склікаў у 1509 г. у Вільні правінцыйны сабор, на якім былі епіскапы і найвышэйшае праваслаўнае духавенства – усё ж у асноўным з літоўскай часткі мітраполіі. Прысутнічаў увесь тагачасны рускі епіскапат: епіскапы ўладзімірскі і брэсцкі Васіян, смаленскі Варсанофій, луцкі і астрожскі Кірыл, полацкі і віцебскі Яўфімій, тураўскі і пінскі Арсеній, перамышльскі Антоній і холмскі Філарэт, настаяцелі манастыроў з Вільні, Лаўрышава, Мінска, Полацка, Гальшан, Лоска, Смаленска і Слуцка, а таксама пратапопы – віленскі, наваградскі, гродзенскі, слуцкі, маркаўскі, слонімскі і ваўкавыскі. На саборы ў першую чаргу гучала пытанне пра паляпшэнне маральнага стану духавенства, канстатавалася неабходнасць выключыць злоўжыванні пры наборы новых святароў, навесці дысцыпліну сярод епархіяльнага духавенства і манаства, а таксама спыніць негатыўную практыку, звязаную з залішнім выкарыстаннем права падавання[28].

* * *

Намаганні мітрапаліта Іосіфа Солтана не прынеслі істотных зменаў у становішча праваслаўнай царквы ВКЛ. І хоць на працягу XVI ст. адбывалася дынамічнае развіццё яе структур, адначасова яна зведала глыбокі крызіс эклезіяльнай ідэнтычнасці, што, у сваю чаргу, прывяло да

в последней четверти XV – начале XVI века // Славяне и их соседи. Вып. 7: Межконфессиональные связи в странах Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV–XVII веках / под ред. Г. Г. Литаврина. Москва, 1999. С. 40–81; Лурье В. М. Русское православие. С. 95–99; Černius R. Unia kościelna // Dzieje chrześcijaństwa na Litwie / red. V. Ališauskas, przeł. K. Korzeniewska. Warszawa, 2014. S. 111–114; Baronas D., Rowell S. C. The Conversion of Lithuania. From Pagan Barbarians to Late Medieval Christians. Vilnius, 2015. P. 388–392.

[28] Собор в Богоспасаемом граде Вильни бывший // Русская историческая библиотека, издаваемая Археографическою комиссиею. Ч. 4. Кн. 1: Памятники полемической литературы в Западной Руси. С.-Петербург, 1878. С. 5–18.

адтоку часткі вернікаў. Як пратэстанцкая Рэфармацыя, ідэі якой досыць хутка здабылі папулярнасць сярод шляхты ВКЛ, у тым ліку рускай, так і пазнейшая рэформа каталіцызму, заснаваная на рашэннях Трыдэнцкага сабору, змянілі канфесійны ландшафт Вялікага Княства, пры гэтым наймацней ударыўшы па праваслаўі. У гэтых умовах праваслаўныя колы, якія разумелі ўсю складанасць сваёй сітуацыі, вырашылі заключыць новую унію з Рымам, апелююючы, натуральна, да ідэй і традыцый Фларэнційскай уніі. Але абставіны – як унутраныя, так і знешнія – паспелі змяніцца. Люблінская унія 1569 г. адцяла ад ВКЛ значную частку рускіх земляў на чале з Кіевам. Адзіным магутным рэлігійным цэнтрам засталася ў ім Вільня, дзе актыўна развіваўся манастырскі і брацкі рух. Цяжка было чакаць дапамогі ад канстанцінопальскай Маці-Царквы, якая сама ледзь выжывала ў поўнай залежнасці ад асманскага султанату. Пагрозай зрабілася маскоўская царква, што ў 1589 г. набыла статус патрыярхату і цалкам падтрымлівала палітычныя намеры спачатку цара Івана IV, а потым Барыса Гадунова. Таму невыпадкова праўнійныя памкненні ў 1580-я гады зыходзілі якраз ад той часткі рускай эліты, якая захоўвала найбольш трывалую сувязь з традыцыяй і спадчынай велікакняскай Русі, а унія пасля 1596 г. найбольш паспяхова развівалася ў літоўскай частцы Кіеўскай мітраполіі[29]. Для русінаў Вялікага Княства Літоўскага спробы заключыць унію, якая больш ці менш трывала звязала б іх царкву з Рымам, мелі не толькі канфесійнае абгрунтаванне. Тым самым яны, поруч з каталікамі лацінскага абраду і пратэстантамі, далучаліся да еўрапейскага Захаду, каб напоўніцу карыстацца яго інтэлектуальным патэнцыялам. Гэта прынесла плён у выглядзе самабытнай уніяцкай культуры, у якой гарманічна спалучыліся руска-візантыйскія і заходнія традыцыі. Прыклады такой культуры і сёння можна сустрэць шмат у якіх мясцінах Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны.

[29] Gil A., Skoczylas I. Kościoły wschodnie. S. 137–141.

# The Union Tendency in the Orthodox Church of the Grand Duchy of Lithuania During the Late 15th and Early 16th Centuries

**Andrzej Gil**

The Ruthenian lands of the Grand Duchy of Lithuania in the 15th century have been subjected to a process of external impact with a few sides and in several dimensions. The religion of Lithuanian Rus' was a good subsoil to intensify contacts with the nascent Orthodox superpower – the Grand Duchy of Moscow. In turn, the economic and political realities opened it to the influence of the German state organisms in the Baltic and Polish Crown. It is not surprising, therefore, that in the complex religious situation, related to the distribution of previously unified Orthodox Metropolis of Kiev in two parts – Moscow and the Polish-Lithuanian – the Ruthenian part of the orthodox elite decided to seeking support in the Catholic Rome.

The Ruthenian elite initiated a letter to Pope Sixtus IV which was sent on behalf of the nominee for the office of Metropolitan of Kiev, Smolensk bishop Mizael. They acknowleged the council Florentine as the eighth ecumenical council and the basic truths of the Latin Church. Besides Mizael two archimandrites – Joann from Kiev Pechersk Lavra and Macarius from Vilna Holy Trinity monastery, and dignitaries, among them Michael Olelkowicz, Fiodor Bielski, Dmitri Wiaziemski, Ivan Chodkiewicz and Ivan and Alexander Soltans added their signature to the document.

According to the latest research there is no doubt about the authenticity of the letter. This document is not only an evidence of the the tendency of Orthodox Church in the Grand Duchy of Lithuania to union with the Latin Church at the turn of the 15th and 16th centuries. In clearly distinguished the Ruthenian elites, opened to the religious and cultural dialogue with the West, from the elites of Moscow which insisted on self-isolation.

# Прэса і публічная сфера ў заходнебеларускай вёсцы ў 1920–30-я гады

**Аляксандр Пагарэлы**

Падтрыманне працэсаў камунікацыі і фармавання грамадскай думкі ў кантэксце развіцця палітычнай культуры і распаўсюджання нацыянальных ідэнтычнасцяў патрабуе генеравання і пошуку аптымальнай для гэтага грамадскай прасторы. Магчымасці для выкарыстання такой прасторы могуць быць абумоўлены як палітычнымі, так і сацыякультурнымі чыннікамі. Цягам апошняга паўстагоддзя грамадскую камунікацыйную прастору апісвалі з дапамогай канцэпцыі *публічнай сферы*. Што ж такое публічная сфера? Паводле аўтара гэтага тэрміна і канцэпцыі Юргена Габермаса, "публічная сфера – гэта галіна грамадскага жыцця, у якой можа быць сфармавана нешта, блізкае да грамадскай думкі"[1]. Пры гэтым доступ гарантуецца ўсім грамадзянам. Элемент публічнай сферы ўзнікае пры любым абмене думкамі, у час размоў паміж грамадзянамі, якія ўтвараюць які-небудзь грамадскі орган.

Для Габермаса было важным паказаць, што публічная сфера нарадзілася як свайго роду інструмент палітычнай самаактуалізацыі ліберальнай германскай буржуазіі. У гэтым сэнсе нефармальныя салоны і чытальні ў неліберальным палітычным рэжыме нямецкіх дзяржаў канца XVIII – 1-й паловы XIX ст., якія апісвалі Р. Козелек і Ю. Габермас, стваралі прастору для ўзнікнення грамадзянскіх пазіцый

[1] Habermas J., Lennox S., Lennox F. The Public Sphere: An Encyclopedia Article (1964) // New German Critique. N 3 (Autumn 1974). P. 49–55, тут P. 49.

і меркаванняў, былі першым крокам для фармавання палітычнай культуры сярэдніх класаў. Гісторыкі сталі актыўна выкарыстоўваць канцэпцыю даволі позна, толькі на рубяжы 1980–90-х г.[2], хоць і запачаткавалася яна ў 1959–1962 г. з публікацыяй кніг Райнгарта Козелека "Крытыка і крызіс: асветніцтва і патагенезіс сучаснага грамадства" і Ю. Габермаса "Структурная трансфармацыя публічнай сферы. Даследаванне катэгорыі буржуазнага грамадства"[3].

Тут мы не будзем засяроджвацца на характары і асаблівасцях гэтых даследаванняў. Гаральд Мах, які зрабіў агляд значнай часткі гістарычнай літаратуры па публічнай сферы, закідаў ёй менавіта *прасторавае*[4] разуменне тэрміна "публічная сфера". Гэта, на яго погляд, вынікае з не зусім адэкватнай перадачы сэнсу перакладам з нямецкай мовы на англійскую слова Ö*ffenlichkeit* як *public sphere*. Мы яшчэ вернемся да важнасці падкрэслівання *прасторавага* разумення публічнай сферы. Ён таксама адзначыў, што публічная сфера – гэта не інстытут. Памылку гісторыкаў Мах таксама бачыць у тым, што яны блытаюць публічную сферу з тым, што Габермас назваў *рэпрэзентатыўнай публічнасцю*[5]. Яна, паводле яго, заклікана паказаць выключнасць, асаблівасць пэўных асоб і груп. Публічная сфера адрозніваецца якраз тым, што той, хто прамаўляе (неістотна, у друку ці на грамадскім сходзе), хавае сваю сапраўдную прыналежнасць да пэўнай групы, асаблівасць ці выключнасць яе інтарэсаў, робіць гэта нябачным. Індывідуалізм прамоўцы – важны момант у функцыянаванні публічнай сферы[6]. Мах урэшце

[2] Mah H. Phantasies of the Public Sphere: Rethinking the Habermas of Historians // The Journal of Modern History. Vol. 72. N 1 (March 2000). P. 153–182, тут P. 153–154.

[3] Koselleck R. Critique and Crisis: Enlightenment and the Pathogenesis of Modern Society. Cambridge, Mass., 1988; Habermas J. Strukturwandel der Öffenlichkeit. Darmstadt und Neuwied, 1962. Пераклад на англ. мову: Habermas J. The Structural Transformation of the Public Sphere. An Inquiry into a Category of Burgeois Society. Cambridge, Mass., 1989.

[4] Mah H. Phantasies of the Public Sphere… P. 160.

[5] Тамсама. P. 165.

[6] Тамсама. P. 168.

дае сваё азначэнне публічнай сферы як свайго роду *фікцыі, якая размяшчаецца ў галіне палітычных уяўленняў*. Але публічная сфера – тая фікцыя, якая мае палітычную сілу[7].

Акцэнт гістарычных даследаванняў, якія, паводле Маха, "прыстасавалі" канцэпцыю да сваіх патрэб, быў скіраваны на тое, каб паказаць крытычную ролю публічнай сферы не толькі для гарадскіх ліберальна-буржуазных колаў, але і для змаргіналізаваных, перыферыйных груп (прамысловыя рабочыя, служачыя, гарадскі плебс, сялянства, жанчыны, моладзь і інш.)[8]. Такое прыстасаванне, ці мадыфікацыя, першапачаткова буржуазнага характару канцэпцыі публічнай сферы для іншых кантэкстаў і вывучэння палітычнай культуры зрабіла яе зручным інструментам апісання камунікатыўнай рэчаіснасці і яе наступстваў. Амерыканскі гісторык Джэф Ілі, падсумоўваючы вынікі даследаванняў як тых гісторыкаў, што свядома выкарыстоўвалі канцэпцыю, так і тых, што рабілі гэта несвядома (як Міраслаў Грох), прапанаваў менавіта такі зменены варыянт бачання публічнай сферы[9]. Яна як галіна "аспрэчваных значэнняў", за якія змагаюцца тыя ці іншыя групы, важная для зразумення механізму функцыянавання палітычнай культуры. Для даследчыкаў, тэмы якіх звязаны з цэнтральнаўсходнеўрапейскім кантэкстам, дзе роля гарадоў і буржуазіі ў фармаванні палітычнай культуры была меншай у адрозненне ад Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі, прыстасаваны варыянт канцэпцыі публічнай сферы адкрыў магчымасці даследаваць перыпетыі фармавання сучаснага варыянта нацыянальнай свядомасці, грамадскай думкі, палітычных ідэнтычнасцяў і культуры на вёсцы. Цікавы прыклад у гэтым сэнсе ўяўляе праца Кілі Стаўтэр-Хальстэд аб складванні асаблівага сялянскага варыянта нацыянальнай ідэнтычнасці ў аўстрыйскай Польшчы

[7] Тамсама.

[8] Тамсама. P. 158–159.

[9] Eley G. Nations, Publics and Political Cultures: Placing Habermas into Nineteenth Century // Dirks N. B, Eley G and Ortner S. B (Eds.). Culture / Power / History. A Reader in Contemporary Social Theory. Princeton, 1994. P. 297–335, тут P. 301–303.

ў 2-й палове XIX – пачатку XX ст.[10]. Яна ўслед за Ілі падкрэсліла важнасць традыцыйных і дамадэрных структур у жыцці вёскі (касцёл і касцельныя фэсты, карчма, вясковыя сходы, традыцыйнае мясцовае вясковае самакіраванне і інш.). Важнасць прэсы, адрасаванай вясковаму насельніцтву, у напаўненні гэтых традыцыйных структур і прастораў новым зместам, новымі інфармацыйнымі плынямі, таксама нельга ігнараваць. Сяляне ў выніку сфармулявалі ўласную версію нацыянальнай ідэнтычнасці, выкарыстоўваючы тыя матывы, якія ім прапанавалі эліты. Але нават адносна ліберальны характар палітычнага рэжыму не змяніў карэнным чынам палітычнай культуры польскага селяніна. Яго адносіны да палітыкі і да знешняга свету і надалей заставаліся пагружанымі ў магічныя ўяўленні і прасякнутымі містычнымі матывамі. Такі дамадэрны характар публічнай сферы, паводле Стаўтэр-Хальстэд, тлумачыць аўтарытарна-папулісцкі характар палітычных уяўленняў сялян, што абумовіла слабы і нестабільны характар польскай дэмакратыі міжваеннага перыяду[11].

Як жа на гэтым фоне выглядае сітуацыя міжваеннай беларускай вёскі? Прымаючы сказанае да ўвагі, мусім дадаць, што спробы беларускай грамадскасці стварыць эфектыўную публічную сферу сутыкаліся з перашкодамі перш за ўсё неліберальнага палітычнага рэжыму, які існаваў на беларускіх землях у часы II Польскай рэспублікі. Беларусы апынуліся ў сітуацыі меншасці, а значыць – падпарадкаванай этнічнай і сацыяльнай групы, якой у лесвіцы грамадскага прэстыжу і размеркавання ўлады адводзілася другарадная пазіцыя. У такой сітуацыі пошукі грамадскай прасторы для фармавання і выражэння грамадскай думкі сталі важным элементам ва ўзаемадзеянні беларускай эліты з яе галоўнай і першаснай аўдыторыяй – вясковым насельніцтвам. Прэса ў Заходняй Беларусі, сама будучы

[10] Stauter-Halsted K. Nationalism and the Public Sphere: The Limits of the Rational Association in Nineteenth-Century Polish Countryside // Gitelman Z., Hajda L., Himka J-P., Solchanyk R. (Eds.). Cultures and Nations of Central and Eastern Europe. Essays in Honor of Roman Szporluk. Cambridge, Mass., 2000. P. 555–568.

[11] Ibid. P. 565.

цэнтральным звяном у фармаванні тагачаснай палітычнай культуры і грамадскай думкі, таксама адыграла важную ролю ў пошуках тых структур і грамадскіх прастор, дзе беларусы маглі пачуць самі сябе і быць пачутымі.

Сяляне Заходняй Беларусі сутыкаліся так ці інакш з выданнямі самай рознай палітычнай арыентацыі, яны чыталі прэсу не толькі на беларускай мове, але і на польскай і рускай[12]. Паслядоўныя спробы ў фармаванні публічнай сферы ў рамах стварэння палітычнай культуры праявіў друк Беларускай хрысціянскай дэмакратыі – “Самапомач”, “Хрысціянская думка”, “Шлях моладзі” і іншыя выданні.

Увогуле вельмі добра раскрывае характар адносін сялянства і друкаванага слова ў роднай мове прыклад менавіта хадэцкіх выданняў, а ў самую першую чаргу “Крыніца” і “Беларуская Крыніца”. Па-першае, гэта была самая буйная легальная беларуская газета ў міжваеннай Польшчы з самым вялікім накладам, па-другое, яна мела да канца 1930-х г. самы вялікі аддзел карэспандэнцый з месцаў сярод іншых беларускіх выданняў і, па-трэцяе, з 1919 да 1937 г.[13] выдавалася стала, у той час як іншыя беларускія газеты (паланафільскія, камуністычныя, праваслаўныя, эсэраўскія, нацыянал-сацыялістычныя і інш.) або выдаваліся нелегальна і нядоўга, або занадта часта мянялі назву, зачыняліся. Зрэшты, нават пасля закрыцця асноўнага хадэцкага органа “Беларуская Крыніца” ў сакавіку 1937 г. сацыялагічныя даследаванні развіцця нацыянальнай свядомасці праваслаўнага насельніцтва, апрацаваныя гісторыкам Севярынам Віславухам (1900–1968), зафіксавалі: былыя чытачы адчувалі, што газеты ім не хапае[14]. Менавіта матэрыялы гэтага выдання будуць разглядацца з пункту гледжання фармавання і развіцця публічнай сферы ў заходнебеларускай вёсцы.

[12] Wysłouch S. Świadomość narodowa ludności prawosławnej zamieszkującej północno-wschodnie powiaty Wileńszczyzny. Warszawa, 1939. S. 23, 25, 30; Janka Dudar. Ab čym hamoniać sialanie (Z Wałožynskaha paw.) // Biełaruskaja Krynica. 1926. № 7. S. 2–5.

[13] Moroz M. “Krynica”: Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu. Białystok, 2001.

[14] Wysłouch S. Świadomość narodowa ludności… S. 34, 38, 68, 71–72, 80–81, 97.

## Рост уплыву прэсы як чынніка грамадскага жыцця ў Заходняй Беларусі

Трэба звярнуць увагу на некалькі чыннікаў, якія падрыхтавалі глебу для ўзнікнення публічнай сферы. Цягам двух дзесяцігоддзяў паміж прыкладна 1900 і 1920 г. назіралася адноснае павелічэнне ўжывання беларускай мовы ў друку, у грамадскім, палітычным і культурным жыцці[15]. Пад час бурлівых ваенных і рэвалюцыйных 1914–1922 гадоў інфармацыя набыла асаблівую важнасць для жыхароў Заходняй Беларусі, якія сутыкнуліся з эканамічнымі і сацыяльнымі праблемамі ў варунках ваеннага разбурэння, эпідэмій і голаду[16]. Нельга забывацца і на палітычную мадэрнізацыю ў Польшчы, у выніку якой многія беларусы атрымалі права ўдзельнічаць у выбарах. У гэтых умовах роля прэсы стала крытычна важнай.

Заходнебеларускі друк зрабіўся складнікам масавай палітыкі, які ўплываў на адносіны беларускага сялянства да рэчаіснасці. Скаргі польскай пошты на павелічэнне фізічнай колькасці беларускіх газет даволі добра ілюструюць маштаб зменаў[17]. У 1933 г. у юбілейным 500-м нумары "Беларуская Крыніца" хвалілася тым, што выдала 500 тысяч асобнікаў, калі лічыць наклад кожнага нумара ў сярэднім па 1000 асобнікаў. Хоць на самай справе гэтая лічба адрознівалася ад заяўленай, але наклад у 2-3 ці нават 5 ці 10 тыс. асобнікаў у часы выбараў у сейм і сенат можна лічыць значным[18]. Рубрыка карэспандэнцый, як і колькасць тых, з кім рэдакцыя "Крыніцы" (з верасня 1925 г. – "Беларускай Крыніцы") вяла перапіску, павялічвалася цягам 2-й паловы 1920-х г. Польскія органы

[15] Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя. Мінск, 1971.

[16] Rudling P. The Battle over Belarus. The Rise and Fall of the Belarusian National Movement, 1906–1931. Ph. D. thesis. Edmonton, Alberta, 2010. P. 197.

[17] Biełaruskaja Krynica. 1926. № 6. S. 8.

[18] "500"// Biełaruskaja Krynica. 1933. № 3. S. 1.

бяспекі таксама адзначалі істотнае павелічэнне ўплываў галоўнай хадэцкай газеты на вёсцы ў сярэдзіне 1920-х г.[19].

Не толькі выбары ў польскі сейм і сенат спрычыніліся да фармавання попыту на беларускае друкаванае слова на вёсцы. Патрэбы самавыяўлення, выказвання сваіх крыўдаў, спадзяванняў і выкарыстанне для гэтага папяровай прасторы газеты таксама былі важнымі матывамі. Патрэба не быць абдзеленым інфармацыяй у зменлівай і непрыязнай атмасферы польскай дзяржавы таксама падштурхоўвала да гэтага. Існаванне значных перашкод на шляху друку, і перш за ўсё такіх, як непісьменнасць, боязь друкаванага слова, якое можа выклікаць рэпрэсіі з боку ўладаў, а асабліва адсутнасць грошай на падпіску, вядома ж, тармазілі распаўсюджанне прэсы сярод вясковых жыхароў. Непісьменнасць была фундаментальнай праблемай. Прычым не так пісьменнасць на беларускай мове, як пісьменнасць увогуле. Прыклад аднаго з паветаў Віленшчыны праілюструе стан непісьменнасці, што адбілася на фармаванні чытацкай аўдыторыі. Так, паводле перапісу 1921 г., у Вілейскім павеце на 127 539 жыхароў было 88 839 тыс. непісьменных, што складала каля 70%. Непісьменнасць была вышэйшая сярод праваслаўнага насельніцтва, сярод якога на 88 020 тыс. жыхароў непісьменных было 66 020, ці 77%. Сярод жа каталікоў пісьменных было 56%[20]. У маштабах усіх усходніх ваяводстваў міжваеннай Польшчы і без уліку канфесійнай ці этнічнай прыналежнасці стан непісьменнасці насельніцтва, згодна з дадзенымі перапісаў 1921 і 1931 г., выглядаў так: Беластоцкае – 31 і 23,5%, Віленскае – 32,8% у 1931 г. (перапіс у верасні 1921 г. там не праводзіўся), Навагрудскае – 54,6 і 34,9 %, Палескае – 71 і 48,4 % адпаведна[21].

[19] Centralne Archiwum Wojskowe. Oddział II Sztabu Generalnego. Sygn. I.303.4.2696. K. 22–23.

[20] Sielicki F. Region Dolhinowsko-Krzywicki na dawnej Wileńszczyźnie. Kronika historyczna. Warszawa – Wrocław, 1989. S. 136.

[21] Notkowski A. Prasa prowincjalna Drugiej Rzeczypospolitej 1918–1939. Warszawa, 1982. S. 226.

Хоць у дачыненні да міжваенных польскіх перапісаў насельніцтва трэба адзначыць, што пісьменнымі яны маглі лічыць толькі тых, хто пісаў і / ці чытаў на польскай мове. Найбольшы водгук першапачаткова хадэцкі друк меў менавіта сярод каталікоў. Сустракаліся, хоць і рэдка, карэспандэнцыі і ад жанчын-каталічак[22].

Але ў сялянскім асяроддзі газеты і іншыя друкаваныя выданні поўнасцю не замянялі вуснай перадачы інфармацыі. Чытанне нават самых старых газет магло насіць забаўляльны характар. Часам для селяніна мела важнасць не столькі актуальнасць навін, пададзеных у газеце, а тое, што яны там увогуле былі, калі тая трапляла ў яго рукі. Не паўсюль беларускія газеты можна было і знайсці. Жыхары Беласточчыны ўспамінаюць, напрыклад, што любыя газеты ў міжваенны перыяд да іх траплялі вельмі рэдка[23]. Карэспандэнты “Крыніцы” і “Беларускай Крыніцы” з іншых беларускіх рэгіёнаў адзначалі, што перад Першай сусветнай вайной або ўвогуле не сутыкаліся з беларускім друкам, або, як некаторыя прызнаваліся, ставіліся да чытання ці пісання ў гэтыя выданні несур’ёзна, жартаўліва, і толькі цяпер сталі ўспрымаць беларускасць і беларускі рух як важныя з’явы. Вось меркаванне аднаго карэспандэнта з Рушчанаў Сакольскага павета: «Яшчэ перад вайной прыходзіла да нас газета “Biełarus”, чыталі мы яе, але мо’ больш жартуючы, як сапраўды. А цяпер чуем, што рух беларускі пачаў шырыцца штораз далей і далей… так тут бачым ня жарты, справа, відаць, ужо паважная»[24].

Як рэдакцыя “Крыніцы”, так і самі чытачы стараліся мінімізаваць уздзеянне непісьменнасці і недахопу гро-

[22] Adamčuckaja. Wioska Adamčuki. Wilenskaha paw. // Krynica. 1924. № 25. S. 6; Ciotka Julka. Ślachockaja durnata // Biełaruskaja Krynica. 1927. № 2. S. 3.

[23] У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд. Беласток, 2001. С. 153, 185, 242.

[24] Ruščanski haspadar. Nia zruščyŭ nas maskal, nia spolščyć i mazur // Krynica. 1924. № 21. S. 5; Pat. Ab žyćci ŭ našaj staroncy // Biełaruskaja Krynica. 1936. № 7. S. 4.

шай. Газету чыталі ўслых для непісьменных[25]. Часта атрымліваючы лісты са скаргамі на недахоп сродкаў на падпіску[26], рэдакцыя заклікала не знішчаць выданне, а перадаваць яго іншым. Гэтыя самыя элементарныя формы аўтаномнага грамадскага ўзаемадзеяння таксама спрыялі развіццю публічнай сферы. На ўзроўні як вясковага чытача, так і віленскай беларускай інтэлігенцыі гэтыя факты былі нагодай для разваг і меркаванняў. Існаванне беларускага друку розных кірункаў і ператварэнне яго ў сродак уплыву на грамадскую думку сігналізавала фармаванне публічнай сферы. Рэдакцыя заклікала чытачоў пісаць пра тое, што ў іх адбывалася. Чытачоў інфармавалі, што, калі і як пісаць, а таксама што рабіць з газетай, як яе распаўсюджваць. Адзін з яе сталых карэспандэнтаў, які хаваўся пад псеўданімам *Антось з Лепля*, заклікаў сялян не баяцца чытаць легальныя беларускія выданні, бо гэта не забаронена[27]. Іншы карэспандэнт пад псеўданімам *Стары Дзед* нават склаў спіс тэм і праблем, якія ўтваралі свайго роду схему таго, як і на падставе чаго сяляне мусяць *канструяваць* свае лісты ў газету. Ён таксама звярнуў увагу на неабходнасць выкарыстання псеўданімаў. Нават калі сяляне баяліся, што пішуць няскладна ці няправільна, ён раіў не хвалявацца, бо рэдактары паклапоцяцца пра наданне належнай формы зместу сялянскіх карэспандэнцый[28].

Прыклад не звязаных з хадэцыяй ці яе друкам беларускіх інтэлігентаў таксама дае зразумець, наколькі ў сувязі з ператварэннем беларускай прэсы ў масавы чыннік важна сачыць за формай і зместам напісанага і надрукаванага. Хведар Ілляшэвіч у 1925 г., на-

[25] Łukonščyk. Łukonica. Słonimskaha paw. // Krynica. 1923. № 16. S. 5; Susied. Jość jašče ciomnyja sialanie // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 11. S. 4.

[26] Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Ф. 3. Воп. 1. Спр. 43. Арк. 19, 24, 26, 29.

[27] Antoś z Lepla Śmieła čytajcie hazety! // Krynica. 1924. № 18. S. 2.

[28] Stary Dzied. Jak i ab čym pisać u hazety? // Krynica. 1924. № 25. S. 2–4.

прыклад, напісаў інструкцыю для беларускіх аўтараў і маладых літаратараў, як афармляць свае допісы і творы ў сувязі з тым, што іх колькасць павялічылася вельмі значна. Ён таксама прыводзіць спіс выданняў, якія можна лічыць “сапраўды беларускімі”, сярод якіх і хрысціянска-дэмакратычная “Крыніца”[29]. Пётра Сеўрук, малады актывіст ТБШ са Скідаля, звяртаў увагу на неабходнасць яснасці і зразумеласці мовы прэсы для беларускіх сялян, бо яны вельмі часта проста не разумелі, пра што ідзе гаворка. Катэгорыі, паняцці і тэрміны, якія ўжываліся выданнямі, былі непераадольна цяжкімі для сялян[30].

Псеўданім, на наш погляд, дэманструе магчымасці індывідуалізацыі і нябачнасці таго, хто піша для шырокай сялянскай аўдыторыі. Гісторык Джэфры Брукс, які даследаваў мадальнасці дыскурсу масавых выданняў у Расійскай імперыі ў 2-й палове XIX ст. – 1920-я г., адзначыў, што якраз прэса, друкаванае слова выступаюць носьбітам індывідуалістычных поглядаў[31]. Яны парадаксальным чынам спрычыняюцца да фармавання калектыўных каштоўнасцяў праз стварэнне індывідуальных узораў. Ананімнасць, выкарыстанне псеўданіма мела падставы і ў сялянскім асяроддзі, дзе кожны мог мець мянушку, паводле якой яго пазнавалі людзі[32]. Ананімнасць спрыяла бяспецы таго, хто пісаў карэспандэнцыю. З іншага боку, такая мянушка-псеўданім сігналізавала, што гэта сапраўды мог быць нейкі канкрэтны селянін, які добра ведае жыццё і ўзаемадачыненні ў пэўнай вёсцы, парафіі ці мясцовасці. Ананімнасць карэспандэнтаў была адным

29 Mokslų Akademijos Bibliotekos Rankraščių Skyrius. F. 21–445. L. 10–11.

30 Сеўрук П. Небыцця не існуе. Вроцлаў – Горадня, 2008. С. 120–121.

31 Brooks J. Competing Modes of Popular Discourse: Individualism and Class Consciousness in Russian Print Media, 1880–1928 // Ferro M, Fitzpatrick S (Eds.). Culture et Revolution. Paris, 1989. P. 71–82, тут P. 71.

32 Жамойцін Я. З перажытага // Лёс аднаго пакалення. Успаміны. Беласток, 1996. С. 51–52.

з чыннікаў новага, надлакальнага, вымярэння грамадскіх стасункаў на вёсцы, і гэты чыннік стаў уплываць на мясцовыя перыферыйныя стасункі з боку пэўнага ўяўнага цэнтра[33].

Боязь выпісваць ці трымаць у хаце "Беларускую Крыніцу", як і іншыя, больш радыкальныя ці "падрыўныя" выданні, была звязана з рызыкай прыцягнуць да сябе ўвагу паліцыі і мясцовых уладаў. Апошнія стараліся падаць сам факт атрымання ці выпісвання беларускай газеты як праяву нелаяльнасці. Часам газета "гублялася на пошце", і гэта было прадметам вельмі частых артыкулаў і парад, якія тая ж "Беларуская Крыніца" давала сваім чытачам[34]. Як успамінаў Марыян Пецюкевіч, даводзілася хаваць не толькі газеты, але і беларускія кнігі, якія прыходзілі на вёску[35]. Сам ён актыўна карыстаўся псеўданімамі, сярод якіх *Кавалёк* і *Марвіч*.

## Канструяванне публічнай сферы ў вясковым кантэксце

Як мы бачылі на прыкладзе даследавання фармавання публічнай сферы на вёсцы ў аўстрыйскай Польшчы XIX ст., яна не ўзнікала ў вакууме, а абапіралася на структуры і адносіны, добра вядомыя сялянству. На вёсцы інстытут грамадскай думкі выконваў важную ролю, што прадэманстраваў польскі антраполаг Юзэф Абрэмбскі. Ён звярнуў увагу на тое, што гэты інстытут рэгуляваў грамадскае жыццё. Структуру гэтай думкі ўтваралі перш за ўсё сямейна-родавыя, суседскія адносіны, вясковая грамада. Найбольшы ўплыў на выпрацоўку традыцыйнай грамадскай думкі мелі заможныя людзі, старэйшае пакаленне. Яе санкцыі – гэта плёткі, высмейванне, байкот і інш. Працэсы сацыяльных зменаў, разбурэнне традыцыйных мадэляў адносін, што

33 Anderson B. Imagined Communities: Reflections on the Origin and Spread of Nationalism. London, 1991.

34 БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 43. Арк. 45.

35 Пецюкевіч М. У пошуках зачараваных скарбаў. Вільня, 1998. С. 71.

яшчэ больш паскорылі падзеі 1914–1922 г., прывялі да занападу традыцыйнай грамадскай думкі, падзення яе аўтарытэта, разнастайнасці поглядаў і меркаванняў. Але ў некаторых рэгіёнах Палесся, якое даследаваў польскі навуковец, аўтарытэт старэйшых застаўся высокім[36]. Прэса, друкаванае слова, з аднаго боку, стала часткай гэтай разнастайнасці думак і светапоглядаў, але з іншага – яна выкарыстоўвала элементы вуснай вясковай культуры, гутарковыя формы, якія гучалі далёка не толькі ў карэспандэнцыях[37], а таксама санкцыі ў выглядзе кпінаў, крытыкі і інш. Цікава, што мог выкарыстоўвацца і аўтарытэт старэйшага ўзросту, як мы пераканаемся далей.

Пошук і актуалізацыя прастор і структур, якія маглі б быць выкарыстаны для абмену інфармацыяй і фармавання грамадскай думкі, быў абумоўлены такімі складнікамі, як палітычны ціск і кантроль з боку польскіх уладаў, а часцей за ўсё паліцыянтаў і іх канфідэнтаў-інфарматараў, а таксама сацыякультурнымі чыннікамі. Менавіта на *прасторавасць* як важны аспект публічнай сферы здамінаваных і падпарадкаваных груп указваў іншы антраполаг – амерыканец Джэймс Скот, які прадэманстраваў у сваім даследаванні дамінавання і майстэрства супраціву магчымасці, якія выкарыстоўвалі для абмену думкамі прадстаўнікі падпарадкаваных груп: прыгонных і каланіяльных сялян, рабоў, ніжэйшых каст расаў, класаў, стратаў, полавых і ўзроставых груп, прафесійных маргінальных груп і г. д.[38]. Можа падацца дзіўным, чаму мы выкарыстоўваем менавіта гэты канцэпт, бо публічная сфера таму і публічная, што меркаванне нават падпарадкаванай групы вядома прадстаўнікам даміноўнай. Але сутнасць стварэння публічнасці для

[36] Obrębski J. Polesie. Studia etnosocjologiczne. T. 1. Warszawa, 2007. S. 480, 486.

[37] Padaй Toj Samy. Hutarki susiedziaŭ // Biełaruskaja Krynica. 1926. № 2. S. 2–4; Hutarki susiedziaŭ // Biełaruskaja Krynica. 1927. № 5. S. 2.

[38] Scott J. C. Domination and Arts of Resistance: The Hidden Transcripts. New Haven and London, 1990. P. 14–15, 118–124.

падпарадкаванай групы якраз і палягае ва ўменні абысці кантроль даміноўнай групы ў фармаванні і перадачы думкі ў рамках групы. Свабода прэсы і волевыяўлення былі канстытуцыйнымі свабодамі, толькі дыскурс "грамадскай бяспекі" і яго інстытуцыянальнае ўвасабленне ў выглядзе вясковых паліцыянтаў і іншых прадстаўнікоў улады імкнуўся выціснуць на паверхню грамадскага жыцця ўсё, што кваліфікавалася як нелаяльныя адносіны да Польскай дзяржавы[39].

Неабходнасць напаўнення штодзённых размоў сялян паміж сабой новымі сэнсамі "Крыніца" выказала ў закліку да чытачоў у сярэдзіне 1920-х г.: «Браты-Беларусы! Чытайце "Крыніцу". Давайце другім. Пасылайце "Крыніцу" ў Амэрыку. Пашырайце роднае слова. **Гаманіце усюды** (вылучана намі. – *А. П.*), што ёсць беларуская газета, каторая заступаецца за нашага селяніна....»[40]. А ў студзені 1925 г. "Крыніца" нават змясціла спіс такіх пляцовак, структур, відаў дзейнасці, якія давалі магчымасць вяскоўцам абменьвацца думкамі: на кірмашы, вяселлі, хрэсьбінах, каля касцёла (царквы), у мястэчку, на млыне, у дарозе. Выданне таксама звярнула ўвагу сялян на тое, пра што яны павінны размаўляць паміж сабой: "...пра нашае жыццё, пра нашую думку, **што ўжо жыве Беларусь** (вылучана ў тэксце. – *А. П.*), да каторай гарнуцца ўсе яе лепшыя сыны і пачынаюць новае жыццё"[41].

Яшчэ раней, у 1921 г., карэспандэнт пад псеўданімам *Блізкі* апісваў гутарку, якая быццам бы адбылася паміж ім і жыхарамі аднаго маёнтка. Самая гарачая спрэчка завязалася ў яго з ахмістрыняй, якая не верыла ў існаванне і жыццяздольнасць беларусаў і Беларусі. Наогул ён "здолеў" пераканаць яе ў сваёй рацыі[42]. Пры гэтым

[39] Mironowicz E. Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego. Białystok, 2007; Śleszyński W. Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Warszawa, 2007.

[40] Krynica. 1924. № 13. S. 8.

[41] Krynica. 1925. № 1. S. 8.

[42] Błizki. Z razmowy z achmistryniaj // Krynica. 1921. № 4. S. 2–3.

важны сам кантэкст напаўнення штодзённасці новымі інфармацыйнымі плынямі. Такая схема штодзённага кантакту і дыскурсу ў выглядзе абмену думкамі, дзе заўжды перамагала “правільнае” меркаванне, павінна была пераконваць сялян у тым, што такія гутаркі сапраўды адбываюцца. Высілак уяўлення з боку тых з іх, што ўмелі чытаць, і тых, што не ўмелі, быў нязначны і не патрабаваў экстраардынарных здольнасцяў. Найбольш цікавыя ў сэнсе выкарыстання штодзённага кантэксту сялянскага жыцця і разнастайнасці тэм “Гутаркі Старога Дзеда”. Пытанні нацыянальнай ідэнтычнасці і яе складнікаў, нацыянальнай гісторыі, элементаў палітычнай і грамадзянскай культуры – пра ўсё гэта апавядалася старым чалавекам побач з вясковай хатай ці ў самой хаце. Новае тут уводзілася і легітымізавалася праз аўтарытэт старога чалавека[43].

Гутарка магла быць змешчана і ў невясковым, зусім мадэрным кантэксце. Так, персанажы гутаркі “Размова суседзяў”, сяляне, едуць цягніком і разважаюць пра неабходнасцьператварэння беларусаў у сучасную нацыю, беручы за прыклад яўрэяў, якія, на іх думку, добра арганізаваныя, трымаюцца адзін аднаго і чытаюць газеты, абмяркоўваючы прачытанае. А вось Марыян Пецюкевіч змясціў герояў сваёй гутаркі, надрукаванай у адным з перадвыбарных нумароў “Беларускай Крыніцы”, на поле, дзе яны капалі бульбу і вялі паміж сабой размову пра неабходнасць галасаваць пад час выбараў за сваіх, беларускіх, кандыдатаў, а таксама гаварылі пра важнасць салідарнасці і значэнне выбараў увогуле[44].

У пачатку 1920-х г. мітынгі беларускіх дэпутатаў, а таксама сейм і сенат самі па сабе былі магчымасцю правядзення публічнай падзеі, дзе фармавалася грамадская думка. Выкарыстоўваліся і такія традыцыйныя

43 Krynica. 1924. № 13. S. 2–5; Krynica. 1924. № 14. S. 2–5; Krynica. 1925. № 8. S. 2–6; Krynica. 1925. № 31. S. 2–7.

44 Marwič. Spatkańnie i hutarka Macieja z Jurkam // Biełaruskaja Krynica. 1930. № 29. S. 3–4.

мерапрыемствы, як кірмашы. Перадвыбарныя і паслявыбарныя сустрэчы былі нагодай даведацца, што адбываецца ў надлакальным свеце, а таксама звязаць тое, што адбываецца з людзьмі на месцы, з рашэннямі, якія прымаюцца далёка за межамі іх мясцовасці[45].

Газета недарэмна падкрэсліла – не "ў касцёле", а каля касцёла ("пад касцёлам"). Пачатая польскай адміністрацыяй энергічная практыка выціскання беларускіх ксяндзоў з пераважна беларускіх парафій прывяла да таго, што касцёл не мог успрымацца ў якасці беларускай прасторы. Такім чынам засваенне касцёла ні на дыскурсіўным, ні на практычным узроўні як пляцоўкі фармавання грамадскай думкі не было магчымым. Касцёл яшчэ ў XIX ст. згадваецца ў адной прымаўцы як месца, дзе ўсе былі роўныя: "Касцёл і карчма для ўсіх"[46]. Аднак дзеячы нацыянальнага руху і іх прыхільнікі на вёсцы пра карчму думалі зусім інакш. Хоць яна і была важным месцам, дзе сяляне даведваліся навіны, але рэпутацыя карчмы як месца п'янства, дэбошу і антыграмадскіх паводзінаў вяла да таго, што яна не толькі не магла ўяўляцца як месца фармавання нацыянальнай грамадскай думкі, але і характарызавалася як "панская" ўстанова. Карчму ў 1920-я г. сталі замяняць рэстараны, якія выклікалі раздражненне не меншае, чым корчмы. Меркаванне аднаго з карэспандэнтаў газеты ў 1921 г. пра перспектыву адкрыцця ў мястэчку рэстарана, які ён называе карчмой, было рэзка негатыўным і ўяўляла патэнцыйную пагрозу для жыхароў[47]. Рэстаран супрацьпастаўлялі беларускім школам, якія ў той час зачыняліся польскай адміністрацыяй[48]. Часам карчма

45 Alaksandr Puśko. Mitynh u Budsławie // Krynica. 1922. № 7. S. 5; Niedaloki. Baruny. Ašmianskaha paw. // Krynica. 1923. № 9. S. 6.

46 Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej. Warszawa, 1935. T 4. S. 140.

47 Periculosi. Kluščany. Świancianskaha paw. // Krynica. 1921. № 26. S. 6.

48 Swisłačanin. Čamu nie dajuć rodnych škołaŭ? // Krynica. 1924. № 32. S. 4.

ўяўлялася нават як месца, дзе сяляне не знойдуць карыснай і правільнай інфармацыі пра жыццё, а стануць ахвярамі чутак і неправеранай інфармацыі, як гэта падкрэсліваў ксёндз Язэп Германовіч[49].

Увогуле трэба адзначыць, што асіметрыя ў размеркаванні інфармацыі – характэрная рыса перыферыйнага статусу, якое сялянства займала ў грамадстве[50]. Вось як карэспандэнт “Беларускай Крыніцы” апісвае змены, прынесеныя газетай – яна дапамагла пераадолець няроўнасць у доступе да інфармацыі і павысіць яго статус у лакальнай грамадскай думцы: «Заслыў і я тады “мудры” як жыд і “мудры” як пан…»[51]. Такім чынам траекторыя эмансіпацыі ішла не па лініі кантролю над нейкімі матэрыяльнымі рэсурсамі, а па лініі доступу да інфармацыі. Карэспандэнт падкрэслівае: да таго часу, як ён стаў выпісваць газету, крыніцамі інфармацыі для яго былі якраз трымальнік мясцовага рэстарана і паны.

Дзейнасць чытальняў ТБШ і БІГіКа, якія адчыняў бібліятэкі, дзе сяляне маглі браць газеты і кнігі, стала кульмінацыяй у стварэнні нацыянальнай камунікатыўнай прасторы і публічнай сферы[52]. Доступ да газет і кніг, якія былі ў бібліятэках мясцовых філій-гурткоў гэтых нацыянальных арганізацый, дазваляў задаволіць інфармацыйныя патрэбы сялян. Пасіўны ўдзел у публічнай сферы, безумоўна, дамінаваў, бо тых, хто браўся выказаць сваё меркаванне, было няшмат у параўнанні з рэштай чытачоў. Палітычны і фармальны характар гэтых беларускіх

[49] Ks. Jazep Hermanowič. W. Juški. Dzisienskaha paw. // Krynica. 1924. № 3 . S. 6–7.

[50] Moore B. Jr. The Social Origins of Dictatorship and Democracy: Lord and Peasant in the Making of the Modern Worls. Harmondsworth, 1991. P. 219.

[51] A. W. Sekret adhadali // Biełaruskaja Krynica. 1929. № 10. S. 4.

[52] Вашкевіч А. Мясцовыя арганізацыі Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры і Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (1926–1936 гг.) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 30. 2008. S. 73–87; Токць С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў. Другая палова XIX – першая траціна XX ст. Менск, 2007. С. 241–242

нацыянальных устаноў часта прыводзіў да канфліктаў на лакальным узроўні з тымі групамі вясковага насельніцтва, якія трымаліся лаялісцкай або нейтральнай пазіцыі ў адносінах да польскай дзяржавы і яе мясцовых прадстаўнікоў, а таксама да расколу грамадскай думкі ў супольнасці[53]. З закрыццём у 1936–37 г. мясцовых філій ТБШ і БІГіК бібліятэкі і чытальні стаялі апячатанымі, але вынік іх дзейнасці адчуваўся і пасля гэтага[54]. Закрыццё гэтых устаноў адсунула фармаванне грамадскай думкі з кола бачных і дзейных элементаў вясковага жыцця ў нябачнае, з публічнай з'явы яно ўсё больш станавілася з'явай прыватнай сферы.

Публічная сфера мела сімвалічны характар, г. зн. чытанне газет і карэспандэнцый служыла альтэрнатывай непасрэдным сустрэчам і стратэгічным дыскусіям з іншымі прыхільнікамі. Узаемадзеянне з прэсай стала дапаўненнем або заменай масавых сялянскіх мітынгаў, сходаў, сустрэч па абмеркаванні стратэгій, як адзначае Стаўтэр-Хальстэд[55]. Аўтары карэспандэнцый у хрысціянска-дэмакратычныя выданні адчувалі пэўную сувязь з аднавяскоўцамі (як патэнцыйнымі носьбітамі ідэй БХД-БНА і беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці ў яе версіі) і таксама падкрэслівалі не так вышэйшасць, як ізаляванасць ад іх. Гэта значна адрознівала сітуацыю беларусаў у міжваеннай Заходняй Беларусі ад становішча палякаў у імперыі Габсбургаў. Энергічныя рэпрэсіі з боку польскіх адміністрацыйных уладаў, крызіс беларускага палітычнага жыцця, няўдзел у выбарах і байкот выбараў закрывалі магчымасць для пашырэння публічнай сферы і перадвызначалі яе выключна сімвалічны характар.

[53] Paleśsie. Budsłaŭskaj hm. // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 3. S.1; Сусед. Няма дрэннага, каб не выйшла на добрае // Беларуская Крыніца. 1933. № 8. S. 4.

[54] Wysłouch S. Świadomość narodowa ludności prawosławnej… S. 94–95.

[55] Stauter-Halsted K. The Nation in the Village. The Genesis of Peasant National Identity in Austrian Poland 1848–1914. Ithaca & London, 2001. P. 188–189.

## Абмежаванні ў грамадскай прасторы

У 1924 г. карэспандэнт "Крыніцы" *Чутны* з мястэчка Іказнь (што ў памежным з СССР Дзісенскім павеце) скардзіўся на паўсюдную прысутнасць шпегаў, інфарматараў і паліцыянтаў. Тыя рэагавалі нават на запаленае святло ў хаце і прыходзілі правяраць, што адбываецца. Нават стары беларус, які ішоў па сваіх справах, мусіў даваць справаздачу паліцыянтам. Размовы паміж сялянамі абавязкова прыцягвалі ўвагу паліцэйскіх агентаў. Апошніх карэспандэнт назваў "чорнымі сценямі" (sic!), якія "снуюцца дзень і ноч"[56]. Гэта быў крайні прыклад спробы ажыццяўляць татальны і шчыльны кантроль над падпарадкаваным насельніцтвам, якое, апрача грамадзянскіх правоў, пазбаўлялася чалавечага права дзяліцца думкамі.

Праводзіць якія-небудзь грамадскія сустрэчы, сходы ці мітынгі было немагчыма без дазволу польскіх уладаў. З канца 1920 – пачатку 1930-х г. усё цяжэй рабілася атрымаць дазвол на публічныя беларускія мерапрыемствы. Нават для калядавання патрабаваўся дазвол адміністрацыі, як адзначыў адзін малады карэспандэнт у канцы 1920-х г.[57]. Кожную тэатральную ці літаратурную падзею неабходна было зацвердзіць у прадстаўнікоў польскай улады. Часта яны наўпрост злоўжывалі сваімі паўнамоцтвамі ці ўвогуле адмаўлялі ў правядзенні. Такім чынам, бюракратычнае рэгуляванне ўжо датычылася нават тых формаў традыцыйнай грамадскай самаарганізацыі, якія яшчэ зусім нядаўна не лічыліся небяспечнымі для парадку. Карэспандэнцыі з вёскі таксама маглі выклікаць рэакцыю ў выглядзе цэнзурнай забароны і канфіскацыі "Беларускай Крыніцы"[58].

У такой сітуацыі для канструявання нацыянальнай публічнай сферы як сябры рэдакцыі "Крыніцы", так і іх карэспандэнты на месцах выкарыстоўвалі даступныя

[56] Čutny. Dzień i noč snujucca čornyja ścieni // Krynica. 1924. № 29. S. 4

[57] Karol. Jak zamańwajuć u kólko // Bieiaruskaja Krynica. 1928. № 13. S. 4.

[58] Гл. напр.: Biełaruskaja Krynica. 1932. № 8. S. 4.

нефармальныя структуры і стасункі, што існавалі сярод вяскоўцаў, але іх трэба было напоўніць якасна іншай інфармацыяй, якая мела значэнне шырэйшае, чым лакальны свет селяніна. Самі чытачы сігналізавалі характар змены камунікатыўных стасункаў і якасных зрухаў у інфармацыйных плынях, якія цяпер не абміналі вёску[59]. Праўда, цяжка нават паводле такіх паведамленняў з месцаў меркаваць, у якой ступені сяляне інтэрналізавалі гэтыя прапанаваныя мадэлі трансфармацыі зместу штодзённых гутарак і як яны самі ў сваіх размовах рэпрадукавалі дыскурс нацыянальнай публічнай сферы па-за колам тых, хто пісаў карэспандэнцыі.

Немагчымасць свабодна дзяліцца інфармацыяй і ствараць грамадскую думку ў вясковым кантэксце адзначыў карэспандэнт "Беларускай Крыніцы" ў 1932 г. Ён паведамляў, што нават простая гутарка групы сялян каля хаты выклікала негатыўную рэакцыю паліцыянта, які загадаў разысціся. Такія карэспандэнцыі ўказвалі на тое, што грамадская думка і яе фармаванне павінны былі адбывацца не на вачах прадстаўнікоў польскай адміністрацыі[60].

Практыка, аформленая ў мадэлі "Гутарак Старога Дзеда", была ўжо не толькі немагчымай, але і непатрэбнай. Цяпер гутарковая форма камунікацыі замянялася формай не перададзенага дыялогу для чытачоў, а беспасярэдняга звароту да іх. Характэрныя ў гэтай сувязі "Гутаркі дзядзькі Гаўрылы" і "Гутаркі Дзядзькі Сьцяпана"[61]. Там не было ўжо гаворкі пра нацыянальную агітацыю ці палітычную сацыялізацыю. Акцэнт змяніўся на штодзённыя аспекты культурнага, сацыяльнага і гаспадарчага жыцця сялянства, патрэбу саманавучання. Па-ранейшаму былі заклікі дзяліцца і распаўсюджваць беларускую грамадскую

[59] Susied E. Ašub. Na našaj niwie // Biełaruskaja Krynica. 1928. № 8. S. 4.

[60] Шпак. Аб нашым жыцці // Biełaruskaja Krynica. 1932. № 24. S. 4.

[61] Hutarki dziadźki Haŭryły // Biełaruskaja Krynica. 1932. № 44. S. 4; Ibid // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 17. S. 4; Hutarki dziadźki Ściapana // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 17. S. 4; Ibid // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 29. S. 4.

думку, але *не гутарыць*. У 2-й палове 1930-х г. гутарка паміж жыхарамі вёскі, дзе ўзнікалі самыя малыя акцэнты нелаяльнасці да польскай дзяржавы, магла скончыцца рэпрэсіямі, нават адпраўкай у канцлагер у Бярозе[62]. Але чытачы, папярэдне засвоіўшы практыку распаўсюджання беларускага друкаванага слова, паведамлялі пра тое, як дзеляцца кнігамі і газетамі з аднавяскоўцамі, ствараючы "хадзячыя бібліятэкі"[63]. Апошняе, дарэчы, збіла з панталыку студэнтаў Універсітэта Стэфана Баторыя, якія ў рамках даследавання свядомасці праваслаўнага насельніцтва Віленшчыны высвятлялі і чытацкія звычкі на вёсцы ў 1936–38 г. і адзначылі: невядома адкуль вяскоўцы дастаюць газеты, ясна толькі, што атрымліваюць[64].

## Высновы

Спроба стварэння нацыянальнай публічнай сферы як дзейснага інструмента дляператварэння традыцыйных праяваў публічнасці ў механізмы фармавання грамадскай думкі і сучаснага калектыўнага палітычна матываванага дзеяння была для беларускай вёскі імкненнем да трансфармацыі вясковага дыскурсу і напаўнення яго традыцыйных структур і сфер новым зместам, перавызначэння, ці рэдэфініцыі, уласнага вопыту ў новых катэгорыях. З ростам аўтарытарнага характару польскай дзяржавы і з узмацненнем рэпрэсій, а таксама ростам апатыі і абыякавасці да палітыкі грамадская думка і яе фармаванне сапраўды ператварыліся ў нябачны механізм. Гэты механізм здолеў яшчэ раз праявіць сябе пад час школьнай акцыі 1936 г. і выбараў у мясцовыя вясковыя самаўрады ў 1938–39 г., што было пэўнай нечаканасцю для палякаў, якія лічылі "беларускую справу" вырашанай. Карэспандэнты працягвалі пісаць і дасылаць лісты

[62] Mironowicz E. Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego. Biaiystok, 2007. S. 108.

[63] Марошка. Крыху аб нашым жыцці // Biełaruskaja Krynica. 1934. № 13. S. 4.

[64] Wysłouch S. Świadomość narodowa ludności prawosławnej… S. 61, 66.

ў рэдакцыі “Шляху Моладзі” і “Хрысціянскай Думкі” пасля закрыцця “Беларускай Крыніцы” спачатку ў снежні 1936 г., а потым канчаткова ў сакавіку 1937 г. Пры моцным цэнзурным кантролі і высілках паліцыі па наглядзе за вясковым насельніцтвам усё роўна было немагчыма ажыццявіць татальны кантроль за абменам думак жыхароў беларускай вёскі. Да свайго канчатковага закрыцця галоўная газета хадэкаў сама была прасторай, дзе чытачы маглі паскардзіцца на несправядлівасць дзеянняў уладаў. Такім чынам, газета, якая павінна была, на думку беларускай інтэлігенцыі, у 1920-я г. трансфармаваць вясковы дыскурс і якасна замяніць яго, у атмасферы ўсё большага нарастання ціску аўтарытарнай дзяржавы фактычна рэпрадукавала гэты вясковы дыскурс і была месцам ананімнага выяўлення крыўдаў на польскую адміністрацыю. Для часткі карэспандэнтаў ціск і рэпрэсіі польскай адміністрацыі, безумоўна, сталі праявамі нацыянальнага пераследу, а не толькі несправядлівымі адносінамі да іх як перыферыйнай і падпарадкаванай групы. Меркаванні сялян перамяшчаліся ў прыватную сферу, дзе іх сапраўдныя погляды не маглі быць раскрыты паліцыянтамі ці канфідэнтамі.

Тое, што было публічным, ахоплівала тэмы палітыкі і грамадскага жыцця. Іншая інфармацыя лічылася непатрэбнай для чытачоў. Хрысціянска-дэмакратычныя выданні і перш за ўсё “Беларуская крыніца” ў сваіх адказах на лісты карэспандэнтаў у адпаведным раздзеле і ў спецыяльных артыкулах давалі гэта зразумець. Часам да чытачоў звярталіся з просьбамі пісаць лісты “канкрэтнага” зместу[65].

Крытычную ролю ў стварэнні і функцыянаванні публічнай сферы адыгрывае *давер*[66]. Размаўляючы, сяляне павінны былі давяраць адзін аднаму і той інфармацыі,

[65] Аб чым і як пісаць у газэты // Biełaruskaja Krynica. 1933. № 18. S. 1; Naša Pošta // Biełaruskaja Krynica. 1927. № 40. S. 4; Redakcyja “B. Krynicy”. Da našych karespandentaŭ // Biełaruskaja Krynica. 1935. № 16. S. 4.

[66] Sztompka P. Zaufanie: Fundament społeczeństwa. Warszawa, 2008.

якой дзяліліся і якая несла новы нацыянальны змест. Рэпрэсіі рэзка звужалі прастору для даверу і зрабілі немагчымым адкрыты дыялог, гутарку ў вясковым кантэксце. У канцы 1930-х г. хадэцкі друк яшчэ мог выкарыстоўваць апісанне гутарак, што "адбываліся" і ў цягніках, паміж беларусамі і замежнікамі, напрыклад, эстонскім прафесарам, які павінен быў расказаць свету пра беларусаў і іх незайздросны лёс у Польшчы[67]. Але такі іх змест і форма былі скіраваны не на трансфармацыю штодзённага дыскурсу, яны звярталіся да знешняга аўтарытэту, прыязнага "іншага" і суцяшалі чытачоў у тым, што іх няшчасці неабыякавыя шырокаму свету, на чыю думку можна было паўплываць. Польскія ўлады нават спрабавалі высвятляць інфармацыю аб крыніцах грамадскай думкі на вёсцы. Збіранне паліцыяй Віленска-Троцкага ваяводства інфармацыі пра чытачоў і падпісчыкаў беларускіх газет у 1938–39 г. сведчыць, што польская адміністрацыя да самага канца змагалася з беларускай грамадскай думкай[68].

[67] Anton Kumša. Z wahonu // Chryscijanskaja Dumka. 1938. № 4. S. 4.

[68] Беларускі Фронт. 1939. № 7. С. 3.

# Press and the Public Sphere in the West Belarusian Village in 1920s–1930s

**Aliaksandr Paharely**

The article deals with the role played by the interwar Belarusian Christian Democratic periodicals in an attempt to form a public sphere thus engaging West Belarusian peasants in political, social and cultural discussions and drawing them into political and cultural activities of Belarusian Christian Democrats and other political parties and groups. A critical approach toward the concept of the public sphere is used.

The Belarusian Christian Democratic activists saw press as a crucial instrument in shaping and influencing public opinion in the village. The article specifically focuses on the newspaper "Bieiaruskaja Krynica" ("Belarusian Wellspring") and its contribution to the process of formation of the public sphere in the West Belarusian village.

West Belarusian peasants had to participate in the public sphere following certain rules learning to construct their messages along certain ideological lines. Belarusian Christian Democratic periodicals and "Bieiaruskaja krynica" in particular, tried to use the elements of rural oral culture and traditional village sociability to promote its political agenda of modern era of mass politics.

However, the increasing pressure from the Polish authorities, the declining political life and growing apathy of rural dwellers all resulted in the interaction with the press becoming a substitute for face-to-face meetings and political discussions. Thus, public sphere had a symbolic character whereas the notion of the public was largely pertaining to the events and vocabulary of political, cultural and economic life.

# “Латвійскі” перыяд дзейнасці Мікалая Дзямідава (1922–1942)

## Юры Грыбоўскі

Шмат постацяў беларускага нацыянальнага руху пачатку і першай паловы XX ст. па розных прычынах доўгі час былі малавядомымі і забытымі. Толькі цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў іх імёны паступова вяртаюцца з гістарычнага нябыту. Да іх з упэўненасцю можна залічыць Мікалая Дзямідава, беларускага вайсковага і грамадска-палітычнага дзеяча, педагога. Гэтая асоба ўжо вядомая чытачу дзякуючы шэрагу навуковых і навукова-папулярных публікацый. Значны ўклад у пашырэнне ведаў пра дзейнасць Дзямідава зрабілі працы Алега Латышонка. Даследаванні гэтага гісторыка дазволілі зірнуць на Мікалая Дзямідава як на вайсковага дзеяча, арганізатара і камандзіра беларускіх вайсковых аддзелаў у перыяд змагання за дзяржаўную незалежнасць Беларусі (1918–1921)[1].

Разам з тым практычна па-за ўвагай даследчыкаў застаецца далейшы лёс гэтага дзеяча. Значна менш нам вядома пра ўдзел Дзямідава ў нацыянальнай працы ў міжваенныя гады, а таксама ў час II сусветнай вайны. Вядома, што працяглы час ён жыў у Латвіі. Мэтай артыкула будзе спроба асвятлення дзейнасці Мікалая Дзямідава ў “латвійскі” перыяд яго жыцця, які ахопліваў час ад прыезду ў Латвію ў 1922 г. да 1942 г., калі ён мусіў пераехаць у Генеральную акругу Беларусь. На падставе наяўнай гістарыяграфіі і дасюль нявыкарыстаных архіўных крыніц паспрабуем прааналізаваць ролю Дзямідава

[1] Гл.: Łatyszonek O. Mikołaj Demidow // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1995. Z. 1. S. 174–180.

ў беларускім руху ва ўмовах існавання незалежнай латвійскай дзяржавы, а потым савецкай і нямецкай акупацыі Латвіі. Актыўнасць беларускага дзеяча будзе паказана на фоне тых грамадска-палітычных і міжнародных працэсаў, якія адбываліся ў рэгіёне. Але спачатку прыгадаем асноўныя вехі жыцця героя нашай публікацыі да яго пераезду ў Латвію.

Мікалай Дзямідаў прыйшоў на свет 10 снежня 1888 г. у Гарадку, на Беласточчыне, у сям'і Станіслава Катнароўскага і Аляксандры (з роду Каліноўскіх). Пасля смерці бацькі маці выйшла замуж за чыноўніка Івана Дзямідава, які даў дзіцяці сваё прозвішча. У дзяцінстве Дзямідава выхоўвала маці, яго дзіцячыя гады прайшлі на яе малой бацькаўшчыне – на Падляшшы. На выхаванне паўплываў таксама дзед Аляксандр Каліноўскі, які даводзіўся стрыечным братам Кастусю Каліноўскаму. У сям'і Каліноўскіх старанна захоўвалася памяць пра аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 г. на Літве і Беларусі. Яшчэ юнаком Дзямідаў абраў прафесію настаўніка[2]. Пачатак I сусветнай вайны прымусіў на нейкі час змяніць жыццёвыя планы – яго прызвалі ў войска. Менавіта ў гады Вялікай вайны далучыўся да беларускага руху, перадусім да стварэння беларускіх вайсковых фармаванняў. 1 снежня 1918 г. паручнік Дзямідаў быў адкамандзіраваны ў Міністэрства абароны Літвы. У перыяд ад снежня 1918 да чэрвеня 1919 г. займаў пасаду беларускага вайсковага каменданта Гародні. Нагадаем, што ў той час Гародня ператварылася ў часовую сядзібу ўладаў БНР. На Гарадзеншчыне і Беласточчыне пачалася вярбоўка ў беларускія вайсковыя аддзелы. Пры

[2] Першую асвету Дзямідаў атрымаў у мужчынскай гімназіі ў Ломжы, а пазней навучаўся ў настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы. У 1907 г. стаў вольным слухачом вячэрніх курсаў Гістарычна-філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. У 1910 г. у Беластоку здаў іспыт на настаўніка павятовых школ. 1 кастрычніка 1911 г. атрымаў пасаду дырэктара 2-класавай чыгуначнай школы ў Беластоку. У 1912 г. удзельнічаў у летніх курсах у галіне гісторыі, методыкі і педагогікі, зладжаных пры Педагагічным інстытуце ў Вільні. Адначасова ён здаў іспыт на настаўніка гісторыі і рускай мовы гарадскіх школ Віленскай школьнай акругі.

ўдзеле Дзямідава быў сфармаваны беларускі батальён гарадзенскай камендатуры, які выконваў вартавую і патрульную службу ў горадзе. У той час Дзямідаў меў званне капітана. Пасля раззбраення палякамі беларускага батальёна Дзямідава арыштавалі і інтэрнавалі ў Беласток. Пасля вызвалення закончыў беларускія настаўніцкія курсы.

Тым часам адбыліся пэўныя палітычныя змены, якія паўплывалі на далейшы ход падзей. 22 кастрычніка 1919 г. начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі выдаў загад аб арганізацыі Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Увосень 1919 г. Дзямідаў уключыўся ў дзейнасць гэтай арганізацыі, найперш у Вільні, а потым у Мінску. У складзе групы афіцэраў-беларусаў быў накіраваны ў Школу падхаружых у Варшаве. Ёсць падставы меркаваць, што Дзямідаў не быў задаволены працай у складзе БВК. Увосень 1920 г. ён далучыўся да арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча. Па загадзе генерала ён сфармаваў асобны беларускі батальён, які ўвайшоў у склад астроўскага пяхотнага палка 2-й пяхотнай дывізіі. Батальён Дзямідава браў удзел у палескім паходзе С. Булак-Балаховіча (лістапад 1920 г.). Разам са сваім фармаваннем Дзямідаў удзельнічаў у зацятых баях за Калінкавічы, а пазней прыкрываў адыход балахоўцаў ад Мазыра. Пасля адступлення арміі С. Булак-Балаховіча на кантраляваную палякамі тэрыторыю батальён Дзямідава не склаў зброі, а працягваў змаганне ў нейтральнай зоне, на левым беразе Прыпяці. Асобны беларускі батальён дзейнічаў на Мазыршчыне да студзеня 1921 г., калі быў вымушаны перайсці на польскі бок, дзе яго чакала інтэрнаванне. Перад гэтым Дзямідаў вёў перамовы з польскім камандаваннем аб магчымым далучэнні яго фармавання да польскага войска на выпадак узнаўлення баявых дзеянняў на польска-савецкім фронце. Камандзір разглядаў таксама магчымасць скіравання свайго батальёна на дапамогу слуцкім паўстанцам. А. Латышонак лічыць, што батальён Дзямідава быў апошнім беларускім вайсковым фармаваннем, якое аказвала збройны супраціў Чырвонай арміі ў змаганні за незалежнасць Беларусі[3].

[3] Łatyszonek O. Mikołaj Demidow… S. 174–177.

У чэрвені 1921 г. Дзямідаў пакінуў лагер інтэрнаваных у Радаме, а праз месяц стаў дырэктарам пачатковай школы ў бацькоўскім Гарадку, разгарнуўшы арганізацыйную і асветную працу сярод насельніцтва. Дзякуючы яго намаганням у горадзе быў адчынены эпідэміялагічны шпіталь, створана сетка кааператываў. У 1922 г. Дзямідаў балатаваўся ў Сойм як кандыдат Блока нацыянальных меншасцяў, ачоліў Беластоцкі павятовы выбарчы камітэт згаданага блока. Аднак трапіць у парламент яму не ўдалося. У ліпені 1922 г. Дзямідава арыштавалі польскія ўлады. У хуткім часе ён быў вызвалены з-пад варты і выехаў у Вільню, адкуль пры дапамозе Антона Луцкевіча і Браніслава Тарашкевіча напрыканцы 1922 г. перабраўся ў Латвію. Паводле яго сведчанняў, 22 лістапада ён ужо быў у Латвіі[4].

Так у жыцці Міколы Дзямідава пачаўся новы этап. У Латвіі яму было наканавана жыць і працаваць на карысць беларускай справы ажно 20 гадоў. “Латвійскі” перыяд характарызаваўся ўдзелам у працы беларускіх культурна-асветных арганізацый, а перадусім настаўніцкай дзейнасцю ў беларускім школьніцтве. Дзямідаў прыехаў у Латвію акурат тады, калі ў гэтай краіне шпаркім крокам ішла праца над разгортваннем нацыянальнага жыцця беларускай меншасці, і ў першую чаргу над арганізацыяй школьнай справы. У першыя гады незалежнасці ўлады ў Рызе не бачылі для сябе пагрозы з боку маладога беларускага руху. Аказвалася пэўная падтрымка беларускім дзеячам у арганізацыі нацыянальнага школьніцтва і грамадска-культурнай працы. У значнай ступені вынікала гэта з жадання выкарыстаць беларусаў у якасці супрацьвагі для дзейнасці польскай меншасці[5]. Але гэта не азначала, што ў адносінах паміж беларускімі дзеячамі і латышскімі ўладамі не існавала праблем. Прынамсі, частка латвійскіх палітычных элітаў была схільная бачыць у беларускім руху праявы сепаратызму. У 1924–1925 г. адбыўся г.

[4] Тамсама. S. 177.

[5] Gierowska-Kałłaur J. Stosunek państwa łotewskiego do miejscowych Polaków i Białorusinów w początkach niepodległości łotewskiej // Studia z dziejów Rosji i Europy Wschodniej. 2011. T. 46. S. 181–216.

зв. беларускі працэс, пад час якога шматлікія лідары беларускага жыцця Латвіі апынуліся на лаве падсудных у сувязі з абвінавачваннем у сепаратысцкай дзейнасці. Урэшце ўдзельнікаў працэсу апраўдалі, хоць справа стварыла непрыемную атмасферу вакол беларускай дзейнасці ў гэтай краіне. Нягледзячы на згаданыя эксцэсы, стаўленне ўладаў да мясцовага беларускага руху да сярэдзіны 1930-х г. было памяркоўнае і лагоднае. Беларускія арганізацыі і ўстановы мелі разнастайныя магчымасці развіцця, якія гарантавала ім дэмакратычнае заканадаўства[6].

Характэрнай рысай беларускага руху ў Латвіі была практычная адсутнасць мясцовай інтэлігенцыі. Ролю заваадатараў і рухавікоў нацыянальнага жыцця выконвала нешматлікая група былых дзеячоў БНР, якія апынуліся ў Латвіі. Сярод іх варта ўзгадаць Кастуся Езавітава, Андрэя Якубецкага, Уладзіміра Пігулеўскага, Івана Краскоўскага, Паўліну Мядзёлку, Сяргея Сахарава і іншых. Не хапала дасведчаных дзеячоў, загартаваных у адраджэнскай працы. Дзямідаў аказаўся вельмі каштоўным набыткам для мясцовага беларускага руху. У Латвіі выявіліся яго выдатныя арганізацыйныя і педагагічныя здольнасці. Факты сведчаць самі пра сябе. Спачатку (студзень – верасень 1923 г.) Дзямідаў працаваў настаўнікам у беларускай пачатковай школе ў Пустыні. У ліпені 1923 г. яго выклікаў Беларускі школьны аддзел у Рыгу з мэтай арганізацыі ў горадзе 1-й беларускай пачатковай школы (на Маскоўскім фарштаце), дырэктарам якой ён стаў. Як адзначае К. Езавітаў, адкрыццё школы аказалася нечаканым поспехам для беларускай грамадскасці – у розныя класы запісалася каля 150 вучняў[7]. У хуткім часе Дзямідаў арганізаваў у латвійскай сталіцы 2-ю беларускую асноўную школу (на Чырвонай Дзвіне), а таксама вячэрнюю школу для дарослых. Акрамя педагагічнай дзейнасці

[6] Гл.: Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах // Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Мінск, 2001. С. 76–93.

[7] Езавітаў К. Беларусы ў Латвіі. Рыга, 1927 [перадрук: Нью-Ёрк – Мінск, 2013]. С. 104.

Дзямідаў разгарнуў актыўную грамадскую працу[8]. Дзякуючы яго намаганням у снежні 1924 г. у Рызе пачало дзейнічаць культурна-асветнае таварыства “Беларуская хата”, якое мела свае філіі ў Дзвінску, Люцыне і Лібаве. У 1930-я г. колькасць сяброў таварыства дасягнула больш як 600 чалавек. Вялася праца па стварэнні бібліятэк, хораў, аркестраў. Дзямідаў увайшоў у гісторыю як першы і шматгадовы кіраўнік гэтай арганізацыі. У 1926–1927 г. выконваў абавязкі кіраўніка 2-гадовых летніх курсаў для беларускіх настаўнікаў, якія адбываліся ў Рызе. Выкладаў гісторыю беларускай літаратуры, дашкольнае выхаванне, методыку выкладання польскай мовы і школьную справу. У 1927 г. Дзямідаў увайшоў у склад кіраўніцтва Беларускага тэатральнага таварыства ў Латвіі, а з 1930 г. пачаў рэдагаваць часопіс “Школа і жыццё”. Грамадскую працу ў беларускіх арганізацыях удала спалучаў з асабістымі зацікаўленнямі. Акрамя гэтага, удзельнічаў у рэлігійным жыцці. Вядома, што Дзямідаў быў псаломшчыкам у пакроўскай праваслаўнай царкве Рыгі[9].

Дзямідаў браў таксама ўдзел у палітычным жыцці беларусаў Латвіі. Пад час выбарчай кампаніі ў латвійскі парламент у 1928 г. у беларускім лагеры назіраўся падзел на прыхільнікаў супрацоўніцтва з латвійскімі сацыял-дэмакратамі (У. Пігулеўскі) і з незалежнымі сацыялістамі (К. Езавітаў). Дзямідаў падтрымаў першых. Нейкі час ён нават быў сябрам Латвійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (ЛСДРП). Каб дыскрэдытаваць свайго апанента, Дзямідаў абвінаваціў Езавітава ў тым, што ён у 1919 г. нібыта выдаў загад аб расстрэле рабочых у Гародні[10]. З цягам часу палітычныя падзелы ў беларускім лагеры рабіліся ўсё больш відавочнымі. Безумоўна, унутраныя

8 Сахараў С. 25 год вучыцельскае працы М. І. Дзямідава // Сахарава В., Сахараў С. Выбраныя творы; аўт. прадмовы М. Казлоўскі. Мінск, 2015. С. 165–166.

9 Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах… С. 76–93.

10 Екабсонс Э. Выходцы с Гродненщины в общественно-политической жизни белорусов Латвии в 20–30-е г. XX в. / Культура Гродзенскага рэгіёну: праблемы развіцця ва ўмовах поліэтнічнага сумежжа. Гродна, 2003. С. 154.

спрэчкі мясцовых дзеячоў не спрыялі кансалідацыі беларускага руху ў Латвіі. Варожыя бакі не ўстрымліваліся ад узаемных абвінавачванняў на старонках уласнай прэсы. Адбывалася таксама змаганне за ўплывы ў грамадскіх арганізацыях. У 1934 г. Дзямідаў быў вымушаны пакінуць управу Беларускага тэатральнага таварыства, бо ў яго складзе пачалі дамінаваць прыхільнікі К. Езавітава[11].

Нягледзячы на значную актыўнасць Дзямідава ў арганізацыйным і грамадска-палітычным жыцці латвійскіх беларусаў у 1920-я г., нельга ў гэты час лічыць яго адным з кіраўнікоў беларускага руху Латвіі. Невыпадкова прозвішча Дзямідава рэдка з'яўлялася ў мясцовай беларускай прэсе, а яго актыўнасць абмяжоўвалася беларускай калоніяй у латвійскай сталіцы, тым часам як асноўныя падзеі беларускага жыцця адбываліся ў Латгаліі. Сітуацыя пачала мяняцца з пачаткам 1930-х г. З назіранняў Амбасады Польшчы ў Рызе, супрацоўнікі якой сачылі за настроямі латвійскіх беларусаў, вынікала, што на пачатку 1930-х г. цэнтрам мясцовага беларускага руху была Рыга, дзе існавалі тры асноўныя групоўкі, якія вялі паміж сабою змаганне: 1) сацыял-дэмакраты на чале з У. Пігулеўскім, 2) незалежныя сацыялісты і камуністы з К. Езавітавым у якасці правадыра і 3) група "беспартыйных" Дзямідава. Праўда, падкрэслівалася, што апошняя плынь была нешматлікай і найменш уплывовай[12].

У траўні 1934 г. у Латвіі адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўлада апынулася ў руках аўтарытарнага рэжыму на чале з Карлісам Ульманісам. Пераварот выклікаў змены палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Узмацнілася акцыя "латышызацыі", якая прадугледжвала выцісканне не-латышоў з розных сфер жыцця. Неўзабаве сітуацыя беларусаў пагоршылася. Многія грамадскія арганізацыі былі дэлегалізаваны. Новы закон аб мовах уводзіў абмежаванні ўжывання нацыянальных моў у дзяржаўных установах і органах самакіравання.

[11] Екабсонс Э. Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах… С. 76–93.

[12] Archiwum Akt Nowych [AAN; Архіў новых актаў]. Sygn.: MSZ. T. 5328. K. 37–45.

Распачаўся наступ на школьніцтва, што выклікала змяншэнне колькасці школ для прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў[13]. Тым не менш, пазіцыя Дзямідава ў параўнанні з іншымі правадырамі латвійскіх беларусаў была моцнай. У новых умовах Дзямідаў працягваў займацца арганізацыйнай і педагагічнай дзейнасцю. Асноўнай крыніцай прыбытку ў гэты час была настаўніцкая пенсія, якую ён атрымліваў ад 1 жніўня 1935 г. Акрамя таго, у 1934/35 г. ён працаваў настаўнікам усеагульнай гісторыі і гісторыі Беларусі ў рыжскай прыватнай вячэрняй гімназіі імя Ф. Скарыны, якая дзейнічала пры Беларускім настаўніцкім таварыстве. Пасля дэлегалізацыі ўладамі большасці беларускіх арганізацый у другой палове 1930-х г. дзейнічала толькі Беларускае настаўніцкае таварыства, кіраўніком якога быў менавіта Дзямідаў. Арганізацыя ўваходзіла ў склад Латвійскага настаўніцкага хаўрусу і ў лютым 1939 г. налічвала 71 чалавек сяброў. У 1939 г. група, засяроджаная вакол Дзямідава (П. Мірановіч, Мяжэцкі і інш.), зрабіла спробу выдання штомесячніка "Жыццё беларусаў у Латвіі".

Як бачым, змены, што адбыліся ў дзяржаўнай палітыцы пасля травеньскага перавароту, у найменшай ступені закранулі Дзямідава і яго паплечнікаў. Гэта было абумоўлена шэрагам прычын. Рэпрэсіі і пераслед з боку новых уладаў былі накіраваны перадусім супраць асобаў, звязаных з сацыялдэмакратамі і іншымі левымі плынямі, якія лічыліся галоўнымі палітычнымі апанентамі Ульманіса. Так, напрыклад, У. Пігулеўскі і К. Езавітаў у выніку змены палітычнай сітуацыі засталіся без працы. Тым часам на момант перавароту Дзямідаў не належаў да прыхільнікаў левых партый (яшчэ ў 1928 г. ён выйшаў з ЛСДРП). Была і яшчэ адна важкая прычына, якая тлумачыць лагоднае стаўленне ўладаў да Дзямідава. З архіўных крыніц вынікае, што ў перыяд з 1934 да 1939 г. ён супрацоўнічаў з латвійскай палітычнай паліцыяй. Паслугі, якія беларускі дзеяч выконваў для паліцыі, можна акрэсліць як інфармаванне пра настроі, што

[13] Łossowski P. Kraje bałtyckie na drodze od demokracji parlamentarnej do dyktatury: 1918–1934. Wrocław, 1972. S. 253–254, 261–263.

панавалі сярод латвійскіх беларусаў, пра дзейнасць таварыства “Беларуская хата” і Таварыства беларускіх настаўнікаў. Апрача таго, Дзямідаў перадаваў паліцыі звесткі пра актыўнасць беларускіх цэнтраў па-за межамі Латвіі. Так, напрыклад, латвійскай паліцыі было вядома пра дзейнасць Вячаслава Адамовіча (Дзергача), які жыў у Данцыгу і на пачатку 1930-х г., па словах Дзямідава, звярнуўся да кіраўнікоў латвійскіх беларусаў з прапановай наладзіць супрацоўніцтва. Непасрэдны кантакт Дзямідава з паліцыяй адбываўся праз Віктара Корці[14], сакрэтнага агента паліцыі, які быў адказны за вярбоўку інфарматараў і кіраваў іх сеткай. Верагодна, што Дзямідаў быў завербаваны паліцыяй менавіта пры пасярэдніцтве Корці. Праз недахоп адпаведных крыніц цяпер цяжка вызначыць, на якіх дакладна ўмовах працаваў Дзямідаў. Паводле сведчанняў Корці, Дзямідаў не належаў да штатных агентаў паліцыі і не атрымліваў штомесячнага заробку, не меў таксама агентурнай мянушкі. Разам з тым ён быў добра вядомы кіраўніцтву палітычнай паліцыі як інфарматар па беларускіх справах. Вядома, што ўзамен за інфармацыю пра беларускія справы Корці аказаў Дзямідаву шэраг паслуг. З дапамогай Корці Дзямідаву ўдалося атрымаць паліцэйскую даведку аб палітычнай добранадзейнасці, якая была яму патрэбна пры афармленні пенсіі. Кантакты з палітычнай паліцыяй выкарыстоўваліся таксама пад час працы ў беларускіх арганізацыях. Дзямідаў паспяхова хадайнічаў перад Корці аб прыёме на працу некаторых беларускіх настаўнікаў, а таксама аб зацвярджэнні ўладамі новага статуту Беларускага настаўніцкага таварыства[15].

[14] Віктар Корці (9.3.1900, Рыга – 1942). У 1920-я г. удзельнічаў у арганізацыйным жыцці латвійскіх беларусаў. Да 1925 г. быў сябрам управы культурна-асветнага таварыства “Бацькаўшчына” і настаўнікам у Дзвінскай беларускай гімназіі. У 1924 г. часова арыштаваны латвійскімі ўладамі, праходзіў па “беларускім працэсе”. Пазней не ўдзельнічаў у дзейнасці беларускіх арганізацый. Падтрымліваў адносіны з расійскімі эмігрантамі. У 1930–1931 г. супрацоўнічаў з расійскім эміграцыйным выданнем “Сегодня”. Быў штатным супрацоўнікам палітычнай паліцыі, збіраў звесткі пра дзейнасць польскай і беларускай меншасці.

[15] Latvijas Valsts arhīvs (далей LVA). F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88–97.

Кантакты Дзямідава з уладамі былі настолькі відавочнымі, што напярэдадні Другой сусветнай вайны ён быў вядомы ў беларускім асяроддзі як лідар беларусаў, лаяльных да рэжыму Ульманіса. Яго “суперлаяльнасць” была недаспадобы большасці беларускіх дзеячоў у Латвіі і за яе межамі. Іншыя кіраўнікі латвійскіх беларусаў ставіліся да яго асобы з недаверам і насцярожанасцю. Вось якім чынам супрацоўнікі польскай амбасады характарызавалі адносіны паміж мясцовым беларускім актывам напярэдадні Другой сусветнай вайны: “Дзямідаў, беспартыйны, лаяльны ў адносінах да Латвіі, намагаецца фарсіраваць кірунак латвійска-дзяржаўніцкі і выкарыстоўвае дзеля гэтай мэты адзіную беларускую арганізацыю Настаўніцкі саюз. У сувязі з гэтым як Пігулеўскі, гэтак і Езавітаў намагаюцца ў вачах беларусаў здыскрэдытаваць яго як латышскага агента”[16].

Тым часам у свеце наспявалі грунтоўныя змены, у адносінах да якіх беларускі нацыянальны лагер мусіў выпрацаваць уласную пазіцыю. Трэці Рэйх праяўляў штораз большую актыўнасць на міжнароднай арэне, над Еўропай навісла пагроза новай вайны. 29 снежня 1938 г. да беларускіх дзеячоў у Латвіі звярнуўся старшыня Рады БНР Васіль Захарка, які заклікаў суродзічаў да актывізацыі дзейнасці, а таксама да пошуку ў сваіх шэрагах аўтарытэтных асоб, здольных узяць на сябе цяжар арганізацыйнай і нацыянальнай працы ў сувязі з надыходам пэўных зменаў у свеце[17]. З мэтай пераадолення ўнутраных рознагалоссяў сярод лідараў латвійскіх беларусаў у лютым 1939 г. у Рыгу завітаў Янка Станкевіч. Пад час перамоваў з мясцовым беларускім актывам Станкевіч прапагандаваў ідэю аб’яднання ўсіх беларускіх сіл у еўрапейскіх дзяржавах[18]. На прыезд польскага грамадзяніна Я. Станкевіча ў латвійскую сталіцу пільную ўвагу звярнулі польскія дыпламаты ў Рызе. У выніку быў нават створаны адмысловы рапарт, у якім досыць падрабязна асвятлялася знаходжанне віленскага беларускага дзеяча ў Латвіі. На падставе гэтага дакумента

16 AAN. Sygn.: MSZ. T. 5328. K. 37–45.
17 Тамсама.
18 Тамсама.

можа скласціся пэўнае ўяўленне пра змест размоваў Станкевіча з лідарамі латвійскіх беларусаў: «Станкевіч прыбыў у Рыгу 9.ІІ. разам з экскурсіяй “Орбіса”. Пра ягоны прыезд былі загадзя папярэджаны два тутэйшыя лідары Пігулеўскі і Езавітаў. Езавітаў паінфармаваў пра гэта трэцяга з лідараў Дзямідава, прапануючы яму зладзіць сустрэчу. Той жа рух зрабіў Пігулеўскі за пасярэдніцтвам кіраўніка школы ў Рызе Сыцька. Адмысловага павітання Дзямідаў, аднак, не зрабіў, выйшаў сам на вакзал, забіраючы Станкевіча на сваю прыватную кватэру. Пра свой прыезд Станкевіч паведаміў праз тэлефон Езавітава, які адразу ж параіў яму не заставацца даўжэй у гасцёх у Дзямідава і спыніцца ў гатэлі, паколькі ў адваротным выпадку “Дзямідаў будзе кантраляваць усе размовы”. Станкевіч прыслухаўся да парадаў Езавітава. С.[танкевіч] наведаў таксама Пігулеўскага. У міжчасе Станкевіча наведаў шэраг беларускіх настаўнікаў. Увечары наступнага дня Станкевіч накіраваўся да Дзямідава, якога пераконваў, каб той дыстанцыяваўся ад усялякай грамадска-палітычнай дзейнасці. 10 лютага ў час паседжання настаўніцкага саюзу Станкевіч абвінаваціў Дзямідава ў парушэнні дысцыпліны і нішчэнні лініі “адзінага беларускага фронту”, у сувязі з чым Дзямідаў з плачам апраўдваўся. Трэцяя размова на гэты ж конт адбылася 11 лютага. Пад час той размовы Станкевіч інструктаваў, якую тактыку павінны абраць беларусы ў адносінах да латышоў. На самай справе словы Станкевіча былі выразным абвінавачваннем Дзямідава. Ён звярнуў увагу на тое, што нешматлікая інтэлігенцыя не павінна раздрабняць свае сілы, а наадварот мусіць гуртавацца вакол асобы “фюрэра”. За такога С.[танкевіч] лічыць Пігулеўскага, на думку Станкевіча, чалавека з вялікім досведам і тактам, былога дэпутата, г. зн. вядомага чалавека (трэба дадаць, што Пігулеўскі трапіў у сойм дзякуючы галасам не беларусаў, а сацыял-дэмакратаў пры падтрымцы камуністычных сфер). Станкевіч пакінуў Рыгу 12 лютага”[19]. Праз адсутнасць адпаведных крыніц цяпер складана вызначыць, наколькі змест рапарта адпавядаў рэчаіснасці. Больш за тое, польскі бок

[19] AAN. Sygn.: MSZ. T. 5328. K. 48–50.

вельмі скептычна і крытычна ставіўся да беларускага руху ў Латвіі, які лічыўся цалкам "штучнай з'явай". Пагардлівае стаўленне да беларусаў знайшло адлюстраванне ў цытаваным рапарце. Варта, аднак, адзначыць, што польская амбасада мела сярод беларускіх актывістаў уласную крыніцу інфармацыі. Так ці інакш неаспрэчны факт, што стаўленне У. Пігулеўскага і К. Езавітава да М. Дзямідава ў разглядданы час не было пазбаўлена недаверу.

Поспехі III Рэйха на міжнароднай арэне напрыканцы 1930-х г. выклікалі сярод беларускіх дзеячоў узмацненне пранямецкіх настрояў, што можна было адчуць таксама сярод беларусаў Латвіі[20]. Складана адназначна адказаць на пытанне, калі менавіта адбыліся першыя кантакты паміж Берлінам і мясцовым беларускім актывам. Паводле непацверджаных інфармацый яшчэ ў 1934 г. адбылася спроба нямецкіх вайсковых колаў усталяваць сувязь з лідарамі беларускага руху ў Латвіі[21]. Магчыма, у гэтым варта шукаць пачаткі чынных кантактаў латвійскіх беларусаў з немцамі. У гэтых кантактах Дзямідаў адыграў ці не асноўную ролю. Вядома, што ён падтрымліваў знаёмства з праф. Яўгенам фон Энгельхардам, дарадцам па беларускіх справах у Замежным аддзеле НСДАП, якім кіраваў Альфрэд Розенберг. Па даручэнні свайго кіраўніцтва Энгельхард напярэдадні Другой сусветнай вайны неаднаразова наведваў Латвію і вёў перамовы з мясцовым беларускім актывам. У 1938 г. Дзямідаў двойчы сустрэўся з латгальскім немцам, які прапанаваў яму наведаць Нямеччыну[22]. Можна меркаваць, што пытанне адносна стаўлення да Нямеччыны

[20] Тамсама. К. 52.

[21] Пад час допытаў у турме НКДБ Дзямідаў і Корці ўзгадвалі нейкага Зісмеля, афіцэра нямецкага Генштаба, які жыў у Кёнігсбергу. Гэты чалавек у 1934 г. меўся накіраваць ліст да лідараў латвійскіх беларусаў, у якім пераконваў, што Нямеччына будзе спрыяць беларускаму руху. Паводле слоў Дзямідава, Езавітаў лічыў неабходным па тактычных меркаваннях падтрымліваць кантакты з немцамі. Гэтыя звесткі пакуль немагчыма верыфікаваць. Беручы, аднак, пад увагу акалічнасці, у якіх была атрымана інфармацыя, ставіцца да яе трэба асцярожна. LVA. F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88–97.

[22] LVA. F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88-97.

закраналася пад час вышэйзгаданай сустрэчы латвійскіх беларусаў з Я. Станкевічам у лютым 1939 г. На карысць дадзенага сцвярджэння можа сведчыць факт, што віленскі дзеяч наведаў Рыгу па просьбе Захаркі, які тады ўжо зрабіў стаўку на Берлін[23]. У чэрвені 1939 г. у Данцыгу адбылася нарада беларускіх дзеячоў з розных краін, на якой прысутнічалі прадстаўнікі нямецкіх палітычных колаў і разведкі. Паводле непацверджаных дадзеных, у гэтай сустрэчы ўдзельнічалі два прадстаўнікі латвійскіх беларусаў – Езавітаў і Дзямідаў. Прысутная меліся стварыць камітэт. Акрамя таго, вынікам нарады нібыта было выданне дэкларацыі, якая пацвярджала арыентацыю беларускіх дзеячоў на Берлін[24]. На дадзены момант складана пацвердзіць удзел у гэтым мерапрыемстве беларусаў з Латвіі. Варта таксама дадаць, што некаторыя даследчыкі нават ставяць пад сумнеў характар дынцыгскай нарады[25].

8 ліпеня 1939 г. Дзямідаў прыехаў у Берлін[26]. Афіцыйна паездка ў нямецкую сталіцу мела акадэмічны характар. Па прапанове Энгельхарда Дзямідаў меўся чытаць лекцыі пра беларускае адраджэнне. На самай справе беларускі дзеяч намагаўся наладзіць шчыльнае супрацоўніцтва з тамтэйшымі кіраўнікамі беларускага руху і нямецкімі дзяржаўнымі і вайсковымі ўстановамі, якія займаліся беларускімі пытаннямі. У прыватнасці, адбылася сустрэча

[23] Грыбоўскі Ю. Палітычная чыннасць Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі напярэдадні і ў гады Другой сусветнай вайны (1938–1943) // Гістарычны альманах. 2009. Т. 15. С. 118–127.

[24] Сакалоўскі У. Пачатак другой сусветнай вайны і беларуская эміграцыя (1938–1941) // Беларусь і Германія. Гісторыя і сучаснасць. Мінск, 2004. С. 176.

[25] Ю. Туронак лічыць, што на самай справе ў Данцыгу адбылася не нарада беларускага нацыянальнага актыву з розных краін, а сустрэча прадстаўнікоў НСДАП з групай беларускіх нацыянал-сацыялістаў на чале з Ф. Акінчыцам, які намагаўся надаць гэтай падзеі ранг значна большы, чым яна была ў сапраўднасці. Turonek J. Działalność grupy Fabiana Akinczyca (1939–1943) // Białoruś w XX stuleciu w kręgu kultury i polityki; red. D. Michaluk. Toruń, 2007. S. 400.

[26] Сакалоўскі У., Ляхоўскі У. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух напярэдадні й у першыя гады Другой Сусьветнай Вайны // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2000. Z. 13. S. 10.

з правадыром беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіянам Акінчыцам і Анатолем Шкуткам. Пры пасярэдніцтве берлінскіх беларусаў Дзямідаў сустрэўся з праф. Герхардам фон Мэндэ, які ад 1937 г. узначальваў беларускую секцыю ў Нямецкім інстытуце даследаванняў замежных праблем Берлінскага ўніверсітэта. Па загадзе нямецкага кіраўніцтва гэты чалавек ажыццяўляў кантакты з беларускім актывам. Паводле сведчанняў самога Дзямідава, меркавалася таксама сустрэча з А. Розенбергам, якая, аднак, не адбылася. Пад час размоў з прадстаўнікамі беларускай дыяспары абмяркоўвалася пытанне наконт беларускіх паўгадзінных радыёперадач на нямецкіх хвалях, адкрыцця беларускага народнага ўніверсітэта для беларускіх эмігрантаў у Нямеччыне, а таксама ўладкавання беларускай моладзі ў нямецкіх ВНУ. Можна меркаваць, што ўражанні Дзямідава наконт Акінчыца не былі найлепшымі.

На пазнейшых допытах у савецкай турме Дзямідаў сведчыў: “Пад час майго прыезду Акінчыц, сабраўшы разам Шкутку, мяне, Бароўскага, спрабаваў гэтую сустрэчу і гэтую размову аформіць як афіцыйную нараду і нават спрабаваў пісаць пратакол, які я павінен быў падпісаць як прадстаўнік латвійскіх беларусаў, Бароўскі – як прадстаўнік эмігрантаў-беларусаў у Нямеччыне, Шкутка – як прадстаўнік беларусаў у Польшчы, але з гэнай задумы нічога не выйшла, бо ўсе адмовіліся ад подпісу і ад пратаколавання. Я лічу, што гэты пратакол быў патрэбны Акінчыцу дзеля таго, каб перадаць яго нямецкім уладам з мэтай атрымання грошай”[27]. Існуюць звесткі пра тое, што Абвер даручыў Дзямідаву завербаваць на выезд у Нямеччыну 2 тыс. грамадзян польскай дзяржавы, якія знаходзіліся ў Латвіі ў якасці сезонных сельскагаспадарчых работнікаў. Нямецкі бок меў намер накіраваць гэтых людзей у дыверсійныя школы з мэтай пазнейшага выкарыстання іх у час ваеннай кампаніі супраць Польшчы[28]. Аналіз

[27] LVA. F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88–97.

[28] Сакалоўскі У., Ляхоўскі У. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух… S. 10.

архіўных матэрыялаў дазваляе пацвердзіць удзел Дзямідава ў згаданым мерапрыемстве. Праўда, невядомым застаецца колькасць заходнебеларускіх сялян, якія такім чынам маглі трапіць з Латвіі ў Трэці Рэйх. З упэўненасцю можна адзначыць, што вярбоўка значнай колькасці добраахвотнікаў была немагчымай, паколькі выезд мог адбыцца толькі на падставе адпаведнага дазволу латвійскіх уладаў. Пазней Дзямідаў адзначаў, што ў 1939 г. яму ўдалося выслаць у Нямеччыну толькі 4 асобы[29]. Гэта былі людзі, якія знаходзіліся ў 20-асабовым спісе, падрыхтаваным паплечнікам Акінчыца Аляксадрам Крытам і перададзеным Дзямідаву, які, у сваю чаргу, звярнуўся да латвійскіх уладаў з запытам аб выданні дазволу на іх выезд за мяжу. Пры гэтым ён паінфармаваў латышоў аб тым, што гэта беларускія студэнты, якія хочуць распачаць навучанне ў нямецкіх ВНУ. Невядомы далейшы лёс гэтых людзей. Але варта дадаць, што ў 1939 г. дзякуючы намаганням згаданага праф. Мэндэ нямецкі бок прызначыў шэраг стыпендый для беларускай моладзі ў Берлінскай Палітэхніцы[30]. Аб кантактах Дзямідава з нямецкімі беларусамі было добра вядома латвійскай палітычнай паліцыі, бо пра свае дзеянні беларускі дзеяч інфармаваў Корці[31].

Дзейнасць Дзямідава ў беларускіх арганізацыях у Латвіі працягвалася да лета 1940 г., калі незалежная латвійская дзяржава спыніла сваё існаванне і была інкарпаравана ў склад СССР. Савецкія карныя органы ведалі пра сувязь беларускага дзеяча з латвійскай “палітахранкай” і нямецкай разведкай. У сувязі з гэтым ужо 10 жніўня 1940 г. Дзямідаў быў арыштаваны органамі НКДБ і змешчаны ў рыжскую турму. Супраць яго пачалі следства. Дзямідаў не адзіны беларускі дзеяч у Латвіі, які быў арыштаваны, хоць савецкія рэпрэсіі 1940–1941 г.

[29] Адсутнічаюць звесткі адносна таго, кім былі гэтыя людзі. Вядома, што ў гэты час з Латвіі ў Нямеччыну выехаў Баніслаў Даніловіч, які пазней уступіў у беларускую дыверсійную адзінку (т. зв. 1-ы Беларускі штурмовы звяз), якую фармаваў Абвер.

[30] AAN. Sygn. 477, t. 5328. K. 50.

[31] LVA. F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88–97.

закранулі мясцовых беларусаў у меншай ступені параўнальна з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў[32]. Спачатку справа Дзямідава разглядалася разам са справамі двух іншых колішніх канфідэнтаў латышскай палітычнай паліцыі – беларуса Віктара Корці і паляка Станіслава Фінчара. У снежні 1940 г. справы ўсіх траіх былі аб'ядналыя ў адну пад нумарам 398. 26 снежня 1940 г. адбылася вочная стаўка Дзямідава і Корці, пад час якой першы пацвердзіў, што ён свядома супрацоўнічаў з латвійскай "палітахранкай", інфармуючы яе пра настроі сярод латвійскіх беларусаў, а таксама пра свае кантакты з беларускім актывам у іншых краінах. Разам з тым Дзямідаў сцвярджаў, што не браў грошай за свае паслугі, а толькі часам "пазычаў" у Корці пэўныя сумы, а таксама быў запрашаны ім у рэстаран, дзе за кошт суразмоўцы частаваўся віном.

3 сакавіка 1941 г. у 4-м Аддзеле 3-га Упраўлення НКДБ СССР было вырашана правесці ў адносінах да Дзямідава шэраг следчых мерапрыемстваў, не звязаных са справамі Корці і Фінчара, у сувязі з чым назапашаныя на яго следчыя матэрыялы былі вылучаны ў асобнае справаводства, а ён сам пераведзены на Лубянку. У Маскве таксама апынуліся следчыя матэрыялы ў дачыненні да Дзямідава ў перыяд яго знаходжання ў рыжскай турме, а менавіта: тэксты допытаў ад 20 і 22 жніўня, 23 верасня, 23–26 кастрычніка 1940 г.; уласнаручныя паказанні ад 20 і 22 кастрычніка 1940 г.[33]. На жаль, дасюль даследчыкі не выявілі гэтых, а таксама іншых следчых матэрыялаў, якія дазволілі б прасачыць падрабязны ход следства супраць Дзямідава. Але ёсць сведчанні вязняў, якія могуць даць нам пэўнае ўяўленне наконт таго, што адбывалася з беларускім дзеячом у час яго знаходжання на Лубянцы. Вядома, што пэўны час Дзямідаў дзяліў адну камеру з генералам Уладыславам Андэрсам. Ужо пасля вайны генерал пісаў пра беларуса наступнае: "Мушу адзначыць, што маю пра

[32] Jēkabsons Ē. Padomju represijas pret Latvijas poliem, lietuviešiem, un baltkrieviem 1940. – 1941 gadā // Totalitārie režīmi in to represijas Latvijā 1940. – 1956. gada. Ryga, 2007. S. 51–70.

[33] LVA. F. 1986. Apr. 2. P-10551. Lp. 88–97.

яго як мага найгоршае меркаванне. Не толькі я, але і многія вязні ў камеры былі перакананыя, што сп. Дзямідаў даносіў пра ўсе размовы ў НКУС. Вяртаючыся са следства, заўсёды прыносіў з сабой папяросы і яблыкі, што з нікім ніколі не здаралася. Шматразова таксама падкрэсліваў, што заўсёды супрацоўнічаў і меў кантакты з саветамі. Я глыбока перакананы, што так было, зрэшты, дакладна ведаю, што ён быў вызвалены з турмы пасля таго, як пачалася нямецка-савецкая вайна. Гэта апошні чалавек, да якога, на маю думку, можна мець давер"[34]. Генерал не меў асабістых канфліктаў з Дзямідавым, таму можна лічыць яго меркаванне дастаткова аб'ектыўным. Зрэшты, няма падставаў, каб ставіць пад сумнеў факт супрацоўніцтва Дзямідава з савецкімі карнымі органамі. Пацвярджае гэта таксама факт, што 22 сакавіка 1941 г. следства ў адносінах да Дзямідава цалкам спынілі, а ён сам 10 чэрвеня быў вызвалены з-пад варты і вярнуўся ў Рыгу. Тым часам астатніх фігурантаў справы пазней расстралялі. Нягледзячы на гэта, да супрацоўніцтва Дзямідава з савецкімі органамі дзяржбяспекі неабходна ставіцца з асцярожнасцю і развагай. Трэба памятаць, што згода на супрацоўніцтва не вынікала з палітычных ці ідэалагічных перакананняў, а была вынікам прымусу і ціску на яго з боку функцыянераў апарату бяспекі. Дзямідаў не быў адзіным беларускім дзеячом, якога напаткаў падобны лёс. Варта прыгадаць Франца Кушаля, які як польскі афіцэр у верасні 1939 г. у Львове трапіў у савецкі палон і пад час знаходжання ў Старабельскім лагеры ваеннапалонных быў вымушаны пагадзіцца на супрацоўніцтва з НКУС[35]. Бясспрэчна, што савецкія функцыянеры намагаліся выкарыстаць Дзямідава для распрацоўкі беларускага нацыянальнага актыву. Але даступны архіўны матэрыял не дае адказу на пытанне наконт наступстваў дзейнасці Дзямідава як савецкага агента. Верагодна, што кантакты

[34] Юрэвіч Л. Шматгалосы эпісталярыум. Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 483.

[35] Гл.: Grzybowski J. Franciszek Kuszel – białoruski działacz wojskowy i polityczny. Stara biografia w świetle nowych faktów // Acta Albaruthenica. 2013. T. 13. S. 275–292.

Дзямідава з савецкімі спецслужбамі мелі непрацяглы характар і былі спынены з пачаткам нямецка-савецкай вайны ў чэрвені 1941 г. На дадзены момант нічога не вядома пра сувязь беларускага дзеяча з савецкай разведкай у перыяд нямецкай акупацыі.

У чэрвені 1941 г. у выніку маланкавага наступу Вермахта балтыйскія рэспублікі апынуліся пад нямецкім кантролем. Ва ўмовах новай акупацыі з'явілася магчымасць ажыўлення беларускай дзейнасці ў Латвіі. Галоўным чыннікам, які спрыяў большай актыўнасці беларускага жыцця, была адпаведная палітыка акупантаў у дачыненні да мясцовых беларусаў, якую абумоўлівалі наступныя акалічнасці. Па-першае, існавалі нацысцкія планы падрыхтоўкі балтыйскіх краін да ўключэння іх у склад III Рэйха і германізацыі тых абшараў. Паводле гэтай канцэпцыі латышы і літоўцы павінны былі асімілявацца, тым часам як славянскаму насельніцтву адмаўлялася ў праве быць часткай “арыйскага народа”. У будучыні тутэйшых славян чакала высяленне на ўсход. У дэкрэце рэйхскамісара “Усход” ад 27 ліпеня 1942 г., які датычыў нацыянальнай справы ў Прыбалтыцы, чытаем: “нельга асіміляваць рускіх і беларусаў, бо 1) сапсуецца кроў народаў, якія будуць уключаны ў склад Рэйха, 2) трэба лічыцца з тым, што беларусы з Прыбалтыкі будуць перасяленыя ў сапраўдную Беларусь <…> Існуе небяспека, што праз асіміляцыю рускіх і беларусаў малакаштоўныя расавыя элементы потым трапяць у нямецкі народ”[36]. Па-другое, акупанты прытрымліваліся прынцыпу “падзяляй і ўладар”. Акупацыйная палітыка мела на мэце недапушчэнне стварэння буйных аднародных у нацыянальным сэнсе груп. Замест гэтага бачылася карысным для Трэцяга Рэйха наяўнасць на акупаваным абшары як мага больш дробных груп, якія не стваралі б пагрозы нямецкім інтарэсам. Апрача таго, пэўныя саступкі на карысць беларусаў тлумачыліся жаданнем аслабіць мясцовы польскі элемент, а таксама супрацьдзейнічаць празмернай актыўнасці латышоў. У згаданым дакуменце звярталася ўвага на тое, што наданне

[36] AAN. Sygn.: T-454, 88/001057–58.

мясцовым беларусам і рускім пэўнай культурна-асветнай аўтаноміі спрычыніцца да ўзмацнення сярод іх пранямецкіх настрояў, тым часам як з-за магчымай дыскрымінацыі з боку тытульных нацый яны маглі б падпасці пад бальшавіцкую прапаганду. Беручы пад увагу ўсе вышэйзгаданыя акалічнасці, лічылася неабходным нацыянальную палітыку на акупаваных абшарах ні ў якім выпадку не перадаваць мясцовым прыбалтыйскім адміністрацыям, а моцна трымаць у нямецкіх руках[37]. Дырэктывы Міністэрства акупаваных усходніх абшараў загадвалі ахоўваць тутэйшых беларусаў і рускіх ад асіміляцыйных тэндэнцый з боку латышоў, якія маглі адбывацца праз школу, урадавыя ўстановы і царкву. Адным з галоўных сродкаў захавання этнічнай адрознасці мясцовага нелатышскага насельніцтва было ўтрыманне ў акупаванай Латвіі пэўнай школьнай і моўнай аўтаноміі[38]. Разам з тым утрыманне гэтай аўтаноміі не азначала палітычнай падтрымкі для нацыянальных меншасцяў, а разглядалася выключна як сродак ізалявання гэтых "расава непажаданых" груп ад больш вартаснай у гэтым сэнсе тытульнай нацыі. Таму неабходна было сачыць за тым, каб моўныя ўплывы нацменшасцяў не ўздзейнічалі на латышоў. На практыцы гэта азначала, што дзеці латышоў мусілі хадзіць у латвійскія школы, а дзеці беларусаў – у беларускія[39].

Безумоўна, мясцовыя беларускія дзеячы не маглі не выкарыстаць спрыяльнай бягучай сітуацыі для ўзмацнення ўласнай пазіцыі і фармавання сярод мясцовага насельніцтва адпаведнага нацыянальнага і палітычнага тылу. Таму не павінна здзіўляць, што ўжо 10 жніўня 1941 г. у Рызе быў скліканы Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) (ад сакавіка 1942 г. – Беларускае аб'яднанне). У правінцыі былі створаны яго прадстаўніцтвы. У арганізацыю ўваходзілі галоўным чынам прадстаўнікі ін-

[37] Bundesarchiv, Berlin-Lichterfelde Ost (BA; Федэральны архіў ФРГ, Ліхтэрфэльдэ Ост). R6/159. Арк. 45–46.

[38] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 975. Арк. 197.

[39] BA. R6/159. Арк. 66–67.

тэлігенцыі (пераважна настаўнікі)[40]. 26 верасня 1941 г. ініцыятыўная група прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі Латвіі звярнулася да генеральнага камісара Латвіі з мемарандумам, у якім акрэсліваліся асноўныя патрэбы беларускай меншасці: 1) легалізаваць Беларускі нацыянальны камітэт, 2) дазволіць стварэнне Беларускага нацыянальнага камітэта самадапамогі, 3) утрымаць наяўнае беларускае школьніцтва, а таксама прыступіць да адкрыцця новых школ у мясцовасцях з колькаснай перавагай беларускага насельніцтва, 3) адчыніць беларускую сярэднюю школу ў Індры, 4) распачаць працу беларускіх настаўніцкіх курсаў у Рызе ці Дзвінску, 5) у "беларускіх гмінах" на пасады пісараў і камендантаў самаахOвы прызначыць беларусаў[41].

Нямецкія ўлады былі схільныя пайсці насустрач некаторым жаданням беларускага боку. У выніку ў 1941–1942 г. утварыліся філіі Беларускага камітэта ў Рызе, Дзвінску, Краславе, Пасіене, Індры[42]. Ролю рухавіка беларускага руху выконвалі перадусім даваенныя беларускія дзеячы, якія жылі ў Латвіі. Дзямідаў таксама не мог застацца ў баку ад нацыянальна-арганізацыйнай працы. Яго прозвішча мы знаходзім у ліку падпісантаў названага звароту да нямецкай адміністрацыі. Спачатку ён узначаліў Беларускі нацыянальны камітэт у Дзвінску, а потым увайшоў у склад згаданага Беларускага камітэта ў Рызе. Прыярытэтам дзейнасці беларускага актыву было стварэнне і развіццё школьніцтва. Як дасведчаны настаўнік Дзямідаў узяў чынны ўдзел у школьнай працы. У лісце да кіраўніка аддзела асветы і культуры Генеральнай акругі Латвія прадстаўнікі беларускай супольнасці прасілі прызначыць Дзямідава на пасаду кіраўніка беларускай школы ў Індры замест Язэпа Клагіша, які па асабістых прычынах адмовіўся ад займанай пасады[43]. 8 кас-

[40] Екабсонс Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940–1945) // Беларускі Гістарычны Агляд. 2006. Т. 13. Сш. 2. С. 207.

[41] BA. R92/101. Арк. 59–63.

[42] Екабсонс Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай… С. 207.

[43] BA. R92/101. Арк. 69.

трычніка 1941 г. кіраўніцтва БНК прасіла дэлегаваць Дзямідава і Язэпа Камаршынскага ў Дзвінскую акругу з мэтай высвятлення сітуацыі, звязанай з магчымасцямі адкрыцця там беларускіх школ[44]. Ужо 24 кастрычніка 1941 г. нямецкія ўлады даручылі Дзямідаву справу арганізацыі беларускага школьніцтва ў Дзвінскай акрузе[45]. Імаверна, што згаданая намінацыя магла быць вынікам яго кантактаў з Берлінам, якія адбываліся напярэдадні нямецка-савецкай вайны.

28 кастрычніка 1941 г. Дзямідаў накіраваўся ў Індру, дзе пачаў стварэнне беларускай народнай школы. Неабходна адзначыць, што беларуская школьная праца ў Латвіі ў гады нямецкай акупацыі была плённай. Ужо ў 1941/42 навучальным годзе ў Генеральнай акрузе Латвія працавала 36 беларускіх народных (5- і 7-гадовых) школ, з якіх 15 прыпадала на Дзвінскі павет, дзе працаваў Дзямідаў[46]. У аўтабіяграфіі, якую ён падрыхтаваў для нямецкай адміністрацыі, Дзямідаў адзначаў, што яму ўдалося стварыць ажно 20 пачатковых школ і адну гімназію[47]. Дзейнасць беларускага настаўніка выклікала сур'ёзную трывогу латышскага боку. Кіраўнік латышскага школьнага аддзела ў лісце да Франца Адольфі не шкадаваў крытыкі на адрас беларускай школьнай справы ўвогуле і на адрас Дзямідава ў прыватнасці. Беларускага дзеяча абвінавачвалі ў шматлікіх злоўжываннях, мэтай якіх было ўцягненне дзяцей латышоў у беларускія школы. Асаблівы розгалас набылі падзеі ў Індры, дзе раней існавала латышская школа, але дзякуючы Дзямідаву была створана таксама беларуская. Аўтар ліста вінаваціў беларускага дзеяча ў тым, што ён зладзіў сход, на які запрасіў толькі беларускіх настаўнікаў і на якім было вырашана стварыць у Індры побач з латвійскай школай беларускую. Дзямідаву закідвалася запалохванне бацькоў з мэтай прымусіць іх, каб аддалі сваіх дзяцей менавіта

44 Тамсама. Арк. 70.
45 Тамсама. Арк. 156.
46 Екабсонс Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай… С. 211.
47 ВА. R92/101. Арк. 156.

ў беларускую школу. У лісце адзначалася, што 3 лістапада 1941 г. Дзямідаў з'явіўся ў пачатковай школе ў Індры і патлумачыў, што гэтая школа будзе беларускай. Паводле латвійскага ўрадоўца, такая заява мелася выклікаць незадаволенасць і абурэнне як вучняў, так і іх бацькоў. Дзямідаў нібыта абяцаў, што дзеці ў школе могуць размаўляць па-руску і па-польску, а ў старэйшых класах нават па-латышску. У дакуменце адзначалася, што Дзямідаў пагражаў пакараннем бацькам, якія не пашлюць сваіх дзяцей у беларускую школу. З мэтай вырашэння спрэчных момантаў латышскіх бок прапаноўваў стварыць змешаную камісію ў складзе 2 немцаў, 2 беларусаў і 2 латышоў, якая павінна была вызначыць нацыянальны склад у паасобных латгальскіх гмінах[48].

Крытыка Дзямідава не спынілася і пазней. Беларускі дзеяч абвінавачваўся ў негаспадарчасці і кепскім кіраванні школай у Індры, што нібыта стала прычынай заняпаду яе матэрыяльнага стану і пагаршэння якасці навучальнага працэсу. Паводле звестак школьнага інспектарата ў Дзвінску, 7 лістапада 1941 г. Дзямідаў "захапіў" увесь інвентар і грошы, якія належалі латышскай школе ў Індры. Адначасова беларус увайшоў у канфлікт з дырэктарам латвійскай школы Альфрэдсам Магонсам. Дзямідаву закідваліся дзеянні, мэтай якіх было спыненне навучальнага працэсу ў латвійскай школе, а таксама няздольнасць адрамантаваць школьнае цэнтральнае ацяпленне і неадпаведнае выкарыстанне запасаў дроў, што ішлі на абагрэў школьных будынкаў[49]. У адным з лістоў школьнага інспектара на адрас Дзямідава фармуляваліся закіды адносна злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і дзейнасці, якая супярэчыла інструкцыям і загадам нямецкага кіраўніцтва. Аўтар ліста вінаваціў Дзямідава ў неталерантнасці, даводзячы, што 22 снежня 1941 г. беларускі дзеяч хацеў выдаліць з класа пяць вучняў, якія заявілі, што не разумеюць беларускай мовы. Варта працытаваць урывак з гэтага ліста: «Паводзіны Дзямідава і іншых

[48] Тамсама. Арк. 77–79.
[49] Тамсама. Арк. 100.

арганізатараў беларускіх школ у адносінах да простага насельніцтва выходзяць за ўсялякія межы, прычым яны таксама падрываюць рэпутацыю нямецкіх уладаў, з дапамогай якой яны выбудавалі свой аўтарытэт. Наступныя факты пацвярджаюць вышэйсказанае. А) настаўніцы С. Лепіна Дзямідаў сказаў, што ён быў у Берліне, дзе яму было прапанавана далучыць Латгалію да Мінска, але ён адмовіўся, бо мае латвійскі пашпарт і хацеў, каб латвійская тэрыторыя засталася некранутая. Б) жыхарка Індры Юлія Гіліс у пратаколе падала і засведчыла, што Дзямідаў 3 лістапада 41 г. сказаў бацькам дзяцей школы ў Індры: “Латышы мусяць усе выехаць у Курляндыю, каб там жыць, бо тут, г. зн. у Індры, будзе Беларусь”. Бацькі выказаліся супраць беларускай школы і лічылі, што было б лепш, каб арганізаваць нямецкую школу. Дзямідаў тады адказаў: “ці нямецкая мова яшчэ будзе патрэбна, невядома. Ужо аднойчы пад час вайны мы бачылі, што немцы здабылі вялікія абшары, але пазней мусілі вярнуцца на сваю радзіму. На працягу 20 гадоў нямецкая мова была непатрэбна, але беларуская мова як родная заўсёды будзе патрэбна”. В) 6 лістапада 1941 г. Дзямідаў у школе ў Эзерніекі патлумачыў кіраўніку школы, што “немцы яму падпарадкоўваюцца, а не ён немцам і яны павінны яго слухацца”. Бацькам дзяцей гэтай жа школы Дзямідаў сказаў: “Беларусь будзе ад Дынабурга да Полацка і там будуць беларускія школы”. Тое самае выказванне чула настаўніца Горта Кіпа ў пачатковай школе ў Даўгавіешы 16 лістапада 1941 г., калі ён прамаўляў да бацькоў дзяцей»[50].

Латвійскае школьнае кіраўніцтва падавала выпадак Дзямідава як прыклад суб’ектыўных паводзінаў беларускага актыву пад час арганізацыі ўласнага школьніцтва ў нацыянальна змешаных валасцях у Латгаліі. Справа Дзямідава атрымала працяг. Скаргі латышскага боку прымусілі нямецкіх школьных урадоўцаў звярнуць больш пільную ўвагу на дзейнасць беларускага дзеяча. 21–22 студзеня 1942 г. Індру па службе наведаў рэферэнт Аддзела асветы і культуры гебітскамісара ў Дзвінску Рольф Вінберг,

[50] BA. R92/101. Арк. 101–102.

які сустрэўся з кіраўнікамі беларускай і латвійскай школ. Нямецкі ўрадавец сцвердзіў, што абвінавачванні супраць Дзямідава часткова грунтаваліся на непаразуменні, а часткова былі вынікам пэўных нацыянальных тэндэнцый[51]. 22 студзеня ў Індры пад кіраўніцтвам Вінберга адбылася супольная канферэнцыя з удзелам беларускага і латвійскага настаўніцтва, прадстаўнікоў паліцыі і самакіравання. Беларусаў прадстаўлялі Мікалай Дзямідаў, Сяргей Сахараў і К. Казак-Казакевіч. Удзельнікі павінны былі вырашыць спрэчныя моманты і выпрацаваць агульныя прынцыпы суіснавання латвійскай і беларускай школ такім чынам, каб у будучыні больш не ўзнікала канфліктных сітуацый. На той канферэнцыі Дзямідаў катэгарычна сцвердзіў, што ён не парушыў нямецкага распараджэння, адпаведна якому толькі дзеці беларусаў маглі вучыцца ў беларускіх школах. Акрамя таго, ён засведчыў, што ў момант, калі ён прыбыў у Індру, у школе было зарэгістравана 70 вучняў-латышоў і каля 200 беларусаў, але з пачаткам навучальнага года аказалася, што латышоў было ўжо 170. З’яўленне “латышоў” ён лічыў вынікам агітацыі латвійскага настаўніцтва і адміністрацыі. Словы беларускага дзеяча пацвердзілі назіранні рэферэнта Вінберга. Акрамя таго, на канферэнцыі высветлілася, што Дзямідаў не дапусціў самавольства пад час прыняцця школы ад латвійскага кіраўніка. Не адпавядалі праўдзе таксама абвінавачванні яго ў негаспадарчасці і адказнасці за дрэнны матэрыяльны стан школы. Было вырашана падзяліць інвентар паміж беларускай і латвійскай школамі. Удзельнікі канферэнцыі зрабілі выснову, што ў будучыні ўсе спрэчныя справы неабходна ўрэгулёўваць у духу сяброўства[52].

Згаданыя падзеі адлюстроўвалі больш шырокія працэсы, якія адбываліся ў Латгаліі ў час нямецкай акупацыі. Ішло своеасаблівае змаганне паміж беларускімі і латвійскімі дзеячамі за “сэрцы і душы” тутэйшага славянамоўнага (не толькі беларускамоўнага) сялянства, нацыянальная

[51] Тамсама. Арк. 106.
[52] BA. R92/101. Акр. 113–119.

свядомасць якога знаходзілася ў стадыі фармавання. Латышскі і беларускі бакі разумелі, што будучыня рэгіёна можа залежыць ад нацыянальнага складу яго жыхароў. Яшчэ ў міжваенны час, асабліва пасля 1934 г., латвійскія дзеячы рабілі захады, каб надаць Латгаліі як мага больш латышскае нацыянальнае аблічча, што было гарантам захавання рэгіёна ў складзе латвійскай дзяржавы. Тым часам беларускі актыў браў пад увагу магчымасць далучэння пасля вайны Латгаліі да Беларусі. Стаўленне латвійскага боку можна зразумець, паколькі ў Латгаліі ў міжваенны час існавала рэальная праблема інтэграцыі гэтага рэгіёна з астатняй часткай латвійскай дзяржавы. У паўднёвалатгальскіх валасцях толькі ў другой палове 1930-х г. латышам удалося дасягнуць перавагі ў мясцовым самакіраванні. Натуральна, што ва ўмовах нямецкай акупацыі латышскі бок намагаўся не дапусціць аслаблення здабытага ўплыву[53].

Вынікі дзейнасці як беларускіх, так і латышскіх дзеячоў перадусім залежалі ад прыхільнасці або непрыхільнасці акупацыйных уладаў, таму менавіта там абодва бакі шукалі дапамогі. У лісце генеральнага дырэктара дэпартамента народных школ Генеральнай акругі Латвія да гебітскамісара ў Дзвінску метады беларускіх дзеячоў акрэсліваліся як недапушчальныя. На думку латвійскага настаўніцтва і ўрадоўцаў, беларусы дзейнічалі ў шалёным тэмпе і не ўзгаднялі сваіх крокаў з мясцовай адміністрацыяй. Беларусам закідвалася суб’ектыўнасць пры рэгістрацыі вучняў па нацыянальнасці і запісванне ў беларускія школы дзяцей іншага паходжання. Аналіз архіўных крыніц не дазваляе пацвердзіць, што такія выпадкі не здараліся. Адначасова нельга выключыць таго, што прадстаўнікі латвійскай адміністрацыі запісвалі “латышамі” вучняў, якія не лічылі сябе латышамі. Абодва бакі валодалі даволі значнымі магчымасцямі інтэрпрэтацыі нацыянальнага складу вучняў, бо значная частка латгальскага сялянства мела складанасці з самаідэнтыфікацыяй і нярэдка падавала розную нацыянальнасць у залежнасці

[53] Екабсонс Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай… С. 212.

ад вонкавых абставінаў. У лістах і зваротах да немцаў здараліся досыць вострыя напады на сваіх апанентаў, якіх паказвалі ў як мага больш адмоўным святле. Латышскі бок нярэдка намагаўся падаць беларусаў як зацятых і паслядоўных прыхільнікаў камунізму[54]. Акрамя вусных абвінавачванняў існавалі таксама рэальныя прычыны. Стаўленне латышскай цывільнай адміністрацыі да беларускіх школ не заўсёды было адпаведнага ўзроўню. Са скаргаў, якія прыходзілі ў 1942–1944 г. у Беларускае аб'яднанне ў Рызе ад мясцовых актывістаў гэтай арганізацыі, вынікала, што ў правінцыі частай з'явай быў адкрыты ціск з боку мясцовай адміністрацыі і паліцыі[55].

Як бачым, у справе стварэння беларускага школьніцтва ў Латвіі пад нямецкай акупацыяй Дзямідаў адыграў значную ролю. 1 снежня 1941 г. яго прызначылі на пасаду інспектара беларускіх школ[56]. Але прызначэнне сустрэла супраціў акупацыйнай адміністрацыі. Упаўнаважаны гебітскамісара ў Ілукшчынскім павеце Фрызэн інфармаваў: "Дзямідаў зусім не адпавядае гэтай пасадзе, а нават можа быць шкодным, ён не толькі ў камуністычныя часы быў вельмі актыўным, але з'яўляецца чалавекам непрыгодным, пра што мне даносяць кіраўнікі раёнаў і расійскія духоўнікі, якія яго ведаюць"[57]. Тым часам акруговы камісар у Дзвінску абараняў Дзямідава, лічыў яго годным чалавекам, але не выключаў, што праз свой ідэалізм у мінулым мог стаць ахвярай палітыкі[58]. Далейшае вывучэнне нямецкімі чыноўнікамі справы прынесла несуцяшальныя для Дзямідава вынікі. Пасаду інспектара беларускіх школ урэшце атрымаў Аляксандр Махноўскі[59]. 15 сакавіка 1942 г. Дзямідаў быў дэлегаваны ў Розенава з мэтай арганізацыі беларускага школьніцтва ў Люцынскай акрузе, дзе школьная праца мела цяжкасці. На тым

[54] BA. R92/101. Арк. 77–79, 93–96.
[55] Екабсонс Э. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай… С. 220–222, 226.
[56] Тамсама. С. 210.
[57] BA. R92/101. Арк. 103.
[58] Тамсама. Арк. 45–46.
[59] Тамсама. Арк. 110.

абшары таксама назіраліся праявы латышска-беларускіх рознагалоссяў. Сведчыць пра гэта факт, што ў траўні 1942 г. Дзямідаў інфармаваў БНК аб затрыманні латышскай дапаможнай паліцыяй беларускіх настаўнікаў у Розенаве[60]. Тым не менш, да верасня 1942 г. на Люцыншчыне дзейнічала 6 беларускіх пачатковых школ, што можна лічыць апошнім плёнам працы Дзямідава на беларускай ніве ў Латвіі[61].

У хуткім часе М. Дзямідаў пераехаў у Генеральную акругу Беларусь. Дакладныя прычыны гэтага невядомыя. Выезд у Беларусь падаецца тым больш незразумелым, калі ўлічыць, што беларускае настаўніцтва ў Латвіі было вельмі нешматлікім, што адчуваўся недахоп кваліфікаваных кадраў. Магчыма, да ад’езду Дзямідава з Латвіі мае дачыненне яго папярэдняя дзейнасць у гэтай краіне і стаўленне да яго мясцовых нямецкіх акупацыйных уладаў. Насамрэч, беручы пад увагу нядаўняе мінулае Дзямідава, яго не цяжка было абвінаваціць у палітычнай ненадзейнасці. Безумоўна, сам ён па зразумелых прычынах пярэчыў усялякім закідам адносна сувязі з “саветамі”. У аўтабіяграфіі, падрыхтаванай для Аддзела асветы і культуры Генеральнай акругі Беларусь, ён па зразумелых прычынах замоўчваў акалічнасці свайго знаходжання на Лубянцы. Адзначыў толькі, што “праз адсутнасць пераканаўчых доказаў віны” савецкія ўлады былі вымушаны вызваліць яго з турмы і дазволіць вярнуцца ў Рыгу[62].

Такім чынам, напрыканцы 1942 г. скончыўся 20-гадовы перыяд жыцця і дзейнасці Мікалая Дзямідава на латвійскай зямлі. Далейшы лёс гэтага дзеяча быў не менш насычаны рознымі падзеямі, звязанымі з асноўнымі вехамі беларускага нацыянальнага руху. У 1943 г. яго прызначылі на пасаду школьнага інспектара ў Лідскай акрузе. Паводле некаторых звестак, у 1944 г. удзельнічаў у фармаванні аддзелаў Беларускай краёвай абароны (БКА). У чэрвені 1944 г. у якасці дэлегата прысутнічаў на II Усебеларускім

60 Тамсама. Арк. 139.
61 Тамсама. Арк. 156.
62 BA. R92/101. Арк. 155–156.

кангрэсе, быў адным з прамоўцаў. Існуюць звесткі, што ў 1944 г. на непрацяглы час вярнуўся ў Рыгу. Разам з тым вядома, што ўлетку 1944 г. у выніку наступлення Чырвонай арміі Дзямідаў разам з іншымі беларускімі дзеячамі мусіў уцякаць на Захад і ў выніку апынуўся ў Берліне, дзе на пачатку кастрычніка 1944 г. было створана Галоўнае кіраўніцтва вайсковых спраў Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з К. Езавітавым. У новай арганізацыі Дзямідаў заняў пасаду кіраўніка аддзела па справах апекі пад сем'ямі вайскоўцаў. Апрача таго, яго прозвішча значыцца ў спісах асабовага складу 1-га кадравага батальёна БКА, створанага ў Берліне загадам прэзідэнта БЦР ад 15 кастрычніка 1944 г. Тады ж Дзямідаў быў прызначаны намеснікам камандзіра батальённых падафіцэрскіх курсаў[63].

Пасля капітуляцыі Трэцяга Рэйха і заканчэння баявых дзеянняў у Еўропе Дзямідаў падзяліў лёс тысяч эмігрантаў, якія не хацелі вяртацца на занятую савецкімі войскамі радзіму. Апынуўся ў адным з лагераў для перамешчаных асоб на тэрыторыі французскай зоны акупацыі Нямеччыны, дзе распачаў арганізацыйную працу сярод суайчыннікаў. Быў членам адроджанай на тэрыторыі Нямеччыны Рады БНР. У 1948 г. увайшоў у склад Прэзідыума Рады, узначаліўшы камісію вайсковых спраў. Актыўна ўдзельнічаў таксама ў стварэнні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) на эміграцыі. Дзямідаў апынуўся ў ліку тых беларускіх дзеячоў, якія ініцыявалі скліканне Саборыка БАПЦ у Канстанцы ў чэрвені 1948 г. Быў сябрам часовага кіраўніцтва і кансісторыі БАПЦ. У кастрычніку 1948 г. Дзямідаў выказаў гатоўнасць пастрыжэння ў манахі з мэтай пазнейшага высвячэння на іерарха БАПЦ. Нягледзячы на падтрымку з боку часткі Рады БНР ініцыятыва не знайшла працягу. Супраціў выказаў епіскап Сяргей (Ахатэнка), першаіерарх БАПЦ, паколькі Дзямідаў быў на той час жанаты, што пярэчыла царкоўным канонам. Уладыка параіў беларускаму дзеячу

[63] За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Лондан, 1960. С. 171.

найперш развесціся, але з цягам часу справа страціла актуальнасць, а Дзямідаў мусіў задаволіцца “пасадай” псаломшчыка. Відаць, беларускія дзеячы зразумелі, што як з кананічнага, так і маральнага гледзішча справа выглядае вельмі несур’ёзна і сумнеўна[64].

У 1950 г. Дзямідаў пераехаў на сталае месца жыхарства ў ЗША. Ён быў адным з першых беларускіх дзеячоў пасляваеннай хвалі эміграцыі, якія апынуліся за акіянам і разгарнулі нацыянальную працу. Спачатку пасяліўся ў Лансінгу (штат Мічыган), але ў хуткім часе асеў у Чыкага, дзе браў чынны ўдзел у арганізацыі і дзейнасці тутэйшай беларускай грамады. Наладзіў сувязь з прадстаўнікамі старой (даваеннай) беларускай эміграцыі – Янкам Чарапуком і Язэпам Варонкам. Увайшоў у склад кіраўніцтва Беларуска-амерыканскай народнай рады. Пачынаючы з 1950 г. быў вядучым беларускіх перадач у Чыкага. Стаў сябрам Згуртавання беларусаў штату Ілінойс, створанага ў 1953 г. Яшчэ да пераезду ў Амерыку, калі жыў у Нямеччыне, Дзямідаў далучыўся да працы па стварэнні Згуртавання беларускіх камбатантаў на чужыне. Сваю дзейнасць на гэтай ніве ён працягваў таксама за акіянам. Пасля пераезду ў Амерыку Дзямідаў па-ранейшаму належаў да прыхільнікаў Рады БНР. Але адносіны з іншымі беларускімі дзеячамі на эміграцыі складваліся па-рознаму. Вось якім чынам характарызаваў Дзямідава згаданы Я. Чарапук: «Ён, М. Дзямідаў, характару парывістага: часамі добрую прыслугу можа зрабіць, а часамі – хоць уцякай ад яго. Усё залежыць ад настрою, а настрой ад напою – ці ў меру, ці праз меру. А часамі настрой залежыць і ад “залежнасці”, і ад аўтарытэту. Настрой яго ўмерыць я стараюся, велічаючы яго тытулам “палкоўнік”»[65]. Не ўдалося, аднак, знайсці агульнай мовы з іншымі прыхільнікамі прэзідэнта Мікалая Абрамчыка. У выніку Дзямідаў далучыўся да Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з Радаславам Астроўскім. У 1955 г. быў

[64] Гардзіенка А. Беларуская цэнтральная рада: стварэнне, дзейнасць, заняпад (1943–1995). Мінск, 2016. С. 221–222.

[65] Юрэвіч Л. Шматгалосы эпісталярыум… С. 482.

прызначаны кіраўніком аддзела ўнутраных спраў[66]. Неабходна падкрэсліць, што падобныя палітычныя “метамарфозы” ў эміграцыйным асяроддзі былі нярэдкія. На амерыканскай зямлі Дзямідаў працягваў працаваць на карысць БАПЦ. Быў адным з арганізатараў і першым рэгентам хору парафіі св. Юр’я ў Чыкага. А напрыканцы жыцця далучыўся да беларусаў-каталікоў усходняга абраду і нават стаў чынным удзельнікам парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Памёр Мікола Дзямідаў 23 траўня 1967 г.

Падсумоўваючы, трэба адзначыць, што 20-гадовы “латвійскі” перыяд жыцця Мікалая Дзямідава займае істотнае месца пад час яго ацэнкі як беларускага дзеяча ўвогуле. Гэты перыяд адзначаўся ўдзелам у культурна-асветным і грамадска-палітычным жыцці латвійскіх беларусаў. Менавіта тады Дзямідаў прадэманстраваў асабістыя і грамадскія якасці, на падставе якіх можна пра яго меркаваць як пра ўдзельніка беларускага руху. Дзямідава можна лічыць адным з найбольш вядомых дзеячоў беларускага руху ў Латвіі ў разгляданы перыяд. Пры гэтым трэба дадаць, што роля Дзямідава ў жыцці беларусаў Латвіі была менш значнай і заўважальнай у 1920-я г., чым у часы знаходжання краіны пад кіраўніцтвам Ульманіса. Напярэдадні II сусветнай вайны Дзямідава (побач з К. Езавітавым і У. Пігулеўскім) варта залічыць да галоўных лідараў латвійскіх беларусаў. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгралі яго сувязі з латвійскай палітычнай паліцыяй. Не знік ён таксама з беларускага далягляду і пасля страты Латвіяй дзяржаўнай незалежнасці. Аналіз архіўных матэрыялаў і даступнай літаратуры дазваляе стварыць вобраз Дзямідава як педагога, актыўнага грамадска-палітычнага дзеяча і палымянага патрыёта, адданага нацыянальнай справе. Разам з тым у яго біяграфіі хапае супярэчлівых і неадназначных момантаў, якія яшчэ патрабуюць больш грунтоўнага даследавання. Безумоўна, учынкі і дзейнасць гэтага дзеяча неабходна ацэньваць у кантэксце тагачасных падзей і абставін, у якіх давялося жыць і працаваць герою публікацыі.

[66] Гардзіенка А. Беларуская цэнтральная рада… С. 256.

# The “Latvian” period of activity of Mikalaj Dziamidaŭ (1922–1942)

**Jury Hryboŭski**

The article deals with the life and work of Mikalaj Dziamidaŭ, a political and military activist and teacher. It discusses his activity during his stay in Latvia. This period consists of two phases: the activity in the independent Latvian state and during the years when Latvia was under Soviet and German occupation. Then Dziamidaŭ was a member of the Belarusian national movement, leader of many Belarusian socio-cultural and educational organizations, an organizer of Belarusian education and a teacher. The author also focuses on little known episodes of his biography, which may be controversial and disputed, among others his cooperation with the Latvian political police and NKVD and his collaboration with the Third Reich. Dziamidaŭ’s trip from Latvia to Belarus in 1942 closes narrative.

# Баявыя дзеянні ў Беларусі летам 1941 года: гістарыяграфічныя міфы і гістарычная рэальнасць

**Сяргей Новікаў**

Адна з актуальных праблем аналізу новых гістарыяграфічных крыніц, у тым ліку замежных, – выяўленне ступені навуковай верыфікацыі гістарычных фактаў. Разгледзім гэта на прыкладзе гісторыі Беларусі летам 1941 г. Як жа насамрэч баявыя дзеянні Чырвонай арміі і германскага Вермахта, якія вызначалі адметнасць пачатковага перыяду вайны на беларускай зямлі, адлюстраваны ў найноўшай расійскай 12-тамовай фундаментальнай працы – "Великая Отечественная война 1941–1945 годов"[1], падрыхтаванай вядучымі даследчыкамі Расіі на працягу літаральна апошніх некалькіх гадоў? Наколькі сутнасць новых грунтоўных прац вынікае з дакументальных крыніц рознага паходжання і наколькі гістарычныя факты набліжаюць чытача да асэнсавання рэальных вынікаў абарончых баёў Чырвонай арміі ў Беларусі ў чэрвені – жніўні 1941 г.? Адказаць на гэтыя і іншыя пытанні важна па розных прычынах, але ў першую чаргу з чыста даследчыцкіх інтарэсаў.

З аднаго боку, у такім кантэксце паспрабуем даць адказ на галоўнае пытанне: наколькі ўсебакова ў новых грунтоўных выданнях адлюстраваны баявыя дзеянні на

[1] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 1: Основные события войны. Москва, 2011; Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны. Москва, 2012.

тэрыторыі Беларусі ўлетку 1941 г.? Зыходзячы з гэтага можна будзе зразумець, што ж тады здарылася на беларускай зямлі – ці паражэнне Чырвонай арміі, ці яе ваенная катастрофа, ці крах савецкай абарончай стратэгіі або адбылася толькі страта баявых рубяжоў, калі на фоне вымушанага адступлення Чырвоная армія працягвала весці ўпартыя баі за тэрыторыю Беларусі, калі з канца чэрвеня і да канца жніўня 1941 г. насамрэч ішла БІТВА за Беларусь. Ці ўсё ж такі галоўным вынікам несупынных баявых дзеянняў, тактычных адыходаў і стратэгічных контрударaў, вялізных людскіх і матэрыяльных страт Заходняга і Цэнтральнага франтоў на беларускай зямлі стаў крах аперацыі "Барбароса" ў канцы ліпеня 1941 г., звязаны са спыненнем наступлення групы армій "Цэнтр" на Маскву і пераходам яе да франтальнай абароны ў ходзе вядзення так званай "маланкавай вайны" супраць СССР. У сувязі з гэтым ці здольны мы на цяперашні час вызначыць сапраўднае гістарычнае значэнне тых падзей, пераканаўча паказаць дакументальную базу, пакладзеную ў аснову навуковых ацэнак гістарычных вынікаў абарончых баёў Чырвонай арміі на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.?

А з другога – пастараемся высветліць, якія новыя дакументальныя крыніцы былі выкарыстаны аўтарамі новай расійскай працы і ў якой ступені яны дазволілі вырашыць пастаўленыя вышэй пытанні. Якія гістарычныя факты сталі падмуркам для рэканструкцыі баявых дзеянняў Чырвонай арміі ў першыя дні і месяцы вайны ў Беларусі? Якія новыя крыніцы ўведзены ў навуковы зварот расійскімі гісторыкамі, чым яны кіраваліся пры навуковым аднаўленні агульнай карціны тых падзей: новымі дакументальнымі крыніцамі і новымі даследчыцкімі падыходамі ці традыцыйнымі фактамі, замацаванымі ў мемуарнай літаратуры і працах савецкага часу[2]?

[2] Для сучаснага чытача будзе надзвычай цікавым той факт, што прапанаваны матэрыял стаў прычынай забароны аўтару гэтых радкоў удзельнічаць у навуковай канферэнцыі "На грани катастрофы: к 75-летию начала Великой Отечественной войны", якая была арганізавана і праведзена Інстытутам усеагульнай гісторыі РАН, Расійскім ваенна-гістарычным

Зыходзячы з пастаўленых пытанняў, а таксама з улікам актуальнасці выкарыстання новых падыходаў пры даследаванні падзей ваеннай гісторыі Беларусі ўлетку 1941 г. мэтай гэтага артыкула будзе спроба раскрыцця сапраўднага характару тых падзей на аснове метаду крыніцазнаўчай і гістарыяграфічнай кампаратывістыкі. Хацелася б, каб прапанаваны матэрыял разглядаўся чытачом як спроба адказу на пытанні ў рамках толькі асобных праблемных палёў:

1) штурму і абароны Брэсцкай крэпасці летам 1941 г.;
2) Лепельскага контрудару двух танкавых карпусоў РСЧА;
3) баёў на Дняпроўскім рубяжы пад Магілёвам;
4) контрудару Чырвонай арміі на Гомельшчыне;
5) лёсу палоненых у Беларусі летам 1941 г. чырвонаармейцаў.

Перш за ўсё адзначым: у прадмове да першага тома рэдакцыйная калегія засяроджвае ўвагу чытача якраз на тым, што новую працу расійскіх гісторыкаў “читатели примут только в том случае, если исторические процессы в нем будут отражены более объективно и всесторонне, без перекосов и умолчаний, если каждая страница, каждая его строка будут правдивыми. А для этого необходимо не только знание правды факта, но и понимание правды тенденции, правды явления, точность исторической концепции”[3]. Аўтар гэтых радкоў цалкам падзяляе прыведзенае рэдакцыйнае меркаванне. Сёння, напэўна, усе разумеюць, што ў апошні час з’явілася ўнікальная магчымасць шырокага выкарыстання новых дакументальных крыніц, якія раней былі маладаступныя для даследчыкаў па прычынах, з аднаго боку, закрытасці айчынных фондаў, а з другога – недаступнасці замежных архіваў. У такім кантэксце прааналізуем асноўныя тэзісы, прыведзеныя ў якасці гістарычных высноў у найноўшым расійскім выданні для рускамоўнай чытацкай аўдыторыі.

таварыствам і Расійскім таварыствам гісторыкаў-архівістаў у Маскве ў чэрвені 2016 года.

[3] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 1: Основные события войны… С. 9.

## 1. Штурм і абарона Брэсцкай крэпасці летам 1941 г.

Разгледзім адзін з першых тэзісаў на прыкладзе абарончых баёў Чырвонай арміі на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г. Так, у 2-м томе чытаем: “На момент начала войны гарнизон крепости, состоявший, в основном, из подразделений 6-й и 42-й стрелковых дивизий 28-го стрелкового корпуса РККА, существенно сократился ввиду участия многих военнослужащих в плановых учебных мероприятиях… С учетом потерь за первый день обороны в итоге крепость защищали порядка 3,5 тыс. человек”[4]. Заўважым, што гэты тэзіс фігураваў у савецкай гістарыяграфіі абароны Брэсцкай крэпасці[5], сустракаецца ён і ў сучасных беларускіх навуковых працах[6], але лічбы перабольшаны ўдвая, прычым без патрэбных спасылак на дакументальныя крыніцы[7].

На пачатку 2000-х гадоў гэтыя лічбы не прыняў на павер расійскі даследчык Р. Аліеў – аўтар дакументальных прац “Штурм Брестской крепости” і “Брестская крепость. Воспоминания и документы”[8]. У іх гісторык адышоў ад савецкага стэрэатыпу, бо, на яго думку, тыя лічбы не адпавядалі гістарычнай рэчаіснасці: на момант заканчэння штурму крэпасці ў нямецкім палоне апынулася больш за 7 тысяч яе абаронцаў. Да такой высновы расійскі даследчык прыйшоў пасля вывучэння нямецкіх крыніц, сярод

4 Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 736.

5 Героическая оборона. Минск, 1963. С. 17; Великая Отечественная война Советского Союза 1941–1945: краткая история. Москва, 1984. С. 58; Бресткая крепость // Великая Отечественная война 1941–1945: энциклопедия. Москва, 1985. С. 110–111; Брэсцкай крэпасці абарона 1941 // Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941–1945: энцыклапедыя. Мінск, 1990. С. 95–97.

6 Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945. Минск, 2005. С. 62.

7 1941 год: Страна в огне: в 2 кн. Кн. 1. Очерки. Москва, 2011. С. 313.

8 Алиев Р. В. Штурм Брестской крепости. Москва, 2008; Ён жа. Брестская крепость. Воспоминания и документы. Москва, 2010.

якіх “Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі аб узяцці Брэст-Літоўска” ад 8.07.41 г.[9]. Асобна адзначым, што названыя выданні расійскага гісторыка ўбачылі свет у вядомых маскоўскіх выдавецтвах “Яуза”, “Эксмо” і “Вече”, але іх няма ў спісе літаратуры да 2-га тома новага расійскага выдання. Узнікае пытанне, па якіх прычынах у грунтоўным выданні не згадваецца ці навукова не аспрэчваецца тэзіс Р. Аліева ў дачыненні да агульнай колькасці абаронцаў Брэсцкай крэпасці, колькасць якіх толькі на Цэнтральным умацаванні складала каля 9 тысяч чалавек на момант пачатку нямецкага штурму 22 чэрвеня 1941 г.[10]. Прычын, чаму гэтых звестак чытач не знойдзе на старонках новага выдання, аўтару гэтых радкоў таксама выявіць не ўдалося. Рэдакцыйная калегія новага расійскага выдання пераконвае чытачоў, што пры напісанні працы аўтары абапіраліся “не на идеологические постулаты, а на предшествующие научные исследования с учетом новых методологических подходов и с широким использованием большого массива архивных документов”[11]. Таму ў чытача застаецца пытанне, чаму ж у пералік “предшествующих научных исследований” не трапілі больш за 1000-старонкавыя працы расійскага гісторыка, напісаныя на аснове выкарыстання значнага масіву як савецкіх, так і нямецкіх дакументаў.

На с. 736 чытаем наступны тэзіс расійскіх аўтараў: “К началу июля противнику удалось захватить укрепления на Центральном острове после особенно масштабной бомбардировки и артиллерийского обстрела”[12]. Адразу ж узнікае пытанне, чым гэта сцвярджэнне адрозніваецца ад вядомага з савецкага часу тэзіса аб тым, што «29–30 июня фашисты предприняли “генеральный штурм” Цитадели, в результате которого им удалось занять большую

[9] Алиев Р. В. Брестская крепость. Воспоминания и документы…. С. 380–391.

[10] Алиев Р. В. Штурм Брестской крепости… С. 238.

[11] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 1: Основные события войны… С. 9.

[12] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 736.

часть укреплений и нанести ее гарнизону тяжелые потери», апублікаванага ў пачатку 1960-х гг. у 6-тамовай “Истории Великой Отечественной войны Советского Союза 1941–1945 гг.” (Масква, 1961. Т. 2, с. 19). У дасведчаных чытачоў, а таксама студэнтаў, якія добра ведаюць змест фільма расійскага рэжысёра А. Кота “Брэсцкая крэпасць” (2010)[13], паўстаюць і іншыя лагічныя пытанні, у тым ліку пра абарону самой Цытадэлі. Да таго ж неабходна ўлічваць і той факт, што беларускаму чытачу дзякуючы новым выданням таксама вядомы дакладныя факты з гісторыі нямецкага штурму крэпасці[14]: да 29 чэрвеня самалёты Люфтвафэ ў ім не ўдзельнічалі[15]. Са згаданага тэзіса вынікае, што “Цэнтральны востраў”, які з часоў стварэння крэпасці насіў назву “Цытадэлі” ці “Цэнтральнага ўмацавання”, паколькі геаграфічна знаходзіўся ў самым “сэрцы крэпасці Брэст-Літоўск”[16], перанёс асабліва моцную бамбардзіроўку[17]. Нагадаем, што з захаду, поўначы

[13] Брестская крепость (фильм) [Электронный ресурс]. 2010. Режим доступа: https://ru.wikipedia.org/wiki. Дата доступа: 20.03.2016.

[14] Алиев Р. В. Брестская крепость. Воспоминания и документы. Москва, 2010; Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска // Беларуская думка. 2010. № 5. С. 93–97; Новікаў С. Я. Абарона Брэсцкай крэпасці летам 1941 года ў ацэнцы гістарыяграфіі і ў святле дакументаў // Беларуская думка. 2010. № 5. С. 88–92; Алиев Р. В. Брест. Июнь. Крепость: в 2 кн. Кн. 1. Брест, 2012; Ганцэр К. Нямецкія і савецкія страты як паказчык працягласці і інтэнсіўнасці баёў за Брэсцкую крэпасць // ARCHE. 2014. № 5. С. 135–153.

[15] Алиев Р. В. Брестская крепость. Воспоминания и документы… С. 152.

[16] Брестская крепость. Война и мир / автор концепции и текста А. Суворов. Брест, 2010. С. 223.

[17] Федэральны ваенны архіў Германіі (далей BA-MA). RH 26–45/27: Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941. Bl. 6–17; Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска // Беларуская думка. 2010. № 5. С. 96; Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6–29.6.41 г.) // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. 2-е выд., дап. і выпр. Смаленск, 2015. С. 161–162.

і поўдня Цытадэль прыкрывалі іншыя ўмацаванні – адпаведна Цярэспальскае, Кобрынскае і Валынскае. Таму для ўважлівага чытача застаецца незразумелым ужыванне ў гэтым выпадку такіх назваў, як і ўведзеных гістарычных азначэнняў накшталт “генеральнага штурму Цытадэлі 29–30 чэрвеня”. На падставе якіх дакументальных крыніц зроблены такія высновы – галоўнае пытанне, на якое не даецца адказу ў новай працы. У той час як з айчыннай гістарыяграфіі вядома, што апошні дзень арганізаванай абароны ўмацаванняў на Цэнтральным востраве – дата 26 чэрвеня[18].

Пра гэта пішуць не толькі беларускія даследчыкі. Больш пераканаўча названы факт гучыць на старонках новых беларуска-нямецкіх[19] ці нямецкіх прац[20], у якіх сцвярджаецца, што самыя цяжкія баі з боку штурмавікоў вяліся на працягу трох першых дзён, потым на працягу двух дзён ішлі баі ў асобных ачагах супраціву на Цэнтральным востраве (умацаванні) ці Цытадэлі. А пасля 26 чэрвеня баі працягваліся толькі за Усходні форт, абаронцы якога пасля двух моцных авіяўдараў здаліся ў па-

[18] Алиев Р. В. Штурм Брестской крепости… С. 657.

[19] Брест. Лето 1941 г. Документы. Материалы. Фотографии. Смоленск, 2016.

[20] Hartmann Ch. Wehrmacht im Ostkrieg. Front und militärisches Hinterland 1941/42. München, 2009. S. 259–266; Ganzer Ch., Paschkovich A. “Heldentum, Tragik, Tapferkeit”. Das Museum der Verteidigung der Brester Festung // Osteuropa. 2010. Nr. 12. S. 81–97; Ганцар К., Пашкевіч А. “Гераізм, трагізм, мужнасць”. Музей абароны Берасцейскай крэпасці // ARCHE. 2013. № 2. С. 43–60; Ганцер К. Немецкие и советские потери как показатель продолжительности и интенсивности боев за Брестскую крепость // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Мінск, 5 красавіка 2013 г. Вып. 12. Мінск, 2014. С. 44–52; Ганцер К. Переводчик виноват: влияние перевода на восприятие исторических событий (на примере отчета генерал-майора Фрица Шлипера о боевых действиях по захвату Брест-Литовска) // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Мінск, 5 красавіка 2013 г. Вып. 13: у 2 т. Т. 1. Мінск, 2015. С. 39–45.

лон вечарам 29 чэрвеня[21]. Як адзначае К. Ганцар, пасля 26 чэрвеня больш не гінулі ваеннаслужачыя 45-й пяхотнай дывізіі, якая на працягу пяці дзён штурмавала цэнтральныя ўмацаванні крэпасці[22]. Вядома, што апошнім непрыступным рубяжом, на які абрынулася не толькі артылерыя, але і нямецкая авіяцыя, стала Кобрынскае ўмацаванне, дзе трымаўся Усходні форт на чале з будучым Героем Савецкага Саюза камандзірам 44-га стралковага палка маёрам П. Гаўрылавым. Узнікае заканамернае пытанне, а чаму гэтага не ведаюць пасля таго, як легендарны камандзір і мужны абаронца Усходняга форта напісаў успаміны "Сражается крепость"[23], якія ў другой палове 1970-х гадоў вытрымалі два выданні, дзе рэальны сведка і непасрэдны ўдзельнік тых падзей распавядаў пра эпапею самаадданай барацьбы, упартага выжывання і валявой перамогі ва ўмовах занятай ворагам крэпасці.

Застаюцца адкрытымі і іншыя пытанні, напрыклад, пра храналагічныя рамкі актыўнай абароны крэпасці Брэст-Літоўск, фактычную колькасць абаронцаў з савецкага боку, колькасць савецкіх воінаў, якія да канца чэрвеня з тэрыторыі крэпасці і горада трапілі ў нямецкі палон, і інш.[24]. 7223 чалавекі палоненых радавых, сяр-

[21] BA-MA. RH 26–45/27: Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941. Bl. 7; Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска // Беларуская думка. 2010. № 5. С. 97; Ганцер К. Немецкие и советские потери как показатель продолжительности и интенсивности боев за Брестскую крепость... С. 50; Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6–29.6.41 г.) // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў… С. 162; Командир 45-й пехотной дивизии генерал-майор Ф. Шлипер: отчет о боевых действиях по захвату Брест-Литовска генеральному штабу сухопутных войск // Брест. Лето 1941 г. Документы. Материалы. Фотографии. Смоленск, 2016. С. 290–298.

[22] Алиев Р. В. Брест. Июнь. Крепость… С. 144.

[23] Гаврилов П. М. Сражается крепость. Краснодар, 1980.

[24] Новікаў С. Новыя факты і ацэнкі па гісторыі Брэста і Брэсцкай крэпасці летам 1941 года // Беларускі гістарычны часопіс. 2016. № 5. С. 38.

жантаў і афіцэраў Чырвонай арміі[25] пасля шматлікіх заклікаў і зваротаў навуковай грамадскасці, у тым ліку аўтара гэтых радкоў[26], былі ўрэшце ўшанаваны ў экспазіцыі, адкрытай у Паўночна-ўсходняй казарме Цытадэлі Брэсцкай крэпасці (адзначана спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2014 года[27]).

Такім чынам, нягледзячы на наяўнасць новых айчынных і замежных публікацый, у тым ліку грунтоўных дакументальных зборнікаў, у расійскай гістарыяграфіі адсутнічае аб'ектыўная карціна тых падзей у чэрвені 1941 г.

## 2. Лепельскі контрудар двух танкавых карпусоў РСЧА

Звернемся да тэзіса на с. 746: "Контрудар стоил 5-му и 7-му механизированным корпусам [РСЧА. – *С. Н.*], в составе которых находились 1639 танков (924 в 5-м и 715 в 7-м), среди которых немало неисправных, 2/3 парка боевых машин (по некоторым подсчетам)"[28]. Чытачу цяжка зразумець, чаму да гэтага часу не зроблены неабходныя падлікі, чаму ў навуковы дыскурс уводзяцца тыя

[25] BA-MA. RH 26–45/27: Gefechtsbericht über die Wegnahme von Brest-Litowsk v. 8.07.1941. Bl. 7; Данясенне аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска // Беларуская думка. 2010. № 5. С. 97; Данясенне камандзіра 45-й пяхотнай дывізіі генерал-маёра Ф. Шліпера аб ходзе баявых дзеянняў пры ўзяцці Брэст-Літоўска (22.6–29.6.41 г.) // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў… С. 162.

[26] Новікаў С. Я. Абарона Брэсцкай крэпасці: гістарыяграфічныя міфы і гістарычная рэальнасць // Историческое наследие 1941 года в исследованиях и экспозициях музеев. Материалы Международной научной конференции, посвященной 70-летию обороны Брестской крепости (Брест, 9–11 июня 2011 г.). Брест, 2013. С. 29.

[27] О присуждении специальной премии Президента Республики Беларусь деятелям культуры и искусства 2014 года // СБ. Беларусь сегодня. 2015. 3 янв. С. 2.

[28] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 746.

баявыя адзінкі тэхнікі, якія апрыёры былі няспраўнымі, г. зн. не ўдзельнічалі ў рэальных баявых дзеяннях. Але не ў меншай ступені якраз такі фактар істотна паўплываў на вынікі баёў, якія 5-ы і 7-ы МК вялі на Віцебшчыне ў пачатку ліпеня 1941 г. Такім чынам, чытач застаецца без яснага разумення карціны сустрэчных танкавых баёў на аршанска-віцебскім напрамку: з аднаго боку, наступленне танкавых і матарызаваных злучэнняў 3-й і 2-й танкавых груп, а з другога – контрнаступальныя сілы двух механізаваных карпусоў Чырвонай арміі.

У тэксце новага выдання ўважліваму чытачу не ўдасца знайсці адказаў і на шэраг іншых пытанняў, у тым ліку: а) пра храналагічныя рамкі танкавых баёў пад Сянно і Лепелем[29]; б) пра агульную колькасць баявых машын, якія з двух бакоў удзельнічалі ў баях на Віцебшчыне[30]; в) пра страты, панесеныя кожным бокам у ходзе танкавых баёў; г) пра прычыны фактычнага разгрому двух механізаваных карпусоў Чырвонай арміі пад час контрудараў на лепельскім напрамку; д) пра аператыўна-тактычнае значэнне Лепельскай аперацыі ў кантэксце недапушчэння далейшага бесперашкоднага прасоўвання нямецкіх браняваных калон на Смаленск. Для беларускага чытача гэтыя пытанні застаюцца асабліва актуальнымі, калі мець на ўвазе новыя публікацыі, і сярод іх тыя, якія праліваюць святло на факты адсутнасці ці вялікага недахопу ў пачатку вайны бранябойных снарадаў для 76-міліметровых дывізійных гармат, непрадуманага выкарыстання артылерыі, танкавых

[29] Цэнтральный архив Министерства обороны Российской Федерации (далей ЦАМО РФ). Ф. 208. Оп. 2511. Д. 80: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г. Л. 102; Тамсама. Журнал боевых действий 5-го мехкорпуса. Отчет о действиях 13-й танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41 г. Л. 32; Тамсама. Отчет о действиях частей 17-й танковой дивизии с 4.7.41 по 19.7.41 г. Л. 27–32.

[30] Исаев А. В. Неизвестный 1941. Остановленный блицкриг. Москва, 2010. С. 334, 347; BA-MA, RH 21-3/732: Panzer AOK 3. Ia Nr. 520/42 geheim, Gefechtsberichte Russland 1941/42. Bl. 13.

і стралковых часцей у ходзе правядзення Лепельскай аперацыі 6–11 ліпеня 1941 года[31].

Даследаванне тых падзей у кантэксце пастаўленых пытанняў пераконвае ў тым, што Лепельская аперацыя сапраўды вызначалася шырокім выкарыстаннем танкавых злучэнняў як з савецкага, так і з нямецкага боку. Аднак называць тыя падзеі танкавай бітвай пад Сянно можна толькі з улікам наступных фактаў і фактараў.

Па-першае, дакументы аператыўнага аддзела штаба Заходняга фронту пра баявыя дзеянні 5-га і 7-га механізаваных карпусоў 20-й арміі ўтрымліваюць гістарычную назву таго контрудару – "Лепельская аперацыя"[32]. Па-другое, у дакументальных матэрыялах не ўдалося выявіць факта адначасовага сутыкнення з двух бакоў мноства танкаў, агульная колькасць якіх перавышала б нават 300 адзінак, не кажучы пра лічбу амаль 3 тыс. баявых машын. Вывучэнне аператыўных дакументаў танкавых злучэнняў, якія з двух бакоў удзельнічалі ў баях пад Сянно, дазваляе выявіць сутыкненні з удзелам аднаго-двух танкавых палкоў агульнай колькасцю ад 10 да 200 баявых адзінак[33]. Па-трэцяе, фактычна "Лепельская аперацыя" распалася на два самастойныя контрудары, якія, паводле аддадзенага загаду, наносіліся па розных напрамках: 7-ы механізаваны корпус у складзе 14-й і 18-й танкавых дывізій наступаў з раёна Віцебска на Бешанковічы – Лепель; 5-ы механізаваны корпус у складзе 13-й і 17-й танкавых і 109-й мотастралковай дывізій наносіў удар з раёна Оршы на Сянно – Лепель. Фактычна контрудары былі праведзены ў названай паслядоўнасці, але з розніцай

[31] Новікаў С. Я. Лепельская аперацыя летам 1941 года: спроба навуковай інтэрпрэтацыі // Беларускі гістарычны часопіс (далей – БГЧ). 2012. № 11. С 14–24; Новікаў С. Я. Лепельская аперацыя – франтавы наступальны контрудар войск Заходняга фронту ў Беларусі летам 1941 года // Ученые записки УО "ВГУ им. П. М. Машерова": сб. научн. трудов. 2013. Т. 16. С. 18–34.

[32] ЦАМО РФ. Ф. 20. Оп. 2511. Д. 80: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г. Л. 111.

[33] Тамсама. Л. 111.

у два дні. Канчатковай мэтай контрудараў быў выхад у раён Лепеля для нанясення ўдару ў фланг і тыл полацкай групоўкі праціўніка. Паводле аператыўнага данясення Заходняга фронту ад 5 ліпеня 1941 г., войскі фронту наносілі ўдар па праціўніку, маючы толькі адзін агульны напрамак – Лепель[34]. Пад час аперацыі савецкі бок страціў фактычна 75% танкавага парку 5-га і 7-га механізаваных карпусоў, прычым толькі трэцюю частку на полі бою ў ходзе танкавых баёў ці ў выніку дзейнасці процітанкавай артылерыі праціўніка. Вось што названа прычынамі ў дакладной запісцы на імя І. Сталіна, падрыхтаванай па даручэнні камандуючага Заходнім фронтам С. Цімашэнкі членам Ваеннага савета фронту, першым сакратаром ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкам у пачатку жніўня 1941 г. У архіўным дакуменце гаворыцца, да чаго прывяла схільнасць многіх военачальнікаў і камандзіраў дзейнічаць "лабавымі ўдарамі", "коннай лавай", "навалам", вядомымі з часоў грамадзянскай вайны, у 7-м механізаваным корпусе, які меў 526 танкаў. Так, "з 9 па 20 ліпеня корпус прайшоў шлях з баямі ў раёне Рудня – Лёзна – Бешанковічы і назад у Лёзна. У гэтым рэйдзе корпус страціў усе танкі па прычыне таго, што ў першы дзень корпус распачаў без разведкі лабавую атаку на вузел абароны праціўніка, у выніку страціў адразу 100 танкаў. Далей, зноў у выніку адсутнасці разведкі, корпус трапіў пад перакрыжаваны агонь дзвюх замаскаваных танкавых калон праціўніка і таксама страціў шмат танкаў. Потым корпус адышоў у балота. Шмат танкаў загрузла, а астатнія былі страчаны па дарогах. Так злачынна быў страчаны адзін з моцных карпусоў"[35].

Сярод прычын амаль поўнага разгрому двух механізаваных карпусоў былі як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя.

[34] 1941. Документы и материалы: К 70-летию Великой Отечественной войны. Вып. 1: в 2 т. Т. 2. С.-Петербург, 2011. С. 276.

[35] Платонов Р. П. О причинах поражения войск Западного фронта в первые месяцы войны // Беларусь, 22 июня 1941 года: Говорят архивы…: Материалы к заседанию "круглого стола", посвященного 60-летию начала Великой Отечественной войны (июнь 2001 г.). Минск, 2001. С. 51–65.

Даволі дакладную карціну прычын разгрому адной з дывізій 5-га механізаванага корпуса дае справаздача 13-й танкавай дывізіі, дзе гаворыцца, што ў ходзе бою ў раёне Толпіна два танкавыя і адзін мотастралковы палкі выконвалі загад аб неадкладным уступленні ў бой, але рабілі гэта без артылерыйскай падрыхтоўкі, без узаемадзеяння паміж сабой, без належнай разведкі мясцовасці, без выкарыстання пяхоты і да таго ж не ў поўным складзе, з парушэннем кіравання і не ў поўнай баявой гатоўнасці[36].

Нягледзячы на тактычныя няўдачы 5-га і 7-га механізаваных карпусоў, загад пра іх адыход на зыходныя пазіцыі стаў вынікам не разгрому ў раёне Сянно і Лепеля, а страты 9 ліпеня войскамі Заходняга фронту г. Віцебска. Вялікія страты ў баявой тэхніцы, якія панеслі два савецкія корпусы ў ходзе Лепельскай аперацыі, былі вельмі адчувальнымі, але не такімі катастрафічнымі[37], як пад Беластокам, Гроднам і Мінскам у першыя дні вайны.

На наш погляд, зусім невыпадкова ў новым расійскім выданні пакінуты па-за ўвагай яшчэ адзін факт гісторыі, звязаны з тым, што ўдзельнікам Лепельскай аперацыі быў старэйшы сын І. Сталіна – Якаў Джугашвілі, які пад Лёзна пад час адступлення 14-й танкавай дывізіі трапіў у нямецкі палон[38]. На допыце ў нямецкім палоне ён выказаў сваё разуменне аператыўна-тактычных вынікаў аперацыі на Віцебшчыне. На яго думку, гэта стала расплатай за рэпрэсіі супраць вядучага каманднага складу Чырвонай арміі, у выніку якіх ні на адным узроўні – брыгады, дывізіі, корпуса – парой не маглі своечасова прыняць правільнага аператыўнага рашэння. Артылерысты,

[36] ЦАМО РФ. Ф. 208. Оп. 2511. Д. 80: Отчет о действиях 13-й танковой дивизии 5 МК за период с 4 по 19.7.41. Л. 3.

[37] ЦАМО РФ. Ф. 208. Оп. 2511. Д. 80: Лепельская операция с 6 по 11.7.41 г. Л. 111.

[38] BA-MA. RH 26-26/7a. Vernehmung des gefangenen russischen Oberleutnant Jacob Josifowitsch Dschugaschwili vom 14. Haub. Art. Regiment. Bl. 1–3.

дзе праходзіў службу старшы лейтэнант, вымушаны былі весці агонь па праціўніку без палявых карт[39].

Такім чынам, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што адна з актуальных задач беларускай гістарычнай навукі – правядзенне спецыяльнага даследавання Лепельскай аперацыі пачатку ліпеня 1941 г., у аснову якога будзе пакладзены прынцып супастаўлення дакументальных крыніц айчыннага і замежнага паходжання. Толькі так можна стварыць аб'ектыўную рэканструкцыю тых важных гістарычных падзей.

### 3. Баі на Дняпроўскім рубяжы пад Магілёвам

Пішучы пра баі пад Магілёвам, аўтары новага расійскага выдання пакінулі некалькі навуковых тэзісаў, крытычны аналіз якіх неабходны па розных прычынах, і ў першую чаргу з-за іх неадпаведнасці вядомым на цяперашні час дакументальным фактам. Напрыклад, на с. 746 сцвярджаецца: "К 9 июля танки Гудериана подошли к Могилеву". Адразу ўзнікае пытанне, на падставе якіх дакументаў зроблена такая выснова, калі ўлічыць добра вядомыя з савецкай гістарыяграфіі звесткі наконт таго, што бой на Буйніцкім полі пад Магілёвам адбыўся 12 ліпеня 1941 г.[40] (пра гэта яшчэ ў ліпені 1941 г. пісалася ў савецкім друку).

Звернемся да нямецкіх дакументаў, у першую чаргу да "Данясення 6-га танкавага палка пра бой пад Магілёвам"[41], які 12 ліпеня 1941 г. у складзе трох рот вялі баявыя падраздзяленні 3-й танкавай дывізіі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта В. Модэля[42]. Паводле

[39] Тамсама. Bl. 2–3.

[40] История Второй мировой войны 1939–1945: в 12 т. Т. 4: Фашистская агрессия против СССР. Крах стратегии "молниеносной войны". Москва, 1975. С. 47; Паваліхіна В. С. Буйніцкае поле // Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне, 1941–1945: энцыклапедыя. Мінск, 1990. С. 103.

[41] Бой 2-га батальёна 6-га танкавага палка пад Магілёвам // БГЧ. 2007. № 7. С. 13–19.

[42] Hürter J. Hitlers Heeresführer. Die deutschen Oberbefehlshaber im Krieg gegen die Sowjetunion 1941/42. München, 2006. S. 649.

дзённіка баявых дзеянняў 6-га танкавага палка, 2-і батальён якога якраз і вёў 11–12 ліпеня бой на паўднёва-заходніх падыходах да горада на Дняпры, захаваліся рапарты камандзіраў 5-й, 7-й і 8-й танкавых рот. Гэтыя падраздзяленні непасрэдна выконвалі загад камандзіра 3-й танкавай дывізіі, якая ў складзе 2-й танкавай арміі (танкавай групы) генерал-палкоўніка Г. Гудэрыяна павінна была забяспечыць "прарыў праз умацаванні на Дняпры і пачаць наступленне на Смаленск"[43]. Раніцай 12 ліпеня 1941 г. ад камандзіра дывізіі В. Модэля паступіла кароткае паведамленне: "Становішча на 6.00: 3-я танкавая дывізія наступае на ворага на захад ад Дняпра, на паўднёвы захад ад Магілёва"[44]. Палявы штаб Г. Гудэрыяна ў той час знаходзіўся ў Талачыне. У вячэрнім запісе штабнога аддзела ад 12 ліпеня адзначалася: "Дзённае паведамленне, 12.7.41, 23.40. 3-й танкавай дывізіі выйсці з раёна Буйнічы для правядзення пераправы цераз Дняпро злева ад 10-й пяхотнай дывізіі [паміж Магілёвам і Старым Быхавам. – *С. Н.*], каб весці наступленне ў раёне Магілёў – Чавусы – Расна"[45].

Камандаванне 6-га танкавага палка, выконваючы загад камандзіра дывізіі, вяло актыўную разведку, здабывала звесткі пра ландшафт мясцовасці, размяшчэнне на ёй абарончых умацаванняў, пра наяўнасць жывой сілы і баявыя пазіцыі савецкіх баявых часцей. А 20-й гадзіне 11 ліпеня 1941 г. разведка дакладвала, што на захадзе, поўначы і поўдні ад горада выяўлены процітанкавыя равы, мінныя палі і ўмацаваныя пазіцыі процітанкавай артылерыі[46]. Атрыманыя звесткі былі перададзены камандзірам рот, якія раніцай 12 ліпеня пачыналі наступленне на напрамку галоўнага ўдару 2-га батальёна. Уздоўж

[43] BA-MA, RH 21-2/927: KTB (Kriegstagebuch) Nr. 1 der 2. Panzer-Armee (Panzergruppe 2), Darstellung der Ereignisse am 12. Juli 1941. Bl. 204.

[44] BA-MA, RH 21-2/124: KTB Nr. 1 der 2. Panzer-Armee (Panzergruppe 2), Anlagen v. 12.7.1941. Bl. 3.

[45] Тамсама. Bl. 59.

[46] BA-MA. RH 27-3/165: Tätigkeitsbericht der 3. Panzer-Division v. 11.7.41.

шашы Быхаў – Магілёў з арыенцірам на в. Буйнічы павінна была весці наступленне 7-я рота; паміж Бабруйскай шашой і чыгункай на Гомель – 8-я рота; паміж чыгункай на Гомель і Асіповічы з арыенцірам на в. Туманаўку – 5-я рота.

У рапартах камандзіраў танкавых рот ёсць звесткі пра іх колькасны склад і баявыя дзеянні 12 ліпеня, праведзеныя ў ходзе выканання пастаўленых задач[47]. Звесткі пра разгортванне баявых дзеянняў на асобных участках паўднёва-заходняга плацдарма пад Магілёвам адлюстроўваюць ступень баявой гатоўнасці абаронцаў горада, найперш часцей Чырвонай арміі, якія праявілі сваё тактычнае ўменне і практычныя навыкі баявых дзеянняў у час арганізацыі абароны на Дняпры. Паводле сведчанняў гэтай дакументальнай крыніцы, на лініі наступлення непасрэдна ў раёне в. Буйнічы германскія войскі сустрэлі эфектыўную агнявую абарону савецкіх артылерыстаў, танкістаў і пяхоты, а таксама мінныя палі.

Як вынікае з нямецкага дакумента, бой на ўчастку мясцовасці пад в. Буйнічы, дзе вяла наступленне 7-я танкавая рота, меў пэўныя адметнасці. З дакумента відаць, што ў ходзе наступлення нямецкіх танкавых рот самым складаным быў участак баявых дзеянняў не пад в. Буйнічы, размешчанай на адкрытай мясцовасці, а ў раёне лясной вёскі Туманаўка. Калі 8-я танкавая рота, якая дзейнічала ў цэнтры наступальных падраздзяленняў, у асноўным выканала задачу і заняла ўчастак паміж Бабруйскай шашой і чыгункай на Гомель (пры гэтым узяла ў палон 80 чырвонаармейцаў), то на лініі наступлення 5-й танкавай роты пад Туманаўкай савецкія артылерысты, баявыя разлікі танкаў і процітанкавых гармат, а таксама сапёры, якія ўмела паставілі міннае поле, падарвалі і знішчылі ўсе баявыя машыны 2-га і 4-га ўзводаў роты[48].

[47] BA-MA, RH 27-3/29: Panzer-Regiment 6. Erfahrungsbericht: Kampf der II./Rg.6 bei Mohilew am 12.7.1941. Bl. 40–45, 49–50.

[48] Тамсама. Bl. 43–44.

Заўважым, што нямецкія дакументы не замоўчваюць тое, што чырвонай ніткай праходзіць праз даследаванні беларускіх гісторыкаў пра баявыя дзеянні пад Магілёвам 12 ліпеня 1941 г. Неабходна адзначыць і такую важную акалічнасць: на сваім шляху часці германскага Вермахта фактычна ўпершыню ад пачатку вайны з СССР сустрэлі моцны рубеж супраціву, на якім мужна стаялі савецкія воіны, выконваючы загад вышэйшага камандавання аб пераўтварэнні Магілёва ў "непрыступную крэпасць" (Festung-Mohilew), як пра гэта сведчаць нямецкія дакументы[49]. Важна зразумець, чаму праціўнік называе баявыя дзеянні на магілёўскім напрамку спачатку "баямі за Магілёў"[50], а на этапе іх завяршэння "Магілёўскай бітвай" (Schlacht von Mohilew)[51]. Што ж на самай справе на цэлы тыдзень спыніла практычна цалкам укамплектаваныя па штатным раскладзе нямецкія дывізіі[52] ў ходзе распачатай "наступальнай аперацыі"[53], сэнсам якой для немцаў быў "штурм умацаванага плацдарма Магілёў"[54]?

[49] BA-MA. RH 26-7/123: Kurzberichte der 7. Infanterie-Division von Einsatz in Russland. Zeitraum: Juni 1941 – April 1944. Bl. 5; RH 26-7/15: Kurzbericht über den Einsatz der Division in der "Schlacht von Mohilew", v. 15.8.1941. Bl. 7.

[50] BA-MA. RH 24-7/49: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.–1.10.1941. Anlagen zum KTB: Tagesmeldungen v. 22.6.–1.10.1941: Abendmeldung v. 21. Juli 1941 um 23.00: Anlage 30. Bl. 56.

[51] BA-MA. RH 26-7/123: Kurzberichte der 7. Infanterie-Division von Einsatz in Russland. Zeitraum: Juni 1941 – April 1944. Bl. 5; RH 26-7/15. Kurzbericht über den Einsatz der Division in der "Schlacht von Mohilew", v. 15.8.1941. Bl. 7.

[52] BA-MA. RH 24-7/158: Stellenbesetzungen der Korpstruppen sowie dem Generalkommando unterstellten Einheiten v. 22.6.-1.10.1941, Abt. Ia, Gesamtverluste des VII. Armeekorps vom 22.6.41 bis 28.7.41 einschl. Bl. 33.

[53] BA-MA. RH 20-2/165a: Anlagen zum KTB, Teil I v. 21.6.1941–18.9.1941 (Operationskarten), Armeebefehl Nr. 8 v. 18.7.41 AOK 2; Ia, Nr. 1421/41 geh. Bl. 2.

[54] BA-MA. RH 24-7/43: Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew, v. 15.8.1941. Bl. 205; RH 24-7/48: Abt. I c, Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew, v. 6.8.1941. Bl. 96; RH 26-23/25: Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilew. Bl. 282.

З іншага боку, наколькі прыведзены ў расійскім выданні на с. 775 тэзіс вытлумачвае храналогію падзей абароны Магілёва, дзе аўтары пішуць: "Бои на Могилевском направлении начались 3 июля 1941 г. Вскоре в сражение вступили части 172-й стрелковой дивизии. Особенно тяжелой была обстановка, где держался 338-й [так у тэксце. – *С. Н.*] стрелковый полк 172-й сд (бой на Буйничском поле известен в отечественной историографии). На поле под Буйничами осталось не менее 24 подбитых вражеских бронемашин"[55]. Дэталёвы аналіз зместу гэтага тэзіса патрабуе звароту да пэўных дакументальных крыніц, у тым ліку нямецкіх[56]. Аднак на падставе якіх фактычных дадзеных можна сцвярджаць аб пачатку баёў на магілёўскім напрамку, прапануючы за момант адліку 3 ліпеня, калі баявы загад № 1 на абарону горада камандзірам 172-й стралковай дывізіі генерал-маёрам М. Раманавым быў аддадзены толькі 7 ліпеня, прычым у 20.30[57]? Што гэта азначала на самай справе? З таго моманту баявы загад неабходна было тэрмінова перадаць камандзірам палкоў, якія толькі пасля гэтага маглі пачаць выкананне баявых задач, вызначаных камандзірам дывізіі. Дык з якога гістарычнага моманту неабходна пачынаць адлік гісторыі абароны горада? З моманту, які ўвайшоў у айчынную гістарыяграфію на падставе даты, прапанаванай ва ўспамінах былым намеснікам камандуючага Заходнім фронтам генерал-лейтэнантам А. Яроменкам? Ці гістарычнай даты, якая вынікае з баявога загада № 1, аддадзенага генерал-маёрам М. Раманавым 7 ліпеня 1941 г.[58]? Ці паводле іншых загадаў? Якіх? Аднак на гэтыя пытанні мы не знаходзім адказу ў новым выданні.

Заўважым, што ў працы памылкова названы 338-ы стралковы полк 172-й стралковай дывізіі. Як вядома,

[55] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 775.

[56] Новікаў С. Я. Абарона Магілёва 1941 года: новыя звесткі // БГЧ. 2012. № 7. С. 15.

[57] Бой 2-га батальёна 6-га танкавага палка пад Магілёвам. С. 14–19.

[58] Тамсама. С. 15.

палкоўнік С. Куцепаў адказваў за арганізацыю абароны магілёўскага плацдарма на лініі Зацішша – Буйнічы і камандаваў, паводле загада № 1, не 338-м, а 388-м стралковым палком. Згодна з загадам № 1 ад 7.07.41 г., абарону горада павінны былі забяспечыць тры палкі 172-й сд (388-ы, 747-ы і 514-ы) і 394-ы полк 110-й сд[59], які абаранялі рубеж у напрамку Шклова, на паўднёвы захад і захад ад Княжыцаў. Але менавіта 388-ы стралковы полк пры падтрымцы артылерыстаў 340-га лёгкага артылерыйскага палка і палкавога сапёрнага падраздзялення спынілі танкавы ўдар, які вяла сіламі аднаго танкавага палка з паўднёвага захаду на Магілёў 3-я танкавая дывізія Вермахта 12 ліпеня[60].

Патрабуе ўдакладненняў і наступнае сцвярджэнне з новага расійскага выдання: "После того как 24 июля командование 172-й дивизии отказалось капитулировать, немцы предприняли мощный штурм"[61]. Зноў звернемся да нямецкіх дакументаў. Паводле рапарта камандавання VII нямецкага армейскага корпуса "Узяцце ўмацаванага плацдарма Магілёў ад 15.8.41 г." атрымліваецца, што 16 ліпеня 1941 г. камандаванне 2-й нямецкай палявой арміі ставіць перад VII палявым корпусам баявую задачу аб наступленні на Магілёў з мэтай авалодвання пераправай цераз Дняпро[62]. З загада вынікае, што "наступленне на Магілёў пачынаецца а 14-й гадзіне 20 ліпеня 1941 г."[63]. Выканаць пастаўленую

[59] Баявы загад № 1 камандзіра 172-й стралковай дывізіі генерал-маёра М. Ц. Раманава ад 7.07.41 г. // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. Мінск, 2014. С. 128–129.

[60] Новікаў С. Адлюстраванне падзей на Буйніцкім полі 12 ліпеня 1941 года у нямецкіх архіўных дакументах // БГЧ. 2007. № 7. С. 12–19; Новікаў С. Абарона Магілёва 1941 года: новыя звесткі // БГЧ. 2012. № 7. С. 14–19.

[61] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 777.

[62] Узяцце ўмацаванага плацдарма Магілёў // БГЧ. 2010. № 7. С. 30.

[63] BA-MA, RH 24-7/40: KTB des VII. A.K., Gen. Kdo VII A.K. Bl. 53.

задачу павінны былі дзве нямецкія пяхотныя дывізіі – 7-я і 23-я, першая з іх штурмуе паўночна-заходні, другая – паўднёва-заходні рубяжы абароны горада, яны захопліваюць іх і фарсіруюць Дняпро – і гэта на працягу толькі другой паловы дня 20 ліпеня. Аднак абаронцы магілёўскага плацдарма з першых жа гадзін баявых дзеянняў істотна парушылі нямецкія планы, і гэта адлюстравана на старонках рапарта і дзённіка баявых дзеянняў армейскага камандавання. Яны спынілі, а потым цэлы тыдзень затрымлівалі на дняпроўскім рубяжы значныя нямецкія сілы, так неабходныя для наступлення на Смаленск і Маскву. Таму 22 ліпеня да пяхотных дывізій 7-га армейскага корпуса, што ўжо наступалі на Магілёў, далучылася 78-я пяхотная дывізія XII нямецкага армейскага корпуса, аператыўнай задачай якой быў штурм горада з поўдня ў напрамку раёна Лупалава. А 23 ліпеня нямецкае камандаванне 2-й палявой арміі пайшло нават на выкарыстанне стратэгічных рэзерваў – увяло ў бой свежыя сілы 15-й пяхотнай дывізіі[64]. Менавіта гэтая дывізія ажыццяўляла канчатковы захоп Магілёва.

Такім чынам, фактычна з першага дня наступлення на Магілёў чатыром пяхотным дывізіям VII нямецкага армейскага корпуса давялося штурмаваць[65] магілёўскі плацдарм. Звесткі з данясенняў камандзіраў дывізій аб разгортванні баявых дзеянняў на асобных участках абароны горада сведчаць пра высокую ступень баявой гатоўнасці абаронцаў, у першую чаргу часцей Чырвонай арміі[66]. Як вынікае з дакументальных крыніц, на лініі наступлення праціўнік сустрэў эфектыўную абарону, "умела і па-майстэрску абсталяваныя" абарончыя пазіцыі[67], асабліва моцнай з якіх быў амаль непрыступны бастыён

[64] BA-MA. RH 24-7/40: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.–1.10.1941, Tagesmeldungen v. 23.7.41. Bl. 59 R.

[65] BA-MA, RH 24-7/43: Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941. Bl. 205.

[66] Тамсама. Bl. 208.

[67] BA-MA. RH 24-7/40: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6–1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41. Bl. 56.

Гаі[68] – трывала ўмацаваны ўзлесак, штурм якога неаднаразова вёўся нямецкімі сіламі. З вячэрняга данясення 21 ліпеня VII армейскага корпуса камандаванню 2-й палявой арміі вынікае, што 7-я і 23-я пяхотныя дывізіі на працягу двух дзён няспынна вялі "вельмі ўпартыя баі"[69]. На другі дзень гэтых баёў камандаванне корпуса пакінула запіс: абаронцы супраціўляюцца вельмі моцна і ўпарта, таму ў камандавання ўзнікла сумненне ў тым, што дзве дывізіі змогуць самастойна разбіць сілы праціўніка і ўзяць умацаваны плацдарм[70].

Практычна ва ўсіх дакументах немцы адзначалі, што на шляху наступлення пяхотных дывізій "нечакана была выяўлена добра адбудаваная сістэма абарончых пазіцый"[71], якую завяршалі ўдала пастаўленыя мінныя палі[72]. Нямецкія дакументы не замоўчваюць, што на ўсіх рубяжах пад Магілёвам наступленне палкоў было сустрэта моцным агнём, самі абаронцы праяўлялі асаблівую вытрымку, стойкасць і вынослівасць[73]. "Плацдарм Магілёў браўся VII армейскім корпусам на працягу сямі дзён з нечакана жорсткімі баямі. Гэты штурм уяўляе сабой цалкам завершаную **аперацыю** [выдзелена мной. – *С. Н.*], а таму з'яўляецца рэдкай карцінай асобнай бітвы армейскага корпуса… Рускі трымаецца да апошняга. Ён зусім не ўспрымальны да баявых дзеянняў на яго флангах і тыле. Трэба было з боем браць кожную стралковую

68 Тамсама. Bl. 59.

69 BA-MA. RH 24-7/49: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6–1.10.1941, Anlagen zum KTB: Tagesmeldungen v. 22.6.–1.10.1941: Abendmeldung v. 21. Juli 1941 um 23.00: Anlage 30. Bl. 56.

70 BA-MA. RH 24-7/43: Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941. Bl. 208; RH 24-7/40: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.–1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41. Bl. 57 R.

71 BA-MA. RH 24-7/40: KTB des VII. A.K. Nr. 5 b v. 22.6.–1.10.1941, Tagesmeldungen v. 21.7.41. Bl. 56 R.

72 BA-MA. RH 26-23/22: KTB Nr. 6 Kdo 23. Ind.-Div. für die Zeit v. 25.5.–7.8.1941, Abt. Ia. Bl. 42.

73 BA-MA. RH 24-7/43: Die Erstürmung des befestigten Brückenkopfes Mohilev, v. 15.8.1941. Bl. 213.

ячэйку, кожную процітанкавую і кулямётную пазіцыю, кожны дом"[74].

Нават з гэтага дакумента відаць, што штурмаваць магілёўскі плацдарм нямецкім пяхотным дывізіям даводзілася літаральна з першага дня наступлення на Магілёў і да апошняга дня яго трывалай абароны.

Выклікае пытанні таксама сцвярджэнне на с. 777: "Будучи раненым генерал Романов был укрыт местными жителями, впоследствии организовал партизанский отряд, но был выдан изменником и казнен фашистами"[75]. Што ў якасці доказаў стаіць за гэтым тэзісам, калі ўлічыць дакументальна пацверджаны факт: з восені 1941 г. генерал Раманаў апынуўся сярод вязняў аднаго з спецыяльных лагераў "Афлаг XIII C" побач з баварскім горадам Хамельбург, дзе ўтрымліваліся савецкія палонныя афіцэры, у тым ліку маёр Гаўрылаў, капітан Зубачоў і іншыя. Лёс генерала Раманава трагічна абарваўся 3 снежня 1941 г.[76]. Легендарны абаронца памёр ад ранення, атрыманага ў час выхаду з акружэння пад Магілёвам.

Звернем увагу яшчэ на адзін сказ: "Больших жертв стоило врагу взятие города Могилева, где стойко держались немногочисленные советские войска"[77]. Аўтары выкарыстоўваюць словазлучэнне "больших жертв" і не называюць дакладных лічбаў, відаць, кіруючыся пасляваеннымі ўспамінамі Маршала Савецкага Саюза Г. Жукава ў дачыненні да колькасці страт з боку нямецкай жывой сілы ў ходзе 23-дзённай абароны горада Магілёва. У яго мемуарах прыводзіцца лічба больш за 30 тыс. нямецкіх салдат і афіцэраў[78]. Для чытача гэта азначае, што "нешматлікія савецкія

[74] Тамсама. Bl. 213; Новікаў С. Магілёўская бітва 1941 года ў данясеннях вермахта // БГЧ. 2010. № 7. С. 25.

[75] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 777.

[76] Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. Мінск, 2014. С. 60.

[77] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 746.

[78] Жуков Г. К. Воспоминания и размышления. Москва, 1969. С. 295.

войскі”, колькасць якіх, паводле айчыннай гістарыяграфіі, вынікала з факта абароны ўмацаванага плацдарма толькі адной 172-й стралковай дывізіяй (згодна з планам камплектавання ад 1.04.1941 г. штат дывізіі павінен быў складаць 14 тыс. чалавек[79]). У гэтым выпадку атрымліваецца, што адна толькі 172-я стралковая дывізія знішчыла каля Магілёва дзве штатныя нямецкія пяхотныя дывізіі. Але наколькі гэтая лічба адпавядае нямецкім дакументальным крыніцам, непасрэдна тым фактычным звесткам, замацаваным у дзённіках баявых дзеянняў кожнай з 4 пяхотных дывізій, якія на працягу тыдня вялі штурм умацаванага плацдарма пад Магілёвам? Паводле нямецкіх дакументальных дадзеных, агульная лічба страт за той час складала 3765 афіцэраў, унтэр-афіцэраў і салдат, у тым ліку: забітых – 727, параненых – 2867 і зніклых – 171 чалавек[80].

Цяпер прааналізуем другую частку сцвярджэння – аб “нешматлікіх савецкіх войсках” пад Магілёвам. З кантэксту працы вынікае, што да ліку абаронцаў Магілёўскага плацдарма аўтары выдання адносяць толькі адну 172-ю стралковую дывізію. Наколькі гэта так, калі кіравацца дакументальнымі звесткамі, выяўленымі аўтарам гэтых радкоў у нямецкіх дакументах, у якіх размова ідзе пра колькасць савецкіх ваеннапалонных, што ў ходзе абароны горада на Дняпры апынуліся ў нямецкіх палоне? З нямецкіх дакументаў вынікае, што агульная лічба ваеннапалонных складала 35 031, з якіх 31 – афіцэр РСЧА. З агульнай лічбы палонных бачым, што гэта адпавядала штатнай колькасці не менш як трох савецкіх дывізій, якія абаранялі горад. Аднак дзе мы пра гэта чытаем у новым выданні? Больш за тое, ці ідзе ў ім гаворка пра савецкіх ваеннапалонных, якія фактычна з першых дзён вайны пачалі пісаць адну з трагічных старонак гісторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны? Асабліва з улікам таго, што менавіта на беларускай зямлі загінуў фактычна

[79] Накануне: Западный особый военный округ (конец 1939 – 1941 г.): документы и материалы. Минск, 2007. С. 5.

[80] Новікаў С. Магілёўская бітва 1941 года ў данясеннях вермахта // БГЧ. 2012. № 7. С. 24.

кожны трэці ваеннапалонны, узяты ў палон групай армій "Цэнтр", і кожны пяты ваеннапалонны, што апынуўся ў нямецкім палоне ў гады вайны.

З выяўленых у апошні час дакументальных крыніц вынікае, што Магілёўскі плацдарм на працягу некалькіх дзён абараняла не адна штатная 172-я стралковая дывізія, а аб'яднаныя сілы некалькіх дывізій, у тым ліку: 110-й, 84-й, 100-й, 148-й, 161-й, 24-й і 50-й стралковых дывізій. У нямецкіх дакументах адзначаецца, наколькі складана вызначыць дакладна, былі выяўленыя вайсковыя часці толькі далучаны да асноўных сіл у якасці ўзмацнення пры правядзенні баявых дзеянняў пад Магілёвам ці яны ўліліся ў якасці папаўнення ў склад чатырох адмабілізаваных стралковых дывізій (110-й, 172-й, 148-й і 161-й). Да ўсяго трэба мець на ўвазе, што ў Магілёве і яго ваколіцах трапілі ў палон чырвонаармейцы іншых стралковых падраздзяленняў, а таксама часці 210-й матарызаванай дывізіі і часці ці рэшткі часцей 26-й і 38-й ранейшых танкавых дывізій, якія сталі матарызаванымі, і інш.

З дакументаў нямецкага 7-га палявога армейскага корпуса бачым, што абарону Магілёўскага плацдарма вялі дзве штатныя дывізіі (110-я і 172-я), якія раней не былі задзейнічаны ў баях, тры выматаныя, але баяздольныя дывізіі (148-я, 161-я стралковыя і 210-я матарызаваная), а таксама рэшткі 24-й, 50-й, 100-й і іншых стралковых дывізій. Вось чаму не выклікае поўнага непрымання агульная колькасць савецкіх вайскоўцаў, якія трапілі ў нямецкі палон у ходзе Магілёўскай бітвы[81].

Такім чынам аказваецца: базавым палажэннем, замацаваным у сучаснай расійскай гістарыяграфіі, з'яўляецца традыцыйны тэзіс савецкай гістарычнай навукі аб вызначальнай ролі падраздзяленняў 172-й стралковай дывізіі 13-й арміі, якія на працягу 23 дзён вялі абарону Магілёва на Дняпры.

[81] Данясенне 7-га армейскага корпуса аб узяцці ўмацаванага плацдарма Магілёў (20.07–26.07.41) // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. Мінск, 2014. С. 181.

### 4. Контрудар Чырвонай арміі на Гомельшчыне

Нарэшце звернем увагу на наступны сюжэт на с. 785: “Сильный контрудар по противнику с середины июля нанесла 21-я армия, освободив Жлобин и Рогачев. Этот успех стал одной из первых удачных локальных операций РККА, сковавшей на некоторое время главные силы 2-й немецкой армии в междуречье Днепра и Березины”[82]. З дзённіка баявых дзеянняў гэтай арміі вынікае, што баявыя дзеянні 63-га стралковага корпуса пад камандаваннем генерала Л. Пятроўскага былі не толькі адметнымі ў тактычным плане, паколькі скавалі на некаторы час галоўныя сілы 2-й палявой нямецкай арміі, але і сталі вызначальнымі ў прыняцці важных стратэгічных рашэнняў на ўзроўні Вярхоўнага галоўнакамандавання германскага Вермахта ў канцы ліпеня 1941 г. Пры гэтым асобна падкрэслім, што аўтарам неабходна было б пазначыць, што адной з галоўных прычын выдання 30 ліпеня А. Гітлерам дырэктывы № 34, згодна з якой група армій “Цэнтр” у выніку баявых дзеянняў Заходняга і Цэнтральнага франтоў часова спыняла сваё наступленне на Маскву і пераходзіла да абароны на гэтым участку Усходняга фронту[83], былі якраз баявыя дзеянні на Гомельшчыне. Наш тэзіс вынікае з дадатку да дырэктывы № 34 ад 12 жніўня 1941 г., у якім Вярхоўнае галоўнакамандаванне Вермахта вызначае ў якасці першачарговай задачы ліквідацыю праціўніка на паўднёвым флангу, дзе былі скаваны даволі буйныя сілы пяхоты групы армій “Цэнтр”. З гэтай мэтай аддаваўся загад аб падрыхтоўцы тактычнага ўдару 2-й танкавай групы ў напрамку на Гомель, які адначасова разглядаўся ў якасці этапу падрыхтоўкі ў будучым стратэгічнага ўдару з поўдня на Маскву. Усё гэта азначала, што план

[82] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 785.

[83] Дырэктыва А. Гітлера № 34 аб далейшым вядзенні вайны на ўсходзе ад 30.7.1941 г. // Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года… С. 204; Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. 2-е выд., выпр. і дап. Смаленск, 2015. С. 91.

маланкавай вайны пачаў даваць збоі ў Беларусі. І адной з важных прычын гэтага стала пагрозлівае становішча, створанае сіламі Чырвонай арміі супраць правага фланга групы армій "Цэнтр" на Гомельшчыне летам 1941 г. Тут важна адзначыць, што ў новым расійскім выданні прыведзены даволі пераканаўчыя факты, якія сведчаць аб стратэгічнай важнасці контрудару 21-й арміі савецкіх войскаў. Таму цалкам лагічнай нам бачыцца выснова аўтараў працы, што "приостановка наступления немецких войск на главном стратегическом направлении… позволила Красной армии пополнить личным составом поредевшие воинские части, сформировать новые и выдвинуть их (порой плохо вооруженные и недостаточно подготовленные) для укрепления обороны Москвы"[84].

Між тым, кажучы пра падзеі на Гомельшчыне ўлетку 1941 г., важна памятаць, што ў ліпені – жніўні на Дняпроўскім рубяжы каля Рагачова і Жлобіна германскія войскі ўпершыню ў ходзе Вялікай Айчыннай вайны былі вымушаны весці шматтыднёвыя абарончыя баі, якія ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі атрымалі назву "Гомельскай бітвы 1941 года"[85]. Дзякуючы ёй больш чым на месяц былі затрыманы значныя сілы Вермахта, што стала адной з вызначальных прычын краху германскага "бліцкрыгу" на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.

Нагадаем, што камандаванне Заходняга фронту, каб адцягнуць сілы праціўніка і аслабіць ціск групы армій "Цэнтр" на маскоўскім напрамку (дзе з 10 ліпеня праводзілася Смаленская стратэгічная абарончая аперацыя Чырвонай арміі), з 13 ліпеня пачало праводзіць Рагачоўска-Жлобінскую франтавую наступальную аперацыю сіламі 63-га стралковага корпуса 21-й арміі[86]. У ходзе гэтай аперацыі 63-і стралковы корпус пад камандаваннем

[84] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 785.

[85] Новікаў С. Гомельская бітва 1941 года: спроба рэканструкцыі // БГЧ. 2012. № 8. С. 3–14.

[86] Боевой приказ 3 03/ОП. Штарм 21 Гомель. 13.7.41 // Иринархов Р. С. Агония 1941 года. Кровавые дороги отступления. Москва, 2011. С. 299–301.

генерал-лейтэнанта Л. Пятроўскага сутыкнуўся з упартым супраціўленнем нямецкага 53-га армейскага пяхотнага корпуса 2-й нямецкай палявой арміі. Фактычна на месяц гэтая армія была затрымана сіламі Чырвонай арміі ў міжрэччы Бярэзіны, Дняпра і Сожа. Тое баявое наступленне і яго наступствы, як сцвярджаецца ў сучаснай айчыннай гістарыяграфіі, стала, магчыма, першым поспехам савецкіх войскаў за ўвесь пачатковы перыяд вайны[87]. На наш погляд, не менш важным можна лічыць таксама і той факт, што ў выніку франтальнай наступальнай аперацыі Чырвонай арміі 2-я нямецкая палявая армія вымушана была перайсці да абароны на тэрыторыі Беларусі ўжо ў пачатку трэцяй дэкады, 20 ліпеня. Больш за тое, паводле загаду А. Гітлера ад 30 ліпеня 1941 г. група армій "Цэнтр" упершыню пасля нападу на Савецкі Саюз пераходзіла да абароны на цэнтральным напрамку разгортвання стратэгічнага плана "маланкавай вайны".

У значнай ступені падзеі на гомельскім напрамку сталі адной з прычын відавочнага правалу плана "Барбароса"[88]. Аператыўны крызіс на маскоўскім напрамку наступлення Вермахта ў другой палове ліпеня – пачатку жніўня 1941 г. сведчыў аб тым, што савецкае контрнаступленне пад Жлобінам і Рагачовам выклікала няўпэўненасць не толькі сярод камандавання групы армій "Цэнтр", але і сярод вышэйшага камандавання сухапутных сіл Вермахта. Супярэчнасці, якія тады ўзніклі, ляглі ў аснову новых распараджэнняў А. Гітлера ў канцы ліпеня, паводле якіх быў аддадзены загад пра абарону на гомельскім напрамку (разгарнуць сілы 2-й арміі ў напрамку на Гомель і знішчыць групоўку савецкіх войск,

[87] Литвин А. М. В боях за восточную Беларусь // Беларусь. 1941–1945: Подвиг. Трагедия. Память: в 2 кн. Кн. 1. Минск, 2010; 1941 год: Страна в огне: в 2 кн. Кн. 1. Очерки. Москва, 2011. С. 389.

[88] Hürter J. Hitlers Heeresführer. Die deutschen Oberbefehlshaber im Krieg gegen die Sowjetunion 1941/42. München, 2006. S. 292.

якая яго абараняла[89]). Такім чынам, значная частка сіл Вермахта замест паходу на Маскву вымушана была рухацца на Гомель.

Звернем увагу, што па стане на 4 ліпеня 1941 г. у складзе 2-й палявой арміі налічвалася 6 армейскіх карпусоў, адзін з якіх (7-ы армейскі корпус) павінен быў выконваць баявыя задачы на Дняпроўскім рубяжы ў раёне г. Магілёва, вядомага з гістарыяграфіі як "Мадрыд на Дняпры", а другі (9-ы армейскі корпус) быў уключаны ў склад 2-й танкавай групы пад камандаваннем Г. Гудэрыяна, якая наступала на маскоўскім напрамку. Ва ўмовах змены сітуацыі са стратэгічнага рэзерву групы армій "Цэнтр" 2-й палявой арміі быў дадаткова выдзелены 43-і армейскі корпус у складзе трох дывізій. Такім чынам, для выканання баявой задачы на гомельска-рагачоўскім участку Цэнтральнага фронту 2-я палявая армія вылучала 14 пяхотных і адну кавалерыйскую дывізіі[90]. Нагадаем, што 23 ліпеня камандаванне 2-й палявой арміі вымушана было аддаць загад аб пераходзе (фактычна ўпершыню з пачатку кампаніі на Усходзе) да працяглай абароны на лініі Парычы – Жлобін – Рагачоў – р. Дняпро (на поўдзень ад Новага Быхава) – Прапойск – р. Сож[91]. Штодзённыя баявыя дзеянні знаходзілі адлюстраванне ў данясеннях палкоў, дывізій і карпусоў, важным з якіх з'яўляецца "Данясенне аб Рагачоўска-Гомельскай бітве" аператыўнага штаба 2-й палявой арміі Вермахта[92].

Прыкрыццё правага фланга групы армій "Цэнтр" спачатку было звязана са стрымліваннем савецкага наступлення на плацдарме Рагачоў – Жлобін. Як вынікае з дакументаў, вядзенне нямецкімі часцямі абарончых баёў не

[89] "Erwägungen und Anordnungen des Führers" vom 28.7.1941 // Das Deutsche Reich und der Zweite Weltkrieg. Bd. 4. Der Angriff auf die Sowjetunion. Stuttgart, 1987. S. 494.

[90] Schämatische Kriegsgliederung der Heeresgruppe Mitte, Stand 4.7.1941 // Тамсама. S. 455.

[91] BA-MA. RH 26-53/4: Anlage zum KTB Nr. 1 (Band 1 vom 23.4–31.7.41), Armeebefehle, Anlage zum KTB Nr. 1, Ia. Bl. 1.

[92] BA-MA. RH 20-2/172b: Bericht über die Schlacht von Rogatschew – Gomel, v. 13.9.41. Bl. 1–16.

садзейнічала знішчэнню праціўніка, які меў магчымасць пастаянна папаўняць свае сілы; толькі поўная ліквідацыя групоўкі, якая абараняла Гомель, магла стаць надзейнай гарантыяй для аховы паўднёвага фланга 2-й палявой арміі з Гомеля і даць магчымасць аднавіць яе свабоду дзеянняў. Але ў пачатку жніўня камандаванне групы армій "Цэнтр" было вымушана адмовіцца ад першапачатковага намеру наступлення на гомельскім напрамку з прычыны недахопу боезапасаў. Спачатку наступленне прызначалася на 5 жніўня; потым дата была адсунута на два дні, а ў выніку канчатковай датай стала 12 жніўня 1941 г. Галоўнай задачай для 2-й арміі ў складзе пяці нямецкіх пяхотных карпусоў і асобнай групы генерал-лейтэнанта Ганса Белендорфа вызначалася наступленне на фронце паміж рэкамі Дняпро і Сож, акружэнне савецкіх войск на захад ад р. Сож з прасоўваннем абодвух флангаў на Гомель і знішчэннем акружанай групоўкі ворага паміж рэкамі Дняпро і Сож[93]. Канчаткова зняць небяспеку для паўднёвага флангу групы армій "Цэнтр" удалося толькі ў выніку ліквідацыі асноўных сіл Чырвонай арміі ў раёне Рагачова і Жлобіна, захопу Гомеля на працягу 19–20 жніўня 1941 г. і заняцця плацдарма цераз р. Сож. Такім чынам, баявыя задачы, пастаўленыя камандаваннем 2-й палявой арміі ў пачатку наступлення 12 жніўня, былі выкананы. Паводле нямецкага данясення, 21-я савецкая армія была ліквідавана ў раёне паміж Прапойскам – Рагачовам і Жлобінам. У ходзе паведзенай аперацыі толькі пад Гомелем у палон узялі 54 081 чырвонаармейца, а таксама захапілі 468 грамат, 106 танкаў, 362 кулямёты, 7 самалётаў і іншыя трафеі[94].

Між тым, нават з улікам панесеных страт, менавіта на Гомельшчыне Чырвоная армія здабыла адзін з першых сваіх стратэгічных поспехаў. Галоўным вынікам бітвы было выключэнне сіл 2-й нямецкай палявой арміі і 2-й танкавай групы з баёў на маскоўскім напрамку. Замест таго каб выкарыстоўваць 2-ю палявую армію для

[93] Тамсама. Bl. 3.
[94] Тамсама. Bl. 14.

разгрому савецкіх войск пад Смаленскам, камандаванне Вермахта было вымушана перавесці яе далёка ў тыл групы армій "Цэнтр". Наступальныя і абарончыя аперацыі Чырвонай арміі разбуралі яго планы на рубяжах па рэках Бярэзіна, Дняпро і Сож. Чырвонаармейцы затрымлівалі нямецкія часці, наносілі ім значныя страты і разбуралі іх планы аб імклівым наступленні на маскоўскім напрамку. Нягледзячы на неспрыяльную абстаноўку, савецкім баявым часцям у выніку ўпартых і крывапралітных баёў удалося аказаць сур'ёзнае супраціўленне праціўніку, затрымаць рух войскаў на ўсход, прымусіць часова спыніцца і нават перайсці да абароны. Вынікі больш чым месячнай бітвы за Беларусь на Гомельшчыне паўплывалі на ўнясенне карэкціроўкі ў першапачатковыя планы немцаў ва ўсходняй аперацыі, нават да змены ўсёй стратэгіі плана "маланкавай вайны". Лакальныя і абмежаваныя поспехі Заходняга і Цэнтральнага франтоў на Гомельшчыне сталі першымі крокамі на шляху да краху стратэгічнай аперацыі "Барбароса".

Такім чынам, з улікам дакументальных крыніц, грунтоўна апрацаваных у новых даследаваннях расійскім гісторыкам А. Ісаевым для паказу баявых падзей у Беларусі ўлетку 1941 г., у новай фундаментальнай працы прапануецца даволі абгрунтаваны навуковы падыход у дачыненні да ацэнкі вынікаў контрудару Чырвонай арміі на Гомельшчыне ў 1941 г.

## 5. Лёс савецкіх ваеннапалонных у Беларусі летам 1941 г.

Нарэшце, горкая праўда гісторыі лета 1941 г. у Беларусі вымагала ад аўтараў новай працы абавязковага разгляду аднаго з самых дыскусійных сюжэтаў – лёсу палоненых у Беларусі ўлетку 1941 г. савецкіх салдат і афіцэраў, якія ў новай працы падаюцца без канкрэтных лічбаў[95], у кантэксце г. зв. савецкага стэрэатыпу "безвозвратных

[95] Великая Отечественная война 1941–1945 годов: в 12 т. Т. 2: Происхождение и начало войны… С. 743.

потэрь”[96]. У гістарыяграфіі савецкага часу месца для іх не знаходзілася па вядомых прычынах, але атрымліваецца так, што няма яго і цяпер. Аўтары разгляданай працы проста ігнаруюць з'яву палону ў Беларусі. І гэта пасля таго, як ўжо вытрымала два выданні кніга вядомага расійскага даследчыка П. Паляна “Жертвы двух диктатур: Жизнь, труд, унижение и смерть советских военнопленных и остарбайтеров на чужбине и на родине”[97] (Масква, 1996, 2002). На наш погляд, навуковы аналіз гэтага пытання асабліва важны ў дачыненні да Беларусі, дзе да канца лета 1941 г. у нямецкі палон трапілі 436 тыс. чырвонаармейцаў[98] [падлікі аўтара. – *С. Н.*], або кожны другі воін Чырвонай арміі з занесеных у лік беззваротных страт баявога складу Заходняга фронту. Акрамя таго, гэтая лічба ваеннапалонных складае больш за дзве трэці баявога складу і колькасці войскаў фронту на момант пачатку баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г., дзе за гады вайны загінуў фактычна кожны трэці чырвонаармеец, які быў узяты ў палон войскамі групы армій “Цэнтр”, і кожны пяты з усіх савецкіх ваеннапалонных[99].

Нягледзячы на вялікія страты, панесеныя Чырвонай арміяй на першым этапе абарончых баёў у ходзе бітвы за Беларусь улетку 1941 г., стрымаць націск германскага Вермахта не ўдалося. Войскі Заходняга і Цэнтральнага франтоў, якія, паводле найноўшых дадзеных расійскай гістарыяграфіі, па колькасці і ўзбраенні не саступалі праціўніку, былі

[96] Кривошеев Г. Ф., Андроников В. М., Буриков П. Д., Гуркин В. В. Великая Отечественная война без грифа секретности. Книга потерь. Новейшее справочное издание. Москва, 2010. С. 78; Приграничные сражения 1941 г. // Великая Отечественная война: энциклопедия. Москва, 2010. С. 472.

[97] Полян П. М. Жертвы двух диктатур: Жизнь, труд, унижение и смерть советских военнопленных и остарбайтеров на чужбине и на родине. Москва, 2002.

[98] Новікаў С. Я. Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў. 2-е выд., выпр. і дап. Смаленск, 2015. С. 99.

[99] Gerlach Ch. Kalkulierte Morde. Die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Weißrussland 1941 bis 1944. Hamburg, 2000. S. 791.

вымушаны адыходзіць на ўсход. Тым не менш, упартым супраціўленнем і вялізнымі людскімі стратамі ў прыгранічных і іншых раёнах Беларусі войскі Заходняга фронту нанеслі значны ўрон галоўнай групоўцы Вермахта – групе армій "Цэнтр", што ўжо на тым этапе фактычна запаволіла тэмпы яе наступлення на Маскву. Яе вынік, план бліцкрыгу германскага Вермахта пачаў зрывацца.

Такім чынам, нягледзячы на публікацыю ў апошнія гады шэрагу дакументальных крыніц і з'яўленне арыгінальных змястоўных даследаванняў, параўнаўчы аналіз асноўных падзей з гісторыі баявых дзеянняў Чырвонай арміі на беларускай тэрыторыі летам 1941 г., адлюстраваных у новым расійскім выданні, пераканаўча сведчыць аб тым, што расійскія аўтары не ставілі перад сабой задачы грунтоўнага навуковага вывучэння той важнай старонкі ваеннай гісторыі Беларусі. Як ні дзіўна, але падобная задача застаецца актуальнай на цяперашні час не толькі для расійскай, але і для беларускай гістарычнай навукі[100], ставячы на парадак дня далейшае ўсебаковае вывучэнне тых падзей і пошук навукова абгрунтаваных адказаў на ўзніклыя прынцыповыя пытанні. З улікам гэтага неабходна:

па-першае, акцэнтаваць увагу даследчыкаў на навуковай верыфікацыі фактаў пры вывучэнні баявых дзеянняў Чырвонай арміі і германскага Вермахта на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.;

па-другое, павышаць прафесійную культуру даследчыкаў як вызначальны фактар паспяховага развіцця гістарычнай навукі;

па-трэцяе, праводзіць навуковую рэканструкцыю ваеннага мінулага ў кантэксце патрабаванняў цяперашняга часу і з улікам міжнароднай інтэграцыі гістарычнай навукі ў будучыні. У пачатку XXI ст. мы знаходзімся на новым этапе не толькі вывучэння і асэнсавання гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, але і яе далейшага праўдзівага захавання ў памяці сучаснага грамадства.

[100] Новікаў С. Баявыя дзеянні Чырвонай арміі летам 1941 года: дасягненні і перспектывы найноўшай гістарыяграфіі і крыніцазнаўства // БГЧ. 2016. № 6. С. 18–27.

# Military Action in Belarus in the Summer of 1941: Myths of Historiography and Historical Reality

**Siarhiej Novikaŭ**

It is the first-ever study in both Belarusian and foreign historiography that analyses bilateral military action in Belarus during the first two months of the Soviet-German war on the basis of comparative-historical methodology. The author offers a reconstruction of fighting, focusing on new documentary sources of both German and Soviet origin.

The new sources have enabled the researcher to deepen the knowledge of history to an essential degree and to approach objective representation of the initial phase of the war. He shows that as a result of the military operations of the Red Army in Belarus the *Heeresgruppe Mitte* did not only cease its treacherous offensive but also was actually put on the defensive for the first time on the central prong of the attack on Moscow, according to Adolf Hitler's Order No. 34 of 30 July, 1941.

# Пасляваенны яўрэйскі Бабруйск

## Ірына Раманава

Напярэдадні вайны ва ўсходняй Беларусі жыло 375 тыс. яўрэяў[1] і ў заходняй – прыкладна 600 тыс., разам каля 1 млн. У гады Халакосту на тэрыторыі Беларусі было забіта каля 800 тыс. мясцовых і прывезеных з Еўропы яўрэяў. Першы пасляваенны Усесаюзны перапіс, праведзены амаль праз пятнаццаць гадоў пасля вайны, зафіксаваў у БССР на 1 студзеня 1959 г. толькі 150 тыс. яўрэяў[2]. Па абласцях яўрэйскае насельніцтва размяркоўвалася наступным чынам: на першым месцы стаяла Мінская вобласць – 47,8 тыс. яўрэяў (з іх 38,8 жылі ў самім горадзе Мінску), далей ішлі вобласці ўсходняй Беларусі: Гомельская – 45 тыс., Магілёўская – 28,4 тыс., Віцебская – каля 19 тыс.; у дзвюх абласцях на захадзе Беларусі колькасць яўрэяў была значна меншай: у Брэсцкай – 6 тыс., у Гродзенскай – 3,7 тыс.[3] Амаль усе яўрэі жылі ў гарадах (каля 97%).

Вывучэнне яўрэйскага жыцця па схеме *вяртанне з эвакуацыі – антысемітызм – эміграцыя*, як гэта заўважана ў спецыялізаваных даследаваннях, моцна змяншае разнастайнасць і шматграннасць яўрэйскага вопыту пасля вайны[4].

1 Паводле дадзеных перапісу 1939 г.

2 Жанчын было прыкладна на 14,3 тыс. больш, чым мужчын.

3 Итоги Всесоюзной переписи населения. 1959 год. Белорусская ССР. Москва: Госиздат ЦСУ СССР, 1963. С. 125–126.
У 1950-я гады і пазней з-за праяваў антысемітызму частка яўрэяў запісвалася неяўрэямі, нават калі бацькі былі яўрэямі па пашпарце.

4 Cichopek-Gajraj A. Beyond violence: Jewish survivors in Poland and Slovakia, 1944–48. Cambridge: Cambridge University Press, 2014. P. 7.

Безумоўна, аналіз пасляваеннага антысемітызму і насілля мае першаступеннае значэнне, і даследаванні апошніх трох дзесяцігоддзяў паказалі гэта. Цікава таксама, як адбывалася вяртанне яўрэяў з эвакуацыі (якая, па сутнасці, была бежанствам) і іх адаптацыя ва ўмовах пасля Халакосту, як яўрэі спрабавалі вярнуцца да "нармальнасці" ці адаптавацца да новых умоваў; якія фактары выступалі ў ролі інтэгравальных для яўрэйскай грамады ў пасляваенныя гады, што значыла быць яўрэем у той час[5]. Вывучэнне індывідуальнага вопыту прадугледжвае пашырэнне кола крыніц, зварот не толькі да архіўных матэрыялаў, але і да ўспамінаў сведкаў і ўдзельнікаў падзей таго часу. З такой мэтай у верасні 2014 г. была праведзена экспедыцыя ў г. Бабруйск, дзе дзякуючы "Беларускаму архіву вуснай гісторыі" і яўрэйскай дабрачыннай арганізацыі "Хесэд" мы змаглі запісаць інтэрв'ю 76 чалавек – яўрэяў сталага ўзросту[6].

Менавіта Бабруйск, а не Мінск, дзе ў пасляваенны час жыло больш за ўсё яўрэяў, меў імідж сталіцы савецкага яўрэйства, жартам яго называлі Бірабіджан (у гонар сталіцы Яўрэйскай аўтаномнай вобласці), а яўрэяў – горадаўтваральнай нацыянальнасцю. Яўрэйскі складнік у Бабруйску заставаўся не проста інтэгральнай часткай гісторыі горада, але, хутчэй, цэнтральным яго кампанентам і ў пасляваенны час.

Перад вайной у Бабруйску было больш за 84 тыс. жыхароў, на момант вызвалення заставалася ў горадзе каля адной тысячы[7]. У горадзе і яго ваколіцах было знішчана

[5] Выказваю вялікую падзяку гісторыкам Ідзе Шандаровіч (каардынатар абшчынных праграм грамадскага аб'яднання "Магілёўская яўрэйская абшчына") і Іне Герасімавай (заснавальніца Музея гісторыі яўрэяў Беларусі) за шматлікія кансультацыі і дапамогу з матэрыяламі.

[6] Экспедыцыя пад кіраўніцтвам аўтара артыкула праводзілася ў рамках праекта "Беларускі архіў вуснай гісторыі". Мэтавую групу склалі прадстаўнікі яўрэйскай нацыянальнасці пераважна 1920–1940-х гадоў нараджэння. Усяго было запісана 76 інтэрв'ю, сабраны вялікі корпус дакументальна-фатаграфічнага матэрыялу з асабістых архіваў інфармантаў. Усе матэрыялы даступныя на сайце архіва – www.nashapamic.org

[7] НАРБ, ф. 845, воп. 1, спр. 130, арк. 252.

да 80 тыс. чалавек: каля 40 тыс. цывільнага насельніцтва і каля 40 тыс. савецкіх ваеннапалонных[8]. Былі разбураны прадпрыемствы горада, узарваны масты, у руіны ператвораны цэлыя кварталы па вуліцах Кастрычніцкай, Пушкінскай, Сацыялістычнай, Гогалеўскай, Мінскай, з 7650 жылых дамоў разбурана і спалена больш за 3 тыс.[9]. Татальная разруха, галеча, масавая міграцыя насельніцтва, хаос і беззаконне сталі фонам вяртання яўрэяў з эвакуацыі.

Вайна пакінула без даху над галавой вялікую колькасць насельніцтва. Заканамерна, што тыя, хто вяртаўся ў горад раней, сяліліся ў ацалелых дамах. Аднак у наратывах яўрэяў, што вярталіся з эвакуацыі, падкрэсліваецца, што дамы займалі не проста тыя, чый дом згарэў ці быў знішчаны, а тыя, хто мог і выкарыстаў сваё службовае становішча або пад час вайны, або пасля яе для паляпшэння ўласных жыллёвых умоваў. Так, дом сям'і Жукоўскіх быў заняты сям'ёй паліцая, законных уладальнікаў дома новая гаспадыня сустрэла ўзброеная тапаром. Маці і дачцэ замест забранага ў іх дома выдзелілі "халупу з блохамі": «Мама плакала[10]: "Муж загінуў, сын памёр, ці шмат нам трэба? Што дадуць, тое і добра будзе"... Памятаю, як прыехалі, сядзелі і плакалі. Насіць не было чаго, есці не было чаго: "Мама, навошта ты нас сюды прывезла?"»[11]. Замест дома, занятага партызанам, сям'і Аксельродаў выдзелілі маленькі пакойчык, дзе змяшчаліся толькі ложак і столік[12]. У доме сям'і Іллі Варанчука жыў начальнік міліцыі, былых гаспадароў "нават на парог не пусцілі",

[8] НАРБ, ф. 845, воп. 1, спр. 133, арк. 12–13.
Месцамі масавага знішчэння сталі: вёскі Каменка і Елавікі, Бабруйская крэпасць, яўрэйскія могілкі, лагер ваеннапалонных на вул. Паркавай (НАРБ, ф. 845, воп. 1, спр. 133, арк. 13–20).

[9] НАРБ, ф. 845, воп. 1, спр. 130, арк. 67.

[10] Размовы з інфармантамі праводзіліся на рускай мове. Тут і далей пераклад цытат з рускай мовы аўтара артыкула І. Раманавай.

[11] Зелянцова (Жукоўская) Соф'я Хаімаўна, 1937 г. нар.

[12] Трылеснік (Аксельрод) Лора Ізраілеўна, 1933 г. нар.

пасялілі ў прыёмнай паліклінікі[13]. Таксама дамы яўрэяў былі занятыя гарадскімі канторамі. Сітуацыя, характэрная не толькі для Бабруйска, але і для іншых вызваленых тэрыторый Беларусі, Украіны[14].

“Кватэрнае пытанне” займала значную частку скаргаў, накіраваных “ва ўлады”. Так, у 1945 г. такога роду скаргі склалі амаль палову з накіраваных у Вярхоўны Савет[15]. У 1949 г. пракуратура выявіла, што з 935 грамадзянскіх спраў і 87 пададзеных у суд апеляцый, звязаных з парушэннямі правоў грамадзян па пытаннях асабістай маёмасці, у большасці выпадкаў рашэнні былі прынятыя супраць яўрэяў[16]. Часткова растлумачыць гэты факт можна так: яўрэі пераважалі сярод тых, хто вяртаўся (да таго ж, вяртаўся крыху пазней, чым іншыя), адпаведна іх было шмат і сярод просьбітаў, якія імкнуліся атрымаць свой дом назад. Аднак цалкам відавочна, пытанні рэстытуцыі правакавалі ўсплёск антысемітызму[17]. Тагачасныя настроі можна апісаць прыблізна так: “Яны хаваліся ў эвакуацыі, а мы цяпер павінны ім вяртаць дамы?!”

[13] Варанчук Ілля Гедальевіч, 1928 г. нар. Архіў І. Шандаровіч.

[14] Каганович А. Речица: История еврейского местечка Юго-Восточной Беларуси. Иерусалим, 2007. С. 331; Zvi Gitelman (ed.). Bitter Legacy: Confronting the Holocaust in the USSR. Bloomington, 1997. P. 82–83; Кострыченко Г. В. Тайная политика Сталина. Москва, 2001. С. 440–441; Мицель М. Евреи Украины в 1943–1953 гг.: Очерки документированной истории. Киев, 1998. С. 20–33; Смиловицкий Л. Борьба евреев Белоруссии за возврат своего имущества и жилищ в первое послевоенное десятилетие 1944–1954 гг. // Беларусь у ХХ стагоддзі. Вып. 1. Мінск, 2002. С. 175–176 (англ. версія: Smilovitsky L. The struggle of Belorussian Jews for the restitution of possessions and housing in the first Postwar decade // East European Jewish Affairs, 2000. Vol. 30. № 2. P. 66).

[15] Manley R. To The Tashkent Station. Evacuation and Survival in the Soviet Union at War. Cornell University Press. Ithaka and London, 2009. P. 115.

[16] Smilovitsky L. The struggle of Belorussian Jews for the restitution of possessions and housing in the first Postwar decade // East European Jewish Affairs, 2000. Vol. 30. № 2. P. 66.

[17] Manley R. Ibid. P. 264.

Складовай часткай пасляваеннага антысемітызму стала трактоўка эвакуацыі як “цёпленькага месца” ўдалечыні ад вайны, што знайшло сваё выражэнне ў пасляваенным жарце: маўляў, яўрэі служылі на “Ташкенцкім фронце”[18]. Напрыклад, у сям’і Шкляраў адзін сын загінуў на вайне, другі сын і бацька памерлі, дом быў разбураны, маці жыла ў закінутым цэху швейнай фабрыкі. Але, нягледзячы на гэта, вось што ўспамінаў Фелікс Шкляр: «Калі я ўзімку вярнуўся, было такое, што крычалі: “Едзь у Ташкент!”. Нічога не было. Голад, холад. У мамы нават ложка не было»[19].

Безумоўна, у больш выйгрышным становішчы апынуліся сем’і франтавікоў, якія вярнуліся з вайны, у больш складаным – няпоўныя сем’і, сем’і без мужчын. Дапамагала ваеннае братэрства: маме Іны Герасімавай, напрыклад, уладкавацца на працу ў дзіцячы садок дапамог старшыня выканкама К. Арлоўскі, які пад час вайны быў у адным партызанскім атрадзе з яе бацькам Майсеем Альтшулерам. Дзіцячы садок – гэта не толькі праца, але і рэгулярнае харчаванне. Ён жа дапамог атрымаць жылы пакой.

Мелі месца і такія выпадкі: дакументаў няма, суседзяў таксама – хто дакажа, што гэта твой дом?

Узгаданая Іна Герасімава, вядомы беларускі гісторык, карэнная бабруйчанка, чыё дзяцінства прыпала на пасляваенныя гады, тлумачыла: “…мясцовае насельніцтва таксама шмат перажыло… Галоўнае – дзе жыць і дзе працаваць. Але і тут месцы занятыя. Яўрэям не давалі магчымасці ўладкавацца на працу. Гэта выклікала негатыў з боку яўрэяў”. Такія ўзаемаадносіны пагаршалі і без таго напружаную камунікацыю паміж тымі, хто заставаўся ў гады вайны тут, і тымі, хто вярнуўся.

Яўрэі ўсходняй Беларусі, якія літаральна 4-5 гадоў таму, напярэдадні вайны, былі шчыльна інтэграваныя ў савецкі праект, раптам павінны былі ўсвядоміць, што разлічваць на спачуванне з боку ўладаў і мясцовага насельніцтва не даводзіцца. Найбольшым шокам для тых,

[18] Manley R. Ibid. P. 256

[19] Шкляр Фелікс Якаўлевіч (Фальк Янкелевіч). 1928 г. нар.

хто вярнуўся, было тое, што антысемітызм магчымы пасля Халакосту.

Пасля вяртання кожная сям'я непазбежна сутыкалася з сітуацыяй пасля-Халакосту. Аднак, як падкрэслівалі нашы суразмоўцы, якія ў пасляваенныя гады былі дзецьмі, усведамлення маштабнасці трагедыі Халакосту не было, было ўспрыманне трагедыі на ўзроўні загінулых сваякоў, родных, знаёмых. Як правіла, падрабязнасці ім ніхто не расказваў, пра гэта ніколі ў сям'і не гаварылі. Безумоўна, маецца на ўвазе, што не гаварылі з дзецьмі. Жаданне бацькоў адгарадзіць дзяцей цалкам зразумелае... Мама з'ездзіла / схадзіла на ТОЕ месца, пагаварыла з тымі, хто нешта ведаў пра ГЭТА. Прыйшла дадому, плакала... Рэфрэнам гучыць: "Мы нічога не ведалі. Я ведала, што немцы ў гады вайны забівалі яўрэяў, але я ж не ведала ўзроўню! Ніхто ж мне гэтага не расказаў! Мама не расказвала. Яна толькі сказала, што шмат забілі..."[20]. Дарэчы, Іна Герасімава адзначыла: нягледзячы на тое, што займалася гісторыяй яўрэяў, сама пра Халакост даведалася ўжо толькі ў 1990-я гады, калі была ў Ізраілі.

Пра Халакост не гаварылі, але, натуральна, ён наклаў адбітак на ўсе бакі жыцця. Маці Соф'і Зелянцовай пасля вайны выйшла замуж. Аднак Соф'я ўпэўнена, што айчым яе ненавідзеў, бо "ў яго пяцёра дзяцей загінула, а я жывая засталася – гэта маё такое разуменне было. Я яго ненавідзела, бо мой бацька загінуў, а ён застаўся... Жыццё ў мяне вельмі цяжкае было"[21]. У 1948 г. упаўнаважаны Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР па БССР (далей СДРК) К. Уласевіч як пра наяўную тэндэнцыю гаварыў пра выпадкі хрышчэння яўрэйскай моладзі: "Я мяркую, што гэта не проста чыста выпадковая з'ява, а што гэта мае пад сабой вядомую глебу". Уласевіч спасылаецца на канкрэтны выпадак звароту да яго маладога яўрэя, канструктара па спецыяльнасці, з просьбай паспрыяць яму выступіць па радыё ці ў прэсе з заклікам да яўрэяў адмовіцца ад іўдзейскага веравызнання,

[20] Герасімава Іна Паўлаўна, 1944 г. нар.
[21] Зелянцова (Жукоўская) Соф'я Хаімаўна, 1937 г. нар.

з заклікам хрысціцца, прыняць праваслаўе ці каталіцызм. “На маё пытанне, чаму ён так думае, ён адказаў, што гэта трэба зрабіць дзеля таго, каб ніколі болей не паўтарылася ГЕТА...”[22].

Яўрэі ведалі, што мясцовае насельніцтва ў гады акупацыі было тут, гэта прымушала задумвацца над нязручнымі пытаннямі: пра няўдзел у выратаванні яўрэяў, а часам і пра саўдзел у іх вынішчэнні…

Для выжылых яўрэяў навакольных мястэчак Бабруйск стаў месцам прыцягнення. У мястэчках, дзе раней былі “свае”, яўрэі, як правіла, не засталося нікога, забітыя былі ўсе. Застацца там – азначала жыць на могілках[23]. У сям’і нашай суразмоўцы Соф’і Зелянцовай толькі ў Парычах загінула 72 чалавекі сваякоў[24]. Непрыемнымі былі і неўразумелыя погляды, пытанні тыпу: а як вы выжылі, калі ўсіх “вашых” забілі? Перабіраючыся ў Бабруйск, яўрэі “добра ведалі, што там шмат яўрэяў, ведалі, што там лягчэй будзе. Там свае. Адчуванне, што ты сярод сваіх”[25].

Месцамі сходаў яўрэяў і памінання забітых сталі месцы масавага забойства – Каменка і яўрэйскія могілкі, дзе па ініцыятыве Меіра Зелігера былі пастаўлены помнікі[26]. Таксама на яўрэйскіх могілках перазахавалі парэшткі забітых яўрэяў з Елавікоў пад Бабруйскам, з іншых населеных пунктаў: Гарадка Глускага раёна, Любоніч Кіраўскага, Свіслачы і Ясені Асіповіцкага раёнаў Магілёўскай вобласці, а таксама Шчадрына Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці[27].

У першыя пасляваенныя гады ўлады канстатавалі рост рэлігійных настрояў сярод яўрэяў. Так, Уласевіч у сваіх

[22] НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк 137.

[23] Альберт Кагановіч піша, што аналагічная карціна назіралася ў Рэчыцы, якая стала месцам новага жыхарства для яўрэяў навакольных мястэчак (Кагановіч А. Рэчыца… С. 328).

[24] Зелянцова (Жукоўская) Соф’я Хаімаўна, 1937 г. нар.

[25] Герасімава Іна Паўлаўна, 1944 г. нар.

[26] Smilovicky L. Jewish Life in Belarus. The Final Decade of the Stalin Regime (1944–53). CEU Press, 2014. P. 53.

[27] Путеводитель по еврейскому кладбищу Бобруйска / сост. М. Петлах, Л. Рубинштейн. Бобруйск, 2004.

дакладных падкрэсліваў, што яўрэі "зрабілі вялікі крэн у бок рэлігійнага фанатызму, мабыць, больш, чым якаянебудзь іншая народнасць"[28], што правядзенне рэлігійных абрадаў (пахавання, вянчання, абразання і інш.) прыняло больш значныя памеры, чым раней, што шэрагі вернікаў моцна папоўніліся тымі, хто да вайны быў атэістам, "а ў дадзены час сталі заўзятымі выканаўцамі рэлігійных абрадаў"[29]. Па звестках саміх яўрэяў, на 1946 год з 24 тыс. яўрэйскага насельніцтва горада вернікі складалі каля 3 тысяч[30].

Альтэрнатывай таемнаму падпольнаму рэлігійнаму жыццю магла стаць дзейнасць (хай сабе і ва ўсечаным выглядзе) зарэгістраванай рэлігійнай абшчыны[31]. Аднак для рэгістрацыі абшчына павінна была мець малітоўны будынак, г. зн. сінагогу. З будынкаў былых сінагог, што захаваліся ў горадзе, тры былі занятыя культурнымі і адукацыйнымі ўстановамі, чатыры перададзены ў жылы фонд, у двух месцілася вытворчасць[32].

Яўрэі Бабруйска хадайнічалі аб адкрыцці сінагогі з пачатку 1945 г., прасілі даць ім адзін з разбураных будынкаў, абавязаліся аднавіць яго ўласнымі сіламі і за свой кошт[33]. Свае просьбы яны падмацоўвалі адсылкамі да вайны, да вопыту Халакосту, пісалі ўладам, што хочуць

[28] НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 11, арк. 136.
[29] НАРБ, ф. 4-п, воп. 29, спр. 582, арк. 48.
[30] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 228.
[31] У 1947 г. у Беларусі былі выяўлены 17 іўдзейскіх абшчын, з іх зарэгістравана толькі адна – Мінская.
[32] Smilovicky L. Jewish Life in Belarus… P. 53.
Паводле матэрыялаў Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па даследаванні фашысцкіх злачынстваў (ЧГК), ацалелыя сінагогі ў гады вайны былі ператвораны ў канюшні (НАРБ, ф. 845, воп. 1, спр. 130, арк. 65).
[33] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 4, арк. 44.
Гэтая гісторыя даволі падрабязна апісана Л. Смілавіцкім. Гл.: Смиловицкий Л. Борьба верующих за открытие синагоги в Бобруйске http://bobruisk-habad.narod.ru/index/http_bobruisk_habad_narod_ru_index_http_bobruisk_habad_narod_ru_index_0_153_0_153/0-153; Smilovickij L. Jewish Religious Life in Bobruisk, 1944–1954 // Jews in Eastern Europe. 1995. No 2 (27). P. 43–54.

“узгадаць сваіх дзяцей, сваіх бацькоў, якія загінулі ў час айчыннай вайны з усімі іншымі нацыянальнасцямі”[34], пыталіся: “Чаму вернікам усіх іншых вераспавяданняў дазваляецца адкрыццё іх малітоўных дамоў і рэгістрацыя абшчын, а нам, яўрэям, забараняюць маліцца. Наш народ больш за ўсіх зазнаў ад гітлераўскіх захопнікаў, а нам не дазваляюць памаліцца за загінулых”[35], гаварылі з выкарыстаннем прапагандысцкіх бальшавіцкіх клішэ і штампаў пра тое, што ім не даюць маліцца “за… вялікага Сталіна, які выратаваў наша жыццё, і за тых, хто змагаліся на франтах і загінулі героямі за нашу Радзіму”[36].

Дадатковым аргументам для ўладаў у рашэнні дазволіць яўрэям Бабруйска адкрыць сінагогу служыла тое, што ў горадзе існаваў шэраг самавольна пабудаваных сінагог, яўрэі збіраліся “самавольна па дамах”[37]. Але даволі нечакана, калі ўлічыць тое, што, здаецца, афіцыйныя Масква і Мінск былі не супраць, справа прыпынілася па віне мясцовых органаў: катэгарычна супраць перадачы будынка пад сінагогу быў старшыня аблвыканкама Ждановіч. Упаўнаважаны СДРК Уласевіч, намеснік старшыні СМ БССР Ільюшін патрабавалі ад Ждановіча перадачы яўрэям “каробкі” будынка былой сінагогі[38].

11 красавіка 1946 г. яўрэі атрымалі паўразбураны будынак па адрасе К. Лібкнехта, 53. Літаральна за месяц будаўніцтва было скончана на 80%, па розных звестках, затрацілі ад 80 да 100 тыс. рублёў[39]. Аднак сваёй пастановай ад 25 мая 1946 г. Гарсавет запатрабаваў перадаць сінагогу пад партшколу[40]. Старшыня СДРК пры СМ СССР Палянскі 20 чэрвеня 1946 г. пісаў раённаму ўпаўнаважанаму Кулічкову пра неабходнасць разабрацца з дадзеным пытаннем[41]. Пра ролю Кулічкова ў той справе вядома пакуль

[34] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 198.
[35] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 12, арк. 2–3
[36] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 199.
[37] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 12, арк. 2–3.
[38] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 222–225.
[39] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 200, 221, 227.
[40] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 228.
[41] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 227.

няшмат, але хутка ён быў зняты з пасады, цалкам верагодна, што з прычыны супрацьдзеяння апошняга адкрыццю бабруйскай сінагогі. Гісторыя спробаў мясцовых уладаў забраць сінагогу на гэтым не скончылася. 30 верасня 1946 г. Бабруйскі аблвыканкам абавязаў Бабруйскі гарвыканкам перадаць сінагогу пад інтэрнат для навучэнцаў вытворчага камбіната інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны[42]. І зноў упаўнаважаны СДРК па БССР Уласевіч пісаў у Маскву, на гэты раз ён тлумачыў, што передача будынка зусім немэтазгодная, што будынак не можа быць выкарыстаны пад інтэрнат без перабудовы[43]. Яго падтрымаў новы ўпаўнаважаны СДРК па Бабруйскай вобласці Харамецкі, які падкрэсліваў, што яўрэі пагражаюць міжнародным скандалам, гавораць, што "калі вы закрыеце сінагогу, уся Амерыка будзе ведаць"[44]. Рашэнне выканкамаў Бабруйскага абласнога і гарадскога саветаў аб перадачы будынка пад інтэрнат было адменена пастановай Савета Міністраў БССР (ад 10 лютага 1947 г.). Будынак пакінулі яўрэйскай рэлігійнай абшчыне[45]. Аднак 1 сакавіка 1947 г. Бабруйскі аблсавет зноў хадайнічаў перад СМ БССР аб пераглядзе адмены рашэнняў[46].

Увесь гэты час, пакуль улады Бабруйска забаранялі, а прадстаўнікі СДРК адстойвалі правы бабруйскіх яўрэяў, апошнія рэгулярна і адкрыта праводзілі малітоўныя сходы ў аднаўленым будынку[47].

У лютым 1948 г. сакратар ЦК КПБ Гусараў на сустрэчы з прадстаўніком СДРК у Маскве заявіў, што галоўныя варожыя сілы ў БССР – каталікі і яўрэйскія нацыяналістычныя элементы; што яўрэйскія нацыяналісты, з прычыны адсутнасці іншых магчымасцей для правядзення нацыяналістычнай дзейнасці, спрабуюць пераўтварыць сінагогі з малітвенных дамоў у секты паспяховай нацыяналістычнай прапаганды; што яўрэі абвінавачваюць рускіх

[42] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 200.
[43] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 5, арк. 321–322.
[44] Smilovicky L. Jewish Life in Belarus… P. 69.
[45] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 8, арк. 23.
[46] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 8, арк. 135.
[47] НАРБ, ф. 4-п, воп. 29, спр. 582, арк. 47.

і беларусаў, нібыта тыя маглі б выратаваць яўрэйскае насельніцтва ад знішчэння Гітлерам. Усё выкладзенае вышэй, на думку Гусарава, – дастатковая падстава, каб у Беларусі не было адкрыта больш ніводнай сінагогі[48].

10 жніўня 1948 г. было прынята рашэнне задаволіць хадайніцтва групы яўрэяў-вернікаў аб адкрыцці сінагогі ў Бабруйску[49], у верасні яўрэйскую абшчыну горада афіцыйна зарэгістравалі, аднак у лістападзе "дзейнасць яе была часова спынена", а будынак сінагогі апячатаны[50]. Пастановай аблвыканкама ад 22 жніўня ў сувязі з тым, што будынак яўрэйскай сінагогі "аказаўся пустуючым", было вырашана перадаць яго абласному архіву[51].

У 1949 г. у БССР дзейнічала толькі 2 афіцыйна зарэгістраваныя сінагогі – у Мінску і Калінкавічах. З накіраваных заяў з просьбамі аб рэгістрацыі яўрэйскіх абшчын Украіны задаволена было 42%, Беларусі – толькі 10%[52]. У інфармацыйнай справаздачы аб стане і дзейнасці рэлігійных абшчын у БССР за 1951 г. адзначалася, што раённыя ўлады займаюць няправільную пазіцыю: замест таго, каб імкнуцца да выкаранення рэлігійных абшчын, якія дзейнічаюць нелегальна, яны лічаць, што менавіта законна зарэгістраваная рэлігійная абшчына "кладзе непрыемную пляму на раён", а таму "ўсімі праўдамі і няпраўдамі прымаюць меры, каб толькі як бы хутчэй пазбавіцца ад юрыдычнага існавання такой абшчыны"[53].

48 Altshuler M. Religion and Jewish Identity in the Soviet Union, 1941–1964. Brandeis University Press, 2012. Kindle, loc. 698.

49 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 10, арк. 1.

50 НАРБ, ф. 952, воп. 2, спр. 14, арк. 140.

51 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 17, арк. 290–292.
Канфіскаваныя пры закрыцці сінагогі богаслужбовыя кнігі і скруткі Торы было вырашана перадаць у Мінскую рэлігійную абшчыну (НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 20, арк. 237).

52 Altshuler M. Religion and Jewish Identity… Kindle, loc. 681.
У Расіі на пачатку 1950-х гадоў было 29 сінагог, ва Украіне – 40, у Грузіі – 25, у Малдавіі – 11 (Бейзер М. Наше наследство: синагоги СНГ в прошлом и настоящем. Москва – Иерусалим, 2002. С. 42).

53 НАРБ, ф. 4. воп. 62, спр. 217, арк. 78.

Гісторыя з барацьбой вакол бабруйскай сінагогі ў гэтым сэнсе даволі паказальная.

Бабруйская сінагога ў той нядоўгі перыяд яе дзейнасці не стала тым месцам, якое б аб'яднала ўсіх рэлігійных яўрэяў горада (у тым ліку і па прычыне разыходжанняў з кіраўніцтвам сінагогі[54]). Адначасова ў горадзе функцыянавалі незарэгістраваныя сінагогі, якія дзейнічалі пад выглядам таемных міньянаў. Уладам было вядома пра два з іх: у доме Песі Хаімаўны Кустановіч, па вул. Энгельса, 8 сінагога / міньян аб'ядноўвала каля 100 чалавек, у доме Моўшы Янкелевіча Шусцерава па вул. Пушкіна, 20 – каля 70 чалавек[55].

Міньян – гэта кворум з дзесяці дарослых мужчын-яўрэяў, неабходны для грамадскага богаслужэння і шэрагу рэлігійных цырымоній. Улады міньяны не рэгістравалі, усе яны дзейнічалі па-за законам[56]. Аднак насамрэч тое, што ўлады называлі ў дакументах міньянамі, па сутнасці было таемнымі сінагогамі. Яны сталі тым месцам, дзе можна было сустракацца ў яўрэйскім кантэксце, забяспечвалі зносіны ў коле роўных і аднадумцаў. Адзінота, сіроцтва, страта сям'і ў Халакосце прымушалі шукаць тых, хто меў такі ж вопыт[57]. Сінагога / міньян былі не толькі месцам рэлігійных рытуалаў, але і важным элементам у фармаванні таемнай структуры яўрэйскага жыцця[58].

Пасля закрыцця Бабруйскай сінагогі ў горадзе выявілі яшчэ два зноў арганізаваныя "міньяны"[59]: у доме

[54] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 127.

[55] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 127.

[56] У БССР у 1944–48 гг. улады налічвалі ў 13 гарадах 30 рэгулярных міньянаў (ад 30 да 70 чалавек у кожным); паводле іх звестак, пад час Шабату ў міньянах малілася ад 1,5 да 2 тыс. чалавек, што значна больш, чым у дзвюх афіцыйна зарэгістраваных сінагогах (Altshuler M. Religion and Jewish Identity in the Soviet Union… Kindle, loc. 1215).

[57] Altshuler M. Religion and Jewish Identity in the Soviet Union… Kindle, loc. 1297.

[58] Ibidem, loc. 1026.

[59] Функцыі такіх "міньянаў" былі значна шырэйшымі за функцыі міньянаў у традыцыйным разуменні, гэта былі фактычна таемныя сінагогі, таму пры напісанні выкарыстоўваецца двукоссе.

Ношы Нахімавіча Кацнельсона, вул. Кастрычніцкая, 58 (аб'ядноўваў каля 80 жыхароў цэнтральнага раёна), у доме Залмана Іцкавіча Соркіна, вул. Мяснікова, 27 (аб'ядноўваў каля 60 чалавек, якія жылі на паўднёвым ускрайку горада)[60].

У час рэлігійных святаў арганізоўваліся дадатковыя "міньяны". Улады ведалі пра чатыры такія, аднак вызначыць дакладны адрас удалося толькі першага з іх – у доме Ісака Лейзеравіча Падокшына, вул. Чкалава, 19а, пра астатнія было вядома няшмат: у двух выпадках – вуліцы, дзе яны дзейнічалі (завулак Камсамольскі, вуліца Камуністычная) і тое, што існаваў яшчэ адзін дадатковы "міньян" ад "міньяна" па вул. Пушкіна[61]. Такім чынам, у святы дзейнічала не менш за 8 "міньянаў", "якія ў асобныя дні былі перапоўнены вернікамі". 19 кастрычніка 1949 г. інспектар Дралаў дакладваў, што па прычыне малой плошчы малітоўных памяшканняў шмат вернікаў стаяла ў двары, малітоўныя сходы праходзілі пазменна[62].

Па выніках першай паловы 1950 г. канстатавалася, што ў Бабруйску "міньяны" дзейнічаюць бесперарыўна[63], а ў пасхальныя дні іх была вялікая колькасць, аднак вызначыць адрасы ўдалося толькі трох з іх, "па прычыне таго, што пазбягаючы штрафу і іншых непрыемнасцяў, яўрэі імкнуцца праводзіць малітоўныя сходы таемна"[64]. Першы з іх быў выяўлены па вул. Камуністычнай, 101 у доме Доры Майсееўны Фішман (было 18 чалавек); другі – па завулку Лекерта, 12, дом Басі Давыдаўны Гурэвіч (самы вялікі ў горадзе, прысутнічала каля 70 чалавек), яго верагодным кіраўніком быў былы рабін Бабруйскай сінагогі Залман Глейзер; трэці міньян знаходзіўся па вул. Пушкінскай, 223, дом Шусцерава (апошні перыядычна мяняў адрасы)[65]. На Пасху ў доме Басі Гурэвіч сабралася

[60] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 128.
[61] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 129.
[62] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 128.
[63] НАРБ, ф. 4-п, воп. 62, спр. 162, арк. 202.
[64] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 19, арк. 21–22.
[65] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 19, арк. 21–22.

каля 880 чалавек, прычым значную частку складалі людзі сярэдняга ўзросту[66].

Падводзячы вынікі дзейнасці яўрэйскіх рэлігійных абшчын у Беларусі за 1950 год, СДРК падкрэсліваў, што "міньяны" найбольш актыўныя ў Бабруйску, але мясцовыя органы ўлады, "нягледзячы на неаднаразовыя прапановы аб дапамозе, ніякіх мер да ліквідацыі нелегальных сінагог не прымаюць"[67].

У 1951 г. улады ведалі пра два дзясяткі "іўдзейскіх груп, якія рэгулярна дзейнічалі" ў Бабруйску. У дні рэлігійных святаў колькасць гэтых груп узрастала[68]. Улады спецыяльна падкрэслівалі, што Бабруйск па колькасці вернікаў-яўрэяў стаіць на першым месцы ў рэспубліцы[69]. У восеньскія святы 1951 г. у Бабруйску было выяўлена правядзенне малітоўных сходаў у 6 месцах (фактычна ж было больш), у якіх удзельнічалі да 220 чалавек. Група з 50 чалавек, што збіралася ў доме А. Хаймовіча, у перадсвяточныя дні правяла збор грошай і наняла ў якасці кантара былога мясцовага рабіна Малаша, які на працягу трох дзён кіраваў малітоўным сходам у названым міньяне[70].

Яўрэйская абшчына Бабруйска побач з мінскай і калінкавіцкай, дзе дзейнічалі афіцыйна дазволеныя сінагогі, у справаздачы за 1952 г. па-ранейшаму называлася ў ліку найбольш актыўных у рэспубліцы.

Так, на пачатку 1952 г. кожную суботу іўдзеі Бабруйска збіраліся ў "міньянах" па вул. Пушкінскай, 223 у М. Я. Шусцерава, па вул. Першая лінія, 8 у Б. З. Чарняка; па вул. Камсамольскай, 65 у доме П. І. Гах і вул. Камсамольскай, 108 на кватэры Б. Хейман; па вул. Ф. Энгельса на кватэрах А. Хаймовіча і П. Х. Кустановіч. Калі выконваючы абавязкі ўпаўнаважанага па Бабруйскай вобласці М. Бажынскі дамогся закрыцця названых

[66] НАРБ, ф. 4-п, воп. 62, спр. 162, арк. 202.
[67] Смиловицкий Л. Борьба верующих за открытие синагоги в Бобруйске.
[68] НАРБ, ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 79.
[69] НАРБ, ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 80.
[70] НАРБ, ф. 4, воп. 62, спр. 285, арк. 90.

міньянаў, яны аднавілі сваю дзейнасць па новых адрасах: па вул. Мяснікова, 27 у доме З. І. Соркіна; па вул. Кастрычніцкай, 74 у Лашыкера; па Камсамольскім завулку ў Бераля; на рагу вуліц Ленінскай і Чырвонаармейскай у Гандліна; па вул. Бахарава, 160 у Зельдзіна і іншых, усяго не менш за 9 міньянаў. Відавочна, улады не маглі ведаць пра ўсе "міньяны" з прычыны іх падпольнага існавання і вялікай колькасці. Рэлігійнымі групамі бабруйскіх яўрэяў у пачатку 1950-х гг. кіравалі Бенцыян Залманавіч Чарняк, Еля Гарэлік, Шалом Грыбаў, Моўша Шусцераў і Ізраіль Садоўскі[71].

У выпадку выкрыцця "міньяна" ўладамі яўрэі спасылаліся на тое, што яны сабраліся толькі дзеля таго, каб прачытаць памінальную малітву па загінулых у гады вайны[72], памерлых. Так, калі прадстаўнікі ўлады выкрылі міньян у доме Доры Фішман, апошняя пераконвала іх, што сход у яе доме праводзіцца ўпершыню, з нагоды памінак па яе маці[73].

Вялікая колькасць людзей "міньяны" не наведвала, але ўсяляк ім садзейнічала (у тым ліку матэрыяльна). 10 лістапада 1947 г. Уласевіч дакладваў на пасяджэнні савета пра тое, што "маюць месца і такія выпадкі, калі некаторыя працаўнікі савецкіх устаноў прыходзяць да мяне і гавораць: што, табе шкада зарэгістраваць абшчыну, няхай нашы старыя памоляцца. Яны часта спасылаюцца на тое, што мы – народ больш за ўсіх пацярпелы і хочам памаліцца за загінулых"[74]. Падтрымка "старых, якія хочуць памаліцца", ці матэрыяльная дапамога будаўніцтву сінагогі тлумачыліся і павагай да бацькоў, да іх права маліцца.

Таксама былі людзі, якія баяліся наведваць сінагогі і маліліся дома, выконвалі асобныя абрады самастойна.

"Міньян" узяў на сябе функцыі сінагогі і, фактычна, абшчыны. Перыядычна праводзіўся збор грошай на розныя рэлігійна-абшчынныя мэты, у тым ліку на аказанне

[71] Смиловицкий Л. Борьба верующих за открытие синагоги в Бобруйске.
[72] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 132.
[73] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр.19, арк. 21–22.
[74] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 7, арк. 299.

матэрыяльнай дапамогі і памінанне памерлых. Сюды прыходзілі тыя, хто меў надзею, што сям'я выжыла, але не ведалі, дзе яна цяпер. Тут шукалі яўрэйскі асяродак, камунікацыю з іншымі яўрэйскім суполкамі, інфармацыю пра Ізраіль, пра эміграцыю і інш. Разам з тым згуртаванню і фармаванню шырокага таемнага (а іншае было немагчыма) абшчыннага жыцця не спрыяла боязь даносаў, пачуццё страху. Але ўсведамленне таго, што "я яўрэй і ён яўрэй, а значыць – трэба дапамагаць", мела месца. Хоць, як адзначыў Фелікс Шкляр, "усялякія людзі былі, усялякія і яўрэі былі"[75].

Улады, дзейнічаючы ва ўмовах афіцыйна абвешчанай свабоды сумлення, ці свабоды веравызнання, спрабавалі прыцягваць да адказнасці яўрэяў-вернікаў не за веру, а за парушэнне працоўнай дысцыпліны – прагулы ў суботу, у дні рэлігійных святаў. Гэта было вельмі няпроста, бо асноўную масу вернікаў складалі людзі сталага ўзросту, якія нідзе ўжо не працавалі, а мужчыны і жанчыны сярэдніх гадоў уладкоўваліся на такую працу, дзе была магчымасць узяць у якасці выхадных патрэбныя ім дні (напрыклад, гандлёвыя арганізацыі ці арцелі). Ліквідацыя месцаў рэлігійных збораў, месцаў выпечкі мацы камуфлявалася ўладамі пад барацьбу з незаконнай арэндай, а сам факт няўплаты падаткаў рабіўся падставай прыцягнення да адказнасці асобаў, якія здавалі памяшканні. У выпадку з выпечкай мацы ўлады падкрэслівалі, што "арганізатары гэтых вытворчасцяў нярэдка ніякай рэлігійнай мэты не пераследуюць, а кіруюцца чыста спекулятыўнымі выгадамі, атрымліваючы на працягу паўтара – двух месяцаў у такім горадзе як Бабруйск даход, які вылічваецца дзясяткамі і нават сотнямі тысяч рублёў, без выплаты падаходнага падатку"[76]. Таксама за няўплату падаткаў прыцягваліся шойхеты (рэзнікі) і моэлі (тыя, хто выконваў абрад абразання). Натуральна, законная арэнда і прадпрымальніцтва з выплатай падаткаў у дадзеным выпадку былі немагчымыя, гэта

[75] Шкляр Фелікс Якаўлевіч (Фальк Янкелевіч), 1928 г. нар.
[76] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 24, арк. 104.

азначала б фактычную легалізацыю ўладамі іўдзейскага абшчыннага жыцця.

Моладзь малітоўныя сходы не наведвала, але ў дні восеньскіх святаў 1949 г. (Рош Ха Шана, Ём Кіпур, Сукот), як паведамлялася ў дакладной, «адчувалася і сярод іх рэлігійнае свята, так, 16 кастрычніка ў т. зв. “вясёлы дзень” амаль усе яўрэі г. Бабруйска хадзілі п’янымі ці нападпітку»[77]. У дні яўрэйскай Пасхі 1950 г., як дакладвалі з Бабруйска, “можна было назіраць, што значная частка яўрэйскага насельніцтва была апранута ў добрыя і новыя сукенкі і святочна групамі разгульвала па вуліцах”[78]. У перыяд рэлігійных святаў узрастала купля прадуктаў, неабходных для нацыянальных страваў: курэй, гусей, свежай рыбы, пярэдняй часткі тушы цялят. Раслі цэны: кошт курыцы павялічваўся ў 4-5 разоў[79].

Вельмі важнае значэнне для яўрэйскай традыцыі маюць законы кашрута (кашрут – тэрмін у іўдаізме, які азначае дазволенасць ці прыдатнасць нечага з пункту погляду Галахі – яўрэйскага Закона) і, перш за ўсё, рэлігійныя прадпісанні, звязаныя з харчаваннем. Паколькі прытрымлівацца іх у поўным аб’ёме і поўнай меры было зусім немагчыма, яўрэі Савецкага Саюза часта імкнуліся прытрымлівацца хоць бы найбольш абавязковай мінімальнай часткі, звязанай з рытуальнымі святочнымі стравамі. У прыватнасці, гэта тычылася мяса, тут мела значэнне, якая жывёла, як і кім была забіта, разабрана і прыгатавана. Існавалі асобныя спецыялісты – шойхеты (рэзнікі), якія ў тых умовах амаль паўсюль дзейнічалі нелегальна, за выключэннем Бабруйска. Тут у парадку адзінага выключэння па БССР вытворчасць кашэрнага мяса была зарэгістравана як прыватнае прадпрыемства[80].

У той перыяд менавіта ў Бабруйск прыязджалі з іншых месцаў і для таго, каб зрабіць абразанне дзецям[81].

77 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 128.
78 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 19, арк. 21–22.
79 НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 16, арк. 133–134, 136.
80 Смиловицкий Л. Борьба верующих за открытие синагоги в Бобруйске.
81 Каганович А. Речица… С. 344.

Адзін з найважнейшых кампанентаў яўрэйскай Пасхі (Песаха) – наяўнасць мацы, праснака з бездражджавога цеста (заквашанае цеста ў гэтыя дні ўвогуле забараняецца спажываць і нават захоўваць дома прадукты, зробленыя з яго). Маца – асноўны інгрэдыент для цэлага шэрагу блюд і пасля Пасхі (напрыклад, галкі, імберлах). Але асноўнае – яна працягвала мець глыбокае сімвалічнае значэнне як адзін са спосабаў выражэння нацыянальнай ідэнтычнасці публічна[82].

Сам працэс прыгатавання мацы мае глыбокі сакральны сэнс: мае значэнне і хто пячэ, і як, і колькі часу і г. д. Аднак выпечка мацы прыватным чынам на продаж ці тое, што на мове ўладаў называлася "саматужна-прамысловым чынам", была забаронена. Яе вытворчасць дазвалялася толькі на дзяржаўных ці кааператыўна-прамысловых прадпрыемствах, а продаж насельніцтву павінен быў весціся праз гандлёвую сетку. Там, дзе гэта было немагчыма арганізаваць, дазвалялася пячы мацу ў сябе дома, але толькі для хатняга спажывання. Аднак першы з прапанаваных варыянтаў не выклікаў даверу яўрэяў, другі (выпечка мацы дома) было складана здзейсніць. Найлепшым варыянтам лічылася калектыўная выпечка мацы ў прыватным доме з печчу ("саматужна-прамысловае прадпрыемства"). Зразумела, такая вытворчасць магла рабіцца толькі таемна. Ва ўмовах пасляваеннай карткавай сістэмы муку трэба было прыносіць сваю і чакаць нейкі час, пакуль маца згатуецца. Бабруйчане яўрэйскай нацыянальнасці сталага ўзросту і сёння ўзгадваюць, як з матуляй ці бабуляй хадзілі за мацой, чакалі, пакуль яе спякуць, а пасля таемна неслі дадому ў навалачках.

На 21 сакавіка 1951 г. улады ведалі, што ў Бабруйску таемна мацу вырабляюць у чатырох месцах, але дакладныя адрасы вядомыя не былі. Упаўнаважанаму СДРК па вобласці загадвалася "праз органы міліцыі ці іншымі

[82] Veidlinger J. In Shadow of the Shtetl. Small-town Jewish Life in Soviet Ukraine. Indiana University Press, Bloomington – Indianapolis, 2013. P. 145.

шляхамі знайсці гэтыя месцы і прыцягнуць да судовай адказнасці арганізатараў гэтых вытворчасцяў”[83].

Згодна з перапісам 1959 г., з агульнай колькасці яўрэяў БССР толькі каля 33 тыс. роднай мовай назвалі “мову сваёй нацыянальнасці”, 114,2 тыс. назвалі рускую мову, 2,8 тыс. – беларускую[84]. Аднак у пасляваенныя гады ідыш у значнай ступені быў яшчэ дамашняй мовай, як мінімум, на ім размаўлялі паміж сабой бацькі, гэта была мова вуліцы і двара. Людміла Гіршына расказвала, што іх двор быў у асноўным яўрэйскі, толькі дзве ці тры сям’і было рускіх і адна беларуская. Але ўсе паміж сабой размаўлялі на ідыш[85]. На ідыш размаўлялі і ў шматкватэрным доме, дзе жыла сям’я Іны Герасімавай. Аднак мовай камунікацыі бацькоў і дзяцей ідыш быў рэдка, яму не вучылі дзяцей. Тое ж тычылася і традыцыі: нават там, дзе дзядуля меў рэлігійную адукацыю, у большасці выпадкаў унукаў не вучылі традыцыі і не тлумачылі яе рэлігійную сутнасць, нават калі прытрымліваліся яе дома. Гэта было абумоўлена перш за ўсё асцярогай, што інфармацыя, вынесеная за межы сямейнага кола, можа стаць падставай для абвінавачвання як мінімум у нядобранадзейнасці. Аднак нават калі дома і не маліліся, то правілаў, звязаных з прыгатаваннем ежы і яўрэйскімі святамі, імкнуліся трымацца. Прытрымліванне традыцыі мела месца і як выказванне павагі да бацькоў. Як сказала Соф’я Зелянцова, “я ў бога не веру. Але пашчуся заўсёды, мама навучыла, гадоў з шасці”[86]. Бацькі Людмілы Гіршынай не былі, па яе словах, рэлігійнымі людзьмі, але мама трымала пост (Рош Хашана), гатавала рэлігійныя стравы, на стале заўсёды было нешта яўрэйскае (імберлах, леках, рыба-фіш)[87]. Іда Шандаровіч тлумачыла: “Натуральна, жылі ўсе жахліва бедна і галадна, але святочныя стравы вылучаліся заўсёды. Не выконвалі кашрут, але мяса вымочвалі, не выкон-

[83] НАРБ, ф. 952, воп. 1, спр. 24, арк. 104.
[84] Итоги Всесоюзной переписи населения. 1959 год. С. 124.
[85] Гіршына Людміла Абрамаўна, 1947 г. нар.
[86] Зелянцова (Жукоўская) Соф’я Хаімаўна, 1937 г. нар.
[87] Гіршына Людміла Абрамаўна, 1947 г. нар.

валі кашрут, але свініну не елі, не адзначалі святы, але на Ём Кіпур пасціліся з салідарнасці”[88].

Савецкае абмежаванне публічнага выражэння рэлігійнай веры перамясціла рэлігійныя рытуалы ў дамашнюю сферу, дзе яны працягвалі сваё функцыянаванне ў якасці сямейнай справы, традыцыя захоўвалася за зачыненымі дзвярыма, што, несумненна, нават ва ўмовах секулярызацыі і атэізацыі не магло не ўплываць на дзяцей. Многія працягвалі асацыяваць іх яўрэйскую ідэнтычнасць са спецыфічнымі харчовымі традыцыямі. Іна Герасімава тлумачыла: “Вось як у маёй сям’і, мы ж елі ўсё. Але ў гэты вось дзень трэба было мацу, ці курыцу забітую шойхетам. Гэта было не столькі зрабіць, як рэлігійныя людзі робяць, колькі вось, што мы яўрэі!.. Колькі я ведала яўрэйскіх сямей, я ніколі не бачыла, каб там было рэлігійнае. Гэта было пакаленне маёй мамы, яны прайшлі вайну, эвакуацыю”[89]. Традыцыйныя яўрэйскія стравы гатаваліся таксама на нерэлігійныя і нават на савецкія і свецкія святы (рыба-фіш на Новы год). Пасляваенны голад і пастаянны дэфіцыт таксама ўносілі свае карэктывы ў рэцэпты традыцыйных блюд.

Яўрэйская традыцыя ў доме дзецьмі магла не падвяргацца рэфлексіі і ўспрымацца як відавочнае: “Нічога яўрэйскага, але за мацой хадзіла з мамай… Бабуля мяне выхоўвала. У яўрэйскіх традыцыях было складана, гэта ўсё было пад забаронай, пад сакрэтам. Бабуля ўсяго прытрымлівалася. У яе быў асобны посуд, асобны пасхальны. І гатавала яна ўсё як трэба. Тут да пэўнага часу былі рэзнікі. Яна прытрымлівалася. Гэта да мяне потым дайшло, што яны прытрымлівалася, а тады ж я не разумела!” – расказвала Соф’я Бяспятава[90].

Разам з тым той факт, што старэйшыя трымаліся рэлігійнай традыцыі, нярэдка выклікаў пратэст маладога пакалення: было сорамна перад таварышамі за адсталасць

[88] Каментар Іды Шандаровіч, каардынатара абшчынных праграм грамадскага аб’яднання “Магілёўская яўрэйская абшчына”.

[89] Герасімава Іна Паўлаўна, 1944 г. нар.

[90] Бяспятава Соф’я Мeераўна, 1950 г. нар.

бацькоў, няёмка перад суседзямі за яўрэйскасць. Соф'я Зелянцова апавядала: "Мама была вельмі набожная… Спячэ каўрыжку, нарэжа на кавалкі, абгорне ў паперку, напіша каму, і мне трэба было разнесці раздаць тым, каго яна напісала. Мяне гэта так прыгнятала! Колькі я слёз праліла, каб яна не выпраўляла мяне гэтую каўрыжку раздаць. І пажадаць добрага Новага года. Я так наравуся. Раздаю, а ў адказ мне даюць кавалкі. Прынясу дадому, высыплю на стол – еш! Гавару, я б тваю каўрыжку ела, а гэтыя кавалкі – не буду!"[91]. І, з іншага боку, самі бацькі хацелі абараніць сваіх дзяцей ад тых небяспек і складанасцяў, якія несла з сабой т. зв. "пятая графа" ('быць яўрэем'). Соф'я Зелянцова прызналася, што яна сама параіла сыну пры атрыманні пашпарта запісацца рускім, рускай па пашпарце была і Іна Герасімава, і іншыя. Дзецям давалі сучасныя неяўрэйскія імёны, а яўрэйскія адаптавалі: Фальк Янкелевіч стаў Феліксам Якаўлевічам, Фаіна Пенхусаўна – Фаінай Пятроўнай і г. д.

Пасляваенныя антыяўрэйскія кампаніі – ліквідацыя антыфашысцкага яўрэйскага камітэта, барацьба з бязродным касмапалітызмам, справа ўрачоў – правакавалі ўсплёск побытавага антысемітызму ў СССР, сеялі паніку сярод яўрэяў, што перажылі Халакост і ведалі або чулі ад старэйшых пра антыяўрэйскія пагромы першых дзесяцігоддзяў XX ст. Чуткі, што ўсіх яўрэяў пагрузяць у вагоны (якія ўжо падрыхтаваныя і стаяць) і павязуць на Усход і да т. п., мелі месца і ў Бабруйску.

Разам з тым нашы суразмоўцы адзначалі, што Бабруйск "не настолькі… быў антысеміцкі горад, як астатнія". Праўда, за выразам "антысемітызму ў нас не было" нярэдка стаіць разуменне антысемітызму як фізічнага ўздзеяння ці праследу па нацыянальнай прыкмеце, а абразы з выкарыстаннем этнастэрэатыпаў да яго не адносяцца, але бабруйчане ўпэўнены, што ў іх сітуацыя была лепшая. Ніна Віленчык, якая прыехала ў Бабруйск толькі сямікласніцай, расказвала: "Тут адносіны да яўрэяў былі нармальныя, асабліва ў параўнанні з тымі паліцаямі

[91] Зелянцова Соф'я Хаімаўна, 1937 г. нар.

ў ваенным гарадку. Я трапіла ў 3-ю школу, гэта быў чыста яўрэйскі раён, я хоць душой адпачыла. Якое шчасце, што я трапіла ў яўрэйскі асяродак, і ніхто мне не скажа, што я жыдоўка"[92]. "Тут ты як яўрэй не быў адзінокі, тут было шмат такіх", – падкрэсліла Іна Герасімава[93]. Фелікс Шкляр спецыяльна адзначыў: "Бабруйск быў ВЕЛЬМІ яўрэйскі горад. Шмат начальнікаў было яўрэяў… Нават у гарвыканкаме працавалі таксама яўрэі"[94]. Бабруйчане адзначалі, што яўрэямі былі настаўнікі, інжынеры, кіраўнікі, але перш за ўсё дактары.

Калі па "Ленінградскай справе" ў 1948 г. быў арыштаваны муж бабруйчанкі Рымы Сямёнаўны Галынскай аспірант-гісторык Міхаіл Гольдман, праблемы з працаўладкаваннем узніклі ў самой Рымы Сямёнаўны. Але дырэктар адной з бабруйскіх школ Аляксандр Аронавіч Фрыдман, які "шмат яўрэяў набраў", даў ёй магчымасць не проста працаваць у школе, але працаваць па спецыяльнасці – гісторыкам. Сам Міхаіл Гольдман пасля вызвалення ў 1956 г. змог уладкавацца ў іншую школу настаўнікам працы.

Сітуацыя выключэння спрыяла кансалідацыі выключаных. У бацькоў Іны Герасімавай па вечарах збіралася інтэлігенцыя горада: «Былі і рускія людзі ў іх коле, але ў асноўным усё ж гэта былі яўрэі. Больш блізкія сябры былі яўрэі. Я памятаю, яны нават гавораць пра каго-небудзь, а пасля абавязкова спытаюць: "А яны яўрэі?"». І, разам з тым, працягвае яна свой аповед, у час сяброўскіх і сямейных пасядзелак, чокаючыся, яўрэі крычалі "Лехаім!": «Я думаю, што гэтыя святы, гэтае чоканне пад "Лехаім" – гэта было імкненне адзначыць сваю яўрэйскасць». Шэраг даследчыкаў зазначае, што менавіта вайна і новая палітычная сітуацыя сталі прычынай нараджэння яўрэйскай нацыянальнай свядомасці нават у тых, хто раней не адчуваў моцнай сувязі з яўрэйствам.

Нягледзячы на адчуванне, што ў Бабруйску "толькі яўрэі жывуць", суразмоўцы падкрэслівалі, што "ў школе

[92] Віленчык Ніна Львоўна, 1945 г. нар.
[93] Герасімава Іна Паўлаўна, 1944 г. нар.
[94] Шкляр Фелікс Якаўлевіч, 1928 г. нар.

ў нас не было яўрэйскага адчування. Хоць і настаўнікаў яўрэяў столькі было, і дырэктар яўрэй, і дзяцей столькі яўрэяў"[95]. Моладзь сацыялізавалася і інтэгравалася ў савецкае грамадства праз школу, дом піянераў, апошні, дарэчы, меў шмат розных творчых гурткоў і спартыўных секцый.

Яўрэі жылі пераважна ў цэнтры. Сярод яўрэйскіх публічных месцаў трэба назваць рынак (месца правядзення часу, сустрэч са знаёмымі і г. д.), Сацыялку (вул. Сацыялістычная – цэнтральная вуліца горада). На Сацыялцы рашаліся пытанні, праварочваліся гешэфты, днём тут збіраліся балаголы і інш. "Гэта было яўрэйскае месца", – тлумачылі нам суразмоўцы. Гэта было таксама месца штовячэрняга гуляння яўрэйскай моладзі. Яшчэ адным знакавым яўрэйскім месцам была так званая Біржа (рог вуліц Сацыялістычнай і Бахарава). Соф'я Бяспятава патлумачыла: "Біржа – гэта на Бахарава, стаялі таварышы, якія рашалі праблемы… У мяне мама хварэла, мне трэба была ікра, я звярнулася на Біржу. Маглі дапамагчы з працаўладкаваннем, можна было долары купіць, дзіцячае харчаванне можна было купіць, г. зн. можна было нейкія пытанні рашыць". Размова тут ідзе пра больш позні час, але, па ўспамінах, тыя ж функцыі Біржа выконвала і ў пасляваенны час.

Важнае значэнне ў горадзе па-ранейшаму мелі свацці, якія дапамагалі з падборам яўрэйскіх пар. Тут жа былі музыканты, якія ігралі на яўрэйскіх вяселлях, а таксама яўрэйскія пахавальныя таварыствы[96]. У клубе Прамкааперацыі працаваў самадзейны яўрэйскі тэатр[97], які некаторы час пасля вайны ставіў п'есы на ідыш. А ў 1946 г. на найвышэйшым узроўні таксама разглядалася пытанне аб тым, каб Беларускі дзяржаўны яўрэйскі тэатр вярнуўся з эвакуацыі з Новасібірска не ў Мінск, а ў Бабруйск, бо "там ёсць памяшканне тэатра і глядач"[98].

[95] Герасімава Іна Паўлаўна, 1944 г. нар.
[96] НАРБ, ф. 4, воп. 62, спр. 217, арк. 80–81.
[97] НАРБ, ф. 4-п, воп. 29, спр. 833, арк. 2.
[98] НАРБ, ф. 4-п, воп. 29, спр. 833, арк. 2.

Яшчэ адно яўрэйскае месца – яўрэйскія могілкі ў цэнтры горада – было знішчана. Пазней на яго месцы заклалі гарадскі парк і пабудавалі кінатэатр “Мір”. Соф’я Хаімаўна Зелянцова расказвала, што на ўроках фізкультуры і іншых уроках, а таксама ў выхадныя дні іх, вучняў 6-га ці 7-га класа школы № 4, “недзе ў 1949 ці 1950 годзе” выпраўлялі збіраць косці на гэтых яўрэйскіх могілках. “Мы збіралі косці ў мяхі. Пад’язджалі машыны, забіралі мяхі і везлі іх закопваць на яўрэйскіх могілках. Дарослых таксама з прадпрыемстваў выпраўлялі збіраць косці. Пасля сталі гаварыць, што дзецям няможна гэта рабіць па санітарных нормах, але нас усё адно выпраўлялі. Мы грэбавалі косці збіраць”[99]. Невялікая частка пахаванняў была перанесена роднымі на новыя могілкі, якія адкрылі яшчэ ў 1920-я гады[100].

Яўрэі Савецкага Саюза не маглі падтрымліваць рэгулярных адносін са сваімі роднымі і блізкімі за мяжой. Аднак усё ж час ад часу адтуль прыходзілі пасылкі, якія ва ўмовах пасляваеннага голаду і разрухі былі вельмі важнай з’явай[101]. З-за мяжы ў Савецкі Саюз пранікала рэлігійная літаратура, а таксама часопісы і публікацыі “з нацыяналістычным рэлігійным зместам”[102]. Інфарманты расказвалі, як іх бацькі (часцей бацька), знаёмыя сачылі за ходам вайны за незалежнасць, а Палесціна стала тэмай размоў на працы, у сям’і[103]. Абвяшчэнне ў 1948 г. дзяржавы Ізраіль і вайна за незалежнасць выклікалі нацыянальны ўздым сярод яўрэяў Савецкага Саюза. Галоўнай крыніцай інфармацыі былі, несумненна, афіцыйныя СМІ.

[99] Зелянцова Соф’я Хаімаўна, 1937 г. нар.

[100] Шендерович Ида. Еврейские кладбища Могилевской области. Рукапіс. Цяпер на могілках, па яе звестках, каля 7 тысяч магіл.

[101] Верабейчык Раіса Едзідаўна, 1929 г. нар. Архіў І. Шандаровіч.

[102] Altshuler M. Religion and Jewish Identity in the Soviet Union… Kindle, loc. 1639.

[103] Любое праяўленне сімпатыі да Ізраіля выкрывалася як маніфестацыя яўрэйскага буржуазнага нацыяналізму, адсутнасць патрыятызму, імкненне да супрацоўніцтва з ЗША і іншымі імперыялістычнымі дзяржавамі.

Аднак таемна, па начах, слухалі і замежныя радыёстанцыі, пачутае рабілася прадметам абмеркавання паміж "сваімі". Замежныя радыёстанцыі слухалі гаспадыня кватэры, на якой жыла Ніна Віленчык ("Тады ж усе нешта слухалі!"), айчым Іны Герасімавай, бацька Людмілы Гіршынай ("Тата быў свецкі чалавек, але ён быў сіяніст. Ён вельмі любіў яўрэяў, Ізраіль, вельмі хацеў з'ехаць. Слухаў прыёмнік, цікавіўся палітыкай").

Спосабам з'ехаць у Ізраіль у першыя пасляваенныя гады была рэпатрыяцыя ў Польшчу і эміграцыя ўжо адтуль[104]. У выпадку немагчымасці законнай рэпатрыяцыі за вялікую плату заключаліся шлюбы з грамадзянамі даваеннай Польшчы.

Нягледзячы на тое, што вайна прывяла да значных зменаў у дэмаграфічным і сацыяльным профілі яўрэйскай абшчыны і "вяртанне да нармальнасці" яўрэйскіх супольнасцяў стала практычна немагчымым, а трансляцыя яўрэйскай традыцыі была рэдуцыравана, маладое пакаленне мела ўяўленне аб схаваным баку яўрэйскага жыцця.

[104] Рэпатрыяцыя польскіх яўрэяў з СССР праходзіла ў два этапы. У выніку рэпатрыяцыі палякаў і яўрэяў з заходніх савецкіх рэспублік (Заходнія Беларусь і Украіна, паўднёвая Літва) на падставе вераснёўскай 1944 г. дамовы ў Польшчу ў другой палове 1944 г. прыехала каля 30 тыс. яўрэяў. Другі этап адбываўся на падставе польска-савецкай дамовы ад 6 ліпеня 1945 г. аб праве змены месца жыхарства для асобаў польскай і яўрэйскай нацыянальнасцяў, якія маглі даказаць, што да 17 верасня 1939 г. былі грамадзянамі Польшчы. У Польшчу прыбыло каля 150 тыс. яўрэйскіх рэпатрыянтаў з СССР (каля 120 тыс. з іх прыехалі да чэрвеня 1946 г.). (Aleksiun N. Dokad dalej Ruch syjonistyczny w Polsce (1944–1950). Warszawa: Centrum Badania I Nauchania Dziejow I Kultury w Polsce im. Mordechaja Anielewicha. Wydawnictwo TRIO, 2002. P. 65–66).
Аргкамітэт польскіх яўрэяў у СССР (Komitet Organizacyjny Żydów Polskich w ZSRR) быў створаны ў Савецкім Саюзе яшчэ ў чэрвені 1944 г. Асноўная мэта камітэта была ў тым, каб дапамагчы польскім яўрэям, якія ўсё яшчэ знаходзіліся ў СССР. Члены Камітэта шукалі тых, хто выжыў у Сібіры і на Далёкім Усходзе, забяспечвалі іх харчаваннем і медыкаментамі, арганізоўвалі іх пераезд у Польшчу.
У Польшчы ў той час дзейнічалі культурныя і грамадскія яўрэйскія арганізацыі.

Аднак яўрэйская традыцыя функцыянавала асобна ад рэлігіі, у побытавай сферы, і толькі: тэарэтычных ведаў пра іўдаізм у нашых суразмоўцаў не было, а ўсведамленне рэлігійнага сэнсу яўрэйскай традыцыі, якая мела месца на штодзённым узроўні, адбылося толькі ў 1990-я гады, калі ўжо ўнукі пайшлі ў нядзельныя яўрэйскія школы і прынеслі адтуль кніжкі і веды, або самі нашы суразмоўцы трапілі ў яўрэйскія арганізацыі[105].

Страта яўрэйскай дамінанты Бабруйскам звязваецца з 1970-мі гадамі: будаўніцтва шыннага завода і масавы прыезд рабочых з вёсак. У 1990-я пачалася масавая эміграцыя яўрэяў. Сёння вялікія дыяспары бабруйчан жывуць у Ізраілі, Амерыцы, Канадзе. У гэтым сэнсе наша даследаванне крыху абмежаванае, на гэтым этапе мы змаглі паразмаўляць толькі з тымі, хто па нейкіх прычынах застаўся… Карэнныя бабруйчане не-яўрэі таксама адчуваюць настальгію па горадзе, які знік. Полька па нацыянальнасці Ядзвіга Мікалаеўна Дыба адзначыла: “Яўрэі неслі культуру ў наш горад… Культура адчувалася ва ўсім. Яны з’ехалі, і горад абяднеў у плане культуры і ў духоўным плане”[106].

[105] У красавіку 1988 г. у Бабруйску быў створны першы на Беларусі клуб яўрэйскай культуры, якому надалі імя Мендэля Мойхер-Сфраіма. Арганізатарам стаў Ілля Родаў.

[106] Дыба Ядзвіга Мікалаеўна, 1947 г. нар.

# Post-war Jewish Babrujsk

**Iryna Ramanava**

The study of Jewish life under the scheme: the return from the evacuation-antisemitism-emigration, as it noted Anna Cichopek-Gajraj, greatly reduces the diversity and complexity of the Jewish experience after the war. It is important to study how occurred the return of the Jews from evacuation and their adaptation to the conditions after the Holocaust, what acted as an integrating factor for the Jewish community in the post-war years, what means to be a Jew at that time. For this purpose, oral history expedition in Babrujsk was held in September 2014.

Jews returned to the city after the others, the preserved house and available jobs were already taken. After returning, each family inevitably faced the situation post-Holocaust. However, as highlighted by our interlocutors, who after the war were children, awareness of the scale of the Holocaust was not, it was the perception of the tragedy at the level of bereaved relatives, relatives, acquaintances. Babrujsk became a place of attraction for the surviving Jews from neighboring towns.

In the early postwar years, the authorities noted the growth of religious sentiment among Jews. Babrujsk synagogue, in the short period of its activity, had not become a place that would unite all religious Jews of the city (including due to differences with the leadership of the synagogue). At the same time there were unregistered synagogues which distributed to formation of the secret structure of Jewish life.

Soviet limitation of public expression of religious faith moved the religious rituals in the domestic sphere, where they continued to function as a family business, the tradition remained behind closed doors, which, of course, even in the face of secularization and atheisation had an impact on children. Many continued to associate their Jewish identity with specific food traditions. Sometimes children could not subject to reflection Jewish tradition which took place at home and perceived it as obvious.

# Помнік князю Альгерду ў Віцебску як элемент гістарычнай палітыкі Беларусі

**Марэк Фігура, Лукаш Стаськевіч**

На працягу апошніх гадоў у гістарычнай палітыцы Беларусі можна заўважыць паступовыя змены. Усё часцей у ёй з'яўляюцца элементы, якія маюць дачыненне да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку да найбуйнейшых дзеячоў той эпохі. Вельмі важны кампанент такой палітыкі – стварэнне помнікаў у гонар нацыянальных герояў. І калі гаварыць пра будаўніцтва на Беларусі новых помнікаў, дык можна заўважыць пэўныя змены ў стаўленні да гэтага пытання з боку органаў улады. Яшчэ да нядаўняга часу ўшанаванне колішніх уладароў Вялікага Княства Літоўскага выглядала немагчымым ці малаімаверным. Ды нават і цяпер, нягледзячы на пэўныя змены ў гэтай сферы, такія спробы выклікаюць эмоцыі і дыскусіі. Адным з прадметаў такіх спрэчак стала асоба князя Альгерда.

Ідэя паставіць у цэнтры Віцебска помнік вялікаму князю літоўскаму Альгерду ўзнікла ў прадстаўнікоў гарадской адміністрацыі ў 2010 г. Помнік павінен быў стаць другім у свеце скульптурным увасабленнем гэтага манарха[1], а таксама адным з першых конных манументаў на Беларусі[2]. Ужо з самага пачатку гэтая ідэя выклікала шмат

[1] Упершыню ў свеце князь Альгерд быў скульптурна ўвасоблены на помніку "Тысячагоддзе Расіі" ў Вялікім Ноўгарадзе ў 1862 г. (разам з Гедымінам і Вітаўтам).

[2] Як піша беларуская прэса, гэта чацвёрты па ліку конны помнік на Беларусі. Два такія помнікі, прысвечаныя памяці загінулых чырвонаармейцаў, знаходзяцца на Магілёўшчыне.




**Помнік князю Альгерду ў Віцебску.**
*Фота Лукаша Стаськевіча.*

эмоцый і дыяметральна процілеглых меркаванняў. У стане праціўнікаў апынулася перш за ўсё частка рускай дыяспары, а ядром прыхільнікаў стала беларуская моладзь і некаторыя прадстаўнікі навукі. Згодна з сацыялагічным апытаннем, праведзеным сярод жыхароў Віцебска, амаль палова з іх, а менавіта 49%, падтрымлівалі ідэю ўсталявання помніка і толькі 12% былі супраць[3].

Каб паспрабаваць зразумець аргументы абодвух бакоў, варта спачатку бліжэй пазнаёміцца з постаццю князя Альгерда Гедымінавіча. Ён нарадзіўся каля 1303–1305 г.[4]. Быў сынам вялікага князя літоўскага Гедыміна і полацкай князёўны Еўны, а таксама братам Нарымонта (каля 1300–1348), Вітаўта (каля 1303–1336), Карыята-Міхаіла (каля 1306 – каля 1365) і Яўнута (каля 1306 – каля 1366). У 1318 г. Альгерд ажаніўся з князёўнай Марыяй[5] – дачкой віцебскага князя Яраслава Васілевіча. Пасля яго смерці ў 1320 г., калі мужчынская лінія князёў згасла, Віцебскае княства адышло ў спадчыну дачцэ і сам Альгерд зрабіўся князем віцебскім. Так дзякуючы Альгердаваму шлюбу

Найстарэйшы, датаваны 1981 г., пастаўлены на брацкай магіле каля вёскі Горня ў Хоцімскім раёне на мяжы з Расіяй і мае выгляд кавалерыста на кані (у гонар салдат 112-га кавалерыйскага палка 13-й арміі, якія загінулі ў жніўні 1941 г.). Другі, узведзены ў 1999 г., прысвечаны салдатам Чырвонай арміі, якія загінулі пры вызваленні Бабруйска ў 1944 г., і ўвасабляе святога Георгія ў савецкай форме, які пранізвае змея-аспіда ў выглядзе фашысцкай свастыкі. Трэці помнік быў адкрыты ў 2007 г. у Полацку і ўвасабляе полацкага князя Усяслава Чарадзея. Гл.: Матвеева Т. Князь Ольгерд вернулся в Витебск под ливень с градом. Как устанавливали монумент в честь исторического деятеля // http://news.tut.by/society/404420.html 11.06.2016); http://belchas.by/news/khotimskii-raion-dalnii-vostok-belarusi.html (12.06.2016).

3 Какие памятники нужны Беларуси? Лекция-опрос прошла в Минске // http://ont.by/news/our_news/00120874?page=6559 (10.06.2016).

4 Tęgowski J. Pierwsze pokolenie Giedyminowiczów. Poznań – Wrocław: Wydawnictwo Historyczne, 1999. S. 47.

5 Kiaupa Z., Kiaupiene J., Kuncevicius A. Historia Litwy – Od czasów najdawniejszych do 1795 roku. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 2007. S. 118.

гэтая зямля стала пазней часткай Вялікага Княства Літоўскага, што асобна падкрэсліваецца ў беларускіх падручніках[6]. Пытанне наконт першай жонкі князя Альгерда было ўзнята Янам Тэнгоўскім у працы "Першае пакаленне Гедымінавічаў". Ён паказаў, што ў "Радаводзе князёў віцебскіх" (які, на яго думку, не зусім дакладны) фігуруе Альгердава жонка пад імем Марыя. Але ў "Хроніцы Быхаўца" яна носіць імя Ганна – гэтак жа, як і ў Яўрэінаўскім летапісе[7]. Аўтар схільны лічыць, што ў апошнім выпадку гаворка ідзе пра другую жонку Альгерда – Юліянію Цвярскую[8]. На думку Яна Тэнгоўскага, з факта ўжывання двух імёнаў зусім не вынікае, што гэта былі дзве розныя асобы, – адно з гэтых імёнаў магло быць манаскім[9]. Ён таксама робіць выснову, што першая жонка Альгерда, з улікам яе хрысціянскага імя, павінна была паходзіць з праваслаўнага роду. Аднак, як ён сцвярджае, няма ўпэўненасці, што Марыя-Ганна была дачкой віцебскага князя Яраслава Васілевіча[10]. Тым не менш, большасць польскіх гісторыкаў, у тым ліку даўнейшых, накшталт Юзафа Вольфа, не падзяляюць сумненняў наконт першай Альгердавай жонкі. На думку таго ж Вольфа, ёю была акурат віцебская князёўна Марыя[11]. Таго самага меркавання прытрымліваўся і Генрык Віснер, які адназначна сцвярджаў, што менавіта Марыя была першай жонкай князя[12].

[6] Сташкевич Н. С., Голенченко Г. Я., Богданович И. И. История Беларуси: пособие для подготовки к централизованному тестированию. Минск: Аверсэв, 2011. С. 46.

[7] Tęgowski J. Pierwsze pokolenie Giedyminowiczów. S. 48.

[8] Тамсама.

[9] Тамсама. С. 49.

[10] Тамсама. Гл. таксама: Tęgowski J. Kilka słów o małżeństwach wielkiego księcia litewskiego Olgierda Giedyminowica // http://www.nbuv.gov.ua/old_jrn/Soc_Gum/Uks/2011_20/43_Tgowski.pdf (12.06.2016).

[11] Wolff J. Ród Giedimina. Kraków: Drukarnia Wł. L. Anczyca i Spółki, 1886. S. 26.

[12] Wisner H. Litwa – dzieje państwa i narodu. Warszawa: Mada, 1999. S. 15.

Князь Альгерд пакінуў след у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага як неардынарны ўладар і палітык, здольны рэалістычна глядзець у будучыню і прадбачыць вынікі сваіх дзеянняў. Якраз дзякуючы ўменню дасягнуць паразумення з братам Кейстутам Альгерду ўдалося адхіліць ад улады князя-няўдачніка Яўнута і пазбегнуць феадальнай раздробленасці. Вялікім князем літоўскім Альгерд стаў у 1345 г. У першыя гады яго кіравання краіна заставалася пад вялікай пагрозай. У 1345–1348 г. ішлі баі з Тэўтонскім ордэнам, у 1349 г. палякі занялі Галіцкую Русь разам з Брэстам і Падляшшам, Залатая Арда ўхілялася ад уступлення ў кааліцыю з Альгердам супраць Масквы, а Пскоў і Вялікі Ноўгарад пачалі выходзіць з-пад уплыву ВКЛ[13]. Вялікім дасягненнем новага манарха было атрыманне згоды на ўтварэнне ў 1354 г. у Вялікім Княстве Літоўскім праваслаўнай мітраполіі. Дзякуючы гэтаму князь мог ажыццяўляць далейшую экспансію рускіх земляў і іх кансалідацыю, а таксама зменшыць уплыў Масквы. У час яго панавання да ВКЛ далучыліся многія з такіх земляў. Дзяржава ў дзесяць разоў павялічыла тэрыторыю, уключыўшы ў свой склад частку абшараў, якія сёння належаць Беларусі і Украіне. Апрача таго, князь у перыяд свайго панавання арганізаваў тры паходы на Маскву (1368, 1370, 1372)[14]. Праўда, ніводзін з іх не стаў паспяховым. Тым не менш, гісторыкі лічаць князя Альгерда моцным уладаром, рукі якога не былі звязаны інтарэсамі іншых членаў дынастыі[15]. Ён памёр у 1377 г., пакінуўшы пасля сябе досыць магутную і тэрытарыяльна развітую дзяржаву.

Ідэя паставіць помнік князю знайшла станоўчы водгук шмат у каго з беларускай грамадскасці. Задума была падтрымана вялікай групай прыхільнікаў. Пры дапамозе інтэрнэт-СМІ яны спрабавалі прыцягнуць увагу тых, хто мог пазітыўна паўплываць на дзеянні гарадскіх уладаў,

[13] Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław: Zakład Narodowy Imienia Ossolińskich, 1990. S. 54.

[14] Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań: Wydawnictwo Naukowe UAM, 1983. S. 398.

[15] Kiaupa Z., Kiaupiene J., Kuncevicius A. Historia Litwy… S. 117.

арганізаваўшы збор подпісаў пад петыцыяй на адрас віцебскіх уладаў, у якой выкладалася гэтая ідэя. У ёй сцвярджалася: “Князь Альгерд зрабіў вялікі ўнёсак у абарону Віцебска і Віцебскай зямлі, іх гістарычнае і культурнае развіццё, а таксама адыграў значную ролю ў гісторыі Беларусі. У сувязі з гэтым хацелася б выказаць упэўненасць, што помнік гэтаму гістарычнаму дзеячу толькі ўпрыгожыць наш Віцебск, паспрыяе патрыятычнаму выхаванню моладзі, стане нагодай для гонару за горад з боку мясцовых жыхароў і ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь”[16]. Як можна бачыць, увага акцэнтавалася галоўным чынам на гістарычным значэнні князя Альгерда для Віцебшчыны, а таксама на сучасных аспектах патрыятычнага выхавання беларускай моладзі. Падтрымалі ідэю ўзвядзення помніка і некаторыя навукоўцы. Яны таксама падкрэслівалі ўнёсак князя ў развіццё беларускіх земляў. Паводле слоў Анатоля Дулава, дацэнта кафедры гісторыі Беларусі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава, якраз дзякуючы тэрытарыяльнай разбудове Вялікага Княства Літоўскага ў час панавання князя Альгерда беларускія землі занялі цэнтральнае становішча ў складзе гэтай дзяржавы, што, у сваю чаргу, паспрыяла развіццю іх эканомікі і культуры, умацавала афіцыйны статус старабеларускай мовы, а таксама дапамагло пашырыць у ВКЛ уплыў праваслаўнай царквы. Апроч таго, даследчык звяртае ўвагу на тое, што дзякуючы князю Альгерду ў ВКЛ была адноўлена асобная праваслаўная мітраполія[17], і гэта паспрыяла дасягненню большай аўтаноміі ад замежных уплываў. Важным аргументам для Анатоля Дулава выступае і тое, што князь Альгерд быў непасрэдна звязаны з самім Віцебскам праз шлюб з князёўнай Марыяй, а таксама праз яго ўклад у развіццё абарончых умацаванняў горада ў выглядзе цытадэльных сцен і мураванага замка – аднаго з першых на тэрыторыі ВКЛ. Да

[16] Ліст на адрас старшыні Віцебскага гарадскога выканаўчага камітэта // https://vk.com/doc-53090511_179844575 (03.06.2016).

[17] Упершыню асобная праваслаўная мітраполія была заснавана князем Віценем у 1299 г.

таго ж ён паспрыяў заснаванню Свята-Духавага манастыра і рамонту Дабравешчанскага храма.

Нягледзячы на гэтыя аргументы, ідэя будаўніцтва помніка выклікала рашучы пратэст у колах, звязаных з рускай меншасцю. Найбольш актыўнай групай, якая паспрабавала перашкодзіць ушанаванню памяці князя Альгерда, была віцебская грамадская арганізацыя “Рускі дом”. Як вынікае з яе статута, яна заклікана спрыяць развіццю рускай культуры і мовы, а таксама ўмацаванню дружбы паміж рускім і беларускім народамі[18]. У перыяд, калі разглядалася пытанне ўстаноўкі помніка, старшынёй арганізацыі быў Андрэй Герашчанка – дзеяч, вядомы сваімі антыбеларускімі выказваннямі, у якіх нярэдка ставілася пад сумненне існаванне самастойнага беларускага народа і беларускай мовы. Члены згаданай арганізацыі выказвалі меркаванне, што помнік князю Альгерду мог бы з’явіцца выключна ў комплексе з ушанаваннем Аляксандра Неўскага, а таксама легендарнай заснавальніцы Віцебска княгіні Вольгі. На такі варыянт, аднак, не давалі згоды гарадскія ўлады. Праціўнікі помніка звярталі ўвагу на тое, што ён можа спрычыніцца да значнага пагаршэння беларуска-расійскіх узаемаадносінаў, бо князь Альгерд – гэта дзеяч, не вельмі шанаваны ў Расіі з-за яго неаднаразовых ваенных паходаў на Маскву, а таксама з-за негатыўнага, на думку многіх, стаўлення да праваслаўных. У якасці аргумента праціўнікі прыводзілі гісторыю смерці літоўскіх хрысціян, пазней абвешчаных святымі мучанікамі. Як сцвярджалася, яны былі закатаваны па загадзе самога князя Альгерда[19]. З гэтай прычыны помнік князю, паводле слоў праціўнікаў, непазбежна нанёс бы ўдар па праваслаўі і паставіў бы пад пагрозу агульную культурна-

[18] Статут грамадскай арганізацыі “Рускі дом” // http://vitrusdom.narod.ru/ustav.rar (07.06.2016).

[19] Гэтае пытанне было таксама закранута ў часопісе “Przegląd Prawosławny”, які выходзіць у Польшчы. Гл.: Radziukiewicz A. Wojny polsko-ruskie // http://www.przegladprawoslawny.pl/articles.php?id_n=3210&id=2 (12.06.2016). У гэтым артыкуле, у прыватнасці, прыводзіцца крытычная ацэнка Альгерда з боку віцебскага гісторыка Віктара Атапіна.

гістарычную прастору Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, а таксама спрычыніўся б да пагаршэння вобраза Беларусі. Сам выбар месца для помніка побач са Свята-Уваскрэсенскай царквой, у разуменні яго праціўнікаў, быў правакацыйным і блюзнерскім.

Бачачы адсутнасць належнай рэакцыі на свае пратэсты з боку гарадскога выканаўчага камітэта Віцебска, праціўнікі ідэі ўстаноўкі помніка Альгерду двойчы звярнуліся з лістамі непасрэдна да прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі. У першых з гэтых лістоў, апублікаваным у траўні 2013 г., яны пісалі, што князь Альгерд быў “агрэсар і вераадступнік, а таксама захопнік, які безупынна ваяваў з усімі суседзямі, разбураў гарады і забіваў мірных жыхароў. Як жорсткі ліхадзей Расіі запомніўся ён у рускай гісторыі. Нядобры страшны след пакінуў Альгерд і ў гісторыі хрысціянства. Праваслаўная царква ўшаноўвае памяць (27 красавіка) святых мучанікаў літоўскіх, якія зведалі пакутлівую смерць паводле яго загаду”[20]. Ліст быў падпісаны прадстаўнікамі навуковых колаў, а таксама шэрагам ветэранаў Другой сусветнай вайны. Наступны ліст з’явіўся ў чэрвені 2013 г., тады да прэзідэнта Беларусі звярнуліся прадстаўнікі беларускага казацтва, рэканструктарскіх груп, а таксама камуністы. Яны гэтак жа катэгарычна пярэчылі ўстаноўцы помніка князю Альгерду, называючы яго “літоўцам-язычнікам”, які не меў дачынення да беларускага народа. Апрача таго, яны сцвярджалі: «У нашага беларускага народа дастаткова сваіх герояў і выдатных асоб, міралюбівых творцаў-працаўнікоў і вядома, герояў-воінаў, але воінаў – абаронцаў роднай зямлі. Альгерд жа – агрэсар, а не абаронца. Ён не быў стваральнікам. Сэнсам і галоўнай справай яго жыцця была вайна. Ён ваяваў практычна безупынна з усімі суседзямі, не грэбуючы вераломствам, здраджваў саюзнікам. Альгерд забіваў мірных жыхароў, паліў гарады і вёскі,

[20] “Памятник мучителю христиан оскорбляет весь белорусский народ”: открытое письмо Александру Лукашенко, травень 2013 г. // https://regnum.ru/news/polit/1657935.html (07.06.2016).

катаваў палонных, рабаваў цэрквы. Мы глыбока перакананы, што такія "подзвігі" і такая "слава" не адпавядаюць духу і менталітэту нашага народа»[21]. Адной з рысаў, якая аб'ядноўвала гэтыя два лісты, была чарговая апеляцыя да беларуска-расійскіх адносінаў. Будаўніцтва помніка князю Альгерду, на думку аўтараў, прадвяшчала значнае пагаршэнне двухбаковых стасункаў, а таксама, у пэўнай ступені, сімвалізавала змены ў гістарычнай палітыцы Беларусі. Расійскія СМІ ў той перыяд часта звярталі ўвагу на тое, што беларускія ўлады мяняюць стаўленне да сваёй гісторыі і пачынаюць больш прыхільна ставіцца да спадчыны Вялікага Княства Літоўскага. На вуліцах гарадоў пачалі з'яўляцца плакаты з выявамі дзеячоў эпохі ВКЛ, а ў Мінску ў 2015 г. адбылася першая ў гісторыі міжнародная навуковая канферэнцыя, арганізаваная Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, якая была цалкам прысвечана Вялікаму Княству Літоўскаму. Апрача таго, беларусы пачалі абмяркоўваць неабходнасць будаўніцтва іншых помнікаў у гонар вялікіх літоўскіх князёў, у прыватнасці князя Міндоўга ў Навагрудку.

Спрэчкі вакол віцебскага помніка князю Альгерду не прайшлі незаўважанымі і ў іншых краінах. З асаблівай цікавасцю абмяркоўвалі гэтае пытанне ў Літве і Польшчы. Літоўскія СМІ, апісваючы сітуацыю, крытыкавалі саму форму помніка, спасылаючыся пры гэтым на словы віцебскага гісторыка Макара Бабенкі. Яго заўвагі датычыліся найперш даспехаў манарха – напрыклад, адсутнасці ахоўных элементаў на галаве, сумяшчэння пласцін панцыра і кальчугі ці перайманняў з візантыйскіх крыніц, недарэчных у дадзеным выпадку[22]. Апрача таго, нечаканым для іх быў ужо той факт, што Беларусь называе сябе спадкаемцай Вялікага Княства

[21] "Витебские власти хотят вбить клин между Белоруссией, Россией и Украиной", чэрвень 2013 г. // http://regnum.ru/news/polit/1668604.html (07.06.2016).

[22] Augulyte M. P. LDK kunigaikščio Algirdo paminklas suerzino Vitebsko rusus // http://kultura.lrytas.lt/istorija/ldk-kunigaikscio-algirdo-paminklas-suerzino-vitebsko-rusus.htm (10.06.2016).

Літоўскага[23]. У публікацыях СМІ можна было ў той час заўважыць агульную крытыку такіх прэтэнзій, якія, на думку літоўцаў, былі інспіраваны пагаршэннем расійска-беларускіх узаемаадносінаў і сітуацыяй ва Украіне[24]. У Польшчы таксама пісалі пра спрэчкі, якія разгарнуліся вакол помніка Альгерду. Галоўны лейтматыў гэтых публікацый заключаўся ў акцэнтаванні ўвагі на патрэбе ўмацавання беларускай незалежнасці і прычынах рашэння ўшанавання памяці князя, якія, на думку аўтараў, былі звязаны ў першую чаргу з палітыкай. Польскія СМІ падкрэслівалі, што сама ідэя будаўніцтва помніка нарадзілася ў той момант, калі ў Расіі востра крытыкаваўся прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка[25].

Пратэсты працiўнікаў установкі помніка не знайшлі разумення з боку вярхоўных органаў улады Беларусі. На пастаменце, пастаўленым у адпаведным месцы яшчэ ў 2011 г., з'явіўся конны манумент, які ўвасабляе вялікага князя літоўскага Альгерда. Яго ўрачыстае адкрыццё адбылося ў дзень святкавання 1040-гадовага юбілею Віцебска – 24 чэрвеня 2014 г. Аўтарам помніка стаў вядомы беларускі скульптар Сяргей Бандарэнка[26]. Скульптура вышынёй 3 м 60 см, выкананая з бронзы, паказвае князя, які сядзіць на кані з выцягнутай наперад рукой, а на ёй трымае сокала, што сімвалізуе ўладу. Сярод віцяблян ходзіць пагалоска, нібыта Альгердава далонь скіравана ў бок Масквы, паказваючы напрамак паходаў на яе.

[23] Noreikiene J. P. Baltarusijoje dygsta Lietuvos kunigaikščių paminklai // http://kultura.lrytas.lt/istorija/baltarusijoje-dygsta-lietuvos-kunigaiksciu-paminklai.htm (10.06.2016).

[24] Iskauskas C. Kodėl kaimynai savinasi mūsų istoriją ir kunigaikščius? // http://www.delfi.lt/news/ringas/abroad/c-iskauskas-kodel-kaimynai-savinasi-musu-istorija-ir-kunigaikscius.d?id=65209057 (10.06.2016).

[25] Poczobut A. Białorusko-rosyjska wojna na pomniki // http://wyborcza.pl/1,76842,16253143,Bialorusko_rosyjska_wojna_na_pomniki.html?disableRedirects=true (10.06.2016).

[26] Першым пераможцам у конкурсе на найлепшы праект помніка стаў віцебскі скульптар Валерый Магучы, але пазней працу даручылі іншаму выканаўцу.

Тым не менш, гарадскія ўлады не змаглі праігнараваць меркаванні той часткі грамадскасці, якая крытыкавала ідэю будаўніцтва помніка князю Альгерду і заклікала замест гэтага ўшанаваць памяць князя Аляксандра Неўскага. У выніку прынялі рашэнне паставіць помнік і гэтаму манарху. У ліпені 2016 г. на плошчы Тысячагоддзя была адкрыта скульптурная кампазіцыя, дзе выяўлены князь разам з жонкай – віцебскай князёўнай Аляксандрай і іх сынам – наўгародскім князем Васілём. Хутчэй за ўсё, яе адкрыццё было абумоўлена спробай захаваць раўнавагу паміж прыхільнікамі стварэння ідэнтычнасці і нацыянальнага этасу на аснове спадчыны Вялікага Княства Літоўскага і сімпатыкамі прарасійскай канцэпцыі, якая грунтуецца на ідэі так званага "рускага свету". На думку беларускага гісторыка і археолага Аляксандра Краўцэвіча, прыклад спрэчкі наконт помнікаў у Віцебску сведчыць пра тое, што ў Беларусі ідзе барацьба двух кірункаў – з аднаго боку, патрыятычнага і нацыянальнага, а з другога – прарасійскага[27]. Гэтая навіна была заўважана і ў Польшчы, дзе прыводзіліся аргументы як праціўнікаў, так і прыхільнікаў устаноўкі новага помніка. Сярод іх пераважалі меркаванні, што Аляксандр Неўскі не мае нічога агульнага з Віцебскам, а апісаныя падзеі можна ахарактарызаваць як "вайну помнікаў"[28]. Сам выгляд новага помніка быў раскрытыкаваны на сайце расійскай інфармацыйнай кампаніі. Так, на думку старшыні віцебскай грамадскай арганізацыі «Рускі культурны цэнтр "Русь"» Ігара Патапава, гарадскія чыноўнікі, якія вызначалі форму помніка, кіраваліся сваімі спецыфічнымі ўпадабаннямі і не перадалі ў ім ідэі еднасці, магутнасці і абароны "рускай зямлі", а таксама пазбавілі яго "рускага духу". Апрача таго, ён раскрытыкаваў і ўжыванне беларускай мовы ў надпісе

[27] Гл: https://charter97.org/ru/news/2016/6/20/209853/ (16.07.2016).

[28] Poczobut A. Białoruska wojna na pomniki // http://wyborcza.pl/1,75399,20287359,bialoruska-wojna-na-pomniki.html?disableRedirects=true (16.07.2016).

на пастаменце. На думку Патапава, больш дарэчна было б ужыць у гэтым выпадку рускую мову[29].

Будаўніцтва помніка князю Альгерду ў Віцебску, а таксама іншыя падзеі, звязаныя з ушанаваннем асоб і сімвалаў з эпохі Вялікага Княства Літоўскага, паказваюць паступовыя змены ва ўспрыманні і фармаванні гістарычнай палітыкі беларускімі ўладамі. Усё часцей яны апелююць да тых падзей і гістарычных эпізодаў, якія раней прынята было абмінаць або замоўчваць. Магчыма, гэта звязана са спробамі Беларусі павярнуцца на Захад. Як паказалі дыскусіі вакол помніка князю Альгерду ў Віцебску, беларуская гістарычная палітыка па-ранейшаму выклікае палярныя меркаванні сярод грамадскасці. Наўрад ці памянёныя падзеі прадказваюць карэнны пералом у стылі і метадах рэалізацыі гістарычнай палітыкі. Не варта чакаць поўнай адмовы ад ранейшай рыторыкі, аднак кожны такі чарговы сімвал пацвярджае наяўнасць у беларускім грамадстве жадання наблізіцца да заходнееўрапейскай культуры, а таксама сведчыць пра тое, што ў Беларусі ідуць працэсы фармавання ўласнай нацыянальнай ідэнтычнасці і самаўспрымання.

[29] "На памятнике Александру Невскому в Витебске нет русского духа" // https://regnum.ru/news/society/2149470.html (16.07.2016).

# The Alhierd Monument in Viciebsk as an element of the politics of memory

**Marek Figura, Łukasz Staśkiewicz**

The politics of memory is a fairly important element for maintaining the national identity and shaping historical consciousness. It manifests itself, among others, in relation to issues concerning monuments. In Belarus, the occurring changes in the perception of this aspect by central and local authorities as well as the society have been observed in recent years. More and more often, a discussion about the heritage of the Grand Duchy of Lithuania and its role in the formation of the Belarusian statehood is carried out. The issues related to the monuments of people coming from the period of the GDL constitute one of the elements of the politics of memory in Belarus. They evoke extreme opinions among the society – both the approving and categorically opposing ones. In the centre of this dispute, there was, among others, Alhierd, the grand duke of Lithuania. When in 2010, the idea of creating a monument of the duke occurred in Viciebsk, the conflict between supporters (mainly young people and some representatives of science) and opponents (Russian minority) started. Initially, it was limited only to a consultation at the local level, but then on the monument opponents' initiative, it was moved to the level of the central national administration. Among the arguments supporting the idea, those related to historical aspects, inter alia, the Duke Alhierd's contribution to the GDL development, and the ruler's personal relationship with Viciebsk, occurred most frequently. On the other hand, the opponents paid attention to the possibility of deterioration of Belarusian and Russian relations and criticism of the Orthodox Church. There were also the ideas of erecting a monument of Alexander Nevsky, but the municipal authorities did not refer to it positively at that time. However, it changed shortly after creating the monument representing duke Alhierd in the centre of Viciebsk. The dispute over the monuments in Belarus was also observed in other countries, including Poland, Russia, and Lithuania. However, a different point of view on the occurred events was presented in each of them.

# Пра даследаванні беларускага “Трышчана” ў Італіі*

Сантэ Грачыёці

Вяртаюся да аднаго з маіх даўніх захапленняў, каб аддаць даніну павагі цудоўнаму літаратурнаму жанру, а таксама каб адплаціць яму за тую няўвагу з боку даследчыкаў, у якой ён ужо доўгі час застаецца. Маё вяртанне да гэтай тэмы абумоўлена двума даўгамі (як навуковымі, так і прапазітыўнымі) – раманістычным і славістычным. Што да першага, то варта было б вярнуцца, зрабіўшы адваротны пераклад беларускага “Трышчана” (ТБ) на італьянскую мову, да аднаго тэксту італа-венецкага паходжання, які невядомы нашым раманістам або, прынамсі, не ўзяты імі пад увагу з-за моўнага бар’ера. Што да другога, то ён скіраваны на вывучэнне літаратурна-лінгвістычнага помніка, які павінен быў бы разглядацца як сведчанне народзінаў прафаннай (свецкай, нерэлігійнай, белетрыстычнай) літаратуры ў Беларусі. Як з першага, так і з другога гледзішча беларускі тэкст надзвычай важны, але пры гэтым, здаецца, выпадае з поля зроку даследчыкаў – і раманістаў, і славістаў, зарыентаваных на іншыя тэмы. І яны маюць на гэта права, але засмучае няўвага, якая пазбаўляе навукоўцаў поля даследаванняў, неабходнага дзвюм філалагічным навукам – раманістыцы і славістыцы, што абяцае добры плён для іх саміх. Сапраўды, пасля даследаванняў, праведзеных на гэтым полі мною[1]

* Graciotti, Sante. Delle (mancate) ricerche in Italia sul Tristano bielorusso (o bianco-russo) // Πολυιστωρ. Scripta slavica Mario Capaldo dicata. Mosca-Roma, 2015. P. 101–111.

1 Graciotti S. Hrvatska glagoljska književnost kao kultumi posrednik između Evropskog zapada i istočnih Slovena // Slovo. 21 1971. P. 305–323; Id.: “Srpska” istorija Tristana i njegov

і Эмануэлай Згамбаці[2], такія навуковыя пошукі, калі не памыляюся, не мелі ў нас працягу, у той час як за межамі Італіі яны вяліся паслядоўна, ідучы наперад featureзнымі шляхамі з вынікамі, безумоўна, карыснымі на мясцовым узроўні, але філалагічна нязначнымі па навізне ў галіне міжнацыянальнай і міжкультурнай кампаратывістыкі.

Я мушу прабачыцца за тое, што пачынаю з сваіх даследаванняў, як з пункту выхаду для майго гістарычнага выкладу. Але гэты пункт выхаду – які потым стаў канцэпцыяй італа-венецкага паходжання паўднёваславянскага прататыпа, ад якога залежыць ТБ – быў ужо гістарычна пастуляваны і ўскосна аргументаваны ў XIX ст. А. Брукнерам (1886) і А. Весялоўскім (1888). Грунтуючыся на загалоўку, пад якім аповед, разам з іншымі, змешчаны ў зборным рукапісе Рачынскіх у Познані, дзе сказана, што яны ўзяты "s knig serbskih" [з сербскіх кніг], гэтыя славісты першымі знайшлі ў тэксце лексічныя і сінтаксічныя сербахарвацкія рэшткі, а з імі шэраг венетызмаў, якія сведчылі пра італа-венецкае паходжанне арыгінала, з якога беларускі тэкст, праз сербахарвацкае пасярэдніцтва, павінен быў паходзіць. Звесткі пра існаванне рукапісу Венскай Нацыянальнай Бібліятэкі, які змяшчае венецкага "Трыстана" (ТВ), былі занадта прывабнымі, каб быць пакінутымі без увагі, і таксама воляю лёсу ён стаў даступным Аўлу Данадэла, які з сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя рыхтаваў публікацыю венецкага "Трыстана з Вены"[3], каб даць у наша распараджэнне сваю транскрыпцыю рукапісу (датаванага 1487 г.) задоўга да публікацыі. Яна стала асновай для параўнання, якое з таго часу можна было рабіць паміж двума рукапісамі,

italijansko-venetski original // Naučni sastanak slavista u Vukove dane: Referati i saopštenja. Sv. 22. Beograd, 1979. P. 29–43.

2 Sgambati E. Note sul Tristano bielorusso // Ricerche Slavistiche, 24–26 (1977–1979). P. 33–53; Ead.: Il Tristano biancorusso. Firenze: Licosa, 1983 [= Studia Historica et Philologica XV. Sectio Slavoromanica, 4].

3 Нарэшце выйшаў з друку ў 1994 г.: Il libro di messer Tristano ("Tristano Veneto") / A cura di A. Donadello. Venezia: Marsilio, 1994.

беларускім і італа-венецкім. Таксама можна было пачаць аналітычным шляхам высвятляць роднасныя сувязі беларускага “Трышчана” з венецкім “Трыстанам”. У маёй працы «“Srpska” istorija Trístana…» я меркаваў давесці, што першыя дзве трацiны ТБ залежалі ад традыцыі ТВ, скарочаную рэдакцыю якога яны ўяўлялі. Але са значна большай дакладнасцю вызначыла гэтую сувязь паміж двума тэкстамі (ТБ і ТВ) Эмануэла Згамбаці ў заўвагах да свайго выдання з перакладам беларускага “Трышчана” і потым у сінаптычных табліцах, змешчаных у першым дадатку (pp. 405–486).

Пад час даследаванняў у Сантэ Грачыёці і Эмануэлы Згамбаці ў распараджэнні былі, апрача данадэлавай транскрыпцыі венецкага “Трыстана” (ТВ), тэкст беларускага “Трышчана” (ТБ), транскрыбаваны і надрукаваны Весялоўскім (1888)[4], і класічныя творы пра Трыстана ў прозе, напісаныя Лёзэтам і Куртысам. У Эйлерта Лёзэта гэта – своеасаблівая трыстанаўская энцыклапедыя, “Le roman en prose de Tristan, le roman de Palamède et la compilation de Rusticien de Pise, Analyse critique d’atrès le manuscrits de Paris” (Paris, Bouillon, 1891) (карысная для нас галоўным чынам з-за *Rustichello di Pisa* [Селяніна з Пізы], рэха якога адчуваецца ў ТБ). Рэнэ Л. Куртыс у наш час паклапацілася, грунтуючыся на ms. 404 Муніцыпальнай Бібліятэкі з Карпэнтрас, выдаць “Le roman de Tristan en prose” ў трох тамах, з якіх пад час нашых даследаванняў выйшлі з друку толькі два[5]. Натуральна, трэба было яшчэ, каб выйшлі выданні Філіпа Менарда т. зв. “другой” (“народнай”) версіі “Romanzo di Tristano” ў прозе, заснаванай на ms. N° 2542 Венскай Нацыянальнай

[4] Веселовский А. Н. Белорусские повести о Тристане, Бове и Аттиле в Познанской рукописи конца XVI в. // ён жа. Из истории романа и повести // Сборник ОРЯС. XLIV. 3. Вып. II. Славяно-романский отдел. С.-Петербург, 1888. Приложения [з уласнай нумарацыяй старонак]. С. 1–127.

[5] Першы том выйшаў у Манака (Monaco: Max Hueber, 1963), другі ў Лейдэне (Leiden: Brill, 1976), а трэці, які яшчэ не з’явіўся ў час нашых даследаванняў, – у Кембрыджы (Cambridge: Brewer, 1985).

Бібліятэкі[6], і т. зв. "першай версіі", заснаванай на ms. N° 757 Парыжскай Нацыянальнай бібліятэкі[7]. Гэтыя новыя выданні значна пашырылі абсяг ведаў па артурыянскай тэме ўвогуле і разам з тым спарадзілі неабходнасць параўнаць з імі таксама тое, што мы ведалі пра венецкага "Трыстана" і тое, што мы маглі сказаць пра яго. Выданне венецкага "Трыстана", падрыхтаванае скрупулёзна, з веданнем справы і бязмежнай цярплівасцю Данадэла, задаволіла – для часу, у які яно выйшла – першую патрэбу, але не другую, адказнасць за выкананне якой у значнай меры яшчэ ляжыць на славістах.

Славісты, пасля таго як мінула вялікая эпоха Весялоўскага і Брукнера ў XIX ст., арыентаваліся на папулярызатарскую белетрыстыку, больш ці менш высокага навуковага узроўню, але з унёскамі таксама карыснымі для мясцовай культурнай гісторыі, да якіх часам дадаваліся пераклады ТБ на народную мову. Першы прыклад быў зроблены сербкай Ірэнай Грыцкат – яе сербскі пераклад і яшчэ больш уступнае даследаванне, "Povest o Trištanu i Ižoti" (Beograd, Srpska Književna Zadruga, 1966), натхнёныя меркаваннем пра сербскасць твора, падказаным загалоўкам пазнанскага рукапісу ("з сербскіх кніг"). Сапраўды, уводзіны былі неабходныя, каб паказаць пашырэнне трыстанаўскай тэматыкі на сербахарвацкім абшары і вылучыць некаторыя сербахарватызмы (не ўсе дакладныя), наяўныя ў беларускім тэксце. У рэальнасці трыстанаўская тэма настолькі чужая для культуры еўрапейскага Усходу, што робіць дарэмнай усялякую спробу лічыць яе аселенай у Сербіі[8]. Тэрыторыя, з якой паходзіць славянскі

[6] Пар.: Le Roman de Tristan en prose. 9 voll. Genève: Droz, 1987–1997.

[7] Пар.: Le Roman de Tristan en prose (version du manuscrit 757 de la Bibliothèque Nationale de Paris). 5 voll. Paris: Classiques francais du Moyen Âge, 1997–2007.

[8] Прыкладам таго, як цяжка чалавеку з усходняй часткі новай Еўропы – пасля шчаслівых дзён расійскай філалогіі другой паловы XIX ст. – перамяшчацца ў гэтым коле твораў і вартасцяў паміж Сярэднявеччам і Новым Часам, была для мяне праца А. Д. Міхайлава "Французский рыцарский роман и вопросы типологии жанра в средневековой литературе" (Москва:

"Трыстан" – Далмацыя, зона суіснавання славянскай і раманскай культуры, таму ў свой час я і казаў пра славяна-раманскі сімбіёз, які доўжыўся ад Сярэднявечча да Новага Часу. З гэтага культурнага рэгіёна сярод твораў заходняга паходжання, якія потым перайшлі ў літаратуры еўрапейскага Усходу (Сербія, Балгарыя, Русь), узялі пачатак таксама рыцарскія раманы пра Трыстана, Ланцэлота, Баву з Антоны, якія мы знаходзім запісанымі і часткова перапісанымі ў беларускім рукапісе з Познані. Застаўся ў гісторыі інвентар спадчыны з горада Задар (Далмацыя) з 1389 г., у якім згадваліся некаторыя творы свецкай літаратуры: сярод якіх, у прыватнасці, "unus Rimancius Febi[9] in littera latina <…> unus Rimancius Princevalis in littera latina <…> Item unus Rimancius parvus Tristani. Item unus Rimancius scriptus partim in latino et partim in schlavo". Апрача гэтых "rimanci" [раманы ў прозе], пісец адзначыў таксама "unus liber Alexandri parvus in littera sclava"[10]. Гэтымі выразамі пісец пазначаў не мову, а пісьмо, адрознае лацінскае пісьмо (для лацінскай ці італьянскай мовы) і славянскае пісьмо (верагодна, глагалічна-харвацкае), даючы сведчанне пра існаванне ў Задары пры канцы XIV ст. копій рыцарскіх раманаў, напісаных таксама "littera schlava", г. зн. харвацкай глаголіцай.

Наука, 1976), дзе пад катэгорыю рыцарскага рамана падводзяцца ўсе творы больш ці менш раманістычнага зместу, ад псеўдакласічных аповедаў пра Трою і Аляксандра да Крэцьена дэ Труа, раманаў у прозе XIII–XIV ст. з іх пазнейшымі філіяцыямі аж да канца Сярэднявечча. Аўтар, аднак, не згадаў пры гэтым венецкага "Трыстана", не кажучы ўжо пра "Трышчана" беларускага, а таксама, што асабліва прыкра, не вызначыў дакладна спецыфіку рыцарскага рамана Артуравага цыкла або, у прыватнасці, Трыстанавага.

9 Пра Феба (Febus), якога вельмі рэдка згадвалі ў ліку сярэднявечных раманаў, у венецкім "Трыстане" гаворыцца так: "E dei altri cavalieri non ve digo, li qual fo molti de plui novelli e de pluii antigi, come fo Febus, lo qual de grandissime prodeçe passà tuto lo mondo" ("А пра іншых рыцараў я не кажу, многія з іх больш новыя і больш даўнія, чым быў Febus, што з вялікімі цудамі прайшоў увесь свет") (пар. выд.: Donadello A., цыт.: P. 498).

10 Пар.: Jireček C. Eine slavische Alexandergeschichte in Zara, 1389 // Archìv für slavische Philologie. XXV. 1903. S. 157–158.

Вось такая пасярэдніцкая функцыя паміж культурай Захаду і славянскага Усходу гэтай сціплай літаратуры, якая, заўсёды застаючыся ў сферы літаратуры прафаннай, пашырылася далёка за межы жанру рыцарскай. Асаблівае значэнне набыла тады (прыблізна ад XIV ст. і далей) перадача твораў казачнай вучонасці, як "Гісторыя пра багацці Індыі" і падобныя, але перш за ўсё псеўдагістарычных аповедаў, як "Аповед пра Трою" і "Раман пра Аляксандра". Гэта творы, якія шырока і ў розных формах распаўсюджваліся па ўсёй Еўропе і якія на славянскіх Балканах маюць яўныя прыкметы іх прамой залежнасці ад лацінскіх матрыц, хоць не заўсёды, магчыма, удаецца вызначыць дакладныя тэкстуальныя прататыпы. Так, у сербскім і балгарскім "Аповедзе пра Трою" выразна відаць лацінская форма і венецкая фанетыка некаторых уласных імёнаў (Парыш, Менелаюш, Брыжэіда). Апрача таго, там адметная і лексіка, уласцівая Далмацыі, асабліва паўночнай Далмацыі (*rusag* [вугарызм], *mudros*, *oblas*). Нарэшце ў сербскім тэксце мы знаходзім амаль літаральныя цытаты, узятыя з "Метамарфозаў" Авідзія, ды інш. Пра ўсё гэта я падрабязна пісаў у маім даўнім даследаванні 1971 г.[11]. У такой форме гэтыя легенды пераходзяць з харвацкіх тэрыторый на сербскія, балгарскія, румынскія і нарэшце на Русь, выцясняючы там адпаведныя візантыйскія рэдакцыі. Пашырэнне заходняй цывілізацыйнай мадэлі на тэрыторыі паміж заходняй Еўропай і праваслаўнай Славіяй адбываецца пастулова таксама і праз гэтыя творы, якія разам з гісторыямі перадавалі ідэі заходняга свету. І адсюль бярэ пачатак розны спосаб і розная ступень прыняцця, з якой славянскі свет спаборнічаў з імі. І адна з тэрыторый, на якой адбывалася спаборніцтва, была ўласна тэрыторыя куртуазнай культуры. Культура гэтая сутыкаецца з тым светам, які мастацкімі сродкамі выяўляе некаторыя істотныя адрозненні, што існавалі паміж культурай Захаду (лацінскай каталіцкай) і культурай Усходу (грэцкай праваслаўнай).

[11] Graciotti S. Hrvatska glagoljska književnost kao kulturni posrednik…, цыт., асабліва на с. 312–319.

Але пад азначэннем “лацінскі каталіцкі” ў плане ідэй хаваецца шматстайная рэальнасць, дзе вера і розум, улада і асоба, этычнае правіла і пачуццёвы імпульс пастаянна спаборнічаюць, у той час як грэцкі праваслаўны свет у ідэальным плане больш маналітны, прынамсі, з выгляду. З гэтага адрознення паходзіць таксама рознае прыняцце заходніх рыцарскіх раманаў ва ўсходнім славянскім свеце. Трыстан, персанаж брэтонскага цыкла і сімвал куртуазнай культуры, не быў успрыняты ў Славіі моцна і глыбока: беларускі “Трышчан” памірае там без нашчадкаў ці пабочных суродзічаў, праніклых туды пры кантакце. Па-за кадрам для нас застаецца выпадак чэшскага “Трыстана”, ад якога захаваліся пазнейшыя спісы XV ст. аб’ёмам каля 9000 радкоў. Яны парафразуюць эпічныя творы Эйльгарта фон Обергэ (канец XII ст.), Готфрыда са Страсбурга (пачатак XIII ст.), Гайнрыха з Фрайберга (канец XIII ст.), дзе апяваюцца рыцарскія каштоўнасці, у той жа час характэрная рыса свету Готфрыда са Страсбурга – куртуазнае каханне[12]. Матыў куртуазнага кахання настолькі ўкаранёны ў культуры позняга багемскага Сярэднявечча, што нават агіяграфічныя творы паддаюцца яго чарам і прымаюць яго мову да такой ступені, што ў вершаваным “Жыцці” ці “Легендзе пра святую Кацярыну” любоў святой да Хрыста наўпрост параўноўваецца з каханнем Ізоты да Трыстана, бо любоў “ўладарыць над усім, няма нічога больш магутнага за яе”[13]. Нягледзячы на гэта, згаданы эпізод куртуазнага кахання застаецца даволі ізаляваным у рыцарскім кантэксце, таксама і ў асяроддзі багемскім, дзе маюць, аднак, вялікі поспех

[12] Бліскучую бібліяграфічную нататку пра чэшскага “Трыстана” можна знайсці пад рубрыкай “Tristram a Izalda” ў: Lexicon Česke Literatury. Osobnosti. Dila – Instituce. 4/1. S – T. Praha: Academia, 2008. P. 1001–1002.

[13] Пар.: Dvě legendy z doby Karlovy Legenda o svatém Prokopu, Život svaté Kateriny. Praha, 1959. P. 187; “jenž jest nade vši věcí pánem. / mimoňž mocnějšieho nenie”. У наступных радках (1381–1388), апавядаючы пра бічаванне святой, якая церпіць усё дзеля любові да Бога, ананімны паэт параўноўвае гэтую любоў з любоўю Ізоты да Трыстана, абуджанай у яе сэрцы любоўным зеллем.

фантастычна-рыцарскія аповеды германскага паходжання (“Брунсвік”, “Мелузіна”, “Ота”, “Базыль з залатымі валасамі” і падобныя) ці нават паўночнатырольскія – “Маленькі ружовы сад”, “Вялікі ружовы сад” і падобныя.

Таксама на паўднёваславянскім абшары поспех “Трыстана” быў, наколькі гэта можна вызначыць з рэшткаў пісьмовай традыцыі, абмежаваны ў часе, так што для нас яго выжыванне абавязанае пэўнаму пазародаваму патомству, засведчанаму нам беларускім “Трышчанам”. Ёсць яшчэ іншы рыцарскі раман, вершаваны, які змешчаны ў рукапісе з Познані і які, маўляў, паходзіць “з сербскіх кніг”, а таму пабочна роднасны “Трышчану”, – аповед “Бава з Антоны” (у: Веселовский А. Н. Приложения, цыт., с. 129–172). Раман пра Баву (*Buovo* ці *Bovo*), папулярызаваны ў нас Андрэа да Барберына творам “I reali di Francia” (першае выданне: Modena, 1491), дзе ён займаў IV кнігу, даў пачатак, праз беларускі пераклад, але таксама паралельна з ім, расійскаму “Баве”, які інтэнсіўна распаўсюджваўся праз друк для народнага ўжытку нават на ўзроўні лубка[14]. У адрозненне ад “Трыстана” “Бава” падаецца нам у Беларусі, а потым і ў Расіі як аповед, перапоўнены дзеямі, дрэнна звязанымі між сабою, пазбаўленымі псіхалагічнага вымярэння, без выразных слядоў рыцарскай ідэалогіі і асабліва без псіхалагічна-этычнага вылучэння любоўнага элемента. Гэта раман, які будуецца на аснове авантурных сюжэтаў, схільных да пачварнага, гвалтоўнага

[14] *Лубок* – гэта выданне на лятучых лістках з медзярытнымі ілюстрацыямі (у нашым выпадку аповед пра Баву), назву якому дае герой эпонім, з таксама выгравіраваным тэкстам аповеду. Маю перад вачыма кнігу “Le Loubok. L’imagerie populaire russe XVIIe – XIXe siècles (Leningrad: Aurora, 1984), дзе на ілюстрацыі 100 паказана бітва Бавы з пачварай (паўчалавекам і паўканём, кентаўрам) Палканам, які, верагодна, мог бы адпавядаць італьянскаму арыгіналу Пуліканэ ці Пэлюканэ. Аднак трэба зазначыць, што ў італьянскім арыгінале паўжывёльны персанаж, Пэлюканэ, – верны слуга Бавы (і Друзьяны) і, больш за тое, ён не кентаўр, а істота напалову чалавек і напалову сабака: такім чынам *лубок* уяўляе з сябе падвойнае пераражджэнне арыгінальнай постаці італьянскага Пуліканэ.

і цудоўнага, у якім захоўваюцца толькі некалькі няўстойлівых эпічных матываў і некалькі імгненных праблёскаў кахання (напрыклад, у постаці Бавы, які ідзе “на бой і на смерць” пасля таго, як Дружэўна = *Drusiana* “пацалавала яго ў вусны, вочы і вушы”)[15]. Па-за гэтымі выключнымі момантамі, з неабходнасці дэградаванымі ў вартасці і танальнасці ў параўнанні з заходнімі прататыпамі, рускі Бава робіцца народным героем рускіх гераічных казак. Вера Кузьміна[16] давяла, насуперак меркаванню Весялоўскага, што рускі “Бава” залежыць ад беларускага з Познані, і менавіта таму мы гаворым пра гэта тут. Але ў той жа час Кузьміна выявіла доўгае жыццё “Бавы” на расійскай тэрыторыі, налічыўшы цэлых чатыры яго рэдакцыі, якія былі ва ўжытку ад XVII (ад першай рэдакцыі, якая захоўвае яшчэ лексічныя элементы беларускага паходжання) да XVIII ст. (прататып чацвёртай – украінскі рукапіс 1788 г.). Паралельна з лёсам рамана, які сягае, як было толькі што сказана, да лубка, адносна інтэнсіўна развіваюцца яго даследаванні.

Наадварот, як літаратурная традыцыя, так і развіццё даследаванняў, датычных беларускага “Трышчана”, нашмат адстае ў параўнанні з тым жа “Бавой” (калі не казаць пра іншае), і гэта ёсць падставай, каб пачаць з радзімы гэтага літаратурнага помніка – Беларусі. Тры гады таму, першы раз у гісторыі, у Мінску адбыўся Кангрэс Міжнароднага камітэта славістаў, на якім упершыню беларуская славістыка была прадстаўлена перад калегамі з усяго свету: пэўны аналаг таго, што адбылося ў 1983 г., калі першы раз Міжнародны камітэт славістаў сабраўся ў Кіеве. Мяркую, што ў тым выпадку беларусы імкнуліся паказаць сябе ў найлепшым святле ў вачах калег з іншых краін. Але я не ўбачыў у праграме Кангрэса, калі толькі не памыліўся, тэмы, якая тычыцца беларускага “Трышчана”. Гэта азначае, што не была ацэнена яго важнасць,

[15] Цытата з рускай рэдакцыі рамана – так, як яна пададзена класікам: Гудзий Н. К. Хрестоматия по древней русской литературе XI–XVII вв. Москва, 1947. С. 432.

[16] Кузьмина В. Д. Рыцарский роман на Руси: Бова. Петр Златых Ключей. Москва: Наука, 1964. С. 27 і наст.

хоць, на маю думку, гэта першае ўвасабленне на народнай беларускай мове свецкага апавядальнага твора, які, мы лічым, сёння мае вялікае значэнне для еўрапейскай культуры і літаратуры. Але гэта здарылася ў выніку недаацэнкі твора (культурна-ідэалагічнага характару?), першае сучаснае выданне якога, з перакладам на сучасную італьянскую мову, было зроблена ў Італіі Эмануэлай Згамбаці пад кіраваннем Грачыёці і пры заахвочванні Пік'ё[17]. У кнізе былі прыкладзены намаганні ўзнавіць не толькі поўны вобраз твора, але і спектраскапічную карціну яго тэкстуальна-літаратурных кампанентаў (італа-венецкіх і сербахарвацкіх), улучаных у тэкст беларускага перакладу XVI–XVII ст. Насамрэч, вялікая частка працы была прысвечана выяўленню італьянскіх крыніц твора, якія могуць быць знойдзены ў венецкім Трыстане з Вены, даступным у транскрыпцыі (тады яшчэ не выдадзенай) Аўла Данадэла.

Вартасць “Tristano biancorusso”, апрача ўсяго астатняга, была ў пастаянным параўнанні беларускага тэксту з папярэднімі: для першай часткі гэта перадусім венецкі “Трыстан” (TB), потым “Раман пра Трыстана” (“*Roman de Tristan”,* RT) у выданні Куртыса; для другой часткі, разам з RT, таксама ўсе іншыя тэксты, у якіх сустракаюцца матывы ТБ: “Рыкардыянскі Трыстан” (“*Tristano Riccardiano”*, Tric.), Круглы Стол “*Tavola Ritonda”* (TvR), трыстанаўскі фрагмент Дзібальдона да Каналь (“*Zibaldona da Canal”*, FrT). Такім чынам, Згамбаці давяла да завяршэння ўсё тое, пра што папярэднія даследчыкі, пачынаючы з Брукнера і Весялоўскага, толькі выказвалі гіпотэзы і часткова пачыналі выяўляць. Праца мела адмысловую вартасць для раманістаў, бо выяўляла генезіс італьянскага ці італа-венецкага прататыпа – з перакладу якога павінен быў урэшце паходзіць беларускі тэкст “Трыстана”. Гэта тлумачыць няўвагу славянскіх даследчыкаў да праблем тэксту ў рамане, калі гэта не закранала самага вузкага поля перакладаў, анамастыкі, тапанімікі і пад. Шчаслівым выключэннем, як мне здаецца, была праца Зоры

[17] Sgambati E. Il Tristano biancorusso, цыт.

Кіпель, якая ў 1988 г. падрыхтавала англійскі пераклад беларускага “Трышчана”, суправаджаючы яго сціслым, але грунтоўным уступным артыкулам, дзе разгледзела даследаванні Згамбаці, якія ўлічвала таксама ў англійскім перакладзе, не заўсёды, аднак, прызнаючы залежнасць ад іх. На с. 28 сваёй працы, напрыклад, распавядаючы пра параненага Амуратам Трыстана, які просіць караля Марку даць загад падрыхтаваць яму човен, каб паехаць шукаць паратунку ад атручаных ран, Кіпель перакладае беларускі тэкст так: “prepare a good vessel for me and equip it with what I will need, with food and drink and one sail so light that one person can take it down”, падаючы ў заўвазе (на с. 147), што ў беларускім арыгінале слову *sail* адпавядае *ведро* [вядро]: «read by many as pail. Corruption of Byelorussian “vetrilo”, or Serbo-croatian “jedro” = sail?». Сапраўды, просьба Трышчана аб магчымасці мець, разам з запасам хлеба і вады, таксама лёгкае вядро, якое можна было б без цяжкасці сцягнуць уніз, гучыць дзіўна, і Згамбаці паказала (“Tristano biancorusso”, pp. 141–142), што прачытанне *вядро* паходзіць з памылкі перакладу славянскага перакладчыка, які прачытаў як *vjedro* (вядро) слова, якое ў сербахарвацкім арыгінале павінна было быць *jedro* (ветразь)[18]. Відавочна, беларускі перакладчык не зразумеў слова *jedro* паўднёвага-славянскага арыгінала, якога няма ў беларускай мове[19]. Усё

[18] Праўка, зробленая Згамбаці, – не проста здагадка, яна грунтуецца на паралельным месцы з венецкага “Трыстана” f. 13$^{rb}$ [= “Roman de Tristan”, § 308], дзе Трыстан просіць пакласці ў човен апрача хлеба і вады лёгкі ветразь, якім зможа кіраваць адзін чалавек: “una picciola vella la qual io poro montar e abassar ala mia volontade” [“маленькі ветразь, які я змагу падымаць і спускаць калі захачу”].

[19] Слова *jedro* ў значэнні ‘ветразь’ няма ў беларускай, а таксама ў сучаснай рускай мове, але яно ёсць у харвацкай і славенскай мовах (*jadro*) і, апрача таго, у царкоўнаславянскай, пар.: Vasmer M. Russisches Etymologisches Wörterbuch. III. Heidelberg, 1958. S. 483; Skok P. Etimologijski rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika. I. Zagreb: JAZU, 1971. Гл. слова *jedro*. S. 768–769; Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка. Т. III. С.-Петербург, 1906 [Перадрук: Graz, 1971]. Кол.

ж трэба захапляцца стараннасцю З. Кіпель, што, узяўшыся за справу перастварэння для серыі перакладных твораў англа-амерыканскага выдавецтва і відавочна прызначаючы яго для аўдыторыі з неспецыялістаў у асобных літаратурах[20], яна палічыла сваім абавязкам забяспечыць яго гісторыка-філалагічным апаратам, які надаў бы яму, прынамсі часткова, гістарычнае ці культурна-гістарычнае і тэкстуальна-літаратурнае вымярэнне.

Працу Кіпель вельмі хвалілі на прэзентацыі польска-беларускага выдання з факсіміле беларускага "Трышчана", якую правёў у снежні 2006 г. Марыюш Машкевіч. Кніга выйшла з друку ў студзені 2007 г. пад назвай "Białoruski Tristan / Belaruski Tryščan"[21]. Сапраўды, выданне, прэзентаванае Машкевічам, заўсёды падае прачытанні Кіпель і ў большасці іх прымае, хоць часта не адмаўляецца прапаноўваць новыя прачытанні ці інтэграцыі лакун, перадусім для першых, моцна пашкоджаных, аркушаў рукапісу. Машкевіч – ініцыятар і спонсар выдання твора, тым часам як Кіпель у пэўным сэнсе муза-натхніцелька, на якую потым пастаянна спасылаецца рэдакцыйная група пры ўзнаўленні тэксту.

Дыпламатычная праца, якую вёў Машкевіч у Беларусі ў 2006 г., калі здавалася, што там пачынаецца моцны еўрапеістычны рух, прывяла яго да думкі выдаць друкам рукапіс XVI–XVII ст. з Познані – куртуазны раман пра Трышчана і Іжоту – як знак прыналежнасці Беларусі да Еўропы, і гэта ў манументальным выданні, якое змяшчае факсіміле рукапісу, так, каб яно магло трапіць ва ўсе

1640–1641; дадаю для шырокага параўнальнага спектра дадзеных пра яго: Sławski F. Słownik etymologiczny języka polskiego. I (A – J). Kraków, 1952–1956. S. 485–486). Гл. слова *jadro*.

[20] На тытульнай старонцы чытаем (пасля "The Byelorussian Tristan", translated by Zora Kipel): Volume 59. Series B. Garland Library of Medieval Literature. New York & London: Garland Publishing, Inc., 1988.

[21] Далей на тытульнай старонцы: "Faksymile rękopisu wraz z analizą filologiczną Alesia Brazgunowa i Nadziei Starowojtowej i ich przekładami na współczesny język białoruski, pod redakcią Mariusza Maszkiewicza". Wrocław: Kolegium Europy Wschodniej im. Nowaka-Jeziorańskiego, 2007.

школы і ўніверсітэты краіны ды надаць "шмат натхнення ў будаўніцтва агульнай і бяспечнай Еўропы"[22]. Я не ведаю, наколькі гэтае высакароднае памкненне дасягнула пастаўленых мэтаў, але з пэўнасцю яно дасягнула таго, чаго не было ў намерах: даць у рукі даследчыкаў, і не толькі беларускіх, каштоўную, бо незаменную, прыладу даследавання – фатаграфічнае, высокай выразнасці, узнаўленне рукапісу, якое дазваляе кожнаму асабіста чытаць яго, правяраючы і нават выпраўляючы прачытанні, публікаваныя раней. Мяркую, што гэта – найбольшы ўнёсак, які зрабіла гэтае выданне і яшчэ будзе рабіць у даследаванні беларускага "Трышчана"[23]. Карыстаючыся гэтым вынікам, а таксама абапіраючыся на яго, мы можам прыступіць да таго, што мелі на думцы, пачынаючы пісаць гэтыя радкі: што рабіць з беларускім "Трышчанам" на грунце славянскім і грунце італьянскім?

Але перш чым падступіцца да гэтага пытання, мяркую, што неабходна сказаць яшчэ штосьці пра іншыя часткі беларускага рукапісу, якія могуць паказаць значэнне і культурную функцыю "Трышчана" ў Беларусі таго часу. Выходзіць за межы сферы раманаў урывак з "Хронікі Літвы і Жамойці" (у рук. на с. 225–291), які ў рукапісе абрываецца на 1548 годзе. Сярод герояў рыцарскіх раманаў, згаданых у загалоўку рукапісу з Познані, Ланцэлот, які належыць да брэтонскага цыкла, не атрымаў літаратурнага працягу ў славянскім свеце. Затое вялізны поспех меў

[22] Пар.: Białoruski Tristan / Belaruski Tryščan, цыт., p. 8.

[23] Змешаны характар выдання, крыху навуковы і крыху палітычны, абумовіў тое, што ў ім не хапае неабходных дадзеных для крытычнага выдання, для якога мы не маем не толькі звестак пра тэкстуальныя варыянты, прынятыя або праігнараваныя ў ТБ і прысутныя ў суадносных тэкстах (перадусім у ТВ і ў RT), але нават бібліяграфічных звестак пра гэтыя тэксты. Напрыклад: адкуль цытуецца тэкст венецкага "Трыстана"? Напэўна, не з тэксту крытычнага выдання, падрыхтаванага Аўлам Данадэла; а значыць, непасрэдна з венскага рукапісу? І адкуль "Roman de Tristan", калі ўзяць пад увагу, што маем у сваім распараджэнні не адно выданне (Curtis, Löseth, Ménard…)? Нягледзячы на гэта, я маю вельмі станоўчае меркаванне пра згаданую працу.

"Бава" (у рук. на с. 129–171), пра якога мы гаварылі, распаўсюджаны ўрэшце ў Расіі як "Volksbuch" [народная кніга] і чытаны праз стагоддзі. Напэўна, будзе дарэчы разам з італьянскім зваротным перакладам беларускага "Трышчана" запланаваць пераклад "Бавы" для карыстання, скажам, не славянскага, а заходняга чытача.

Хачу яшчэ падзяліцца шэрагам назіранняў для "Гісторыі пра Атылу" (у рук. на с. 173–224), якая не з'яўляецца народным раманам і кандыдатам на зваротны пераклад, але ўсё ж важная для высвятлення асяроддзя і культурна-ідэалагічнага прызначэння твораў, змешчаных у рукапісе з Познані. "Гісторыя пра Атылу", ці, як падае загаловак з пазнанскага рукапісу, "Історія о Атылі, королі угорском" – гэта беларускі пераклад польскай версіі лацінскага "Athila", які быў напісаны паміж 1536 і 1537 г.[24] венграм Міклашам Олагам (Miklós Oláh), сакратаром каралевы Марыі, удавы Людвіка II Венгерскага, палеглага ў трагічнай бітве пры Мохачы ў 1526 г. Твор, цалкам легендарны, паказваў Атылу мудрым і магутным уладаром, у якім адлюстроўваліся падфарбаваныя настальгіяй рысы магутнага венгерскага караля Мацьяша Корвіна, які памёр незадоўга да таго. У 1574 г. лацінскае жыццё Атылы было перакладзена палякам Цыпрыянам Базылікам[25], мешчанінам, які быў набілітаваны авантурным князем Якубам Гераклідам Базылікам, прэтэндэнтам на трон Малдавіі. Ад яго Цыпрыян узяў прозвішча Базылік, бо раней зваўся Цыпрыянам з Серадза. Адбывалася ўсё гэта з дапамогай уплывовага літоўскага князя кальвініста Мікалая Радзівіла Чорнага і з ласкі караля Жыгімонта Аўгуста, які з асабістых прычын быў звязаны з Базылікам[26]. Палітычная Літва была этнічна-лінгвістычнай

[24] Сёння можна прачытаць у выданні: Colomannus Eperjessy, Ladislaus Juhás. Hungaria-Athila. Budapest, 1938.

[25] Olahus M. Historia spraw Atyle, króla węgierskiego. Kraków, 1574, dr. M. Wirzbięta.

[26] Поўны агляд біяграфіі і твораў Базыліка змешчаны ў: Nowy Korbut. Bibliografia literatury polskiej. T. 2. Piśmiennictwo Staropolskie. A – M. Warszawa: PIW, 1964. Гл. артыкул: "Bazylik Cyprian". S. 16–19.

Беларуссю, і гэта тлумачыць прысутнасць “Гісторыі” ў беларускім рукапісе. Але разам з тым у ёй прысутнічала таксама мара пра Малдавію, дзеля якой у гэтай краіне нейкі час сядзеў на троне князь-авантурнік. Пра Малдавію Польшча мроіла здавён, бо гэта дазваляла праз яе выйсці да Чорнага мора. У сваім перакладзе беларус па-рабску залежыць ад польскага тэксту “Базыліка” і ідзе за ім слова ў слова, прымаючы тыя ж мадэрнізаваныя назвы лацінскіх тапонімаў і паўтараючы тыя ж памылкі перакладу польскага перакладчыка[27]. Версія “Базыліка” была перакладзена на беларускую мову амаль адразу пасля яе выхаду з друку ў 1574 г.: рукапіс з Познані, у якім змешчаны беларускі пераклад “Гісторыі”, сапраўды адносіцца да 1582 г. Але гэтая беларуская “Гісторыя” заканчваецца тут, як тут закончылася і распаўсюджванне гісторыі беларускага “Трышчана”. З розных прычын ні “Трышчан”, ні “Атыла” не мелі (або больш ужо не мелі) чаго сказаць беларускаму чытачу і абодва паміралі без “нашчадкаў”, у адрозненне, адзначаю гэта апошні раз, ад “Бавы”.

Зноў вяртаюся да ўжо выказанай думкі, што беларускі “Трышчан” можа і павінен быць перакладзены назад на італьянскую мову. Магу прызнацца, што гэта была тая патаемная думка, якая прымусіла мяне апошні раз пісаць пра “Трышчана”: абараніць справу яго (зваротнага) перакладу / (пера)друку на італьянскай мове. Навуковая літаратура па рыцарскім рамане ў прозе, перадусім артурыянская і асабліва трыстанаўская, у нас цяпер у поўным росквіце, з шырокім развіццём сумежнай папулярызатарскай выдавецкай дзейнасці высокага ўзроўню. У часы, калі Грачыёці і Згамбаці пачыналі цікавіцца беларускім “Трышчанам”, Даніэла Бранка пісала ў Падуі, пад кіраваннем Джанфранка Фалена, дыпломную працу “I romanzi italiani di Tristano e la Tavola Ritonda” [“Італьянскія раманы пра Трыстана і Круглы Стол”, 1966],

[27] Пра пераклад “Базыліка” гл.: Graciotti S. L“Athila” di Miklós Oláh fra la tradizione italiana e le filiazioni slave // Venezia e l’Ungheria nel Rinascimento / A cura di Vittore Branca. Firenze: Olschki, 1973. P. 306–312.

якая праз два гады выйшла з друку ў выдавецтве Лео Ольшкі ў Фларэнцыі. Цяпер калега Даніэла Дэлькорна Бранка, перад тым як пакінуць універсітэт (лістапад 2014 г.), падрыхтавала крытычнае выданне "Бавы з Антоны" "Buovo d'Antona, Cantari in ottava rima (1490)" (Roma, Carocci, 2008). У ім кампетэнтна і з уласцівай для яе элегантнасцю Бранка зноў прапануе нам з усімі неабходнымі папраўкамі выданне "Бавы" 1480 г. падана-венецкай традыцыі[28]. Але паміж тым першым і гэтым апошнім этапам Даніэла Бранка працягвала даследаваць артурыянскі матэрыял, старанна аналізуючы і інтэрпрэтуючы яго, з новымі ўнёскамі ў яго спазнанне[29]. Гэта прыклад, блізкі мне, праз адносіны, якія звязвалі мяне з Віторэ Бранка, з усяго таго, што на гэтую тэму можна было б яшчэ сказаць.

Дык што ж рабіць з беларускім "Трышчанам"? Гэта італьянскі рыцарскі раман, перасаджаны ў замежжа, які прадстаўляе ў дзвюх пачатковых трацінах кароткую, ці лепш сказаць, эпітамаваную рэдакцыю венецкага "Трыстана": кароткую рэдакцыю, якая не захавалася на італьянскай мове. І ёсць яшчэ нешта, што можна сказаць

[28] Выдадзена: Bazaliero de Bazalieri. Bologna, 1480. Але і моўны італа-венецкі каларыт выдання мае важнае значэнне для даследчыка беларускага рукапісу з Познані, які паходзіць з італа-венецкай матрыцы.

[29] Вартыя ўвагі асабліва: Branca D. Sulla tradizione italiana del "Buovo d'Antona" e sui rapporti con la tradizione francese // Quaderni di filologia romanza della Facoltà di Lettere e Filosofia dell'Università di Bologna. 18. 2006. P. 103–116; Ead.: Prospettive per lo studio della "Mort Artu" in Italia // Modi e forme della fruizione della "materia arturiana" nell'Italia dei secc. XIII–XV. Milano: Istituto Lombardo di Scienze e Lettere, 2006. P. 67–83; Ead.: Interpretazione della fine nella tradizione italiana della "Mort Artu" // Mito e storia della tradizione cavalleresca. Spoleto: Centro Italiano di Studi sull'Alto Medioevo, 2006. P. 405–425; Ead.: "Le carte piene di sogni". Introduzione alla Tavola Ritonda padana // Tavola Ritonda. Manoscritto Palatino 556. Roma: Istituto della Enciclopedia Italiana, 2009. P. 3–18; нарэшце, ананатваны агляд гэтых даследаванняў у Італіі: Lecteurs et interprétes des romans arthuriens récentes // Medieval Multilingualism. The Francophone World and their Neighbours. Turnhout: Brepols, 2010. P. 155–186.

пра апошнюю трацiну твора: як і ў астатніх “Трыстанах” у прозе, дзе спалучаюцца па-свойму ўсе даступныя рэаліі, але якія спалучаны інакш таксама і ў іншых тэкстах. Існуе англійскі пераклад беларускага “Трышчана” (ТБ), зроблены амерыканскай беларускай Зорай Кіпель, але амерыканскі – іншы свет, у той час як італьянскі пераклад (ці пераклад зваротны) вярнуў бы тэкст дадому, тым больш калі б побач з беларускім тэкстам, перакладзеным назад, парупіліся падаць паралельныя месцы з “Трыстана” венецкага: гэта было б пэўным відам аднаўлення эпітамаванага тэксту ТВ, які на італьянскай мове страчаны. Ці знойдзе мой выступ на абарону зваротнага перакладу водгук? Я спадзяюся на гэта таксама таму, што стаўка ў гульні вартая высілкаў для кожнага, хто б захацеў рызыкнуць і выкласці пробную карту: *quod bonum felix faustum fortunatumque sit*. Але было б найбольшай удачай, калі б побач з “Трышчанам” быў надрукаваны ў італьянскім перакладзе таксама беларускі “Бава”, які часткова атрымаў працяг у рускіх рэдакцыях, але які, разам з тым, адрозніваецца ад іх як мовай, так і зместам.

*Пераклад з італьянскай Алеся Жлуткі*

## On the Studies of Belarusian *Tristan* in Italy

**Sante Graciotti**

The article examines the actual state and the prospects of studying Belarusian *Tristan*, the mediaeval west European chivalric romance in Old Belarusian translation, in Italy and the wider European academic field. The author offers an overview of publications related to Belarusian *Tristan*. His studies, done in collaboration with Emanuela Sgambati, revealed a clear link between Belarusian *Tristan* and its Venetian prototype. He claims that following their research, there was a break in studying this work in Italy.

The author points out how important the Belarusian version is for Slavonic studies as the first-ever proof that secular Belarusian literature was born. It is also important for Romance philology, as its studies reveal the sources and ways of the translation of Romance *Tristan* into Slavic languages. The article identifies Dalmatia as the place of origin of the Slavic versions of *Tristan* and the Venetian prototype as their basis. The author encourages Italian researchers and translators to study Belarusian *Tristan* and translate it, preferably alongside *Beuve (Buovo)*, into Italian. The publication should be accompanied by the corresponding places from Venetian *Tristan*.

# Погляды Мікалая Улашчыка на Люблінскую унію і яе наступствы

**Генадзь Сагановіч**

*Да 110-годдзя з дня нараджэння*
*Мікалая Мікалаевіча Улашчыка (1906–1986)*

Не так даўно ў адмысловым аглядзе тэмы Дарота Міхалюк не без падстаў адзначыла дамінаванне ў беларускай гістарыяграфіі адмоўных ацэнак Люблінскай уніі і звязаны з гэтым негатыўны вобраз Рэчы Паспалітай у свядомасці сярэдняга беларуса[1]. Назіранню даследчыцы наўрад ці можна запярэчыць, хоць яна разгледзела далёка не ўсе рэлевантныя працы. Калі аналізаваць больш шырокі падбор публікацый і ўлічваць грамадска-палітычны кантэкст іх з'яўлення, то ў стаўленні да Люблінскай уніі ў беларускай гістарыяграфіі выявіцца яшчэ большая зменлівасць і разнастайнасць пазіцый. Знойдуцца ў ёй прыклады як свядомых маніпуляцый, так і ўзорна навуковага падыходу да праблемы, прадэманстраванага, у прыватнасці, Мікалаем Улашчыкам. Погляды гэтага даследчыка заслугоўваюць асобнай увагі, але спачатку паспрабуем акрэсліць асноўныя вехі зменаў прэзентацыі названай уніі да з'яўлення прац М. Улашчыка, засяродзіўшыся найперш на творах нацыянальнага майстар-наратыву.

Агульнавядома, што ў першых сінтэзах гісторыі Беларусі уніі 1569 г. даваліся цалкам адмоўныя ацэнкі. Нагадаем, што Вацлаў Ластоўскі бачыў у ёй навязаную палякамі

[1] Michaluk D. Na unię lubelską spojrzenie historiografii białoruskiej XIX–XX w. // Między Zachodem a Wschodem. Studia ku czci prof. J. Staszewskiego. T. II. Toruń, 2003. S. 423–424.

капітуляцыю, калі “Літоўска-Беларуская дзяржава <…> была прымушана здацца”, словам, канец незалежнасці, а ўтвораную Рэч Паспалітую атаесамляў з Польшчай[2]. Для Усевалада Ігнатоўскага тая ж унія была рэалізацыяй імперыялістычных апетытаў Польшчы, якая выкарыстала цяжкае становішча ВКЛ і навязала яму несправядлівае аб’яднанне, што адкрыла браму для польскага ўплыву на Літву і Беларусь[3]. Няма сумненняў, творы класікаў нацыянальнай гістарыяграфіі, папулярныя ў шырокіх колах чытачоў і перавыдадзеныя ў Мінску пасля абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, моцна паўплывалі на вобраз Любліна ў пакаленнях беларусаў. Аднак не сакрэт і тое, што ні В. Ластоўскі, ні У. Ігнатоўскі не займаліся эпохай даўняй Рэчы Паспалітай спецыяльна. Залежачы ад наяўнай на той час літаратуры, яны актуалізавалі тыя вобразы і ацэнкі мінулага, якія – у іх разуменні – маглі б адпавядаць умацаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў і адмежаванню ад традыцый расійскай і польскай[4]. Згадаем, што яшчэ ў XIX ст. ад агульнай з палякамі гісторыі сталі адмяжоўвацца ідэолагі нацыянальных рухаў літоўцаў і ўкраінцаў. Пад уплывам абвастрэння польска-літоўскіх і польска-ўкраінскіх супярэчнасцяў Люблін ператвараўся ў змрочны сімвал гісторыі Літвы (старан-

[2] Власт [Ластоўскі В.]. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910 (рэпрынтнае перавыданне – Мінск, 1993). С. 46, 71. Больш падрабязна пра вобраз даўняй Рэчы Паспалітай і Польшчы ў публікацыі В. Ластоўскага гл.: Radzik R. Wizja Polski i Rosji w “Krótkiej historii Białorusi” Wacława Łastowskiego // ён жа. Kim są Białorusini. Toruń, 2002. S. 30–40.

[3] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. Мінск, 1992. С. 114–115. Падрабязней гл.: Michaluk D. Na unię lubelską spojrzenie historiografii białoruskiej. S. 417–418.

[4] На гэтую акалічнасць у свой час слушна звярнуў увагу Адам Мальдзіс. Гл.: Мальдзіс А. Беларускае стаўленне да Люблінскай уніі і інтэграцыйных традыцый на працягу XX ст. // Unia lubelska i tradycje integracyjne w Europie Środkowo-Wschodniej / red. J. Kłoczowski, P. Kras, H. Łaszkiewicz. Lublin, 1999. S. 155–156. Пар.: Sahanowicz H. O unii lubelskiej z perspektywy białoruskiej // Unia lubelska dziedzictwo wielu narodów / red. A. Gil. Lublin, 2010. S. 61, 76–77.

намі Т. Нарбута, С. Даўкантаса, Ё. Басанавічуса)[5], і гэтак жа негатыўна трактавалі яго ў сваёй гісторыі ўкраінцы (В. Антановіч, М. Грушэўскі і інш.)[6]. Так што ў беларускіх гісторыкаў-адраджэнцаў былі гатовыя прыклады блізкіх па лёсе суседзяў[7].

Праўда, яшчэ да рэвалюцыі з'явіліся спецыяльныя навуковыя даследаванні, якія па-новаму ацэньвалі становішча ВКЛ пасля 1569 г. і дазвалялі падважыць даўняе стэрэатыпнае ўяўленне пра інкарпарацыю Літвы ў склад Польшчы. У гэтай сувязі дастаткова згадаць найперш працы расійскага вучонага Івана Лапы і польскага гісторыка Станіслава Кутшэбы. Першы пасля грунтоўнага вывучэння матэрыялаў Люблінскага сойма і ўзаемаадносін ВКЛ з Польскім Каралеўствам у перыяд ад заключанай уніі да смерці Стэфана Баторыя выступіў з падагульненнем, што і пасля 1569 г. "Литва и Польша оставались отдельными единицами с особыми территориями и особыми правами", хоць яны і мелі агульнага караля і сойм[8]. Заключаны дагавор, кампрамісны па сутнасці, у некаторых частках проста не быў выкананы, удакладняў ён, і ў выніку ўтварылася польска-літоўская Рэч Паспалітая як федэрацыя дзвюх дзяржаў, у якой Вялікае Княства Літоўскае заставалася верным сваім традыцыям палітычнай асобнасці[9]. Даследаванне польскага гісторыка права

[5] Падрабязней гл: Krapauskas V. Nationalism and Historiography: the Case of Nineteenth-Century Lithuanian Historicism. New York, 2000.

[6] Пар.: Білоус Н. О. Люблінська унія 1569 р.: історіографічні погляди та інтерпретації // УІЖ. 2010. № 1. С. 67–68.

[7] Варта ўлічваць таксама асабісты жыццёвы вопыт гісторыкаў. У выпадку з левым па перакананнях У. Ігнатоўскім істотна, напрыклад, што ён быў удзельнікам падпольнай барацьбы супраць польскай акупацыі Беларусі ў 1920 г. Падрабязней пра яго ідэйна-палітычныя пазіцыі гл.: Ігнаценка І., Кароль А. Усевалад Ігнатоўскі і яго час. Мінск, 1991. С. 14–21.

[8] Лаппо И. И. Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Опыт исследования политического и общественного строя. Т. 1. С.-Петербург, 1901. С. 85.

[9] Тамсама. С. 225–226.

С. Кутшэбы[10], якое выйшла і ў перакладзе на рускую мову, змяшчала падобны і яшчэ больш адназначны вывад: інкарпарацыі не адбылося, ВКЛ і ў выніку уніі 1569 г. "утрымала… становішча аднолькавай з Польшчай дзяржавы, хоць і ў больш цесных чым раней межах"[11].

Натуральна, спрошчаныя ацэнкі Люблінскай уніі, дадзеныя ёй у цытаваных вышэй дапаможніках, не ўтрымаліся ў публікацыях беларускіх гісторыкаў першай школы нацыянальнай гістарыяграфіі ў 1920-я г. Здаецца, нават У. Ігнатоўскі пераходзіў да большай стрыманасці ў характарыстыцы Рэчы Паспалітай. Хоць ён па-ранейшаму пісаў, што на аснове заключанай уніі "літоўска-беларуская дзяржава страціла сваю палітычную незалежнасць", і наўпрост звязваў з ёй цэлую праграму паланізацыі і заключэнне царкоўнай уніі, якая пасля Любліна, маўляў, проста "павінна была адбыцца", усё ж прызнаваў, што паводле акта 1569 г. ВКЛ "захавала вялікую долю самакіравання з пакінутымі цэнтральнымі ўрадамі, арміяй і заканадаўчымі зборамі"[12]. Больш важнй была пазіцыя аўтарытэтнага Уладзіміра Пічэты, рэктара БДУ, які яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы адмыслова займаўся праблемай уніі. Яшчэ тады ён не лічыў унію 1569 г. інкарпарацыяй земляў ВКЛ у склад польскай дзяржавы. У сваёй ранняй публікацыі гісторык адзначаў, што хоць ВКЛ і страціла частку тэрыторый, яно захавала пэўную аўтаномію. Праўда, у гэтай жа працы даследчык падкрэсліў, што заключаная намаганнямі шляхты парламенцкая унія паклала пачатак новым адносінам паміж Польшчай і ВКЛ, якія "в конце концов повели к полному слиянию обоих государств в одно"[13]. Можна зразумець,

[10] Kutrzeba S. Historia ustroju Polski w zarysie. Lwów, 1905.

[11] Кутшеба С. Очерк истории общественно-государственного строя Польши. С.-Петербург, 1907. С. 92–93.

[12] Игнатовский В., Смолич А. Белоруссия: Территория, население, экономика и важнейшие моменты истории. Минск, 1925. С. 32.

[13] Пичета В. Польско-литовские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Белоруссия и Литва XV–XVI веков (исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития). Москва, 1961. С. 550. Упершыню артыкул быў апублікаваны ў: Сборник статей, посвященных В. О. Ключевскому его учениками, друзьями и почитателями

такім чынам, што да рэвалюцыі У. Пічэта глядзеў на унію як на пачатак паступовага зліцця ВКЛ і Польскай Кароны. Але для нас больш істотная яго пазіцыя ў 1920-я г. Як адзін з айцоў-заснавальнікаў беларускай савецкай гістарыяграфіі, У. Пічэта ў сваіх працах ніяк не акцэнтаваў фатальнасць аб'яднання з Польшчай для Беларусі і Літвы, а характарызаваў унію як кампраміс, гаварыў пра неадназначнасць яе вынікаў, сярод якіх бачыў і пазітыўныя, хоць негатыўных знаходзіў больш. Гісторык выразней адзначаў звязаныя з уніяй змены дзяржаўнага ладу, падкрэсліваючы, што “парлямэнтарная вунія 1569 г. устанаўлівала дыктатуру шляхецтва”[14].

Найбольш красамоўным прыкладам эвалюцыі поглядаў на сутнасць уніі ў тагачаснай беларускай гістарыяграфіі можна лічыць пазіцыю Васіля Дружчыца, які спачатку мімаходзь характарызаваў уваход у Рэч Паспалітую як “страту палітычнай незалежнасці”[15], а затым, адмыслова заняўшыся праблемай, прысвяціў ёй спецыяльную публікацыю[16] і змяніў трактоўкі. Ацаніўшы працы папярэднікаў, беларускі гісторык паспрабаваў са свайго боку высветліць пытанне на падставе аналізу нормаў III Статута ВКЛ і соймавых канстытуцый. Яго высновы аказаліся блізкімі да вынікаў цытаваных вышэй І. Лапы і С. Кутшэбы: пасля уніі літоўска-беларуская дзяржава захавала асноўныя атрыбуты дзяржаўнай самастойнасці, – сцвердзіў В. Дружчыц, а лад Рэчы Паспалітай ахарактарызаваў як “дуалізм на федэрацыйных асновах”[17]. Пазней, палемізуючы з украінскім эміграцыйным гісторыкам Р. Лашчанкам, які ў сваёй працы даводзіў, што Статут ВКЛ быў помнікам нібыта чыста

ко дню тридцатилетия профессорской деятельности в Московском университете. Москва, 1909.

14 Пічэта У. Гісторыя Беларусі. Ч. 1. Масква – Ленінград, 1924. С. 131–132.

15 Дружчыц В. Галоўныя моманты гісторыі беларускага народу // Беларусь. Нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху / пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча і У. Ігнатоўскага. Менск, 1924. С. 15–17.

16 Дружчыц В. Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі // Працы БДУ. 1925. № 6-7. С. 216–251.

17 Тамсама. С. 150–151.

ўкраінскага права і ўкраінскае мовы, беларускі даследчык зноў падкрэсліў рознае становішча Беларусі і Украіны пасля 1569 г.: калі ўкраінскія землі "былі проста далучаны да Польшчы", то ВКЛ увайшло ў склад Рэчы Паспалітай "на федэратыўных умовах, як роўны з роўным", "захавала сваю дзяржаўную незалежнасць"[18]. І такія трактоўкі тады можна было спаткаць у беларускіх працах не толькі цытаваных аўтараў.

Хоць пераход да сцвярджэння негатыўнага вобраза Рэчы Паспалітай пачаўся ўжо ў сярэдзіне 1930-х г., калі галоўныя прадстаўнікі гістарычнай школы, якія спрабавалі "даказаць, што Беларусь па характару сваёй эканомікі, культуры і мовы бліжэй за ўсё стаіць да Польшчы, Нямеччыны, і вельмі далёкая да Расіі"[19], былі ў поўным складзе рэпрэсаваныя, ідэалагічную падставу радыкальна іншага трактавання уніі ў савецкай гістарыяграфіі задала палітычная кан'юнктура 1939 г. Падрыхтоўка паходу Чырвонай арміі на захад мусіла суправаджацца інфармацыйна-прапагандысцкай кампаніяй, у якой задзейнічалі нават аўтарытэт рэабілітаванага на той час У. Пічэты[20]. Пасля вераснёвага паходу і далучэння Заходняй Беларусі да БССР, а Заходняй Украіны да УССР ад гісторыкаў патрабавалася ў папулярных публікацыях сцвярджаць простую схему: што ў выніку Люблінскай уніі беларускія і ўкраінскія землі апынуліся пад прыгнётам чужаземнай польскай улады, а паход 1939 г. прынёс ім вызваленне і канец пакутаў. Літаральна па такой схеме адносіны з Польшчай інтэрпрэтаваў не толькі вядомы прапагандысцкімі штампамі Іосіф Лочмель[21], але і славуты славіст У. Пічэта, які маляваў "яркую карціну векавой эксплуатацыі" палякамі беларускага і ўкраінскага народаў і, адпаведна, "барацьбы

[18] Дружчыц В. Да пытаньня аб мове Літоўскага Статуту // Гістарычна-Археалагічны Зборнік. № 1. Менск, 1927. С. 348.

[19] Шчарбакоў В. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Менск, 1934. С. 14.

[20] Пар.: Шумскі Я. Гісторыя Беларусі ў люстэрку рассакрэчаных дакументаў ЦК УКП(б) / КПСС // БГА. Т. 20 (2013). С. 110, 112, 114.

[21] Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. Москва, 1940. С. 12 і наст.

супраць польскіх паноў ажно да канчатковага вызвалення брацкай Чырвонай Арміяй ад усялякага прыгнёту"[22]. Гэты схематызм пазнаецца і ў рэдагаваных ім акадэмічных "Нарысах па гісторыі Беларусі" (1940), дзе гісторыя пасля 1569 г. аднесена ў раздзел з красамоўнай назвай "Беларусь пад ігам польскіх паноў". Хоць унія аб'яднала дзяржавы "на пачатках роўнапраўя", яна мела "цяжкія вынікі для беларускага народа", бо "ўзмацнілася пранікненне польска-каталіцкага ўплыву", пачаўся "перыяд жудаснага гнёту з боку панска-шляхецкай Польшчы"[23].

Трэба ўсё ж аддаць належнае пазіцыі вучонага: не шкадуючы чорных фарбаў для наступстваў уніі з Польшчай, якая, маўляў, несла прыгнёт і паланізацыю, даследчык і тады яшчэ сцвярджаў, што сам акт 1569 г. прадугледжваў стварэнне федэратыўнай Рэчы Паспалітай, а не ўнітарнай, і не касаваў дзяржаўнасці ВКЛ, якое "як асобнае дзяржаўнае ўтварэнне працягвала існаваць", прычым, падкрэсліваў ён, "у дзяржаўна-прававых адносінах Вялікае Княства Літоўскае займала ў складзе Рэчы Паспалітай аднолькавае становішча з Польшчай"[24].

Пасля перамогі над нацысцкай Нямеччынай у СССР ствараласся новая гісторыя, адным з прынцыпаў якой было патрабаванне паказваць гістарычную заканамернасць "адзінства і дружбы савецкіх народаў" і прагрэсіўную ролю рускага народа як "объединителя национальностей". У рэчышчы масквацэнтрычнай канцэпцыі пад кантролем партыі распрацоўваліся новыя версіі гісторыі савецкіх рэспублік. Для напісання гісторыі Беларусі па распараджэнні ЦК КП(б)Б былі выдадзены спецыяльныя

[22] Пичета В. Исторические судьбы Западной Украины и Западной Белоруссии. Москва, 1939. С. 13, 40; ён жа. Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. Москва, 1940. С. 2, 29, 34.

[23] Нарысы па гісторыі Беларусі / АН БССР, Інстытут гісторыі. Ч. 1. Мінск, 1940. С. 72.

[24] Пичета В. Польша на путях колонизации Украины и Белоруссии (Люблинская уния и ее политические последствия) // Исторические записки. Т. 7. Москва, 1940. С. 67. Пар.: ён жа. Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии. С. 29.

"Тэзісы па асноўных пытаннях гісторыі БССР", якія сталі ідэалагічнай асновай асвятлення мінулага. Каб узалежніць Беларусь ад Расіі, неабходна было аддзяліць яе мінулае ад Літвы і асабліва Польшчы, таму ўвесь перыяд XIV–XVIII ст. у "Тэзісах" назвалі тым "змрочным часам", калі Беларусь знаходзілася "пад уладай літоўскіх і польскіх захопнікаў". Этапам іх захопніцкай палітыкі быў і люблінскі акт 1569 г., у выніку якога Беларусь "была ўключана ў склад польскай Рэчы Паспалітай"[25].

Прыкладна так было прэзентавана стварэнне Рэчы Паспалітай і ў першай акадэмічнай "Гісторыі Беларускай ССР" – у кантэксце ўзмацнення сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага ўціску беларусаў і ўзрастання іх "барацьбы за ўз'яднанне з Расіяй". Пра захаванне нейкай аўтаноміі ВКЛ (асобных законаў, войска і скарбу) усё ж згадвалася, але ў новай дзяржаве ўжо ўсё мелася вызначаць Польшча, так што ў выніку уніі на беларускіх землях "пачалі гаспадарыць таксама і польскія паны", а беларускія і літоўскія феадалы былі вымушаны падтрымліваць іх палітыку, таму з прыгнётам, маўляў, пашыралася каталіцтва і польская мова, узмацнялася барацьба супраць народных мас Беларусі, якія з надзеяй глядзелі на Маскву[26]. Па узорах, зададзеных акадэмічнай гісторыяй[27], уніі ВКЛ з Польшчай інтэрпрэтаваліся і ў падручніках па гісторыі БССР для сярэдняй[28] і вышэйшай[29] школы.

[25] Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР. Ч. 1 // Большэвік Беларусі. 1948. № 8. С. 45.

[26] История Белорусской ССР: в 2 т. Т. 1 / под ред. В. Перцева, К. Шабуни и Л. Абецедарского. Минск, 1954. С. 88–89, 116–117. Пар. беларускамоўную версію таго ж тома: Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мінск, 1955. С. 113–114.

[27] Падрабязней пра ідэалагічныя кампаненты акадэмічнай канцэпцыі гісторыі Беларусі гл.: Сагановіч Г. Канструяванне афіцыйнага выкладу гісторыі ў пасляваеннай БССР // Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў. Т. 1. Warszawa, 2105. С. 201–214.

[28] Абецадарскі Л., Баранава М., Паўлава Н. Гісторыя БССР / вучэб. дапам. для вучняў сярэдняй школы. 13-е выд. Мінск, 1974. С. 42–47. Школьная версія Люблінскай уніі шчыльней звязвала яе з нібыта нарастальнай барацьбой беларускага народа за "ўз'яднанне з Расіяй".

[29] История БССР: учебное пособие для вузов / под ред. В. В. Чепко,

І вось у той самы час, калі прэзентацыя Люблінскай уніі як этапу экспансіі і пашырэння польскай каталіцкай улады на праваслаўныя беларускі і ўкраінскі народы стала адным з падставовых кампанентаў адзінай савецкай канцэпцыі гісторыі, у самой Маскве яшчэ амаль нікому невядомы гісторык адважыўся выступіць з адрозным поглядам на сутнасць уніі і яе наступствы. Гэтым гісторыкам быў Мікалай Улашчык. Як вядома, сярод яго апублікаваных прац няма такіх, якія былі б адмыслова прысвечаны люблінскай тэме, але вучоны паспеў сур'ёзна пазаймацца названай праблемай. У асабістым архіве даследчыка захаваўся машынапісны нарыс "К вопросу о характере и последствиях Люблинской унии"[30], напісаны, як вынікае з пазнакі, у 1950 г., калі ён ужо абараніў кандыдацкую дысертацыю і працаваў на кафедры гісторыі заходніх і паўднёвых славян МДУ – акурат перад чацвёртым арыштам і высылкай[31]. Гісторык прысвяціў працу пытанням, якія лічыў актуальнымі, бо яны, як адзначана ва ўступе да нарыса, абмяркоўваюцца "да нашых дзён": ці захавалася ВКЛ пасля 1569 г., ці стала яно "звычайнай правінцыяй Польшчы" і ці ідэнтычныя паняцці "Рэч Паспалітая" і "Польшча". Меркаванне пра інкарпарацыю ВКЛ і яго правінцыйны статус асабліва пашырылася, паколькі "такія погляды цягам стагоддзяў прапагандаваліся польскай нацыяналістычнай гістарыяграфіяй і публіцыстыкай"[32].

Для высвятлення першага пытання даследчык выкарыстаў галоўныя апублікаваныя крыніцы – дзённік

А. П. Игнатенко. Ч. 1: С древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции. Минск, 1981. С. 96–98.

[30] Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў (далей – ЦНБ НАН Беларусі, АРКР). Ф. 44. Воп. 1. № 166. С. 69–117.

[31] Біяграфічныя звесткі гл.: Каўка А. "Мне сняцца сны аб Беларусі…" // Мікалай Мікалаевіч Улашчык: бібліяграфічны паказальнік / склад. В. У. Склалабан і інш. 2-е выд. Мінск, 2006. С. 8.

[32] ЦНБ НАН Беларусі, АРКР. Ф. 44. Воп. 1. № 166. С. 69–70.

Люблінскага сойма[33] і акты уніі[34], абапёршыся таксама на падставовыя даследаванні: ужо цытаваныя працы І. Лапы, С. Кутшэбы, свайго майстра У. Пічэты і інш.

Апісаўшы інкарпарацыйны праект уніі польскага боку і супрацьпастаўленыя яму прапановы магнатаў ВКЛ, якія адстойвалі федэратыўную дзяржаву на роўных прававых умовах, М. Улашчык паказаў, што прыняты ўрэшце праект уніі "меў характар кампрамісу паміж першапачатковымі праектамі Польшчы і Вялікага княства". У ім былі пункты, якія азначалі "поўнае зліццё дзвюх дзяржаў у адну Рэч Паспалітую", але акт не агаворваў шэрагу палажэнняў і не касаваў яго ўнутранага кіравання, "дзякуючы чаму княства працягвала існаваць у якасці саюзнай з Польшчай дзяржавы і пасля уніі, да канца існавання Рэчы Паспалітай"[35]. І хоць ВКЛ саступала Польшчы, прызнаваў гісторык, і ў гэтым сэнсе было другарадным членам Рэчы Паспалітай, яно засталося асобнай дзяржавай. Больш за тое, аргументаваў далей аўтар: "Калі б у нас не мелася ніякіх іншых дакументаў, апрача акта уніі 1791 г., то і яго было б дастаткова для доказу, што Люблінская унія не злівала Польшчу і княства ў адну дзяржаву, а толькі аб'ядноўвала іх"[36].

Як бачым, М. Улашчык не прымаў сцвярджэння свайго настаўніка У. Пічэты пра "поўнае зліццё" ВКЛ і Кароны ў выніку прыняцця Канстытуцыі 1791 г.: "гэта не зусім так", – удакладняў даследчык, бо Вільня захавала асобных міністраў, асобны скарб і скарбовы суд, асобную армію, "і наогул Княства як саюзная з Польшчай дзяржава існавала да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай"[37].

[33] Дневник Люблинского сейма 1569 г. Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским / [переведен на русский язык и приготовлен к изданию М. О. Кояловичем]. С.-Петербург, 1869.

[34] Kutrzeba S., Semkowicz W. (wyd.) Akta unji Polski z Litwą, 1385–1791. Kraków, 1932.

[35] ЦНБ НАН Беларусі, АРКР. Ф. 44. Воп. 1. № 166. С. 79–80.

[36] Тамсама. С. 81–82.

[37] Тамсама. С. 85, 116.

Перайшоўшы да апісання Рэчы Паспалітай, створанай на моцы падпісанага акта, даследчык паўтарыў шэраг тэзісаў, пашыраных тады ў мэйнстрыме савецкай гістарыяграфіі (пра ўсебаковы рэгрэс Рэчы Паспалітай ужо з XVII ст., пра больш цесныя сувязі Беларусі з Расіяй, чым з Польшчай, пра імкненне народа да Расіі)[38], многія з якіх, дарэчы, пазней сам жа і абвяргаў (гл. яго публікацыі ўжо з пачатку 1960-х г.[39]).

Асобную ўвагу М. Улашчык аддаў росту польскіх уплываў як аднаму з самых важных наступстваў Люблінскай уніі. Гаворачы пра паланізацыю, гісторык палічыў істотным удакладніць: працэс пачаўся да 1569 г., а пасля падпісанай уніі толькі ўзмацніўся. У XVII–XVIII ст. ён ахапіў нават дробную шляхту, вярхушку мяшчанства і ўніяцкае духавенства, і так – да паўстання 1863–64, г. зн. паланізацыя доўжылася каля 300 гадоў, але поўнай паланізацыі беларускага народа не адбылося[40].

Далей М. Улашчык паспрабаваў высветліць, якія ж былі сапраўдныя поспехі паланізацыі на землях Беларусі. Для гэтага важна ўлічваць, што ў многія тэрміны ў тыя часы "ўкладваўся не заўсёды той змест, які мы ўкладваем цяпер", – зазначыў ён. Як Літвой часцей называлі ўсё ВКЛ, так Польшчай звычайна называлі не толькі ўласна Польшчу, але і ўсю Рэч Паспалітую, а палякамі маглі акрэсліць усіх яе жыхароў – "незалежна ад іх мовы". Шляхціча Падзвінскай Беларусі маглі называць "беларусам" (як жыхара паўночна-заходняй часткі княства), "ліцвінам" (як жыхара Вялікага Княства ў цэлым) ці

[38] Тамсама. С. 103.

[39] Асабліва ясна адыход ад тэзіса аб XVII–XVIII ст. як перыядзе суцэльнага заняпаду гаспадаркі Рэчы Паспалітай быў артыкуляваны ў рэцэнзіях М. Улашчыка на працы Д. Пахілевіча. Гл.: Похилевич Д. Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVII вв. Львов, 1957 (рэц.: Вопросы истории. 1960. № 3. С. 175–180); ён жа. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966 (рэц.: История СССР. 1967. № 4. С. 150–153). Спіс апублікаваных рэцэнзій гл.: Мікалай Мікалаевіч Улашчык: бібліяграфічны паказальнік / склад. В. У. Склалабан і інш. 2-е выд. Мінск, 2006. С. 17–29.

[40] ЦНБ НАН Беларусі, АРКР. Ф. 44. Воп. 1. № 166. С. 105.

"палякам" (як жыхара Рэчы Паспалітай). Гэтаксама шляхціч Жамойці мог называцца жамойтам, ліцвінам і палякам, незалежна ад таго, ці валодае ён польскай мовай, ці не. Словам, "палякам у XVII–XVIII ст. мог называцца чалавек, які не толькі не ўмеў гаварыць па-польску, але і не прызнаваў сябе палякам, – проста ў сілу таго, што ён быў жыхаром Рэчы Паспалітай"[41].

Вяртаючыся да паланізацыі Літвы і Беларусі, даследчык адзначаў, што яе ступень, вядома ж, нельга прымяншваць, "аднак яна была значна меншай, чым гэта звычайна паказваецца". Галоўнае – паланізацыя амаль не закранула асноўную масу беларускага насельніцтва. Але нават шляхта, якая лічыла сябе палякамі і карысталася польскай мовай, "жывучы сярод беларускага і літоўскага насельніцтва, няўжо яна не ведала іх мовы?", – рытарычна пытаўся ён і сам жа адказваў: "Трэба думаць, што шляхта, за выняткам вярхушкі… умела гаварыць на той мове, на якой размаўлялі яе сяляне"[42].

Не абмінуў даследчык і пытанне афіцыйнай пісьмовай мовы ў дзяржаве. Лічылася, што пасля вядомай пастановы 1697 г., якая азначала "афіцыйную замену ў справаводстве Вялікага Княства беларускай мовы польскай", беларуская мова ўжо не выкарыстоўвалася і ў XVIII ст. справаводства вялося толькі на польскай. "Гэта праўда толькі часткова. Магілёўскі магістрат вёў свае кнігі на беларускай мове яшчэ і ў 1711 г., а многія гаспадарчыя дакументы ў Усходняй Беларусі амаль да канца XVIII ст. пісаліся польскім шрыфтам на змяшанай беларуска-польскай мове"[43], – удакладняў даследчык.

Яшчэ адным наступствам уніі лічылася пашырэнне польскага землеўладання ў ВКЛ. У гэтай сувязі М. Улашчык скрытыкаваў не толькі сцвярджэнні І. Лочмеля, але і пазіцыю Н. Каменскай, якая напісала, быццам пасля 1569 г. "уся зямля Літоўска-Беларускай дзяржавы пасту-

[41] Тамсама. С. 106, 109.
[42] Тамсама. С. 109.
[43] Тамсама. С. 110.

пова стала ўласнасцю польскай шляхты"[44]. "Уяўленні, што ў Беларусі ўсе зямлі былі захопленыя польскай шляхтай, склалася толькі таму, што беларускія шляхцічы пачынаючы з XVII ст. сталі масава называць сябе палякамі"[45]. Аднак трэба ўлічваць, што феадалы беларускіх родаў (Сапегі, Агінскія, Лукамскія), як і літоўскіх (Радзівілы), валодалі землямі ў Беларусі задоўга да уніі. І хоць у XVII–XVIII ст. па мове, строю і звычаях гэта былі ў пераважнай большасці "палякі", яны ж "ніадкуль не прыйшлі, не заваявалі краіну", а паходзілі з мясцовай шляхты. "Палякі-землеўладальнікі былі і ў Беларусі, і ў Літве, але іх удзельная вага была нязначнай"[46], – заключаў гісторык.

Падагульняючы свае назіранні, М. Улашчык яшчэ раз падкрэсліў, што Рэч Паспалітая "была дзяржавай федэратыўнай, якая складалася з каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага, у якім абедзве часткі дзяржавы займалі аднолькавае дзяржаўна-прававое становішча". Пры гэтым паняцце "Рэч Паспалітая" зусім не ідэнтычнае паняццю "Польшча", паколькі Польшча была толькі часткай Рэчы Паспалітай. "Беларусь і Літва ў XVI–XVIII ст. не ўваходзілі ў склад Польшчы", – вырашыў спецыяльна падкрэсліць даследчык[47].

Нарыс М. Улашчыка пра Люблінскую унію не выйшаў друкам. Здаецца, гістарычная праца з падобнымі поглядамі ў тыя гады проста не мела шансаў на публікацыю. Але пазней прыкладна такое ж разуменне сутнасці названай уніі і яе наступстваў гісторык выказаў у шматлікіх артыкулах, рэцэнзіях, водгуках, публічных выступах па тэме гісторыі Беларусі. Ён прынцыпова адмаўляў некалькі пазіцый: па-першае, тэзіс пра інкарпарацыю ВКЛ і ператварэнне яго ў правінцыю Польшчы, па-другое, што вынікам уніі стала дамінаванне палякаў у Беларусі, татальная паланізацыя і забарона беларускай мовы. Вось толькі некаторыя прыклады.

[44] Каменская Н. Утварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мінск, 1946. С. 4.

[45] ЦНБ НАН Беларусі, АРКР. Ф. 44. Воп. 1. № 166. С. 111–112.

[46] Тамсама. С. 113.

[47] Тамсама. С. 113.

Адгукаючыся ў 1966 г. крытычнай рэцэнзіяй на чарговае перавыданне школьнага падручніка “Гісторыя БССР” пад рэдакцыяй Л. Абэцэдарскага, патрабавальны даследчык не хаваў абурэння тым, што беларускія гісторыкі працягваюць паўтараць даўняе сцвярджэнне нацыяналістычнай польскай гістарыяграфіі пра ператварэнне ВКЛ у частку Польшчы, абвергнутае яшчэ працамі І. Лапы і У. Пічэты[48]. Пазней, павітаўшы прыхільным водгукам з’яўленне першага спецыяльнага перыёдыка Беларусі, прысвечанага гісторыі, у аглядзе нумароў за першыя тры гады даследчык адзначыў толькі адну “прыкрую памылку” – сцвярджэнне У. Чантурыі, быццам у выніку уніі 1569 г. Беларусь разам з Літвой “уліліся ў склад Польшчы”[49]. Гісторык паўтарыў, што “на самай справе па акце уніі 1569 г. Беларусь і Літва, г. зн. Вялікае Княства Літоўскае, утварылі супольна з Польшчай федэратыўную Рэч Паспалітую, і такі характар гэтая дзяржава захоўвала да самага канца свайго існавання”[50].

Вяртацца да таго ж пытання М. Улашчыку давялося ў рэцэнзіі на адзіны ў савецкім Мінску ўніверсітэцкі падручнік па гісторыі Беларусі[51], які выклікаў мноства крытычных заўваг гісторыка. На сцвярджэнні аўтараў, што заключэнне Люблінскай уніі прывяло да стварэння адной дзяржавы, пакінула Вялікаму Княству толькі “некаторую аўтаномію” і прынесла ў Беларусь “прыгнёт польскіх паноў”, “рэзкае ўзмацненне каталіцкай агрэсіі”[52], ён зноў падкрэсліў, што на справе ўсё выглядала іначай,

[48] Нягледзячы на палітычную адлігу, рэцэнзію не надрукавалі ў 1960-я г., яна выйшла толькі пасля знікнення СССР. Гл: Улащик Н. О фактах истории “плохих” и “хороших” // Народная газета. 1996. 23 лютага. С. 4.

[49] Гл.: Чантурыя У. Гістарычная спадчына беларускага дойлідства і яе асваенне // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970. № 1. С. 26.

[50] Улащик Н. Бюллетень “Памятники истории и культуры Белоруссии” // История СССР. 1974. № 3. С. 222.

[51] История БССР: учебное пособие для вузов / под ред. В. В. Чепко, А. П. Игнатенко. Ч. 1: С древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции. Минск, 1981.

[52] Тамсама. С. 96–97, 98.

а “легенда пра поўную страту Вялікім Княствам сваёй самабытнасці ў выніку уніі была створана ў свой час са зразумелай мэтай польскім нацыяналістычным друкам”[53].

Неаднаразова крытыкуючы сцвярджэнні пра татальную паланізацыю як наступства Люблінскай уніі 1569 г., М. Улашчык указваў на тое, што гэты тэзіс з палітычнымі мэтамі ўводзіўся расійскай царскай гістарыяграфіяй. Метады такой практыкі беларускі вучоны найбольш паказальна разабраў у спецыяльным даследаванні дзейнасці Віленскай археаграфічнай камісіі[54], дзе выявіў палітычную заангажаванасць арганізацыі і тэндэнцыйнасць яе публікацый. Большасць супрацоўнікаў камісіі кіраваліся мэтай даказваць, што Беларусь і Літва былі “искони русским краем”, таму, дэманізуючы палякаў і “лацінства”, тэндэнцыйна пашыралі ідэю пра тое, “што Вялікае Княства ледзь не з першых дзён свайго існавання стала правінцыяй Польшчы”, што шляхта была тут толькі польскай і да т. п., хоць пасля пераходу ў каталіцтва мясцовыя эліты не станавіліся сапраўднымі палякамі. Такія спосабы тлумачэння гісторыі Беларусі і Літвы, што вялі да памылак, якія пераходзілі ў фальсіфікацыю, гісторык не пабаяўся назваць прымітыўнымі[55].

Нагадаем, што да рэвалюцыі падобны погляд на мінулае Беларусі і значэнне Люблінскай уніі панаваў у расійскай гістарычнай думцы і быў тым, вакол чаго гісторыкі клерыкальна-манархічнай плыні і школы заходнерусізму салідарызаваліся нават з прадстаўнікамі ліберальнай гістарыяграфіі. Невыпадкова М. Любаўскі ў сваёй лекцыі па гісторыі Беларусі палічыў вартым падкрэсліць, што пасля

[53] Улащик Н. История с… “Историей” // Нёман. 1983. № 3. С. 169.

[54] Улащик Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. Москва, 1973. С. 64–147.

[55] Улащик Н. Исследования по истории Белоруссии сотрудников Виленской археографической комиссии // Проблемы истории общественного движения и историографии: к 70-летию академика М. В. Нечкиной. Москва, 1971. С. 269–270; ён жа. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. Москва, 1973. С. 129, 134–135.

1569 г. "всё, что было сознательного, развитого и культурного в Белоруссии, стало или становилось польским. Край в значительной степени утратил свой русский характер и приобрел характер польский"[56]. Каментуючы гэтую публікацыю пазней, М. Улашчык запярэчыў: расійскі гісторык "моцна перабольшвае паланізацыю Беларусі", бо яна ахапіла магнатаў, шляхту і часткова мяшчан, але ў асноўнай масе насельніцтва па-ранейшаму "як жывая мова ўтрымлівалася беларуская"[57]. Не раз вяртаўся ён і да дыскусійнага пытання мовы справаводства, змену якой часта таксама звязвалі з уніяй. Хоць пастанова 1697 г., якая абвяшчала, што "ад таго часу ўсе дэкрэты павінны выдавацца на польскай мове"[58], прымалася на прапанову навагрудскай шляхты і ў рамках "каэквацыі праў", у савецкай навучальнай літаратуры Беларусі яна трактавалася як забарона карыстацца беларускай мовай, уведзеная польскім урадам у працэсе асіміляцыі беларускага народа[59]. У цытаванай рэцэнзіі на школьны падручнік даследчык удакладняў, што "закон 1697 г. не забараняў выкарыстанне беларускай мовы, а ўводзіў у заканадаўчым парадку ў справаводства польскую"[60], а ў карэспандэнцыі зноў адзначаў вядомыя выпадкі, калі справаводства вялося па-беларуску яшчэ і ў пачатку XVIII ст.[61].

Да канца жыцця М. Улашчык з незвычайнай настойлівасцю крытыкаваў пашыраны ў беларускай гістарычнай літаратуры погляд на унію 1569 г. як на канец

[56] Любавский М. Основные моменты истории Белоруссии. Москва, 1918. С. 19.
[57] Улащик Н. "История белорусского народа" В. Пичеты и ее роль в изучении истории Белоруссии // История и историки. Исторический ежегодник, 1980. Москва, 1984. С. 180.
[58] "Dekreta wszystkie polskim językiem odtąd mają być wydane…". Цыт. па: Volumina Legum. Przedruk zbioru praw, wyd. J. Ohryzko. T. V. Petersburg, 1859. S. 418.
[59] Як прыклад гл.: История БССР: учебное пособие для вузов / под ред. В. В. Чепко, А. П. Игнатенко. Ч. 1. Минск, 1981. С. 135–136.
[60] Улащик Н. О фактах истории "плохих" и "хороших". С. 4.
[61] Улашчык М. Даць народу гісторыю: успаміны, лісты / уклад. А. Каўкі і М. Скоблы. Мінск, 2016. С. 365.

самастойнасці ВКЛ і пачатак паўсюднай паланізацыі. Вучоны лічыў важным дзе толькі можна паўтараць, што ніякай інкарпарацыі ў сапраўднасці не было, што нават у 1791 г. дзяржавы яшчэ не зліваліся канчаткова ў адну[62], і крытыкаваў погляд, быццам у Беларусі XVI–XVII ст. ужо не засталося сваіх феадалаў, бо іх залічваюць у палякі[63]. Нязменная падпарадкаванасць афіцыйнай гістарыяграфіі БССР састарэлым ідэалагічным штампам, ігнараванне крыніц, перабольшванне паланізацыі і выкрэсліванне неправаслаўных эліт са складу беларускага народа часам проста раздражняла даследчыка – гэта адчуваецца ў некаторых яго лістах, рэцэнзіях і водгуках[64]. Працы па гісторыі Беларусі з такой інтэрпрэтацыйнай схемай ён называў прапагандысцкімі, асвятленнем мінулага ў духу М. Каяловіча, калі праваслаўная вера абвяшчаецца “галоўнай сілай гісторыі”[65].

На жаль, М. Улашчык не заспеў эпахальных перамен – крытыкаваныя ім шаблоны асвятлення айчыннай гісторыі заставаліся даміноўнымі да распаду СССР. Толькі пасля абвяшчэння суверэнітэту Рэспублікі Беларусь дайшло да пераацэнак эпохі ВКЛ і Рэчы Паспалітай у афіцыйным гістарычным дыскурсе[66]. З’явіліся цікавыя канцэптуальныя публікацыі, у якіх падкрэслівалася, што Рэч Паспалітую нельга атаесамляць з Польшчай і што хоць

[62] Улашчык М. Працы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі: з рукапіснай спадчыны / уклад. Я. Кісялева, В. Скалабан. Мінск, 1999. С. 6.

[63] Улашчык М. Працы па археаграфіі… Мінск, 1999. С. 110.

[64] Пар.: Улашчык М. Водгук на артыкул Я. Мараша “Из истории классовой борьбы во владениях католической церкви Белоруссии середины XVII–XVIII в.”// БГА. Т. 3 (1996). С. 55.

[65] Улашчык М. Заўвагі на некаторыя раздзелы рукапісу “Белоруссия в XIII – середине XVI в.”// БГА. Т. 3 (1996). С. 40; ён жа. Заўвагі (вельмі кароткія) на рукапіс “Белоруссия в XIII – середине XVI в.”// БГА. Т. 3 (1996). С. 43; Улашчык М. Даць народу гісторыю. С. 454.

[66] Вектар пераацэнак добра чытаўся ў новай канцэпцыі гісторыі. Гл.: Біч М. Аб нацыянальнай канцэпцыі гісторыі і гістарычнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь // БГЧ. 1993. № 1. С. 15–24.

паланізацыя ў ёй узмацнілася, актыўным праваднікам гэтага працэсу была сама мясцовая шляхта[67]. Паказальна, што акадэмічныя "Нарысы", крытыкаваныя пазней за нацыянальны ўхіл, прапанавалі дастаткова ўзважаную трактоўку Люблінскай уніі, спецыяльна закцэнтаваўшы ўвагу на тым, што яна азначала не паглынанне ВКЛ Польшчай, а ўтварэнне федэрацыі, у якой элітам ВКЛ удалося ўтрымаць незалежнасць[68]. Не ўдаючыся ў спецыяльны агляд, адзначым, што прыкладна такія трактоўкі славутай уніі ўвайшлі ў большасць дапаможнікаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца гісторыкі-даследчыкі[69]. А найбольш яскравай праявай імкнення да перагляду старых ацэнак уніі і месца Рэчы Паспалітай у айчыннай гісторыі сталі публікацыі, аўтары якіх выказваліся пра яе ў нетыповым для беларускай гістарыяграфіі апалагетычным духу[70].

Затое пасля ўсталявання цяперашняга прэзідэнцкага рэжыму з яго прарасійскай палітыкай у афіцыйнай гістарычнай літаратуры з'явілася і процілеглая плынь, у якой загучала састарэлая антызаходняя рыторыка – нібыта ўваскрэс цень самога Каяловіча! У дапаможнік па гісторыі для вышэйшай школы пад рэдакцыяй Я. Новіка і Г. Марцуля, які ствараўся і прэзентаваўся як альтэрнатыва "нацыяналістычным" нарысам, адразу быў умантаваны адназначна негатыўны вобраз Люблінскай уніі. Там зноў

[67] Гл.: Лойка Л., Лойка Т. Сучасны погляд на гісторыю Беларусі // Крыжовы шлях: [Зб. нарысаў]: Дапаможнік для вывучаючых гісторыю Беларусі. Мінск, 1993. С. 18–20. Назва адпаведнага раздзела тут гаварыла сама за сябе: "Рэч Паспалітая – наша ці чужая дзяржава?".

[68] Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. Ч. 1 / М. П. Касцюк, У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў і інш. Мінск, 1994. С. 135, 137.

[69] Як прыклад гл.: История Беларуси. Минск, 1997. С. 61–62; Гісторыя Беларусі. Курс лекцый. Ч. 1. Мінск, 2000. С. 338–342; Снапкоўскі У. Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: вучэб. дапаможнік: у 2 ч. Ч. 1. Мінск, 2003. С. 154–155.

[70] Гл.: Трусаў А. Прыйшоў час збіраць камяні. Да ўгодкаў Люблінскай уніі 1569 г. // Народная газета. 1994. 22–24 кастрычніка. С. 3 (тое ж у: Unia lubelska i tradycje integracyjne w Europie Środkowo-Wschodniej. Lublin, 1999. S. 57–59); Прыбытка Г. Апалогія Рэчы Паспалітай // ARCHE. 2003. № 2. С. 23–33.

загаварылі, што ў выніку заключэння акта 1569 г., які быў "анексіяй, інкарпарацыяй", з палітычнай карты "знікла" ВКЛ. Для аўтараў гэтага дапаможніка Люблін сімвалізаваў "пачатак трагічнай старонкі ў гісторыі Беларусі"[71]. А выданні Я. Трашчанка сваімі ідэямі нагадалі пра тэзісы і метады супрацоўнікаў Віленскай археаграфічнай камісіі: унія для яго стала завяршэннем "працэсу паглынання Польшчай Вялікага Княства Літоўскага"[72], яна ўзмацніла каталіцкую экспансію і паланізацыю, выклікаўшы яшчэ мацнейшае імкненне праваслаўнага народа Беларусі да Масквы. Быццам у спаборніцтве, з яшчэ большым драматызмам прэзентуе акт уніі 1569 г. аднатомны дапаможнік Я. Новіка: яна была "анексіяй, інкарпарацыяй ВКЛ у склад Польскай кароны... пачаткам пагібелі Вялікага Княства Літоўскага", а для самой Беларусі – "пагрозай поўнага акаталічвання і паланізацыі краю, знішчэння беларускай народнасці і яе культуры"[73]. Такая характарыстыка Люблінскай уніі ўжо амаль дваццаць гадоў літара ў літару паўтараецца ў кожным новым выданні названых дапаможнікаў[74], лішні раз выяўляючы прывязанасць яе аўтара(ў) да ідэалагічных догмаў.

[71] Гісторыя Беларусі: у 2 ч.: вучэб. дапам. для студэнтаў вну / пад рэд. Я. К. Новіка і Г. С. Марцуля. Ч.1: Ад старажытных часоў па люты 1917 г. Мінск, 1998. С. 170, 177. Трактоўка засталася нязменнай і ў наступных выданнях двухтомніка. Гл.: Гісторыя Беларусі: у 2 ч.: падручнік для студэнтаў / пад рэд. Я. К. Новіка і Г. С. Марцуля. Ч. 1. Мінск, 2006. С. 177.

[72] Трещенок Я. И. История Беларуси. Ч. 1: Досоветский период. Могилев, 2003. С. 82–83; ён жа. История Беларуси: в 2 ч. Ч. 1: Досоветский период. 2-е изд. Могилев, 2004. С. 136–140.

[73] Новик Е. К., Качалов И. Л., Новик Н. Е. История Беларуси. С древнейших времен до 2008 г. (пособие для студентов). Минск, 2010. С. 110.

[74] Новик Е. К., Качалов И. Л., Новик Н. Е. История Беларуси. С древнейших времен до 2010 г. (пособие для студентов). Изд. 2. Минск, 2011. С. 110 (пар. выд. 4, 2013, с. 114). Праўдападобна, аўтары ўсё ж паддаліся ўплыву навуковай літаратуры ці проста заблыталіся, бо далей палічылі патрэбным адзначыць, што і "пасля падпісання Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае не спыніла свайго існавання" (Новик Е. К., Качалов И. Л., Новик Н. Е. История Беларуси. С. 117).

Лічыцца, што выбар інтэрпрэтацыйных стратэгій і ацэнкі фактаў у многім прадвызначаюцца оптыкай ідэалагічнага светагляду, ці сістэмай каштоўнасцяў. Прасцей кажучы, стаўленне гісторыка да Люблінскай уніі ў многім павінна залежаць ад таго, які майстар-наратыў ён адчувае “сваім” – нацыянальны або імперскі. Аднак жорсткія крытыкі Любліна і Рэчы Паспалітай ёсць і ў лагеры беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, і сярод любімых ёю гісторыкаў. Дастаткова праглядзець публікацыі Язэпа Юхо, Міколы Ермаловіча ці Леаніда Лыча. Першы зацята сцвярджаў, што заключэнне Люблінскай уніі прыкрывала “дзяржаўную здраду вялікага князя”, “рабаўніцтва і насілле польскіх феадалаў”, якія сілай навязалі Вялікаму Княству акт уніі, і нават абвяшчаў яго “несапраўдным”[75]. У М. Ермаловіча і Л. Лыча аб’яднанне 1569 г. падаецца актам падпарадкавання ВКЛ Польшчы, з якім непасрэдна звязваецца паланізацыя, дзяржаўная палітыка асіміляцыі беларусаў у Рэчы Паспалітай і нават забарона беларускай мовы ў 1696/97 г.[76] (тое, з чым так не пагаджаўся М. Улашчык).

Выглядае, што погляды на унію як на інкарпарацыю і пераход пад “уладу польскіх паноў” пашыраюцца – не без уплыву цытаваных выданняў. Да такой думкі можна прыйсці, назіраючы за навучальнай і навукова-папулярнай літаратурай па гісторыі. Вось яскравы прыклад: калі спачатку аўтар абагульняльных нарысаў айчыннай гісторыі Пётр Чыгрынаў у сваіх працах пісаў, што люблінскі акт 1569 г. прадугледжваў федэратыўныя адносіны дзвюх дзяржаў і “не спыняў самастойнага існавання Вялікага Княства Літоўскага”[77], то не так даўно стала

[75] Юхо Я. А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мінск, 1992. С. 134–136.

[76] Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. Мінск, 2000. С. 317, 324, 349; Лыч Л. М. Гісторыя культуры Беларусі ў перыяд Рэчы Паспалітай (1569–1795 гг.). Віцебск, 2006. С. 66–67, 69.

[77] Чигринов П. Г. История Беларуси. Минск, 2001. С. 97. Аналагічнае тлумачэнне юрыдычнага боку справы заставалася і ў

заўважацца пэўная змена яго поглядаў: пасля збольшага ўзважанага апісання Люблінскай уніі ён палічыў неабходным хоць пад зноскай дадаць: “У сённяшні час многія вучоныя (!? – *Г. С.*) лічаць, што Люблінская унія – гэта анексія і інкарпарацыя Вялікага Княства Літоўскага ў Польскае каралеўства”[78]. Вось так. Але дзе тыя “многія вучоныя”, хто яны? – застаецца толькі здагадвацца.

Цяпер можна адно шкадаваць, што з-за катэгарычнага непрыняцця пазіцый М. Улашчыка кіраўніцтвам Інстытута гісторыі не збылася яго мара пераезду ў Мінск для працы ў АН БССР, пра які нямала гаварылася ў карэспандэнцыі вучонага і ўспамінах яго калег[79], і застаецца толькі гадаць, як магла б змяніцца беларуская гістарычная навука і адукацыя з яго ўдзелам[80]. Адно несумненна – навуковы ўзровень беларускай гістарыяграфіі ўжо ў савецкія часы быў бы вышэйшы. І можа цяпер не даходзіла б да вяртання ў навучальную літаратуру стэрэатыпаў падступных суседзяў і рытуальных легенд пра Люблін як “пачатак трагічнай старонкі”, даўно спісаных навукай у архіў гістарыяграфіі.

пазней неаднаразова выдаваным дапаможніку гэтага аўтара, афіцыйна дапушчаным да выкарыстання ў вышэйшай адукацыі. Гл.: Чигринов П. Г. Очерки истории Беларуси. Изд. 3. Минск, 2007. С. 105.

78 Чигринов П. Г. Белорусская история: научно-популярный очерк. Минск, 2010. С. 226.

79 Гл.: Улашчык М. Даць народу гісторыю. С. 429, 439, 455; Грыцкевіч В. Вывучэнне гісторыі Радзімы – галоўнае ў яго жыцці. Да 90-годдзя з дня нараджэння М. М. Улашчыка // БГЧ. 1995. № 4. С. 180; Хорошкевич А. Л. Ответственность историка перед обществом. Пример Н. Н. Улащика // Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX–XXI ст. у Беларусі: зб. навук. артыкулаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння М. М. Улашчыка / адк. рэд. С. М. Ходзін. Мінск, 2008. С. 56.

80 Пар. думкі М. Біча на гэты конт: Слова пра Улашчыка. Згадкі сучаснікаў і паслядоўнікаў // БГА. Т. 3 (1996). С. 131–132.

# The Union of Lublin and Its Consequences as Viewed by Mikalaj Ulaščyk

**Hienadź Sahanovič**

The article analyses an essay on the Union of Lublin, written by Mikalaj Ulaščyk (1906–1986) in Moscow in 1950, but never published. In his manuscript, the Belarusian historian argued that the Grand Duchy of Lithuania had continued to exist as a separate state after 1569. It enjoyed the same status in the Polish-Lithuanian Commonwealth as the Kingdom of Poland, so it would be wrong to equal the Commonwealth to Poland. Belarus had not been as totally Polonised as Polish and Russian imperial historiographies used to claim. While the magnates, the nobility and some of the townspeople were indeed Polonised, it was not the case with commoners. Even the Polonised nobility remembered the language of their peasants.

In the Stalin epoch the Soviet concept of history presented the Union of Lublin as a stage in the subjugation of Belarus and Ukraine by Polish feudal lords, Catholic expansion and forceful Polonisation. For this reason, an essay expressing such views stood no chance of publication. However, Mikalaj Ulaščyk consistently continued to assert his position on the nature of the 1569 Act of Union and its consequences in his articles and numerous reviews as long as he lived.

# Ці была Рэч Паспалітая каланіяльным утварэннем?*

## Геранім Граля

“Д’ябал хаваецца ў дэталях…”
Фрыдрых Ніцшэ

Гэтыя развагі я пачну з апеляцыі не да моднай апошнім часам сярод навукоўцаў практыкі апісваць першую Рэч Паспалітую праз прызму посткаланіяльнай тэорыі, а да падзеі, якая мела шырокі розгалас у польскіх СМІ. Так, 7 кастрычніка 2015 г. папулярная пісьменніца Вольга Такарчук, даючы інтэрв’ю тэлеканалу “TVP Info” (праграма “Пасля восьмай вечара”) з нагоды ўручэння ёй літаратурнай прэміі “Ніке”, зрабіла наступную заяву: “Мы прыдумалі сабе гісторыю Польшчы як талерантнай, адкрытай краіны, краіны, якая ва ўзаемаадносінах са сваімі меншасцямі нічым сябе не запляміла. Тым часам мы рабілі жудасныя рэчы, выступаючы як каланізатары, як нацыянальная большасць, што прыгнятала меншасці, як рабаўладальнікі”. Гэтае інтэрв’ю інспіравала шалёную атаку на пісьменніцу з боку многіх палітычных асяродкаў – асабліва нацыянальна-кансерватыўнага крыла, выклікала хвалю нескончонага флэйму, а таксама прымусіла сяго-таго выступіць з канкрэтнымі захадамі, накіраванымі на пакаранне пісьменніцы, напрыклад заявай аб паз-

* Grala, Hieronim. Rzeczpospolita Szlachecka – twór kolonialny? // DEBATY Artes Liberales. T. X. Pesrspektywy postkolonializmu w Polsce, Polska w perspektywie postkolonialnej. Red. J. Kieniewicz. Warszawa, 2016. S. 275–299. Па-беларуску публікуецца з ласкавай згоды аўтара і рэдакцыі “DEBAT”.

баўленні яе статусу ганаровага грамадзяніна яе роднага горада Нова Руда[1].

[1] Гл.: http://prawicowyinternet.pl/olga-tokarczuk-pupilek-gazety-wyborczej-moze-pluc-na-polske-i-polakow/, http://wyborcza.pl/1,75410,19347868,nowa-polityka-historyczna-wg-pis-zadaja-odebrania-tokarczuk.html; пар.: http://wyborcza.pl/1,75398,19024992,internetowy-lincz-na-oldze-tokarczuk-zabic-pisarke.html. Вядома, сярод крытыкаў Такарчук хапала і ўзважаных, абгрунтаваных выказванняў, з якіх вылучаецца грунтоўны палемічны артыкул Кшыштафа Колера, апублікаваны, праўда, пад красамоўным загалоўкам "Самазваная настаўніца гісторыі"; гл.: http://www.rp.pl/Publicystyka/310119874-Samozwancza-nauczycielka-historii.html#ap-2. Аўтар у вельмі даступнай, але пры гэтым бездакорнай форме прадэманстраваў яўную хібнасць вывадаў пісьменніцы, дапусціўшы, што цытаванае выказванне нарадзілася ў выніку блытаніны двух зусім розных паняццяў – каланіялізму і каланізацыі: «Я здагадваюся, што паслужыла крыніцай натхнення для гэтага выказвання: відаць, гэта праведзеныя аўтаркай даследаванні дакументальнай асновы для свайго рамана, а таксама модны апошнім часам "дыскурс", які прымушае займацца крытыкай ці нават дэканструкцыяй пэўных і, здавалася б, агульнапрынятых поглядаў на гістарычны шлях Польшчы. Мэта такой крытыкі – перагляд месца палякаў у посткаланіяльным прачытанні сучаснай гісторыі. <…> У прамоўленых словах чуваць адгалоскі яшчэ аднаго рамана, які пачынае здабываць папулярнасць. Гэта раман на сацыяльную і… расавую тэматыку. Так, у працах Яна Совы і падобных да яго даследчыкаў усё гучней гаворыцца пра польскую шляхту як клас эксплуататараў, "рабаўладальнікаў", якія будавалі эканоміку Рэчы Паспалітай (вядома ж, адсталую) на жорсткай эксплуатацыі сялянства. <…> Мне здаецца, што Вольга Такарчук гаворыць пра каланіялізм (як гэта бачыць Ян Сова) у кантэксце засялення шляхтай русінскіх земляў пасля Люблінскай уніі 1569 г., а можа, у кантэксце пастановы караля Жыгімонта Аўгуста аб далучэнні Валынскага, Кіеўскага і Брацлаўскага ваяводстваў да Кароны. Не ведаю, пра што яшчэ можна тут думаць? Напэўна ж, не пра планы акупацыі Мадагаскара. <…> Гэтаксама я не разумею, на аснове чаго можна ставіць знак роўнасці паміж каланізацыяй (г. зн. засяленнем) земляў, названых пазней "крэсамі", і каланіяльнымі захопамі афрыканскіх ці амерыканскіх тэрыторый дзяржавамі Еўропы ў XIX ст. Можа, адбылася нейкая блытаніна паняццяў, якая паставіла на адну дошку працэс каланізацыі і каланіялізм? (Падкрэсліванне наша. – *Г. Г.*) Так, шляхта з Кароны сялілася на

У ходзе гарачай палемікі большасць дыскутантаў, аднак, выпусцілі з-пад увагі той відавочны факт, што высновы Такарчук не былі яе асабістай выдумкай ці праекцыяй упарта прыпісваных ёй “антыпольскіх забабонаў”, а грунтаваліся на гістарычных ведах, здабытых, відаць, у час карпатлівай працы над “Якубавымі хронікамі”, а значыць, на поглядах вучоных.

Так, ужо працяглы час пазіцыю, блізкую да агучаных пісьменніцай высноў, што выклікалі такое моцнае абурэнне, займае значная колькасць спецыялістаў у галіне польскіх гуманітарных навук (асабліва актыўна адстойвае яе кракаўскі даследчык Ян Сова[2]). Аналагічная мадэль ахвотна бярэцца на ўзбраенне і ўкраінскай гістарыяграфіяй (гл., напрыклад, публікацыі Яраслава Грыцака), а таксама карыстаецца падтрымкай шанаваных у нас замежных аўтарытэтаў (у прыватнасці, Даніэля Бавуа). Выдатным прыкладам гэтай з’явы можа быць хоць бы інтэрв’ю Я. Грыцака Катажыне Венжык пад красамоўнай назвай “Для нас пекла, для вас рай”. Львоўскі даследчык звяртаецца ў ім да характэрных элементаў посткаланіяльнага дыскурсу, бязлітасна дэканструюючы польскі міф вакол “крэсаў”: «Што датычыць міфа пра “ўсходнія крэсы”, мне найбольш блізкі падыход французскага гісторыка Даніэля Бавуа, якому спадчына Польшчы на “крэсах” нагадвае стаўленне Францыі да краін Магрыба». Вінавацячы польскі бок у непрыхавана жорсткім каланіялізме, гэты даследчык працягвае: “А каланіялізм заўсёды так падбірае словы, каб паказаць, што гэта не захоп, не гвалт, а ўсяго толькі цывілізацыйная місія. <…>

землях Вялікага Княства, але ці можна гэты працэс аднесці да каланіялізму? Варта таксама памятаць, што буйныя роды XVII ст., якія захавалі істотнае значэнне і ў XVIII ст., – Сабескія, Вішнявецкія, Сапегі, Радзівілы, Хадкевічы, Масальскія, Чартарыйскія і многія іншыя, хто мог пахваліцца вялікім багаццем і палітычным уплывам, – паходзілі з земляў, якія сёння любяць называць “каланізаванымі”».

[2] Гл.: Sowa J. Fantomowe ciało króla. Peryferyjne zmagania z nowoczesną formą. Kraków, 2011; Яго ж. Inna Rzeczpospolita jest możliwa! Widma przeszłości, wizje przyszłości. Warszawa, 2015.

Гэта тыповы дыскурс каланізатараў. Гэтаксама пішуць французы пра Алжыр ці брытанцы пра Індыю"[3].

Што ж, паспрабуем спачатку правесці параўнанне з французска-брытанскай аналогіяй. Пры супастаўленні з красамоўным матэрыялам першакрыніц гэтае эфектнае параўнанне выглядае цалкам прыцягнутым за вушы, асабліва ў дачыненні да перыяду даўняй Рэчы Паспалітай. Ужо неаднаразова адзначалася, што само пашырэнне межаў Рэчы Паспалітай на ўсход было пазбаўлена гэтага першароднага граху каланіялізму – заваёўніцтва. Слушна заўважае К. Кёлер: «Вось жа, не ведаю, на якой падставе можна гаварыць аб тым, што было польска-літоўскай уніяй, у катэгорыях каланіялізму. Наколькі мне вядома, гэтая унія была вынікам доўгага і складанага палітычнага працэсу, і мне нічога не вядома (а можа, Такарчук ведае?) ні пра якае ўзброенае ўмяшанне: каронныя войскі не ўвайшлі на тэрыторыю ВКЛ, не адбылося замены адміністрацыі або валюты, не былі навязаны намеснікі і г. д. Проста была заключана унія. <…> Мабыць, я памыляюся, бо не надта добра вучыўся, але ж у гістарычных кнігах і крыніцах я прачытаў, што за унію з Рэччу Паспалітай актыўна выступала русінская шляхта, г. зн. частка шляхты ВКЛ, якая бачыла ў ёй шанец увайсці ў прававую арбіту

[3] http://wyborcza.pl/magazyn/1,147225,18418145,kresy-dla-nas-pieklo-dla-was-raj-rozmowa-z-jaroslawem.html; пар.: Beauvois D. Trójkąt ukraiński. Szlachta, carat i lud na Wołyniu, Podolu i Kijowszczyźnie 1793–1914. Lublin, 2005. S. 11; Sowa J. Fantomowe ciało króla. S. 157 nn. Відаць, варта ў гэтым кантэксце прыгадаць яшчэ адно выказванне французскага гісторыка, які ў інтэрв'ю Яраславу Курскаму, апублікаваным у "Gazecie Wyborczej" за 27 студзеня 2006 г., безапеляцыйна заявіў: "…З'ява прыгнёту ўкраінскага насельніцтва польскімі памешчыкамі не падлягае сумненню <…> прыгонная залежнасць русінскіх сялян была блізкая да рабства. Узаемаадносіны паміж дваром і вёскай былі такія ж жорсткія, як на амерыканскіх баваўняных плантацыях, на французскай Марцініцы ці недзе ў Афрыцы. Гэта сапраўды было страшна" (гл.: http://www.archiwum.wyborcza.pl/Archiwum/1,0,4568728,20060128RP-DGW,Demokracji_szlacheckiej_nie_bylo,.html). Інтэрв'ю Бавуа, зрэшты, сустрэла адпор з боку польскіх даследчыкаў, пар.: http://przodek.pl/menu/czytelnia/genealogia-i-heraldyka/polemika/426-demokracji-szlacheckiej-nie-bylo.

Каралеўства Польскага, то бок вырвацца з-пад моцнай рукі літоўскіх магнатаў і трапіць, як казаў Норман Дэвіс, у "шляхецкі рай"»[4].

Вышэйпрыведзеную выснову можна падмацаваць, указаўшы на значную – і, магчыма, вырашальную пры тагачасным палітычным раскладзе – заслугу русінскай шляхты ў тым, што Люблінская унія 1569 г. насуперак абструкцыі ліцвінаў была падпісана, што, зрэшты, добра пацвярджае вядомы факт склікання валынскай шляхтай пад час бескаралеўя 1572 г. канфедэрацыі для абароны здабыткаў уніі (г. зн. дзеля захавання паўднёвых ваяводстваў у складзе Кароны), часткова ў адказ на рэвізіяністскія памкненні нядаўніх землякоў-ліцвінаў… Дзеля ісціны варта таксама прыгадаць, што сама ідэя перадачы Кіеўскага ваяводства ў склад Кароны была вылучана ў час Люблінскага сойма 1569 г. зусім не палякамі, а прадстаўнікамі русінскай валынскай шляхты[5]!

[4] http://www.rp.pl/Publicystyka/310119874-Samozwancza-nauczycielka-historii.html#ap-2.

[5] Гл.: Grala H., Krawczyk J. Zaprzepaszczone szanse? (Polska i Ukraina między unią lubelską i ugodą hadziacką) // Historia alternatywna. Spotkanie polsko-ukraińskie. Warszawa, 2000. S. 15–17; Mazur K. W stronę integracji z Koroną. Sejmiki Wołynia i Ukrainy w latach 1569–1648. Warszawa, 2006. S. 33–36, 40–41; пар.: Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy. Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588. Warszawa, 2002. S. 105–106. Аргумент Совы, што, паводле даследаванняў Ю. Пяленскага, адной з істотных прычын падтрымкі валынскай шляхтай Люблінскай уніі было жаданне пазбавіцца ад "рэгулярных бандыцкіх наездаў" польскай шляхты з Мазовіі (гл.: Sowa J. Fantomowe ciało króla. S. 320; пар.: Peleński J. Inkorporacja ukraińskich ziem dawnej Rusi do Korony. Ideologia i korzyści – próba nowego spojrzenia // Przegląd Historyczny. T. 65. 1974. Z. 2. S. 248), грунтуецца на неразуменні сутнасці праблемы: незалежна ад складаных пертурбацый паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім вакол прыналежнасці Валыні ў ягелонаўскую эпоху (Сову, відаць, засталіся невядомымі публікацыі А. Галецкага пра выцясненне з Кароннай Русі карэннага русінскага элемента літоўскімі панамі і князямі, якія масава перасяляліся з ВКЛ) нельга забывацца пра цяжкасці ў вырашэнні юрыдычных спрэчак і суседскіх канфліктаў, абумоўленыя дуалізмам прававой сістэмы. Дадамо, што пашыраны ў юрыдычнай практыцы Рэчы Паспалітай інстытут наездаў (як

Упартае прыцягненне французска-брытанскіх аналогій і раздзіманне маштабаў уяўнай экспансіі польскай шляхты на ўкраінскія землі было апошнім часам даведзена калі не да абсурду, дык да маштабаў, якія залежаць толькі ад добрасумленнасці канкрэтнага даследчыка. Так, паводле эфектнай фармулёўкі Совы, гэта была наогул своеасаблівая “польская крэсавая кампанія”[6], якая, калі прыгледзецца бліжэй – ці проста пачытаць крыніцы, – выяўляецца, як ні дзіўна, зусім не польскай! Застаецца пашкадаваць, што цытаваныя даследчыкі пакінулі па-за ўвагай грунтоўныя пярэчанні Стэфана Кяневіча на адрас высноў Бавуа, выказаныя – падкрэслім – яшчэ 30 гадоў таму, але дагэтуль актуальныя: «Карціна польскага жыцця на Украіне <…> не зусім адпавядае рэальнасці. Так, спрошчаным выглядае падзел насельніцтва Украіны на паноў – прышэльцаў з Польшчы – і падданых – мясцовых сялян. Па-першае, русінскае паходжанне мелі не толькі два-тры даўно паланізаваныя княскія роды, але і вялікая колькасць сярэднезаможнай шляхты, пра што сведчаць яўна русінскія прозвішчы яе прадстаўнікоў: Бернатовічы, Букары, Выгоўскія, Галавінскія, Гулевічы, Іваноўскія, Кацюжынскія, Лянкевічы, Маргульцы, Падгарадзенскія,

вядома нам з паэмы Адама Міцкевіча, жывы яшчэ і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай), які асабліва часта прымяняўся на землях Кароннай Русі (гл. манаграфію Уладзіслава Лазінскага “Правам і бяспраўем”), з’яўляецца хутчэй характэрнай праявай тагачаснай прававой культуры, а не інструментам этнічнай экспансіі. Ідучы гэтай аблуднай дарогай, лёгка дайсці да абсурду: калі наезды жыхароў Кароны былі праявай польскай экспаніі, то наезды русінаў павінны трактавацца як доказ існавання русінскай экспансіі, ці не так? (У гэтым кантэксце чым быў вядомы наезд князя Ярэмы Вішнявецкага, амаль чыстага русіна, на Громнае, якое трымаў караняр Аляксандр Казаноўскі, – юрыдычнай спрэчкай паміж прадстаўнікамі адной палітычнай нацыі ці канфліктам этнічнага характару?) Іранічная заўвага Совы, што “прывабнасць польскага палітычнага ладу заключалася ў тым, што ён дазваляў бараніцца ад… палякаў” (Sowa J. Fantomowe ciało króla. S. 321), па сутнасці завісае ў пустаце: няўжо ж у час Люблінскага сойма хітрыя валынцы захацелі абараніць ад мазавецкай экспансіі яшчэ і кіяўлян?!

6 Sowa J. Fantomowe ciało króla. S. 327 nn.

Юрэвічы – пералік можна было б доўжыць дзясяткамі. Калі ўлічыць іх продкаў па жаночай лініі, можна дапусціць, што значная частка крэсавай шляхты магла пачувацца "тутэйшаю" на працягу стагоддзяў. Па-другое, з Польшчы ў XV ст. прыбываў не толькі шляхецкі, але і сялянскі элемент – уцекачы, перасяленцы. Гэтае насельніцтва кампенсавала чалавечыя страты ў краі, спустошаным крымска-татарскімі набегамі. Сляды гэтай міграцыі відаць і ў XIX ст. у выглядзе так званых "мазураў" – яшчэ каталікоў, але ўжо абруселых; куды большая частка каланістаў прынялі ўсходні абрад і зліліся з мясцовым насельніцтвам. Моўны падзел на Украіне далёка не адразу супаў з класавым, а таму цяжка прыраўноўваць (як робіць аўтар на с. 4) тамтэйшыя ўзаемаадносіны да антаганізму паміж французамі і арабамі ў Алжыры»[7].

Сапраўды, цяжка прызнаць аб'ектам і ахвярай каланіяльнай экспансіі тых, каго класік украінскай нацыянальнай гістарыяграфіі Міхайла Грушэўскі трапна назваў "удзельнымі князямі новай эпохі" і чые прадстаўнікі – русінскія князі Астрожскія, Заслаўскія, Збаражскія, Сангушкі, Вішнявецкія і Карэцкія – у 1569–1648 г. займалі ў Сенаце Рэчы Паспалітай аж 21 месца! Дадамо таксама, што іх каланізатарская дзейнасць у выглядзе масавага выкарыстання паслуг хоць і паланізаваных, але чыста русінскіх паводле свайго паходжання кліентаў з Кароннай Русі, гэтых "галіцкіх паноў", нярэдка ацэньваецца як фактар, што фактычна спрыяў кансалідацыі ўкраінскай нацыі – шляхам своеасаблівай "сустрэчы Русі з Руссю" (Н. Якавенка)[8]!

Займаючыся гісторыяй ужо шмат дзесяцігоддзяў, я нязменна трымаюся думкі (якая мяжуе з перакананасцю), што навуковую гіпотэзу можна сфармуляваць і даказаць выключна на аснове праўдзівых дакументальных пасылак:

[7] Пар.: Kieniewicz S. Daniel Beauvois o kresach południowych (w związku z pracą D. Beauvois "Le noble, le serf et le revisor. La noblesse polonaise entre le tsarisme et les masses ukrainiennes (1831–1863)". Paris – Montreaux, 1985) // Przegląd Historyczny. T. 77. 1986. № 4. S. 772.

[8] Jakowenko N. Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII wieku. Lublin, 2000. S. 155–158.

памылковыя дапушчэнні непазбежна вядуць да памылковых вывадаў, у выніку чаго канчатковыя высновы разыходзяцца з праўдай. А таму ацэнім, як выглядае ў супастаўленні з матэрыялам першакрыніц якасць аргументацыі, да якой звяртаюцца прыхільнікі меркавання пра каланіяльны характар першай Рэчы Паспалітай. Пачнем з працы, якая сёння карыстаецца найбольшай папулярнасцю і найшырэй абмяркоўваецца, – “Фантомнага цела караля” Яна Совы. Дык вось: тэорыя сармацкай экспансіі, якая давала польскай шляхце доказы на карысць яе вышэйшасці над іншымі сацыяльнымі групамі і, на думку аўтара, фактычна служыла каланізацыйнай праграмай (262), не была ўнікальнай з’явай у сацыяльным кантэксце эпохі феадалізму – дастаткова прыгадаць упэўненасць літоўскай шляхты ў сваім паходжанні ад старажытных рымлян (“Мы шляхта старая рымская, а палякі – людзі простыя”); у гэтым выпадку, зрэшты, падкрэслівалася вышэйшасць не над прадстаўнікамі “сацыяльных нізоў”, а над “панамі-братамі” з Кароны. Мабыць, такая ўпэўненасць па аналогіі павінна сведчыць пра існаванне асобнага літоўскага каланіялізму, прычым скіраванага… супраць палякаў?

Дэманструючы крытычнае стаўленне да самога паняцця “шляхецкай дэмакратыі” (289–290) і падкрэсліваючы адсутнасць у ёй сацыяльнай інклюзіі, аўтар пакідае па-за сваёй увагай вельмі істотную акалічнасць, а менавіта выключную для тых часоў прадстаўнічасць шляхецкага саслоўя, якое панавала ў Рэчы Паспалітай: яно складала 8–10 % ад ліку насельніцтва і ўключала ў сябе ўсе эліты далучаных правінцый, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання, – феномен, які заслугоўвае глыбокага асэнсавання[9]!

[9] Канстатацыю гэтага факта, досыць агульнапрынятую ў гістарыяграфіі, аўтар паблажліва назваў “догмай”, якая нібыта не ўсімі прымаецца без пярэчанняў, спаслаўшыся на адзінкавую публікацыю Ежы Тапольскага; гл.: Sowa J. Fantomowe ciało króla. S. 297. Цымус у тым, што нават калі зменшыць гэтую ацэнку ўдвая, гэта ўсё роўна не адбярэ ў Рэчы Паспалітай яе выключнай пазіцыі на фоне тагачасных суседзяў, а таксама іншых еўрапейскіх “імперый”!

Пішучы пра “адрыў Украіны ад Літвы і далучэнне яе да Польшчы” (321), аўтар, відаць, не разумее, чаго на самай справе хацела русінская шляхта. Рэч у тым, што ў Вялікім Княстве Літоўскім перад Люблінскай уніяй не толькі баяры, але і князі сутыкаліся са шматлікімі абмежаваннямі – у тым ліку канфесійнымі! – з боку прывілеяваных літоўцаў (прыгадаем скандал, звязаны з прызначэннем у 1522 г. Канстанціна Астрожскага – вядомага сваёй бездакорнай службай князя, легендарнага пераможцы маскоўскага войска ў бітве пад Оршай – на пасаду ваяводы трокскага і наданнем яму першага месца ў Радзе ВКЛ; прадстаўнікі літоўскай эліты абвінавачвалі тады Жыгімонта I у парушэнні пастаноў Гарадзельскага прывілея, паводле якога нельга было надаваць Трокскае і Віленскае ваяводствы ніякаму русіну і схізматыку[10]). Вось чаму ідэя Люблінскай уніі знайшла падтрымку не толькі ў сапраўдных лідараў тагачаснай Русі – князёў Астрожскіх, Чартарыйскіх, Вішнявецкіх і Карэцкіх, – але і ў шырокіх мас мясцовай шляхты!

Асобнага тлумачэння вымагае і наступная фармулёўка: “Займаючы літоўскія ваяводствы і выкарыстоўваючы іх як базу для далейшай экспансіі на ўсход, Рэч Паспалітая дэ-факта бярэ на сябе ролю каланізатара”. І далей: “Новых тэрыторый шукалі не на другім канцы зямлі, а тут, побач. Іх заваёўвалі, здабывалі перакупкай, палітычным торгам ці іншым спосабам уключалі ў арбіту непасрэднай залежнасці ад метрапалітальнага цэнтра (Варшавы або Масквы)” (322). Адзначу, што я не магу знайсці якое-небудзь падабенства паміж, скажам, маскоўскай экспансіяй у Сібіры і каланізацыяй Дзікага Поля. У апошнім выпадку перасяленцы – ці гэта былі казакі, ці магнаты – не зганялі з абжытых земляў карэннага насельніцтва, не падпарадкоўвалі сабе “ясачных людзей”, бо іх там папросту не было! Мала таго, іх перасяленне было карыснае для асноўнага ядра дзяржавы, бо давала магчымасць больш эфектыўна абараняць яе галоўныя цэнтры ад раптоўных

[10] Łapiński A. Zygmunt Stary a kościół prawosławny. Warszawa, 1937. S. 151–156.

набегаў татараў, якія раней бесперашкодна пранікалі праз гэтыя "нічыйныя землі". У сваю чаргу, маскоўская экспансія, з самага пачатку разлічаная на занявольванне мясцовага насельніцтва, якое разглядалася перш за ўсё ў якасці пастаўшчыкоў футра – гэтага "пушнога золата", без якога эканоміка Маскоўскай дзяржавы ў XVI–XVII ст. не магла нармальна функцыянаваць, – досыць моцна нагадвае заваёўванне Дзікага Захаду ў ЗША[11]. Я не магу прыгадаць якіх-небудзь тэрыторый на ўсходзе, якія Рэч Паспалітая далучыла шляхам заваёвы, перакупкі ці палітычнага торгу… Бо тэрытарыяльны прырост дзяржавы ў выніку Дзявулінскага перамір'я (1618) і Палянаўскага міру (1634), хоць і вельмі кароткатрывалы, быў усё-такі не чым іншым, як заканамерным вяртаннем пад свой кантроль земляў, адарваных у ходзе ранейшай маскоўскай экспансіі! Дзе ж тут заваёва? Што ж маецца на ўвазе пад так званай перакупкай, наогул невядома: з аналізу Уладзіслава Гадзішэўскага вынікае хутчэй пэўная схільнасць да незразумелых саступак і беспадстаўнага карэктавання межаў акурат з боку Рэчы Паспалітай[12]. Высвятляецца таксама, што ў выпадку ўкраінскіх земляў нельга ўжыць класічную каланіялісцкую тыпалогію Юргена Остэрхамеля, бо тут мы не бачым ні масавага засялення занятых тэрыторый палякамі ("перасяленчы каланіялізм"), паколькі сярод сялян працягвалі дамінаваць русіны, ні поўнага палітычнага падпарадкавання і эканамічнай эксплуатацыі метраполіяй ("адміністрацыйны каланіялізм"), бо якраз наадварот: хутчэй мясцовыя "некаранаваныя каралі", нярэдка русінскага паходжання, цяпер пачалі аказваць вызначальны ўплыў на лёс дзяржавы[13]!

[11] Пар.: Граля И. Между двух империй: Сибирь в колониальном дискурсе (XVI – начало XX в.). Несколько соображений с польской перспективы // Встреча на Байкале. Время прошлого, вызовы будущего / науч. ред. А. Базаров, Я. Кеневич. Улан-Удэ, 2014. С. 277–281, 299–300.

[12] Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego (wytyczona w latach 1634–1648) // Prace Komisji Atlasu Historycznego Polski. Z. III. Kraków, 1935. S. 1–96.

[13] Пар.: Osterhammel J. Kolonialismus. München, 1995. S. 17–18.

Выкарыстанне кракаўскім даследчыкам тоеснасці “паланізацыя = каланізацыя” (322–327) вымагае бясконцай колькасці ўдакладненняў і паправак: так, намаляваная карціна польска-каталіцкага дамінавання сярод русінскіх эліт пасля Люблінскай уніі (шмат у чым перабольшаная) цалкам абыходзіць дзве надзвычай істотныя з’явы – натуральнае выміранне значнай часткі старых русінскіх эліт, а таксама адыход русінаў ад праваслаўя, прычым нярэдка пад уплывам Рэфармацыі (яскравае сведчанне чаго – знакаміты “Трэнас” Мялеція Сматрыцкага)[14]. У ходзе разважанняў забываецца, напрыклад, немалаважная выснова Генрыка Літвіна, што менавіта паўстанне Хмяльніцкага (а не палітыка Рэчы Паспалітай! – *Г. Г.*) канчаткова прадвызначыла акаталічванне кіеўскай і брацлаўскай шляхты, якая дагэтуль цвёрда трымалася “грэчаскай веры”, – саслоўная салідарнасць пераважыла над канфесійнай[15]. Аўтар таксама прыпісвае планаванне і каардынацыю каланізацыі Украіны нейкім неакрэсленым “цэнтральным уладам Рэчы Паспалітай” (327), ігнаруючы той відавочны факт, што значна большую ролю ў гэтым працэсе, у параўнанні з прадстаўнікамі Велікапольшчы або Куявіі, выконвалі самі русіны: так, прыведзены ім пералік родаў, якія вялі прыватныя зямельныя войны (Вішнявецкія, Астрожскія, Ружынскія, Карэцкія і Тышкевічы), складаецца выключна з магнацкіх фамілій русінскага паходжання!

На палях разважанняў пра тэмпы польскай каланізацыі абгрунтаванае здзіўленне выклікае заўвага пра тое, што ў 1569–1648 г. насельніцтва Чарнігаўшчыны вырасла ў 200–300 разоў (sic! – с. 326): па-першае, гэтыя землі знаходзіліся

[14] Куды больш стрыманыя ў гэтым сэнсе высновы ўкраінскай даследчыцы, да якой так ахвотна апелюе Сова; гл.: Jakowenko N. Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII wieku. S. 180–182.

[15] Litwin H. Katolicyzacja szlachty ruskiej 1569–1648. Stosunki wyznaniowe na Kijowszczyźnie i Bracławszczyźnie // Przegląd Powszechny. 1985. № 10 (770). S. 70. Вычарпальнае апісанне канфесійнай сітуацыі на Кіеўшчыне гл. у: Яго ж. Struktura wyznaniowa szlachty kijowskiej 1569–1648 // Odrodzenie i reformacja w Poslce. T. 48. 2004. S. 199–220.

пад юрысдыкцыяй Рэчы Паспалітай толькі з 1618 г., таму пытанне аб складзе перасяленцаў і самім парадку засялення тэрыторый, "у Масквы забраных", патрабуе вельмі асцярожнага падыходу. Дастаткова прыгадаць хоць бы пашыраную з'яву надання там зямельных уладанняў тым, хто вызначыўся ў барацьбе з Маскоўскай дзяржавай – як прафесійным ваярам, так і расійскім прыхільнікам "цара Уладыслава Жыгімонтавіча", вымушаных пакінуць радзіму, – Солтыкам (Салтыковым), Трубяцкім, Гразновым і інш.[16]. Больш за тое, у святле падрабязных даследаванняў Пятра Кулакоўскага відаць, што каланізацыя Кіеўшчыны і Чарнігаўшчыны адбывалася ў вялізнай ступені сіламі русінскага этнасу – шляхты з Валыні, Рускага і Бельскага ваяводстваў (хоць таксама і з Мазовіі), сялян з Луцкага павета, Падольскага ваяводства, Мазырскага павета, Менскага і Наваградскага ваяводстваў, – што, зрэшты, абгрунтоўвае ўжыванне ўкраінскім вучоным Міколам Крыкуном паняцця "exodus maximus" для апісання гэтага працэсу, які характарызаваўся маштабным перасяленнем на ўсход акурат русінскага элемента[17]. Для параўнання – сапраўдны поспех польскага этнасу ў выцясненні карэннага русінскага насельніцтва меў месца на зусім іншай тэрыторыі і значна бліжэй да Кракава і Варшавы: гаворка тут ідзе, вядома ж, пра Бельскую зямлю, якую, аднак, даволі цяжка аднесці да "крэсаў"[18].

Выклікаюць сумненні і іншыя аргументы Совы: прыведзены ім пералік маёнткаў (328–329) перараканаўча

[16] Выглядае, што аўтар, які ахвотна спасылаецца на выбраныя працы Пятра Кулакоўскага, зусім выпусціў з-пад увагі фундаментальную манаграфію ўкраінскага даследчыка, у якой дэталёва апісваюцца міграцыйныя і каланізацыйныя з'явы ў вышэйпамянёным рэгіёне; гл.: Кулаковський П. Чернігово-Сіверщина у складі Речі Посполитої (1618–1648). Київ, 2006.

[17] Kułakowśkyj P. Kolonizacja Kijowszczyzny i Czernihowszczyzny (1569–1648) // Modernizacja struktur władzy w warunkach opóźnienia. Europa Środkowa i Wschodnia na przełomie średniowiecza i czasów nowożytnych / red. M. Dygo, S. Gawlas, H. Grala. Warszawa, 1999. S. 164–165, 171–172.

[18] Пар.: Janeczek A. Osadnictwo pogranicza polsko-ruskiego. Województwo bełskie od schyłku XIV do początku XVII w. Wrocław, 1991. S. 120–124.

паказвае, што большасць іх належалі шляхце русінскага паходжання (Збаражскім, Заслаўскім, Чацвярцінскім, Вішнявецкім), чаго не ў стане затушаваць нават забаўная спроба назваць сянкевічаўскага князя Ярэму "літоўскім магнатам" (sic! – с. 328). Відаць, гэта нельга назваць пераканаўчым аргументам на карысць "выцяснення карэннага насельніцтва польскім". Нельга пагадзіцца і з дамінаваннем "польскіх каланізатараў" сярод кіеўскай шляхты: дэталізаваныя даследаванні Генрыка Літвіна паказваюць, што львіную долю соймавага прадстаўніцтва гэтага ваяводства ў 1569–1648 г. складалі прадстаўнікі традыцыйных для гэтай мясцовасці шляхецкіх родаў русінскага паходжання, звязаных моцнымі кліентарнымі сувязямі з ключавымі княскімі фаміліямі[19].

Нарэшце, выснова, што "Рэч Паспалітая, аднак, нават глыбей, чым заходнееўрапейскія імперыі, ублыталася ў каланіялізм" (333), бо "Люблінская унія была каланіяльным актам у прамым значэнні гэтага слова, паколькі дзякуючы ёй Польшча займела новыя тэрыторыі, на якія не мела ніякіх гістарычных правоў", тады як "Літва, інкарпараваная ў фантомнае цела караля, з незалежнага дынастычнага княства ператварылася ў правінцыю" (тамсама), эпатуе не столькі сваім іканаборчым характарам, колькі надзвычайнай недасведчанасцю ў асновах дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Наўрад ці дарэчна паўтараць тут агульнавядомыя звесткі пра тое, што кожная дзяржава захавала сваю асобную судовую сістэму на чале з трыбуналам, армію і скарб, асобную сістэму дзяржаўных пасад і г. д. Куды больш здзіўляе тое, што аўтар не задумваецца хоць бы над такім элементарным пытаннем: якія ж землі гэтай "літоўскай правінцыі" былі каланізаваны хцівымі жыхарамі Кароны і дзе іх варта шукаць (бо, спадзяюся, аўтар не мае тут на ўвазе шаноўных Дабрынскіх з "Пана Тадэвуша", што верна служылі мясцоваму ўрадніку, стольніку Гарэшку – мяркуючы з прозвішча, ліцвіну русінскага паходжання...)? Бо калі

[19] Litwin H. Równi wśród równych. Kijowska reprezentacja sejmowa 1569–1648. Warszawa, 2009. S. 144–152.

без цяжкасці можна знайсці на землях Каралеўства Польскага шматлікія маёнткі Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў, Чартарыйскіх, Агінскіх і г. д., дык прыгадаць у адказ якое-небудзь больш-менш буйное ўладанне жыхара Кароны на землях ВКЛ наўрад ці ўдасца – прычым на працягу ўсяго існавання Рэчы Паспалітай! Нельга забываць і пра разнастайныя абмежаванні, прадугледжаныя ў заканадаўстве ВКЛ супраць “чужаземцаў”[20].

Нарэшце, улюбёны прыклад аўтара і іншых аматараў паразважаць пра “каланіялізм па-польску” – заклікі Паўла Пальчоўскага да пакарэння Маскоўскай дзяржавы, якую ён параўноўваў “з тою Індыяй” (331–332). Цымус у тым, што заявы Пальчоўскага, якія ў значнай ступені тлумачыліся яго асабістым вельмі непрыемным досведам (знаходжанне ў маскоўскім палоне), былі разлічаны на кароткатэрміновы палітычны эфект ва ўмовах досыць складанага становішча ўнутры самой Рэчы Паспалітай: так, адна частка шляхецкага стану ангажавалася ў падтрымку Ілжэдзмітрыя ІІ – круцяля і авантурыста “блізкага прыцэлу”, другія лічылі за лепшае падтрымаць антымаскоўскія ваенныя планы Жыгімонта ІІІ Вазы, а трэція – паслядоўна ім супраціўляліся[21]. Калі ўспомніць пра заканамернае жаданне часткі шляхты адпомсціць за “маскоўскую ютрань” – крывавую расправу з вясельным поездам Марыны Мнішак і здзейсненае пры гэтым знеслаўленне прастолу Рэчы Паспалітай у асобах яе паслоў, – дык хібнасць тэзіса пра каланіялізм як аснову для такіх памкненняў робіцца відавочнай. Больш за тое, нельга забывацца, што і раней (пасольская місія Льва Сапегі ў Маскву ў 1601 г.), і крыху пазней (перагаворы наконт выбрання на царскі трон каралевіча Уладыслава Вазы ў 1610 г.) польскія эліты зусім па-іншаму ўяўлялі сабе нармалізацыю ўзаемаадносін з усходнім суседам: яе зарукай мелася быць своеасаблівая “траістая унія”, як мінімум дынастычная, якая

[20] Пар.: Dąbkowski P. Stanowisko cudzoziemców w prawie litewskim w drugiej połowie XV i w XVI wieku (1447–1588). Lwów, 1912.

[21] Пар.: Maciszewski J. Polska a Moskwa 1603–1618. Opinia i stanowiska szlachty polskiej. Warszawa, 1968. S. 173–177, 185–189.

павінна была палякам (а таксама ліцвінам і русінам!) адкрыць доступ да прастораў Маскοвіі, але пры гэтым не пазбаўляла аналагічных магчымасцяў у Рэчы Паспалітай і яе расійскіх удзельнікаў. Вось жа, прыгадаем адзін з ключавых пунктаў мадэлі экспансіі, прапанаванай Пальчоўскім: “А рэшту зямлі, падзяліўшы яе на розныя часткі і маёнткі, у леннае права раздаць народу не толькі свайму, але і маскоўскаму, дапусціўшы іх да правоў і вольнасцяў нашых”[22]. Пастулат аб пашырэнні шляхецкіх прывілеяў на “чужаземных” падданых, мабыць, не да канца ўпісваецца ў схему каланіяльнай экспансіі.

Відаць, немэтазгодна прыводзіць далейшыя прыклады, тым больш што колькасць недагаворак, скажэнняў, недакладнасцяў і спрашчэнняў[23], заўважаных у параўнальна невялікім фрагменце тэксту, дазваляе з абгрунтаванай асцярожнасцю паставіцца да яго асноўнай ідэі. І гаворка тут зусім не пра абарону “сармацкай Аркадыі”, а пра тое, каб пазбегнуць стварэння ўяўнага старапольскага Мордара… Вось чаму варта пагадзіцца з яшчэ адным крытыкам такой канцэпцыі – Філіпам Бялэкам, які адзначае, што “ў многіх тэкстах, напісаных прыхільнікамі сарматызму, досыць яўна выступае імкненне падкрэсліць сваю вышэйшасць над русінамі, з’яўляюцца матывы пустой Украіны, якая чакае прыходу сапраўдных гаспадароў, ці наогул ідзе гаворка пра цывілізацыйны абавязак

[22] Пар.: Franczak G. Moskwa – polskie Indie Zachodnie. O pewnym mirażu kolonialnym z początku XVII wieku // Nel mondo degli Slavi: Incontri e dialoghi tra culture: Studi in onore di Giovanna Brogi Bercoff. Vol. I. Firenze, 208. P. 155–163; пар.: Яго ж. Wstęp // Paweł Palczowski, Kolęda Moskiewska / oprac. G. Franczak. Warszawa, 2010. S. 24–45.

[23] У такой ацэнцы аўтар, ва ўсякім разе, не адзінокі; гл.: Stobiecki R. Różne oblicza historycznego rewizjonizmu // Sensus Historiae. Vol. XIX. 2015/2. S. 35–36. Асабліва красамоўнае ў гэтым сэнсе меркаванне А. Хвальбы, апублікаванае на вэб-сайце Цэнтральнай камісіі ў справах навуковых ступеняў і тытулаў, які піша пра “сотні фактычных памылак і правакацыйных інтэрпрэтацый”, а таксама вінаваціць Я. Сову ў “перайначванні фактаў і падзей, ці, прасцей кажучы, падтасоўцы іх на патрэбы сваёй працы” (sic! – *Г. Г.* ),

утрымаць гэты рэгіён у межах Рэчы Паспалітай (заўважым, аднак, што вышэйшасць шляхты падкрэслівалася ў дачыненні не толькі да жыхароў Русі, але і да польскіх сялян, мяшчан і нават краін Захаду – сарматы пачуваліся абсалютна выключнымі)”. Апошняя заўвага мае першараднае значэнне для канструяванай Совам апазіцыі Усход – Захад. Не менш прынцыповым, хоць пры гэтым і не пазбаўленым пэўнай злараднасці, выглядае і яшчэ адно пытанне, пастаўленае Бялэкам: “Якім чынам Сову ўдаецца спалучаць выкрыццё каланіяльных памкненняў польскай шляхты і адначасова сцвярджаць, што сапраўдны цэнтр цывілізацыі знаходзіцца на Захадзе? Пры паслядоўным прымяненні посткаланіяльнай тэорыі ідэі пра вышэйшасць Заходняй Еўропы мусілі б таксама зведаць дэканструкцыю. У адваротным выпадку варта было б прызнаць Яна Сову кампрадорам, які спрабуе пераканаць народ (г. зн. палякаў), што ў яго залежным становішчы няма нічога ненатуральнага”[24].

Вернемся нарэшце яшчэ раз да пытання аб тым, наколькі абгрунтавана выкарыстанне вышэйпамянёных алжырска-індыйскіх аналогій. Хібнасць гэтай канструкцыі можна прадэманстраваць досыць прынцыповым пытаннем пра ўдзел дэяў і магараджаў, а ўрэшце і ўсёй – зусім не малалікай! – мясцовай эліты ў створанай каланізатарамі новай грамадскай сістэме, і перш за ўсё – пра іх становішча ў метраполіі. Калі ў выпадку Брытанскай Індыі можна гаварыць пра выкарыстанне навязанага сацыяльнага парадку для прасоўвання па службе імперыі “тут і цяпер”, г. зн. на месцы – у самой Індыі, дык зусім марна будзе шукаць прадстаўнікоў гэтых мясцовых эліт у Палаце лордаў, дый нават у Палаце абшчын. Пашырэнне на Індыю прамога брытанскага праўлення (1877) таксама не прынесла мясцовым элітам шанцаў на паспяховую кар’еру ў маштабах усёй імперыі, не адкрыла іх прадстаўнікам доступу да рангу пэраў. У выпадку французскай Паўночнай Афрыкі падобныя разважанні выглядаюць яшчэ больш

[24] Гл.: http://nowe-peryferie.pl/index.php/2012/11/realne-czyli-polskosc/.

бессэнсоўна. Мясцовыя эліты **ніколі** так і не зрабіліся часткай эліт абедзвюх згаданых каланіяльных імперый – як, зрэшты, гэта было і ў выпадку іспанскіх, партугальскіх або галандскіх калоній. Тым часам у Рэчы Паспалітай мы маем справу з зусім іншым сцэнарыем: незалежна ад вырашэння сакраментальнай спрэчкі пра сутнасць Люблінскай уніі – ці гэта было "аб'яднанне", ці "інкарпарацыя", – літоўцы і русіны сталі важнай складовай часткай гэтай супольнай з Польшчаю дзяржавы, нярэдка пераўзыходзячы магутнасцю і багаццем "польскіх каланізатараў". Па сутнасці, з часоў Крэўскай уніі і аж да падзелаў Рэчы Паспалітай на троне гэтай польска-літоўскай дзяржавы немагчыма сустрэць – за выключэннем Станіслава Ляшчынскага і Яна Сабескага – прадстаўнікоў польскай нацыі: Ягелоны, так ці інакш трывала пародненыя з Рурыкавічамі, дадалі да сваёй літоўска-русінскай крыві яшчэ і габсбургскую, і італьянскую, але не польскую; Вазы – нашчадкі па жаночай лініі літоўска-русінскіх Ягелонаў – не мелі яе наогул; што ж да Міхала Карыбута Вішнявецкага, дык ён па мужчынскай лініі паходзіў акурат з украінскіх эліт! Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, праўда, па мужчынскай лініі меў паходжанне з малапольскай (люблінскай?) шляхты, але сваю кар'еру здзейсніў дзякуючы таму, што яго маці належала да ўсёмагутнай "фаміліі" Чартарыйскіх – русінскіх князёў.

Русіны і літоўцы займалі нярэдка найвышэйшыя дзяржаўныя пасады, рэгулярна дабіваліся гетманскай булавы і канцлерскай пячаткі, мелі больш месцаў у сенаце, чым этнічныя палякі, маглі пахваліцца магутным соймавым прадстаўніцтвам. Зрэшты, сама шматлікасць гэтай "меншасці" выключала яе маргіналізацыю; прыгадаем, што менавіта неспадзяваны рост колькасці шляхецкага стану ў маштабе ўсёй імперыі ў выніку далучэння земляў Рэчы Паспалітай зробіцца пасля 1795 г. сур'ёзнай праблемай для царскай адміністрацыі! А гаворка ж ідзе пра дзяржаву, якая, з увагі хоць бы на наяўнасць шырокай праслойкі ўласнага дваранства і агульную колькасць насельніцтва, здавалася б, не павінна была мець ніякіх праблем з асіміляцыяй масы новых падданых. Дык

ці ж можна знайсці нейкае падабенства паміж становішчам літоўска-русінскай шляхты і сітуацыяй колішніх эліт у каланіяльных уладаннях Англіі і Францыі? Гэта падаецца больш чым сумнеўным, асабліва калі ўлічыць, якую велізарную культурную ролю было наканавана з цягам часу адыграць яе прадстаўнікам: ці ж можна ўявіць сабе сёння польскую культуру без Адама Міцкевіча, Юльюша Славацкага, Станіслава Манюшкі ці Чэслава Мілаша? Пры тым што хапіла іх даробку і для ўзбагачэння культурнай традыцыі іншых народаў – спадчыннікаў Рэчы Паспалітай! Гэтая з’ява, здаецца, не мае прамых аналогій у заходнееўрапейскім каланіялізме. Бо, напрыклад, Рабіндранат Тагор, хоць і быў выхаваны ў віктарыянскую эпоху і ў 1915 г. атрымаў ад караля рыцарскі тытул (ад якога, зрэшты, праз некалькі гадоў адмовіўся), належыць выключна індыйскай культуры, тады як у франкафонным свеце першай значнай фігурай алжырскага паходжання стаў, відаць, знакаміты футбаліст Зінедзін Зідан… Больш за тое, у выпадку французскіх калоній нізкае сацыяльнае становішча пагражала не толькі тубыльцам: “Алжырскія французы – гэта байстручая раса, плён самых нечаканых мяшаных шлюбаў”, – пісаў з прыкрасцю Альбэр Камю, сын французскага рабочага і каталонкі. Спашлемся і на пранізлівы аналіз алжырскай рэальнасці, зроблены французскім сацыёлагам П’ерам Бурдзьё: “Еўрапеец паступова ствараў асяроддзе, якое было яго адлюстраваннем, і свет, у якім ён мог не пачувацца чужым, але ў якім акурат алжырац рабіўся няпрошаным госцем”. На думку гэтага даследчыка, Алжыр, упарта каланізаваны французскімі перасяленцамі, гэтымі “чарнаногімі” (*pieds-noirs*), рабіўся краінай без гісторыі, а алжырцы – людзьмі без правоў[25]. Сапраўды, цяжка ў гэтай карціне ўбачыць якое-небудзь падабенства з польскімі рэаліямі. Абгрунтаванае здзіўленне – больш, зрэшты, у выпадку Бавуа, чым Совы

[25] Staniul M. Francuskie zbrodnie w wojnie o niepodległość Algierii // http://historia.wp.pl/martykul.html?wid=16503302&ticaid=117462 historia.wp.pl/martykul.html?wid=16503302&ticaid=117462 (праверана 28.06.2016).

і Грыцака – выклікае затое замоўчванне іншай надзвычай цікавай аналогіі з гісторыі Францыі, якая вельмі добра перагукаецца з нашым міфам аб “крэсах”. Маецца на ўвазе “казачны Эльзас” – рэгіён, які меў падобную гісторыю і быў аб’ектам аналагічных эмоцый. Памяць пра колішні край, страчаны на карысць ваяўнічага суседа, якая перад Першай сусветнай вайной прымушала французскіх вайскоўцаў выпраўляцца ў сакрэтныя патрулі на горныя хрыбты, каб паглядзець на Кальмар (“нашы шарэнгі змыкаліся, здранцвелыя і анямелыя ад хвалявання”[26]), знаходзіць празрыстыя аналогіі хоць бы ў завядзёнцы салдат даваеннага Корпуса аховы мяжы пільна ўзірацца ў землі, што засталіся на савецкім баку. Палякі бачылі ў “крэсах” не толькі неад’емную частку сваёй гістарычнай дзяржаўнай тэрыторыі, край, які спрадвеку ім належаў, але яшчэ і рэгіён, які ўпісаў асабліва велічныя старонкі ў звод гісторыі айчыннай культуры – як у часы незалежнасці, так і пад расійскім панаваннем. Вось чаму вяртанне і ўтрыманне гэтага краю заставалася імператывам для многіх пакаленняў палякаў. А таму здаецца, што польскія намаганні, зробленыя дзеля ўключэння ў склад сваёй аднаўленай дзяржавы Вільні і Львова, ці нават мары пра вяртанне Камянца-Падольскага мелі куды больш агульнага з французскімі рэаліямі і імкненнем да рэваншу пасля зневажальнага Франкфурцкага міру 1871 г., калі ў рукі немцаў перайшоў увесь Эльзас і частка Латарынгіі, а разам з імі – Страсбург, Мец, Кальмар і Мюлуз, чым з настальгічнымі ўспамінамі французскіх каланістаў пра страчаныя ў Алжыры аліўкавыя гаі і вінныя склепы.

Сацыяльныя пытанні, поруч з нацыянальнымі і канфесійнымі, займаюць не апошняе месца пры канструяванні міфа пра так званую “польскую крэсавую кампанію”. Ключавое месца тут займае, вядома ж, праблема нечалавечага прыгнёту з боку “паноў” (заўсёды палякаў!) у дачыненні да “падданых” (як правіла, украінцаў, што, дарэчы, дазваляе паставіць пытанне пра тагачасны лёс беларускага ці

[26] Tuchman B. W. Sierpniowe salwy / tłum. M. J. i A. Michejdowie. Warszawa, 1984. S. 61–62.

польскага сялянства…) і падбору да гэтага сюжэту адпаведна падабраных першакрыніц. На жаль, і ў гэтым выпадку рэпрэзентатыўнасць такіх крыніц выклікае вялікія сумненні. Прыкладам – дадамо, адным з многіх – такіх не надта добрасумленна падабраных сведчанняў (на якім Я. Сова, следам за Д. Бавуа, робіць асаблівы акцэнт) з’яўляецца проціпастаўленне рэестра судовых пастаноў Кіеўскай губерні за XIX ст. у справах пра збіццё або забойства сялян ідэалістычнай тырадзе Войскага з 12-й кнігі “Пана Тадэвуша”[27]. Між тым, калі першы дакумент сапраўды адлюстроўвае ганебныя акты насілля над сялянствам, дык другі нават не столькі ідэалізуе ўзаемаадносіны паміж панамі і сялянамі, колькі апявае гармонію **ўнутры** шляхецкага стану, прычым у рэаліях “соймікавай дэмакратыі”[28]. Супастаўленне такіх разнародных крыніц, такім чынам, пазбаўлена з метадалагічнага пункту гледжання ўсялякага сэнсу: больш дарэчна ўжо было б звярнуцца да кананічнага тэксту Аляксандра Радзішчава “Падарожжа з Санкт-Пецярбурга ў Маскву” (1790), з якога можна пераканацца ў існаванні падобных формаў прыгоннага ладу і ў іншых рэгіёнах Расійскай імперыі, дзе гэта ніяк не магло быць абумоўлена рудыментамі ўяўнага старапольскага каланіялізму; прычым, што характэрна, не ў нейкай уральска-сібірскай глушы (што наводзіла б на пошукі магчымых каланіяльных аналогій), а ў цэнтральнаеўрапейскіх губернях – ядры расійскай дзяржаўнасці! Нарэшце, варта было б параўнаць вышэйзгаданыя прысуды з судовай практыкай іншых еўрапейскіх краін перад скасаваннем там прыгоннага права і ліквідацыяй рэліктаў паншчыны, што, зрэшты, у большасці краін нашага кантынента здарылася ненашмат раней і было звязана, як правіла, з Вялікай французскай рэвалюцыяй і напалеонаўскім рэжымам. Вось жа, хоць аналагічныя ўзаемаадносіны існавалі шмат

[27] Sowa J. Inna Rzeczpospolita jest możliwa! S. 59; Яго ж. Fantomowe ciało króla. S. 338–339; пар.: Beauvois D. Trójkąt ukraiński. S. 273–275.

[28] Пар.: Mickiewicz A. Pan Tadeusz czyli ostatni zajazd na Litwie. Historia szlachecka z r. 1811 i 1812 we dwunastu księgach wierszem / oprac. J. Krzyżanowski. Warszawa, 1953. S. 332–333.

у якіх краінах, у тым ліку ў еўрапейскай частцы Расійскай імперыі, даследчыкі чамусьці не спяшаюцца разважаць пра магчымасць прыцягнення каланіяльнага дыскурсу да аналізу іх грамадскага ладу[29]… Клеймаваныя выключна чулым на сацыяльную несправядлівасць Стэфанам Жаромскім выпадкі бязлітаснага здзеку з падданых (Міхцік з рамана "Попел", салдат-бадзяга Матус Пулют), як бы там ні было, не носяць ніякіх прымет міжнацыянальнага канфлікту (хіба што перакуленага з ног на галаву, зважаючы на яўнае "крэсавае" паходжанне князя Гінтулта), а закранаюць пэўную мадэль узаемаадносін паміж панамі і сялянствам, якая была пашырана, як мы паказалі вышэй, не толькі ў польскіх маёнтках ва Украіне. Што ж, знакаміты пісьменнік зрабіў, як відаць, належныя высновы не толькі з Галіцыйскага паўстання 1846 г. (разні польскіх памешчыкаў польскімі ж сялянамі), але і з пазіцыі сялянства ў ходзе паўстання 1863–1864 г.

Праявай семантычнага злоўжывання выглядае і спроба правесці паралель паміж пагардлівым азначэннем "чарнамазыя" і тэрмінам "чэрнь", які нібыта выкарыстоўваўся палякамі "для абазначэння карэннага ўкраінскага сялянскага насельніцтва"[30]. Падобная семантычная забаўка, эфектная з выгляду, на самай справе зводзіць нас на аблудную дарогу, паколькі тэрмін гэты, хоць і папулярызаваны на польскай глебе ў творчасці Сянкевіча, на самай справе мае выключна ўсходнеславянскае паходжанне і ўпершыню сустракаецца ў старажытнарускіх летапісах! Паняцце "чэрнь" у значэнні 'простанароддзе' шырока ўжывалася ўжо ў XIII ст. (Наўгародскі першы летапіс); у польскай мове гэта яўны рутэнізм, які пашырыўся дзякуючы не гіпатэтычнаму "ляшскаму панаванню" і прыгнёту ўкраінскага сялянства, а пераможнаму ўплыву

[29] З вельмі грунтоўнай крытыкай у гэтым сэнсе выступіў Ян Дзенгялеўскі, гл.: http://www.yumpu.com/xx/document/view/42045697/daniel-beauvois-wywaa-1-4-ya-dawno-otwarte-drzwi-glaukopis/1.

[30] Sowa J. Inna Rzeczpospolita jest możliwa! S. 65. Аўтар падмацоўвае свае высновы спасылкай на працу Багдана Гука: Huk B. Ukraina. Polskie jądro ciemności. Przemyśl, 2013.

русінскай сацыяльна-прававой традыцыі. Гэтае паняцце, несумненна, паходзіць ад вядомага яшчэ ў Кіеўскай Русі азначэння залежнага насельніцтва ("чорныя людзі"), якое, зрэшты, з тымі ці іншымі відазмяненнямі перайшло і ў юрыдычную тэрміналогію мадэрнай расійскай дзяржавы. Калі ж яшчэ ўзяць пад увагу шырокае ўжыванне гэтага тэрміна – у аналагічным значэнні! – у дачыненні да прадстаўнікоў сацыяльных нізоў у рускай мове на працягу XIX–XX ст. (у чым даволі цяжка западозрыць польскі ўплыў ці пачуццё этнічнай адчужанасці…), хацелася б параіць прыхільнікам дыскутаванай версіі як след азнаёміцца не толькі з яўна натхняльнай для іх "каланіяльнай" прозай Джозефа Конрада, але і з асноўнымі помнікамі эпохі даследаванага імі ўсходнеславянскага рэгіёна[31].

Такім чынам, можна канстатаваць, што падобная падтасоўка навуковага матэрыялу не вытрымлівае элементарнай крытыкі: спажывецкае стаўленне да першакрыніц і надзвычай выбіральнае выкарыстанне напрацаванай гістарыяграфіі часам мяжуе з даследчым нігілізмам, у выніку чаго на гарызонце барацьбы з уяўным монстрам польскага каланіялізму відаць не ўзнёслы храм Праўды, а абы-як збітая халупа – надвіслянская копія хаціны дзядзькі Тома…

Звяртаючыся да сутнасці праблем, якія маюць гісторыкі з посткаланіяльнай тэорыяй, вельмі ўдала акрэсленых у загалоўку артыкула Анеты Пенёндз, змешчанага ў гэтым зборніку, я хацеў бы дадаць да прапанаванай трыяды яшчэ адзін элемент – супраціўленне. Маецца на ўвазе, вядома, не супраціўленне самому метаду, а хутчэй спрэчка наконт яго рацыяльнага выкарыстання і межаў яго прымяняльнасці. У такім разуменні стаўленне гісторыкаў да вышэйназванай тэорыі характарызуецца не столькі перакананнем, што гэта "экзатычная навінка, якая выклікае непрыманне, бо дэманстратыўна разбурае падмуркі храма гістарычнай навукі – як апошнюю разумеў Леапольд фон

[31] Гл.: Срезневский И. И. Словарь древнерусского языка. Т. III. Ч. 2. Москва, 1989. Кол. 1564. Пар.: Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка. 2-е изд. Т. IV. С.-Петербург – Москва, 1882. С. 595.

Ранке (ці мо хутчэй Марцэлій Гандэльсман)”, што павінна весці да своеасаблівага рэфлексу самаабароны, які заключаецца ў дыскрэдытацыі тэорыі без спроб яе глыбейшага зразумення, – колькі поглядам, што гэта своеасаблівая спроба падмены догматаў без уліку абмежаванай прыдатнасці новай метадалогіі да канкрэтных рэгіёнаў і цывілізацыйных колаў (акурат з такіх пазіцый крытыкаваў посткаланіяльную тэорыю Кшыштаф Помян). Аўтарка трапна і дасціпна вызначае асноўную рысу гэтага дыскурсу: «У адказ на крытыку, скіраваную на адрас гісторыкаў, якія без энтузіязму паставіліся да “новых” тэорый, тыя просяць палемістаў толькі аб адным – каб яны, перш чым зачыніць перад гісторыкамі архівы, самі рушылі ў бібліятэку і сёе-тое пачыталі».

Падаецца, аднак, што сітуацыя, з якою мы сутыкнуліся, яшчэ больш дынамічная, а пазіцыя гісторыкаў – больш складаная. Поруч з падсвядомым (свядомым?) страхам упадання ў дагматызм і навязвання “адзіна слушнай” метадалогіі, поруч з пратэстамі супраць яе вульгарнага прымянення, нарэшце – поруч з адмаўленнем сапраўды наватарскіх новаўвядзенняў са спасылкамі на тое, што пад новай формай на самай справе хаваюцца даўно вядомыя інтэрпрэтацыі, застаецца яшчэ фундаментальнае пытанне навуковай добрасумленнасці. Ранейшыя спробы ўжыць посткаланіяльную тэорыю для аналізу падзей у нашым рэгіёне, і перш за ўсё – пры разглядзе гісторыі Рэчы Паспалітай, як правіла, выглядалі не надта паспяховымі (што, зрэшты, ілюструюць і прыведзеныя намі вышэй прыклады). Метадалагічная дыскусія ператвараецца ў дадзеным выпадку ў барацьбу за адстойванне прынцыпаў нашай прафесіі і павагу да агульнапрынятых акадэмічных нормаў. Грэбаванне дэталямі дзеля абмалёўкі шырокай перспектывы ці распрацоўкі мадэлі высокай ступені генералізацыі азначае, па сутнасці, адмаўленне фундаментальнага прынцыпу разнароднасці – і раўнапраўнасці – навуковых даследаванняў. Яшчэ горш тое, што значная частка апалагетаў посткаланіяльнай тэорыі схільны ўжываць яе з досыць істотнымі рэгіянальнымі і часавымі абмежаваннямі. Між тым, неад’емнай умовай

выкарыстання інструментаў, якія прэтэндуюць на статус універсальных, з'яўляецца праверка іх прымяняльнасці на як мага шырэйшым матэрыяле і апеляцыя да старанных і метадалагічна карэктных параўнальных даследаванняў. Тым часам, пішучы пра меркаваны каланіялізм яўна запозненай у сваім развіцці Рэчы Паспалітай, ніхто неяк не спяшаецца правесці паралелі з вопытам Асманскай ці хоць бы Расійскай імперыі! Нават відавочная кожнаму розніца паміж марской і кантынентальнай (Расія, Атаманская Порта, Візантыйская імперыя, Кітай і г. д.) экспансіяй, якая ляжыць у аснове адрозненняў паміж расійскім і заходнееўрапейскім каланіялізмам, тым не менш не знаходзіць сур'ёзнага адлюстравання ў польскіх развагах пра (не)прыдатнасць каланіяльнага дыскурсу да айчыннай гісторыі. Нарэшце дадамо: нельга не пагадзіцца з высновай Яна Кяневіча, што працэсы, да аналізу якіх звяртаюцца прыхільнікі каланіяльнай тэорыі, "могуць быць апісаны і інтэрпрэтаваны ў рамках класічнай школы – як вэбераўскай, так і марксісцкай – і не патрабуюць прыцягнення тэрміналогіі або метадалогіі, напрацаванай посткаланіяльнымі даследаваннямі".

Вось чаму варта паставіць сабе пытанне, ці сапраўды рэкамендаваныя нам лекі – радыкальныя, разлічаныя на бязлітасны дэмантаж усіх напластаванняў гістарычнай традыцыі, на гэтую дэманстратыўную "дэканструкцыю міфа" – у цяперашняй форме добра адпавядаюць самой сутнасці "хваробы", якую прапануецца лячыць? А можа, усё-такі мудрасць старажытных медыкаў "Што добра ачышчае, тое добра гоіць" не абавязкова нясе карысць у выпадку лячэння "фантомных боляў" пры дапамозе антыгістарычнай фантасмагорыі? Бо Рэч Паспалітая ў посткаланіяльнай інтэрпрэтацыі сваіх крытыкаў – гэта не столькі рэальны гістарычны арганізм – удзячны прадмет навуковага аналізу паводле ўсіх канонаў сучаснай гуманістыкі, – колькі праекцыя ўяўлення саміх даследчыкаў. Інакш кажучы, сучаснае ўвасабленне славутай фразы Альфрэда Жары: "У Польшчы – значыць нідзе..."

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Інвентар і люстрацыі Лоева і Горваля XVII – сярэдзіны XVIII ст.

## Юрый Мыцык

Да важных разнавіднасцяў гістарычных крыніц па гісторыі Беларусі і Украіны XVI–XVIII ст. варта аднесці люстрацыі і інвентары. Люстрацыі – гэта апісанні, якія ствараліся ў час перыядычных урадавых акцый, што праводзіліся па рашэнні сойма спецыяльнымі камісіямі з мэтай разліку даходнасці і далейшага падаткаабкладання каралеўшчын (дзяржаўных уладанняў)[1]. Інвентары – апісанні, якія ўзніклі ў выніку правядзення аналагічных акцый спачатку ў дачыненні да царкоўных уладанняў (з XV ст.), а пазней – каралеўскіх і прыватных. Інвентары часта складаліся пры змене асоб на адміністрацыйных пасадах, а рэгламентацыя правядзення апісанняў была прадугледжана соймавай канстытуцыяй 1602 г.[2]. У гэтых катэгорыях крыніц знаходзяцца важныя звесткі, якія тычацца сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў, дэмаграфічных змяненняў, гістарычнай геаграфіі і да т. п.

Калі гаварыць пра XVII ст., то першыя люстрацыі былі створаны ў 1616 і 1622 г.[3]. Наступнай была люстрацыя, якая да гэтага часу не прыцягвала да сябе ўвагі

[1] Люстрації королівщин українських земель XVI–XVII ст. Київ, 1999. С. 5.

[2] Ковальский Н. П. Источники по социально-экономической истории Украины (XVI – первой половины XVII века). Днепропетровск, 1982. С. 22.

[3] Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы. Москва, 1953. Т. 1. С. 37–38; Мицик Ю. Малознана люстрація Корсунського староства першої половини XVII століття // Корсунський часопис. 2009. № 21. С. 3–6.

навукоўцаў. Яна напісана на польскай мове і захоўваецца ў дзвюх копіях, у тым ліку ў фамільным архіве князёў Сангушкаў[4]. З-за адсутнасці першых аркушаў крыніцы дакладную дату яе стварэння вызначыць пакуль цяжка. Адзначым, што ў люстрацыі згадваецца як уладальніца Корсуньскага староства Сафія Даніловіч – дачка вялікага кароннага гетмана С. Жулкеўскага і бабуля караля Яна III Сабескага. Яна памерла ў 1634 г., а атрымала ў спадчыну староства пасля смерці свайго мужа (Я. Даніловіча) у 1628 г. З улікам гэтай акалічнасці, а таксама згадкі ў люстрацыі пра нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1630 г. можна досыць дакладна вызначыць час складання люстрацыі: 1631–1633 г.

У названай крыніцы побач з іншымі апісваецца староства "Любецкае і Лоеўскае" (29–74), г. зн. адміністрацыйная адзінка Рэчы Паспалітай на чале з Любечам (цяпер райцэнтр Чарнігаўскай вобласці). Лоеў (сёння райцэнтр Гомельскай вобласці) разглядаўся як другі па значэнні горад староства (відаць, улічвалася, што гэтыя старажытныя гарады былі злучаны паміж сабой перавозам цераз Дняпро і складалі важныя пункты паабапал ракі). Апісанне падаецца ў параўнанні з папярэднімі люстрацыямі 1616 і 1622 г., што часам дае магчымасць прасачыць дэмаграфічныя і сацыяльна-эканамічныя змены ў старостве за 10–15 гадоў; тут згадваюцца прывілеі на зямлю, дадзеныя яе ўладальнікам каралямі польскімі і вялікімі князямі літоўскімі ў XVI ст. Люстрацыя вызначае межы і галоўныя населеныя пункты староства, дае каштоўную інфармацыю пра засяленне ўкраінскага-беларускага памежжа, узнікненне тут новых паселішчаў (часам узрост шэрагу населеных пунктаў можна павялічыць на сотні гадоў), іх абараназдольнасць, колькасць дамоў і колькасць жыхароў. Тут на с. 46–74 ёсць апісанне Лоева і Лоеўскага замка, прадмесцяў ("места Лоева Гара", "Стары Лоеў") і навакольных вёсак, як лакалізаваных намі (Абакумы, Ісакавічы, Каменка, Мохаў), так і нелакалізаваных ("Папова", "Ізбіны").

[4] Дзяржаўны архіў у Кракаве, Польшча (далей ДА). Ф. "Архіў Сангушкаў". Спр. 92. С. 139–151.

У першай (Любецкай) частцы апісання староства названы, акрамя Любеча і Лоева, шэраг паселішчаў, у тым ліку тых, што знаходзяцца цяпер на тэрыторыі сучасных Брагінскага (Асарэвічы, Вялле, Грушнае, Жылічы, Савічы, Хракавічы; нежылыя Крукі, Піркі) і Лоеўскага (Глушэц, Дзяражычы) раёнаў Гомельскай вобласці. Да іх можна дадаць Хрысткавічы і Клікавічы, якія названы разам з Хракавічамі і Дзяражычамі і, відаць, зліліся з апошнімі. Усе яны стаяць на правым беразе Дняпра або ў непасрэднай да яго блізкасці. На жаль, не ўдалося лакалізаваць населены пункт "Бяльдзюбы" (магчыма, ён пазней знік або быў перайменаваны) і "Малечын" (магчыма, сучасны Малажын Брагінскага раёна). Тым не менш, іх існаванне ў першай трэці XVII ст. – лішні аргумент на карысць ранняга і досыць шчыльнага засялення ўкраінскага-беларускага памежжа.

Згадваюцца ў люстрацыі некаторыя значныя дзяржаўныя і палітычныя дзеячы Рэчы Паспалітай, у т. л. кароль Жыгімонт Аўгуст (панаваў у 1548–1572 г.), Валенці Аляксандр Каліноўскі – заснавальнік вядомага магнацкага роду, і інш. Гэты дакумент – важная крыніца для вывучэння сацыяльна-эканамічнай гісторыі Украіны і паўднёвай Беларусі, у ім знаходзім звесткі пра населеныя пункты, колькасць, склад і павіннасці насельніцтва, пра землеўладальнікаў, млыны, бровары, паташні, арэнду гарэлкі і піва, мядовую даніну, мытні, урэшце – пра дакументацыю, якая пацвярджала права ўласнасці і да т. п., пра памеры даходаў, а таксама пра розныя падаткі і павіннасці, якія плацілі або адпрацоўвалі мяшчане і іншыя катэгорыі насельніцтва; тут ёсць звесткі пра колькасць залежных сялян і мяшчан, пушкароў, баяраў і іншых, суадносіны коштаў. У канцы апісання паказвалася сума агульнага даходу Любецкага староства, які штогод складаў больш за 4744 злотых. Калі адняць выдаткі на абараназдольнасць і ўтрыманне старасты (больш за 4294 злотых), то на "кварту" (за кошт яе ўтрымлівалася кварцянае войска Рэчы Паспалітай) заставалася больш за 858 злотых.

Інвентарныя вопісы тычацца ўжо Горваля – важнага ў свой час горада блізу ўпадзення Бярэзіны ў Дняпро,

а цяпер сціплага населенага пункта Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. У гістарычнай літаратуры знаходзім згадкі пра Горвальскі замак, спалены ў 1654 г. пад час яго штурму паўстанцамі І. Залатарэнкі. Горваль належаў Шалухам, потым каралю Жыгімонту І і каралеве Боне. У лютым 1543 г. каралеўская пара абмянялася дабром: яны ўзялі сабе маёнтак князя Васіля Сангушкі пад Ковелем, а яму аддалі Горваль, Смаляны і замак Свіслач. З тастамента літоўскага гетмана і "рэчыцкага ўладара" Рамана Сангушкі (1571) даведаемся, што ён завяшчаў Горваль сваім сваякам – князям Сангушкам-Ковельскім[5]. Такім чынам, не выпадкова інвентары Горваля захоўваліся ў фамільным архіве менавіта гэтых магнатаў. Першы з інвентароў дайшоў у копіі, створанай каля 1746 г., а яго арыгінал быў выкананы 8 сакавіка 1673 г. віленскімі канонікамі Войцэхам Казімірам Бейнардам (сакратар Віленскага капітула) і Бенедыктам Зухоцкім ("Inwentar miasta Horwola i włośći Horwolskiej w powiecie Rzeczyckim leżącу…"[6]). Яны падалі на польскай мове агульнае апісанне Горваля і паселішчаў яго ключа (у XVIII ст. гэта ўжо будзе "Горвальскае графства"!): Астроўчыцы, Берагавая Слабада, Баравікі, Васілевічы, Елізаравічы, Сведскае, Таўстыкі, Шоўкавічы, Шупейкі, "Якімовічы" (магчыма, Якімава Слабада) і іншыя, якія саступалі па колькасці насельніцтву Горваля. Згаданыя вёскі існуюць і сёння, гэта населеныя пункты Рэчыцкага, Светлагорскага і Жлобінскага раёнаў Гомельскай вобласці. Некаторыя вёскі ("Гавіновічы", "Пакаёвічы" або "Рукаёвічы") не ўдалося лакалізаваць, таму што яны або зніклі, або былі перайменаваны ці зліліся з іншымі населенымі пунктамі. Пры апісанні паселішчаў адзначаліся і імёны іх войтаў.

Пры апісанні Горваля адзначана, што "ў ім касцёл (царква. – *Ю. М.*) і замак дашчэнту спалены". З цяглага насельніцтва налічвалася 18 гаспадарак, пазначаны імёны іх уладальнікаў (Яўлан Гушчанка, Пётр Прунічэнка,

[5] Archiwum Sanguszków. Lwów, 1890. T. 4. C. 334, 339–340; Archiwum Sanguszków. Lwów, 1910. T. 7. C. 396–399.

[6] ДА. Ф. "Архіў Сангушкаў". Спр. 193.

каваль, Ісак Прунічэнка, Луцка Міцкевіч, Ярмола Гацкевіч, Васька Мікалаенка, Грышка Шылін, Аляксей Мікалаенка, Грышка Шкадзенка, Іван Лятовіч, Іван Ушаковіч, Іван Грыченка, Яська Ушаковіч, Фёдар Мікалаенка, Сямён Ушаковіч, Якаў Казёл, Лаўрын Сунлоп, жонка Піндрыкава – удава) і павіннасці, якія ім трэба было выконваць. Кідаецца ў вочы даволі вялікая колькасць украінскіх прозвішчаў, што тыпова для насельніцтва шэрагу паселішчаў Горвальшчыны. Гэта тлумачыцца і блізкасцю ўкраінскіх земляў, і значнымі тагачаснымі міграцыямі (у інвентары гаворыцца пра заахвочванне перасяленцаў з Севершчыны), і тым, што Горвальшчына належала валынскім князям Сангушкам-Ковельскім, такім чынам, існавалі пастаянныя эканамічныя-гандлёвыя сувязі паміж украінскімі і беларускімі землямі гэтых магнатаў. Насельніцтва Горваля і яго ключа не абмяжоўвалася падданымі Сангушкаў. Тут жыў, напрыклад, святар (вызвалены ад падаткаў); купец Міна Наўроцкі, які меўся плаціць за месца і свабоду гандлю рознымі таварамі 4 літоўскіх капы, і інш. Усяго ў Горвальскім ключы жылі 82 гаспадары, якія павінны былі плаціць падаткі (усяго 463,5 коп). Да гэтага варта дадаць выплату за арэнду корчмаў і г. д. (усяго больш за 53 капы).

Складанне інвентару варта звязваць з размежаваннем горвальскіх маёнткаў, якія пераходзілі ў рукі Віленскага капітула, з маёнткамі Стрэшынскай воласці. У дадатку ("Про меморія") згаданы і тры прывілеі 1648 г., якія тычацца Горваля. Яшчэ некалькі дакументаў больш позняга часу дадаліся пры зняцці копіі, відаць, гэта было неабходна пры стварэнні вялікага інвентару ў 1745–1749 г., што складае чатыры тамы, напісаныя на польскай мове[7]. Яго аўтары – барысаўскі пробашч Крыштаф Мантывід Белазор і віленскі канонік Ян Быхавец, якія, напэўна, займаліся гэтай справай яшчэ ў 1739 г. У гэтым інвентары спачатку ідзе апісанне "горвальскага двара" (адміністрацыйнага цэнтра горада) над Бярэзінай, з чаго вынікае досыць інтэнсіўная яго забудова ў 1735–1738 г. Далей апісанне

[7] ДА. Ф. "Архіў Сангушкаў". Спр. 544.

рудні, дваровых палёў, сенажацяў, бровараў, паташняў, азёр “у Горвальскім графстве”, корчмаў; таксама спіс жыхароў Горваля, што пачынаецца з заможнага мешчаніна Міны Неваднічэнкі, які меў чатырох сыноў і столькі ж дачок, унукаў, значную гаспадарку (пара коней, чатыры валы). Ён плаціў чынш (23 зл. і 15 гр.). Агульны ж памер чыншу для Горваля з прадмесцямі складаў 500 злотых і 21 грош. Былі і іншыя павіннасці жыхароў, напрыклад, калі хто забіваў лася ці мядзведзя, то шкуру павінен быў здаць у двор, аддаць лапатку лася (з мясам) стральцам, а за мядзведзя заплаціць 10 шастакоў у скарб. Інвентар пералічвае вёскі Горвальшчыны, прычым акрамя згаданых бачым тут сяло Маскалі, вёскі “Астахавічы” (магчыма, сучасныя Асташкавічы), “Каковічы”, “Капіевічы”, “Отруб” і Чарнейкі). Даецца спіс уладальнікаў гаспадарак, сказана пра войта, пра памеры гаспадарак.

Інвентар называе імёны 11 горвальскіх яўрэяў, якія былі гандлярамі і дробнымі арандатарамі. Адзначана, што ў Горвалі тады налічвалася 420 коней, 484 валы, у т. л. “тры сівыя ўкраінскія”, сотні курэй і качак. Ёсць таксама імёны 17 горвальскіх падданых, якія пакінулі Горваль і жылі ў Рэчыцкай воласці, у прыватнасці ў Бронным, Глебаве (належала шляхцічу Халецкаму), Лісках, Смычку (належаў шляхцянцы Халецкай), пад Лоевам і г. д., а таксама “на Украіне”: у Кіеве, у Брусілаве, у Развадоўцы пад Брусілавам (тут жылі Сідар і Іван – сваякі Міны Неваднічэнкі з Горваля), у Ставішчах і “Карабачыне”.

У інвентары знаходзім унікальныя звесткі, якія тычацца царкоўнага жыцця. Так, у Горвалі існавала царква, адрамантаваная ў 1735 г., дзе служылі два святары (адзін быў прызначаны для “яхімаўскай” царквы, гэта значыць у Якімавай Слабадзе). Згадваюцца тут плябань (дом святара) і “школа для дзяцей, пастаўленая пры царкве”, ёсць кароткі пералік абавязкаў святароў і прыхаджан: духоўныя асобы павінны былі вучыць дзяцей і старэйшых гаспадароў малітве “Ойча наш”, рэгістраваць усіх вернікаў, прызначаць час іх споведзі і прычасця. У школе ў мястэчку меўся настаўнічаць царкоўны дзяк, які павінен быць паважным, не п’яніцам. Святару забаранялася даваць

шлюб без споведзі, за вянчанне ён павінен быў браць не больш за 2 злотыя, а за пахаванне браць паводле сродкаў; яму нельга было браць за трэбы зямлю або карову. Звярталася ўвага на недапушчальнасць таго, што многія людзі ў вёсках Шупейкі, Елізаравічы, "Капцэвічы" памерлі без споведзі, а дзеці – без хрышчэння. Гэта тлумачылася аддаленасцю названых паселішчаў ад Горваля (5 міль), таму людзі прасілі дазволу пабудаваць новую царкву ў сябе і дом для святара, а горвальскі святар не павінен быў перашкаджаць. Прыхаджане абавязкова павінны былі хадзіць у царкву ў нядзелю і ў святы пад страхам кары ў 2 "чэхі". Тыя, што не хадзілі ў царкву і не ведалі "Ойча наш", плацілі 3 "чэхі".

Інвентар сумешчаны з прыходна-расходнай кнігай, якая сведчыць пра трывалыя гандлёвыя кантакты Горваля з Рэчыцай і шэрагам іншых гарадоў (Быхаў, Бабруйск, Брагін, Гомель, Жлобін, Магілёў, Мазыр, Петрыкаў, Слуцк, Стрэшын, Талачын, Холмеч), нават украінскім – Сцяпань і Заслаў (Ізяслаў), што на Валыні, куды горвальцы пастаянна ездзілі па вадзе байдакамі, прычым весляроў наймалі з Рэчыцы і Холмеча. З дэталёвага пераліку тавараў можна зрабіць выснову, што прадметамі гандлю былі пшаніца, жыта, ячмень, грэчка, каноплі, быдла, рыба, у тым ліку марожаная, сала, хмель, сена, піва, гарэлка, соль (яе куплялі ў яўрэя Вульфа або везлі з Петрыкава, Стрэшына, нават са Сцяпані), жалеза (для вазовых шын), сталь, порах. Тут утрымліваецца ўнікальны матэрыял па вывучэнні коштаў на тавары і паслугі. У самім Горвалі займаліся рыбалоўствам (рыбу прадавалі на мясцовых кірмашах або везлі на продаж у Магілёў), выпальвалі цэглу, рабілі сёдлы, шкло і г. д. Жыхары Горваля ездзілі на кірмашы ў Холмеч (на праваслаўнае свята Успення Багародзіцы), Жлобін (на Вадохрышча), на таргі ў Хойнікі. У Брагіне куплялі грэчку, у Стрэшыне было набыта французскае віно і аліўкі для прыняцця рэчыцкіх паноў. У інвентары адлюстравалася значэнне Горваля як цэнтра пасярэдніцкага гандлю. Згаданы, напрыклад, рыбак, які ехаў праз Горваль з Быхава да Заслава (Ізяслава).

Да гэтага інвентару прыкладаецца спецыяльная двухтамовая прыходна-расходная кніга “Горвальскага графства” на 1745–1749 г.[8]. У ёй зафіксавана па днях, колькі і чаго было набыта на патрэбы панскага двара ў Горвалі. Перш за ўсё запісана колькасць жыта, узятага ў сялян (названыя пайменна!) канкрэтнай вёскі, пералічаны ўсе даходы, у тым ліку і штрафы, выдаткі, як грашыма, так і рэчамі, прадуктамі (жалеза, косы, сякеры, рукавіцы, шапкі, паўкажушкі, плахты, сярмягі, соль, гарэлка), названы розныя катэгорыі слуг і рамеснікаў, напрыклад весляры-“байдачнікі”, буднікі, баброўнікі, кушнеры, муляры і г. д. Тут згадваюцца выдаткі на судовыя справы, якія праводзіліся ў Рэчыцы і Мазыры, выдаткі на прыём значных асоб, такіх, як рэчыцкі губернатар Велановіч (27.07.1746).

Усё сказанае пераконвае ў значнай каштоўнасці люстрацыі і інвентароў Лоева і Горваля як гістарычных крыніц па сацыяльна-эканамічнай гісторыі паўднёвай Беларусі XVI–XVIII ст., гісторыі беларуска-ўкраінскіх сувязяў, таму даўно ўжо наспела неабходнасць у іх акадэмічным выданні.

[8] ДА. Ф. “Архіў Сангушкаў”. Спр. 574.

# Заўвагі наконт вывучэння гісторыі самакіравання на беларускіх землях

**Юры Гардзееў**

У 2013 г. убачыла свет манаграфія Сяргея Стрэнкоўскага, прысвечаная гісторыі гарадскога самакіравання на Беларусі ў канцы XIV – XVIII ст.[1]. Яе тыраж – адносна невялікі, 100 асобнікаў, што, магчыма, у выпадку навуковай працы апраўдана.

Рэцэнзаваная кніга (фактычна тэкст дысертацыі) складаецца з двух тамоў. У першай, аб'ёмнай па памеры (амаль 600 старонак), частцы аўтар змяшчае гістарыяграфічны агляд і тры раздзелы, у якіх асвятляюцца формы самакіравання беларускіх гарадоў, што не былі заснаваны на магдэбургскім праве ці гэтым правам валодалі. У апошнім раздзеле тома разглядаецца пытанне карпаратыўнай структураванасці гарадскога самакіравання. Зрэшты, у анатацыі да кнігі сцвярджаецца, што ў публікацыі праведзены аналіз розных відаў самакіравання (устаўнага, магдэбургскага), яго структуры. Другі том – гэта дадатак табліц, старанна апрацаваных аўтарам. Тэкст дапоўнены ілюстрацыйным блокам.

Ва "Уводзінах" аўтар фармулюе "мэты і задачы", гаворачы пра факусаванне ўвагі на эвалюцыі самакіравання беларускіх гарадоў на храналагічным адрэзку чатырох стагоддзяў і яго арганізацыйна-функцыянальных праявах.

[1] Стрэнкоўскі С. П. Гарадское самакіраванне на тэрыторыі Беларусі (канец XIV – XVIII ст.). Ч. 1–2. Мінск, 2013. 590 + 546 с.

## Некалькі заўваг наконт гістарыяграфіі і крыніц даследавання

Гістарыяграфічнаму аналізу ў манаграфіі прысвечана каля 80 старонак. Заўважым, што аўтар перадае асноўныя палажэнні асобных прац, аднак не заўсёды заглыбляецца ў аналіз гістарыяграфічнай думкі; дзе-нідзе аспрэчвае тыя ці іншыя высновы ці робіць трапныя тэрміналагічныя заўвагі (45–46), а часам абмяжоўваецца кароткай бібліяграфічнай інфармацыяй пра змест той ці іншай публікацыі.

Азнаямленне са зместам гэтага раздзела выклікае розныя пытанні. Напрыклад, чытачу было б цікава даведацца пра адрозненні паміж "прадстаўнікамі кансерватыўнай плыні расійскай гістарыяграфіі" і "прадстаўнікамі расійскай ліберальнай гістарыяграфіі" XIX ст. (11, 12). Чым адрозніваўся кансерватызм Яленева ад ліберальнай думкі Уладзімірскага-Буданава ці Любаўскага, калі тыя ў прынцыпе аднолькава ставіліся да пераймання нямецкага права? Ці, можа, гаворка ідзе пра палітычныя ці ідэалагічныя перакананні гісторыкаў? У любым выпадку трэба пазбягаць даніны тэрміналагічнай модзе савецкіх часоў.

На 25-й старонцы аўтар робіць рэверансы ў бок савецкага перыяду, выказваючы думку пра новыя магчымасці беларускай гістарычнай навукі "пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі" і што "ўсталяванне ўлады бальшавікоў" вызначыла фармаванне "новых метадалагічных падыходаў".

Вядома, аўтар мае права на сцвярджэнне, што радыкальныя палітычныя змены "выклікалі неабходнасць пераасэнсавання ранейшых даследаванняў". Хоць куды прасцей было б адзначыць, што гістарычная навука, а таксама літаратура і кінамастацтва сталі заложнікамі ідэалагічнага дыктату камуністычнай партыі і яе ідэалогіі, у сувязі з чым былі вымушаны апераваць марксісцка-ленінскай метадалогіяй, робячы акцэнт на дзяжурны прынцып партыйнасці ў гістарычным пазнанні, класавы падыход, тэорыю фармацый ці матэрыялізм[2]. Як можна меркаваць, звужэнне

[2] Дубровский А. Историк и власть: историческая наука в СССР и концепция истории феодальной России в контексте

метадалагічнай разнастайнасці гістарычнай навукі і ператварэнне яе ў сродак ідэалагічнай барацьбы не былі тоеснымі з “новымі магчымасцямі”.

У гэтай частцы працы сустракаюцца пэўныя лагічныя нестыкоўкі. Напрыклад, на с. 11 аўтар піша, што “вывучэнне гісторыі беларускіх гарадоў часоў ВКЛ і РП пачалося адразу пасля падзелаў апошняй”, аднак не прыводзіць аніводнага прыкладу. Усё ж такі кнігі братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Міхаіла Без-Карніловіча ці Паўла Баброўскага, не кажучы пра Адама Кіркора, не з’явіліся адразу пасля падзелаў. Зрэшты, том “Живописной России”, падрыхтаваны пераважна Кіркорам і надрукаваны ў 1882 г., таксама нельга лічыць яго першай спробай пяра. У 1851 г. ён апублікаваў аб’ёмны артыкул пра гарады Віленскай губерні, пра якія ў рэцэнзаванай манаграфіі нічога не сказана[3].

Трэба зазначыць, што перыяд пасля падзелаў нельга лічыць белай плямай у гарадской гісторыі. Першыя сціплыя апісанні беларускіх гарадоў былі складзены ў 70-я г. XVIII ст. Першай паловай XIX ст. датуюцца напрацоўкі студэнтаў Віленскага ўніверсітэта і чыноўнікаў губернскіх статыстычных камітэтаў. У сваю чаргу, шмат артыкулаў па гісторыі гарадоў з’явілася ў другой палове XIX ст.[4], але яны з метадалагічнага пункту гледжання выходзяць за рамкі навуковага аналізу з прычыны выразна папулярнага апісальна-фактаграфічнага зместу.

Прыведзеныя прыклады сведчаць, што магчымасці грунтоўнага аналізу гістарыяграфічнай думкі нельга лічыць вычарпанымі.

Некалі слоў трэба сказаць наконт крыніцазнаўчага аналізу, якому аўтар прысвяціў чатыры старонкі. Структура выкарыстаных крыніц, як відаць, нагадвае схему наву-

политики и идеологии (1930–1950-е годы). Брянск, 2005. С. 10.

3 Киркор А. Очерки городов Виленской губернии // Памятная книжка Виленской губернии на 1852 г. Вильно, 1852. С. 160–218.

4 Карев Д. Белорусская и украинская историография конца XVIII – начала 20-х гг. XX в. Вильнюс, 2007. С. 89, 114, 121, 195–197.

чальнага дапаможніка Сяргея Ходзіна[5]. Да першага тыпу крыніц аўтар адносіць заканадаўчыя дакументы. Здзіўленне аўтара выклікае "практычна поўная адсутнасць адзіных гарадскіх законаў" (91). Можна меркаваць, што сумненні аўтара – беспадстаўныя, а фармулёўка пра "адзіныя гарадскія законы" тэрміналагічна не зусім трапная.

Цяжка гаварыць пра нейкую планамерную палітыку дзяржавы адносна гарадоў і мяшчанскага саслоўя, фармаванне якога ў Рэчы Паспалітай мела адметнасці. У Сярэднявеччы і ў перыяд Новага часу з-за палітычнай і эканамічнай нескансалідаванасці мяшчане не вылучаліся саслоўнай згуртаванасцю. Менавіта факт невысокай ступені ўсведамлення жыхарамі горада (гаворка не ідзе пра яўрэйскае насельніцтва ці шляхецкіх і духоўных уладальнікаў нерухомай маёмасці) сваёй прыналежнасці да стану доўгі час абумоўліваў імкненне асобных гарадоў атрымліваць прывілеі ў індывідуальным парадку і такім чынам пашыраць свае правы і вольнасці[6].

Варта дадаць, што заходнееўрапейскія гарады таксама валодалі шматлікімі прывілеямі (у Іспаніі – фуэрасамі, у Англіі, Францыі і ў нямецкіх землях – хартыямі). Аднак кожны горад мог пахваліцца ўласцівым толькі яму наборам правоў і вольнасцяў. Менавіта таму гарадское права ў Еўропе не магло быць кадыфікавана. Хоць, трэба адзначыць, толькі ў Швецыі ў XIV ст. быў падрыхтаваны звод гарадскіх правоў[7].

Парасткі мяшчанскай салідарнасці пачалі праяўляцца ў другой палове XVIII ст., супадаючы з працэсам дзяржаўна-прававой уніфікацыі ў Рэчы Паспалітай, пра што сведчыць ухваленне соймам канстытуцыі "Miasta nasze Królewskie wolne w państwach Rzeczypospolitey" ў 1791 г.

[5] Ходзін С. Крыніцы гісторыі Беларусі (гісторыка-генетычнае і кампаратыўнае вывучэнне). Мінск, 1999. С. 191–192.

[6] Kowalenko W. Geneza udziału stołecznego miasta Wilna w sejmach Rzeczypospolitej // Ateneum Wileńskie. R. 3. 1925/1926. № 10–11. S. 337.

[7] Гнутова Е. Город, бюргерство и феодальная монархия // Город в средневековой цивилизации Западной Европы. Т. 4. Extra muros: город, общество, государство. Москва, 2000. С. 9.

Такім чынам, у выпадку гарадоў манарх выступаў у якасці, калі так можна акрэсліць, саюзніка гарадскіх абшчын. Але ім не быў шляхецкі парламент, які ў Рэчы Паспалітай ухваляў заканадаўчыя акты. Інакш кажучы, саслоўны характар грамадства абумовіў тое, што ў адрозненне ад шляхты кожны горад валодаў комплексам уласцівых толькі яму прывілеяў і прававых актаў, што рэгулявалі яго жыццё, і атрымліваў іх ён ад караля, а не ад сойма. Менавіта таму адзіная нарматыўная база, якая ўніфікавала б гарадскі лад, проста не магла існаваць.

Працы ж польскіх юрыстаў XVI ст. Бартламея Граіцкага і Паўла Шчэрбіча, якія аўтар разглядае ў гэтай катэгорыі, можна аднесці да заканадаўчых актаў з вялікай нацяжкай, хоць менавіта ў час магістрацкіх паседжанняў яны маглі выкарыстоўвацца. Гэта быў пераклад з пераказам палажэнняў магдэбургскага права, адаптаваны да мясцовых польскіх умоў.

На 91-й старонцы аўтар зазначае, што, “як паказваюць гарадскія акты (sic! – *Ю. Г.*), найбольш папулярнымі былі выданні” Граіцкага і Шчэрбіча. Пасля чаго дапускае, што ў “Брэсце і Гродне карысталіся, відаць, кнігамі М. Яскера”. Выкарыстанне гэтых кніг у магістратах не выклікае сумнення, але праверка спасылак, змешчаных у бібліяграфічным спісе, змушае засумнявацца ў такіх высновах. Аўтар не прыводзіць аніводнага прыкладу, які паходзіў бы з актавых дакументаў пералічаных гарадоў. Згадваецца тут і нейкі пераклад зводаў магдэбургскага права “на польскую (лацінскую) мову” (?! – *Ю. Г.*). Мабыць, гаворка ідзе пра пераклад на польскую мову з лацінскіх тэкстаў *Speculum Saxonum* і *Ius Municipale*?

Да другой групы крыніц, названай гістарычнымі актамі, аўтар адносіць велікакняскія прывілеі, называючы іх “уставамі” (92). Натуральна, для рэцэнзаванага даследавання менавіта дараванні манархаў павінны займаць важнае і ў пэўным сэнсе сімвалічнае месца. Вядома, што вялікая частка фундацыйных і канфірмацыйных прывілеяў апублікавана ў разнастайных археаграфічных працах яшчэ ў XIX ст. ці надалей захоўваецца ў кнігах Метрыкі, актавых кнігах, музейных ці бібліятэчных рукапісных

зборах (92). Аднак у дадзеным пункце разважанняў узнікае пытанне: зыходзячы з метадалогіі даследавання, ці можна абмяжоўвацца спасылкай на верагоднасць публікацыі прывілеяў у XIX ст., нават калі выдаўцы і карысталіся іх арыгіналамі, і ўлічваючы факт верыфікацыі прывілеяў у гродскіх ці магістрацкіх актах?

Для прыкладу можна ўзгадаць гарадзенскія прывілеі, якія ў XVIII ст. былі ўнесены ў гродскія кнігі, але не ў арыгінале, а ў перакладзе на польскую мову. Менавіта гэтыя пераклады пазней падрыхтавалі і апублікавалі супрацоўнікі Віленскай археаграфічнай камісіі. Арыгінальныя ж прывілеі, якія былі нададзены гораду, у XIX ст. вывезлі ў Санкт-Пецярбург і Вільню. Таму сталічныя археографы былі (калі можна так сказаць) у больш камфортнай сітуацыі.

Аналізуючы прывілей на магдэбургскае права, нададзены Брэсту (176), аўтар спасылаецца не на арыгінальны дакумент, а на свой артыкул. Чаму? Фармат падобнай працы – усё ж такі гэта тэкст доктарскай дысертацыі – прадугледжвае выкарыстанне арыгіналаў. Таму ў ёй цікава было б даведацца пра стан захаванасці арыгінальных прывілеяў іншых гарадоў.

У гэты ж від крыніц аўтар уключае прыватна-прававыя дакументы (акты куплі-продажу, дарэння, абмену, тэстаменты), якія фіксуюцца на старонках актавых кніг магістратаў. Трэцяя група крыніц акрэслена матэрыяламі справаводства, што “сфарміраваліся ў выніку дзейнасці органаў гарадскога самакіравання” (93). Аднак ці пералічаныя вышэй прыватна-прававыя акты не выходзілі з-пад пяра ўраднікаў органаў таго ж самакіравання? Ці яны не сфармаваліся ў выніку дзейнасці магістратаў? І хіба справаводчыя матэрыялы не гістарычныя крыніцы?

Хацелася б звярнуць увагу на яшчэ адзін тып крыніц – статыстычныя матэрыялы. Чаму аўтар прыводзіць толькі адзін прыклад, спасылаючыся на артыкул польскага даследчыка Пятра Чыжэўскага аб перапісах насельніцтва 1789 г.? Да гэта трэба дадаць, што апошні ў сваім артыкуле выкарыстаў перапісы перыяду Чатырохгадовага сойма, якія праводзіліся не гарадскімі ўладамі, а мясцовай

павятовай адміністрацыяй, таму непасрэднай сувязі з дзейнасцю самакіравання не мелі.

З тэксту незразумела, ці ў беларускіх гарадах увогуле праводзіліся перапісы насельніцтва, хоць такіх крыніц існуе даволі шмат. Гэта гарадскія інвентары, рэвізіі, перапісы ўладальнікаў нерухомай маёмасці ці рамесных цэхаў, тарыфы падымнага падатку, якія даюць магчымасць аналізу статычнага вобраза гарадской папуляцыі і выступаюць каштоўнай крыніцай інфармацыі пра гарадскія супольнасці. Не выклікае сумнення, што гэтая разнавіднасць крыніц пры вывучэнні гісторыі гарадскога самакіравання мае другасны характар, але гэта не азначае іх поўнага ігнаравання.

Па разгледжаных прычынах крыніцазнаўчага ды лагічнага парадку класіфікацыю крыніц трэба прызнаць не зусім удалай.

## Паміж вечам і Магдэбургам

Аўтар асобна вылучае раздзел, прысвечаны гісторыі гарадскога самакіравання, якое не было заснавана на магдэбургскім праве. Сваё рашэнне цалкам слушна тлумачыць тым, што дагэтуль асноўная ўвага даследчыкаў была засяроджана на вечавай і магдэбургскай форме самакіравання. Адсюль паўстае зусім заканамернае пытанне аб магчымасці існавання нейкага прамежкавага варыянта гарадскога ладу.

На пачатку аўтар праводзіць грунтоўны гістарыяграфічны і крыніцазнаўчы агляд, даводзячы, што дамагдэбургскі гарадскі лад характарызаваўся працэсам прававога і эканамічнага вылучэння гарадоў з воласці. Акрамя таго адзначае, што галоўная крыніца па гісторыі гэтых гарадоў – матэрыялы канцылярыі дзяржаўных устаноў (98–99).

Для поствечавага гарадскога ладу аўтар уводзіць тэрмін “устаўнае самакіраванне” (40), г. зн. нададзенае згодна з уставамі, якія захаваліся ў кнігах запісаў Метрыкі ВКЛ. Паводле праведзеных даследаванняў, устаўны рух быў запачаткаваны ў часы Вітаўта, атрымоўваючы лагічнае развіццё на працягу XV і XVI ст., калі мяшчане імкнуліся пацвердзіць даўнія вольнасці (100).

На думку аўтара, самакіраванне Полацка згодна з уставам 1486 г.[8] не было цалкам гарадскім, таму што ў дакуменце апрача мяшчан згадваюцца баяры, гарадскія дваране і чорныя людзі, якія не належалі да “сацыяльнай базы гарадскога самакіравання” (101). З гэтым палажэннем можна паспрачацца. Па-першае, нельга ацэньваць тагачасную саслоўную структуру Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку структуру гарадскога насельніцтва, як канчаткова сфармаваную, замкнёную ці “застылую”. Адсюль вынікае другая заўвага, якая тычыцца дынамікі саслоўнай структуры грамадства. Можна ж дапусціць, што незаможнае баярства магло прымаць удзел у фармаванні мяшчанскага саслоўя па прычыне свайго пераходнага статусу[9] і незавершанага працэсу фармавання саслоўяў. І, хутчэй за ўсё, такі ўдзел прымала. Напрыклад, у сярэдзіне XVI ст. у гродзенскіх крыніцах Мікалай Куніцкі быў названы “земянином господарьским” і “мещанином места Городенского”, а Івашка Андрэевіч – гаспадарскім баярынам і “мясником”, уладальнікам гарадской нерухомасці[10].

Рэзюмуючы, трэба адзначыць, што разнапланавы аналіз крыніц дазволіў аўтару зрабіць шэраг важных высноў аб тым, што працэс адасаблення беларускага горада ад воласці расцягнуся на стагоддзі. На ўсходзе ж гэты працэс доўжыўся аж да першай паловы XVII ст. Акрамя таго фактарам, які паскорыў гэты працэс, стала валочная памера.

На падставе аналізу крыніц аўтар вылучае розныя элементы ўстаўнага самакіравання, напрыклад: гарады валодалі пячаткамі, падаткавымі метамі і розрубамі, і ўрэшце існавалі розныя мадэлі ўстаўнай пасады войта, якога прызначаў гаспадарскі ўраднік са згоды ці па просьбе мяшчан (129–132). Згодна з уставамі войт узначальваў

8 “Смотрели есмо с Паны Радою нашою бояр полоцъких з мещаны и з городъскими дворяны, и чорными людьми, и сов всимъ посполствомъ” (Lietuvos Metrika. Kn. Nr. 4:1479–1491. Vilnius, 2002. S. 124).

9 Kutrzeba S. Historia ustroju Polski w zarysie. T. 2. Lwów – Warszawa, 1921. S. 34, 40.

10 Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня – Wrocław, 2008. С. 255.

гарадское кіраванне, валодаў адміністрацыйна-судовымі і гаспадарча-падаткавымі паўнамоцтвамі. Акрамя таго да яго функцый належала засяленне горада, што вынікае з аналізу прывілея, нададзенага Пяшчатцы ў 1530 г. (135). Трэба зазначыць, што падобнай функцыяй валодалі войты магдэбургскіх гарадоў. Урэшце адным з найважнейшых крытэрыяў, якія дазволіў вылучыць згаданы тып самакіравання, быў факт карыстання, а не валодання магдэбургскім правам да яго надання.

Заўважым, што заслуга аўтара заключаецца ў распрацоўцы чарговай "белай плямы" беларускай гісторыі поствечавага ўстаўнага самакіравання і эвалюцыі рэгіянальных сістэм самакіравання ў Падзвінні (віцебская рэгіянальная сістэма, распрацаваная Максімам Макаравым[11]), Падняпроўі (Магілёў і Орша) ці Палессі (Пінск – Лагішын).

Цікавым уяўляецца паралельнае асвятленне інстытутаў цівунов, старцаў, мужоў, дзясятнікаў, сарочнікаў, сотнікаў з войтамі і полацкімі "advocates" у XIV ст., "старэйшымі людзьмі" ў Мсціславе і "старэйшымі мяшчанамі" ў Віцебску (101, 144, 145, 153, 160) ці прыкладаў, якія сведчаць аб мяшчанскай абшчыне як суб'екце права (147).

На падставе крытэрыю падпарадкоўвання гарадскіх урадніка ў мясцовай адміністрацыі аўтар асобна вылучае разнавіднасць устаўнага самакіравання, акрэсліваючы яе псеўдамагдэбургскай (Моталь, Дзівін, Чэрыкаў) з выбарнымі ці прызначанымі войтам і бурмістрам (173). Праўда, у гэтым выпадку належала б удакладніць, якую адміністрацыю мае на ўвазе аўтар, бо мясцовая адміністрацыя на літоўска-беларускіх землях з'явілася толькі ў канцы XVIII ст. У тэксце прыводзіцца і выключны выпадак чэрыкаўскага самакіравання як "аналага магдэбургскага магістрата", які, аднак, не карыстаўся магдэбургскім правам (167, 168).

Акрамя гарадоў з поствечавым самакіраваннем, якія былі часткай сістэмы дзяржаўнага кіравання, у ВКЛ атрымала развіццё магдэбургскае права.

[11] Макараў М. Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча местаў Беларускага Падзвіння ў XIV – першай палове XVII ст. Мінск, 2008.

## Магдэбургскае права

Расповед пра эвалюцыю магдэбургскага права на Беларусі займае амаль палову аб’ёму асноўнага тэксту. Спрабуючы высветліць фактары, якія паспрыялі распаўсюджанню гэтага права, аўтар згаджаецца з думкай польскага гісторыка Вацлава Мацяёўскага пра “падабенства магдэбургскага права і славянскіх звычаяў”, дадаткова спасылаецца на меркаванні расійскага гісторыка Аляксандра Рагачэўскага пра агульныя рысы германскага і славянскага права (175)[12]. Аднак дадзенае сцвярджэнне характарызуецца нейкай спрошчанасцю і апрыёрнасцю.

Мацяёўскі сапраўды выказваўся на гэты конт. Вось як гучыць адзін з падзагалоўкаў яго кнігі: “Prawa germańskie różnej nazwy i barwy pojawiają się w Polsce, cierpiane obok prawa zwyczajowego, którem się polskie miasta poprzednio rządziły”[13]. У першую чаргу трэба падкрэсліць: кніга пісалася ў XIX ст., што не магло не паўплываць на стылістыку мовы. У прыведзеным сказе выразна прасочваецца модус, г. зн. асабістае стаўленне аўтара да з’явы ці падзеі. Зрэшты, азнаямленне з тэкстам кнігі пацвярджае гэтую думку. Дух крытыцызму Мацяёўскага даволі суб’ектыўны. І гэта не павінна здзіўляць, зыходзячы хоць бы з часу і акалічнасцяў яе падрыхтоўкі. Працу Вацлава Мацяёўскага можна патрактаваць як каштоўны помнік грамадскай і гістарыяграфічнай думкі XIX ст., афарбаваны ў шматлікія эмацыйныя выказванні не заўсёды навуковага зместу.

Дадаткова пра гэта сведчыць асвятленне пытання супрацьстаяння магдэбургскаму праву. Манархі, маўляў, не рупіліся аб гарадах, глядзелі цераз пальцы на лютаванне чужых правоў. Літва “гарнулася” (“lgnęła”) да іх без усялякага супраціву. Мацяёўскі задае наступнае пытанне рытарычнага кшталту, ці магдэбургскае права,

[12] Рогачевский А. Меч Роланда. Правовые взгляды немецких горожан XIII–XVII вв. С.-Петербург, 1996. С. 21.

[13] Maciejowski W. Historya miast i mieszczan w krajach dawnego państwa polskiego od czasów najdawniejszych aż do połowy XIX wieku // Roczniki Towarzystwa Przyjaciół Nauk Poznańskiego. T. XVII. Poznań, 1890. S. 152.

якое германізавала гарады, абуджала "ўсыпляльны дух славянскай народнасці"[14], падкрэсліваючы, што магдэбургскае права "схілялася да славянскіх звычаяў" ("ku słowiańskim nachylało zwyczajom")[15]. Цяжка сказаць, што меў на ўвазе аўтар, калі пісаў пра звычаёвыя "схільнасці" права. Але несумненна тое, што да падобных здабыткаў свайго часу нельга ставіцца бескрытычна.

Завяршаючы аналіз гэтага прыкладу, заўважым, што выказванні Рагачэўскага, якія цытуе аўтар, грунтуюцца на высновах Мікалая Паўлава-Сільванскага аб падабенстве германскіх і славянскіх правоў. Але ж апошні параўноўвае "Рускую праўду" з раннесярэднявечнымі германскімі правамі[16]. Таму пытанне ўплыву варварскіх прававых кодэксаў на ўспрыманне нормаў магдэбургскага права застаецца адкрытым.

Не заглыбляючыся ў гісторыка-прававыя разважанні, але абапіраючыся на прынцыпы фармальнай логікі, хацелася б запытацца, чаму ў такім выпадку гэтая падобнасць ці агульнасць рыс не аблягчала мяшчанам знаёмства з нормамі магдэбургскага права ці не садзейнічала хутчэйшай рэцэпцыі права, пра што ідзе гаворка далей?

Разважаючы пра далейшыя этапы дараванняў магдэбургскага права, аўтар робіць абагульняльны аналіз характарыстычных рыс прывілеяў, іх тыпаў, асвятляе моўны бок. На падставе дыпламатычнага аналізу крыніц робіць выснову аб існаванні ўзорнага прывілея ў ВКЛ, якім, на яго думку, быў прывілей для Крынак, змест якога запазычаны з кнышынскага прывілея (186–192). Разам з тым гаворка, відаць, ідзе пра ўзор, які дзейнічаў у другой палове XVI – першай палове XVII ст.

Падраздзел "Прывілеі канца XIV – XVI ст." больш нагадвае разгляд выбраных аспектаў. Яго змест пакідае ўражанне недапрацаванасці з-за адсутнасці глыбокага аналізу прывілеяў такіх гарадоў, як Полацк, Мінск ці Гродна,

[14] Maciejowski W. Historya… S. 285–286.
[15] Idem. S. 153.
[16] Павлов-Сильванский Н. Феодализм в Древней Руси. Петроград, 1924. С. 47–51.

разбору іх тыпалагічных рыс. У ім перамяшаны розныя сюжэты: эканамічныя аспекты дзейнасці самакіравання з дыпламатычным аналізам тэкстаў прывілеяў ці атрыманнем прывілеяў прыватнаўласніцкімі гарадамі. Падаецца таксама, што можна было падзяліць нарацыю на асобныя храналагічныя адрэзкі, напрыклад, канец XIV ст. ці канец XV – першая палова XVI ст.

Звернем увагу на яшчэ адзін аспект. Аўтар адзначае: "...сапраўды, у берасцейскім прывілеі адсутнічаюць самі па сабе нормы магдэбургскага права" (177). Вядома, прывілей – гэта не *Sachsenspiegel* ці *Weichbild*. З іх зместу можна было б даведацца пра гэтыя нормы. Сутнасць жа прывілея – у іншым: кароль ці вялікі князь надаваў ці пашыраў правы і вольнасці гарадской абшчыне.

Можна згадзіцца з тым, што дараванні магдэбургскага права Вільні і Брэсту з'яўляліся пунктам адліку гарадскога права ў ВКЛ і што яны сталі асновай для фундацыйных прывілеяў іншых гарадоў (178). Падкрэслім, што такая пастаноўка пытання аб неабходнасці параўнальных гісторыка-прававых даследаванняў падаецца зусім лагічнай.

Спасылаючыся на разнапланавыя ацэнкі гістарычнай літаратуры, ва ўступнай частцы аўтар адзначае дыскусійнасць паняцця "магдэбургскае права" і ўвогуле ставіць пытанне, чым па сутнасці было магдэбургскае права гарадоў ВКЛ, ці яно "з'яўлялася часткай сістэмы дзяржаўнага кіравання". Па-першае, наўрад ці саслоўнае самакіраванне можна аднесці да сістэмы дзяржаўнага кіравання, улічваючы ступень умяшальніцтва тагачасных уладаў у працэс кіравання, працэс выбараў магістрацкіх ураднікаў ці штодзённае жыццё горада.

Што ж тычыцца пытання дыскусійнасці, то замест аналізу навуковай літаратуры аўтар пераносіць распавед у іншую плоскасць, спрабуючы спаслацца на "аўтарытэтнае меркаванне", якім лічыць думку В. Казлякова і Л. Крыштаповіча (8)[17]. Наўздагон прыводзіць меркаванні ананімных расійскіх гісторыкаў.

[17] Козляков В., Криштапович Л. Митрофанушки парламентаризма // Беларуская думка. 2010. № 10. С. 108.

Па гэтай прычыне ўзнікае пытанне, ці навуковая дыскусія прадугледжвае цытаванне выразна ідэалагічна-публіцыстычных пасажаў тыпу “штучна перасаджанае на беларускую глебу”, “ушчамленне нацыянальнай самабытнасці беларускага народа” ці “выцясненне нацыянальнага права”? Магчыма, аўтар манаграфіі не падзяляе гэтых думак ці па нейкіх прычынах быў вымушаны на іх спаслацца? Хацелася б даведацца пра сэнс падобных рэверансаў і спасылак на сумніўныя разважанні суб’ектыўнага характару.

## Гісторыя самакіравання

Разважаючы пра эвалюцыю гарадскога самакіравання і яе сувязь з урбанізацыйным працэсам, аўтар сцвярджае, што “ў гэтым плане гістарычныя заканамернасці ў значнай меры можна лічыць працягам заканамернасцей эвалюцыі арганічнага свету” (4) ці схіляецца да думкі аб генетычнай сувязі мясцовага самакіравання “з першаснай ячэйкай першабытнага грамадства – родавай абшчынай” (?!).

Не выклікае сумнення, што падобныя тэарэтычныя канструкты, якія, як можна дапускаць, з’яўляюцца адгалоскамі еўрапейскай філасофска-гістарычнай думкі, патрабуюць моцных доказаў. Вядома, што сацыяльныя эвалюцыяністы інтэрпрэтавалі гістарычны працэс па аналогіі з прыродным. Спробы “прывязкі” законаў прыроды да законаў гісторыі сустракаюцца ў французскіх пазітывістаў, напрыклад у Агюста Конта, прадстаўнікоў марбургскай неакантыянскай школы і ў Георгія Пляханава, які спрабаваў тлумачыць дыялектыку грамадскіх працэсаў, абапіраючыся на тэорыю эвалюцыі Дарвіна. Магчыма, аўтар меў на ўвазе тэорыю пасіянарнасці Льва Гумілёва? Нельга выключыць таго, што ў аналізаваным выпадку гаворка ішла пра самаарганізацыю першабытнага грамадства. Усё ж такі падаецца, што можна было б пазбегнуць такіх аналогій і даволі сумнеўных высноў апрыёрнага характару.

На 5-й старонцы аўтар працягвае свае разважанні наконт гісторыі самакіравання, зазначаючы, што рымскія

*civitates* сталі падставай для развіцця заходнееўрапейскага самакіравання ў XII–XIV ст. і што бургунды, вестготы і франкі зберaглі ў гарадах V–X ст. традыцыі рымскага самакіравання, якое развівалася на падставе рымскага права. Трэба прызнаць, што гэта вельмі смелая, але ўсё ж такі надзвычай спрошчаная выснова пра ўплыў рымскіх муніцыпальных традыцый на свет Барбарыкум.

Можна сустрэць сцвярджэнне, што ў раннім Сярэднявеччы ў Еўропе назіраўся заняпад сістэмы муніцыпальнай арганізацыі. Нягледзячы на тое, што адміністрацыйны досвед заможнай і адукаванай гала-рымскай арыстакратыі, як магло здавацца, быў выдатнай знаходкай для ўладароў новых варварскіх каралеўстваў, ранейшы муніцыпальны лад прыйшоў у заняпад[18]. Люсьен Мюсэ даволі вобразна ахарактарызаваў гэты працэс: "У момант з'яўлення варвараў муніцыпальная аўтаномія ўжо існавала толькі на паперы. <…> Дух старажытных інстытутаў цалкам памёр…"[19].

Германскія правадыры былі зацікаўлены не столькі ў развіцці самакіравання гарадоў, колькі ў размяшчэнні ў іх сваіх сядзіб. Равена стала сталіцай остгоцкага караля Тэадорыха, Хлодвіг перанёс сваю рэзідэнцыю ў Парыж, а Карл Вялікі размясціў свой двор у Ахене. Падобныя функцыі выконвалі вестгоцкія Бардо, Тулуза, Барселона і Таледа[20].

Бясспрэчна, што паўночнаітальянскія гарады-камуны з антычнай традыцыі пазычылі назву самакіравання (консул і сенат). Але ж гэта не сведчыць пра тое, што гарадскі лад раннесярэднявечнай Еўропы, напрыклад, Фландрыі, Праванса ці гарадскіх рэспублік Аўсбурга, Любэка, Гамбурга, Нюрнберга капіяваў ці наследаваў традыцыі рымскіх муніцыпалітэтаў. Зрэшты, праблема рымскай прававой культуры ў эвалюцыі гарадскога ладу

[18] Сванидзе А. Город в средние века // Всемирная история. Т. 2. Средневековые цивилизации Запада и Востока. Москва, 2012. С. 55, 57.

[19] Мюссе Л. Варварские нашествия на Европу. Германский натиск. С.-Петербург, 2008. С. 250.

[20] Bebevolo L. Miasta w dziejach Europy. Warszawa, 1995. S. 26–31; Мюссе Л. Варварские… С. 248.

сярэднявечнай Еўропы заслугоўвае асобнага разгляду. Новая сацыяльная парадыгма Сярэднявечча дыктавала новыя сацыяльна-прававыя адносіны. Таму куды больш правільным будзе сцвярджэнне, што перанятае рымскае права разам з мясцовай традыцыяй, каралеўскімі хартыямі ды іншымі дакументамі складалі аснову гарадскога права ў Сярэднявеччы.

Не зусім зразумелая фармулёўка аб "стэрэатыпнай… форме гарадскога самакіравання" ў Польшчы. Але ў чым гэтая стэрэатыпнасць заключалася? Можна меркаваць, што гаворка ідзе пра ступені распаўсюджанасці гарадскога права ў Польшчы.

Трэба таксама заўважыць, што паняцце "нацыянальны склад" ці "нацыянальнае" ў дачыненні да XIV ці XVI ст. (176, 220, 417) не адпавядае канструктам тагачаснай ідэнтычнасці, якую лепш разглядаць праз прызму тагачаснай этнічнасці.

На 175-й старонцы аўтар сцвярджае, што дараванне самакіравання Вільні і Брэсту лічыцца вынікам дзейнасці qwerty-эфектаў у гісторыі. Што тут маецца на ўвазе? Калі зыходзіць з таго, што гэты тэрмін азначае распаўсюджанне ды жывучасць неэфектыўных, але ўстойлівых формаў, то як можна зразумець гэты сказ?

Некалькі слоў наконт пытання структуры і функцый органаў самакіравання. На думку аўтара, працы Граіцкага і Шчэрбіча былі свайго роду падручнікамі для гарадоў Польшчы і ВКЛ (с. 273). Трэба ўлічыць той факт, што Граіцкі не рабіў даслоўнага перакладу Вайхбільда ці "Саксонскага люстэрка", а, хутчэй за ўсё, падаў на польскай мове сутнасць артыкулаў. Акрамя таго лічыў, што магдэбургскае права недастаткова разглядае розныя аспекты гарадскога жыцця, таму ўводзіў новыя нормы ці замяняў некаторыя магдэбургскія артыкулы, якія, на яго думку, не адпавядалі мясцовым рэаліям, нормам тагачаснага польскага права.

У падраздзеле "Асноўныя органы самакіравання" разглядаецца пытанне функцыянавання пасады войта. На с. 284 аўтар адзначае, што войт выконваў судовую функцыю. І, калі працягваць гэтую думку, лагічным падаецца

правесці аналіз “тандэма” *войт – лава*, а пазней *бурмістр – рада*. Аднак у кнізе гэтая класічная схема парушана. Пасля аналізу пасады войта на с. 295–297 аўтар пачынае расповед пра раду і толькі потым, на с. 297–298, лічыць патрэбным асвятліць пытанне лавы (288).

У падраздзеле “Другарадныя органы самакіравання” ідзе гаворка пра падвойскага, ці ката. Аднак з тэксту кнігі невядома, ці былі яны ў беларускіх гарадах, таму што аўтар спасылаецца на працу Граіцкага (302, 303).

Цікавым уяўляецца аналіз падаткава-павіннасных і гандлёвых вольнасцяў, якімі валодалі гарады. З пункту гледжання вывучэння метралогіі вельмі істотнымі падаюцца згадкі пра камень мінскай меры (103), віленскія меры ці аршын берасцейскай меры (184–185).

## Карпарацыі ў горадзе

Азнаямленне з тэкстам працы выразна сведчыць пра тое, што аўтар правёў шмат часу ў архівах, збіраючы матэрыял, праглядаючы магістрацкія кнігі ці карпеючы над стужкамі Метрык. На гэта паказвае змест кнігі. Апошні раздзел – не выключэнне. У ім гаворка ідзе пра гарадскія карпарацыі.

У раздзеле разгледжаны пытанні заснавання, арганізацыі і функцыянавання рамесных цэхаў, брацтваў, купецкіх гільдый. Сярод іншага, аўтар падаў звесткі пра музычную кангрэгацыю ў Гародні, якая існавала ў XVIII ст., што сведчыць аб невычарпальным патэнцыяле архіўных сховішчаў. Істотныя разважанні наконт купецкіх гільдый Магілёва, Віцебска і Кейданаў, статуты якіх былі складзены на падставе ўзору, г. зн. віленскага прывілея 1511 г. (455).

Разам з тым змест разгляданага раздзела – прыклад пазітывісцкага падыходу да даследаванняў, які больш засяроджаны на сухім пераліку шматлікіх фактаў, чым на аналізе праблематыкі.

Не лішнім будзе праілюстраваць сказанае. На с. 417 на падставе аналізу берасцейскага кравецкага прывілея 1649 г., згадкі аб “скрынцы жыдоўскай цэхавой” і старшых

рамесніках яўрэйскага паходжання аўтар дапускае магчымасць існавання яўрэйскага цэха гэтай жа прафесіі. Заўвага аўтара вельмі трапная. Больш за тое, яна паглыбляе нашы веды, накрэсліваючы новы даследчы накірунак. Адзначым, што такія яўрэйскія цэхі і брацтвы існавалі ў розных кутках Рэчы Паспалітай, што засведчана ў адпаведнай літаратуры. У сярэдзіне XVII ст. яўрэйскі кравецкі цэх функцыянаваў у Гародні, што пацвярджаюць згадкі аб цэхавай скрынцы і старэйшых цэха[21]. У XVIII ст. яўрэйскія рамесныя брацтвы фіксуюцца ў Шклове і Мінску[22].

Бясспрэчна, памянёны прабел варта было б запоўніць і, зыходзячы з метадалагічнай парадыгмы, вызначыць ступень распрацаванасці тэмы, азнаёміцца і крытычна ацаніць напрацоўкі і высновы папярэднікаў. Мабыць, гістарыяграфічны аналіз дазволіў бы лепш пераасэнсаваць пытанне яўрэйскіх рамесных карпарацый. Аднак аўтар тэму не працягвае, хоць у беларускай гістарыяграфіі яна не распрацавана, не згадвае і працы Маўрыцыя Горна[23].

Адзін з падраздзелаў працы названы “Роля дабрачынных брацтваў у гарадскім самакіраванні”. Магчыма, гэта фармулёўка не зусім удалая. Па-першае, яе сэнс прадугледжвае звужэнне спектра дзейнасці брацтваў, што з’яўляецца данінай савецкай гістарыяграфічнай традыцыі. У сувязі з чым узнікае пытанне: ці брацтвы мелі іншы профіль? Па-другое, з назвы вынікае нейкі ўдзел дабрачынных арганізацый у сістэме кіравання горадам. Прынамсі, так можна зразумець яе змест. Хоць функцыі брацтваў

[21] Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. V. Акты Брестского и Гродненского гродских судов с присовокуплением привилегий на землевладение в Брестской и Кобринской экономиях. Вильно, 1871. С. 281.

[22] Horn M. Żydowskie bractwa rzemieślnicze na ziemiach polskich, litewskich, białoruskich i ukraińskich w latach 1613–1850. Warszawa, 1998. S. 38.

[23] Horn M. Chronologia i zasięg terytorialny żydowskich cechów rzemieślniczych w dawnej Polsce // Żydzi w dawnej Rzeczypospolitej. Wrocław, 1991. С. 201–213; ён жа. Żydowskie bractwa rzemieślnicze na ziemiach polskich, litewskich, białoruskich i ukraińskich w latach 1613–1850. Warszawa, 1998.

былі куды больш шырокімі, пра што аўтар слушна піша ўжо ў першым абзацы (458).

Услед за Зіновіем Капыскім аўтар звязвае станаўленне брацтваў з праваслаўнай царквой, фактычна тым комплексам праблем, з якімі тая сутыкнулася ў канцы XVI ст., слушна заўважаючы, што "брацтвы маюць больш старажытныя карані". Вядома ж, з другой часткай нельга не згадзіцца, а вось першая выклікае пытанні. Ці іншыя канфесійныя супольнасці заснoўвалі брацтвы? Калі так, то якія? І ці першыя вядомыя брацтвы былі заснаваны праваслаўнымі супольнасцямі? Якім быў іх сацыяльны склад і ці ён абмяжоўваўся толькі мяшчанскім саслоўем? Заўважым, далей аўтар згадвае, што членамі брацтваў былі святары і шляхта. І ўрэшце, якія фактары абумовілі іх станаўленне? Адным словам, цэлы комплекс пытанняў, на якія пажадана было б атрымаць адказы.

З тэксту вынікае, што ў беларускіх гарадах існавалі цэхавыя і царкоўныя брацтвы і што іх заснoўвалі мяшчане праваслаўнага веравызнання (459, 463, 464). Аднак не зусім зразумела, у рамках якой канфесійнай супольнасці горада функцыянавалі брацтвы ў Вербалове і Янішках, хоць можна здагадвацца, што каталіцкай (465). Гэты сюжэт аўтарам не развіваецца, хоць, як вядома, каталіцкія брацтвы існавалі ў розных гарадах ВКЛ, у першую чаргу ў Вільні. Першыя звесткі пра іх паходзяць з XV ст. Згодна з крыніцамі, у перыяд Новага часу ў Гародні брацтвы былі заснаваны амаль што пры ўсіх касцёлах[24] у мэтах распаўсюджвання культу ружанца ці культу Панны Марыі. У працы, на жаль, зусім не закранаецца пытанне езуіцкіх Марыянскіх садаліцый[25]. Акрамя таго, малавывучанымі

[24] Jovaiša L. Bractwa // Kultura Wielkiego Księstwa Litewskiego: analizy i obrazy. Kraków, 2001. S. 94; Gordziejew J. Komisje Porządkowe Cywilno-Wojskowe w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie Sejmu Czteroletniego (1789–1792). Kraków, 2010. S. 167, 185; ён жа. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002. S. 314–315.

[25] Лявшук В. Процессия студентов Гродненского иезуитского коллегиума в 1664 г. как ритуал обозначения центра сакрального пространства города // Гістарычная ўрбаністыка: асно-

застаюцца яўрэйскія і нямецкія брацтвы[26], таму разгледжаны падраздзел выглядае незакончаным.

Цікавым падаецца разгляд пытання аб малавядомых мядовых брацтвах ці яўрэйскім самакіраванні, хоць куды правільней было б аднесці апошняе не столькі да ліку гарадскіх карпарацый, колькі да этнаканфесійных супольнасцяў.

## Нязручнасці і недахопы

Хацелася б таксама звярнуць увагу на тэхнічны бок аналізаванай манаграфіі. Першая заўвага тычыцца выкарыстання ініцыялаў імя "С. П.", за якім "хаваецца" аўтар рэцэнзаванай кнігі. Ініцыялы змешчаны ў пяці месцах кнігі, у тым ліку на вокладцы, чаго можна было б пазбегнуць, адмаўляючыся ад старой савецкай традыцыі "ананімнасці". Па-першае, гэта можа ўспрымацца як непавага да свайго імя. Па-другое, такі падыход ускладняе працу бібліятэчных супрацоўнікаў, якія абавязаны каталагізаваць кнігу.

Праца даволі вялікая па аб'ёме. Аўтар прыводзіць значную колькасць фактаў, тапонімаў і антрапонімаў, уводзячы ў зварот шматлікія новыя крыніцы. Натуральна, што чытач – навуковец, выкладчык ці студэнт – зацікаўлены ў хуткім і зручным азнаямленні са спасылкамі на крыніцы і літаратуру, якіх у спісе ажно 877. Але каб даведацца крыніцу інфармацыі, трэба кожны раз перагортваць кнігу. Ці не лепшым было б падрадкоўе? Знаёмства са зместам кнігі ўскладняецца і адсутнасцю паказальнікаў.

Бібліяграфічны спіс складаецца с дзвюх частак: "Спіса выкарыстаных крыніц" і "Спіса публікацый суіскальніка",

вы метадалогіі і крыніцазнаўчая база: зб. навук. арт. Гродна, 2011. С. 95–109; ён жа. Марианская содалиция иезуитского коллегиума в Гродно (1630–1773): опыт реконструкции деятельности // Религиозное образование в России и в Европе в XVIII в. / под ред. Е. Токаревой, М. Инглота. С.-Петербург, 2013. С. 133–160.

[26] Jovaiša L. Bractwa… S. 101.

г. зн. што чытач мае справу з публікацыяй тэксту дысертацыі. За выразны недагляд ці нават метадалагічную хібу трэба прызнаць і тое, што “Спіс выкарыстаных крыніц” складаецца з друкаваных і архіўных крыніц, а таксама артыкулаў і манаграфій (506–578).

На 38-й старонцы праца А. Цітова “Вольныя беларускія месты” (1995) названа манаграфіяй, хоць змест гэтай брашуры (35 с.) мае выразна папулярны характар. На 39-й старонцы аўтар піша: “В. Б. Келер. Даследчык сцвярджае…”, хоць Вольга Келер – даследчыца[27].

Тэмпам публікавання аўтара і колькасці яго прац можна пазайздросціць. Сяргей Стрэнкоўскі інтэнсіфікаваў свае даследаванні ў 2009–2013 г., апублікаваўшы ажно 63 артыкулы. Атрымоўваецца па 12–13 публікацый штогод, што выклікае пэўныя пытанні аб прычынах такой паспешлівасці. Памянёныя публікацыі – гэта артыкулы і даклады, прачытаныя на расійскіх (Тамбоў, Краснадар, Стаўрапаль, Уфа і нават Ялабуга) ці беларускіх канферэнцыях. Шкада, вядома, што аўтар не апрабаваў вынікі сваіх даследаванняў у куды больш значных і аўтарытэтных даследчых цэнтрах той жа Расіі, не гаворачы пра асяродкі Літвы, Польшчы ці Украіны. Хоць, з іншага боку, можна меркаваць, што дзякуючы шматлікім дакладам будуць пашыраны веды пра беларускія традыцыі гарадскога самакіравання прынамсі ў Расіі.

У працы сустракаюцца адгалоскі марксісцкага дыскурсу. Напрыклад, аўтар згадвае паняцці грамадска-эканамічнай фармацыі (3), раннекласавай структуры старажытнай Русі (5) і феадальных вытворчых адносін (11).

Заўвагі тэхнічнага плана тычацца ігнаравання прабелаў ці выкарыстання на некаторых старонках абзацаў, да функцыі якіх належыць фіксацыя пачатку і заканчэння акрэсленай думкі. У некаторых месцах тэкст публікацыі ўвогуле не падзелены на абзацы. Сустракаюцца і памылкі (на с. 89 *цітулы* замест *тытулы*).

[27] Келлер О. Средневековое немецкое право на землях Центральной и Восточной Европы в XIII–XVIII вв. Минск, 2012.

## Падсумаванні

Ва “Уводзінах” аўтар зазначае, што галоўная задача працы – комплексны разгляд гісторыі самакіравання гарадоў. Сапраўды, актуальнасць гэтай тэмы відавочная. Аўтар накрэсліў галоўныя кірункі развіцця і формы гарадскога самакіравання. Каштоўныя высновы аўтара. Гаворка, напрыклад, ідзе пра ўстаўнае самакіраванне ці развіццё лакальных сістэм гарадскога права.

Усё ж такі заяўленая на пачатку тэма па прычыне сваёй аб’ёмнасці, шматпрадметнасці ці шматпланавасці не магла не перарасці магчымасцяў адной манаграфіі. У кнізе асвятляецца вялікі спектр праблем, кожная з якіх заслугоўвае асобнага вывучэння. Гэтым, магчыма, тлумачыцца “няроўнасць” тэксту, нагрувашчанне матэрыялаў, іх фактalагічная канстатацыя, часам пакінутая без адпаведнага аналізу. Некаторыя тэмы засталіся закранутымі, але не распрацаванымі. Напрыклад, не ўдалося змястоўна раскрыць праблему купецкіх гільдый ці брацтваў.

Мабыць, таму цалкам апраўданым можна палічыць запачаткаванне дыскусіі наконт праблемы мэтазгоднасці вывучэння такой шырокай, комплекснай праблемы і пазбягання тэматычнай гігантаманіі.

Дадзеная рэцэнзія не прэтэндуе на паўнату. Гэта толькі штрыхі, якія сведчаць аб неабходнасці далейшага вывучэння эвалюцыі гарадскога самакіравання ў Беларусі.

# Пакараць нельга злітавацца: беларускі нацыяналізм у даследаванні Пэра Андэрса Рудлінга*

**Алена Маркава**

У кнізе Пэра Андэрса Рудлінга “The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931” (“Узлёт і падзенне беларускага нацыяналізму, 1906–1931”), якая выйшла летась у выдавецтве Пітсбургскага ўніверсітэта, паслядоўна аналізуюцца ўсе нацыянальныя ініцыятывы беларускіх інтэлектуальных элітаў, што вялі да стварэння і ўзнікнення беларускай дзяржаўнасці (як у форме БНР, так і ў форме БССР / ССРБ) і ў той ці іншай форме развіваліся далей па абодва бакі савецкай мяжы аж да 1931 г.

Гэтыя ініцыятывы ў БССР (т. зв. “беларускім доме”) прымалі форму нацыянальнай палітыкі (беларусізацыі), а на беларускіх этнічных тэрыторыях у складзе Польшчы, далучаных пазней да СССР у 1939 г., у той час праходзіла актыўная палітычная мабілізацыя беларускага насельніцтва ў выніку паспяховай дзейнасці беларускіх масавых палітычных арганізацый (Беларуская сялянска-работніцкая грамада).

Пераказваць змест асобных раздзелаў кнігі не мае сэнсу, бо яна прызначаецца для заходняй аўдыторыі і носіць характар хутчэй агляднай манаграфіі. У гэтым выпадку выданне дае чытачу, не знаёмаму з гісторыяй Беларусі, падрабязныя звесткі пра яе найноўшую гісторыю.

* Rudling P. A. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931. Pittsburgh, 2015. P. 436.

У манаграфіі паслядоўна разглядаюцца такія падзеі, як абвяшчэнні БССР / ССРБ, стварэнне і існаванне БНР, падзел беларускіх тэрыторый у выніку заключэння Рыжскай мірнай дамовы, беларуская палітычная мабілізацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1926 г., пры гэтым аналізуецца праграма Беларускай сялянска-работніцкай грамады і г. д. Аддаецца ўвага таксама праектам беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, якія супернічалі паміж сабой. Адначасова ў даследаванні закранаюцца праекты развіцця яўрэйскай культуры ў рамках ідышызацыі (*yiddishization*) і г. д.

З такога пункту гледжання ўклад публікацыі ў развіццё беларускіх даследаванняў бясспрэчны. Тым не менш, галоўную ўвагу ў нашым аналітычным артыкуле мы засяродзім на найбольш, з нашага пункту гледжання, праблематычных і нават спрэчных момантах даследавання, якія патрабуюць больш пільнага разгляду.

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што з многімі высновамі публікацыі Пэра Рудлінга можна пагадзіцца бясспрэчна (напрыклад, пра тое, што фармаванне беларускай дзяржаўнасці было вынікам узаемадзеяння знешніх фактараў і актараў, якія не так былі зацікаўлены ў падтрымцы беларускай нацыі, як кіраваліся меркаваннямі *Realpolitik*[1] і г. д.), іншыя ж сцвярджэнні ўяўляюцца спрэчнымі і, па меншай меры, дыскусійнымі.

Перад тым як перайсці да канкрэтных заўваг і палемікі, неабходна пачаць з тэрміналогіі, якую выкарыстоўвае ў манаграфіі даследчык, і высветліць, каго менавіта ён мае на ўвазе пад "беларускімі нацыяналістамі". Зыходзячы з тэорый Элі Кедуры і Бенедыкта Андэрсана, Пэр Рудлінг выкарыстоўвае гэтае азначэнне ў дачыненні да ўсіх прыхільнікаў ідэі стварэння і ўмацавання беларускай нацыянальнай дзяржавы[2].

Беларускі ж нацыяналізм аўтар аналізуе з пазіцый канструктывізму. Гэтую пазіцыю Рудлінг агучвае ўжо

[1] Rudling P. A. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism, 1906–1931. P. 5.

[2] Тамсама. P. 16.

ў самым пачатку кнігі, гаворачы пра тое, што мэта яго даследавання – вывучэнне “вынаходніцтва Беларусі” (*invention of Belarus*), пачынаючы з моманту яе ўяўлення (*imagination*) на пераломе стагоддзяў і наступнай чарады абвяшчэнняў Беларускай рэспублікі ў той ці іншай форме ў міжваенны перыяд, заканчваючы канструяваннем (*construction*) нацыянальных традыцый, культуры і інстытуцый[3].

У якасці тэарэтычнай асновы для апісання беларускіх нацыянальных працэсаў Рудлінг выкарыстоўвае канцэпцыю трох фазаў нацыянальнага руху Міраслава Гроха. Пры гэтым, паводле Рудлінга, першая фаза “A” т. зв. навуковага інтарэсу займае перыяд 1906–1915 г., другая ж фаза “B” (актыўная нацыянальная агітацыя) прыпадае, галоўным чынам, на перыяд 1915–1926 г., які ахоплівае рост нацыянальных ініцыятыў па абодва бакі савецкай мяжы: палітычную мабілізацыю ў Заходняй Беларусі, станаўленне маладой савецкай рэспублікі і нацыянальную палітыку беларусізацыі, што праводзілася на яе тэрыторыі. Галоўная ж ўвага аўтара засяроджваецца перш за ўсё на перыядзе 1915–1926 г.

Названае метадалагічнае дапушчэнне больш чым дакладнае, паколькі нацыянальная палітыка беларусізацыі ўключала ўсе аспекты нацыянальнай агітацыі, да якой належалі мерапрыемствы па інтэнсіўным развіцці і прасоўванні беларускай мовы ў публічны дыскурс, а таксама мерапрыемствы, накіраваныя на фармаванне новых інтэлектуальных і кіраўнічых элітаў беларускага паходжання (каранізацыя). Галоўная ўвага пры гэтым у манаграфіі Рудлінга, як ужо згадвалася, аддаецца вывучэнню фазы “B” беларускага нацыянальнага развіцця, у якую ўваходзяць “намаганні нацыяналістаў па ўкараненні нацыянальнай свядомасці сярод масаў па абодва бакі мяжы”[4].

Паводле Пэра Рудлінга, дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады, адной з самых масавых

[3] Тамсама. P. 3.
[4] Тамсама. P. 17.

беларускіх палітычных арганізацый, што дзейнічала ў той перыяд на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы, спалучала ў сабе беларускую нацыянальную актыўнасць і радыкальны левы ўхіл[5]. Пры гэтым масавае аб'яднанне беларускага насельніцтва пад лозунгамі Грамады даследчык называе "ўражвальным узроўнем нацыянальнай мабілізацыі"[6].

Нельга не пагадзіцца з аўтарам аналізаванай публікацыі ў тым, што нацыянальны рух у Заходняй Беларусі на працягу вельмі кароткага перыяду існавання Грамады сапраўды дасягнуў небывалай масавасці і перайшоў у фазу "C" масавага нацыянальнага руху паводле Гроха.

Гэтая выснова яшчэ раз пацвярджаецца дапушчэннем згаданага тэарэтыка нацыяналізму пра тое, што ва ўмовах існавання нявыяўленай нацыянальнай ідэнтычнасці асноўная ўмова масавай палітычнай мабілізацыі – упор на надзённыя сацыяльна-эканамічныя праблемы насельніцтва, якія ажыццяўляецца ў рамках нацыянальнай агітацыі. Інакш кажучы, галоўную ролю пры масавай мабілізацыі выконвае існаванне вострага і нявырашанага нацыянальна-рэлевантнага канфлікту інтарэсаў (*nationally relevant conflicts of interest*)[7]. З тэарэтычнага пункту гледжання тут будзе дарэчы пытанне аб тым, чаму масавая фаза, якая азначае, па сутнасці, кропку незвароту ў развіцці нацыянальнага руху, спынілася ў сваім развіцці разам з гвалтоўным разгонам Грамады польскімі ўладамі ў 1926 г. і нацыянальны масавы рух пры гэтым быў літаральна павернуты назад? З гэтай жа пазіцыі можна скептычна спытацца, ці быў у такім выпадку сапраўды

[5] Тамсама. P. 191.
[6] Тамсама. P. 197.
[7] Падрабязней гл.: Hroch M. European Nations: Explaining their Formation. London, 2015; Hroch M. Národy nejsou dílem náhody. Příčiny a předpoklady utváření moderních evropských národů. Praha, 2009; Hroch M. V národním zájmu. Praha 1999 (гл. беларускі пераклад гэтай кнігі ў часопісе "ARCHE": Грох М. У нацыянальных інтарэсах. Патрабаваньні й мэты эўрапейскіх нацыянальных рухаў XIX ст. у параўнаўчай пэрспэктыве // ARCHE. 2007. № 6 (57). С. 159–188; № 7-8 (58-59). С. 114–186; № 10 (61). С. 146–203.

дасягнуты масавы рух, які характарызуе фазу “C”? Тым не менш, відавочным пры гэтым застаецца той факт, што нацыяналізм – не самастойная палітычная ідэалогія, і ў такой якасці ён можа быць сумяшчальны з любым палітычным рухам, у тым ліку і з камуністычным.

Сітуацыя на ўсходнім, савецкім, баку беларускай мяжы была крыху іншай. Нагадаем, што разгляданы перыяд характарызаваўся правядзеннем нацыянальнай палітыкі беларусізацыі (1924–1929), пры якім, згодна з Рудлінгам, «маладая рэспубліка, у выніку рашэння ўладаў, накіраванага на кансалідацыю, запаўнялася “нацыянальным зместам”»[8]. У адрозненне ад Заходняй Беларусі на савецкай тэрыторыі нацыянальная агітацыя, разгорнутая ў рамках беларусізацыі, так і не перайшла ў актыўную масавую фазу “C”.

Савецкую нацыянальную палітыку міжваеннага перыяду Пэр Рудлінг разглядае і ацэньвае скрозь прызму несфармаванай беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці. Сама інтэрпрэтацыя сутнасці нацыянальнай палітыкі Пэра А. Рудлінга не новая. Даследчык прытрымліваецца распаўсюджанай у навуковых колах думкі пра тое, што беларусізацыя была вынікам мэтанакіраванай стратэгіі бальшавікоў, якія выкарыстоўвалі нацыянальныя памкненні мясцовых элітаў у мэтах прадухілення развіцця цэнтрабежных тэндэнцый на нацыянальных ускраінах былой Расійскай імперыі (падобнага меркавання пра мэты разгортвання нацыянальнай палітыкі прытрымліваюцца таксама Рональд Г. Суні, Юры Слезкін, Тэры Марцін і шэраг іншых англамоўных даследчыкаў савецкай палітыкі ранняга перыяду)[9]. Палітыка нацыяналізацыі

[8] Rudling, P. A. The Rise… P. 6.

[9] Liber G. Korenizatsiia: restructing Soviet nationality policy in the 1920s // Ethnic and Racial Studies. 1991. Vol. 14. № 3. P. 15–23; Martin T. The Affirmative Action Empire. Nations and Nationalism in the Soviet Union, 1923–1939. Ithaca and London, 2001; Slezkine Y. The USSR as a Communal Apartment, or How a Socialist State Promoted Ethnic Particularism // Slavic Review 53. 1994. no. 2. P. 414–452; Smith J. The Bolsheviks and the National Question, 1917–23. Basingstoke, 1999; Suny R. G.

(беларусізацыі) пры гэтым суправаджалася палітыкай каранізацыі.

Беларусізацыя і каранізацыя, на думку Рудлінга, – дзве ўзаемазлучаныя нацыянальныя палітыкі, якія мелі на мэце пераўтварэнне дамадэрных (“каланіяльных”) народаў у савецкіх грамадзян, удзельнікаў савецкага праекта[10]. Пры гэтым каранізацыя (*indigenization*) была спробай “укаранення” палітыкі бальшавікоў у нацыянальных рэспубліках, а беларусізацыя (*belarusization*), пры дэфініцыі якой даследчык спасылаецца на працы беларускіх гісторыкаў Расціслава Платонава і Уладзіміра Коршука, была палітыкай, закліканай замацаваць прыярытэтнае месца беларускай мовы ў сістэме адукацыі і дзяржаўнага кіравання БССР. Адначасова беларусізацыя выступала складовай часткай спробы ажыццяўлення эканамічнай мадэрнізацыі і трансфармацыі, у рамках якой стварэнне беларускай “нацыі” (*construction of a Belarusian “nation”*) было часткай стварэння сацыялістычнай сучаснасці (*socialist modernity*)[11].

Паводле Рудлінга, бальшавікі верылі ў магчымасць стварэння (*construct*) новай нацыянальнай ідэнтычнасці, пры гэтым іх канцэпцыя нацыянальнай прыналежнасці грунтавалася на прымардыялістычных перадумовах. Бальшавікі таксама пераканаліся ў існаванні самастойнай беларускай нацыі (*distinct Belarusian nation*) нашмат раней, чым гэта ўсвядоміла большасць яе прадстаўнікоў – беларусаў[12].

На думку Рудлінга, каранізацыя і беларусізацыя прасоўвалі той тып ідэнтычнасці, які злучаў у сабе адначасова класавы і этнічны элементы[13]. Пры гэтым беларусізацыя

The Revenge of the Past. Nationalism, Revolution, and the Collapse of the Soviet Union. Stanford, 1993; Suny R. G. The Soviet Experiment. Russia, the USSR, and the Successor States. New York, 1998; Vakar N. P. Belorussia. The Making of Nation. Cambridge, Massachusetts, 1956. і інш.

[10] Rudling, P. A. The Rise… P. 142–143.

[11] Тамсама. P. 143.

[12] Тамсама. P. 163.

[13] Тамсама. P. 309.

разглядалася бальшавікамі не толькі як сродак умацавання савецкай улады сярод мясцовага насельніцтва нацыянальных ускраін, але і як палітыка, якая спрыяе шэрагу сацыяльных пераўтварэнняў.

Ва ўмовах адсутнасці ярка выражанай нацыянальнай ідэнтычнасці сярод шырокіх слаёў беларускага насельніцтва было прынята рашэнне ажыццявіць беларускае нацыянальнае будаўніцтва адміністрацыйна-бюракратычнымі метадамі[14]. Бальшавікі ў гэтым сэнсе кіраваліся гердэрыянскай тэорыяй пра тое, што нацыянальная мова – найважнейшы кампанент нацыянальнай культуры, і менавіта таму яе неабходна развіваць у першую чаргу[15]. Зыходзячы з канцэпцыі Фрэнсін Хірш[16], Пэр Рудлінг сцвярджае, што "экспертная ацэнка" савецкіх этнографаў выконвала пры гэтым значна большую ролю, чым уласная ідэнтыфікацыя (*self-identification*) мясцовага насельніцтва, якое было часам збіта з панталыку (*confused*) тагачасным паняццем этнічнасці і не мела нацыянальнай самасвядомасці ў сучасным сэнсе гэтага слова[17].

Нагадаем, што нацыянальную палітыку Фрэнсін Хірш разумее як *падтрымліваны дзяржавай эвалюцыянізм* (*state-sponsored evolutionism*), заснаваны на тэорыі грамадска-эканамічных фармацый Карла Маркса і тэорыі культурнага эвалюцыянізму. Як лічыць Хірш, у рамках гэтага эвалюцыянісцкага падыходу бальшавікі меркавалі, што з актыўнай знешняй дапамогай дзяржавы можна штучна паскорыць гістарычнае развіццё асобных этнасаў. Пры гэтым бальшавіцкая ўлада дзейнічала пры моцнай падтрымцы інтэлектуальных і мясцовых элітаў, якія часта давалі ёй адсутныя на той момант *этнаграфічныя веды* (*ethnographic knowledge*), неабходныя для ўмацавання ўлады і ператварэння некаторых этнасаў у на-

14 Тамсама. P. 212.

15 Тамсама. P. 125.

16 Гл. падрабязней: Hirsch F. Empire of Nations: Ethnographic Knowledge and the Making of the Soviet Union. (Culture and Society after Socialism.). Ithaca, London, 2005.

17 Rudling P. A. The Rise… P. 161.

роднасці або нацыі[18]. Такім чынам бальшавікі ўзялі пад кантроль працэсы фармавання тых этнасаў, якім не хапала нацыянальнай свядомасці (*national conciousness*). Навукоўцы (а гэта былі найперш этнографы) і мясцовыя эліты ў супрацоўніцтве з савецкай уладай утваралі для гэтых этнічных груп нацыянальныя тэрыторыі, стваралі і кадыфікавалі афіцыйныя дзяржаўныя мовы разам з культурай і гісторыяй[19]. Вяртаючыся да савецкай нацыянальнай палітыкі ў даследаванні Пэра Рудлінга, варта адзначыць, што гэты даследчык сцвярджае: этнографы, якія вывучалі беларускую савецкую вёску, былі нават *вымушаны* пацвердзіць існаванне беларускай этнічнай групы[20].

У сувязі з тым, што, на думку Рудлінга, беларуская нацыянальнасць “прысвойвалася” (*assigned*) мясцоваму насельніцтву “зверху” намаганнямі чыноўнікаў, этнографаў і палітыкаў, якія кіраваліся выкананнем палітычных распараджэнняў і патрабаваннямі замежнай палітыкі больш, чым сапраўднымі інтарэсамі карэннага насельніцтва (асабліва на далучаных да БССР у рамках узбуйнення ў 1924 і 1926 г. тэрыторыях), беларусізацыя выклікала ў грамадстве апраўданы супраціў. Бальшавікі і поўныя энтузіязму беларускія нацыянальныя дзеячы, тым не менш, ставілі перад сабой агульную мэту перакрыцця (*superimpose*) рэлігійнай дамадэрнай ідэнтычнасці новай мадэллю этнамоўнай ідэнтычнасці[21]. Далей Рудлінг працягвае, што на падставе этнаграфічных ацэнак, зробленых пад уплывам палітычных інтарэсаў без уліку самаідэнтыфікацыі мясцовага насельніцтва, цэлыя рэгіёны былі проста перароблены (*redesignated*) пад беларускія[22].

[18] Асаблівае значэнне Фрэнсін Хірш надае тром уладным інструментам, ці т. зв. “культурным тэхналогіям” (*cultural technologies*) улады, якія звязваюць этнографаў з мясцовым кантэкстам і дзяржаўнай уладай: гэта перапіс насельніцтва (*the census*), фармаванне тэрыторыі (*the map*) і музеі (*the museum*).

[19] Hirsch F. Empire of Nations… P. 7–9.

[20] Курсіў Пэра Рудлінга, гл.: Rudling P. A. The Rise… P. 307.

[21] Тамсама. P. 161–162.

[22] Тамсама. P. 221.

На думку аўтара аналізаванай тут манаграфіі, большасць беларускага насельніцтва рэспублікі не была зацікаўлена ў нацыянальнай палітыцы, на што ўлады адказалі яшчэ больш жорсткімі метадамі яе правядзення[23]. Асабліва відавочным гэта стала пры ўзбуйненні БССР у 1924 і 1926 г., калі толькі нязначная частка новых грамадзян рэспублікі магла авалодаць нядаўна кадыфікаванай беларускай мовай. Нягледзячы на гэта, "не ў меру руплівыя нацыянальныя камуністы" (*overzealous national communists*) часам нават прымушалі мясцовае насельніцтва памяняць мову супраць уласнай волі[24].

Узбуйненне БССР, на думку Рудлінга, азначала фактычна, што "адным росчыркам пяра мільёнам людзей была прыпісана новая этнічная і нацыянальная [г. зн. беларуская] прыналежнасць. Па гэтай прычыне ўрад меў намер таксама прыпісаць (*assign*) ім і новую [беларускую] мову ў адпаведнасці з гэтай новай ідэнтычнасцю"[25]. Той пераход праводзіўся без уліку жадання саміх жыхароў далучаных тэрыторый, і таму ўзбуйненне ў выніку вяло да значнага павелічэння масы незадаволенага насельніцтва, якое часта адчувала агіду (*detest*) да сваёй новай, прыпісанай "зверху" беларускай нацыянальнасці і масава супраціўлялася палітыцы беларусізацыі, якую праводзілі ўлады[26].

Не прызнаючы нават самога права на добраахвотную асіміляцыю, якой аддавала перавагу насельніцтва рэспублікі, савецкая ўлада наўмысна ўстанавіла і захавала дамадэрнае этналінгвістычнае дзяленне на тэрыторыі БССР. Вялікая колькасць рускамоўных гарадскіх жыхароў была "перайменавана" (*redesignated*) у беларусаў і трапіла пад тую ж самую прымусовую (*forced*) беларусізацыю, якая ўжо была навязана беларускамоўнаму насельніцтву ў наваколлі Мінска[27].

[23] Тамсама. P. 209.
[24] Тамсама. P. 210.
[25] Тамсама. P. 217.
[26] Тамсама.
[27] Тамсама. P. 162.

Шчырае хваляванне насельніцтва наконт таго, што гвалтоўная беларусізацыя можа прывесці да абмежавання камунікацыі і, такім чынам, паспрыяе іх нявыгаднаму становішчу, уладамі было праігнаравана і адзначана як праява вялікарускага шавінізму. Большая частка насельніцтва БССР была вымушана змяніць мову і працаваць на незнаёмай мове, якая не адпавядала мове штодзённых зносін. Перавод школьнага навучання з рускай мовы на беларускую ці з рускай на ідыш прымушаў, на думку Рудлінга, адначасова змяняць і нацыянальнасць у адпаведнасці з патрабаваннямі ўладаў, пры гэтым якія-небудзь асабістыя перавагі ў разлік, вядома ж, не прымаліся. Метады ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, якія даследчык называе дыктатарскімі, вялі да ўзнікнення раздробленага і няўклюднага грамадства (*fractured and unwieldy society*), у якім былі нацкаваны адна на адну (*pitted against each other*) розныя групоўкі інтарэсаў[28].

На працягу ўсяго даследавання Пэр Рудлінг неаднаразова падкрэслівае, што галоўнымі асобамі (*beneficiaries*), што атрымалі сапраўдную выгаду ад правядзення беларусізацыі, якая не мела нічога агульнага з інтарэсамі ўсяго насельніцтва рэспублікі, было не само грамадства, а апантаныя нацыянальныя актывісты, якія пад гэтым прыкрыццём маглі выканаць адразу некалькі сваіх мэтаў. Адной з іх была магчымасць ажыццяўлення праграмы БНР пад пратэкцыяй савецкай улады, другой – падтрымка прасавецкага сепаратызму на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. Палітыка беларусізацыі заахвочвала іх займаць усё больш і больш агрэсіўную і адначасова незалежную ад Масквы пазіцыю. Менавіта яны лічылі канструяванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці сваёй мэтай.

Яшчэ больш радыкальную пазіцыю займае аўтар аналізаванай публікацыі пры апісанні вынікаў і наступстваў правядзення нацыянальнай палітыкі сярод нацыянальных меншасцяў БССР. На думку Рудлінга, дэспатыя ўладаў вяла да росту супраціву нацпалітыцы

[28] Тамсама.

ў асяроддзі нацменшасцяў, якія асабліва востра і нават драматычна адчувалі дыскрымінацыю і звязаную з разгортваннем палітыкі беларусізацыі сацыяльную ізаляцыю (*ghettoization*). Сюды адносіцца, напрыклад, прымусовая адпраўка дзяцей нацменшасцяў у школы з іх роднай мовай навучання, насаджэнне нацыянальных моў (польскай і ідыш) супраць волі навучэнцаў, абавязковыя ўступныя іспыты на дзяржаўнай беларускай мове і г. д. Напрыклад, яўрэйскае насельніцтва турбавала нявыгаднае становішча іх дзяцей, якіх гвалтоўна накіроўвалі ў яўрэйскія школы[29] і г. д.

Як бачым, заявы і высновы Пэра Рудлінга вельмі катэгарычныя і нават безапеляцыйныя, як і абраны ім слоўнік апісання гістарычных падзей ("адчувалі агіду", "дыктатарскія метады", "гвалтоўны прымус", "сегрэгацыя і гетаізацыя нацыянальных меншасцяў" і г. д.).

Пры гэтым трэба адзначыць, што даследчык у манаграфіі (і асабліва ў частцы, прысвечанай нацыянальным ініцыятывам і савецкай нацыянальнай палітыцы ў БССР міжваеннага перыяду) выкарыстоўвае даволі нязначную для такога роду гістарычнага даследавання колькасць архіўных першакрыніц, абапіраючыся пераважна на другасную літаратуру, перш за ўсё на працы Тэры Марціна, Расціслава Платонава, неапублікаваную дысертацыю Бэт Б. Ёкум (Beth Baird Yocum) і г. д. Часткова спасылаецца на апублікаваныя архіўныя партыйныя матэрыялы, якія дазваляюць яму праілюстраваць тыя ці іншыя выказванні і высновы. Гэты момант, на нашу думку, адзін з праблематычных у даследаванні, паколькі зробленыя ў манаграфіі такія катэгарычныя абагульняльныя высновы патрабуюць вывучэння большага масіву першакрыніц.

Напрыклад, для ілюстрацыі сцверджання пра чужасць шырокім масам беларускамоўнага насельніцтва (*native Belarusian speakers*) беларускай літаратурнай мовы, сканструяванай нацыянальнымі інтэлектуаламі (*language that was being constructed by national intellectuals*), Пэр Рудлінг

[29] Тамсама. P. 210.

выкарыстоўвае заключэнні працы з архіўнымі матэрыяламі Бэт Б. Ёкум[30]. Тым не менш, у архівах можна знайсці яшчэ большую колькасць звестак, якія пацвярджаюць адваротнае. Гаворка ідзе пра тое, што часта пасля папулярнай у той час публічнай чыткі беларускай літаратуры, якая праводзілася ў рамках кампаній папулярызацыі беларускай мовы ў сельскай мясцовасці, сяляне ў "сканструяванай літаратурнай мове" нярэдка пазнавалі "сваю" мову паўсядзённых зносін і нават патрабавалі адкрыцця беларускіх школ. Вось тыповы прыклад рэакцыі сялян з Гомельскай губерні (ліст датуецца вераснем 1926 г.): "Выслухаўшы даклад т. Лапіцкага і чытанне беларускай літаратуры, актыў вёскі Сяроўка [далей пералік асобаў] пацвярджае, што жыхары нашай вёскі размаўляюць на беларускай мове, падобнай да той, на якой напісаны прачытаны нам верш і артыкулы, і што навучанне нашых дзяцей на роднай мове павінна быць нашмат лягчэйшым. Таму актыў лічыць патрэбным ажыццявіць перавод школы, пачынаючы з першага класа, на беларускую мову"[31]. Акрамя таго, вяскоўцы прасілі адчыніць хату-чытальню, якая б дзейнічала на беларускай мове і была б забяспечана беларускімі літаратурай і газетамі, а таксама прыслаць ізбача (г. зн. супрацоўніка хаты-чытальні), які добра валодаў бы беларускай мовай.

У іншых паведамленнях таго ж перыяду, напрыклад, згадваецца, што "ў хаце-чытальні [вёскі В. Шчарбінічы] была праведзена гутарка з сялянамі на беларускай мове, а таксама былі прачытаныя два апавяданні з жыцця сялян. ...Сяляне былі зацікаўлены размовай і чытаннем і сцвердзілі, што ім усё зразумела і што гэта напісана *панашаму* [курсіў аўтара артыкула. – *А. М.*]"[32]. Існуе таксама шэраг падобных звестак (заяў, лістоў і г. д.) з іншых вёсак і рэгіёнаў БССР[33].

[30] Тамсама. P. 216.

[31] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 42. Воп. 1. Спр. 275. Арк. 259.

[32] НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 275. Арк. 272.

[33] НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 275. Арк. 269адв., 273–273адв., 274, 278, 279–279адв., 281, 283; апрача таго, шмат такіх лістоў з вё-

Як паказваюць архіўныя крыніцы, часта здаралася так, што беларускамоўныя сяляне не разумелі “сканструяванай беларускімі інтэлектуаламі літаратурнай мовы”, бо рускамоўныя агітатары ці прадстаўнікі мясцовай улады самі часта не ведалі беларускай мовы і таму выклікалі недавер сялян да таго, што яны гаварылі пра беларускую мову. Напрыклад, пад час агітацыі за беларускую школу ў Рэчыцкім раёне, якая прадстаўнікамі ўлады вялася, як звычайна (!), на рускай мове, адзін з супрацоўнікаў мясцовага валаснога выканкама атрымаў ад сялян такое пытанне: “Што гэта за беларуская мова, скажы нам што-колечы па-беларуску”, – на што той адказаў, што сам не ведае нічога па-беларуску. Канец гэтай у выніку беспаспяховай кампаніі палажыла другое, ужо апошняе, лагічнае пытанне з боку сялян: “Як жа ты гаворыш нам пра тое, чаго і сам не ведаеш?”[34].

Часам прычынай фіяска агітатараў ці прадстаўнікоў мясцовай улады было непераканаўчае чытанне па-беларуску, перадусім няправільныя вымаўленне або націскі, выкліканыя няведаннем мовы і г. д.[35]. На гэтай аснове можна пры жаданні зрабіць вывад, што сяляне не разумелі “штучна сканструяванай мовы”. Прыведзеныя тут прыклады сведчаць, такім чынам, перш за ўсё пра тое, што часам варта і неабходна пазбягаць падобных катэгарычных і нават безапеляцыйных заключэнняў, характэрных для даследавання Пэра Рудлінга.

Што хаваецца ў тых першакрыніцах і літаратуры, да цытавання якіх звяртаецца аўтар манаграфіі? Перш за ўсё, знайсці спасылкі на цытаваныя ў тэксце арыгінальныя фрагменты нялёгка, бо вельмі часта названыя

сак (Гомельскай і іншых абласцей) рэгулярна публікавалася ў “Асвеце”, гл. напр.: Сьмігельскі В., Троська Я. Беларуская культурна-асьветная справа на Гомельшчыне // Асьвета. 1926. № 6. С. 174–177. Больш падрабязна гл. таксама: Marková A. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita? Praha, 2012.

[34] Сьмігельскі В., Троська Я. Беларуская культурна-асьветная справа на Гомельшчыне // Асьвета. 1926. № 6. С. 175.

[35] Тамсама.

ў спасылках нумары старонак не адпавядаюць старонкам арыгінала. Напрыклад, у публікацыі Коршука і Платонава па спасылцы паказана с. 68, а цытаваная інфармацыя знаходзіцца на с. 65 (гл. спасылку 6 на с. 278 манаграфіі) і г. д. і да т. п.

Падобныя памылкі можна, з пэўнай доляй дапушчэння, аднесці да тэхнічных. Але сітуацыя змяняецца пры неаднаразовым выяўленні ў манаграфіі П. Рудлінга свядомых, сэнсавых скажэнняў у інтэрпрэтацыі звестак з крыніц (як з першакрыніц, так і з літаратуры). Разгледзім некалькі такіх прыкладаў, якія сведчаць не толькі пра некарэктнае цытаванне аўтарам выкарыстанай крыніцы, але і пра адвольную інтэрпрэтацыю фактычных заключэнняў, якая з гэтага вынікае.

Адзін з такіх прыкладаў можна знайсці ў раздзеле “Супраціў беларусізацыі”, дзе даследчык сцвярджае, што мноства жыхароў далучаных да БССР у 1926 г. тэрыторый (Рэчыцкі і іншыя раёны) не толькі не лічылі сябе беларусамі, але і аддавалі перавагу ў зносінах рускай мове, выступаючы супраць гвалтоўнай беларусізацыі[36]. Аўтар адзначае: “Не ведаючы пра этнічную ідэнтычнасць, мясцовыя жыхары лічылі сябе небеларусамі па нацыянальнасці, бо тэрыторыя, на якой яны жылі, не была ўключана ў межы адноўленай у 1920 г. ССРБ” (“*the local inhabitants thought of themselves as non-Belarusians since the territory in with they lived had not been included within the borders of the restored SSRB in 1920*”)[37].

Робячы такую прынцыповую выснову, Пэр Рудлінг спасылаецца на публікацыю Міхаіла Касцюка, які аналізаваў матэрыялы камісіі Я. Петэрса, што ў верасні 1926 г. вывучала нацыянальны склад Гомельшчыны (Гомельскага і Рэчыцкага паветаў)[38]. Якія ж высновы робіць сам Касцюк? У яго манаграфіі можна прачытаць наступнае: «Насельніцтва Уваравіцкай воласці ў асноўнай сваёй

[36] Rudling P. A. The Rise… P. 213.
[37] Тамсама.
[38] Гл.: Касцюк М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі. Мінск, 2000. С. 44.

масе беларускае, размаўляе на простанароднай беларускай мове з вялікай прымессю беларускіх слоў. У Чачэрскай воласці беларуская мова асабліва моцна русіфікавана. Пры даследаванні калектыву Добрушскай папяровай фабрыкі камісія ўстанавіла, што большасць рабочых складаюць мясцовыя сяляне, 60% з якіх беларусы, што яны гавораць пераважна на рускай мове і што тут асабліва далёка зайшоў працэс абрусення. На запалкавай фабрыцы "Везувій" была звернута ўвага на тое, што 1300 рабочых выпісвалі 900 газет, сярод якіх не было ні адной беларускамоўнай. Агульныя вывады камісіі зводзіліся да наступнага: у абследаваных мясцінах пераважае простанародная беларуская мова з вялікай прымессю рускіх слоў і адсутнічае нацыянальная самасвядомасць. Большасць насельніцтва адмоўна ставіцца да палітыкі беларусізацыі, меншасць займае абыякавую пазіцыю. І толькі ў некаторых прадстаўнікоў насельніцтва адносіны станоўчыя»[39].

Грунтуючыся на працытаваным урыўку, нельга не заўважыць, што прыведзеная раней выснова Рудлінга пра тое, што "мясцовыя жыхары лічылі сябе небеларусамі па нацыянальнасці, бо тэрыторыя, на якой яны жылі, не была ўключана ў межы адноўленай у 1920 г. ССРБ", мякка кажучы, не адпавядае зместу цытаванай крыніцы і не з'яўляецца таксама яе перафразаваннем або лагічным заключэннем, зробленым на яе падставе. Характэрна, што на такога тыпу сцверджаннях грунтуюцца многія іншыя высновы часта прынцыповага напрамку, да якіх на працягу ўсяго даследавання неаднаразова прыходзіць Рудлінг.

Разгледзім іншыя прыклады. «Лічачы нацыяналізацыю неабходнай умовай мадэрнізацыі, на працягу 20-х г. савецкая ўлада займала бескампрамісную варожую пазіцыю ў адносінах нават да добраахвотнай асіміляцыі ў пераважную рускую культуру (*Russian majority culture*). … Перавод [гаворка ідзе пра далучэнне да БССР этнічна беларускіх тэрыторый у 1926. – *А. М.*] быў ажыццёўлены без уліку жадання ці згоды саміх будучых беларусаў.

[39] Тамсама.

Павелічэнне тэрыторыі рэспублікі, такім чынам, вяло да росту незадаволенай масы насельніцтва, якое часта ўспрымала з агідай (*detested*) іх перарабліванне (*redesignation*) на беларусаў і супраціўлялася палітыцы беларусізацыі. Асабліва моцны супраціў сустракаўся на ўсходзе [БССР]. Насельніцтва Оршы скардзілася, што беларусізацыя абмяжоўвае іх сацыяльную мабільнасць. ...Збыць мову (*to market a language*), на якой гаварылі пераважна непісьменныя сяляне, выявілася нялёгкай задачай", – заключае даследчык[40].

Цікавасць тут уяўляюць перадапошнія сказы, якія ілюструюць прыведзеныя перад гэтым высновы пра непрыняцце беларусізацыі. У тэксце манаграфіі паказваецца, што гэтыя звесткі аўтар узяў са зборніка апублікаваных архіўных матэрыялаў пад рэдакцыяй Уладзіміра Коршука і Расціслава Платонава, дзе можна знайсці перадрук артыкула старшыні ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова "У паездцы па Аршаншчыне", апублікаванага раней у газеце "Савецкая Беларусь" 26–28 траўня 1926 г.[41].

Пры разглядзе першакрыніцы (артыкул Чарвякова) можна выявіць, што на с. 148, названай у манаграфіі па спасылцы, згадак пра насельніцтва Оршы няма і цытаваныя старонкі першакрыніцы не супадаюць. Але аднясем гэта чарговы раз да тых тэхнічных або выпадковых памылак, якія могуць паўстаць у тэксце даследавання па прыкрым непаразуменні.

Больш істотна, аднак, тое, пра што сапраўды пішацца ў арыгінале артыкула Аляксандра Чарвякова. У наступнай цытаце прыведзены найбольш важныя і рэлевантныя фрагменты першакрыніцы, з поўным тэкстам якой можна азнаёміцца па пазначанай ніжэй спасылцы. Чарвякоў адзначае, што «ўсім добра памятна, якія адносіны да беларусізацыі былі на Аршаншчыне з боку апаратаў

[40] Rudling, P. A. The Rise... P. 217.

[41] Гл. спасылку ў манаграфіі Рудлінга на: Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 148; З артыкула старшыні ЦВК БССР А. П. Чарвякова "У паездцы па Аршаншчыне" // Савецкая Беларусь. 1926. 26–28 мая. (Беларусізацыя... С. 147–149.)

розных гатункаў. У пачатку гэтай працы беларусізацыя была "жупелам", якім пужалі малых дзяцей. Апіралася ўсё гэта на злоснай агітацыі несвядомых і варожых Савецкай уладзе элементаў, якія спалі і марылі аб тым, каб у тым ці іншым выглядзе вярнуць "единую и неделимую Россию". Кожны сумленны чалавек добра разумее, што "беларусізацыя" – гэта ў першую чаргу прыстасаванне партыйнага, савецкага, прафесіянальнага і іншых апаратаў да мовы самога жыхарства горада, вёскі, мястэчка, што гэта пытанне вынікае з патрэбы захапіць і ўцягнуць у працу па замацаванні Саветаў самых шырокіх і глыбокіх мас рабочых, сялян і наогул працоўных. Але страхі перад гэтай новай пастаноўкай пытання пасля многіх вякоў прыгнечання і прывіўкі думкі, што без "русского языка" ў людзі не выйдзеш, былі таксама вельмі моцныя. Таму ў першыя дні з беларусізацыяй было тугавата. Трэба было пераходзіць на шлях беларусізацыі вельмі асцярожна. Пайшла Аршаншчына ціха і без шуму па гэтым шляху. Цяпер можна адзначыць ужо шэраг дасягненняў...»[42].

Відавочна: абапіраючыся на артыкул Чарвякова, прыведзенае вышэй меркаванне Рудлінга пра тое, што "насельніцтва Оршы скардзілася, што беларусізацыя абмяжоўвае іх сацыяльную мабільнасць", не можа быць зроблена ў такой, па меншай меры, катэгарычнай форме. Грунтуючыся на газетным артыкуле, які працытаваў аўтар разгляданай манаграфіі, пры жаданні можна гэтак жа катэгарычна сцвярджаць і пра поспехі беларусізацыі ("Пайшла Аршаншчына ціха і без шуму па гэтым шляху. Цяпер можна адзначыць ужо шэраг дасягненняў..."). Прычым у тым самым артыкуле Чарвякова можна знайсці згадку пра тое, што варожа да беларусізацыі ставілася не насельніцтва, а перш за ўсё "апараты розных гатункаў" і г. д.

[42] З артыкула старшыні ЦВК БССР А. П. Чарвякова "У паездцы па Аршаншчыне" // Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 147.

Наступную неадпаведнасць высноваў манаграфіі і тэксту першакрыніц можна знайсці ў прыведзеным Рудлінгам фрагменце даклада першага сакратара ЦК КПБ(б) Вільгельма Кнорына ад 24 лістапада 1927 г.[43]. У стэнаграме даклада Кнорына можна прачытаць наступнае: «Але наша становішча ўскладняецца дзвюма акалічнасцямі: па-першае, значная частка беларускіх рабочых у горадзе русіфікавана, прайшла расійскую школу, з прычыны чаго не можа карыстацца кнігаю на роднай мове. Значная частка яўрэйскіх рабочых прывыкла карыстацца ў міжнацыянальных адносінах расійскаю моваю. Па-другое, значная частка сялян ведае расійскую грамату, але ведае мала расійскіх слоў, з прычыны чаго з'яўляецца паўпісьменнай»[44].

Для параўнання прывядзем высновы, да якіх прыходзіць Рудлінг на падставе працытаванага вышэй даклада Кнорына: "Беларусы ўмелі чытаць і пісаць на рускай мове, але часта мелі абмежаваны запас слоў. Беларускія яўрэі былі да значнай ступені русіфікаваныя і пераходзілі на рускую мову ў неяўрэйскамоўным асяроддзі (*non-Yiddish speaking environments*), **у той час як значная частка яўрэяў цалкам перастала выкарыстоўваць ідыш дзеля рускай мовы** [вылучана намі. – *А. М.*]"[45]. Безумоўна, аналітычныя высновы на падставе вывучэння крыніц у даследаванні рабіць неабходна, але навошта пры гэтым прыпісваць першакрыніцы звесткі або фрагменты, якіх там няма? Магчыма, у нашым выпадку гэтае пытанне застанецца хутчэй рытарычным.

Пасля разгледжаных прыкладаў ужо досыць складана ўспрымаць без крытыкі, або, па меншай меры, без пільнай крытычнай ацэнкі іншыя высновы даследчыка, напрыклад,

[43] З поўным тэкстам даклада можна пазнаёміцца ў зборніку: Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 119–121.

[44] З даклада першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Г. Кнорына "Справаздача ЦК XI З'езду КП(б)Б" // Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 120.

[45] Rudling P. A. The Rise… P. 225.

пра тое, што павелічэнне тэрыторыі БССР у выніку прывяло не да планаванага ўмацавання, а, наадварот, да паслаблення пазіцый нацыянальных камуністаў і г. д.

У некаторых выпадках мы маем справу з даволі аднабокім і, можна нават сказаць, крыху маніпулятыўным падыходам да праблематыкі, калі аўтар у сваіх высновах і фактах, якія прыводзяцца на іх карысць (як правіла, яны тычацца непрымання і супраціву гвалтоўнай беларусізацыі), разглядае ўсяго толькі адзін бок праблемы, у выніку чаго ўзнікае нейкая аднабаковасць у наступных сцвярджэннях і высновах. Прыклад такога інтэрпрэтацыйнага падыходу з мэтавай выбаркай звестак, якія падыходзяць для пэўных высноваў, мы ўжо прыводзілі (гл. пра ўспрыманне кадыфікаванай беларускай мовы сялянамі). У даследаванні Пэра Рудлінга такія прыклады не адзінкавыя. Напрыклад, у раздзеле "Супраціў беларусізацыі" сцвярджаецца, што ў некаторых абласцях БССР беларускія каталікі адмаўляліся пасылаць сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы, патрабуючы замест гэтага адкрыцця асобных школ з польскай мовай навучання[46]. Само па сабе такое сцвярджэнне цалкам слушнае, і пацвярджэнне яму можна знайсці ў шэрагу дакументаў і архіўных крыніц. Тым не менш, існуе і іншы бок дадзенага пытання, які ў даследаванні Пэра Рудлінга ўжо не згадваецца: а што ж часцей за ўсё адбывалася пасля адкрыцця падобных школ з польскай мовай навучання? Як сведчыць шэраг архіўных дакументаў (гаворка ідзе перш за ўсё пра рэгулярныя справаздачы школьнай інспекцыі Народнага камісарыята асветы БССР), вялікая частка такіх школ неўзабаве пераводзілася зноў на беларускую мову навучання, бо настаўнікі адзначалі, што навучэнцы не разумеюць польскай мовы (гл., напрыклад, справаздачы па Полацкай[47] і іншых абласцях за 1926 г.[48]. Падобныя выпадкі сустракаліся як у Полацкай, так і ў Гомельскай

[46] Тамсама. С. 227.
[47] НАРБ. Ф. 701. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 104.
[48] НАРБ. Ф. 701. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 104; Ф. 42. Воп. 1. Спр. 275, Арк. 263–263адв.

абласцях, г. зн. як ва ўсходніх, так і ў заходніх рэгіёнах рэспублікі).

Таму польскія школы для беларускіх каталіцкіх вучняў планавалася паступова перавесці на беларускую мову навучання з захаваннем абавязковых гадзін вывучэння польскай мовы[49]. З гэтай мэтай ствараліся спецыяльныя камісіі ў складзе інспектара сацыяльнага выхавання, інспектара польскай культуры і намесніка культурна-асветніцкай дзейнасці мясцовага райвыканкама[50]. Пры гэтым пераход на беларускую мову навучання павінен быў ажыццяўляцца паступова і негвалтоўна. Акрамя таго, з пераводам павінны былі пагадзіцца бацькі вучняў[51]. Пры гэтым аптымальным лічылася растлумачыць насельніцтву прычыну пераходу школы на родную (у дадзеным выпадку беларускую) мову навучэнцаў[52].

Аднабаковая падборка фактаў і матэрыялаў, якая назіраецца і ў іншых частках кнігі, часта складваецца аўтарам манаграфіі ў даволі маніпулятыўныя высновы. Пасля падачы фактаў, якія сведчаць пра шматлікія ганенні на носьбітаў рускай мовы ў "нацыяналізаваным" Беларускім дзяржаўным універсітэце (БДУ), Пэр Рудлінг прыводзіць звесткі пра колькасны нацыянальны склад яго студэнтаў у 1922–1927 гадах. Пры гэтым адзначаецца, што у 1925 г. колькасць студэнтаў беларускай нацыянальнасці ў БДУ складала толькі 40% ад усёй колькасці студэнтаў. Такія працэнтныя суадносіны ўлады палічылі недастатковымі і перад пачаткам 1924/1925 навучальнага года з БДУ было выключана мноства студэнтаў, чыё веданне беларускай мовы было недастатковым. У выніку, адзначае Рудлінг, у 1925–1926 гадах колькасць беларускіх студэнтаў у БДУ, Сельскагаспадарчай акадэміі і Ветэрынарным інстытуце ўзрасла да 59%. У студзені 1927 г. задаволены

49 Резолюции Пленума ЦК КП(б)Б (25–29 января 1925 г.). Минск, 1925. С. 7.

50 НАРБ. Ф. 701. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 31адв.

51 Аб нацпалітыцы. Рэзолюцыя пленуму ЦК КП(б)Б. Кастрычнік 1925 году // Пастановы і рэзолюцыі УсеКП(б) і КП(б)Б па нацыянальным пытаньні. Менск, 1926. С. 62.

52 НАРБ. Ф. 701. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 31адв.

(*satisfied*) сакратар ЦК КП(б) БССР Крыніцкі ўжо рапартаваў у ЦВК аб новай, цяпер прымальнай, колькасці беларускіх студэнтаў[53].

Пасля прачытання гэтага фрагмента ствараецца ўражанне, што пашырэнне складу беларускіх студэнтаў, да радасці ўладаў і задавальнення Крыніцкага, адбылося за кошт выключэння рускамоўных студэнтаў, што, у сваю чаргу, не можа не выклікаць пачуцця абурэння з-за несправядлівасці, праяўленай у дачыненні да рускамоўных студэнтаў, і нават ганенняў, якія лагічна сталі адным з планамерных вынікаў правядзення нацыянальнай палітыкі.

На жаль, Пэр Рудлінг не прыводзіць сапраўднай прычыны павелічэння колькасці беларускіх студэнтаў у складзе названых ВНУ. Гэтай прычынай была каранізацыя студэнцкіх шэрагаў ці, іншымі словамі, пазітыўная дыскрымінацыя абітурыентаў беларускай нацыянальнасці на ўступных іспытах у ВНУ[54]. Менавіта ўвядзенне пяцідзесяціпрацэнтных квот на колькасць прынятых студэнтаў сялянскага паходжання (а ва ўмовах БССР гэта амаль аўтаматычна азначала студэнтаў беларускага паходжання) дало магчымасць у згаданым 1925/1926 навучальным годзе дасягнуць павелічэння колькасці беларускіх студэнтаў у складзе ВНУ. Тое, што дадзеная сістэма выявілася неэфектыўнай з-за нізкага ўзроўню падрыхтоўкі прынятых студэнтаў і таму неўзабаве ў большасці ВНУ (акрамя Камуністычных універсітэтаў) была афіцыйна адменена (хоць і працягвала негалосна выконвацца на практыцы), вядома ж, не сакрэт, але гэта ўжо тэма для іншага даследавання.

Можна таксама спытацца, чаму пры апісанні супраціву пранікнення беларускай мовы ў ВНУ і ў навучальныя дысцыпліны з боку выкладчыкаў[55] Рудлінг не згадвае

[53] Rudling P. A. The Rise… P. 234.

[54] О приёме в высшие учебные заведения БССР в 1925–26 учебном году: Постановление СНК БССР, 22 мая 1925 г. // Собрание Узаконений и Распоряжений Рабоче-крестьянского правительства БССР. 1925. № 27. Отд. 1. Ст. 235. С. 1–2.

[55] Rudling P. A. The Rise… P. 230.

прыватныя факты паспяховага супрацоўніцтва кіраўніцтва ўніверсітэта (пра-беларусізацыйнага рэктара У. Пічэты) і выкладчыкаў у пытанні пераводу навучання на беларускую мову, а таксама частыя сведчанні інтэнсіўнай падтрымкі выкладчыкамі беларусізацыі навучання? У гэтым выпадку гаворка ідзе, перш за ўсё, пра масавую падтрымку беларусізацыі на педагагічным факультэце БДУ, які колькасна нашмат перавышаў астатнія факультэты той самай ВНУ[56].

Далей Рудлінг робіць выснову, што «“нацыяналізацыя” БССР была больш паспяховай, чым у шэрагу іншых рэгіёнаў СССР»[57]. Дадзенае сцвярджэнне ўжо само па сабе досыць спрэчнае, паколькі нацыянальная палітыка ў БССР праходзіла на працягу больш кароткага перыяду, чым у некаторых іншых рэспубліках СССР (напрыклад, УССР). Пры гэтым даследчык спасылаецца на адну з галоўных публікацый Уладзіміра Коршука і Расціслава Платонава, прысвечаных беларусізацыі. Пры вывучэнні ж дадзенай спасылкі ў цытаванай крыніцы такую інфармацыю пацвердзіць ці знайсці немагчыма, бо з мноства звестак на названай і наступных старонках Платонаў і Коршук пішуць толькі пра тое, што беларусізацыя не была з’явай, уласцівай выключна БССР. “Такая ж палітыка праводзілася ва ўсіх нацыянальных рэспубліках і рэгіёнах СССР з улікам іх асаблівасцей”[58].

Падобныя прыклады ў манаграфіі Рудлінга, на жаль, нярэдкія. У публікацыі С. Крушынскага, цытаванай па спасылцы на с. 296, няма прыведзеных у тэксце манаграфіі звестак[59], цытаты з працы М. Касцюка[60] не адпавядаюць

[56] Гл. падрабязней напр.: Андрэева Е. Г., Лыч Л. М. Шляхі сталення. Да 70-годдзя Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Мінск, 2001; Marková A. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita? Praha, 2012. S. 52–95 і інш.

[57] Rudling P. A. The Rise… P. 229.

[58] Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 13.

[59] Гл.: Krushinsky S. Byelorussian Communism and Nationalism: Personal Recollections. New York, 1953. P. 30.

[60] Гл.: Касцюк М. Бальшавіцкая сістэма… С. 43.

сцвярджэнню Рудлінга пра тое, што ГПУ ідэнтыфікавала 108 удзельнікаў дзейнасці Саюза Вызвалення Беларусі, – карэктней сказаць, што такой інфармацыі ў Касцюка наогул не змяшчаецца[61]. У манаграфіі прыводзіцца скажоная інтэрпрэтацыя даклада першага сакратара ЦК КП(б)Б А. Крыніцкага ў яго ацэнцы адносін партыі да дарэвалюцыйнага беларускага нацыяналізму і яго адлюстравання ў “Гісторыі Беларусі ў XIX – пачатку XX ст.” У. Ігнатоўскага[62] і г. д.

Неабходна адзначыць, што колькасць падобных выпадкаў некарэктнай і часам нават адвольнай інтэрпрэтацыі першакрыніц перавышае колькасць прыведзеных тут прыкладаў, але рамкі часопіснага артыкула не дазваляюць падаць іх у поўным аб’ёме.

Кніга “Узлёт і падзенне беларускага нацыяналізму, 1906–1931” Пэра Андэрса Рудлінга ўтрымлівае багатую фактаграфічную інфармацыю, што датычыцца адносна нядаўніх падзей беларускай гісторыі пачатку XX ст. і асвятляе паслядоўнае развіццё галоўных беларускіх нацыянальных праектаў згаданага перыяду. Тым не менш, у публікацыі не можа не застацца незаўважаным недазваляльная колькасць выпадкаў некрытычнай працы даследчыка з крыніцамі, якая вядзе да некаторых выпадкаў мэтавай маніпулятыўнай падборкі фактаў і частай дэзынтэрпрэтацыі выкарыстаных крыніц.

61 Rudling P. A. The Rise… P. 297.

62 Тамсама. P. 237–238. Параўн. тэкст цытаванага арыгінала ў: Беларусізацыя: 1920-я гады: дакументы і матэрыялы: зб. дак. / пад рэд. У. К. Коршука і інш. Мінск, 2001. С. 117–118.

# Польская школьная палітыка на Палессі: вядомае і невядомае*

Юрась Бачышча

Кнігу Анджэя Смалярчыка можна назваць энцыклапедыяй сацыяльнага жыцця на Палессі ў міжваенны час. Аўтар вельмі шматгранна і дасканала разбірае самыя розныя аспекты, звязаныя са школьнай палітыкай на Палессі. Падае іх на добра прапісаным палітычным, культурным і побытавым фоне. Пад увагу даследчыка трапляе палітыка і цэнтральных, і мясцовых грамадзянскіх і школьных урадаў, пры гэтым добра паказана яе супярэчлівасць і непаслядоўнасць, з усёй багатай палітрай поглядаў як на саму сутнасць і перспектыву развіцця Палесся, так і на задачы адукацыйнай палітыкі на гэтай тэрыторыі. Аналізуецца багатая статыстыка, якая дазваляе прасачыць пэўную дынаміку ў розных характарыстыках вучняў, настаўнікаў, колькасці і якасці школьных будынкаў, дзейнасці розных арганізацый, што садзейнічалі асвеце і ажыццяўлялі яе разам са школай ці пазашкольна.

Кніга налічвае 541 старонку тэксту з карыснымі дадаткамі (вытрымкі з дакументаў, статыстычныя табліцы і фотаздымкі), а таксама індэксам асабовых імёнаў. Нягледзячы на тое, што праца прысвечана адносна невялікай тэрыторыі, добра было б таксама мець і індэкс геаграфічных назваў, які, на жаль, адсутнічае.

Уступ да працы даволі вялікі (11–49), ён прысвечаны характарыстыцы Палесся як геаграфічнага, так і этнічна-

* Smolarczyk, Andrzej. Szkolnictwo powszechne i oświata pozaszkolna w województwie Poleskim w latach 1919–1939. Warszawa, 2014. 560 s.

культурнага, канфесійнага, палітычнага, сацыяльнага, прыроднага і побытавага рэгіёна. У аўтара атрымалася перадаць спецыфіку Палесся як незвычайнага рэгіёна для даследавання, які, нягледзячы на розныя не вельмі спрыяльныя ўмовы для жыцця, вылучаўся найбольшым прыростам насельніцтва ва ўсёй Польшчы. Рознабакова акрэсліўшы адметнасць абшару, аўтар спыняецца на тлумачэнні тых сэнсаў, якія ён будзе ўкладаць у назву *Палессе*, а менавіта – для абазначэння *геаграфічнага краю* і, акрамя таго, як сінонім назвы *Палескае ваяводства*. Сам уступ дэманструе, што аўтар глыбока разабраўся ў складанасці гісторыі і побыту Палесся. Напрыканцы ўступу даецца даволі падрабязная характарыстыка архіўных матэрыялаў, якія выкарыстоўваліся аўтарам пры падрыхтоўцы манаграфіі. Аснову іх склалі матэрыялы Брэсцкага дзяржаўнага архіва і варшаўскіх архіваў (Archiwum Akt Nowych, Centralne Archiwum Wojskowe w Warszawie). Аўтар адзначае слабадаследаванасць Палесся, паколькі архіўныя дакументы сталі даступнымі ў былых савецкіх архівах толькі з 1989 г. Даследчык таксама звяртае ўвагу на ўжо апублікаваныя зборнікі крыніц, успаміны і прэсу, што дазваляе яму ўпрыгожыць “каларытам штодзённасці” сухія фармалізаваныя адміністрацыйныя паведамленні. Папярэднія даследаванні па сваёй тэматыцы А. Смалярчык падзяляе на тры этапы: 1918–1939, 1945–1989, 1989 г. – сучаснасць.

За мэту даследавання аўтар вызначае рэканструкцыю сістэмы школьнай асветы, агульнай і пазашкольнай, у Палескім ваяводстве ў 1919–1939 г. Ужо ад пачатку даследчык акрэслівае шырокі спектр актуальных і дыскусійных пытанняў, якія ён спрабуе закрануць у сваёй працы. Значная частка іх датычыць беларускага пытання, хоць комплексна разглядаецца і спадчына іншых этнасаў, якія жылі на Палессі. Варта адзначыць, што сфармуляваныя пытанні досыць паслядоўна і поўна ахопліваюць найбольш важныя аспекты вывучанай тэмы. Так, аўтар падымае пытанні, ці пашырэнне сеткі школ на Палессі з боку польскіх уладаў мела перадусім задачу пашырэння польскасці і ўмацавання польскай прысутнасці на

ўсходніх землях, ці мела пашырэнне двухмоўных школ на мэце абмежаванне ўкраінскага і беларускага школьніцтва, ці дзяржаўныя ўлады выкарыстоўвалі школьніцтва ў барацьбе з камуністычнымі ўплывамі, ці існавала для беларускага насельніцтва Палескага ваяводства, акрамя камуністычнага руху, іншая палітычная нацыянальная альтэрнатыва і г. д.

Шэраг пытанняў закранаюць яўрэйскую меншасць – напрыклад, ці разумелі дзяржаўныя ўлады яўрэйскае школьніцтва толькі як школьніцтва меншасці і ці яўрэйская меншасць на тэрыторыі Палескага ваяводства была найбольш палітычна і культурна актыўнай супольнасцю?

Некаторыя пытанні скіраваны на агульнае высвятленне, ці выконвала створаная сістэма польскага школьніцтва сваю місію ўсеагульнай асветы, ці ідэі дзяржаўнага выхавання, пашыраныя санацыйнымі ўладамі, спрыялі яднанню народа ў межах адной дзяржавы і г. д.

Аўтар адкідае польскацэнтрычныя тлумачэнні гістарычных падзей і ўсведамляе, што бачанне падзей скрозь прызму тагачаснай польскай адміністрацыі – не зусім поўнае і аб'ектыўнае, часта змяншае ролю школьніцтва нацыянальных меншасцяў і перабольшвае дасягненні школьніцтва польскага.

Даследчык дае шырокі агляд навуковай літаратуры па тэме, найперш польскай, а таксама беларускай і ўкраінскай. Аналізуецца не толькі літаратура, наўпрост звязаная з тэмай, але і ўскосная, напрыклад, па палітыцы польскіх уладаў адносна ўсходніх земляў або па праблематыцы нацыянальных меншасцяў.

У храналагічных межах даследавання пытанне можа выклікаць ніжняя мяжа, якая бярэ адлік не з Рыжскай дамовы, а з 1919 г. Даследчык тлумачыць яе тым, што ўжо ў тым годзе польскія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Палесся, была створана новая арганізацыйная структура – Цывільны Урад Земляў Усходніх (ЦУЗУ), а ў межах апошняга паўстаў асобны Аддзел Асветы, якому была даручана справа адукацыі на занятых тэрыторыях.

У аснову структуры працы пакладзены праблемна-храналагічны падыход, які, паводле самога аўтара, выклікаў

некаторыя паўторы, але дазволіў найлепш паказаць узаемасувязь прычын і іх наступстваў паміж палітычнымі і школьнымі пытаннямі, з чым можна пагадзіцца.

Пачынаецца агляд школьнай палітыкі з часоў узнікнення Цывільнага Урада Земляў Усходніх. А. Смалярчык піша, што на пачатку 1920-х адукацыйная палітыка ў дачыненні да меншасцяў была даволі лагоднай і што Ю. Пілсудскі лічыў задачай ЦУЗУ арганізацыю школьнага навучання з улікам пажаданняў жыхароў падначаленых тэрыторый. Праўда, у рэальнасці сітуацыя ўскладнілася тым, што яўрэйскае насельніцтва схілялася да арганізацыі школ на рускай мове, а мясцовыя палякі і беларусы не хацелі рускай мовы ў школе. Як доказ прыводзіцца допіс Вацлава Іваноўскага "Мемарыял у справе беларускай" ад 16 сакавіка 1920 г. Таму польскія ўлады сутыкнуліся з дылемай – дазволіць навучанне па-руску ці пакінуць частку насельніцтва ўвогуле без адукацыі. Паколькі не хапала настаўнікаў, якія маглі б вучыць на польскай ці беларускай мовах, то для выкладання запрашаліся і былыя настаўнікі рускіх школ. Урэшце ўрад схіліўся да таго, што ў інтарэсах мясцовых жыхароў лепш мець школы хоць бы з рускай мовай навучання, чым не мець ніякіх.

Аўтар адзначае, што на ўсходніх землях існавала свабода выбару мовы навучання для кожнай нацыянальнай меншасці. Мясцовае насельніцтва выбірала рускія або польскія школы, не праяўляючы вялікай цікавасці да школ беларускіх, што, на думку А. Смалярчыка, было звязана з прагматычнымі жыццёвымі інтарэсамі бацькоў, бо польскія школы стваралі лепшыя кар'ерныя магчымасці, а руская мова лічылася "мовай высокай культуры". Узаемадачыненні ўладаў са школамі нацыянальных меншасцяў зводзіліся да магчымасці атрымання дзяржаўнай дапамогі тымі школамі, дзе прынамсі 2/3 вучняў належалі да пэўнай нацыянальнай меншасці, на чыёй мове вялося навучанне.

Распараджэнне Часовага камісара ўсходніх земляў ад 18 лістапада 1919 г. гарантавала нацыянальным меншасцям свабоду навучання на роднай мове, праўда, пазней гэта ставілася ў залежнасць ад згоды мясцовых гмінаў

і грамад. Аўтар адзначае даволі хуткія тэмпы арганізацыйнага станаўлення школ у акрузе ў 1919–1920 г. Прычым паведамляецца, што прыкладна з 600 наяўных школ у 1920 г. каля 455 было польскіх, 34 беларускія, 76 рускіх і 45 яўрэйскіх.

Па выніках агляду станаўлення школьніцтва ў першыя гады польскага кіравання даследчык прыходзіць да высновы, што ў гэты час беларускае школьніцтва не было ўціскаными і карысталася падтрымкай ЦУЗУ “нават коштам школьніцтва польскага”, але пазней сітуацыя пачала змяняцца і ўмовы для беларускіх школ пачалі пагаршацца.

Раздзел другі (67–74) завяршаецца паказам тэрытарыяльных трансфармацый акругі, звязаных з Рыжскім трактатам 18 сакавіка 1921 г., які падзяліў Палессе на дзве часткі – польскую і савецкую. На польскай частцы ўтварылася Палескае ваяводства, уключыўшы часткі тэрыторый Гродзенскай, Мінскай і Валынскай губерняў.

Трэці раздзел (75–110) прысвечаны аналізу палітыкі дзяржаўных уладаў адносна школьніцтва ў Палескім ваяводстве. Аўтар адзначае асаблівую зацікаўленасць уладаў у фармаванні структуры найперш польскай асветы на “крэсах”, засяродзіўшы асноўную ўвагу спачатку на элементарных (пачатковых) школах, якія найбольш масава ахоплівалі вучняў. Школьная палітыка ўсяляк узгаднялася з нацыянальнай палітыкай і мусіла спрыяць асіміляцыі нацыянальных меншасцяў і пашырэнню польскіх уплываў найперш сярод палешукоў, якія нацыянальна не вызначыліся.

Аўтар пазбягае спрошчанага погляду на адукацыйную палітыку і паказвае супярэчнасці ў стаўленні да гэтага пытання ўнутры польскіх палітычных колаў з боку прадстаўнікоў асіміляцыйнага і федэрацыйнага лагераў. Калі першыя выступалі за поўную ліквідацыю школ нацыянальных меншасцяў ці за моцнае абмежаванне іх, то федэралісты дапускалі свабоднае развіццё ўкраінскіх і беларускіх школ.

Даследчык адзначае, што палітыка прасоўвання і пашырэння польскіх школ за кошт памяншэння колькасці

школ меншасцяў выклікала напружанне і пераўтварылася ў сапраўдную “бітву за школу”. ЦУЗУ выконваў функцыю недапушчэння і ўлагоджвання гэтых канфліктаў. Сітуацыя беларусаў сярод усіх нацыянальных меншасцяў была найгоршай. Хоць яны і ўтваралі пераважную большасць насельнікаў краю, але складаліся з сялян і малакольказнай інтэлігенцыі, мелі слабую нацыянальную свядомасць і найгоршы эканамічны стан.

На думку А. Смалярчыка, беларускае школьніцтва стала найбольшай праблемай для ЦУЗУ на паўночна-ўсходніх тэрыторыях, дзе “нямецкая акупацыя абудзіла жаданне беларускай меншасці да адкрыцця нацыянальных школ”. Таму пасля заняцця гэтых тэрыторый польскія ўлады былі вымушаны пайсці на ліквідацыю беларускіх школ, утвараючы замест іх польскія. Беларускія дзеячы (аўтар мае на ўвазе В. Іваноўскага) вінавацілі ўлады, што тыя, баючыся ўзнікнення беларускіх школ, садзейнічалі існаванню школ рускіх. Даследчык піша, што хоць польскія ўлады сапраўды маглі бачыць у рускіх школах менш небяспекі, чым у беларускіх, яны ўсё ж захоўвалі рускія школы з прычыны часовых арганізацыйных цяжкасцяў – недахопу настаўнікаў і наяўнасці добра падрыхтаваных рускіх настаўнікаў.

З 1920 г. з-за пагрозы бальшавіцкай акупацыі ў польскай палітыцы перамагла інкарпарацыйная канцэпцыя, якая адкідала магчымасць федэральнага ўладкавання Рэчы Паспалітай. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да таго, што ў Варшаве схіліліся да забароны і ліквідацыі беларускіх і ўкраінскіх школ як неадпаведных польскім інтарэсам на “крэсах”. Апошнія прадугледжвалі пашырэнне польскасці на ўсходзе.

Аўтар адзначае непаслядоўнасць палітыкі ЦУЗУ, які, з аднаго боку, ліквідаваў беларускія школы (на Гродзеншчыне зачынілі 153), а з іншага – адкрываў курсы для падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў. Так, даследчык згадвае арганізацыю адначасова пяцярых курсаў для 1500 беларускіх настаўнікаў у канцы 1919 г. (2 у Вільні і 3 у Слуцку), бальшыня выпускнікоў якіх не атрымалі працы з-за ліквідацыі саміх школ.

Сітуацыя паўтарылася ў 1922 г. Побач з паступовай ліквідацыяй беларускіх школ Браніславу Тарашкевічу было дазволена арганізаваць курсы для беларускіх настаўнікаў, у Кракаве таксама навучаліся 250 беларускіх настаўнікаў. Аднак выпускнікам гэтых курсаў не дазволілі працаваць на беларускіх землях, усіх іх накіравалі па правы бок Віслы.

У выніку такой палітыкі вясной 1923 г. у Палескім ваяводстве не засталося ніводнай беларускай школы. Далей на поўнач існавалі 36 беларускіх школ у Віленскім ваяводстве і адна ў Навагрудскім. Але даследчык зазначае: гэта не азначала яшчэ поспеху ў паланізацыі "крэсаў", бо многія дзеці не разумелі польскай мовы і многія бацькі, асабліва праваслаўныя, байкатавалі польскую школу.

Пасля ліквідацыі нацыянальных школ мовы меншасці маглі дапускацца толькі як адзін з прадметаў ці ў якасці дапаможных. Стаўка была зроблена на павышэнне метадычнай і навуковай якасці польскіх школ, каб выйграваць канкурэнцыю з прыватнымі нацыянальнымі школамі. Адной з галоўных мэтаў школы станавілася нацыянальнае ўзгадаванне вучняў, якія мусілі стаць "апосталамі" польскай культуры на "крэсах".

Праўда, у хуткім часе, каб зменшыць напружанне, улады былі вымушаны зноў перагледзець сваю палітыку, вынікам чаго стала ўстава С. Грабскага ад 31 ліпеня 1924 г. Мэтай выхавання вучняў зрабілася падрыхтоўка добрых грамадзян Польшчы. Адказам на гэтую ўтраквістычную ўхвалу, якая распачала стварэнне двухмоўных польска-беларускіх і польска-ўкраінскіх школ, стала крытыка з боку беларускіх паслоў і збор заяў за адкрыццё беларускіх школ.

У Палескім ваяводстве, дзе былі ліквідаваны ўсе дзяржаўныя беларускія і ўкраінскія школы і адсутнічалі прыватныя школы гэтых меншасцяў, польскі ўрад карыстаўся канцэпцыяй стварэння "польскага кліна" на Палессі. Гэты рэгіён выявіўся найбольш спрыяльным для асіміляцыйнай дзейнасці з-за адсутнасці актыўнага нацыянальнага руху меншасцяў, і таму мэтай польскіх школ было пашырэнне польскасці сярод палескай моладзі.

Нацыянальныя меншасці ўзамен за павышэнне супольнай адказнасці за лёс польскай дзяржавы мусілі атрымаць магчымасць свабоднага культурнага развіцця. У гэтым палягала розніца мэтаў у нацыянальным выхаванні эндэкаў і дзяржаўным выхаванні прыхільнікаў санацыі. Апошнія не адкідалі выхавання нацыянальнага, імкнучыся дамагчыся лаяльнасці да польскай дзяржавы з боку меншасцяў у супрацьвагу палітыцы папярэднікаў, якая супрацьпастаўляла меншасці дзяржаве і павялічвала варожасць. Асаблівая роля тут адводзілася асобе настаўніка. На пасады настаўнікаў, нягледзячы на дэкларацыю нацыянальнай роўнасці, звычайна браліся настаўнікі польскай нацыянальнасці з адпаведным прыхільным стаўленнем да дзяржавы, патрыятычныя, ураўнаважаныя і тактоўныя. У час панавання санацыйнага рэжыму ў цэнтр увагі ставілася выхаванне дзяржаўнага патрыятызму і грамадзяніна Польшчы. Вялікае значэнне надавалі асобе Ю. Пілсудскага, што прыводзіла да фармавання культу.

На думку аўтара, з 1933 г. адбыўся новы паварот у бок эндэцкай канцэпцыі нацыянальнага выхавання. 18 лістапада куратар акругі сфармуляваў заданне: “Палессе мусіць быць асімілявана для польскай культуры”. На гэты раз увага была звернута на выкладанне рэлігіі ў школах з мэтай пераводу яго на польскую мову. Даследчык змяшчае некаторыя статыстычныя звесткі, якія паказваюць пэўныя тэндэнцыі. Больш чым у палове школ – 638 з 1176 – рэлігія выкладалася на мясцовай мове, звычайна праваслаўнымі святарамі. У 250 школах выкарыстоўвалася польская мова і ў 118 школах – руская. Цікава, што рускамоўнае выкладанне рэлігіі канцэнтравалася ў Кобрынскім (68 рускамоўных школ і толькі 31 з мясцовай мовай) і Пружанскім паветах (43 рускамоўныя і 49 з мясцовай мовай выкладання рэлігіі). Яшчэ некалькі школ з рускай мовай выкладання было ў Косаве-Палескім і Косаўскім павеце (7 рускамоўных і 77 з мясцовай мовай). У той жа час у іншых гарадах і мястэчках руская мова ў выкладанні рэлігіі адсутнічала. Школы з мясцовай мовай выкладання былі сканцэнтраваны ў Брэсце і Брэсцкім павеце (178),

Пінску і Пінскім павеце (147), Драгічыне і Драгічынскім павеце (87) і інш. Моўная статыстыка выкладання рэлігіі паказвае, што праваслаўнае духавенства і вернікі найбольш былі зрусіфікаваны на Кобрыншчыне. Праўда, з падобнай статыстыкай варта быць асцярожным, бо невядомы крытэрыі і спосаб вызначэння мовы выкладання, да таго ж падыходы саміх урадавых статыстаў маглі розніцца, ды і статыстыка наступнага года паказвае пэўную ўмоўнасць статыстыкі 1933 г.

Тым не менш статыстыка 1933 г. паказала, што польская мова шырока не ўжывалася. Ёю карысталіся толькі каталіцкія і евангельскія святары ў выкладанні. Таму была распачата акцыя па пераводу навучання праваслаўнай рэлігіі з рускай і мясцовай моў на польскую. Каб настаўнікі не праігнаравалі гэтага, на занятках рэлігіі мусіў прысутнічаць сам кіраўнік школы ці нехта з іншых наглядчыкаў. Ужо ў 1934 г. колькасць школ з выкладаннем праваслаўнай рэлігіі на мясцовай мове скарацілася амаль удвая (з 638 да 336), замест мясцовай мовы ўводзілася мова польская. Настаўнікаў, якія не згаджаліся з новымі патрабаваннямі, замянялі.

Паколькі Палессе межавала з савецкай тэрыторыяй, то вялікая ўвага ў школьным навучанні аддавалася ваеннай падрыхтоўцы. Даследчык згадвае, што вельмі часта настаўнікамі станавіліся былыя польскія афіцэры рэзерву. Ім аддавалі перавагу асабліва на памежных тэрыторыях.

Адначасова ўзмацненне небяспекі з боку суседніх дзяржаў прывяло да ўзмацнення аўтарытарных тэндэнцый і ў польскім урадзе, што ў школьнай палітыцы вяло да панавання нацыянальнай прапольска скіраванай канцэпцыі выхавання замест дзяржаўніцкай. На Палессі такі падыход умацаваўся ўжо на пачатку 1930-х. Ён прадугледжваў поўнае спыненне беларускіх ці ўкраінскіх уплываў, што вяло да палітычнай і культурнай маргіналізацыі нацыянальных меншасцяў у рэгіёне. У другой палове 1930-х у Палескім ваяводстве перад школьнымі ўладамі былі пастаўлены дзве задачы: “развіццё ў нацыянальна неўсвядомленым палешуку пачуцця прыналежнасці да

польскага народа і адцягненне дзяцей і моладзі ад камуністычнай індактрынацыі".

Дзяржаўніцкае выхаванне на Палессі трымалася вельмі коратка на пачатку 1930-х і потым змянілася на нацыянальнае з актыўнай асіміляцыйнай і паланізацыйнай палітыкай.

У раздзеле 4 (111–140) аўтар разглядае прававую, арганізацыйную і адміністрацыйную структуры школьнай сістэмы. Ужо на пачатку звяртаецца ўвага на розніцу ў школьніцтве на розных частках падзеленай Рэчы Паспалітай, якая заключалася ў тым, што пад прускай і расійскай уладай адукацыйная палітыка мела на мэце дэнацыяналізацыю палякаў, а ў аўстрыйскай частцы – на выхаванне дзяцей у духу лаяльнасці да аўстра-венгерскай манархіі. Цікава, што ў далейшым школьная палітыка польскага ўрада ў стаўленні да падначаленых тэрыторый Беларусі таксама вагалася ў межах гэтых парадыгмаў.

Асноўныя прававыя акты, якія вызначалі стварэнне і трансфармацыі школьнай сістэмы на працягу разглянага перыяду, прааналізаваны ў першым падраздзеле 4-га раздзела (111–118). Другі падраздзел (118–140) засяроджаны на аналізе адміністрацыйнай структуры. Даследчык паказвае афармленне трохступеннай адміністрацыйнай структуры: міністэрства – куратарыум – інспектарат. Звяртаецца ўвага на некаторых кіраўнікоў школьнай адміністрацыі акругі, падаюцца іх кароткія біяграфічныя звесткі. Характарызуюцца абавязкі розных службовых асобаў і вынікі некаторых візітацый школ палескага рэгіёна. Адсутнасць дарог і вялікія адлегласці ў Палескай акрузе значна ўскладнялі камунікацыю паміж школамі і адміністрацыяй. Далей апісваюцца тэрытарыяльныя змены Палескай навучальнай акругі (з 1932 г. Брэсцкай школьнай акругі), якая ўключала ў сябе не толькі школы Палескага ваяводства, але і часткова Навагрудскага ваяводства (Нясвіжскі, Баранавіцкі і Стаўпецкі паветы) да лютага 1927 г., а таксама Беластоцкага ваяводства (акрамя Аўгустоўскага, Гродзенскага і Сувалкскага паветаў) у 1932–1939 г. Згадваецца, што з 1923 г. куратарыум Палескай акругі выдаваў адмысловы "Дзённік" (звычайна

каля 8 нумароў штогод). У ім друкаваліся асноўныя распараджэнні школьных уладаў і ён быў абавязковым да чытання для ўсіх настаўнікаў і школьнай адміністрацыі.

Пяты раздзел (141–250) цэнтральны ў працы, ён прысвечаны аналізу выканання задачы ўсеагульнасці адукацыі. Аўтар звяртае ўвагу на статыстыку, што гэтая задача была дасягнута ў Пазнанскай і Кракаўскай акругах, але Палеская навучальная акруга і ўвогуле ўсходнія землі мелі найменшыя паказчыкі. У прыватнасці, лічбы прыцягнення вучняў да навучання паступова раслі з 22% у 1921/1922 г. да 83% у 1928/1929 г. і потым зноў пайшлі ўніз да 71% у 1930/1931 г., адной з прычын чаго быў дэмаграфічны выбух. Аўтар вельмі добра прапісвае спецыфіку Палескай навучальнай акругі. Даследчык называе наступныя прычыны нізкага ўзроўню наведвання школ: закінутасць Палесся ў часы расійскага панавання і вялікія ваенныя страты. На малую наведвальнасць школ уплывалі таксама занятасць дзяцей у працы на гаспадарцы і ў полі; традыцыі царскай школы; кансерватызм жыхароў Палесся, звязаны з нізкім узроўнем агульнай культуры; умовы надвор'я з доўгімі паводкамі; клімат, што спрыяў хваробам; праваслаўныя традыцыі з вялікай колькасцю святаў. З-за акрэсленых прычын бацькі не бачылі вялікай патрэбы і матывацыі ў навучанні дзяцей, адпускалі іх ахвотней узімку, калі змяншаліся памеры гаспадарчай працы, часцей адпускалі ў школу хлопцаў і г. д. Такое стаўленне бацькоў да адукацыі дзяцей вымушала ўлады прыбягаць да грашовых пакаранняў (да 40 зл.) і нават арыштаў бацькоў (да 2 дзён), калі яны не пускалі дзяцей у школу.

Кепскае наведванне школ вяло да вялікага адсотка вучняў, якія заставаліся на другі год. Забяспечанасць палескіх школ настаўнікамі таксама была недастатковай. Даследчык піша, што на аднаго настаўніка прыпадала да 71 вучня на Палессі і да 66 – на Беласточчыне. Лекары таксама рэдка траплялі ў школы, звычайна толькі раз на год.

У тэксце шмат статыстычных табліц, як створаных аўтарам на падставе дакументаў, збольшага з Брэсцкага

дзяржаўнага архіва, так і ўзятых з іншых даследаванняў. Яны дапамагаюць адчуць спецыфіку Палесся праз параўнанне лічбаў па розных навучальных акругах, а таксама прасачыць дынаміку зменаў па гадах у самой акрузе. Напрыклад, звяртаецца ўвага на дэмаграфічнае павелічэнне колькасці дзяцей школьнага ўзросту з 1928 да 1936 г., у той час як колькасць школ і настаўнікаў раслі вельмі павольна, што сведчыць пра непадрыхтаванасць школьных уладаў да такіх зменаў. Статыстыка паказвае таксама, што горш за Палессе сітуацыя з школьніцтвам была толькі на Валыні. На 1938/1939 г. толькі ў гэтых двух ваяводствах выкананне школьнага абавязку складала ніжэй за 80%, а менавіта – 79,9% у Палескім і 71,6% у Валынскім. Крыху лепшая сітуацыя была ў Навагрудскім і Віленскім ваяводствах – ад 80 да 85%. У самім Палескім ваяводстве сітуацыя была найлепшая ў Пружанскім павеце.

Другі падраздзел (170–199) пятага раздзела апавядае пра сітуацыю з усеагульнай адукацыяй сярод нацыянальных меншасцяў. Разглядаюцца пачаткі беларускамоўнага школьніцтва ў час нямецкай акупацыі. Аўтар пачынае з перадгісторыі, што пры царскай Расіі навучання па-беларуску не існавала і сама гэтая мова не лічылася за асобную. Пералом адбыўся ў час Першай сусветнай вайны пад нямецкай акупацыяй, калі на загад Паўля Гіндэнбурга ўводзілася навучанне на родных мовах і забаранялася выкладанне па-руску. Ужо перад тым Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны арганізаваў у Вільні курсы для настаўнікаў на беларускай мове, а ў канцы 1915 г. адкрыў першую агульнаадукацыйную школу ў Вільні. Свіслацкая настаўніцкая семінарыя з 15 кастрычніка 1916 да 15 лістапада 1918 г. падрыхтавала 144 настаўнікі для беларускіх школ. Хутка была створана сетка з больш чым 350 школ – 135 на Гродзеншчыне, 54 на Навагрудчыне і каля 150 на Віленшчыне.

Таксама аўтар разглядае сітуацыю з украінскім школьніцтвам, якое выглядала лепш арганізаваным за беларускае. Адзначаецца, што цэнтрам падрыхтоўкі настаўнікаў для рэгіёна стаў Брэст. Сярод меншасцяў найлепш

і найбольш шырока адукацыя была арганізавана сярод яўрэяў.

Палітыку ЦУЗУ ў стаўленні да меншасцяў аўтар каментуе паводле фрагмента інспектара акругі Казіміра Вольбека, цытуючы: “У школе з польскай мовай выкладання па жаданні жыхароў можа быць уведзена мясцовая мова як прадмет, а таксама выкладанне рэлігіі на гэтай мове. У школе з выкладаннем на мясцовай мове выкладанне польскай мовы (як прадмета. – *Ю. Б.*) будзе абавязковым”. Нягледзячы на такое досыць ліберальнае стаўленне да меншасцяў новых грамадзянскіх уладаў, даследчык згадвае, што польскія вайсковыя ўлады ў 1919 г. рашуча і жорстка зліквідавалі большасць агульных беларускіх школ, у тым ліку і семінарыю ў Свіслачы. Будынкі канфіскавалі і перадалі польскім школам, настаўнікаў інтэрнавалі і звольнілі з пасадаў. Аналізуючы статыстыку, гісторык адзначае, што ў снежні 1919 г. беларускіх школ не было, а ў сакавіку 1920 г. іх налічвалася 34 (з 1077 навучэнцамі і 72 настаўнікамі). Адзначаецца непаслядоўнасць і супярэчнасць школьнай палітыкі на гэтым этапе, што было выклікана няўзгодненасцю дзеянняў паміж цэнтральным і мясцовымі ўрадамі. Рэальная палітыка на месцах моцна залежала ад палітычных поглядаў мясцовых кіраўнікоў.

Аўтар аналізуе асноўныя дакументы – уставу 17 лютага 1922 г. і ўтраквістычную ўставу 31 ліпеня 1924 г., якія заклалі аснову для паяднання інтарэсаў польскай дзяржавы і нацыянальных меншасцяў праз стварэнне двухмоўных школ. Школы з мовай выкладання нацыянальнай меншасці маглі адкрывацца толькі ў мясцовасцях, дзе 25% жыхароў адносілася да гэтай меншасці. Бацькі ці апекуны мусілі пісаць спецыяльныя заявы школьнаму інспектару аб мове навучання дзяцей. Для выкладання на мове меншасці мусілі быць назбіраны не менш за 40 заяў у пэўным рэгіёне, інакш школа была б польскамоўнай. Даследчык бачыць у такім падыходзе “глыбока несправядлівы і недэмакратычны характар” утраквістычнай уставы. Да таго ж, устава яшчэ заклікала пільна правяраць кожную заяву і ў выпадку, калі назбіраецца 40 патрэбных

асобнікаў, дамагацца стварэння асобнага школьнага абходу для ўтраквістычнай школы, каб пры гэтым засталася і польская школа асобна. Для беларускага і ўкраінскага насельніцтва асобна тлумачыліся ўсе перавагі атрымання адукацыі ў польскай школе – лёгкасць паступлення ў школу вышэйшага ўзроўню і інш. Большасць заяў звычайна не прызнаваліся з розных прычын: то “падпісвалі не самі”, то “са зместам не былі азнаёмлены” і г. д.

У 1924/1925 навучальным годзе быў арганізаваны першы школьны плебісцыт, з мэтай абароны беларускай і ўкраінскай моў у школе. Вялася актыўная палітычная агітацыя. Беларускія дзеячы імкнуліся абаперціся на праваслаўнае духавенства, але не знайшлі падтрымкі, бо яно або было рускаскіраваным, або проста баялася за свае пасады. Плебісцыт паказаў, што ў Косаўскім, Пружанскім і Баранавіцкім інспектаратах больш як 60% выказалася за навучанне па-беларуску. Нягледзячы на пэўныя цяжкасці, якія ствараліся мясцовымі ўладамі – у прыватнасці, некаторыя ўраднікі патрабавалі плату за пацверджанне подпісаў на заявах, аб чым пазней складалі інтэрпеляцыі беларускія паслы ў сойме. Часам паліцыя канфіскавала заявы ці арыштоўвала зборшчыкаў.

Згодна з утраквістычнай уставай, большасць беларускіх і ўкраінскіх школ былі зроблены двухмоўнымі ў 1925/1926 г. Напярэдадні гэтага ў Палескай навучальнай акрузе заставаліся дзве беларускія школы ў Снове і Клецку, а ў Палескім ваяводстве – ніводнай. Праўда, у акрузе былі яшчэ 6 двухмоўных польска-беларускіх школ. У 1928/1929 г. у Палескім ваяводстве была адна беларуская школа ў Пружанах (ніжэйшага ўзроўню, аднакласавая) і 9 двухмоўных польска-беларускіх школ. Яшчэ ў 18 польскіх школах ваяводства беларуская мова выкладалася як асобны прадмет.

Пад час пятага плебісцыту 1928 г. беларусы склалі 4939 заяў, з якіх улады прызналі толькі 1800. Школьныя плебісцыты адбываліся кожны год да 1930 г., калі з’явілася распараджэнне прэзідэнта, што мова можа змяняцца толькі праз 7 гадоў. Наступны плебісцыт адбыўся ўжо ў 1936 г.

Аўтар звяртае ўвагу і на прыватныя школы. Прыватная адукацыя была пашырана сярод яўрэяў, а таксама да 1927 г. існавалі адна прыватная ўкраінская школа і адна руская. Прыватныя школы ў 1923–1924 г. складалі ўсяго 4% ад усіх школ, але ў іх навучалася каля 10% вучняў і працавалі каля 12% настаўнікаў.

Далей даследчык грунтоўна разглядае справу забеспячэння звычайных агульных дзяржаўных школ настаўнікамі. Ён адзначае, што калі ў 1922 г. з 979 настаўнікаў 48 выкладалі па-беларуску ці па-ўкраінску, то ў 1924 г. засталіся толькі 17 настаўнікаў-украінцаў у Сарненскім павеце. Спачатку многія настаўнікі маглі не мець адпаведнай кваліфікацыі, але паступова патрабаванні дзяржавы ўзмацняліся – 15 студзеня 1925 г. выйшла пастанова, якая вызначала дэдлайн (31 жніўня 1927 г.) для падачы дакументаў аб адпаведнай адукацыі. Той, хто не меў такіх дакументаў, мусіў пакінуць працу ў школе. Праўда, на практыцы атрымалася крыху інакш, бо недахоп настаўнікаў вымушаў і пазней даваць часовыя дазволы на выкладанне некваліфікаваным работнікам. Дэдлайн быў падоўжаны яшчэ на два гады. І толькі ў 1929/1930 навучальным годзе была дасягнута 100-працэнтная кваліфікаванасць настаўнікаў. Аўтар прааналізаваў і іншыя сацыяльныя паказчыкі сярод настаўнікаў: пол, міграцыя, узрост, падзел на свецкіх і рэлігійных асобаў, працоўная нагрузка, забяспечанасць школ, колькасць вучняў на аднаго настаўніка і інш. Заўважна, што на Палессі загружанасць вучнямі настаўніка была большай, чым у сярэднім па краіне. Часам месцамі яна даходзіла да 84 вучняў (і болей) на настаўніка.

Асобна А. Смалярчык разглядае справу забеспячэння школ будынкамі, а настаўнікаў – месцамі пражывання (251–293). У фокус увагі патрапіла таксама арганізацыя ў 1933 г. і дзейнасць Таварыства спрыяння пабудове публічных агульнаадукацыйных школ. У ім актыўны ўдзел прымалі настаўнікі школ. Даследчык высока ацэньвае дзейнасць таварыства, бо ў 1933–1939 г. яно спрычынілася да пабудовы ў межах Палескага ваяводства

каля 300 новых школ з 980 будынкамі, што пацвярджаецца адпаведнай статыстыкай.

Хіба найбольшую цікавасць для нас уяўляюць раздзелы, прысвечаныя разгляду стаўлення польскіх інтэлектуалаў, палітыкаў і адміністрацыі да нацыянальных меншасцяў. Найперш гэта 7-ы раздзел "Нацыянальная палітыка польскіх уладаў адносна нацыянальных меншасцяў у Палескім ваяводстве" (295–320). Аўтар сцісла перадае дзве асноўныя канцэпцыі – інкарпарацыйную і федэрацыйную, тлумачачы іх сутнасць і адрозненні. У прыватнасці, прыхільнікі першай канцэпцыі выказваліся за стварэнне з Польшчы дзяржавы аднаго народа, да якога варта было далучыць толькі тэрыторыі этнічна польскія і тыя, якія можна было культурна асіміляваць. Прыхільнікі другой канцэпцыі лічылі, што ў межы дзяржавы варта запрашаць усе тэрыторыі, якія ўваходзілі ў дзяржаву да падзелаў, з адначасовай павагай да права самавызначэння беларускай, літоўскай і ўкраінскай меншасцяў. Федэратыўныя сувязі з краінамі на ўсходзе павінны былі спрыяць стварэнню буфера паміж Польшчай і Расіяй.

Большую папулярнасць, на думку даследчыка, мела асіміляцыйная канцэпцыя, асабліва адносна беларусаў, бо многія палякі не разглядалі іх усур'ёз з-за іх слабой нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. І хоць федэрацыйная канцэпцыя падтрымлівалася самім Ю. Пілсудскім і мела пэўнае пашырэнне ў час існавання ЦУЗУ, усё ж паступова перавага перайшла да прыхільнікаў інкарпарацыі. Асабліва да гэтага падштурхнулі ваенныя поспехі бальшавікоў у 1920 г., якія выявілі пэўную нелаяльнасць да палякаў з боку беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. У выніку дзяржаўныя ўлады прыйшлі да высновы, што адзіным спосабам развязання палітычнай сітуацыі на ўсходзе будзе паланізацыя нацыянальных меншасцяў і хуткае пашырэнне польскасці. Пад асіміляцыю найперш мусілі падпасці славянскія меншасці – беларусы і ўкраінцы як найбольш блізкія моўна і культурна, што мелі найменш сфармаваную нацыянальную самасвядомасць.

Аўтар звяртае ўвагу на існаванне некалькіх спецыяльных прац, у якіх распрацоўваліся погляды на магчымую

палітыку ў дачыненні да меншасцяў. Адной з першых спробаў выпрацоўкі кірункаў нацыянальнай палітыкі адносна меншасцяў была публікацыя Канстанціна Сракоўскага “Нацыянальная справа на Крэсах Усходніх” 1924 г., створаная па замове прэм’ера Уладыслава Сікорскага. Даследчык адзначае, што не мае звестак, як гэтая праца была скарыстана практычна, бо Сікорскі быў вымушаны сысці з прэм’ерства ў хуткім часе. У той жа час аўтар піша, што Сракоўскі адзначыў існаванне двух падыходаў да вырашэння пытання меншасцяў – ліберальнага і ўніфікацыйнага (што, на думку Смалярчыка, параўнальна з федэрацыйнай і інкарпарацыйнай канцэпцыямі). Гэтыя дзве канцэпцыі ўплывалі на ўжываныя метады. Ліберальная прызнавала права кожнай нацыі, якая сама сябе прызнае, да ўсебаковага развіцця, а ўніфікацыйная сцвярджала, што дзяржава павінна імкнуцца да нацыянальнай аднастайнасці і мусіць ужываць адміністрацыйныя сродкі, каб спыніць нацыянальнае развіццё іншых народаў на сваёй тэрыторыі і спрыяць іх зліццю з паноўнай нацыяй.

На практыцы, як мяркуе А. Смалярчык, ніводная з прыгаданых канцэпцый не магла быць ужыта ў чыстым выглядзе, бо першая рана ці позна ўваходзіла ў супярэчнасць з інтарэсамі дзяржавы, ведучы да тэрытарыяльных страт, а другая вяла да страты асіміляванымі народамі сваіх культурных здабыткаў, сацыяльных асяродкаў, тэрыторый і гаспадаркі. Паколькі ў чыстым выглядзе ўлады не маглі выкарыстоўваць гэтыя падыходы, то яны павінны былі пэўным чынам спалучацца ці змешвацца. Сракоўскі даволі крытычна ацэньваў нацыянальную палітыку на ўсходзе, бо яна ігнаравала эканамічныя і культурныя інтарэсы нацыянальных меншасцяў. Ён параўноўваў палітыку Польшчы з палітыкай Прусіі, Расіі і Венгрыі з усімі яе вынікамі.

Аўтар адзначае, што мясцовыя палескія ўлады патрабавалі ад Варшавы адметнага стаўлення да Палесся як да рэгіёна, які адрозніваецца ад іншых. У аснову такога падыходу ў нацыянальнай палітыцы дзяржаўных уладаў быў пакладзены праект палескага ваяводы Станіслава Даўнаровіча “Нарыс праграмы заданняў і дзяржаўнай

дзейнасці на Палессі" ад 1 сакавіка 1923 г. Згодна з ім крэсы ўсходнія не ўяўлялі цэласнасці, а складаліся з шэрагу адметных этнаграфічна, палітычна і культурна рэгіёнаў – Валыні, Палесся і Віленшчыны, да якіх мусілі ўжывацца розныя палітычныя захады. Вырашэнне праблемы крэсаў усходніх Даўнаровіч бачыў у падзеле іх на згаданыя часткі з усталяваннем новых межаў паміж імі. Паколькі на гэтых тэрыторыях, на думку Даўнаровіча, існавалі два інтэнсіўна нарастальныя нацыянальныя рухі – украінскі і беларускі, то "Палессе важна выкарыстаць для таго, каб убіць польскі клін паміж чыннікамі беларускім на поўначы і ўкраінскім на поўдні", не даючы ім "падаць руку над Прыпяццю" адзін аднаму. Смалярчык адзначае, што прадбачанні Даўнаровіча пра магчымую супрацу беларусаў і ўкраінцаў не былі беспадстаўнымі.

На думку ваяводы, праваслаўнае насельніцтва Палескага ваяводства, якое складала каля 70%, не мела нацыянальнай тоеснасці. Таму для іх лаяльнасці важным было паляпшэнне гаспадарчага жыцця і дабрабыту праз пабудову дарог і меліярацыю і іншыя захады, якія маглі палепшыць жыццё мясцовых людзей. Выкананне гэтай задачы мусіла дазволіць "не толькі здабыць багацці з бясплодных сёння палескіх балот, не толькі дазволіць забяспечыць зямлёй мясцовых жыхароў, але і даць мажлівасць шырока каланізаваць Палессе польскім насельніцтвам і ў выніку стварыць з Палесся новую крыніцу, падставу для польскага панавання на ўсходзе..." – цытуе Смалярчык найбольш значныя думкі былога палескага ваяводы. Даследчык лічыць планы Даўнаровіча (кампенсаваць горыч страты палешукамі пэўных нацыянальных чаканняў праз фінансавае і гаспадарчае развіццё рэгіёна) "найбольш рацыянальнай спробай развязання нацыянальнага пытання на Палессі". Праўда, Смалярчык адзначае, што гэтыя намеры так і не былі практычна рэалізаваны, а Палессе заставалася ўвесь міжваенны час адным з найбольш занядбаных і недаінвеставаных краёў. Працэс жа асіміляцыі палешукоў адбываўся толькі метадамі рэпрэсіўнымі, што не магло даць станоўчага выніку.

Разглядаючы прапановы Даўнаровіча, даследчык звяртае ўвагу, што той акрэсліваў тыпова палескай тэрыторыяй рэдказаселены абшар з асаблівым гаспадарчым укладам і з насельніцтвам, якое не вызначылася нацыянальна. Тэрыторыі на поўначы з больш свядомым нацыянальна беларускім насельніцтвам ваявода прапаноўваў уключыць у Віленскае ваяводства, а тэрыторыі на поўначы з моцнай украінскай тоеснасцю – у Валынскае. У той жа час тэрыторыі Віленшчыны і Валыні з маласвядомым насельніцтвам, што межавалі з Палессем, варта было далучыць да Палесся. Стварыўшы такім чынам вялікі рэгіён з насельніцтвам, якое не мела моцнага нацыянальнага ўсведамлення, неабходна было прыкласці намаганні ў адукацыйнай і культурнай працы, каб сфармаваць з тутэйшых людзей палякаў. Дзеля гэтага трэба было ўсяляк абмежаваць пашырэнне беларускіх і ўкраінскіх нацыянальных рухаў на Палессі, ізаляваць гэты рэгіён і выбудаваць у ім адпаведную польскую працу. Асаблівую ўвагу варта было звярнуць на гаспадарчае жыццё, царкву і духавенства, каб аўтарытэт апошніх дзейнічаў на карысць польскай дзяржавы. Такім чынам, згодна з прапановамі Даўнаровіча, палешукі праз пэўны час мусілі стаць палякамі – у працэсе асіміляцыі, паляпшэння эканамічных і гаспадарчых умоваў, паслядоўнай палітыкі польскіх уладаў і адсутнасці культурна-палітычнай дзейнасці беларусаў і ўкраінцаў на тэрыторыі Палесся.

Адсутнасць станоўчых вынікаў нацыянальнай палітыкі адносна нацыянальных меншасцяў у першай палове 1920-х г. даследчык тлумачыць ліберальным і непаслядоўным стаўленнем польскіх уладаў да беларусаў і ўкраінцаў, частай зменай улады і сістэмы праўлення. Аднак улады бачылі прычыны няўдач не ў памылках асіміляцыйнай канцэпцыі, а ў залішнім лібералізме і непаслядоўнасці. Таму выйсце з сітуацыі бачылася не ў пошуку паразумення ў культурна-асветнай сферы, а ва ўзмацненні рэпрэсіўнай сістэмы. Назіралася няўзгодненасць дзеянняў уладаў, бо мясцовыя ўлады звычайна больш хіліліся да ўжывання асіміляцыйнай канцэпцыі.

Найбольш пільная ўвага ўладаў на Палессі звярталася на беларускую нацыянальную меншасць, якая была найбольш колькаснай і мела моцныя камуністычныя сімпатыі. Аднак пэўная палітыка выпрацоўвалася і ў дачыненні да іншых меншасцяў – украінскай, яўрэйскай, рускай. Асаблівасці гэтых падыходаў таксама разглядаюцца ў працы. Адносна яўрэяў улады не столькі імкнуліся іх асіміляваць, колькі не дапусціць пашырэння сімпатый да камунізму ў іх асяродку.

Аўтар адзначае, што многія лідары меншасцяў спадзяваліся на магчымыя перамены пасля перавароту 1926 г., але санацыйныя ўлады не змянілі асноўных падыходаў да нацыянальнай палітыкі. Адбылася толькі падмена эндэцкага імкнення да асіміляцыі нацыянальнай на асіміляцыю дзяржаўную, якая мусіла весці да асіміляцыі культурнай, а потым і нацыянальнай. Праграма інтэграцыі розных народаў былога ВКЛ на чале з вялікадзяржаўнай Польшчай прадугледжвала паступовае падвышэнне лаяльнасці да дзяржавы розных народаў, якія апынуліся ў межах Рэчы Паспалітай.

У наступным раздзеле (321–376) разглядаецца палітычнае жыццё нацыянальных асяродкаў і іх узаемасувязь з асветай і школьніцтвам. Да такіх меншасцяў трапілі беларусы, украінцы, рускія і яўрэі. Найбольш нас цікавіць меркаванне аўтара пра беларускі асяродак, які, у сваю чаргу, найбольш турбаваў польскія ўлады з-за камуністычнай пагрозы. У манаграфіі глыбока разглядаецца дзейнасць БСРГ на Палессі і палітыка ўладаў адносна яе. Хуткая і плённая ліквідацыя БСРГ узмацніла, на думку аўтара, перакананне польскіх урадоўцаў аб слабасці беларускага руху. Праблема беларускай меншасці была зведзена да барацьбы дзяржаўных уладаў з камунізмам. Паколькі ў савецкай частцы ў 1930-я беларускі рух пачаў вынішчацца, то беларускі рух на Палессі, які быў малакалькасным і не меў знешняй падтрымкі, таксама перастаў разглядацца ўладамі ў якасці суразмоўцы, да якога трэба ставіцца ўсур'ёз.

Палітыка ўладаў шмат у чым залежала ад асобы ваяводы. З верасня 1932 да верасня 1939 г. палескім ваяводам

быў Вацлаў Костэк-Бярнацкі, які, на думку Смалярчыка, палічыў прагнозы свайго папярэдніка С. Даўнаровіча слушнымі і спрабаваў ажыццявіць яго прапановы. Паколькі беларускую мову назвалі сваёй толькі 6,6%, а ўкраінскую – 4,8% жыхароў, то была зроблена спроба трактаваць Палессе як адметны рэгіён, а сама назва “паляшук” стала моцна прапагандавацца. Ваявода настойваў на неабходнасці асаблівай палітыкі адносна Палесся. У прыватнасці, на Палессі жыло шмат праваслаўных (77,6%) з моцнымі прарускімі настроямі і культам цара, а таксама з рускай мовай, таму ў мэтах польскай дзяржавы было надаць праваслаўнай царкве польскі характар праз пэўныя захады. Сярод апошніх найбольш важным бачылася ўвядзенне польскай мовы ў праваслаўнае набажэнства і навучанне рэлігіі ў школе. Такія змены не выклікалі вялікага супраціву, і таму наступным крокам уладаў стала патрабаванне вядзення метрычных кніг толькі па-польску.

Смалярчык адзначае, што Костэк-Бярнацкі быў праціўнікам пашырэння ўплыву ўніятаў, бо бачыў у грэкакаталіцкай царкве чыннік, які “русіфікаваў палешукоў і ўзмацняў украінскі сепаратызм”. На гэтай глебе ў палескага ваяводы ўзніклі пэўныя непаразуменні з каталіцкім біскупам на Палессі Зыгмунтам Лазінскім, які быў супраць выкарыстання рэлігіі з мэтай паланізацыі нацыянальных меншасцяў. Аднак наступны біскуп Казімір Букраба (1933–1939) падтрымаў палітыку ваяводы.

Яшчэ адной адметнасцю Палесся ў святле праводжанай палітыкі стала недакладнасць пашыранага ў іншых рэгіёнах штампа “паляк – каталік”, бо ён перашкаджаў інтэграцыі ў польскую дзяржаву пераважна праваслаўнага рэгіёна. У сувязі з гэтым не працавалі і стэрэатыпы “паляк – пан”, “паляшук (беларусін) – селянін”. Ваявода значную ролю надаваў мясцовай засцянковай шляхце, ва ўладаннях якой мусілі дзейнічаць школы, каб “уваскрэсіць даўнейшыя традыцыі і абудзіць пачуццё прыналежнасці да польскага народа”. З мэтай працы з мясцовай шляхтай утвараліся спецыяльныя асветніцкія арганізацыі.

Пасля несуцяшальных для палякаў вынікаў перапісу 1931 г., які засведчыў паразу ў справе змагання з пашырэннем на Палессі беларускай і ўкраінскай свядомасці, узмацніліся галасы за неабходнасць каланізацыі Палесся і шырокага асадніцтва. Зямлю для гэтага планавалася атрымаць шляхам асушэння балот. Такія планы, у сваю чаргу, не падабаліся польскім вайскоўцам, бо балоты былі добрай абаронай ад ворага з усходу.

Важная асіміляцыйная роля адводзілася таксама войску. На Палессі быў створаны Корпус аховы памежжа, які займаўся барацьбой з пашырэннем камуністычных поглядаў і праводзіў шырокую культурна-асветніцкую дзейнасць сярод няпольскага насельніцтва. Аднак Смалярчык адзначае, што ў 1930-я г. паланізацыйная дзейнасць войска прынесла шмат негатыўных вынікаў, абвастрыла міжнацыянальныя канфлікты.

Пасля смерці Пілсудскага асіміляцыя меншасцяў узмацнілася і праводзілася ўсё тымі ж метадамі. Дэклaравалася патрэба ўцягнуць меншасці ў палітычныя і грамадскія працэсы польскай дзяржавы. Аднак даследчык піша, што такія дэкларацыі на практыцы разыходзіліся з рэаліямі, бо прадстаўнікі беларускай меншасці не дапускаліся да пасадаў у самаўрадах і дзяржаўнай адміністрацыі. Як доказ таму прыводзіцца пастанова ваяводы 1937 г., паводле якой на пасады леснікоў маглі прымацца толькі палякі, а беларусы мусілі выцясняцца. Гэта ж тычылася і настаўнікаў: “Не можа быць і гаворкі, прынамсі ў бліжэйшыя 10 гадоў, каб настаўнікам на Палессі мог быць рускі, украінец ці беларус”. Такое стаўленне да нацыянальнага пачуцця беларусаў вяло да адчування непрыязнасці да польскай дзяржавы.

Даследчык сцвярджае, што на працягу дваццаці міжваенных гадоў так і не была выпрацавана паслядоўная палітыка адносна Палесся. Кожны новы ваявода кіраваў на ўласны манер, што не спрыяла добраму стаўленню да дзяржаўнай улады з боку мясцовых жыхароў.

Восьмы раздзел (с. 321–376) апавядае пра палітычнае жыццё нацыянальных асяродкаў і іх сувязі з асветай і школьніцтвам. Матэрыял гэтага раздзела часткова ўжо

трапіў на старонкі "Беларускага Гістарычнага Агляду", дзе з ім можна азнаёміцца па-беларуску[1], таму адзначым толькі некаторыя найбольш важныя думкі.

Адзначаецца важная роля палітычных нацыянальных арганізацый, якія падтрымлівалі свядомасць і былі ініцыятарамі розных акцый па пашырэнні школ нацыянальных меншасцяў ці займаліся пазашкольнай асветай насельніцтва. На думку Смалярчыка, узаемазалежнасць нацыянальных рухаў і школьніцтва была адназначнай, бо нацыянальны рух атрымліваў з дапамогай школьніцтва свядомых і адукаваных прадстаўнікоў сваёй нацыянальнасці.

Аўтар лічыць, што да выбараў у сейм 1922 г. палітычная актыўнасць беларусаў на Палессі была нязначнай і праяўлялася толькі ў наяўнасці адзінкавых прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Напачатку інтарэсы меншасцяў імкнуліся абараняць Польская сацыялістычная партыя і Польская народная партыя "Вызваленне", якія дамінавалі над беларускімі і ўкраінскімі партыямі. Апошнія ўтварылі Блок нацыянальных меншасцяў. У выніку выбараў ад блока прайшоў толькі адзін дэпутат – кіраўнік Беларускага сялянскага саюза беларус Фабіян Ярэміч. У той жа час Смалярчык піша, што Польская народная партыя "Вызваленне" дзейнічала больш як надзвычай радыкальная партыя беларуская, чым польская. Таму многія выбарцы ўспрымалі яе прадстаўнікоў як сваіх. Тэрыторыя Палесся характарызуецца дамінаваннем левых палітычных поглядаў, што звязана з беднасцю мясцовага насельніцтва і ваеннымі разбурэннямі, а таксама нізкай свядомасцю і палітычнай культурай палешукоў. Беларускія партыі, не знайшоўшы моцнага грунту, не мелі сваіх партыйных структур на Палессі ў 1922–1926 г. Гэты перыяд паспрыяў пашырэнню камуністычных ідэй, якія лёгка ўспрымаліся вясковым насельніцтвам, зрадыкалізаваным левымі партыямі. Незадаволенасць уладамі выкарыстала ў сваіх мэтах заснаваная ў снежні 1923 г. Камуністычная партыя

[1] Смалярчык А. Таварыства Беларускай Школы ў Палескім ваяводстве ў 1926–1933 г. // БГА. 2015. Т. 22. Сш. 1-2.

Заходняй Беларусі (КПЗБ). У 1923–1924 г. узніклі два акружныя камітэты ў Брэсце і Пінску і цэлая сетка супольнасцяў. Адначасова ўтварыліся баявыя дыверсійныя арганізацыі, кіраваныя ГПУ з Мінска. Іх мэтай было пашырэнне рэвалюцыйных настрояў і негатыўнага стаўлення да польскіх уладаў, падрыхтоўка мясцовага люду да беларускага паўстання, каб потым з дапамогай Чырвонай арміі далучыць да Савецкай Беларусі. Пашырэнню камуністычных ідэй значна спрыяла вяртанне з эміграцыі 250 тыс. рэпатрыянтаў.

У чэрвені 1925 г. пасля расколу Беларускага пасольскага клуба ўтварылася Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ), якая стала надзвычай уплывовай палітычнай структурай. У 1926 г. яна пашырыла сваю дзейнасць і на Палессе, заклаўшы ў Пінску аддзяленне Віленскага беларускага каапэратыўнага банка. Сярод палітычных абяцанняў партыі было і задавальненне патрэбаў беларускага насельніцтва ў народных школах. У культурна-асветніцкай дзейнасці БСРГ актыўна супрацоўнічала з Таварыствам беларускай школы (ТБШ). Супольна яны накіравалі ў польскае школьнае Міністэрства мемарыял, у якім дамагаліся стварэння сеткі публічных беларускіх усеагульных і сярэдніх школ, патрабавалі ліквідацыі двухмоўных школ і стварэння ў Віленскім універсітэце кафедры беларусазнаўства.

Адначасова частка беларусаў, якія не ўспрымалі радыкальныя погляды БСРГ і падначаленага ёй ТБШ, утварылі Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК) з мэтай пашырэння беларускай асветы. 15 ліпеня 1926 г. БІГіК звярнуўся ў польскае школьнае Міністэрства з патрабаваннем адкрыцця больш як 400 беларускіх школ (за што былі сабраны адпаведныя подпісы), ліквідацыі двухмоўных школ, арганізацыі трохмесячных курсаў для 400 беларускіх настаўнікаў, адкрыцця Беларускага педагагічнага інстытута, дзвюх настаўніцкіх семінарый і кафедры беларусазнаўства пры Віленскім універсітэце. Агучвалася таксама патрабаванне ўвесці беларускую мову ў праграму Пінскай і Віленскай духоўных семінарый.

Пасля ліквідацыі БСРГ у 1927 г. значная частка яе сяброў папоўніла структуры ТБШ, што, з аднаго боку, выклікала актывізацыю культурна-асветніцкай дзейнасці таварыства, а з другой – падштурхоўвала да палітызацыі. Апошняга патрабавалі клуб “Змаганне” і КПЗБ. Моцная палітызацыя ТБШ паставіла яго пад пагрозу ліквідацыі і прывяла да ўнутранага расколу. Далейшая моцная залежнасць таварыства ад КПЗБ вяла да паступовай забароны яго дзейнасці і згортвання структур. Сама КПЗБ была ўніверсальнай камуністычнай партыяй і беларускасць мела толькі ў назве, а не ў сутнасці сваёй праграмы і дзейнасці. У выніку даследчык прыходзіць да высновы, што “ў Палескім ваяводстве беларускі народ не меў ніякай іншай нацыянальнай альтэрнатывы, акрамя камуністычнага руху”[2].

У дзявятым раздзеле (377–420) разглядаюцца культурна-асветніцкія арганізацыі розных меншасцяў – беларускай, украінскай, рускай і яўрэйскай. Сярод беларускіх пад увагу даследчыка трапляе Таварыства беларускай школы (ТБШ). Сярод украінскіх арганізацый даследчык найбольшую увагу звяртае на дзейнасць “Просвіты”, а сярод рускіх – Рускага таварыства дабрачыннасці, а таксама Саюза вольнага казацтва. Шмат увагі аддаецца яўрэйскім арганізацыям на Палессі, якія былі шматколькасныя і актыўныя. У сваіх грамадскіх, палітычных і культурных мэтах яны мала чым адрозніваліся ад агульнапольскіх арганізацый, акрамя пэўнай небяспекі іх русіфікацыі і камунізацыі. Аўтар вылучае некалькі плыняў, у межах якіх аб’ядноўвае вялікую палітру палітычных партый: *артадаксальную* (найперш гэта “Саюз Ізраіля”, які меў аддзелы ў Брэсце, Дамачаве, Кобрыне, Жабінцы, Пінску і Любяшове), *сіяністычную* (падзялялася на некалькі адметных ідэалагічных кірункаў), *сацыялістычную* (крытычна ставіліся да ідэй сіяністаў – Бунд і шэраг яўрэйскіх груп у Польскай партыі сацыялістаў і Польскай партыі

[2] Smolarczyk A. Szkolnictwo powszechne i oświata pozaszkolna w Województwie Poleskim w latach 1919–1939. Warszawa, 2014. S. 342.

камуністаў, а таксама Яўрэйская сацыял-дэмакратычная працоўная партыя “Паалей Цыён”, якая мела камітэт у Пінску, адзіны на тэрыторыі ваяводства), *народную / фалькісцкую* (яе прадстаўнікі лічылі яўрэяў аўтахтонным насельніцтвам, што стагоддзямі жыло на гэтых тэрыторыях і мусіла мець аднолькавыя правы з палякамі), а таксама *асімілятарскую плынь* (адмаўляла неабходнасць нацыянальнай самастойнасці, а прызнавала толькі рэлігійную адметнасць яўрэяў).

Апошні раздзел (421–481) прысвечаны вывучэнню пазашкольнай асветы ў ваяводстве. Яна была актуальнай, бо далёка не ўсе дзеці былі ахоплены школьным навучаннем, акрамя таго, было шмат зусім непісьменных жыхароў рознага ўзросту. Пазашкольнай асвеце адводзілася таксама пэўная роля ў культурнай і нацыянальнай асіміляцыі мясцовага люду. Асноўная ўвага ў гэтым сегменце адукацыі звярталася на вывучэнне польскай мовы і змяншэнне непісьменнасці.

Падсумоўваючы, А. Смалярчык сцвярджае, што за дваццаць міжваенных гадоў польскія ўлады так і не здолелі выпрацаваць паслядоўнай цэласнай палітыкі адносна ўсходніх земляў. У той жа час ён адзначае, што ўжо ў 1920-я г. перамагла інкарпарацыйная канцэпцыя, скіраваная на асіміляцыю беларускай і ўкраінскай меншасцяў, хоць абедзве гэтыя народнасці не прызнаваліся афіцыйна за нацыянальныя меншасці, а такім статусам, па сутнасці, карысталіся толькі яўрэі. Аўтар таксама звяртае ўвагу, што кіраўніцтва краю ўзяло на ўзбраенне ў сваёй нацыянальнай палітыцы праект С. Даўнаровіча, які прадугледжваў развіццё і замацаванне адметнага статусу Палесся, адлучэння яго ад уплываў беларускіх і ўкраінскіх элітаў з мэтай далейшай асіміляцыі і стварэння з маласвядомых палешукоў спачатку польскіх грамадзян, а пазней і палякаў па перакананні. Аднак стварыць такі “польскі клін” з Палесся на практыцы так і не атрымалася.

Паколькі, на думку аўтара, школьная і адукацыйная палітыка была цалкам залежнай ад нацыянальнай палітыкі, то школьніцтва стала адным з інструментаў дзяржаўных уладаў у працэсе асіміляцыі нацыянальных

меншасцяў і пашырэння польскіх уплываў. Аўтара цяжка абвінаваціць у неаб’ектыўным стаўленні да падзей таго часу. Даследчык дастаткова крытычна разглядае польскую нацыянальную і школьную палітыку, паказваючы яе хібы і слабыя месцы, не забываючыся адзначыць і ахвярную працу многіх настаўнікаў, арганізатараў пазашкольнага навучання і культурна-асветнай працы, якія здолелі шмат зрабіць для адукацыі палешукоў і змагання з непісьменнасцю апошніх. Аўтар адзначае, што ўзятая на ўзбраенне нацыянальная палітыка польскіх уладаў не спрыяла свабоднаму развіццю школ нацыянальных меншасцяў на Палессі. Зварот уладаў да рэалізацыі канцэпцыі “польскага кліна” вёў да вострай барацьбы з усялякай палітычнай і культурнай дзейнасцю беларусаў і ўкраінцаў.

У сваю чаргу такой палітыцы польскіх уладаў спрыяла шчыльная сувязь шэрагу найбольш актыўных беларускіх арганізацый – КПЗБ, БСРГ, ТБШ – і ўкраінскай “Просвіты” з камунізмам, пашырэнне якога разглядалася як рэальная пагроза для існавання польскай дзяржавы і выклікала іх жорсткае супрацьдзеянне. Яшчэ адной пагрозай разглядалася існаванне рускай меншасці, але, на думку даследчыка, гэты страх быў больш звязаны з гістарычным мінулым і комплексамі польскіх уладаў адносна культурнай і палітычнай спадчыны царскай Расіі. Таму аўтар лічыць расійскую праблему больш надуманай, чым рэальнай.

Падсумоўваючы агляд манаграфіі, варта сказаць, што яна стала яшчэ адной цаглінкай у даследаванні беларускага Палесся, а таму павінна трапіць пад увагу беларускіх навукоўцаў для падрабязнага вывучэння і аналізу. Перакананы, што многія знойдуць у прапанаваным даследаванні шмат новага і цікавага пра палескае жыццё ў міжваенны час і суіснаванне розных народаў на гэтай тэрыторыі. У прыватнасці, разумеючы тую палітыку, якой прытрымліваліся польскія ўлады ў міжваеннае дваццацігоддзе, робіцца больш зразумелай і сённяшняя часта неакрэсленая пазіцыя палескага насельніцтва адносна сваёй культурнай, моўнай, рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці.

# Гісторыя палітычнай неэфектыўнасці: польскі погляд на беларускую апазіцыю*

**Аляксандр Ланеўскі**

Разгляданая праца – бадай першы комплексны аналіз беларускай палітычнай апазіцыі. У пэўнай ступені яна запаўняе прабел, які стварыўся ў беларускай навуцы, хоць тэмы не вычэрпвае. Цікава, што кніга пакуль не дачакалася ўважлівага разгляду беларускімі гісторыкамі і палітолагамі. Адзіным тэкстам стала кароткая рэцэнзія польскага даследчыка з Палькавіцаў Рафала Чахора[1].

Аўтар рэцэнзаванай манаграфіі Аркадзіуш Чвалэк – палітолаг Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, чыя доктарская дысертацыя прысвечана вядомаму гетману ВКЛ Льву Сапегу[2]. У апошнія гады ён даследуе differentes розанабаковыя грамадска-палітычныя аспекты найноўшай гісторыі Беларусі[3]. Можна адзначыць, што

* Czwołek, Arkadiusz. Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010). Gdańsk: Studio VP, 2013. 896 S.

[1] Czachor R. [rec.:] Czwołek A. Opozycja polityczna na Białorusi (1989–2010). Gdańsk, 2013 // Przegląd Wschodni. T. XII. 2014. Z. 1 (49). S. 229–231.

[2] Czwołek A. Piórem i buławą. Działalność polityczna Lwa Sapiehy, kanclerza litewskiego, wojewody wileńskiego. Toruń, 2012.

[3] Гл.: Czwołek A. Rola i znaczenie ogólnokrajowych referendów na Białorusi // Białoruś co się tam dzieje? Sytuacja polityczna na przełomie XX i XXI wieku / red. A. Meller, A. Rak, A. Wielomski. Warszawa, 2013. S. 193–249; Czwołek A. Ruch kobiecy na Białorusi – mit czy rzeczywistość? // Problematyka kobieca – konteksty / red. M. Jeziński, M. Nowak-Paralusz. Toruń, 2013. S. 177–196; Czwołek A. Perspektywy modernizacji białoruskiej energetyki w latach 2011–2016 // Nowa Polityka Wschodnia. 2014.

Чволэк удзельнічаў у пятай сесіі традыцыйнага фестывалю "Solidarni z Białorusią", які ў 2015 г. прайшоў у Гданьску[4].

Часавыя рамкі манаграфіі – 1989–2010 гады. Паводле торуньскага палітолага, менавіта акалічнасць дзеяння апазіцыі ў Беларусі ад 1989 г. дазваляе зразумець яе фіяска пасля 1994 г. Польскі даследчык ставіць сваёй мэтай аналіз не толькі палітычных партый, іх праграм і стратэгій, але і прафсаюзаў, і няўрадавых грамадскіх арганізацый (далей – НГА), іх адносін з уладай і паміж сабой. Галоўнай, аднак, здаецца спроба адказаць на пытанне пра "крыніцы няўдач" апазіцыі ў Беларусі і пошук рэцэптаў яе эфектыўнага развіцця ў напрамку стварэння "альтэрнатывы" дзейнай уладзе. Заданне, як відаць, амбіцыйнае.

Кніга налічвае амаль 900 старонак і складаецца з 7 раздзелаў. Пачынаецца манаграфія з "Уступу", у якім разглядаюцца метадалагічныя аспекты і тэрміналогія, прынятая ў паліталагічных навуках. Аркадзіуш Чволэк тлумачыць, што такое палітычная апазіцыя ў недэмакратычных рэжымах, спасылаючыся на метадалагічныя класіфікацыі іншых аўтараў (Роберт Даль, Збігнеў Махельскі, Міхал Кубат і інш.). На яго думку, няма ўніверсальнага крытэрыю для тыпалогіі апазіцыі. Для польскага палітолага беларуская апазіцыя – кожная сіла, якая "аспрэчвае легітымізацыю рэжыму і проціпастаўляе яму дэмакратычную альтэрнатыву" (34) – г. зн. markdown рознабаковая інстытуцыяналізаваная актывісцкая мазаіка, якая імкнецца як прававымі, так і неправавымі спосабамі адхіліць А. Лукашэнку ад улады. Не наша мэта – палемізаваць з аўтарам на тэму тэрмінаў "грамадскі супраціў", "палітычная апазіцыя", "пратэстны рух" і г. д., але чытачоў можна адаслаць да цікавай анкеты польскіх гісторыкаў, дзе яны дыскуту-

Nr 1 (6). S. 99–128; Czwołek A. Rozwój lokalnych i odnawialnych źródeł energii na Białorusi. Stan obecny i perspektywy // Nowa Polityka Wschodnia. 2014. Nr. 2 (7). S. 152–171 і інш.

[4] Solidarni z Białorusią // http://www.ecs.gda.pl/title,Solidarni_z_Bialorusia,pid,9,oid,61,cid,72,type,timeline.html (прагледжана 5 XI 2015).

юць наконт апазіцыйнасці польскага грамадства ў часы Польскай Народнай Рэспублікі[5].

У раздзеле "Працэс фармавання палітычнай апазіцыі" апісваецца дысідэнцкі рух у Беларусі, апошнім часам даволі папулярны сярод даследчыкаў[6]. Аўтар звяртае ўвагу на яго слабасць і несфармаванасць, абумоўленыя вынішчэннем інтэлігенцыі, адноснай гаспадарчай стабільнасцю БССР, а таксама падаўленнем усялякай грамадзянскай актыўнасці. Сітуацыя змянілася толькі ў апошнія гады перабудовы, калі несфармалізаваныя дысідэнцкія асяродкі пачалі ператварацца ў палітычную апазіцыю. Тады быў створаны Беларускі Народны Фронт (БНФ), які цягам наступнай дэкады выконваў найбольш важную апазіцыйную ролю і быў "выразнікам нацыянальнага адраджэння" (55). У тагачасную праграму БНФ увайшлі пункты па адраджэнні беларускай мовы, аднаўленні нацыянальных святаў і сімвалаў, апеляванне да хрысціянскай традыцыі. Паступова партыя радыкалізавалася ў бок антыкамунізму (адмова супрацоўніцтва з умеранымі прадстаўнікамі КПБ, вывад расійскіх войскаў і г. д.), развіваючы гаспадарчую праграму (выкарыстоўваўся тэрмін "грамадскі салідарызм"). Паглыблялася і гістарычная традыцыя беларускай дзяржаўнасці, якая сягала Полацкага княства. Прапанаваная дзяржаўная сістэма мелася абапірацца на парламентарныя традыцыі ВКЛ, таму палітычная сістэма незалежнай краіны павінна была стаць парламенцкім ладам з Соймам у складзе 160 асоб, які выконваў бы ролю заканадаўчага органа. Можна пагадзіцца, што тагачасную папулярнасць БНФ у значнай ступені абумовіў зварот да

[5] Sprzeciw, opozycja, opór w PRL: ankieta historyczna. Antoni Dudek, Andrzej Paczkowski, Łukasz Kamiński, Leszek Dzięgiel, Jerzy Eisler, Andrzej Małkiewicz, Krzysztof Ruchniewicz, Maciej Łętowski, Krzysztof Łabędź // Arcana. 2001. Nr 38 (2). S. 40–74.

[6] Варта прыгадаць IV міжнародную канферэнцыю Інстытута "Палітычная Сфера" (15–16.V.2015, Мінск): "Па-за савецкім канонам: палітычны супраціў, акадэмічная і мастацкая аўтаномія ў познесавецкі перыяд (1960–80-я гг.)"; Валодзін У. З гісторыі студэнцкага нонканфармізму ў БССР (канец 1940-х – пачатак 1980-х). Менск, 2014; дакументальны фільм пра Міхася Кукабаку "Дысідэнт" (рэж. Віктар Трацякоў. Белсат, 2014).

трагічных сімвалаў беларускага грамадства, Чарнобыля і Курапатаў і выкарыстанне іх у палітычных мэтах.

Па меркаванні Чволэка, пра значэнне БНФ сведчыць таксама факт, што гэты рух даў пачатак іншым палітычным структурам: Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамадзе (БСДГ), Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), Нацыянальна-дэмакратычнай партыі беларусаў (НДПБ). Паводле аўтара, з гэтым звязана спрэчнасць палітычнай натуры і адначасова характэрная рыса беларускай апазіцыйнай сцэны: блізкія адносіны сацыял-дэмакратыі і правых сілаў. У адрозненне ад іншых краін савецкага блока беларускія камуністы выступалі супраць рэформаў і лібералізацыі ўласных структур, таму ў 90-я г. XX ст. практычна не ўдзельнічалі ў фармаванні сацыял-дэмакратычных партый. Адначасова ў праграмах усіх партый рынкавая гаспадарка была прасякнута моцным сацыяльным акцэнтам.

Гаворачы далей пра няўрадавыя (Беларускі экалагічны саюз, Моладзевая інфармацыйна-аналітычная служба, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў) і прафсаюзныя арганізацыі (Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі), Чволэк падкрэслівае, што яны не ператварыліся ў масавы рух, а сам грамадзянскі рух развіваўся павольна. Пры гэтым наменклатура імкнулася падпарадкаваць прафсаюзны рух сабе, адпаведна накіроўваючы яго дзейнасць. Не апошнюю ролю ў гэтым выканалі савецкія часы, што сфармавалі “тып ментальнасці, характэрны для аўтарытарна-таталітарнай асобы, які характарызуецца некрытычным стаўленнем да рэчаіснасці і неразуменнем грамадска-палітычных зменаў” (77).

Другі раздзел “Адносіны паміж апазіцыяй і асяродкамі ўлады пад час палітычнай трансфармацыі” пачынаецца з тэзіса, што першыя парламенцкія выбары, а таксама дзейнасць у Міжрэгіянальнай дэпутацкай групе – гэта пачатак досведу БНФ у вялікай палітыцы. Менавіта тады адбываўся працэс кансалідацыі дэмакратычных сілаў былых савецкіх рэспублік (між іншага ўдзел Зянона Пазняка ў II з’ездзе Народнага фронту Латвіі ў 1989 г.). Усё яшчэ

існаваў СССР, цяжкай спадчынай якога было выбарчае права, а КПБ – КПСС кантралявалі медыі. Без падтрымкі афіцыйных грамадскіх арганізацый (перадусім Таварыства беларускай мовы) БНФ, верагодна, не меў бы такога поспеху на выбарах. Паводле даследчыка, адна з найбольшых памылак адзінай апазіцыйнай партыі Беларусі ў 1990 г. – тое, што яна не змагла надаць выбарам "канфрантацыйнага характару" (83). У дадатак тыраж прэсы і яе геаграфічны дыяпазон былі вельмі абмежаваныя, а праца з сельскім электаратам у выбарчай кампаніі відавочна недастатковая. У выніку, як падкрэслівае аўтар, паўстала беспрэцэдэнтная сітуацыя, нават "сенсацыйная" па маштабах Цэнтральна-Усходняй Еўропы: выбраны вясной 1990 г. парламент функцыянаваў аж да 1995 г. Гэты "клубок парадоксаў", як назваў яго Віталь Сіліцкі[7], адзначаўся адсутнасцю апазіцыйных партый у парламенце: беспартыйныя фракцыі кантраляваліся старой наменклатурай, а БНФ да 1993 г. фармальна функцыянаваў як грамадскі рух. Апроч таго, з-за адсутнасці рэформы ў напрамку дэцэнтралізацыі дзяржаўнай улады органы мясцовага самакіравання сталі адной з найбольш кансерватыўных груп, што падтрымлівалі апарат улады (87).

Наменклатура працягвала змагацца за ўтрыманне ўплыву на палітыку Беларусі, блакуючы заканадаўчыя ініцыятывы, прапанаваныя апазіцыяй. Галоўным месцам барацьбы стаў Вярхоўны Савет (ВС). У процівагу БНФ быў створаны посткамуністычны блок "Народны рух Беларусі", які ўлетку 1993 г. арганізаваў Кангрэс народа Беларусі, на якім прагучалі ідэі па рэстаўрацыі СССР і ў якім удзельнічаў Лукашэнка. З'явілася аграрнае лобі, што аб'ядноўвала дырэктараў калгасаў. Перашкаджала апазіцыі і пастаянная дыскрэдытацыя ў СМІ, дзе нават даходзіла да абвінавачвання ў "дэмакратызацыі дзяржавы". Поспехам наменклатуры ў знешняй палітыцы ў кнізе названа ўтварэнне СНД.

[7] Сіліцкі В. Роля парлямэнту ў найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі // Найноўшая гісторыя беларускага парлямэнтарызму / рэд. В. Булгакаў. Białystok, 2005. С. 8.

Аўтар справядліва сцвярджае, што ў першай палове 90-х г. мінулага стагоддзя апазіцыйныя сілы супрацоўнічалі паміж сабой вельмі свабодна і спарадычна, у выніку – адсутнасць узаемнай палітычнай платформы (135). Адсутнасць сфармалізаванай структуры, газеты і г. д. не маглі замяніць адносна разнастайныя ініцыятывы і кааліцыі: “Рэферэндум”, а пазней і блок “Новая Беларусь”, які меў амбіцыі стаць інтэлектуальным падмуркам дэмакратычных асяродкаў – “трэцяй сілай” (паміж БНФ і камуністамі). Апошняя структура ўяўляла сабой альтэрнатыву БНФ і выступала за супрацоўніцтва з наменклатурай. Аднак БНФ не пайшоў на прапанову круглага стала, у сваю чаргу БСДГ не падтрымала ідэі рэферэндуму, падрыхтоўка якога, на думку аўтара, была фатальнай. Наступная “трэцяя сіла”, якая не выконвала ніякай палітычнай ролі – Аб’яднанне дэмакратычных сіл “Вясна-94” (каля 50 згуртаванняў). Пра стварэнне важнага дыскусійнага форуму ўдалося дамовіцца толькі праз 15 гадоў.

Паралельна з партыйнымі канфрантацыямі звычайныя беларусы змагаліся з гаспадарчым заняпадам. Торуньскі даследчык падкрэслівае, што ў краіне не адбыліся структурныя рэформы, а працэс прыватызацыі, які кантраляваўся наменклатурай, значна спазніўся. Важны момант, на які звяртае ўвагу Аркадзіуш Чволэк: Беларусь была адной з нешматлікіх дзяржаў усходняга блока, у якім адсутнічала рэформа спецслужбаў (153). Аўтар спецыяльна прапускае тэму ўдзелу спецслужбаў у кіраванні і аслабленні апазіцыі з прычыны адсутнасці крыніц. Праблема спецслужбаў, як нам падаецца, яшчэ доўга будзе турбаваць беларускае грамадства. Цяжка паверыць у тое, што рэформа КДБ ды міліцыі дэмакратызуе антыдэмакратычныя па сваёй сутнасці структуры. Тым не менш, пасля падзення рэжыму і адкрыцця архіваў для даследчыкаў у гэтай галіне з’явіцца шмат працы.

У час станаўлення маладой дзяржавы (зрэшты, і дагэтуль) аднымі з ключавых былі пытанні гістарычнага мінулага Беларусі, інтэрпрэтацыя якіх магла непасрэдна ўказваць на кірунак далейшага развіцця краіны. Важна, але і складана, было вызначыць вытокі і гістарычную

пераемнасць беларускай дзяржаўнасці (у тым ліку ролю БНР) ці новыя нацыянальныя святы. Напрыклад, угодкі Аршанскай бітвы ў 1992 г. сустрэлі рэзкі пратэст посткамуністычных сілаў (143). Таксама дыскутавалася тэма нацыянальнай валюты: талер прайграў беларускаму рублю, "зайчыку". Адным з галоўных пытанняў была справа нацыянальнай арміі і інтэграцыі з Расіяй (Вячаслаў Кебіч, Мечыслаў Грыб) і справа атамнай зброі. Аўтар піша, што для ўплыву на наменклатуру БНФ выкарыстоўваў традыцыйную тактыку супраціву – масавыя вулічныя акцыі[8]. Іронія сітуацыі заключалася ў наступным: апазіцыя дыскрэдытавала В. Кебіча, наменклатура, у сваю чаргу, выкарыстоўвала падобныя метады ў адносінах да старшыні ВС XII склікання Станіслава Шушкевіча, галоўнага, на іх думку, суперніка пад час будучых выбараў. Аднак сам Шушкевіч не падтрымаў "радыкалаў" з БНФ і гэта, паводле даследчыка, была адна з яго найбольш значных палітычных памылак. Наменклатура заблакавала правядзенне рэферэндуму і не выканала абяцання скарачэння кадэнцыі ВС на год. У сувязі з выдачай Вільні беларускімі ўладамі кіраўнікоў Камуністычнай партыі Літвы наменклатуры ўдалося адправіць у адстаўку Шушкевіча, "адну з найбольш трагічных постацей беларускай трансфармацыі" (165). Кіраўніком ВС стаў М. Грыб, а палітычны крызіс выклікаў адзін з найбуйнейшых пратэстаў 1990-х гадоў – усеагульную забастоўку, арганізаваную ФПБ 15 лютага 1994 г. Забастоўка, згодна з традыцыйным беларускім сцэнаром, скончылася пасля рэпрэсій і касметычных саступак улады.

Важным аспектам у працэсе дэмакратызацыі краіны было прынязце новай Канстытуцыі, якой аўтар прысвяціў асобны падраздзел. Апісваючы дзейнасць рабочых груп, што працавалі над Асноўным Законам, Чволэк называе праблемы, якія дыскутаваліся: мова, адміністрацыйны

[8] Аўтар, часта ўзгадваючы пра масавыя пратэсты, не знайшоў месца для важнай кнігі, непасрэдна звязанай з дадзенай праблематыкай: Булгакаў В., Дынько А. (рэд.). Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988–2009. Беласток – Вільня – Мінск, 2011.

падзел, назва дзяржавы, а перадусім дзяржаўны лад, роля прэзідэнта і парламента. У выніку ўтварэння новых інстытутаў прэзідэнцтва і Канстытуцыйнага Суда новая канстытуцыя гарантавала "паўпрэзідэнцкі лад".

Слабасць БНФ даследчык бачыць у вялікіх ідэйных адрозненнях стваральнікаў руху, бескампраміснасці Пазняка, недастатковасці працы з сельскім электаратам, элітарнасці і стаўцы на нацыянальныя пытанні, а не на гаспадарчыя аспекты[9]. У сітуацыі пасіўнасці іншых апазіцыйных партый і іх фінансавых праблем, пры адсутнасці агульнабеларускай газеты і заангажавання Расіі ў справы Беларусі ВС (які да 1996 г. асацыяваўся з галоўным легальным форумам дзейнасці палітычнай апазіцыі) страціў свой аўтарытэт.

Пры аналізе апазіцыйных плыняў у раздзеле "Галоўныя напрамкі палітычнай апазіцыі пасля 1994 г." даследчык з Торуні вылучае 4 этапы іх фармавання: протапартыйны (1988–1989); стварэнне партый (1990–1995); рэгрэс (1996–1999); заняпад (2000–2010).

Абапіраючыся на вядомыя класіфікацыі, аўтар спрабуе сістэматызаваць апазіцыйныя плыні. Ён выдзяляе сацыял-дэмакратычныя ("Справядлівы свет", БСДП "Народная Грамада", БСДП "Грамада", Беларуская партыя працы), экалагічныя (Беларуская партыя "Зялёныя" (далей – БПЗ), Беларуская экалагічная партыя зялёных "Бэз"), хадэцкія (БХД), хадэцка-нацыянальныя (Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ), кансерватыўныя (БНФ), ліберальна-дэмакратычныя (Аб'яднаная грамадзянская партыя), ліберальная (Партыя свабоды і прагрэсу), феміністычныя ("Надзея"). Трэба пагадзіцца з Чволэкам, што Ліберальна-дэмакратычная партыя Сяргея Гайдукевіча не апазіцыйная па прычыне таго, што ад часу стварэння выконвае ролю т. зв. канструктыўнай апазіцыі, ці проста фасаднай. Прыгадаем, што ў 2006 г. Лукашэнка

[9] З гэтым "міфам" сёння не пагаджаюцца тагачасныя лідары апазіцыі. Гл.: Баршчэўскі Л. Апазіцыя БНФ: Дакументы не хлусяць // http://novychas.by/hramadstva/apazicyja_bnf_dakumienty_nie_c/ (прагледжана 8.XI.2015).

публічна заявіў, што сам галасаваў за галоўнага беларускага ліберал-дэмакрата.

Важнай структурай, што да сёння выконвае функцыю адной з ключавых апазіцыйных партый, стала створаная ў 1995 г. АГП, якую ўзначаліў Станіслаў Багданкевіч, шматгадовы старшыня Нацыянальнага Банка, а з 2000 г. яе нязменным лідарам стаў Анатоль Лябедзька. Аўтар не забываецца нагадваць і пра разлад у стане апазіцыі. На фоне іншых толькі АГП пазбегла значных расколаў. Сацыял-дэмакраты раскалоліся ажно на тры партыі: БСДГ (С. Шушкевіч), БСДП "Народная грамада" (М. Статкевіч) і БСДП "Грамада" (Ірына Вештард). Падобны лёс напаткаў і БНФ (канфлікты на лініі Ю. Хадыка – З. Пазняк, З. Пазняк – В. Вячорка, В. Вячорка – В. Сіўчык, А. Міхалевіч). Да партыйнага крызісу спрычынілася і "факсавая палітыка" Пазняка, які з 1996 г. знаходзіцца ў выгнанні і некаторымі абвінавачваецца ў няведанні беларускіх рэалій. Сітуацыю адлюстравала вядомая показка: "Пазняк: У Беларусі няма сапраўднай апазіцыі. Сапраўдная апазіцыя: У Беларусі няма Пазняка". У выніку напрыканцы 1999 г. адбыўся раскол на КХП-БНФ і БНФ "Адраджэнне". Канфлікт закранаў таксама пытанні стратэгіі (падзел на грамадскі рух і партыю, адыход ад тактыкі масавых пратэстаў). Па ініцыятыве членаў Маладога Фронту (МФ) у 2005 г. быў створаны аргкамітэт Беларускай хадэцыі (Віталь Рымашэўскі, Павал Севярынец, Аляксей Шэін), дагэтуль незарэгістраванай.

Феномен на беларускай палітычнай сцэне – Партыя камуністаў Беларусі (ПКБ). Пасля крызісу 1996 г. партыя перайшла ў апазіцыю і пачала ўзаемадзейнічаць з дэмакратамі. У ліпені 2006 г. прапрэзідэнцкая Камуністычная партыя Беларусі (КПБ) арганізавала з'езд, на якім было абвешчана аб'яднанне абедзвюх партый, але без згоды ПКБ, якая ў 2009 г. змяніла назву на Беларускую партыю левых "Справядлівы свет", *de facto* пераходзячы на сацыял-дэмакратычныя пазіцыі з чарговым нязменным партыйным лідарам Сяргеем Калякіным. У чэрвені 1994 г. была зарэгістравана Беларуская партыя жанчын "Надзея"

на чале з Валянцінай Палевіковай, феномен якой заключаўся ў тым, што ўжо праз два гады яна мела адносна вялікую падтрымку грамадства – 8%. У 2007 г. яе зліквідавалі.

Сярод перашкод у развіцці партыйнай сістэмы Чволэк вылучае: павольную змену пакаленняў, адсутнасць ведаў пра партыі сярод насельніцтва, вострую барацьбу ўнутры партый, адсутнасць міжпартыйнай інтэграцыі і, вядома ж, захады па блакаванні развіцця з боку ўлады. Разглядаючы палітычныя праграмы, аўтар зазначае, што партыі не здолелі зрабіць іх такімі, каб яны маглі адпавядаць сучасным патрабаванням і рэальна супернічаць з палітыкай Лукашэнкі. Хоць сацыяльныя пытанні і паляпшэнне службы аховы здароўя ўвайшлі ва ўсе праграмы, часта гэтыя пастулаты мелі папулісцкую афарбоўку. Торуньскі даследчык лічыць гэта асаблівасцю беларускай апазіцыі (але ці толькі беларускай?). Паводле яго, шмат гадоў у апазіцыі выступае “ясны падзел па лініі левыя – правыя” (251), а найбольшыя праграмныя адрозненні ён вылучае ў пытаннях мадэлі дзяржавы, замежнай палітыкі і гаспадаркі. Нераспрацаванасць праграм у спалучэнні з адсутнасцю іх папулярызацыі сярод насельніцтва абумовіла адсутнасць палітычных вынікаў. Толькі ці цікавіцца беларускае грамадства праграмамі, ці яно ўвогуле цікавіцца палітыкай па-за сценамі ўласнай кухні? Пра гэта даследчык не піша.

У раздзеле пра няўрадавыя арганізацыі палітолаг звяртае ўвагу на факт, што ў адрозненне ад заходніх дзяржаў палітызацыю трэцяга сектара ў Беларусі трэба ацэньваць як пазітыўную з’яву. Але яго меркаванне, што выкарыстанне беларускімі НГА замежных сродкаў “пазітыўна ўплывае на павелічэнне ўзроўню іх прафесіяналізму” (253), – прынамсі, неадназначнае. З аднаго боку так, але з іншага – ці не праява гэта фінансавай залежнасці, падпарадкаванне знешнім схемам і нормам “дэмакратычнага” свету? У гэтым кантэксце знакавым выглядае тэкст сацыял-дэмакрата Вітальда Няўрыды “Прафесія: апазіцыянер”. Па яго меркаванні, беларускі апазіцыянер павінен не толькі быць “універсальным і гнуткім”, але

і ўмець пісаць “гранты”[10]. Цяжка не пагадзіцца з тэзісамі аўтара аб тактыцы ўладаў, накіраванай на ліквідацыю незалежных НГА і заменай іх арганізаванымі дзяржавай. У Беларусі можна назіраць агульную тэндэнцыю падпарадкавання дзяржаве ўсіх сфер грамадзянскай актыўнасці. Яскравы прыклад – дэлегалізацыя ў кастрычніку 2003 г. Праваабарончага цэнтра “Вясна”, на нашу думку, адной з самых значных апазіцыйных груп. Добра, што даследчык узгадвае пра арышт у 2011 г. яе лідара Алеся Бяляцкага (260), шкада толькі, што не піша пра ролю, якую ў гэтай справе адыграла Польшча. Цікавая заўвага датычыць таго, што адсутнасць моцнага жаночага руху ў Беларусі кампенсуюць адносна разбудаваныя моладзевыя арганізацыі. Менавіта ў такіх структурах пачыналі свае кар’еры Аляксандр Фядута (Саюз моладзі Беларусі) і Анатоль Лябедзька (Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў). Менавіта на моладзь паставіў і прэзідэнт: у 1997 г. быў створаны Беларускі патрыятычны саюз моладзі (БПСМ), а з 2002 г. – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ).

Моладдзю захапляецца і аўтар манаграфіі, прысвяціўшы найбольш увагі МФ, які, зрэшты, занадта ідэалізуе[11]. Варта памятаць, што актыўнасць МФ часта дапаўнялі гамафобскія і ксенафобскія матывы, вельмі далёкія ад еўрапейскіх каштоўнасцяў, за якія яны, на думку аўтара манаграфіі, змагаліся. Напрыклад, у 2010 г. актывістку МФ Маргарыту Кароль выключылі за падтрымку сексуальных меншасцяў. Каб не ўзгадваць усе рэплікі Змітра Дашкевіча, Артура Фінькевіча ці Паўла Севярынца на адрас прадстаўнікоў ЛГБТ-супольнасці, дадамо, што дыскусіі і абвінавачванні ў падтрымцы ЛГБТ мелі

[10] Няўрыда В. Прафесія: апазіцыянер // http://vitald-niauryda.livejournal.com/2668.html (прагледжана 21.XII.2009).

[11] Адзначым даволі цікавую кнігу, прысвечаную моладзеваму супраціву ў Польшчы, выдадзеную Інстытутам Нацыянальнай Памяці: Życie na przekór. Młodzieżowa kontestacja systemu w ostatniej dekadzie PRL (1980–1989) – nowe tropy i pytania badawcze / red. B. Noszczak. Warszawa, 2016.

месца і пасля 2010 г.[12]. Такім чынам, у гэтым пытанні маладафронтаўцы згодныя з прэзідэнтам, вядомым сваімі выказваннямі пра гомасексуалаў. Не абмінулі МФ і ўнутраныя канфлікты (Севярынец і Аляксей Шыдлоўскі наконт хрысціянскага характару руху), а таксама барацьба з БНФ за самастойнасць. Аўтар узгадвае таксама актыўны ЗУБР, нават “Правы Альянс” і “Край”. Але ён чамусьці не закранае тэмы анархістаў, хоць ведае пра іх існаванне (261). Нагадаем, што Федэрацыя анархістаў Беларусі ў 90-я г. XX ст. была даволі актыўнай. Важнай і, галоўнае, заўважальнай ініцыятывай анархістаў стала газета “Навінкі” (не ўспамінаючы пра самвыдат тыпу “Моладзь змагаецца!”, “Отвали”), якую, зрэшты, аўтар замясціў у бібліяграфіі. Яе вострая палітычная сатыра і кантакты з “Charlie Hebdo” заслугоўваюць прынамсі некалькіх радкоў. Апошняя рэч: Юры Глушакоў, сённяшні намеснік БПЗ і прэтэндэнт у кандыдаты на прэзідэнта у 2006 г. (пра што даследчык таксама ведае) – ветэран сучаснага анархісцкага руху ў Беларусі. На нашу думку, варта занатоўваць моманты, якія датычаць палітычнай генеалогіі сучаснай апазіцыі.

Вяртаючыся да тэмы прафсаюзаў, даследчык канстатуе, што яны пастаянна сустракалі перашкоды з боку дзяржавы (напрыклад, блакаванне банкаўскіх рахункаў ФПБ). Пасля паразы кіраўніка ФПБ Уладзіміра Ганчарыка на выбарах прэзідэнт распачаў кампанію “нейтралізацыі ўплываў” гэтай структуры. Аднак рабочы супраціў меў і ўласныя недахопы: адсутнасць масавасці і цеснага ўзаемадзеяння паміж прафсаюзам і палітычнай апазіцыяй, а таксама адсутнасць палітычных патрабаванняў. Не здабыўшы папулярнасці ў грамадстве, нягледзячы на адносны чалавечы патэнцыял, прафсаюзы значнай ролі ў барацьбе з рэжымам не адыгралі. Трэба толькі ўдакладніць: БНП быў створаны не ў 1990 г., як піша аўтар (286). Па ініцыятыве Рабочага Саюза 6 кастрычніка 1991 г.

[12] Хмяльніцкі Г. Іван Шыла: У “Маладым фронце” – раскол // http://udf.by/news/face2face/89276-van-shyla-u-maladym-fronce-raskol.html (прагледжана 20.II.2016).

стварыўся Незалежны прафсаюз гарнякоў Беларусі, які ўлетку 1993 г. змяніў назву на БНП[13]. Верагодна, Чволэк проста разгубіўся перад такой колькасцю назваў і датаў, бо часткова правільную інфармацыю ён падаў раней (75). Часткова, таму што Рабочы Саюз у Салігорску быў створаны не ў 1989 г., а 18 жніўня 1990 г. Перад тым рабочыя гуртаваліся вакол клуба "Пошук". У гэтым месцы неабходна прыгадаць пра незалежную газету "Баста", якая выходзіла ў 1996–1997 г. і была цалкам прысвечана рабочым справам. Дадамо, што для Беларусі характэрна адсутнасць сіндыкалісцкай культуры і традыцыі, якую, напрыклад, маюць Францыя ці нават Польшча. Да таго ж хапала фармальных цяжкасцяў для арганізацыі забастоўкі (звальненні, збіццё, арышты рабочых-актывістаў і інш.).

Характэрныя рысы тагачаснай апазіцыйнай сцэны – гэта партыі-фантомы, нязменнасць палітычных эліт, партыйныя канфлікты і суперніцтва палітыкаў, адсутнасць масавай палітычнай сілы і ідэйныя супярэчнасці, у тым ліку ў стаўленні да знешняй палітыкі. Цікавая заўвага аўтара датычыць таго, што пасля 1994 г. апазіцыя "шмат страціла са сваёй ідэйнасці" (294) – значная частка будучых апанентаў Лукашэнкі належала да яго саюзнікаў. Менавіта пасля выбараў 1994 г. з'явіліся істотныя перашкоды ў развіцці партыйнай сістэмы: адмова ў рэгістрацыі, абавязак перарэгістрацыі, шэраг фармальных цяжкасцяў – неабходная колькасць членаў, юрыдычны адрас, абмежаванні ў назвах ("нацыянальны", "беларускі" і г. д.), шырокія паўнамоцтвы Міністэрства юстыцыі. З дапамогай юрыдычных метадаў былі зліквідаваны Беларуская партыя жанчын "Надзея" і Беларуская партыя працы. Падобная сітуацыя і з "трэцім сектарам", слабасцю якога была адсутнасць інфармацыйнай палітыкі. Важным аспектам быў таксама дзяржаўны кантроль над фінансаваннем партый і НГА. Прыводзячы шматлікія прыклады

[13] Падрабязней: НПГБ. Сборник материалов по истории Независимого профсоюза горняков Беларуси / сост. А. Довнар, Р. Ерошеня. Минск, 2011.

законаў і юрыдычных актаў, аўтар справядліва звяртае ўвагу на супярэчлівасць дэкрэтаў прэзідэнта і Канстытуцыі і г. д. Усё гэта разгледжана ў раздзеле "Метады і тэхнікі абмежавання дзейнасці палітычнай апазіцыі (1994–2010)".

Дэмакратызацыі краіны перашкаджала таксама выбарчая сістэма. Цэнтральная выбарчая камісія, якой з 1996 г. кіруе Лідзія Ярмошына (верагодна, найбольш адказная за фальсіфікацыі), цалкам падуладная прэзідэнту. Чволэк пералічвае шэраг праблем, сярод якіх адсутнасць апазіцыянераў у выбарчых камісіях (адсутнасць рэгіянальных структур), перашкоды ў складанні выбарчых спісаў, рэгістрацыі ініцыятыўных груп і перадвыбарнай агітацыі (адмова ў друку і памяшканнях, закрыццё апазіцыйных СМІ паралельна з павелічэннем тыражу дзяржаўных газет, судовыя справы за зняважу прэзідэнта, канфіскацыя апаратуры, збіццё і нават забойствы журналістаў Дзмітрыя Завадскага ў 2000 г. і Алега Бябеніна ў 2010 г.). Быў абмежаваны прыём не толькі "Белсата" ці "Еўрапейскага радыё" для Беларусі, але і праграм расійскага тэлебачання. Паводле даследчыка, у краіне створана таталітарная медыяльная сістэма з "кантрольна-маніпуляцыйнымі асаблівасцямі" (353). Адначасова можна згадзіцца з аўтарскім выразам "эластычнасць рэжыму" (381), які загадзя рыхтуецца да кожных выбараў. На думку даследчыка, апазіцыя часткова сама вінаватая ў гэтай сітуацыі, таму што пагаджалася на правілы гульні, якія накідвала ўлада. У сваю чаргу, найбольш небяспечныя для ўлады, з чым мы згодныя, заўсёды былі нізавыя і несфармалізаваныя ініцыятывы.

У раздзеле "Мадэлі адносін паміж апаратам улады і палітычнай апазіцыяй (1994–2010)" аўтар апісвае, як прэзідэнт метадычна рухаўся да ўзяцця поўнай улады. У 1995–1996 г. апазіцыя не здолела выкарыстаць канфрантацыю прэзідэнта і ВС. Барацьбу за рэферэндум, у тым ліку шляхам сілавой канфрантацыі, выйграў прэзідэнт (вядомае збіццё 18 дэпутатаў уначы 12 кастрычніка 1995 г. у зале паседжанняў). Спробы імпічменту не

ўдаліся – апазіцыя ў парламенце складала значную меншасць. Можна пагадзіцца з польскім палітолагам, што грамадства баялася дзяржавы, прапанаванай "нацыяналістамі", і хацела стабільнасці. Здаецца, большасць жыхароў краіны не разумела ўсёй палітычнай гульні абодвух бакоў і заставалася абыякавай да супрацьстаяння ўлады і апазіцыі. У пэўны момант склалася даволі дзіўная сітуацыя – ВС XII склікання ўсё яшчэ функцыянаваў, хоць яго легітымны тэрмін скончыўся, а новы парламент не быў абраны.

У адказ на апазіцыйную прапанову "круглага стала" прэзідэнт прапанаваў рэферэндум увосень 1996 г. Памылкай апазіцыі была згода на рэферэндум з дадаваннем уласных пытанняў, датычных паўнамоцтваў прэзідэнта. Нават Канстытуцыйны суд не здолеў паўплываць на Лукашэнку (у 1995 г. зафіксавана 11 абвінавачванняў у парушэнні Канстытуцыі прэзідэнтам). Аўтар ставіць пытанне пра ролю Расіі ў крызісе 1996 г., згадваючы візіт шэрагу расійскіх палітыкаў. Станіслаў Шушкевіч адкрыта піша, што "ў 1996 г. у Мінск з мэтай зруйнаваць беларускі парламентарызм і надзяліць Лукашэнку дыктатарскімі паўнамоцтвамі прыехалі расійскія кіраўнікі Селязнёў, Строеў і Чарнамырдзін"[14]. Дадамо цікавы факт: былы намеснік старшыні КДБ і начальнік Службы бяспекі прэзідэнта Леанід Ерын перад гэтымі пасадамі ўзначальваў ФСБ па Маскоўскай вобласці, а пасля адстаўкі зноў вярнуўся ў Расію.

Пасля рэферэндуму 1996 г. Лукашэнка абвясціў пра "крах ідэалогіі БНФ". Апазіцыя спадзявалася на "эфект даміно", аднак асобныя забастоўкі не перараслі ў масавыя пратэсты, таму адбыўся пераход на мірныя метады як шматгадовую стратэгію барацьбы за дэмакратыю. Канцэнтрацыя пратэстаў у сталіцы, адсутнасць ідэй для новых формаў барацьбы і цыклічнасць акцый аблягчала кантроль над апазіцыяй. Нават у 1999 г. пад час адной з найбольш сур'ёзных апазіцыйных

[14] Шушкевіч С. Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР. Мінск, 2013. С. 25.

ініцыятыў – альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў – праявілася адсутнасць харызматычнага лідара. Ідэю правядзення такіх выбараў у атмасферы канфлікту паміж М. Чыгіром і З. Пазняком можна назваць больш "тэстам на згуртаванасць апазіцыі", чым рэальнай пагрозай для Лукашэнкі (455). Самі выбары па прычыне адсутнасці альтэрнатыўнага сцэнара дзеянняў Чволэк лічыць "кампраметацыяй апазіцыі" і "змарнаваным высілкам". У траўні 1999 г. прапалі Юрый Захаранка і Віктар Ганчар, ВС заставаўся надзвычай пасіўным, а яго старшыня Сямён Шарэцкі ўцёк у Літву. Спробы дамовіцца з прэзідэнтам, наіўна спадзеючыся на міжнародныя арганізацыі, пацярпелі крах (Захад прызнаў не выбары, а толькі заканчэнне прэзідэнтуры Лукашэнкі).

Адзінай апазіцыйнай сілай у праўладным парламенце была адносна актыўная фракцыя "Рэспубліка" на чале з генералам Валерыем Фраловым. Дэмакраты зноў пацярпелі паразу на выбарах 2001 і 2003 г., пасля чаго з'явіліся Еўрапейская кааліцыя "Свабодная Беларусь", што спрабавала аб'ядноўваць людзей вакол еўрапейскіх каштоўнасцяў, а таксама Кааліцыя "5+" і платформа "Маладая Беларусь". Толькі пасля таго, як у канцы 2004 г. апазіцыя змагла паразумецца наконт будучых выбараў, удалося стварыць Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы Беларусі (АДС). На погляд аўтара, стварэнне новых дэмакратычных платформаў замест развіцця адной было памылкай. Чволэк не ўхіляецца пры гэтым ад ацэньвання лідараў апазіцыі і крытыкі. Адзначае, напрыклад, што хоць адзіны кандыдат Аляксандр Мілінкевіч шмат падарожнічаў па Заходняй Еўропе, але ён "быў пазбаўлены ценю харызмы" (521).

Асобны раздзел прысвечаны праблеме эфектыўнасці апазіцыі ў выбарчых кампаніях. Канцэнтруючыся спачатку на галоўных выбарах 1994 г., аўтар звяртае ўвагу на адсутнасць сродкаў і прафесіяналізму апазіцыйных штабоў, а таксама на неразуменне таго, чаго чакала стомленае гаспадарчым крызісам грамадства. Адсутнасць адзінага дэмакратычнага кандыдата ў спалучэнні з папулізмам Лукашэнкі, моцным палітычным інстынктам і эмацыйнасцю

выказванняў прадвызначылі яго перамогу. З іншага боку, было нямала пралікаў апазіцыі: адкрытая антырасійскасць Пазняка, неадпаведнасць яго сапраўдных поглядаў зместу агітацыйных матэрыялаў і да т. п. У выснове разваг аўтара ляжыць думка, што незалежна ад пэўных маніпуляцый першыя выбары Лукашэнка выйграў дэмакратычным спосабам.

Апісваючы наступныя парламенцкія, мясцовыя і прэзідэнцкія выбары, А. Чволэк зноў пералічвае памылкі апазіцыі, а потым прыводзіць прыклады розных, так бы мовіць, класічных тэхнік, якімі ўлада чыніла перашкоды “пятай калоне”. Напрыклад, адмаўляла ў рэгістрацыі апазіцыйных кандыдатаў (але не лідараў партый). Каб стварыць бачнасць шматпартыйнасці, спецслужбы распаўсюджвалі фальшывыя выбарчыя ўлёткі з мэтай дыскрэдытацыі апазіцыі і інш. Паводле аўтара, памылковасць тактыкі апазіцыі палягала на імкненні пераконваць грамадства галасаваць супраць змены Канстытуцыі, бо гэтым самым адбывалася легалізацыя рэферэндуму 2004 г. Выбары 2006 і 2010 г. скончыліся рэпрэсіямі і судовымі працэсамі, але паказалі, што толькі з пазіцый сілы (масавымі пратэстамі) у Беларусі можна весці “дыялог” з уладай. Калі з мноства кандыдатаў паспрабавалі вылучыць “самага моцнага прадстаўніка”, апазіцыю аслабіла кандыдатура “сацыял-дэмакрата” Аляксандра Казуліна, былога рэктара БДУ і паплечніка прэзідэнта. Як адзначае польскі палітолаг, на вынік выбараў паўплывала практыка датэрміновага галасавання, якое ў 2010 г. склала амаль 37%, а таксама медыйная кампанія (выразанне крытыкі на адрас сям’і прэзідэнта, выстаўленне апазіцыйных кандыдатаў у чорным святле і інш.). Незалежна ад пэўнай перадвыбарчай дэмакратызацыі і досведу (ці хутчэй яго адсутнасці?) у снежні 2010 г. апазіцыя выставіла ажно 7 кандыдатаў, якія супернічалі паміж сабой і прапаноўвалі палітычныя праграмы даволі агульнага характару.

Параўноўваючы сітуацыю ў Беларусі з украінскай “аранжавай рэвалюцыяй”, Чволэк падкрэслівае розніцу паміж дзвюма краінамі. Украінскі сцэнар не мог адбыцца

ў Беларусі па шматлікіх прычынах: адсутнасць рэальнага ўзаемадзеяння апазіцыі, альтэрнатыўных планаў дзеяння, падтрымкі з боку прадпрымальнікаў і сілавых структур, а таксама заангажаванасці правінцыі. Параўнанне з Украінай – ці не адзінае суаднясенне з апазіцыйнымі структурамі краін-суседзяў[15]. Напэўна, варта было б правесці паралелі і паміж досведам апазіцыянераў розных краін.

Апошні раздзел "Міжнародная падтрымка працэсу дэмакратызацыі Беларусі" ўтрымлівае звесткі з аналітычных тэкстаў і рапартаў з галіны міжнародных адносін. Аўтар апісвае місію пасярэдніцтва АБСЕ паміж апазіцыяй і ўладай, якая адбывалася ў складаных умовах. Палітыка саступак і цвёрдая пазіцыя прэзідэнта не спрыялі дэмакратызацыі краіны. Еўрапейскі Саюз з яго двайнымі стандартамі (Чволэк звяртае ўвагу на факт, што індывідуальныя інтарэсы еўрапейскіх дзяржаў перашкаджалі адзінай палітыцы адносна Беларусі) цягам 17 гадоў не выпрацаваў адпаведных механізмаў уплыву на Лукашэнку, які выбраў інтэграцыю з Расіяй і пры патрэбе лавіраваў. Санкцыі і "Еўрапейская палітыка суседства" ізалявалі дзяржаву, а не рэжым, апазіцыя ж крытыкавала ЕС за тое, што яе не ўлічваюць пад час размоў з Лукашэнкам. У дадатак фінансаванне ад TACIS у параўнанні з іншымі краінамі рэгіёна было недастатковым (0,4% для Беларусі пры 2,7% для Малдовы). З нешматлікіх плюсоў рэальнай дапамогі (у тым ліку ад ЗША) узгадваецца адкрыццё ЕГУ. ЗША па сутнасці не ангажаваліся ў працэс дэмакратызацыі Беларусі, калі параўноўваць з іншымі краінамі рэгіёна. Пасля 1996 г. пачалася палітыка "селектыўнага дыялогу", а фінансавая дапамога пасля закрыцця Беларускага Фонду Сораса (1997) спынілася. Аўтар справядліва заўважае, што "Акт пра дэмакратыю ў Беларусі" (2004) ніяк не паўплываў на настроі прэзідэнта. Палітыку Белага дома адносна Беларусі ён называе найбольш

[15] На тэму ўкраінскай апазіцыі параўнальна нядаўна ў Польшчы ўбачыла свет кніга маладой даследчыцы: Hurska-Kowalczyk L. Opozycja polityczna na Ukrainie (1991–2006). Toruń, 2011.

паслядоўнай: пасля атамнага раззбраення краіны Вашынгтон звяртаў на Мінск мала ўвагі, таму што Беларусь не з'яўлялася тэрыторыяй геапалітыкі ЗША.

Натуральна, закранае аўтар і праблемы, звязаныя з палітыкай Польшчы, якая падтрымала апазіцыю толькі пасля 1996 г. Польшча вяла палітыку "абмежаванага дыялогу" ці "крытычнага дыялогу", а напругу стварала яе імкненне ўступіць ў НАТО і ЕС. У вачах Беларусі Польшча стала асноўным цэнтрам апазіцыі на чале з Пазняком, які вёў інфармацыйную барацьбу супраць уладаў. У дадатак асаблівую папулярнасць у Польшчы ў 2006 г. здабыў А. Мілінкевіч: інтэрвію і выступы ў Сейме, сустрэча з Лехам Качыньскім. Па сутнасці, аўтар выказвае думку, характэрную для іншых даследчыкаў: Польшча стала медыятарам паміж ЕС і Беларуссю, стараючыся выконваць гэтую ролю ўвесь час (Браніслаў Герэмэк афіцыйна адкрываў у 1998 г. місію АБСЕ). Паразай заканчваліся прыезды польскіх палітыкаў (затрыманне Марыюша Каміньскага ў сакавіку 2000 г.) і не рэалізоўваліся ідэі круглых сталоў з удзелам апазіцыі. Кульмінацыяй стаў раскол Саюза палякаў на Беларусі ў 2005 г. (дарэчы, можна было б некалькі радкоў прысвяціць сувязям беларускіх апазіцыянераў з польскімі актывістамі). Аўтар згадвае шматлікія акцыі салідарнасці з беларусамі ў розных польскіх гарадах, дзейнасць "Радыё Рацыя", тэлебачання "Белсат", Фонду Стэфана Баторыя і стыпендыяльную праграму Кастуся Каліноўскага. Верагодна, можна згадзіцца з даследчыкам, што пад час кіравання партыі "Права і Справядлівасць" палітыка "дэмакратызацыі" Беларусі дасягнула найбольшых поспехаў. Асобна трэба было б сказаць пра значэнне "карты паляка", якая ў кнізе не згадваецца.

На завяршэнне даследавання Аркадзіуш Чволэк звяртаецца да галоўнага пытання: ці ёсць сэнс удзельнічаць ва ўсіх відах выбараў, марнуючы сілы на падрыхтоўку да гэтага фарсу? На яго думку, прычыны няўдач вельмі складаныя. Гэта і адсутнасць масавых рабочых пратэстаў, і блізкасць Масквы. Іх карані трэба шукаць і ў першых гадах незалежнасці: парламент, выбраны ў 1990 г., "кансерваваў старую палітычную сістэму" да 1995 г., а большасць

партый засталася па-за вялікай палітычнай сцэнай. Нягледзячы на расколы і малалікасць партый, амбіцыі лідараў, ідэалагічныя канфлікты, адсутнасць узаемнай стратэгіі і наватарскага падыходу да барацьбы польскі даследчык ускладвае надзею на “трэці сектар” і моладзь, якую лічыць патэнцыйным каталізатарам грамадскай мабілізацыі. З нашага пункту гледжання, варта ўсведамляць, што ў Беларусі вырасла новае пакаленне людзей, якія не памятаюць жыцця без Лукашэнкі. Таму моладзь адначасова можа не толькі паскараць, але і запавольваць змены.

Кніга стварае ўражанне грунтоўнай навуковай працы, у якой на падставе вялізнага матэрыялу даследаваны беларускія апазіцыйныя структуры. Навуковы апарат дапаўняе комплексная бібліяграфія на чатырох мовах (англійская, беларуская, польская і руская), якая складаецца з трох частак: юрыдычныя акты, прэса і спецыяльная літаратура – агулам 50 старонак. Шкада, што ў ёй няма падзелу на крыніцы і манаграфіі. Адсутнасць геаграфічнага і імяннога паказальнікаў не дазваляе чытачу свабодней арыентавацца ў матэрыяле такога вялізнага аб’ёму. Гэта адназначны недахоп працы. Кніга такога аб’ёму не магла застацца без недакладнасцяў і друкарскіх памылак (184, 188, 218). Аркадзіуш Чволэк імкнуўся да паслядоўнага транскрыпцыйнага польскага запісу беларускіх імёнаў, аднак у працы сустракаецца непаслядоўнасць. Напрыклад, імёны Уладзіміра Някляева і Віталя Рымашэўскага ён перакладае з беларускай мовы, а імёны Юрыя Глушакова, Пятра Барысава і іншых – з рускай (672). Падобныя памылкі можна назіраць і ў публікацыях іншых аўтараў, прысвечаных Беларусі[16]. Падаецца, што не лішнімі былі б ілюстрацыі – здымкі лідараў апазіцыі, эмблем партый і арганізацый ці фота з масавых акцый пратэсту. Толькі бел-чырвона-белая вокладка прыгадвае

[16] Гл.: Czahor R. Polityka zagraniczna Republiki Białoruś w latach 1991–2011. Studium politologiczne. Polkowice, 2011. S. 10. Potocki M. [rec.:] I tak się kręci. A. Poczobut. System Białoruś. Gliwice, 2013 // Nowa Europa Wschodnia. 2014. Nr. 1. S. 152–154.

чытачам галоўны (але не адзіны) сімвал апазіцыі ў Беларусі. Магчыма, лепш было б зрабіць два салідныя тамы з цвёрдай вокладкай, здымкамі і паказальнікамі.

Варта выказаць некаторыя заўвагі і адносна зместу. На жаль, калі апазіцыйная прэса аўтарам выкарыстана напоўніцу, то некаторыя важныя для тэмы кнігі[17] засталіся без увагі. Прыдаліся б і ўспаміны ўдзельнікаў тагачасных падзей ды інтэрв'ю з імі. Параўнанне ацэнак падзей рознымі палітыкамі магло б зрабіць аналіз шырэйшым і дапамагло б чытачам адчуць, як мінулае асэнсоўвалася непасрэднымі героямі кнігі. Канцэнтруючыся на пытаннях інстытуалізацыі апазіцыі, А. Чволэк не аналізуе сацыяльных аспектаў, не імкнецца шукаць больш глыбокіх прычын слабой падтрымкі апазіцыі з боку насельніцтва. Напрыклад, былы прэзідэнт Інстытута Нацыянальнай Памяці гісторык Лукаш Каміньскі, гаворачы пра польскі вопыт, у процівагу палітычнай апазіцыі ставіў грамадскі супраціў, па яго меркаванні, больш эфектыўны, які не паддаецца кантролю і маніпуляванням[18].

Безумоўна, важная і роля дзеячоў мастацтва, культуры, іх удзел у апазіцыйнай дзейнасці, выступы на палітычных акцыях. Мастакі Аляксей Марачкін і Алесь Пушкін (БНФ), музыкі Лявон Вольскі, Кася Камоцкая, Віктар Шалкевіч, літаратары Уладзімір Арлоў, Васіль Быкаў, Уладзімер Някляеў – гэта толькі некаторыя імёны. Цікавым прыкладам такіх сувязяў была і Партыя аматараў піва (Л. Вольскі, мастак М. Анемпадыстаў на чале з удзельнікам вулічных акцый і перформансаў першай паловы 90-х г. цяперашнім эмігрантам Андрэем Рамашэўскім). Асобна можна б было аналізаваць “Свабодны тэатр”, шэраг музычных гуртоў, песні якіх былі не толькі

[17] Вось некаторыя з іх: Шарецкий С. Аграрная партия Беларуси и её идеалы. Сборник статей и выступлений. Минск, 1995; Анішчанка Я. Эвакуацыя апазіцыі. Апошні год дзейнасьці Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання ў друку і ўспамінах дэпутатаў. Мінск, 2008 (перавыданні – 2010, 2014); Булгакаў В. (рэд.). Палітычная гісторыя незалежнай Беларусі (да 2006 г.). Беласток – Вільня, 2011 і шэраг іншых.

[18] Sprzeciw, opozycja, opór w PRL… S. 51.

моладзевым голасам пратэсту, але і магнітам, які прыводзіў шмат неабыякавых людзей у грамадска-палітычную дзейнасць. Паводле кракаўскай даследчыцы Маі Зентары, "іх творчасць адыгрывала ролю маніфестаў, станавілася сімвалічнай дэкларацыяй ідэй, за якія змагаліся"[19]. Калі палітыка закранае культуру, то культура не можа не закранаць палітыкі. Натуральным чынам пачалі з'яўляцца "чорныя спісы", затрыманні і канфіскацыі апаратуры пад час незалежных музычных мерапрыемстваў. Па сутнасці, сёння ў Беларусі рок-канцэрт – палітычная акцыя. Моладзевыя субкультуры ствараюць контркультуры, тыя ў сваю чаргу балансуюць на мяжы палітыкі і мастацтва. А карані субкультурных пратэстаў можна шукаць у дэманстрацыях хіпі, якія адбыліся ў Горадні яшчэ ў кастрычніку 1971 і ліпені 1972 г. Мы думаем, што ў даследаванні апазіцыі нельга забывацца на гэтыя аспекты. Магчыма, карысна было б закрануць і праблему палітычнай апазіцыі ў эміграцыі (фінансавая падтрымка, лабаванне ідэй, асабістыя кантакты), якая засталася без увагі[20]. Напэўна, не лішне было б зірнуць на ролю царквы ў палітычным кантэксце, хоць Беларусь – не Польшча эпохі "Салідарнасці", тут рэлігія не выконвала такой інтэграцыйнай ролі для агульнага супрацціву. Праваслаўе ў яго расійскім варыянце хутчэй – важная частка падмурку, на якім трымаецца ўлада. Але ў Беларусі было нямала прыкладаў парушэння свабо-

[19] Гл. цікавую дысертацыю Маі Зентары "Białoruski nonkonformizm muzyczny w okresie od lat 60. XX wieku do końca pierwszej dekady XXI wieku: nowy ruch społeczny na Białorusi", напісаную пад навуковым кіраўніцтвам праф. Яраслава Ракіцкага і абароненую ў Ягелонскім універсітэце ў 2014 г. Машынапіс працы знаходзіцца ў асабістым архіве аўтара артыкула. Цытата на с. 167.

[20] Гл. доктарскую дысертацыю Агнешкі Смальчынскай, напісаную пад навуковым кіраўніцтвам праф. Пятра Крашэўскага і абароненую ва Універсітэце Адама Міцкевіча ў Познані ў 2012 г. Праца даступная ў сеціве: https://repozytorium.amu.edu.pl/bitstream/10593/2439/1/Bialoruska%20emigracja%20polityczna%20w%20latach%201990-2004%20A.Smolczynska.pdf (прагледжана 20.II.2016)

ды рэлігіі і веравызнання. Згадаем хоць бы пра пераслед вернікаў царквы “Новае жыццё”, але не толькі.

Як нам падаецца, праз радкі манаграфіі прарываецца думка аб тым, што на дадзеным этапе мірным шляхам нічога не змяніць. Таму ўважлівы чытач можа зрабіць выснову, што толькі пошук новых (нізавых і альтэрнатыўных), у тым ліку больш радыкальных, формаў супраціву можа прывесці да зменаў. Аднак галоўнае пытанне, якое чамусьці не задае аўтар, на нашу думку, датычыць праблемы свабоды. Менавіта свабода з’яўляецца важнай катэгорыяй, дзеля якой адбываюцца якасныя змены палітычных сістэм у той ці іншы бок, менавіта яна (гаспадарчая і нацыянальная, асабістая і абсалютная) падштурхоўвае да барацьбы. Ці для апазіцыі свабода (калі так, то якая) – важная катэгорыя? А для насельніцтва Беларусі? Замест свабоды А. Чволэк выкарыстоўвае катэгорыю “дэмакратызацыя”. Ці пасля перамогі апазіцыі дэмакратыя стане панацэяй ад усіх праблем? Рызыкнем нагадаць, што і “дэмакратычныя” ўрады падаўляюць пратэсты гумовымі кулямі, і ў “цывілізаваных” краінах ёсць палітвязні.

Крытычныя заўвагі не змяняюць факта, што даследаванне А. Чволэка – важная кніга ў сучаснай палітычнай гістарыяграфіі Беларусі. Можна меркаваць, што рэцэнзаваная манаграфія не будзе “адкрыццём” для ветэранаў апазіцыі, але, магчыма, у яе варта зазіраць менавіта тым, хто толькі распачынае палітычную барацьбу ў Беларусі. Каб новыя тамы, прысвечаныя беларускай апазіцыі, не выглядалі 50-старонкавым дадаткам да гісторыі палітычнай неэфектыўнасці (за 2010–? г.), а былі прыкладам для іншых грамадстваў, што змагаюцца з больш ці менш рэпрэсіўнымі рэжымамі.

## СТАРЧЕНКО, НАТАЛЯ. Честь, кров і риторика. Конфлікт у шляхетському середовищі Волині (друга половина XVI – початок XVII століття). Київ: Laurus, 2014. 510 с.

Напрыканцы 2015 г. у час побыту ў Кіеве галоўным аб'ектам майго прыпозненага "палявання" ў мясцовых кнігарнях стала дaследаванне Наталлі Старчанкі пра валынскую шляхту. Праца ўкраінскай даследчыцы ўжо патрапіла ў Мінск, але літаральна ў некалькіх паасобніках. Да майго вялікага расчаравання, знайсці ў Кіеве кніжку ў продажы не ўдалося, а сама аўтарка пры сустрэчы несуцешна заўважыла, што наклад раскуплены. Адзначу, што раскуплена было навуковае даследаванне, досыць вялікае па памерах і дастаткова спецыфічнае па змесце. Што праўда, праз некалькі месяцаў мой "апетыт" быў задаволены, бо ў першай палове 2016 г. з'явілася яго другое выданне.

Паказнікам запатрабаванасці кнігі Наталлі Старчанкі стала не толькі яе папулярнасць сярод аматараў гісторыі, якія абіраюць гаманцом. У першую чаргу высока ацаніла майстэрства і выдатны густ гісторыка навуковая грамадскасць Украіны. З'яўленне даследавання заўважылі і замежныя інстытуцыі: у 2014 г. праца Н. Старчанкі была адзначана некалькімі ўзнагародамі – у Польшчы за найлепшую кнігу ў намінацыі замежнае даследаванне ад "Przeglądu Polskiego" і адпаведна за найлепшую навуковую публікацыю па ўкраіназнаўчай тэматыцы ў галіне гуманістыкі і сацыяльных навук ад Канадскага інстытута ўкраінскіх штудый Альберцкага ўніверсітэта. Паўтаруся: кніга атрымала самую станоўчую ацэнку з боку **найлепшых** украінскіх навукоўцаў, бо сапраўды ёсць за што і чаму.

Структура працы адпавядае класічнай манаграфіі і складаецца з уступу, дванаццаці раздзелаў, высноваў, спіса выкарыстаных крыніц і літаратуры, імяннога і геаграфічнага паказальнікаў ды пераліку ілюстрацый. Асобна пра апошнія: ўражанні ад тэксту дапаўняе густоўная мастацкая канцэпцыя выдання. Падабраныя і дарэчна ўстаўленыя ілюстрацыі не толькі адпавядаюць аповеду, але і выдатна візуалізуюць раннемадэрную эпоху.

Ва ўкраінскай гістарыяграфіі ўжо вядомы шэраг аб'ёмных прац па гісторыі шляхты Валынскага ваяводства (напр., М. Даўбішчанкі, І. Варанчук). Але абраны прадмет і ракурс даследавання ператвараюць працу Н. Старчанкі ў з'яву ўнікальную, паколькі нават выкарыстанне мадэлі манаграфіі на прыкладзе іншай тэрыторыі наўрад ці будзе магчымым з пункту гледжання наяўнасці адпаведнай архіўнай базы.

Несумненна, кніга "працуе" па дзвюх актуальных стратэгіях: аўтарка слушна даводзіць адметнасць Валыні ў межах Польскага каралеўства і паралельна тлумачыць мадэлі паводзінаў мясцовага насельніцтва пераважна ў агульнаеўрапейскім кантэксце. Чаго бракуе ў працы, дык нейкіх больш шырокіх геаграфічных і храналагічных паралеляў. Валынская шляхта як бы зніадкуль бярэцца як прадукт судовай практыкі і актавых кніг з ужо гатовай і ўласцівай ёй адметнай варажнечай і пачуццём гонару. У тэксце не хапае (памеры працы гэта дазваляюць) нават мінімальнага экскурсу ў гісторыю "насильства" на ўкраінскіх землях, хоць бы ў перыяд уваходжання ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў першай палове XVI ст., калі ўласна і "даспела" такая сацыяльная група, як шляхта. Замест гэтага – цудоўныя метадалагічныя ўстаўкі, якія, тым не менш, не кампенсуюць фону. Ад кніжкі ўзнікае пэўнае "кулінарнае" ўражанне: калі з плода выядаецца і смакуецца самае смачнае, а рэшта пакідаецца, што, аднак, не заўсёды гарантуе разуменне таго, што ўяўляе ён у цэлым асартыменце "саду". Пошукі элементаў гонару (зрэшты, паспяховыя) як важнага складніка шляхецкай культуры валынскай шляхты ці дастаткова звязваць толькі з рэцэпцыяй адпаведных уяўленняў з Італіі ці Польшчы? Узнікае пытанне: а што, у колах украінскай эліты, а дакладней, эліты ВКЛ да сярэдзіны XVI ст. паняцця гонару не існавала або кроў пад час гвалту лілася неяк іначай? Сыходзячы з асабістага, досыць сціплага досведу вывучэння крымінальнай штодзённасці ў першай палове XVI ст., магу адзначыць, што і судовай "рыторыкі" з нагоды абразы словам і чынам было больш чым дастаткова. Зразумела, што немагчыма патрабаваць усяго, чаго хочацца, але неяк вельмі не хапае паралеляў з канфліктамі ў асяроддзі іншых станаў грамадства Валыні, што б дадаткова дазволіла вылучыць адметнасць

“шляхецкага асяроддзя” або, наадварот, падраўняць яго пад агульную сітуацыю з гвалтам у грамадстве. Няўжо ніякай гарызантальнай інтэрферэнцыі не было ўвогуле?

Агляд кожнага раздзела кнігі – справа заўсёды карысная, а ў выпадку гэтага даследавання нават неабходная, хоць сама аўтарка заўважае, што была вымушана ўводзіць некаторыя “тэхнічныя” раздзелы, дзе дададзена характарыстыка пэўных тэарэтычных падыходаў і гістарычных абставін ці інстытутаў. Такі першы раздзел “Про честь, кров і риторику. Попередні зауваги”. Абмінуць яго як “тэхнічны” не выпадае (асабліва тлумачэнні тэрмінаў, напр., *сімвалічны капітал*, *культура варожасці*), калі хочаш зразумець тэарэтычную частку кнігі і арыентавацца ў эпосе дамінавання шляхты. Дарэчы, назва даследавання можа падмануць пэўныя наіўныя чаканні: чытанне кнігі Н. Старчанкі – гэта дастаткова сур'ёзная *праца*, а не гартанне падборкі крымінальных апавяданняў. Па вялікім рахунку, агляд метадалагічных падыходаў, на якія абапіраецца пані Наталля, у большай ступені патрэбны тым, хто толькі пачынае цікавіцца гісторыяй Рэчы Паспалітай і гісторыяй права ўвогуле. Фактычна ж, усё даследаванне можна назваць своеасаблівым падручнікам па метадалогіі гісторыі з ілюстрацыяй магчымасцяў практычнага выкарыстання тэорыі. Для кожнага, хто толькі “даспеў” да жадання займацца шляхецкай культурай, асабліва ўсходняй часткі Рэчы Паспалітай, праца Н. Старчанкі павінна стаць своеасаблівым інтэлектуальным трэнажорам, дапаможнікам уваходу ў прафесію.

Такі ж тэхнічны характар мае, са слоў даследчыцы, і другі раздзел “Річ посполита воєводства Волинського”, дзе даецца агульная характарыстыка Валыні ў другой палове XVI – першыя дзесяцігоддзі XVII ст., яе судовай сістэмы, адметнасцяў шляхетскага карпаратывізму і культурных прыярытэтаў прывілеяванага стану. У пэўнай ступені гэты раздзел – скарочаная мадэль усёй кніжкі, бо тут у агульных рысах гаворка ідзе пра тое, што далей аўтарка аналізуе з вялікім даследчыцкім імпэтам. Гэта датычыцца праблемы патранальна-кліентальных сувязяў, якія складалі аснову сацыяльнага ўзаемадзеяння раннемадэрнай Рэчы Паспалітай, сваяцкіх і сяброўскіх адносінаў. Культурныя прыярытэты шляхты вывучаюцца

аўтаркай з антрапалагічнага падыходу: тут вылучаецца праблема публічнага характару паводзінаў, пры гэтым заўважаецца, што для абранага перыяду фактычна немагчымае супрацьпастаўленне "прыватнага" і "публічнага". Шмат месца ў аналізе адносінаў шляхты займае ілюстрацыя камунікацыйнай гульні, заснаванай на прынцыпе "падарунак, дар" – "падзяка", дзе "гарантам бясперапыннасці ланцужкоў узаемнага абмену выступаў сімвалічны капітал, г. зн., капітал гонару ці пачэснасці, якім карпарацыя адорвала сваіх сяброў". У межах гэтага ж пункта даецца агульная характарыстыка ўяўленняў пра "добрую славу", якая была не толькі прадметам няспыннага клопату валынскай шляхты і прыкметай станавай адметнасці, але і сродкам дэманстрацыі як переваг і пашаны, так і "аслаблення гонару канкурэнта".

Натуральнае жаданне аўтаркі праілюстраваць дыстанцыянаванне валынскай шляхты ад ВКЛ і яго спадчыны, якая ў значнай ступені ляжыць у аснове украінскай адметнасці ў межах Кароны, выглядае крыху нацягнутым. Справа ў тым, што праца ў значнай ступені пабудавана на цытатах з актавых кніг Валынскага ваяводства, цытатах на стараўкраінскай, або, як сказаў бы айчынны даследчык, на праўдзівай старабеларускай мове. Калі ж палітыка-прававыя ўмовы аддзялялі Валынь ад ВКЛ, то супольная мова, наадварот, яднала. Вядома ж, праўда ў тым, што нацыю фармуе не толькі мова, але і гістарычныя абставіны, але ў межах супольнай Рэчы Паспалітай Валынь усё ж не была такой чужаніцай для жыхароў ВКЛ.

Трэці раздзел кніжкі "Милість пана та вірність слуги" раскрывае спецыфіку адносінаў "патрон – кліент" на прыкладзе шляхецкай супольнасці Валыні. Гэты раздзел ілюструе, як можна ўдала спалучаць тэорыю з практыкай. Бадай кожнае абагульненне ў працы пацвярджаецца цытатай з першакрыніцы. Праблемы, якія асвятляюцца аўтаркай, вылучаны ў асобныя падпункты, дзе аналізуецца інфармацыя пра парадак афармлення адносінаў (шлюбу) паміж панам і слугой, іх узаемныя абавязкі, прычыны і акалічнасці, што суправаджалі скасаванне дамовы, памеры юрысдыкцыі пана ў адносінах да слуг і прыклады "эмансіпаваных" ліній паводзінаў слуг. Раздзел гэты, у цэлым, вельмі каштоўны для разумення

самой сутнасці стратыфікацыі ў фармальна роўным шляхецкім асяроддзі, а таксама ён дазваляе больш дэталёва патлумачыць сутнасць сімволікі, якая суправаджала афармленне адносінаў паміж гаспадаром і слугой. Названы раздзел дастаткова арганічна ўваходзіць у канцэпцыю кнігі, паколькі дазваляе паразважаць над пытаннем памераў залежнасці судовых ураднікаў, якія былі слугамі сваіх паноў.

Раздзел чацвёрты “Конфліктне повсякдення: зони конфлікту” закранае цікавую тэму ролі месца як фону і фактару ўзнікнення канфліктных сітуацый. Аўтарка адзначае, што ў аснове ці не ўсіх супярэчнасцяў “лежали вічні змагання за землю та владу”. Актавы матэрыял падабраны пад вылучаныя “канфліктныя зоны”, сярод якіх большасць нельга разглядаць як спецыфічна ўласцівыя шляхце. Бясспрэчна, шляхецкай тэрыторыяй канфлікту можа быць толькі соймік, магчыма, земскі суд. Усе астатнія “зоны” характэрны і для іншых грамадскіх станаў, па меншай меры, так было ў суседнім ВКЛ, і сумнеўна, каб на Валыні было інакш.

Пяты раздзел “Оголошення про помсту” ўтрымлівае апісанне практыкі і рытуалу афармлення пагрозы жыццю на прыкладзе судовых спраў. Аўтарка вельмі падрабязна агаворвае прававую тэрміналогію, звязаную з рытуалам абвяшчэння пагрозы, і на шматлікіх прыкладах ілюструе кампаненты, якія суправаджалі “отповеди и пофалки” як элементы рыцарскай культуры. Найважнейшай цэзурай у рэгуляванні практыкі абвяшчэння пагрозы стала соймавая канстытуцыя 1588 г., згодна з якой абвінавачаны мог паслаць “цедулу” з традыцыйнымі формуламі знявагі таму, хто яго пакрыўдзіў. З пункту гледжання аматарскага задавальнення гэты раздзел ці не найбольш цікавы, бо тут прыведзена мноства прыкладаў шляхецкай моўнай “культуры”.

Назва наступнага раздзела “Поєдинки як соціальний феномен” выклікае найбольш чаканняў, асабліва з улікам спецыфікі Валыні, але раздзел хутчэй утрымлівае матэрыял, які дазваляе сказаць, з чаго бярэцца двубой як з’ява і як магло б выглядаць спаборніцтва ў імя абароны годнасці. На пачатку даследчыца звяртае ўвагу на традыцыі двубояў у Заходняй Еўропе. Вытокі гэтай з’явы ў гістарыяграфічным парадку выводзяцца з так званых ардалій, ці Божых судоў. Увогуле, саму

сутнасць дуэлі аўтарка ўслед за іншымі даследчыкамі прапаноўвае разглядаць як элемент гвалту ў кантэксце культуры варожасці праз антрапалагічнае “мір у вайне”. Пункт “Поєдинки в Польській Короне та Речі Посполитій” пераважна ўтрымлівае агляд юрыдычных нормаў што да двубояў і асобныя звесткі пра выпадкі дуэляў. Урэшце, аўтарка канстатавала: “Складана сказаць, наколькі былі пашыраныя паядынкі ад сярэдзіны XVI стагоддзя ў ВКЛ і Польскай Кароне”. У асобным пункце, прысвечаным паядынкам на Валыні, дэфакта прааналізаваны некалькі выпадкаў выклікаў на двубой. Даследчыца адзначыла, што валынская шляхта пільна сачыла за зменамі ў праве і ў адпаведнасці з імі фарматавала штодзённую практыку. Гэта датычылася прыватных паядынкаў, забароненых соймавай канстытуцыяй у 1588 г. Такім чынам, дуэлі як спосабу вырашэння канфлікту было супрацьпастаўлена права, таму выклікі на двубой трэба разглядаць пераважна як “канфліктную рыторыку”, якая ў пераважнай большасці выпадкаў не мела на мэце даводзіць супрацьстаянне да рэальнага кровапраліцця.

Сёмы і восьмы раздзелы працы Н. Старчанкі вылучаны для характарыстыкі такіх відаў крымінальнай штодзённасці шляхты, як забойства, наезд і грабеж. Вельмі характэрная назва сёмага раздзела – «“З живого мертвого учинили”: обставини та сприйняття вбивств». Ён складаецца з двух блокаў: у першым дадзена характарыстка забойстваў ва ўяўленнях і штодзённай практыцы шляхты (тут выкарыстана тэрміналогія саміх удзельнікаў судовых працэсаў), а таксама ў праве (Статуты ВКЛ і соймавыя пастановы); у другім пададзены пяць асобных судовых працэсаў, прычынай узнікнення якіх было забойства шляхціча. Дэталёвае вывучэнне прававых нормаў і судовай практыкі дазволіла зрабіць вельмі стасоўныя да агульнай канцэпцыі кнігі заўвагі пра прычыны дастаткова мяккай формы пакарання за забойства, якой была грашовая кампенсацыя. Апошняя мела месца таму, што фактычна не існавала аб’ектыўнай судовай працэдуры, якая павінна была выявіць злачынцу. Больш за тое, самі ўдзельнікі канфліктаў не былі ўпэўнены, хто вінаваты, а хто пацярпелы. Высветліць жа гэта з дапамогай судовых спраў, на думку даследчыцы, немагчыма. Заслугоўвае ўвагі выснова,

што адкрытая, брутальная жорсткасць як адплата за крыўду сустракалася ў шляхецкім асяроддзі нячаста, а сілавы варыянт вырашэння канфлікту традыцыйна ажыццяўляўся з дапамогай слуг і кліентаў у той час, калі “нагары канкурэнцыя зазвычай набывала выгляд рытарычных баталій”.

Раздзел пра наезды і грабяжы ў цэлым змяшчае прававую характарыстыку гэтых “шляхецкіх” злачынстваў і ілюстрацыю практыкі на прыкладах з актавых кніг Валынскага ваяводства. Наезды і грабяжы, як і акт забойства, аўтарка паспрабавала паказаць як магчымую форму разрахункаў за шкоду, нанесеную гонару, своеасаблівым актам двубою за добрую славу ў супольнасці, асаблівым рыцарскім правам, з дапамогай якога аднаўлялася справядлівасць.

Дзявяты раздзел, які называецца “Плач на душу судейскую, што вас так судили”, змяшчае характарыстыкі гродскага і земскага судоў, іх кампетэнцыі, этапаў судовага працэсу, адметнасцяў валынскага права, спосабаў расследавання злачынстваў, судовых пастановаў і апеляцыйнай працэдуры ды парадку выканання выракаў. Усе гэтыя пункты пабудаваны на параўнанні нормаў права і практыкі дзейнасці судовых устаноў Валыні. Раздзел мае выключную каштоўнасць найперш для параўнальных даследаванняў па гісторыі судовага ладу Рэчы Паспалітай. Для айчыннай гістарыяграфіі, якая ў галіне вывучэнне гісторыі судоў на многа не прэтэндуе, праца ўкраінскай даследчыцы дае вартыя ўвагі арыенціры. Яна слушна адзначае, што шляхецкае судачынства ад самага пачатку будавалася як канвенцыйнае, бо было заснавана на ўліку інтарэсаў бакоў і груп, што стаялі за асобай, культурных прыярытэтаў, слабых месцаў культываванага гонару. Калі ж сыходзіць з канцэпцыі кнігі, то давядзецца пагадзіцца і з высновай, што добрае функцыянаванне прававой сістэмы не адпавядала шляхецкаму рыцарскаму ідэалу, згодна з якім судовы працэс меў усе прыкметы двубою.

У дзясятым раздзеле “Приятельське єднання” даследуецца механізм пераводу канфліктнай сітуацыі ў рэчышча замірэння, у чым была зацікаўлена шляхецкая супольнасць. Для беларускай гістарыяграфіі такія праблемы ўвогуле выглядаюць рэвалюцыйнымі, бо ў большасці сваёй метадалогія спалучаецца з гістарычным даследаваннем фармальна.

У раздзеле акрэслены прычыны такой з’явы, як пазасудовыя дамоўленасці, падаецца іх класіфікацыя, падрабязна распісана кампетэнцыя палюбоўных судоў, дадзена адзнака ініцыятараў суда і суддзяў, акалічнасцяў звароту ў суд, месца і парадку яго правядзення, а таксама прыведзены прыклады пастаноў суда і варыянты стратэгіі яго ўдзельнікаў.

Нарэшце, апошнія раздзелы прызначаны абагульніць высновы і назіранні, зробленыя ў папярэдніх частках кнігі, і служаць ілюстрацыяй аўтарскай канцэпцыі. Адзінаццаты раздзел утрымлівае падрабязны разбор справы пра забойства князёў Чацвярцінскіх. У дванаццатым раздзеле разглядаюцца абставіны справы пра забойства каралеўскага сакратара Балтазара Гніваша, у якую было ўцягнута вялікае кола валынскіх шляхцічаў, у тым ліку і князь Канстанцін Астрожскі, памер уплыву якога на Валыні быў па-за канкурэнцыяй. Прааналізаваныя ў апошніх раздзелах справы ўкраінская даследчыца слушна лічыць толькі падмуркам для больш шырокага даследавання функцыянавання судавытворчасці, сацыяльнага фону грамадства і аксіялагічнай сістэмы яго прадстаўнікоў.

Разгледжаная праца прымушае больш абачліва і асцярожна ставіцца да мінулага, бо мы спазнаём яго праз крыніцы, якія далёка не заўсёды “рэпрэзентуюць рэальнасць”. Захапленне апісаннем дакументаў і іх выданнем дзеля доказу адзіна правільнага сведчання можа, у адпаведнасці з гэтай логікай, толькі нашкодзіць спазнанню гісторыі. Ад кнігі сыходзіць дух здаровага рэлятывізму, якога сапраўды бракуе гісторыкам, бо і яны, бывае, забываюцца, што самі часам пішуць “справаздачы” пра тое, чаго не было або насамрэч выглядала іначай.

Аб’ём і якасць праведзенай працы, вялікая колькасць трапных і разумных назіранняў, якія сталі вынікам вопыту “зжывання” з актавымі кнігамі, як і ўнікальная здольнасць “ажыўляць” гісторыю, прымушае схіліць галаву перад Наталляй Старчанкай і падзякаваць за кнігу, якая вучыць адмаўляцца ад прымітыўнасці, бачыць свае памылкі і новыя перспектывы ў развіцці навукі.

Горадня *Віталь Галубовіч*

## KAMUSELLA, TOMASZ. The Politics of Language and Nationalism in Modern Central Europe. Palgrave MacMillan, 2012. XXVIII + 1140 p.

Колішні выпускнік аддзялення англійскай філалогіі Сілезскага ўніверсітэта ў Катавіцах, доктар палітычных навук (2001, Познань), доктар габілітаваны ў галіне культуралогіі (2011, Варшава), Томаш Камусэла апошнія дзесяць гадоў працуе пераважна ў Ірландыі і Шатландыі: з 2007 г. у Трыніты-каледж у Дубліне, а з 2011 г. – ва ўніверсітэце Сэнт-Эндрус у Шатландыі. Ён актыўна займаецца праблемамі моўнай палітыкі, нацыяналізму і этнічнасці, не замыкаючыся ў рамках якой-небудзь адной традыцыйнай (тыпу гісторыі) ці “напаўтрадыцыйнай” (тыпу паліталогіі ці культуралогіі) дысцыпліны. Паколькі ў яго працах значнае месца займаюць праблемы моў, то кнігі і артыкулы Т. Камусэлы ўтрымліваюць таксама значны элемент ведаў, якія могуць успрымацца як (сацыя)лінгвістычныя. Рэцэнзаваная кніга – другое выданне (першае выйшла ў 2008 г.), у ёй аўтар узяў на сябе амбіцыйную задачу выкласці пад адной вокладкай звязаныя з палітыкай мовы і нацыяналізмам падзеі, якія адбываліся ў краінах Цэнтральнай Еўропы на працягу двух апошніх стагоддзяў. Кніга мела вялікую колькасць станоўчых рэцэнзій у навуковым друку. У гэтай нататцы мы абмяжуемся толькі кароткім апісаннем структуры выдання і рэмаркамі пра некаторыя моманты.

Кнігу можна ахарактарызаваць як вельмі разгорнуты *handbook* аб працэсах крышталізацыі польскай, венгерскай, чэшскай і славацкай моў як важных нацыянальных і палітычных з’яў, а таксама станаўлення і сцвярджэння нацыяналізму ў Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі ў XIX і XX ст. Незвычайна тое, што кнігу такой шырокай задумы і памеру напісаў адзін чалавек. Найбольшую цікавасць кніга ўяўляе, бадай, для гісторыкаў.

Ва ўступным слове брытанскі гісторык Пітэр Бёрк сярод іншага зазначыў, што аўтар сваёй працай здзейсніў

“манументальны ўклад у навуковы абмен паміж лінгвістамі і гісторыкамі (не кажучы пра палітолагаў)” (с. XI). Сярод іншага славуты навуковец аказаўся пад уражаннем ад некаторых сюжэтаў кнігі, прысвечаных мовам. У прыватнасці, ён станоўча ацаніў паказ аўтарам той акалічнасці, што ў працэсе польскага і венгерскага моўнага будаўніцтва вялікае значэнне мела германская мадэль, ухваліў прыведзеныя ў кнізе звесткі пра “трасянку” і “суржык” і інш. (с. XII).

Складана адназначна ахарактарызаваць жанр кнігі Т. Камусэлы як падручніка або як манаграфіі. Каб быць добрым падручнікам, ёй варта было б быць намнога карацейшай, таксама патрабавалася іншае, больш канцэнтраванае выкладанне матэрыялу. Ад манаграфій кніга адрозніваецца тым, што яна далёка выходзіць за рамкі таго, што называецца “даследаваннем якога-небудзь пытання або тэмы”. Таксама ў кнізе незвычайная арганізацыя даведкавага апарату.

Спасылкі на выкарыстаную літаратуру, як правіла, падаюцца не ў тых месцах тэксту, дзе знаходзяцца патэнцыяльныя схаваныя цытаты ці пераказы чужых меркаванняў, а звычайна ў згрупаваным і абагульненым (і ў выніку “напаўананімным”) выглядзе пасля нейкіх больш ці менш завершаных частак канкрэтных параграфаў ці проста ў іх канцы. Нам здаецца, кнігу добра выкарыстоўваць як даведнік, з выразным усведамленнем таго, што гэты даведнік – аўтарскі, і не ўсе выкладзеныя ў ім меркаванні могуць быць прыняты безумоўна. Шматлікасць прафесійных “варштатаў”, на якіх адначасова працуе аўтар, не можа не ўплываць на тое, што дасягненні аўтара ў кожнай канкрэтнай спецыялізацыі могуць выглядаць неаднолькава.

Кніга складаецца з прадмовы аўтара, вялікай ненумараванай часткі (уключае тры раздзелы) і дзвюх нумараваных, першай і другой, частак: “Цэнтральнаеўрапейская палітыка і мовы ў доўгім XIX стагоддзі” (раздзелы 4–7) і “Нацыяналізмы і мова ў кароткім XX стагоддзі” (раздзелы 8–12). У дванаццатым раздзеле на пяцідзесяці старонках змешчаны агульныя высновы да кнігі.

Згодна з рэмаркай аўтара (с. XXI), асноўныя праблемы кнігі асэнсоўваюцца ў першай (займае каля 200 старонак) і другой (без высноў займае 330 старонак) частках. З увагі, аднак, на памер ненумараванай часткі (ахоплівае 363 старонкі) яна, відаць, таксама магла б лічыцца своеасаблівай "асноўнай". Кнігу завяршаюць заўвагі (38 старонак), бібліяграфія (60 старонак), індэкс паняццяў, імёнаў, гістарычных падзей, назваў інстытуцый, моў і іх разнавіднасцей (75 старонак), а таксама паказальнік выкарыстаных слоўнікаў (12 старонак). Нават з простага апісання структуры і памеру падручніка відаць, што ён ўяўляе сабой плён вялікай, калі не сказаць тытанічнай, працы.

Ненумараваная частка – гэта разгорнуты ўступ да кнігі, яна складаецца з раздзелаў "Уводзіны", "Мова ў Цэнтральнай Еўропе: агляд" і "Больш шырокі моўны і культурны кантэкст Цэнтральнай Еўропы". У гэтай частцы тлумачыцца паняцце моўнай палітыкі, паняцце *Цэнтральная Еўропа*, акрэсліваюцца суадносіны паміж мовай, народам і дзяржавай, пазначаюцца шляхі ад "моўных" народаў да "моўных" народаў-дзяржаў, выкладаецца гісторыя чатырох аналізаваных моў да XIX ст. і інш. Натуральна, аўтара вельмі цікавіць карэляцыя паняццяў "народ" і "мова", і ва ўводзінах ён змяшчае два амаль аднайменныя параграфы пад назвай "Нарматыўны ізамарфізм мовы, народа і дзяржавы", трактуючы ў першым гістарычны ракурс суадносінаў гэтых паняццяў, а ў другім – сучасны. Ва ўступе Т. Камусэла коратка апісвае чатыры мовы, якія стануць яго галоўнымі "героямі" ў наступных частках кнігі – чэшскую, польскую, венгерскую і славацкую. Уступнай частцы кнігі ўласціва незвычайная шчодрасць. Аўтар не толькі падрабязна ўводзіць чытача ў сваю (вельмі шырокую) праблематыку, але і прапануе "шырокую панараму ўсіх іншых цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх моў ад іх пачаткаў да XXI стагоддзя" (с. XXI). Тут знаходзіцца месца для кароткіх апісанняў царкоўнаславянскай, беларускай і ўкраінскай, сербскахарвацкай і яе наступнікаў (баснійскай, харвацкай, чарнагорскай і сербскай; алфавітны,

згодна з англійскай мовай, парадак пералічэння захаваны), балгарскай, грэчаскай, албанскай, армянскай, эсперанта і інш. Т. Камусэла тлумачыць важныя калізіі ў моўным развіцці розных народаў і падае пэўныя агульныя і канкрэтныя лінгвістычныя веды, напрыклад, разважае пра фармаванне нямецкай літаратурнай мовы, апісвае эвалюцыю, якую зазнала царкоўнаславянская мова на яе шляху да "рускай", пазначае важнасць праблемы назваў розных моў, больш як на дваццаці старонках разглядае разнастайнасць розных графік і алфавітаў і іх выкарыстанне ў палітыцы і г. д.

"Доўгае" XIX стагоддзе аўтар разглядае пад лозунгам "прыходу нацыяналізму" (такую назву мае ўступны параграф першай часткі кнігі). Частка структурна падзелена паводле канкрэтных моў і народаў: апісаны польская, венгерская, чэшская і славацкая сітуацыі. Гэтыя сітуацыі пададзены не столькі паводле строга ўніфікаванага падыходу, адпрацаванага на ўсіх чатырох сітуацыях, колькі выкладзены згодна з асаблівасцямі канкрэтных выпадкаў і прэферэнцыямі кола чытання аўтара. Спецыфіку кожнага выпадку можна назіраць ужо па тым, як аўтар сфармуляваў падзагалоўкі розных раздзелаў гэтай часткі. Напрыклад, калі для польскай сітуацыі аўтар выбраў падзагаловак "Ад *Natio* да народа", то венгерскі выпадак зафіксаваны пры дапамозе азначэння "Ад *Natio* да эрзаца народа-дзяржавы". Калі чэшская сітуацыя акрэслена формулай "Ад багемскага славянскамоўнага *Populus* да чэшскага нацыяналізму і чэхаславацкага народа", то славацкі выпадак апісаны пры дапамозе дэфініцыі "Ад славянамоўнага *Populus* Верхняй Венгрыі да славацкага нацыяналізму і чэхаславацкага народа".

Для аўтара гэтых радкоў праблематычным выглядае абазначэнне венгерскай дзяржавы канца XIX ст. пры дапамозе выразу *эрзац* і пастуляванне ў гэты ж час існавання "чэхаславацкага народа". У рамках разгляду чэшскай сітуацыі ў кнізе змешчаны параграфы "У напрамку да Чэхаславакіі" і "Чэхаславакізм", у славацкім раздзеле таксама ёсць параграф "Чэхаславакізм" – аднак гэтыя

параграфы пабудаваны не ў малой ступені з прыцягненнем матэрыялу XX ст. Параграф “Чэхаславакізм” славацкага раздзела ўвогуле адкрываецца апісаннем падзей 1916-га і пазнейшых гадоў, толькі потым аўтар вяртаецца ў XIX стагоддзе (аднак усё роўна пазней часам закранае XX стагоддзе). Прымяняльна да асэнсоўваных у кнізе тэм умоўную мяжу паміж XIX і XX стагоддзямі можна было б правесці, магчыма, не паміж 1899 і 1900-м, а хутчэй паміж 1917 і 1918 гадамі?

“Кароткае” XX стагоддзе аўтар разглядае пад лозунгам “трыумфу нацыянальнага”. Падобна да першай часткі кнігі для кожнай канкрэтнай сітуацыі аўтар імкнецца знайсці сваё асаблівае вызначэнне-вобраз. Так, калі вынікам дзяржаўна-этнічнага будаўніцтва ў Польшчы ў канцы XX ст. можа выглядаць “этнічна аднародны народ-дзяржава”, то ў венгерскім выпадку шлях у XX стагоддзі зафіксаваны як “Ад Венгрыі да *Magyarország*”. Відаць, няўдала пазначана сучасная Венгрыя пры дапамозе яе венгерскамоўнай назвы – бо яна мала што гаворыць сучаснаму англа- ці беларускамоўнаму чытачу. Венгерскі раздзел гэтай часткі адкрываецца параграфам, у якім параўноўваюцца венгерская і польская сітуацыі. Лозунгам-падзагалоўкам для апісання чэшскай сітуацыі абраны “Паміж чэхаславацкім і чэшскім нацыяналізмам”, для славацкай – “Ад Чэхаславакіі да Славакіі”.

Як і папярэдняму выданню, насычанай багаццем фактаў і забяспечанай індэксамі, зручнай у карыстанні кнізе 2012 г. будзе наканавана на доўгі час стаць своеасаблівай настольнай кнігай як для студэнтаў, так і для многіх даследчыкаў-прафесіяналаў. Відавочна, кніга будзе карыснай і практычным дзеячам, тым, хто прымае рашэнні.

Мяркую, яшчэ няхутка знойдзецца чытач, які зможа прачытаць кнігу Т. Камусэлы цалкам, “od deski do deski”. Створаная адным аўтарам кніга такой шырокай праблематыкі і такога вялікага аб’ёму, бадай, не павінна падлягаць крытыцы ў прынцыпе. Тым не менш усё ж дазволім выказаць некаторыя прыватныя крытычныя меркаванні.

Жаданне выкласці кожны канкрэтны нацыянальнамоўны (польскі, венгерскі, чэшскі ці славацкі) выпадак згодна з яго спецыфікай дае вынікам неаднастайнасць апрацоўкі і падачы матэрыялу, што можа ўскладніць правядзенне кампаратыўнага даследавання і падвесці чытача да не цалкам адэкватных вывадаў.

Напрыклад, сюжэт “правапіс і палітыка” разглядаецца ў рамках самастойнага параграфа (са шматлікімі адступленнямі ў гісторыю станаўлення нямецкай, чэшскай, французскай, венгерскай арфаграфіі) толькі на прыкладзе польскай сітуацыі. Аўтар піша, што шэраг польскіх правапісных праектаў пачатку XIX ст. быў абумоўлены палітычнымі і адукацыйнымі рэформамі канца XVIII ст. У цэлым, аднак, можна думаць, што XIX стагоддзю не былі ўласцівы бурныя правапісныя дэбаты, паколькі паўстанні, русіфікацыя і германізацыя “пераключылі ўвагу польскай інтэлігенцыі ад арфаграфіі да палітыкі” (425). Такая фраза здаецца нам неабачлівай – у тым ліку таму, што аўтар сам далей паведамляе пра бурныя дыскусіі канца XIX ст. З прычыны падзелаў існавала рызыка стабілізацыі на розных тэрыторыях трох розных арфаграфій, якія давалі б вынікам стварэнне трох варыянтаў літаратурных моў; гэта ўрэшце, піша аўтар, магло б прывесці да ўзнікнення трох “роднасных, але розных народаў” (426). Тут незразумела, ці аўтар проста пераказвае асцярогі палякаў XIX ст., ці сам сёння салідарызуецца з такімі страхамі? Пры тым, што аўтар зусім добра абазнаны ў канкрэтных арфаграфічных прапановах у дачыненні да польскай мовы і арганізацыйнай правапіснай дзейнасці XIX ст., ён, тым не менш, аддае перавагу бачыць палітычны фермент у арфаграфіі праз указанне на спробы ўзгадніць паміж сабой розныя тэрытарыяльныя правапісныя версіі, аднак, бадай, не карыстаецца выразамі тыпу “тэндэнцыя да дэмакратызацыі правапісу”, “тэндэнцыя да элітарнасці правапісу”, якія, несумненна, мелі месца ў працэсе правапіснага ўрэгулявання і сведчылі аб адлюстраванні ў правапісе палітычных пазіцый аўтараў такіх прапаноў.

У сувязі з “арфаграфічным” польскім параграфам паўстае пытанне: а ў выпадках венгерскай, чэшскай

і славацкай моў правапіс хіба не меў палітычнага вымярэння?

Толькі ў рамках венгерскага раздзела спецыяльна вылучана тэма міфалагізацыі мовы як элемента нацыянальнага самаўсведамлення, аднак, натуральна, такая практыка была вядома не толькі венграм. Калі складаным дачыненням славацкага нацыяналізму з мадзьярызацыяй прысвечаны спецыяльны змястоўны параграф, то важная тэма чэшска-нямецкага (аўстрыйскага) спаборніцтва ў XIX стагоддзі ў рамках чэшскага раздзела асвятляецца "рассеяна", без спецыяльнага структурнага вылучэння. Дарэчы, з пункту гледжання *corpus planning* чэшская мова зусім не менш падлягала ўплыву нямецкай мадэлі, чым польская і венгерская, што добра вядома і належным чынам адлюстравана ў літаратуры.

Параўнанні часам няпроста бывае зрабіць нават у тых выпадках, калі, як было ўказана вышэй, на такое параўнанне непасрэдна ўказвае загаловак. Так, кароткае чатырохстаронкавае венгерска-польскае параўнанне ў дзявятым раздзеле дае магчымасць зрабіць хіба пераважна толькі амбівалентныя высновы. Напрыклад, аўтар двойчы піша, маўляў, у Венгрыі і ў "Польшчы-Літве" ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. у сферы афіцыйнай мовы было "падобнае развіццё"; падобна да венграў, "польска-літоўскі *natio* імкнуўся да палітычнага адзінства ў культурнай супольнасці польскай мовы" (648, 649). Аднак статус польскай і венгерскай моў на пераломе XVIII–XIX ст. і іх суадносіны з іншымі мовамі, моўныя сітуацыі ў адпаведных рэгіёнах былі настолькі спецыфічнымі і абцяжаранымі рознымі нюансамі, што, бадай, даволі складана параўноўваць гэтыя сітуацыі з выкарыстаннем слоў тыпу *падобна* ці *аналагічна*. Так, польская мова ў Польшчы ўжо ў XVIII ст. паспяхова выцясняла лацінскую, а венгерскай давялося змагацца спачатку з лацінскай, а потым з нямецкай, такі працэс разгарнуўся пераважна ўжо ў XIX ст. У розных частках тэрыторыі сучаснай Польшчы ў канцы XVIII ст. польская мова па-рознаму страціла свой афіцыйны статус, у той час як у канцы XVIII ст. венгерская мова акурат стала такі статус набываць. Папраўдзе

пры непасрэдным параўнанні нярэдка бывае даволі складана звесці ў адно цэлае ўсю разнастайнасць супастаўляных сітуацый, балазе аўтар заўсёды вельмі багата забяспечвае чытача рознымі фактамі.

Кнігай не заўсёды зручна карыстацца як навуковай крыніцай. Складаецца ўражанне, што прынамсі некаторыя з параграфаў асноўных частак уяўляюць сабой своеасаблівыя "рэфераты"-агляды прачытанай літаратуры, падрыхтаваныя з устаноўкай даць чытачу як мага большую колькасць фактаў. Не толькі асобныя параграфы, але нават і шматлікія канкрэтныя абзацы, бывае, даволі цяжка ўспрымаць, бо аўтар нярэдка, незалежна ад сюжэтнай лініі, "начыняе" іх, на нашу думку, празмерна багатай і стракатай інфармацыяй з вялікай колькасцю імёнаў, датаў і лічбаў. Частка гэтай інфармацыі часам мае толькі ўскоснае дачыненне да канкрэтнага параграфа ці абзаца або ўвогуле лішняя.

Аўтар гэтых радкоў не ўпэўнены, што ў кнізе трэба было падаваць падрабязную інфармацыю пра розныя слоўнікі розных моў, якія выходзілі ў розны час у розных краінах. Так, некаторыя лексікаграфічныя працы былі важнымі вехамі на шляху нацыянальнага будаўніцтва – але такімі былі далёка не ўсе з указаных у выданні. З прычыны своеасаблівай "некантраляванай" падачы ў кнізе разнастайнага матэрыялу, з якім давялося сутыкнуцца аўтару за доўгія гады работы над кнігай, часам бывае проста складана прасачыць за ходам аўтаравай думкі. Даследчык часам і сам не заўважае, пра што і як ён ужо напісаў, а пра што – яшчэ не. Кнізе яўна не пашкодзіла б рука ўважлівага рэдактара.

Найноўшай англамоўнай літаратуры ў кнізе аддадзены прыярытэт, што зразумела, калі мець на ўвазе месцы працы аўтара апошніх гадоў. Думаецца, аднак, што, прынамсі некаторыя "старыя" гістарычныя працы эпохі сацыялізму яшчэ не страцілі многіх сваіх прывабных вартасцяў. Некаторыя з аўтараў гэтых ранейшых прац зусім паспяхова адаптаваліся і ў нашым часе. Так, кідаецца ў вочы тое, што ў падручніку няма спасылак на некаторых вельмі вядомых польскіх і чэшскіх аўтараў тыпу

Г. Батоўскага (аўтара працы “Распад Аўстра-Венгрыі 1914–1918”), Г. Вэрэшыцкага (аўтара кнігі “Пад скіпетрам Гасбургаў” і інш.), В. Лазугі і І. Коржалкі (спецыялістаў у сферы нацыянальных адносін у позняй Габсбургскай манархіі), венгерскага спецыяліста ў справах Цэнтральнай Еўропы Ч. Дз. Кіша і інш.

На нашу думку, неверагодная шырыня ахопу матэрыялу не ва ўсіх выпадках ідзе кнізе на карысць. Як даследчыка-беларусіста, напрыклад, наяўнасць у кнізе, прысвечанай Цэнтральнай Еўропе, разваг пра “трасянку” мяне можа натхняць. Але дадзеная ў кнізе ацэнка “трасянкі” як крэольскай мовы не вытрымлівае навуковай крытыкі. Не быўшы спецыялістам у такой тонкай матэрыі, аўтар, відавочна, не меў магчымасці адрозніць сапраўды навуковыя веды ад уяўных. Не вылучаюцца дакладнасцю і некаторыя іншыя звесткі пра беларускую мову, напрыклад, сцверджанне пра тое, што ў 2006 г. А. Лукашэнка прапанаваў змены, скіраваныя на насычэнне “афіцыйнага савецкага правапісу” далейшымі русіфікацыйнымі элементамі (174). Развагам пра беларускую мову (тым больш такім неакуратным) у кнізе не абавязкова было даваць месца наогул. З іншага боку, некаторыя істотныя для праблематыкі кнігі сюжэты ў ёй закрануты толькі мімаходзь. Напрыклад, такая разнавіднасць чэшскай мовы як “кухонная чэшская” (ням. “Küchelböhmisch”, англ. “kitchen Czech”), мяркуючы па індэксе, згадваецца ў кнізе толькі аднойчы – ва ўступнай частцы пры апісанні чэшскай мовы ў XVII і XVIII ст. Між тым як мова-пасрэднік для камунікацыі паміж чэхамі і немцамі гэтая разнавіднасць бытавала яшчэ як мінімум да канца XIX ст. і была адным з элементаў чэшскай моўнай сітуацыі.

У цэлым кніга Т. Камусэлы пра моўную палітыку і нацыяналізм у краінах Цэнтральнай Еўропы ўяўляе сабой выдатнае дасягненне гістарычнай гуманістыкі і літаратуры ў галіне тэорыі нацый і нацыяналізму. Яна заслугоўвае ўважлівага прачытання шырокім колам спецыялістаў.

Мінск *Сяргей Запрудскі*

## MAČIULIS, DANGIRAS / STALIŪNAS, DARIUS. Lithuanian Nationalism and the Vilnius Question, 1883–1940. Verlag Herder-Institut, Marburg, 2015. VI + 236 pp.

Праблема Вільні і Віленшчыны заўжды выклікала самыя розныя рэакцыі ў беларусаў. Рацыянальныя аргументы спрэчак пераплятаюцца тут з эмацыйнымі рэакцыямі. Сам горад, сёння сталіца Літвы, і тэрыторыі вакол яго мелі ў свой час (і маюць цяпер) вялікую сімвалічную значнасць. Чэслаў Мілаш, жыццё якога было звязана з гэтым горадам, наракаў на тое, што для людзей з тэрыторый, размешчаных па-за прасторай былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, назва гэтага горада і яго гістарычныя помнікі нічога не кажуць[1]. Яны не могуць зразумець таго эмацыйнага настрою, які вызначае характар дыскусій пра прыналежнасць горада і спадчыну розных культур і народаў у ім. Але для пэўнай колькасці інтэлектуалаў і простых людзей, якія жывуць у самой сучаснай Вільні і яе ваколіцах, а таксама для геаграфічных суседзяў сучаснай Літвы, асабліва беларусаў і палякаў, гэта зусім не так. З'яўленне ж новай кнігі прыадкрые для шырокага кола міжнароднай публікі адзін з гістарычных аспектаў гарачых дыскусій і пазнаёміць з літоўскім пунктам гледжання на Вільню.

Аналізаваная тут манаграфія фактычна ўпершыню на англійскай мове паказвае праблему месца Вільні і Віленшчыны менавіта ў літоўскім нацыянальным дыскурсе з улікам усіх тых зменаў, якія з ім адбыліся ў перыяд з канца XIX ст. да пачатку Другой сусветнай вайны.

Кніга "Літоўскі нацыяналізм і віленскае пытанне ў 1883–1940 г." Дангіраса Мачуліса і Даруса Сталюнаса, двух вядучых спецыялістаў па новай гісторыі Літвы, апавядае пра тое, як ідэя невялікай групы інтэлектуалаў аб неабходнасці валодаць Вільняй і Віленскім краем ператварылася ў набытак масавай свядомасці (3), трансфармавалася ў стрыжнявую, а часам нават экзістэнцыяльную праблему,

[1] Miłosz Cz. Rodzinna Europa. Paryż, 1958. S. 49.

ад вырашэння якой залежаў ужо не толькі псіхалагічны камфорт, але і лёс цэлай дзяржавы і народа. Ідэя валодання Вільняй калі не стварыла Літву, то стала адной з цэнтральных матывавальных ідэалагем, якая дапамагала мабілізаваць як носьбітаў літоўскага нацыянальнага дыскурсу, так і адрасатаў іх агітацыі, шараговых літоўцаў.

Кніга распавядае пра тое, як на фоне падзей і акалічнасцяў, што не перадвызначалі авалодання Вільні літоўцамі, шляхам сістэматычнай і мэтанакіраванай прапаганды фармаваўся вобраз сталіцы і нацыі, якая поўнасцю стане сама сабой толькі пры ўмове кантролю над гэтым горадам і надання яму сталічнага статусу. Яна малюе супярэчлівую карціну таго, як ідэя і рыторыка валодання Вільняй вызначала будучыню цэлай нацыі, стала ідэалагічным стрыжнем для мабілізацыі грамадскай думкі і гарызонтам, да якога імкнулася літоўскае грамадства.

Цягам апошняга часу беларускія чытачы змаглі пазнаёміцца з аргументамі і спрэчкамі, якія вяліся сярод прадстаўнікоў літоўскай інтэлектуальнай эліты, у публічнай сферы, а перш за ўсё ў друку, на прадмет месца Вільні як нацыянальнага цэнтра і будучай сталіцы, а таксама з аргументамі, якія літоўскія свецкія інтэлектуалы прыводзілі на карысць Коўны[2].

Кніга дазваляе лепей уявіць, чаму літоўскі нацыянальны рух да 1917–18 г., а пасля літоўская дзяржава імкнулася да таго, каб валодаць Вільняй і Віленскім краем. Аўтары манаграфіі намагаюцца прытрымлівацца дыстанцыяванага падыходу да літоўскага нацыяналізму, але як, напэўна, ніводнаму чалавеку немагчыма быць абсалютна нейтральным да таго, пра што ён выказваецца, так і ў выпадку гісторыкаў быць абсалютна адстароненым ад таго, што даследуецца, немагчыма.

Імклівая асіміляцыя насельніцтва, якое размаўляла на розных дыялектах літоўскай мовы ў сярэдзіне і 2-й палове

[2] Літоўская палітычная думка. Канец XIX – пачатак XX ст. Анталогія / уклад. А. Казакевіч, навук. рэд. Т. Блашчак. Мінск, 2013. С. 43–64, 267–270; Мачуліс Д. Знакі і вобразы літоўскай Вільні ў міжваенны час // Homo historicus 2009: Гадавік антрапалагічнай гісторыі / рэд. А. Смалянчук. Вільня, 2010. С. 342–357.

XIX ст. у Прусіі (пазней – Германскай імперыі) і імперыі Раманавых на землях былога Вялікага Княства Літоўскага была тым фонам, на якім літоўскія інтэлектуалы вырашылі рэалізаваць праект стварэння сучаснай нацыі на аснове сялянскага этнасу. Пачынаючы свой аналіз ад першай літоўскай свецкай газеты "Aušra" (1883), аўтары засяроджваюцца ў першую чаргу на публічным дыскурсе літоўскіх нацыянальных выданняў, пакідаючы ўбаку ўсю перадгісторыю літоўскага руху. Яны імкнуцца на працягу 5 раздзелаў манаграфіі апісваць літоўскі погляд на праблему будучай сталіцы Літвы, якая, калі не адразу, то прынамсі з пачатку XX ст. у некаторых тэкстах разглядалася нават у якасці "сэрца" таго, што літоўскія дзеячы лічылі "целам" нацыі. Пры гэтым такія цялесныя метафары дапамагалі падкрэсліць жыццёвую важнасць вырашэння пытання, якое набывала шэкспіраўскі трагізм[3].

Цялесныя метафары, характэрныя для этатысцкіх і нацыяналістычных дыскурсаў, праявілі сябе і ў выпадку літоўскага нацыяналізму. Яшчэ ў пачатку XX ст. Вільню параўноўвалі з сэрцам Літвы (12–13). У нацыяналістычнай рыторыцы ўжо міжваенных часоў такія метафары адыгрывалі некалькі функцый. Прыналежнасць горада да "нацыянальнага цела" (149) падкрэслівала ненатуральнасць яго адрыву ад Літвы, дапамагала прадстаўнікам літоўскага сялянства ўсвядоміць яго важнасць, а таксама падкрэслівала непаўнавартасць дзяржавы і нацыі без валодання гэтым горадам. "Цялесны" аспект нацыянальнага дыскурсу ў кантэксце віленскага пытання падкрэсліваўся і такімі момантамі, як параўнанне Польшчы і палякаў з "вампірам" у дыскурсе аднаго з апазіцыйных ураду каталіцкіх выданняў, якое крытыкавала ўступкі Польшчы ў пытанні ўсталявання дыпламатычных адносін (163), або параўнанне палякаў з "паразітамі" на постэры 1924 г. аўтарства Пятраса Рымшы (Petras Rimša, 1881–1961) (106).

Аўтары паказалі той бок "віленскага" дыскурсу, які быў рухавіком творчай дзейнасці мастакоў, скульптараў

[3] Politics Otherwise: Shakespeare as Social and Political Critique / ed. by L. Donskis and J. D. Mininger. Amsterdam & New York, 2012.

і архітэктараў. Якраз аналізу гэтага важнага культурнага і сімвалічнага аспекту[4] і яго значнасці ў літоўскім нацыяналізме не хапае і ў кантэксце таго, што такая комплексная тэма патрабуе міждысцыплінарнага падыходу.

Пры тым, што кніга прысвечана вельмі шматграннай праблеме, усё ж манаграфію нельга назваць у поўным сэнсе слова міждысцыплінарнай. Гэта перш за ўсё гістарычная манаграфія. Тым не менш, дасягненні іншых навуковых дысцыплін аўтары выкарыстоўваюць. Аналіз масавай друкаванай прадукцыі і дыскурс-аналіз літоўскага друку, які быў прысвечаны праблеме Вільні і Віленшчыны, прысутнічаюць у працы, але гэтаму аналізу не хапае глыбіні. Можна было прысвяціць больш месца і больш дэталёва прааналізаваць, напрыклад, антыпольскі дыскурс у кантэксце віленскай праблематыкі, закрануць антысемітызм міжваеннага перыяду і перыяду Другой сусветнай вайны, а таксама Халакост. Гэта стала адным з расчараванняў манаграфіі. Тут важна зразумець, як магло яўрэйскае насельніцтва ў дыскурсе літоўскага нацыяналізму ператварыцца з саюзніка ў ворага па віленскім пытанні.

Манаграфія пакідае пытанні зменаў моўна-лінгвістычных межаў на тэрыторыі Віленшчыны ўбаку, а іх можна было б азначыць некалькімі спасылкамі. Разуменне гэтага тым больш важнае для міжнародных чытачоў у сувязі хоць бы з канцэпцыяй літоўскага нацыянальнага руху аб “літоўцах, якія забыліся літоўскую мову”. Гэтае пытанне такім чынам набыло б кантэкст, якога не хапае для лепшага разумення тых праблем, што стаялі перад літоўскім нацыянальным рухам і нацыяналізмам, а таксама дапамагло б лепш зразумець іх адносіны з суседзямі – беларусамі, палякамі, яўрэямі.

Аналізаваная кніга – вельмі важная, а англійская мова значна пашырае яе патэнцыяльную аўдыторыю. Пры гэтым нельга ўсё ж праігнараваць тое, што манаграфія, якая выйшла як том у выдавецкай серыі Інстытута Гердэра ў нямецкім Марбургу па даследаваннях Усходне-

4 Reimagining the Nation / ed. by M. Ringrose, A. J. Jerner. Buckingham – Philadelphia, 1993.

Цэнтральнай Еўропы, мае проста велізарную колькасць лексічных і элементарных граматычных памылак, што, напэўна, заўважаць яе чытачы. Хоць аўтар гэтых радкоў не атрымаў адпаведнай філалагічнай адукацыі і англійская мова не родная ні для яго, ні для аўтараў, але ігнараваць такую незлічоную колькасць памылак проста нельга, бо яны часам робяць чытанне і разуменне думак аўтараў досыць складанай задачай. Дастаткова сказаць, што там, дзе трэба выкарыстаць англійскія словы *emphasize* ці *focus*, яны з нейкай не зусім уцямнай паслядоўнасцю ўжываюць *accentuate*. Улічваючы гэта, напэўна, можна гаварыць пра з'яўленне нейкага новага акадэмічнага англійскага слэнгу, які функцыянуе ў навуковым асяроддзі Літвы і нават набыў цяпер пазалітоўскае вымярэнне, бо існуе ў міжнародным фармаце.

Хуткія тэрміны выканання замовы на друк, патрэба неадкладнай справаздачы не апраўдваюць такога вельмі неахайнага падыходу да якасці тэксту. Віна ляжыць як на выдавецтве, так і на даследчыках, якія карыстаюцца павагай міжнароднай навуковай супольнасці. Гэта падрывае іх аўтарытэт, падрывае аўтарытэт кнігі і зніжае яе вартасць. Нават калі прыняць тэзу пра крызіс сучаснай гуманістыкі на веру, то і гэта не будзе апраўданнем такога занядбання якасці тэксту, а будзе ўспрынята як яшчэ адна яго праява, а таксама кепскі прыклад для маладога пакалення даследчыкаў.

Пры тым, што польскі, беларускі і яўрэйскі погляд на віленскае пытанне, як пастулюецца, не выступае прадметам дэталёвага разгляду, усё ж адзін з аспектаў гэтай праблемы павінен быў прагучаць больш выразна. Беларускі хрысціянска-дэмакратычны друк даволі доўга разам з паняццем "Заходняя Беларусь" ужываў і словазлучэнне "Усходняя Літва". Пры гэтым хрысціянска-дэмакратычныя выданні не канкрэтызавалі, дзе заканчваецца Заходняя Беларусь, а дзе пачынаецца Усходняя Літва[5]. Згаданыя выданні атрымлівалі падтрымку з боку літоўскага

[5] M. B. Dzień Litoŭskaj Niezaležnaści // Biełaruskaja Krynica. 1934. № 9. 18 lutaha. S. 2.

ўрада. Гэта важна ў кантэксце таго, што аўтары апісваюць – як патэнцыяльная канкурэнцыя беларусаў за горад і край. Але ўсё ж такі падтрымка з літоўскага боку для беларусаў была, бо літоўскі ўрад у сваіх намаганнях не мог абапірацца выключна на літоўскую грамаду ў Вільні і літоўцаў Віленшчыны.

Нельга не заўважыць, што ў некаторых аспектах літоўскі нацыянальны рух у яго адносінах да Вільні для беларускага нацыянальнага руху ўяўляў нават не так прыклад, як пэўную кальку, матрыцу, якую можна было б выкарыстаць у сваіх мэтах. Напрыклад, літоўскае паломніцтва да віленскай Кальварыі (13), якое пачалося яшчэ да Першай сусветнай вайны, стала для беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў прыкладам, які яны самі выкарысталі ў сваіх мэтах ўжо ў міжваенны перыяд, калі ў 2-й палове 1930-х г. ладзіліся паломніцтвы да той жа віленскай Кальварыі з удзелам не толькі беларусаў-каталікоў, але і праваслаўных. Таксама і ініцыятыва па перайменаванні віленскіх вуліц у гонар дзеячоў беларускага нацыянальнага гістарычнага наратыву была пазычана ў літоўцаў.

Увагу беларускага чытача прыцягнуць менавіта моманты, звязаныя з тымі аспектамі кнігі, дзе яна закранае перакрыжаванне ці сутыкненне інтарэсаў беларускага нацыянальнага руху. Аўтары ў асноўным абапіраюцца на даступныя сёння працы беларускіх даследчыкаў. У манаграфіі Мачуліса і Сталюнаса нават тое, што беларусы дамагаліся аўтаноміі ў рамках шматнацыянальнай Літвы, разглядаецца толькі як этап перад патрабаваннем стварэння ўласнай дзяржаўнасці ў этнаграфічных межах з Вільняй у якасці сталіцы. Гучалі галасы і тых, хто ў літоўскай публічнай сферы лічыў беларусаў пагрозай літоўскім інтарэсам (38). Зрэшты, тэрмін “этнаграфічная Літва” меў свой аналаг у “этнаграфічнай Беларусі”. Валоданне Вільняй і Віленшчынай было гарантыяй для беларусаў, што яны не будуць асіміляваны Расіяй, бо менавіта там жылі беларускія каталікі. Гэтая тэза аўтараў абапіраецца на дзённікі Міхала Ромэра (49). Міжваенны ж перыяд быў часам, калі беларусы разглядаліся як саюзнікі Літвы ў барацьбе за вяртанне горада і краю. Пры

гэтым у такой якасці яны выступалі разам з украінцамі. Усё ж, як прызнаюць аўтары, літоўская палітычная эліта прадугледжвала для беларусаў Віленшчыны толькі культурную аўтаномію (101–102). Аўтары манаграфіі не канкрэтызуюць формы падтрымкі, якую літоўскі ўрад аказваў беларусам у кантэксце барацьбы за Вільню і Віленшчыну, калі абмяркоўваюць формы падтрымкі, у тым ліку і фінансавай, якую мела літоўская меншасць у міжваеннай Польшчы (103, 155).

Аднак ужо ў 1939–40 г. беларусы зноў разглядаліся як патэнцыяльная пагроза літоўскім інтарэсам (р. 100, 186–187). Аўтары ўяўляюць беларусаў толькі як пешак у палітычных гульнях савецкага кіраўніцтва з Літвой, бо прадстаўнікі ўрада БССР нават не ведалі, што Вільню перададуць Літве. Перадача горада беларусам была толькі элементам шантажу Масквы і картай у перамовах з літоўскім урадам (172).

У самой Літве пачынаючы з 1919 г. ідэя вызвалення Вільні, захопленай у кастрычніку 1920 г. польскімі войскамі, ператварылася ў мабілізоўную ідэю для нацыянальнай супольнасці (75), якую літоўскія палітыкі пазней спрабавалі манапалізаваць для стварэння выгаднай для іх грамадскай думкі. Аднак рыторыка барацьбы за Вільню станавілася ўсё больш ірацыянальнай (92). Ірацыянальнасць адчувалася ў знешнепалітычнай арыентацыі Літвы на Германію і СССР. У 1930-я г. яна яшчэ больш узмацнілася з узрастаннем пагрозы з боку нацысцкай Германіі, якая ўяўляла ўсё большую небяспеку для Літвы. Літва не магла стварыць трывалы абарончы Балтыйскі саюз з Польшчай з прычыны абвостранага ўспрымання часткай літоўскай палітычнай эліты і насельніцтвам віленскага пытання (99, 110–112). Ідэя вызвалення Вільні ператварылася ў сакралізаваны і рытуалізаваны наратыў аб слаўным мінулым і светлай будучыні, што быў інструментам, з дапамогай якога кансалідавалася нацыянальная супольнасць і стваралася пачуццё калектыўнай ідэнтычнасці, таму адмовіцца ад яе для літоўскай палітычнай эліты нават паводле матываў самазахавання краіны было немагчыма (109–110).

Віленская праблема стала чыннікам стварэння бюракратычных структур, якія, аднак, не афішаваліся для шырокай публікі. Так, у 1930 г. была створана таемная Камісія па віленскіх справах, якая павінна была каардынаваць намаганні, скіраваныя на аналіз становішча літоўцаў Віленшчыны, сітуацыі там і на пошук шляхоў узмацнення іх пазіцый, пашырэння культурнай і эканамічнай актыўнасці. Пра існаванне гэтай камісіі ведала толькі вузкае кола асоб (103).

Для публічнай сферы краіны пытанне Вільні ператварылася ва ўніверсальны код, у формулу, якая прамаўлялася на розныя лады і з дапамогай якой выбудоўвалася палітычная рыторыка. Пытанне Вільні было спосабам, з дапамогай якога сфера палітыкі магла быць падзелена на "сваіх" і "здраднікаў", якія гатовы былі адмовіцца ад ідэі вызвалення горада ці праяўлялі меншы імпэт у намаганнях падкрэсліць важнасць Вільні для літоўскага народа і дзяржавы.

Пытанне Вільні выкарыстоўвалася ў якасці зручнай карты для барацьбы з палітычнымі апанентамі. Не толькі ўласна нацыяналісты (або таўцінінкі, *Tautininkai*), але і прадстаўнікі іншых палітычных кірункаў, такія, як дэмакраты, хрысціянскія дэмакраты, члены народнай партыі, выкарыстоўвалі пытанне Вільні як своеасаблівую палітычную зброю супраць канкурэнтаў. Як толькі тая ці іншая партыя апыналася ва ўладзе або здабывала ўплыў (наколькі гэта было магчыма ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму ў Літве пасля перавароту снежня 1926 г.), яе можна было абвінаваціць у здрадзе інтарэсам Літвы ў сувязі са спробамі перамоваў з палякамі або нейкімі іншымі правінамі (97, 161).

Паказалі аўтары манаграфіі і амбівалентнасць прапаганды ідэі вызвалення Вільні ў сувязі з ультыматумам, які высунула Літве Польшча ў сакавіку 1938 г., навязваючы ўстаноўку афіцыйных дыпламатычных адносін. Дзеянні ўрада, які паддаўся польскаму ўльтыматуму, былі расцэнены грамадскай думкай як здрада.

Аўтары аналізуюць дзейнасць дзвюх арганізацый, якія адыгрывалі асабліва значную ролю ў прапагандзе

ідэі вызвалення Вільні. Гэта “Саюз вызвалення Вільні” і “Саюз стралкоў Літвы”. Абедзве арганізацыі праводзілі ідэі праз свае выданні і мерапрыемствы, якія яны ладзілі як на 9 кастрычніка (з 1920-х г. гэтая дата стала штогадовым днём нацыянальнай жалобы па страце Вільні), так і з іншых нагодаў, каб падкрэсліць значэнне Вільні для Літвы і літоўцаў, ненатуральнасць адрыву сталіцы ад рэшты краіны і неабходнасць удзелу ў вайсковых і парамілітарных арганізацыях. Сяброўства ў “Саюзе вызвалення Вільні” стала свайго роду знакам лаяльнасці для літоўскіх дзяржслужачых, а таксама для грамадзян міжваеннай Літвы агулам. З акцый, якія праводзілі гэтыя арганізацыі для замацавання “віленскай” ідэі ў грамадскай свядомасці, аўтары вылучаюць раздачу т. зв. віленскіх пашпартоў. Такія пашпарты выдавалі нават на памерлых сваякоў, атрымлівалі іх і маладыя людзі, якія яшчэ не мелі агульнаграмадзянскага пашпарта. Вядома, што каля паўмільёна літоўцаў сталі сімвалічнымі грамадзянамі Вільні з 1932 г. – для маленькай краіны лічба надзвычайна высокая (133).

Сімвалічныя дзеянні суправаджалі рыторыку патрэбы вызвалення Вільні. Гэта пасадка т. зв. віленскіх дубоў, пабудова сімвалічных вежаў замка Гедыміна ў розных кутках Літвы, сімвалічныя цырымоніі, сам дзень 9 кастрычніка, які да 1938 г. шырока адзначаўся на дзяржаўным узроўні. Каб нагадваць жыхарам Літвы пра важнасць Вільні і Віленшчыны, некаторыя перыядычныя выданні выкарыстоўвалі карту Літвы з межамі паводле дамовы з Савецкай Расіяй 12 ліпеня 1920 г. Такія карты ішлі нават для рэкламы папулярных цыгарэт і матацыклаў “Харлі-Дэвідсан” (162).

Пры тым, што Д. Сталюнас і Д. Мачуліс заўважылі, што літоўская палітычная эліта мела цьмянае ўяўленне аб сапраўднай сітуацыі ў Вільні і на Віленшчыне (102), некаторыя аспекты “віленскай” рыторыкі не былі пазбаўлены падставаў. У перыферыйнасці і эканамічнай стагнацыі Вільні і Віленшчыны было зерне праўды. Гэта пацвярджалі як дадзеныя польскай статыстыкі, так і некаторыя тагачасныя польскія назіральнікі. Мела значэнне і тое, што горад, колькасць насельніцтва якога амаль не вырасла ад 1909 г., калі там жыло 205 тыс. чал., да 1939 г.

(209 тыс. чал.), на фоне глыбокай польскай правінцыі вылучаўся толькі наяўнасцю ўніверсітэта[6].

Аўтары не надалі значэння таму, наколькі "віленская" рыторыка дапамагала адцягваць увагу крытыкаў літоўскага ўрада і літоўскага грамадства ў цэлым ад праблем, звязаных з эканамічным крызісам канца 1920 – пачатку 1930-х г. Увага звернута ў першую чаргу на праблемы ў эканоміцы Віленшчыны або "Усходняй Літвы", а карты ўключаюць беларускія тэрыторыі вакол Гародні, Ліды, Ашмянаў, Браслава і іншыя, хоць у манаграфіі на гэтым увага не акцэнтуецца.

Для паказання дыстанцыі, якая ўтварылася паміж рэчаіснасцю шматэтнічнай Вільні і Віленшчыны, і эфектамі "віленскай" прапаганды ў Літве аўтары досыць правільна выбралі за прыклад сітуацыю з экскурсіямі ў Вільню, якія настойліва рэкамендавалася праводзіць толькі з праверанымі гідамі. Пры гэтым, натуральна, літоўскія турысты павінны былі бачыць толькі агульнапрынятыя ў літоўскім дыскурсе і знаёмыя аб'екты, абмінаючы нелітоўскія, перавага польскай мовы трактавалася як часовая і толькі павярхоўная (167–169, 198).

Аўтары, хоць і не пішуць наўпрост, але пры абмеркаванні пытання дэмаграфічнай сітуацыі і далейшага лёсу насельніцтва Вільні і Віленшчыны (42) падразумяваюць праблему сацыяльнай інжынерыі[7]. Неабходнасць асваення гарадоў прадстаўнікамі "сялянскіх" (або "плебейскіх") нацый мела вялікае значэнне. Аднак у выпадку Вільні адсутнасць прамысловасці і агульны стан эканамічнай стагнацыі рабілі перасяленне ў горад для літоўскіх сялян і прадстаўнікоў інтэлігенцыі (нават пры пэўных вельмі істотных выключэннях) немэтазгодным (28). Вайна павінна была змяніць палітычную сітуацыю і паўплываць на пытанне прыналежнасці горада і краю ў пазітыўным для літоўцаў ключы.

[6] Mackiewicz J. Bunt rojstów. Warszawa, 1990; Rachuba A., Kiaupienė J., Kiaupa Z. Historia Litwy. Dwugłos polsko-litewski. Warszawa, 2008. S. 341.

[7] Landscaping the Human Garden. Twentieth-Century Population Management in a Comparative Framework / ed. by A. Weiner. Stanford, 2003.

Аўтары даводзяць, што не ўсе прыхільнікі літоўскага нацыяналізму заклікалі да гвалтоўнага выгнання нелітоўскага насельніцтва з гэтых тэрыторый на працягу большай часткі разгляданага перыяду. Але сітуацыя стала змяняцца пад час Другой сусветнай вайны, калі літоўскія ўлады пачалі высяляць “зноў прыбылых” і бежанцаў (191–192), аднак ужыванне інструмента масавых забойстваў не прапагандавалі палітычныя сілы Літвы, якія выступалі за вяртанне горада і краю і спавядалі розную тактыку па іх літуанізацыі. Тым не менш аўтары, напэўна, спяшаючыся з падрыхтоўкай тэксту (што добра па ім відаць), забыліся больш кантэкстуалізаваць гэтае досыць важнае пытанне, якое ўсплывае ў сувязі з Халакостам і забойствам літоўскіх яўрэяў у Панарах.

Навуковая манаграфія літоўскіх даследчыкаў, нягледзячы на моўныя хібы, напісана ў падкрэслена палітычна нейтральным і, нават можна сказаць, апалітычным ключы. Гэта хутчэй можна палічыць за ўзор таго, як падобныя выданні павінны пазіцыянаваць сябе ў кантэксце моцнай палітызацыі гістарычных даследаванняў сёння[8]. Але ад аўтараў манаграфіі ўжо не залежыць тое, наколькі іх кніга будзе па-рознаму інтэрпрэтавацца і ўспрымацца ў Беларусі, самой Літве і Расіі. Падзеі, якія разгарнуліся пасля лютага – красавіка 2014 г. ва Украіне, у значнай ступені вызначылі фон, на якім геапалітыка і злоўжыванне гісторыяй і гістарычнымі аргументамі зноў зрабіліся актуальнымі і папулярнымі.

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што кнігу трэба ахарактарызаваць як напісаную ў вялікай спешцы і параўнаць яе можна з недапечаным хлебам, які заўчасна забралі з печы. Пры гэтым яна мае і неаспрэчныя станоўчыя бакі, бо раскрывае розныя аспекты “віленскага” дыскурсу ў літоўскім нацыяналізме на працягу лёсавызначальнага перыяду ў фармаванні сучаснай літоўскай нацыі.

Горадня – Варшава *Аляксандр Пагарэлы*

[8] Историческая политика в XXI веке / под. ред. А. Миллера, М. Липман. Москва, 2012.

## ГРЕБЕНЬ, ЕВГЕНИЙ А. Гражданское население Беларуси в условиях немецкой оккупации (1941–1944 гг.): монография. Минск: БГАТУ, 2016. 496 с.

Падзеі Другой сусветнай вайны выклікаюць вялікі інтарэс даследчыкаў, што звязана не толькі з фармаваннем калектыўнай памяці ў Беларусі, але і з неабходнасцю грунтоўнага, усебаковага аналізу падзей на беларускіх землях. Традыцыйна айчынныя гісторыкі засяроджваюць увагу на высвятленні пытанняў, звязаных з баявымі дзеяннямі, рухам супраціўлення і калабарацыянізмам, характарыстыкай палітычнай сітуацыі на акупаванай тэрыторыі, “забываючыся” такім чынам на лёс простых людзей, якім трэба было не проста жыць, а выжываць у гады ваеннага ліхалецця. На гэтым фоне кніга Яўгена Грэбеня вылучаецца менавіта зваротам да простага чалавека і да арганізацыі яго жыцця ва ўмовах нямецкай акупацыі.

Адразу трэба зазначыць, што даследаванне напісана пераважна на архіўным матэрыяле (аўтар карыстаўся фондамі Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці, Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці, Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці, Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці), што сведчыць, між іншага, пра высокую ступень навуковай навізны і ўнікальнасці праблемы.

Структурна манаграфія складаецца з уводзінаў, трох раздзелаў і заключэння. Ва ўводзінах Я. Грэбень дае кароткі гістарыяграфічны нарыс праблемы і адзначае, што нямецкі рэжым на Беларусі ён разглядае праз прызму сацыяльнай гісторыі. Зыходзячы з гэтага, аўтар паказвае сацыяльна-эканамічную і грамадска-палітычную сітуацыю, дае характарыстыку прадстаўнікам мясцовай адміністрацыі, робіць спробы рэканструкцыі сацыяльна-побытавых умоў жыцця насельніцтва, выяўляе крыніцы яго існавання і выжывання ва ўмовах акупацыі (5–6).

У першым раздзеле “Ідэйна-палітычныя мерапрыемствы акупацыйных уладаў, сістэма кантролю і рэгламентацыя жыцця грамадзянскага насельніцтва” (7–166) аўтар спыняецца на характарыстыцы сацыяльна-палітычных рэалій вайны, сістэме кантролю за жыхарамі падуладнай тэрыторыі, апісвае дзейнасць судовай і пенітэнцыярнай сістэм. Я. Грэбень прыходзіць да высновы, што ад пачатку акупацыі насельніцтва падвяргалася масаванай ідэалагічнай апрацоўцы, мэтай якой было выцясненне савецкай ідэалагічнай спадчыны. Для гэтага нямецкія ўлады актыўна выкарыстоўвалі дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, праз якіх імкнуліся здабыць сімпатыі мясцовых жыхароў.

У манаграфіі неаднаразова падкрэсліваецца: ва ўмовах вайны насельніцтва было вымушана ў той ці іншай ступені ісці на кантакты з немцамі, да якіх ставілася пераважна негатыўна, што было выклікана палітыкай генацыду, вывазам на працу ў Германію, эканамічнай палітыкай і інш. Але былі і тыя, хто свядома пайшоў на супрацоўніцтва. Часта вызначальным фактарам на карысць гэтага было стаўленне да савецкай улады або жаданне звесці міжасабовыя рахункі з даваенных часоў.

Апісанне сацыяльна-побытавых умоў пражывання насельніцтва падаецца ў другім раздзеле даследавання (“Сацыяльна-побытавыя ўмовы жыцця насельніцтва”, 167–330). Аўтар звяртае ўвагу на працэс забеспячэння харчаваннем і ўмовы выплаты дапамогі з боку мясцовай адміністрацыі, на выкарыстанне матэрыяльных рэсурсаў людзей, на вырашэнне праблем жылля, аказання камунальных паслуг, медыцынскага абслугоўвання, на выжыванне ва ўмовах надзвычайных сітуацый. Даследчык прыходзіць да высновы, што нацысцкая акупацыя прывяла да рэзкага пагаршэння матэрыяльнага становішча насельніцтва. На яго думку, гэта было звязана з максімальным выкачваннем сродкаў на забеспячэнне патрэбаў III Рэйха і падтрыманне ваеннай моцы Вермахта.

У раздзеле “Крыніцы выжывання грамадзянскага насельніцтва” (331–490) даследчык справядліва адзначае, што нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі забароненае

ў СССР прадпрымальніцтва, якое, аднак, падвяргалася жорсткай рэгламентацыі. Ва ўмовах вайны рамяство і гандаль сталі адным са сродкаў выжывання як гарадскіх, так і сельскіх жыхароў. Апошнія, акрамя гэтага, перажылі вайну, бо мелі зямельныя надзелы і скаціну. Гэта стала падставай для аналізу ўмоў землекарыстання і карыстання насельніцтвам прыроднымі рэсурсамі (торф, рыба, грыбы, ягады і г. д.), транспартам і камунікацыямі, для вывучэння ролі і значэння ветэрынарнай службы.

Трэба адзначыць, што ў разгляданым даследаванні асноўная ўвага аддаецца менавіта рэгламентацыі самых розных сфер жыцця насельніцтва ва ўмовах акупацыі, робіцца параўнанне сітуацыі ў тыле групы армій “Цэнтр”, на тэрыторыі рэйхскамісарыята “Украіна” і генеральнай акругі Беларусь. Аднак за сухімі лічбамі і цыркулярамі аўтар змог паказаць рэальныя жыццёвыя сітуацыі, геаграфія якіх дазваляе зразумець агульнае маральнае, палітычнае, сацыяльнае становішча на беларускіх землях.

Кніга Я. Грэбеня падштурхоўвае да рознага роду рэфлексій, параўнання. Аўтар неаднаразова падкрэслівае цяжкае матэрыяльнае становішча насельніцтва ў гады вайны (несумненна, факт аб’ектыўны). Але якім было становішча гэтых людзей да пачатку вайны? Якім чынам на дабрабыт, маральны і псіхалагічны стан грамадства паўплывала калектывізацыя, індустрыялізацыя і рэпрэсіі, што папярэднічалі ваенным дзеянням? Толькі ў адным выпадку, характарызуючы прадпрымальніцкую дзейнасць, аўтар згадвае даследаванне «За фасадом “сталинского изобилия”: Распределение и рынок в снабжении населения в годы индустриализации, 1927–1941» А. Асокінай (Масква, 1999). А падобнага роду параўнанні міжволі просяцца пад час чытання манаграфіі. Зразумела, што мэта аўтара была іншай, а таму яго нельга абвінавачваць у адсутнасці тых ці іншых звестак з ранейшага часу.

Варта дадаць, што пасля прачытання кнігі (нягледзячы на прысутнасць у тэксце дастаткова шматлікіх прыкладаў паводзін людзей у розных сітуацыях ва ўмовах акупацыі) застаецца ўражанне менавіта пра нямецкую сістэму рэгламентацыі жыцця грамадства. У сувязі з гэтым міжволі

ўзнікае жаданне пачуць аповеды сведкаў апісваных падзей, тую жывую вусную гісторыю, якая, як нам падаецца, дадала б пэўныя фарбы ў змест працы.

Сярод момантаў, на якія трэба звярнуць увагу аўтара, адзначым функцыянаванне грашовай сістэмы. Я. Грэбень піша пра штрафы, заробкі, дапамогу, якія выплачваліся як у савецкіх рублях, так і ў нямецкіх марках. Але ў працы няма згадак пра тое, якім чынам рэгламентавалася грашовае абарачэнне, якім было суаднясенне рубля і маркі. На наш погляд, такое ўдакладненне дазволіла б чытачу лепш зразумець фінансавую сітуацыю як у рэгіёнах, так і на беларускіх землях у цэлым.

На заканчэнне зазначым, што манаграфія, несумненна, будзе цікавай і карыснай як для спецыялістаў па ваеннай гісторыі, так і для тых, хто займаецца гістарычнай кампаратывістыкай. Яна дазваляе выйсці за храналагічныя і геаграфічныя межы даследавання і даць ацэнку падзей Другой сусветнай вайны як мінімум на ўзроўні Цэнтральнай Еўропы.

Мінск *Любоў Козік*

## Diskriminier – vernichtet – vergessen. Behinderte in der Sowjetunion, unter nationalsozialistischer Besatzung und im Ostblock 1917–1991 / Hg. von ALEXANDER FRIEDMAN und RAINER HUDEMANN. Stuttgart: Franz Steiner Verlag, 2016. 563 S.

20 верасня 2016 г. у нямецкай амбасадзе ў Мінску адбылася прэзентацыя кнігі "Дыскрымінаваныя – знішчаныя – забытыя". Пад час мерапрыемства яе навуковыя рэдактары выказалі слушную прапанову аб працягу сумеснай працы нямецкіх і беларускіх даследчыкаў над далейшым вывучэннем малавядомых пытанняў, якія адносяцца да гісторыі Беларусі XX ст., асабліва да перыяду Другой сусветнай вайны. Як пераканаўча паказваюць

вынікі праведзенага даследавання, у беларускай і замежнай гістарычнай навуцы прадметам спецыяльнага вывучэння да апошняга часу не была тэма інвалідаў, псіхічна хворых і іншых пацыентаў бальніц. Таму невыпадкова, што антрапалагічны падыход, які ў апошнія гады стаў адметнасцю ў замежнай гістарыяграфіі, не абмінуў і сучасную нямецкую беларусістыку. У выніку стала магчымым выкананне навуковага праекта, прысвечанага людзям з абмежаванымі магчымасцямі ў Савецкім Саюзе, у час нацысцкай акупацыі і ва Усходнім блоку з 1917 да 1991 г., у цэнтр якога была вылучана Беларусь.

На прэзентацыі адзначалася, што дзякуючы намаганням амаль двух дзясяткаў аўстрыйскіх, беларускіх, нямецкіх, расійскіх і ўкраінскіх даследчыкаў гэтая тэма набыла адметнае гучанне і пацвердзіла істотна важны факт, што некаторыя табуяваныя да гэтага часу аспекты гісторыі можна ўсебакова раскрываць у выніку ўсталяванага апошнім часам дыялогу беларускіх і нямецкіх даследчыкаў. Заўважым, што гатоўнасць да такога дыялогу была закладзена ў нямецкай беларусістыцы і беларускай германістыцы паўтара дзесяцігоддзя таму, калі на пачатку XXI ст. у Гётынгене ўпершыню ўбачыла свет спецыяльнае выданне “Падручнік па гісторыі Беларусі”[1].

У прадмове (13–33) да новай кнігі кіраўнік праекта Аляксандр Фрыдман і навуковы рэдактар Райнер Гудэман адзначаюць, што вялікая колькасць інвалідаў і псіхічна хворых людзей сталі ахвярамі ў час Другой сусветнай вайны. На іх думку, праца ў канцэнтраваным выглядзе прэзентуе вынікі беларуска-нямецкага даследчага праекта “Хворыя і людзі з фізічнымі абмежаваннямі ў Беларусі 1941–1944 гг.”, які выконваўся пры падтрымцы Фонда Герды Хенкель на працягу двух з паловай гадоў з 2009 да 2012 г. у рамках спецыяльнай праграмы па падтрымцы маладых гісторыкаў у Расіі, Украіне, Малдове і Беларусі (9).

[1] Handbuch der Geschichte Weißrusslands. Hrsg. von D. Beyrau und R. Lindner. Göttingen, 2001.

Выбар Беларусі ў якасці цэнтральнага пункта быў не выпадковым – гэтаму паспрыяла геаграфічнае становішча краіны паміж Расіяй і Еўропай, адметнае гістарычнае развіццё на працягу ХХ ст., шматэтнічны склад насельніцтва, сярод прадстаўнікоў якога ў гісторыі гэтай краіны разам з іншымі значную ролю выконвалі яўрэі. Гэтыя і іншыя гістарычныя, грамадскія і навуковыя адметнасці выклікалі асаблівую ўвагу цяперашняй еўрапейскай гістарычнай навукі, бо перапляценне на беларускай зямлі ў мінулым савецкіх, беларускіх, рускіх, польскіх, яўрэйскіх і нямецкіх інтарэсаў садзейнічала таму, што менавіта Беларусь стала адным з самых удалых прыкладаў для выяўлення адметных наступстваў Першай сусветнай войны і падзей хаатычнага міжваеннага часу, асабліва крывавых наступстваў ваенных гадоў. У прадмове адзначана, што на прыкладзе Беларусі можна было правесці даследаванне, якое паказвае такую малавядомую да гэтага часу важную праблему, як сітуацыя з інвалідамі і псіхічна хворымі ў сталінскім Савецкім Саюзе, раскрыць маштабы масавага знішчэння гэтых людзей на акупаванай савецкай тэрыторыі ў гады нацысцкай акупацыі, а таксама звярнуць увагу на распрацоўку гэтай праблемы ў СССР, у краінах Усходняга блока і ФРГ пасля Другой сусветнай вайны.

Вырашэнню пастаўленых даследчых задач дапамагае структура кнігі, што складаецца з 7 раздзелаў, у рамках якіх пададзены 35 аўтарскіх матэрыялаў. У якасці дадаткаў да кнігі прыведзены: карта Беларусі ў кантэксце іншых усходнееўрапейскіх краін-суседак, спіс скарачэнняў, пералік геаграфічных назваў і імянны спіс, а таксама звесткі пра аўтараў.

Пачынаецца кніга з уводзінаў, у якіх А. Фрыдман і Р. Гудэман паказваюць месца забойстваў інвалідаў і псіхічна хворых у кантэксце палітыкі вынішчэння, вызначаюць маштабы іх дыскрымінацыі ў грамадстве і прычыны абмежаванага вывучэння. Зыходзячы з пастаўленых задач, вывучэнне такіх наступстваў праводзілася на шматлікіх прыкладах, датычных Беларусі, Украіны, краін Прыбалтыкі (цяперашняй Балтыі), пераўтвораных пасля ўсталявання дыктатур у нацысцкай Германіі

і бальшавіцкім СССР у "крывавыя землі" (Тымаці Снайдэр) (14). Апроч таго, гэтая праблематыка вывучалася на працягу значнага часу, пачынаючы ад усталявання ўлады Саветаў у СССР, у міжваенны і пасляваенны перыяды гісторыі гэтага рэгіёна, а таксама ў постсавецкі час. У прадмове адзначана, што знаёмства з айчыннай і замежнай гістарыяграфіяй вылучае актуальнасць даследавання такой праблематыкі на рэгіянальным узроўні (17). Для раскрыцця праблем даследчая група выкарыстоўвала крыніцы нямецкага і савецкага паходжання з архіваў і бібліятэк Беларусі, Расіі, Польшчы, Літвы і Германіі. Прычым значная частка гэтых матэрыялаў у рамках праекта была ўведзена ўпершыню.

Аўтары ўводзінаў адзначаюць, што структурна кніга падзяляецца на асобныя часткі, у якіх разглядаецца савецкая сістэма аховы здароўя, становішча медыцыны, псіхічна хворых і інвалідаў перад нападам Германіі на СССР і пасля яго, паказаны вобраз дактароў і пацыентаў у адлюстраванні савецкай і нацысцкай прапаганды, прыведзены матэрыялы пра ўвядзенне яўгенікі ў перадваенны і ваенны часы, падрыхтоўку медыцынскіх кадраў перад вайной і ў гады германскай акупацыі, сярод чаго цэнтральным пытаннем стала пытанне забойства інвалідаў і псіхічна хворых у гады вайны Германіі супраць Савецкага Саюза, а таксама таго, якую ацэнку атрымалі злачынныя дзеянні ў пасляваенныя гады ў СССР, ФРГ і ГДР.

У першым раздзеле (37–46) беларускі гісторык С. Жумар знаёміць чытача з наяўнасцю архіўных матэрыялаў у фондах НАРБ, пасля чаго прыходзіць да высновы аб тым, што, нягледзячы на абмежаванасць крыніц у гады вайны, архіўныя фонды даюць магчымасць для рэканструкцыі агульнай карціны аховы здароўя ў Беларусі і даследавання акрэсленай праблематыкі (44).

Пра становішча інвалідаў і хворых у СССР у перадваенны час вядуць размову ў другім раздзеле (47–93) беларускія даследчыкі В. Матах і В. Латышава. У двух асобных матэрыялах В. Матах раскрывае становішча інвалідаў і паказвае магчымасці для іх грамадскай сацыялізацыі

ў савецкіх грамадстве ў перадваеннай Беларусі. В. Латышава на прыкладзе горада Віцебска паказвае вынікі даследавання аб становішчы псіхіятрыі перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй і пасля яе.

Аўтарамі трэцяга раздзела (95–195) пра медыкаў і медыцынскую падрыхтоўку ў перадваенны час і пасля пачатку германскай акупацыі выступаюць нямецкія даследчыкі – Ё. Вігерынг, А. Замойцкі і А. Фрыдман. У першых двух матэрыялах Ё. Вігерынг і А. Замойцкі ў сумесным матэрыяле паказваюць лёсы савецкіх медыкаў у розных умовах і абставінах жыцця на аснове разгляду аўтабіяграфічных матэрыялаў: члена Акадэміі навук Беларускай ССР Ф. Гаўсмана і заснавальніка беларускай школы неўрапатолагаў М. Кроля. Трэці матэрыял А. Замойцкі прысвячае разгляду становішча беларускіх псіхіятраў перад вайной і ў час германскай акупацыі. Наступны матэрыял Ё. Вігерынга знаёміць чытача са структурай медыцынскага факультэта БДУ ў 1920-я г. Заключны матэрыял, падрыхтаваны А. Фрыдманам, раскрывае малавядомую для беларускага чытача тэму аб “сярэдняй школе для медыцынскага персаналу”, якая дзейнічала ў Баранавічах у 1942–1944 г. Пры гэтым аўтар паказвае асноўныя этапы гісторыі гэтай навучальнай установы, фактычна адзінай установы такога профілю на тэрыторыі генеральнай акругі “Беларусь” (182). У матэрыяле прыводзяцца канкрэтныя звесткі пра змест навучання, навучальны персанал, даецца аналіз навучэнцаў, паказана роля школы ў арганізацыі культурнага жыцця ў горадзе і інш.

У чацвёртым раздзеле (199–305) ідзе гаворка пра гісторыю аховы здароўя, адлюстраваную прапагандай і замацаваную ў фактах жыццёвай рэчаіснасці. Паказ становішча лекараў у перадваенны час савецкай прапагандай асвятляе А. Замойцкі. А. Пясецкі раскрывае характар савецкай прапаганды ў 1930-я г. на прыкладзе аховы мацярынства і клопату дзяржавы і грамадства пра дзяцей у СССР. Пра дзяцей у фокусе савецкай палітыкі ў перадваенныя гады і ў час вайны распавядае А. Пясецкі. Карціну становішча інвалідаў у адлюстраванні савецкай прапаганды раскрывае матэрыял В. Матаха. А. Фрыдман шукае

сувязь паміж месцам інвалідаў у царскай Расіі і сталінскім Савецкім Саюзе. С. Бурмістр раскрывае адметнасці нацысцкай сістэмы аховы здароўя праз тэзіс аб “абавязку быць здаровым” у акупаваным Мінску. С. Сілвановіч закранае розныя аспекты аховы здароўя ў адлюстраванні акупацыйнага друку на захопленай савецкай тэрыторыі ў 1941–1944 г. Л. Сляповіч разглядае нефармальныя адносіны ва ўмовах пасляваеннага аднаўлення аховы здароўя ў Савецкай Беларусі.

Пяты раздзел (311–352) прысвечаны малавядомай у айчыннай гістарыяграфіі тэме “яўгеніка – расавая гігіена – эўтаназія”. Нямецкія гісторыкі пішуць пра паходжанне гэтых гістарычных з’яў (311–320), пра забойствы нацыстамі хворых у Эстоніі, Латвіі і Літве і становішча яўгенікі ў прыбалтыйскіх краінах у міжваенны перыяд (321–340), пра “яўгеніку” і “расавую гігіену” ў беларуска-савецка-польска-нямецкім полі дзейнасці міжваеннага перыяду і ў час германскай акупацыі.

Самы вялікі па аб’ёме і колькасці аўтараў шосты раздзел (355–478), у якім даследуюцца розныя аспекты забойстваў інвалідаў, хворых і дзяцей на захопленай савецкай тэрыторыі ў час германскай акупацыі 1941–1944 г. Украінскі даследчык Д. Цітарэнка раскрывае пытанне аб медыцынскім абслугоўванні і забойстве нацыстамі хворых на Украіне. Расійскі гісторык Б. Кавалёў прыводзіць багаты матэрыял пра знішчэнне псіхічна хворых і інвалідаў у паўночна-заходніх раёнах акупаванай Расіі. А. Фрыдман паказвае характар “аб’ектыўна непазбежных мерапрыемстваў”, датычных забойства людзей з фізічнымі і разумовымі адхіленнямі ў Шумяцічах (Смаленская вобласць) і Макар’еве (Ленінградская вобласць), а таксама хворых у раёне Мінска з далейшым паказам гэтых фактаў у айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. А. Замойцкі прапануе чытачу матэрыял пра медыкаў Магілёва і нацысцкія забойствы хворых у гэтым горадзе. В. Латышава паказвае лёс псіхічна хворых і разумова адсталых ва ўмовах ваеннай паўсядзённасці, а таксама раскрывае праблему забойства хворых на тэрыторыі Заходняй Беларусі, В. Матах дае агульны агляд становішча інвалідаў

на тэрыторыі Беларусі. У суаўтарстве трох даследчыкаў – В. Латышавай, А. Фрыдмана і А. Пясецкага – паказана трагедыя разумова адсталых дзяцей у Чэрвені Мінскай вобласці ў маі 1942 г., высвятляюцца маштабы ўдзелу ў гэтым забойстве сілаў германскага Вермахта і цывільнай улады. Х. Рас засяроджвае ўвагу чытача на фактах абыходжання армейскіх часцей 9-й палявой арміі Вермахта з мірным насельніцтвам у Беларусі на прыкладзе лагера смерці ў Азарычах. Пры гэтым аўтар змяшчае карту Вермахта аб правядзенні дэпартацыі непрацаздольнага мясцовага насельніцтва ў раёнах Парыч, Чырвонага Берага, Рудабелкі і Азарыч на 28.03.1944 г. (478).

У перадапошнім раздзеле (481–507), які складаецца з двух матэрыялаў, асвятляецца пытанне аб стаўленні ў пасляваеннай Беларусі да нацысцкіх забойстваў (хворых у тым ліку). А. Шаркоў раскрывае гэтую тэму на прыкладзе вызначэння мераў пакарання савецкімі судовымі органамі ў дачыненні да нацысцкіх злачынцаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў гады германскай акупацыі. В. Барташ у матэрыяле, апублікаваным на англійскай мове, ставіць у цэнтр разгляду цыган, якія, як і яўрэі, сталі ахвярамі нацысцкай палітыкі генацыду.

Заключны, восьмы, раздзел, памылкова пазначаны лічбай VII (511–542), абагульняе матэрыялы тэмы аб становішчы псіхічна хворых і інвалідаў ва Усходнім блоку ў пасляваенны і постсавецкі часы. А. Фрыдман раскрывае яе на яскравым прыкладзе, выкарыстанні імя легендарнага лётчыка А. Марэс'ева ў прапагандзе сацыялістычных каштоўнасцяў у ГДР. Г. Вольхютэр паказвае людзей з душэўнымі і псіхічнымі хваробамі ў Беларусі пасля распаду СССР. Між тым, цэнтральнае месца ў раздзеле займае заключны матэрыял Р. Гудэмана пра фактары выжывання інвалідаў і псіхічна хворых у сітуацыі вайны. Аўтар зазначае, што гэты матэрыял – пэўнае падсумаванне ўсяго выдання. У ім ідзе гаворка пра 12 асноўных фактараў, якія вынікаюць з праведзенага даследавання і маюць дачыненне да характарыстыкі тых шансаў, якія ўзнікалі ў людзей пры збегу пэўных абставінаў, часу, акалічнасцяў і г. д. Да іх ліку аўтар адносіць: 1) мэтавыя акцыі

знішчэння; 2) праявы антысемітызму; 3) ідэалагічныя і сітуацыйныя рашэнні; 4) магчымасць эвакуацыі; 5) грамадскае стаўленне, ідэалогію і дыскрымінацыю; 6) абумоўленасць і мэтанакіраваныя абмежаванасці; 7) "жывых мінёраў" і "заразныя вёскі"; 8) ваеннапалонных; 9) амбівалентнасць; 10) наступствы вайны і акупацыі; 11) факт прыналежнасці да гэтых катэгорый ахвяр; 12) палітыку забойстваў у Рэйху як першы этап небяспекі.

У якасці падсумавання вынікаў Р. Гудэман прыводзіць думку пра тое, што дзякуючы праекту ўдалося дыферэнцавана паказаць асаблівую пагрозу, якую неслі гады вайны для інвалідаў і псіхічна хворых. Шмат якія са згаданых фактараў паўплывалі на індывідуальны лёс людзей гэтай катэгорыі. Апроч таго ў гады вайны адбываліся сітуацыі, калі дзейнічалі іншыя механізмы небяспекі. Пасля праведзення даследавання робіцца відавочным, што фізічна і душэўна хворыя разам з інвалідамі павінны стаць асобным аб'ектам цяперашняй грамадскай свядомасці.

Падводзячы рысу, трэба адзначыць, што рэцэнзаваная кніга – першае нямецкамоўнае выданне, прысвечанае малавядомай і малавывучанай гістарычнай праблеме. Аўтарам удалося не толькі закласці тэарэтычныя рамкі для далейшага вывучэння гісторыі інвалідаў і псіхічна хворых у Беларусі, але і намаляваць даволі адметную агульную карціну іх паўсядзённага жыцця і выжывання ў розных умовах, пры самых непрадказальных абставінах і паўсюдным забеспячэнні германскімі акупацыйнымі службамі выканання дырэктыўных указанняў аб іх знішчэнні ў часы акупацыі. На наш погляд несумненна, што выданне знойдзе свайго не толькі нямецкага, але і беларускага чытача ў тым выпадку, калі з'явіцца пераклад кнігі. Спадзяемся, што пастаўленыя ў ходзе праекта мэты набудуць свой рэальны працяг у беларускай гістарычнай навуцы з улікам дасягнутага выяўлення вузкіх тэм гэтай актуальнай, маладаследаванай і дыскусійнай праблематыкі.

Мінск *Сяргей Новікаў*

## БОН, ТОМАС М. "Мінскі феномен". Гарадское планаванне і ўрбанізацыя ў Савецкім Саюзе пасля 1945 г.; пер. з ням. мовы М. Рытановіч; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. 436 с., 28 іл.

Томас Бон – нямецкі гісторык, які займаецца вывучэннем урбанізацыйных працэсаў у Беларусі. Ён працуе ў г. Гісэне на аддзяленні ўсходнееўрапейскай гісторыі. Таксама ён з'яўляецца сябрам Таварыства па вывучэнні гарадской гісторыі і ўрбанізацыйных працэсаў. Гэтая праца вучонага – самае значнае даследаванне пра развіццё Мінска найноўшага часу. Беларускае выданне стала трэцім, пасля нямецкага і расійскага. У кнізе Томас Бон аналізуе феномен сталіцы Беларусі як "узорнага сацыялістычнага горада", што, як лічыць аўтар, быў цалкам створаны пасля Другой сусветнай вайны. У гэтым даследаванні вучоны разглядае развіццё горада Мінска пасля Другой сусветнай вайны на аснове наступных зрэзаў: планіроўка і архітэктура, урбанізацыя і міграцыя, жыццё і будні насельніцтва. Вывучэнне сацыялістычнага горада як "жыццёвай прасторы" разам з яго асяроддзем, субкультуры, горадабудаўнічай палітыкі ўладаў і рэальна атрыманых вынікаў урбаністычных эксперыментаў у БССР стала асноўнай тэмай даследавання. Сваёй кнігай Т. Бон распрацаваў мадэль для вывучэння супольнасцяў савецкага ўзору, працэсаў мадэрнізацыі ва Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропе пасля Другой сусветнай вайны.

Аўтар звяртае ўвагу на тое, што аднаўленне горада, практычна цалкам разбуранага пад час Другой сусветнай вайны, было выклікам для савецкіх горадабудаўнікоў і архітэктараў. Т. Бон лічыць, што спрэчкі з нагоды эстэтычнага выгляду горада былі толькі тэарэтычным бокам медаля. На думку аўтара, у выніку вайны і Халакосту змянілася структура насельніцтва Мінска (цяпер яно складалася пераважна з беларускіх сялян), таму прыярытэтным было аднаўленне горада, якое адпавядала б практычным, паўсядзённым патрэбам такой катэгорыі насельніцтва.

Т. Бон праводзіць дэталёвы аналіз урбанізацыі Беларусі ад канца XIX да сярэдзіны XX ст. Аўтар прыходзіць да наступных высноваў: царызм спрабаваў да пачатку Першай сусветнай вайны ўтрымаць яўрэйскае насельніцтва на заходніх межах краіны, а з іншага боку, да канца 1930-х г. СССР не выяўляў цікавасці да мадэрнізацыі сваіх памежных абласцей; пераход ад аграрнай краіны да індустрыяльнай дзяржавы адбываўся ў Беларусі з сярэдзіны 1950-х да сярэдзіны 1960-х г.; працэс фарсіравання ўрбанізацыі Беларусі дамінаваў у развіцці беларускай сталіцы; гарады Беларусі маглі захаваць і развіць мадэль "еўрапейскага горада", аднак былі абмежаваны рускай і савецкай уладай, а потым зусім знішчаны; у 1950-я гады XX ст. масавыя ўцёкі з вёскі прывялі да "сялянізацыі" гарадоў, працэс русіфікацыі прывёў да асіміляцыі з савецкай культурай.

Ва ўводзінах і першых раздзелах, апроч адсылак да нямецкай (невядомай у нас), расійскай і беларускай гістарыяграфіі на тэму ўрбанізацыі і горадабудаўніцтва XX ст., Т. Бон пераказвае ў скарочаным выглядзе гісторыю Мінска, шмат у чым стэрэатыпную.

У прыватнасці, аўтар робіць вялікі ўпор на правінцыйнасці Мінска, слабай развітасці яго інфраструктуры і гарадскога жыцця тут наогул. Аднак трэба мець на ўвазе, што ў кантэксце царскай Расіі гэта выглядала іначай – П. Шпілеўскі ў сярэдзіне XIX ст. пісаў: "Мінск належыць да ліку самых буйных і прыгожых гарадоў Заходняй Расіі й пры цяперашнім сваім добраўпарадкаванні і ў абноўленым выглядзе можа быць названы сталіцай Беларусі; ён больш разложысты й шчыгаляваты за Магілёў і Віцебск". Менавіта Мінск стаў месцам пачатку творчых шляхоў такіх сусветна вядомых мастакоў, як Фердынанд Рушчыц, Хаім Суцін, Міхаіл Кікоін, Уладыслаў Стрэмінскі ды многіх іншых. Мінск пачатку XX ст. быў у рэгіёне адным з галоўных цэнтраў культуры, дзе жылі многія польскія, яўрэйскія, расійскія і нават украінскія творцы. Мінск стаў і адным з найважнейшых цэнтраў сацыялістычных і сіяністцкіх рухаў Расіі і Польшчы. То бок, "феномен Мінска" пачаў паўставаць нашмат раней за сацыялістычныя практыкі будаўніцтва. Урэшце, Мінск напярэдадні

Першай сусветнай вайны стаў галоўным цэнтрам беларускага нацыянальнага руху. І стаў сталіцаю БНР, а ўрэшце і БССР. Пра што невыпадкова пісаў Уладзімір Жылка на пачатку 1920-х г. у лісце да Антона Луцкевіча: "Невядома яшчэ, хто здзейсніць ідэю незалежнасці – Менск ці Вільня?". Спрэчнымі падаюцца ўяўленні і пра росквіт нацыянальных культур у Мінску напярэдадні Другой сусветнай вайны, бо ўжо ад 1927 г. нацыянальна-культурная палітыка ("беларусізацыя", "ідышызацыя", "татарызацыя" і г. д.) была рэзка зменeная, і да вайны лідары культурных і грамадскіх элітаў розных этнасаў у Беларусі былі амаль цалкам знішчаны. Аўтар пазбегнуў ацэнак маштабаў і характару рэпрэсій 1930-х г. Занадта катэгарычнае і сцверджанне Т. Бона пра пасляваенны Мінск як "tabula rasa". Усё ж нават пасля вайны, у межах даваеннага адміністрацыйнага падзелу, на 1944 год, заставалася 37 тыс. чалавек. Разам з вяртаннем яго колішніх жыхароў з эвакуацыі і ў выніку дэмабілізацыі, з уключэннем у новую рысу горада дзясяткаў былых пасёлкаў і вёсак, адбыўся і рэзкі рост нараджальнасці... У Мінск вярнуліся многія сем'і прадстаўнікоў культурнай і навуковай інтэлігенцыі, многія сем'і якіх жылі тут яшчэ ў царскі час. Вярталіся цэлыя калектывы ўніверсітэтаў, інстытутаў, тэатраў, з Дзяржаўным яўрэйскім тэатрам БССР уключна. Вярнуліся і многія мастакі яўрэйскага паходжання – З. Азгур, М. Данцыг, І. Басаў. А многія мастакі (В. Волкаў, М. Гусеў, І. Гэмбіцкі, Я. Ціхановіч, М. Дучыц ды многія іншыя) у горадзе перажылі акупацыю і актыўна ўключыліся ў савецкага культурнае жыццё пасля вайны. Такім чынам, казаць пра "tabula rasa" не выпадае.

Яшчэ адно такое стэрэатыпнае сцверджанне, паўторанае Т. Бонам, – канстатацыя "поўнага знішчэння" горада, хоць большасць манументальных мураваных аб'ектаў, храмаў, у тым ліку і помнікаў архітэктуры, былі знішчаны ўжо пасля вайны, у 1950–1970-я г. І тут нямецкі аўтар унікнуў ацэнак, не даючы сваіх суб'ектыўных канатацый праблеме "зачысткі" гістарычнага ўрбаністычнага асяроддзя ўжо ў мірныя савецкія гады. Не адмаўляючы катастрофы Другой сусветнай вайны для сталіцы Беларусі, варта

аднак, праз гісторыю культуры, пазбаўляцца спрашчэнняў, глядзець на лёс Мінска больш дыялектычна. Бо менавіта захаванне даваеннай культурнай эліты дазваляе вытлумачыць хуткае аднаўленне і бурнае пасляваеннае развіццё тут мастацтва, асветы, навукі.

У кнізе Томаса Бона ёсць вельмі разнастайны архіўны матэрыял, на падставе якога разглядаюцца гарадское планаванне і архітэктура, урбанізацыя і міграцыя, і таксама жыллёвае пытанне і штодзённае жыццё горада. Аўтар супастаўляе жаданае і сапраўднае савецкай сістэмы. Паводле Бона Мінск – узорны горад сацыялізму. Натуральна, гэта трэба ўспрымаць як метафару. Бо такімі ж “узорнымі” сацыялістычнымі гарадамі могуць быць названы і іншыя сталіцы – Тырана, Бухарэст, Скоп’е, Алма-Ата ды яшчэ дзясяткі буйных савецкіх гарадоў.

Аўтар вельмі дакладна падзяляе гісторыю Мінска пасля вайны на тры этапы. На позднесталінскі перыяд прыпадае збудаванне ключавых прадпрыемстваў і рэканструкцыя цэнтра горада ў духу неакласіцызму, рэалізацыя грандыёзнага праекта “сонечнага горада”. Т. Бон піша (цалкам слушна), што будаўніцтва цэнтра было прыярытэтным, і гэта прыводзіла да недахопу жыллёвага фонду. Пасля таго як рэалізацыя Генеральнага плана Мінска 1946 г. была спынена, функцыянальны стыль узяў верх над неакласічным стылем будаўніцтва. У хрушчоўскую эпоху адначасна з дэсталінізацыяй вялося масавае жыллёвае будаўніцтва шляхам індустрыялізацыі будаўніцтва і стандартызацыі тыпавых праектаў. Новым элементам стаў мікрараён – жылы комплекс дамоў для 15–20 тысяч жыхароў. Але рэалізацыі планаў замінаў недахоп працоўнай сілы і савецкі бюракратызм. Паскораная індустрыялізацыя БССР у першую чаргу сканцэнтравалася ў Мінску. З гэтым працэсам была звязана і велізарная міграцыйная хваля. Спыніць працэс спусташэння вёсак і “сялянізацыі” гарадоў было немагчыма. Жорсткая сістэма ўліку і рэгістрацыі сутыкаліся з супрацівам з боку насельніцтва і з рознымі спосабамі абыходу такіх правілаў. Гэта прывяло да таго, што ў 50–60-я гады XX ст. канцэнтрацыя жыхароў у Мінску і ваколіцах стала бескантрольнай. На свабодных

тэрыторыях унутры Мінска і на яго ўскраінах узнікала драўляная забудова, на думку нямецкага даследчыка – з сельскай субкультурай. Апошні тэзіс таксама спрэчны, бо насельніцтва гэтых драўляных кварталаў не вяло гаспадаркі на зямлі, не было знітавана роднаснымі повязямі, карысталася ўсімі выгодамі сталічнага жыцця. Толькі сама драўляная архітэктура вонкава нагадвала вясковы лад.

План і рэальнасць, па меркаванні вучонага, значна разыходзіліся ў "сацыялістычным горадзе". Т. Бон лічыць урбанізацыйную канцэпцыю мадэрнізацыі Мінска, распрацаваную беларускай партыяй і ўрадам, няўдалай, бо кіраўніцтву не ўдалося стрымаць міграцыю і выбудаваць супольнасць "новых людзей". А на трэцім этапе, у часы Брэжнева, была зроблена спроба абмежаваць імклівы рост гарадоў. Тым не менш, спальныя раёны вакол гістарычнага ядра сталі найбольш характэрнай адметнасцю Мінска. Беларуская нацыя ў сучасным стане сфармавалася менавіта ў гарадах, дзе ад сярэдзіны 70-х гадоў мінулага стагоддзя ўжо жыве большасць этнічных беларусаў. Менавіта гарады, перадусім Мінск, сфармавалі сённяшніх беларусаў. Бон паказвае, што працэс саветызацыі Беларусі праходзіў у рамках уцёкаў насельніцтва з вёскі ў сувязі з запозненай індустрыялізацыяй. Новыя гараджане спрабавалі адмовіцца ад сваёй вясковай ідэнтычнасці, пры гэтым пераходзілі на агульную рускую мову і пераймалі савецкія нормы паводзінаў. Але гэта не вытлумачвае феномена імклівага росту ў 1980-я г. беларускай нацыянальнай самасвядомасці менавіта ў Мінску. Тое, што адбылося ў канцы XX ст., нават знішчэнне колішняй старасвецкай спадчыны, сёння ўжо можна ацэньваць як частку дэкаланізацыі. Мы ўжо самі будуем сабе "старасвецкія" кварталы ў старым горадзе, абіраем і ствараем уласныя знакі сваёй суб'ектнасці, гістарычнасці. І ў гэтым ёсць пакуль нявырашаная, неапісаная дыялектычнасць.

У сваёй працы Т. Бону выпала выявіць новыя характарыстыкі развіцця пасляваеннага Мінска. Тыя праблемы, што ён раскрывае з дапамогай архіўных крыніц, адлюстроўваюць прынцыпы дзеяння савецкага грамадства

ў савецкай перыферыі. Навуковы тэкст дапаўняюць шматлікія ілюстрацыі і табліцы, а таксама яскравыя жывыя прыклады з тагачаснай рэчаіснасці Мінска. У канцы працы Т. Бон піша, што пасля 1991 г., калі Мінск стаў сталіцай незалежнай дзяржавы, уладам неабходна было вырашаць тыя ж праблемы, што і ў савецкай пасляваеннай гісторыі горада.

Томас Бон стварыў добрую навуковую кнігу пра нашу сталіцу, прысвечаную пасляваенным гадам, надзвычай важную для наступных даследаванняў усходнееўрапейскай гарадской гісторыі і гранічна актуальную для беларускіх даследчыкаў. Інтэлектуальны выклік нямецкага гісторыка-пазітывіста беларускім калегам, якія мелі вольны доступ да дакументаў, скарыстаных Т. Бонам, але не выкарысталі іх. Мо каб у нас былі такога кшталту кнігі, напісаныя айчыннымі аўтарамі, мы знялі б многія міфы і стэрэатыпы, што даюць глебу для бясплённых дыскусій у грамадстве пра прыроду нашай ідэнтычнасці і гістарычнай наканаванасці…

Мінск *Сяргей Харэўскі*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2014–16 г.

## 2014

### На ступень доктара гістарычных навук

Варивончик, И. В. Социально-экономическое развитие среднего класса США в 40-е гг. XX – начале XXI века : 07.00.03 / Варивончик Иван Васильевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 45 с. – Библиогр.: с. 37–42 (50 назв.).

Віцязь, С. П. Прусы і яцвягі ў эканамічных, сацыяльных, палітычных працэсах VIII–XI стст. у Верхнім Панямонні (гістарыяграфічна-крыніцазнаўчая рэканструкцыя) : 07.00.02, 07.00.09 / Віцязь Сяргей Пятровіч ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2014. – 44 с. – Бібліягр.: с. 38–41 (36 назв.).

Каханоўскі, А. Г. Сацыяльная трансфармацыя беларускага грамадства (1861–1914 гг.) : 07.00.02 / Каханоўскі Аляксандр Генадзьевіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2014. – 48 с. – Бібліягр.: с. 37–45 (73 назв.).

Лукашевич, А. М. Белорусские земли в военно-стратегических планах Российской империи (конец XVIII в. – 1812 г.) : 07.00.02 / Лукашевич Андрей Михайлович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 48 с. – Библиогр.: с. 37–45 (81 назв.).

### На ступень кандыдата гістарычных навук

Буракова, А. С. Отражение партизанской и подпольной антифашистской борьбы в экспозициях государственных музеев Беларуси (1944–2013 гг.) : 07.00.02 / Буракова Александра Сергеевна ; ГНУ “Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (21 назв.).

Бурень, Н. В. Военно-воздушные силы Белорусского военного округа: становление и развитие (1921–1941 гг.) : 07.00.02 / Бурень Николай Викторович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2014. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (14 назв.).

Бурик, Е. А. Приграничное сотрудничество Беларуси с Польшей и Украиной (1991–2008 гг.) : 07.00.02 / Бурик Елена Алексеевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (14 назв.).

Бязлепкін, Я. П. Гістарыяграфія ЗША і Вялікабрытаніі па гісторыі Беларусі перыяду Вялікай Айчыннай вайны : 07.00.09 / Бязлепкін Яраслаў Пятровіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2014. – 21 с. – Бібліягр.: с. 16–18 (26 назв.).

Веремеев, С. Ф. Отечественная историография истории христианских конфессий в БССР и Западной Беларуси в 20–30-е гг. XX в. : 07.00.09 / Веремеев Сергей Фёдорович ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2014. – 22 с. – Библиогр.: с. 17–19 (17 назв.)

Веремейчик, А. Е. Несвижская ординация Радзивиллов (1586–1814 гг.): формирование территории, административное управление и социально-экономическое развитие : 07.00.02 / Веремейчик Алина Евгеньевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (18 назв.).

Григорьев, В. В. Трансформация этнического и политического пространства Европы в IV–VI вв. н. э. под влиянием гуннов : 07.00.03 / Григорьев Владимир Владимирович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2014. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (14 назв.).

Дьяков, Д. А. Военно-воздушные силы Белорусского военного округа: организационное строительство и участие в боевых действиях (22.06.1941–15.06.1992) : 07.00.02 / Дьяков Дмитрий Александрович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 18–21 (33 назв.).

Зубарев, А. В. Иммиграционная политика Великобритании в 1945–1997 гг. : 07.00.03 / Зубарев Андрей Васильевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (16 назв.).

Зянюк, Р. У. Навучальныя ўстановы рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі (1772–1914 гг.): структура і дзейнасць : 07.00.02 / Зянюк Раіса Уладзіміраўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2014. – 26 с. – Бібліягр.: с. 21–23 (23 назв.).

Лукашоў, А. А. Картаграфічныя матэрыялы партызан і падпольшчыкаў Беларусі (1941–1944 гг.) як гістарычная крыніца вывучэння Вялікай Айчыннай вайны : 07.00.09 / Лукашоў Андрэй Аляксеевіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2014. – 22 с. – Бібліягр.: с. 18–19 (20 назв.).

Макрушыч, А. М. Культурна-асветніцкая дзейнасць этнічных супольнасцяў у Рэспубліцы Беларусь (1991–2004 гг.) : 07.00.02 / Макрушыч Алена Мікалаеўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2014. – 22 с. – Бібліягр.: с. 17–19 (18 назв.).

Мельникова, А. С. Трудовики и народные социалисты в общественно-политической жизни Беларуси (1906–1918 гг.) : 07.00.02 / Мельникова Алеся Сергеевна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (28 назв.).

Миксюк, А. С. Жречество в социальной структуре авестийского общества (II – середины I тыс. до н. э.) : 07.00.03 / Миксюк Анастасия Степановна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (15 назв.).

Осіпава, Т. М. Дзяржаўнае рэгуляванне ўзаемаадносін паміж прамысловымі рабочымі і прадпрымальнікамі ў Беларусі (1882–1914 гг.) : 07.00.02 / Осіпава Таццяна Мікалаеўна ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2014. – 21 с. – Бібліягр.: с. 18 (8 назв.).

Подорожняя, Е. А. Местные органы государственной власти и управления в Беларуси (1861–1914 гг.): структура, функции, кадры : 07.00.02 / Подорожняя Елена Александровна ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (16 назв.).

Радзюк, А. Л. Беларускія кааператывы ў Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.) : 07.00.02 / Радзюк Аляксей Леанідавіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2014. – 20, [1] с. – Бібліягр.: с. 18 (9 назв.).

Самонова, М. Н. Скандинаво-славянские связи на белорусских землях в IX–XIII вв. (по письменным источникам) : 07.00.02 / Самонова Мария Николаевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2014. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (18 назв.).

Урублеўскі, В. В. Крыніцы па гісторыі штодзённасці беларускага сялянства ў XVIII ст. : 07.00.09 / Урублеўскі Вадзім Валер'евіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2014. – 20 с. – Бібліягр.: с. 16–17 (11 назв.).

Хаданёнак, В. М. Сацыяльна-эканамічнае становішча насельніцтва неакупіраванай тэрыторыі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны (кастрычнік 1915 – кастрычнік 1917 г.) : 07.00.02 / Хаданёнак Віктар Мамертавіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2014. – 22 с. – Бібліягр.: с. 17–19 (20 назв.).

Юрчак, Д. В. Государственно-политические и экономические связи Республики Беларусь с Украиной в 1991–2011 годах : 07.00.02 / Юрчак Денис Валерьевич ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2014. – 24 с. – Библиогр.: с. 18–21 (28 назв.).

## 2015

## На ступень доктара гістарычных навук

Бондаренко, К. М. Общероссийские правомонархические партии на территории Беларуси (1905 – февраль 1917 г.) : 07.00.02 / Бондаренко Константин Михайлович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2015. – 48 с. – Библиогр.: с. 37–45 (70 назв.).

Келлер, О. Б. Распространение средневекового немецкого права на землях Центральной и Восточной Европы в XIII–XVIII вв. : 07.00.03 / Келлер Ольга Борисовна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 47 с. – Библиогр.: с. 39–44 (46 назв.).

Субботин, О. Г. Трансформация веймарской модели федерализма в Германии (ноябрь 1918 – февраль 1934 г.) : 07.00.03 / Субботин Олег Геннадьевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 46 с. – Библиогр.: с. 38–43 (53 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Андреева, В. А. Западногерманская историография советской системы образования, художественной литературы и изобразительного искусства (1949–1990 гг.) : 07.00.09 / Андреева Виктория Анатольевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (15 назв.).

Бароўская, В. М. Беларускае пытанне на савецка-польскіх перагаворах 1918–1921 гг. : 07.00.02 / Бароўская Вольга Мікалаеўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2015. – 23 с. – Бібліягр.: с. 18–20 (21 назв.).

Борун, Е. Н. Православные монастыри на территории Беларуси: правовой статус и социально-культурная деятельность (1839–1917 гг.) : 07.00.02 / Борун Елена Николаевна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2015. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (18 назв.).

Васіленка, Г. Ю. Рэфармаванне сельскагаспадарчых адносін на землях Беларускага Палесся ў першай палове XVI ст. : 07.00.02 / Васіленка Ганна Юр'еўна ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2015. – 25 с. – Бібліягр.: с. 20–22 (15 назв.).

Гарбицкий, С. Б. Беларусь и Чехия: экономические, научно-технические и культурные связи (конец 40-х гг. XX – начало XXI в.) : 07.00.02 / Гарбицкий Сергей Борисович ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2015. – 22 с. – Библиогр.: с. 19 (8 назв.).

Глинка, В. С. Развитие исторического образования в системе высшей школы Беларуси в 1985–2000 гг. : 07.00.02 / Глинка Валерий Святославович; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2015. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (9 назв.).

Дмитриева, О. П. Национальные общности на территории Беларуси в годы Первой мировой войны (1914–1918 гг.) : 07.00.02 / Дмитриева Ольга Петровна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2015. – 26 с. – Библиогр.: с. 22–23 (14 назв.).

Дубровко, Е. Н. Политика Великобритании в отношении восточных границ Польши (ноябрь 1918 – март 1923 г.) : 07.00.03 / Дубровко Елена Николаевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 26 с. – Библиогр.: с. 20–23 (22 назв.).

Кондраль, А. А. Общественно-политическая деятельность ассоциации “Братьев-мусульман” в Египте (2005–2012 гг.) : 07.00.03 / Кондраль Александра Александровна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (13 назв.).

Куракова, І. Я. Фінансавая палітыка германскіх акупацыйных улад на тэрыторыі Беларусі (1941–1944 гг.) : 07.00.02 / Куракова Іна Яўгеньеўна ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2015. – 20 с. – Бібліягр.: с. 16–17 (13 назв.).

Кухаренко, А. А. Деятельность Крестьянского поземельного банка на территории Беларуси (1883–1914 гг.) : 07.00.02 / Кухаренко Артур Андреевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (14 назв.).

Мартинович, Д. А. Становление советской высшей школы (1917 г. – середина 1930-х гг.) : 07.00.03 / Мартинович Денис Александрович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (14 назв.).

Марцынкевіч, І. А. Сацыяльнае забеспячэнне інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ў БССР (1943–1956 гг.) : 07.00.02 / Марцынкевіч Іван Анатольевіч ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2015. – 24, [1] с. – Бібліягр.: с. 19–22 (29 назв.).

Мыслівец, Г. М. Традыцыя шанавання Еўфрасінні Полацкай: генезіс, развіццё, сучаснасць : 07.00.02 / Мыслівец Галіна Міхайлаўна ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2015. – 27 с. – Бібліягр.: с. 21–24 (40 назв.).

Олесик, Е. Я. Подготовка женщин-специалистов в вузах БССР (1944–1991 гг.) : 07.00.02 / Олесик Екатерина Яковлевна ; ГНУ “Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2015. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (18 назв.).

Павлов, Л. Ю. Организация продовольственного обеспечения войск Северо-Западного (Западного) фронта

российской армии на территории Беларуси в годы Первой мировой войны : 07.00.02 / Павлов Леонтий Юрьевич ; Белорус. гос. пед. ун-т. им. М. Танка. – Минск, 2015. – 25 с. – Библиогр.: с. 19–22 (20 назв.).

Сушко, В. В. Эволюция взаимоотношений государства и неопротестантских организаций в условиях реформирования религиозного законодательства Беларуси (1985–2010 гг.) : 07.00.02 / Сушко Виктория Владимировна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (15 назв.).

Цумарева, Е. П. Российская правительственная политика на территории Беларуси в 1905–1914 гг. (по материалам консервативной и либеральной печати) : 07.00.02 / Цумарева Елена Петровна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2015. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (14 назв.).

Щука, О. Л. Общественно-политическая деятельность еврейских партий и организаций в Западной Беларуси (1926–1939 гг.) : 07.00.02 / Щука Ольга Леонидовна ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2015. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (21 назв.).

## 2016

## На ступень доктара гістарычных навук

Груша, А. И. Письменная документация Великого Княжества Литовского конца XIV – первой трети XVI в.: возникновение, внедрение, использование : 07.00.02, 07.00.09 / Груша Александр Иванович ; ГНУ “Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2016. – 45 с. – Библиогр.: с. 36–42 (50 назв.).

Здановіч, У. В. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941–1945 гг.) у адлюстраванні айчыннай гістарыяграфіі : 07.00.09 / Здановіч Уладзімір Васільевіч ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2016. – 49 с. – Бібліягр.: с. 37–46 (78 назв.).

Мезга, Н. Н. Советско-польские отношения в советской и польской историографии 1918–1941 гг. : 07.00.09 /

Мезга Николай Николаевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 46 с. – Библиогр.: с. 36–43 (66 назв.).

Тимофеев, Р. В. Транспорт Белорусской ССР: управление, обеспечение, функционирование, социальная сфера (осень 1943 – 1991 г.) : 07.00.02 / Тимофеев Ростислав Владимирович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2016. – 53 с. – Библиогр.: с. 40–50 (78 назв.).

Токць, С. М. Сацыяльныя і культурныя працэсы ў беларускай вёсцы ў другой палове XIX – пачатку XX ст. : 07.00.02 / Токць Сяргей Міхайлавіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2016. – 48 с. – Бібліягр.: с. 37–45 (76 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Апанович, К. О. Православная церковь в Речи Посполитой и Восточные патриархаты: специфика церковных взаимоотношений (1596–1632 гг.) : 07.00.03 / Апанович Кристина Олеговна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (16 назв.).

Вікол, Л. Ф. Фарміраванне і развіццё сістэмы грамадскага харчавання ў Беларусі ў XVI – пачатку XX ст. : 07.00.02 / Вікол Людміла Фёдараўна ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2016. – 24 с. – Бібліягр.: с. 18–21 (26 назв.).

Волкаў, М. А. Забеспячэнне абароназдольнасці рэзідэнцый роду Радзівілаў на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага ў XVI – пачатку XVIII ст. : 07.00.02 / Волкаў Мікалай Аляксандравіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2016. – 24 с. – Бібліягр.: с. 18–21 (35 назв.).

Ганский, В. А. Государственное регулирование рекреации и туризма в Западной Беларуси (1921–1939 гг.) : 07.00.02 / Ганский Владимир Александрович ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2016. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (18 назв.).

Гарматны, В. П. Правядзенне камасацыі на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.) : 07.00.02 / Гарматны

Віталь Пятровіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2016. – 27 с. – Бібліягр.: с. 20–24 (41 назв.).

Горны, А. С. Беларускія паланафільскія арганізацыі ў грамадска-палітычным і культурным жыцці Заходняй Беларусі (1921–1937 гг.) : 07.00.02 / Горны Аляксандр Сяргеевіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2016. – 24 с. – Бібліягр.: с. 18–21 (26 назв.).

Гросс, Е. П. Международная деятельность общественных объединений Республики Беларусь. 1991–2010 гг. : 07.00.02 / Гросс Елена Ппетровна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2016. – 23, [1] с. – Библиогр.: с. 19–21 (19 назв.).

Грыбава, С. У. Беларускія татары напярэдадні і ў гады Вялікай Айчыннай вайны : 07.00.02 / Грыбава Святлана Уладзіміраўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2016. – 24 с. – Бібліягр.: с. 19–21 (23 назв.).

Диханова-Внуковская, Л. А. Миссионерская деятельность иезуитов в Индии и на Дальнем Востоке : 07.00.03 / Диханова-Внуковская Любовь Андреевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (11 назв.).

Довгяло, Н. В. Конфессиональная политика в Белорусской ССР в 1921–1939 гг. : 07.00.02 / Довгяло Наталья Викторовна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2016. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (14 назв.).

Король, В. Л. Участие белорусских епархий в миротворческой деятельности Русской Православной Церкви (1945–1991 гг.) : 07.00.02 / Король Вадим Леонтьевич ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2016. – 27 с. – Библиогр.: с. 21–24 (27 назв.).

Кулинок, С. В. Документальные источники Белорусского штаба партизанского движения по разведывательной деятельности партизан : 07.00.09 / Кулинок Святослав Валентинович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2016. – 28 с. – Библиогр.: с. 20–25 (30 назв.).

Марозаў, С. П. Грамадска-палітычны рух у Беларусі за адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага (канец XVIII – першая чвэрць XX ст.) : 07.00.02 / Марозаў Сяргей

Паўлавіч ; Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2016. – 28 с. – Бібліягр.: с. 22–25 (29 назв.).

Марченко, Т. Н. Подготовка кадров для сельского хозяйства в Беларуси (конец XVIII – начало XX в.) : 07.00.02 / Марченко Татьяна Николаевна ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2016. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (17 назв.).

Мярчук, В. М. Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.) : 07.00.02 / Мярчук Вольга Мікалаеўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Брэст, 2016. – 23 с. – Бібліягр.: с. 19–20 (19 назв.).

Некрашевич, Ф. А. Отдельный Литовский корпус: создание, структура, деятельность (1817–1831 гг.) : 07.00.02 / Некрашевич Филипп Анатольевич ; Бел. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 24 с. – Библиогр.: с. 19–21 (17 назв.).

Римко, О. Г. Епархиальные ведомости на территории Беларуси как источник по истории греко-католической церкви : 07.00.09 / Римко Ольга Георгиевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 24 с. – Библиогр.: с. 18–21 (18 назв.)

Серак, Е. В. Ссылка в Сибирь уроженцев Беларуси после восстания 1863–1864 гг. : 07.00.02 / Серак Елена Владимировна ; Бел. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 25 с. – Библиогр.: с. 20–22 (18 назв.).

Таранович, К. Ю. Деятельность землеустроительных комиссий по реализации столыпинской аграрной реформы в Беларуси (1906–1917 гг.) : 07.00.02 / Таранович Кристина Юрьевна ; Бел. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2016. – 27 с. – Библиогр.: с. 20–24 (38 назв.).

Фролова, И. И. Деятельность Французской социалистической партии по возвращению к власти в 2002–2012 гг. : 07.00.03 / Фролова Ирина Ивановна ; Бел. гос. ун-т. – Минск, 2016. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Церашкова, К. С. Мяшчане ў сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі (1861–1914 гг.) : 07.00.02 / Церашкова Ксенія Сяргееўна ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2016. – 28 с. – Бібліягр.: с. 24–25 (14 назв.).

*Наталля Анофранка*

**Аўтары нумара**

**Andrzej Gil**
Katolicki Uniwersytet Lubelski Jana Pawła II
Al. Racławickie 14
20-950 Lublin

**Sante Graciotti**
via Alberto da Sarteano, 19
Roma 00126

**Hieronim Grala**
Artes Liberales, Uniwersytet Warszawski
ul. Nowy Świat 69
00-046 Warszawa

**Jury Hryboŭski**
Uniwersytet Warszawski
ul. Szturmowa 4
02-678 Warszawa

**Юрій Мицик**
Національний університет
"Києво-Могилянська Академія"
вул. Г. Сковороди, 2
04655 Київ

**Сяргей Новікаў**
Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт
вул. Захарава, 21
220034 Мінск

**Аляксандр Пагарэлы**
Instytut Slawistyki PAN
ul. Bartoszewicza 1B, m. 17
00-337 Warszawa

# Новыя кнігі серыі
# “Бібліятэка часопіса БГА”

Рэдакцыя часопіса рыхтуе да выдання ў 2017 г. заключныя пазіцыі нашай кніжнай серыі:

**Рышард Радзік. Вакол ідэнтычнасці беларусаў**
(18 аўт. аркушаў, пераклад з польскай).

**Штэфан Родэвальд. “Пра полацкую Венецыю”. Калектыўная дзейнасць сацыяльных груп горада Цэнтральна-Усходняй Еўропы**
(45 аўт. аркушаў, пераклад з нямецкай).

Каб гарантавана атрымаць выданні, просім дасылаць замовы на электронны адрас рэдакцыі: bhr@belhistory.eu

# BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW

Volume 23 Fascicles 1–2 (44–45) December 2016

## Contents

### Articles



### New Literature: Reviews